Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

**І.Я.ЛЕПЕШАЎ**

# П А Р Э М І Я Л О Г І Я
# ЯК АСОБНЫ РАЗДЗЕЛ МОВАЗНАЎСТВА

Дапаможнік па курсу «Сучасная беларуская літаратурная мова»
для студэнтаў спецыяльнасці 1-210501 – Беларуская філалогія

Гродна 2006

УДК 808.26 + 398.9
ББК 81.411.3
Л48

Рэцэнзенты: загадчык кафедры беларускай мовы Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А.А.Куляшова, прафесар, доктар філалагічных навук *В.І.Рагаўцоў*; прафесар кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, доктар філалагічных навук *М.А.Даніловіч*.

**Лепешаў, І.Я.**

Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства : дапам. / І.Я.Лепешаў. – Гродна : ГрДУ, 2006. – с.

ISBN 985-417-

Абгрунтоўваецца неабходнасць выдзялення ў курсе сучаснай беларускай літаратурнай мовы асобных раздзелаў парэміялогіі і парэміяграфіі, у якіх павінны вывучацца прыказкі як рэальна існуючыя моўныя адзінкі. Упершыню даецца тэарэтычны і часткова практычны матэрыял для сістэматызаванага вывучэння прыказак з семантычнага, этымалагічнага, граматычнага і стылістычнага пунктаў гледжання.

УДК 808.26 + 398.9
ББК 81.411.3

ISBN 985-417-

# УВОДЗІНЫ

Звычайна парэміялогіяй (ад грэч. *paroimia* – прытча, прыказка + …*логія*) называюць раздзел фалькларыстыкі, які вывучае прыказкі. Іншы раз у фалькларыстыцы размяжоўваюць парэміялогію (яна даследуе гісторыю і тэорыю прыказак) і парэміяграфію, якая займаецца запісам, збіраннем і публікацыяй прыказак, але часцей усё, што звязана як з выданнем прыказак, так і з іх вывучэннем, называюць парэміялогіяй.

Беларускія прыказкі запісваліся і выдаваліся шматлікімі збіральнікамі вуснай народнай творчасці пачынаючы з 1840 г., калі А.Рыпінскі апублікаваў 50 прыказак у кнізе «Беларусь», выдадзенай у Парыжы. У XIX ст. апублікавалі зборнікі прыказак ці падборкі ў зборніках Я.Чачот, Я.Тышкевіч, В.Дыбоўскі, Е.Раманаў, П.Шэйн, І.Насовіч, Я.Ляцкі, М.Нікіфароўскі і інш. Запісы прыказак і іх публікацыя працягваліся і ў далейшым, працягваюцца і ў наш час (працы М.Федароўскага, Ф.Янкоўскага, Т.Сцяшковіч, Я.Рапановіча і інш.).

На аснове ўсіх папярэдніх выданняў быў створаны акадэмічны навуковы сістэматызаваны звод «Прыказкі і прымаўкі» ў дзвюх кнігах (Мінск, 1976). У ім больш за 12 тысяч прыказак, згрупаваных у раздзелы «па асноўных сферах жыцця і быту народа». У 2000 г. выдадзена праца А.Аксамітава «Прыказкі і прымаўкі: Тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак і прымавак з архіваў, кафедральных збораў, рэдкіх выданняў XIX і XX стст.». Шмат якія прыказкі з гэтага даведніка (ці іх варыянты) часткова папаўняюць згаданы вышэй акадэмічны звод.

У парэміялогіі як састаўной частцы фалькларыстыкі звычайна даецца жанравая характарыстыка прыказак, аналізуюцца іх ідэйна-тэматычны змест, структура, некаторыя мастацкія асаблівасці. Пэўны ўклад у вывучэнне гісторыі і тэорыі прыказак унеслі І.Насовіч [106], Я.Ляцкі [78], Я.Карскі [51], К.Крапіва [56], Ф.Янкоўскі [133], М.Янкоўскі [130], М.Грынблат [41] і інш.

Пераважная большасць прыказак характарызуецца «найбольшай канцэнтрацыяй думкі пры найменшай затраце слоўнага матэрыялу» [56, с. 250] і вылучаецца такімі асаблівасцямі, як сціласць, выразнасць, вобразнасць, высокія мастацкія якасці. З'яўляючыся «правілам, якое пашыраецца на ўсе аналагічныя з'явы» [56, с. 226], прыказка прыпамінаецца пры пэўнай маўленчай сітуацыі і праяўляе свой абагульнены і разам з тым канкрэтны сэнс. «Скажам, чалавек, па сваёй прагавітасці або празмернай цікавасці, – піша К.Крапіва, – улез не ў сваю справу. За гэта ён пакараны. Гэта з'ява выклікае ў нас прыказку, скажам, такую: *Збродлівай кошцы хвост уцінаюць*» [56, с. 225].

«За кожнай прыказкай стаіць аўтарытэт пакаленняў, якія стварылі яе. Таму прыказкі не спрачаюцца, не даказваюць – яны проста сцвярджаюць ці адмаўляюць што-небудзь з упэўненасцю, што ўсё сказанае цвёрдая ісціна» [3, с. 3]. Многімі прыказкамі «часта можна закончыць спрэчку і даказаць сваю думку лепш, чым якімі-небудзь тэарэтычнымі довадамі» [18, с. 266]. Прыказка, як пісаў І.Снегіроў, «служыць сведчаннем, парукаю, абвінавачваннем, апраўданнем і наогул вясёлым і карысным спадарожнікам у жыцці. Перад ёю, як перад законам, усе роўныя, а яна нікому непадсудна, таму што яна безыменная, безасабовая, бесстаронняя» (цыт. па: [56, с. 227]).

Расказваючы пра сваё ўражанне пры чытанні далеўскага зборніка прыказак, В.Бялоў зазначае: «Прыказкі, многімі тысячамі сабраныя разам, у адзін каземат, неяк не іграюць, можа, нават перашкаджаюць адна адной. Ім цесна, ім няма чым дыхаць. Яны жывуць толькі ў кантэксце, у стыхіі няпрыказкавай мовы. Якой жывой, паўнакроўнай становіцца кожная (нават заняпаленькая) прыказка ў бытавых абставінах, у гутарковай мове» [20, с. 232].

Прыказкі на працягу доўгага перыяду вывучаліся толькі ў фальклоры, разглядаліся як адзін з жанраў вуснай народнай творчасці. Праўда, былі і некаторыя выключэнні. Так, у гісторыі збірання і тэарэтычнага асэнсавання прыказак самай значнай з’явай XIX ст. стаў «Зборнік беларускіх прыказак» І.І.Насовіча (СПб., 1874). У адрозненне ад іншых фалькларыстаў (Я.Ляцкага, А.Сержпутоўскага, М.Федароўскага і інш.), І.І.Насовіч не проста падае ў алфавітнай паслядоўнасці сабраныя ім прыказкі, але і раскрывае сэнс амаль кожнай з іх. Таму яго працу слушна лічаць першым у гісторыі ўсходнеславянскай філалогіі тлумачальным слоўнікам прыказак. Тут змешчана 3 715 прыказак і прымавак (апошнія – фактычна фразеалагізмы). Амаль усе яны атрымалі сэнсавую або сітуацыйную, а таксама стылістычную характарыстыку. Па сутнасці, гэта ўжо не столькі фальклорны зборнік, колькі мовазнаўчая праца, бо ў ёй прыказкі разглядаюцца як моўныя адзінкі. Беларускія прыказкі ў аднайменным вялікім артыкуле К.Крапівы, напісаным у 1927 г., у асноўным аналізуюцца як адзінкі фальклору. Разам з тым тут ёсць вельмі слушныя думкі лінгвістычнага характару. К.Крапіва лічыць прыказкі гатовымі, устойлівымі, узнаўляльнымі адзінкамі мовы. Ён піша, што прыказкі «самастойна не бытуюць. Яны ўжываюцца ў мове, вуснай і пісьмовай.., прыказка выводзіць правіла, якое пашыраецца на ўсе аналагічныя з’явы...» [56, с. 226]. Пра тое, што апошнім часам «у беларускай парэміялогіі выразна акрэсліваецца мовазнаўчы напрамак», пісаў і М.Я.Грынблат [41, с. 25].

Прыказкі карэнным чынам адрозніваюцца ад усіх іншых фальклорных жанраў. Ужо тое, што прыказка не складаецца ў маўленні, а ўзнаўляецца ў памяці як гатовы слоўны комплекс, дазваляе ставіць яе ў адзін рад з такімі моўнымі адзінкамі, як слова, фразеалагізм, састаўны тэрмін, крылаты выраз. Прыказкі, у адрозненне ад іншых жанраў фальклору, ніколі не выконваюцца, не спяваюцца, як, напрыклад, народныя песні ці прыпеўкі, не расказваюцца, як казкі, анекдоты ці гумарэскі, не прапануюцца для разгадвання, як загадкі, – словам, самастойна не бытуюць, а, выкліканыя канкрэтнай жыццёвай з’явай, у патрэбны момант устаўляюцца ў маўленне як афарыстычнае выказванне, праверанае вопытам многіх пакаленняў.

Прывядзём прыклад. Аповесць Я.Брыля «Сірочы хлеб» заканчваецца дзвюма прыказкамі, укладзенымі ў вусны дзеда Мікіты, жалейка якога спявае пра гаротную сялянскую долю:

– Тады, дзеду, іграйце адразу вясёлае. Добра?

Дзед Мікіта, трымаючы перад тварам сваю «піскліо», усміхаецца, – ужо без хітрасці, а неяк крыва.

– З песні, Даніла, слова не выкінеш, – сказаў ён, – а плачучы – рота ніхто не паправіць.

Над лугам загаласіла – той самай жніўнай песняй – жалейка. Сіратлівая, сумная песня!..

Прыказка *З песні слова не выкінеш* звычайна ўжываецца як апраўданне, калі даводзіцца гаварыць пра што-небудзь не зусім прыемнае, і мае сэнс ‘прыходзіцца казаць усё, усю праўду’. У прыведзеным вышэй кантэксце яна дастасоўваецца непасрэдна і да песні, сіратлівай і сумнай. А *Плачучы рота ніхто не паправіць* абазначае ‘плач не дапаможа таму, у каго бяда, гора, маркота’.

Актыўна функцыянуюць прыказкі не толькі ў мастацкім маўленні, але і ў публіцыстычным і навуковым стылях. Напрыклад, у артыкуле А.Мальдзіса «Гонар быць беларусам» чытаем: «Зважаючы на тое, што мы стаім на парозе XXI стагоддзя і што *двойчы ў адну і тую ж раку гісторыі ўвайсці нельга*, сёння гэты ідэал [Вялікае Княства Літоўскае часоў Скарыны] я акрэсліў бы знешне парадаксальна: Вялікае Княства Літоўскае плюс інфарматызацыя ўсяго грамадства». Узніклыя ў народнай стыхіі, прыказкі выступаюць пашыраным і дзейсным сродкам жывой народнай мовы (гл. больш падрабязна ў § 22).

Сказанае вышэй неаспрэчна сведчыць, што прыказкі павінны быць аб’ектам вывучэння не толькі ў фальклоры, але і ў мовазнаўстве. Здаецца, упершыню падобнае меркаванне выказаў яшчэ ў 1952 г. вядомы рускі фалькларыст і мовазнаўца І.А.Асавецкі. Ён пісаў, што прыказкі «стаяць на мяжы фальклорнага твора і ўстойлівага фразеалагічнага выразу», што іх можна «разглядаць як фразеалагізмы, уласцівыя мове наогул», і што яны «існуюць у мове і функцыянуюць у ёй гэтак жа, як і іншыя фразеалагічныя звароты». І яшчэ: вывучэнне прыказак «павінна ўваходзіць састаўной часткай у вывучэнне лексікі і фразеалогіі мовы ў цэлым» [88, с. 98]. Думкі, блізкія да гэтых, выказвалі Г.Л.Пермякоў, А.У.Кунін [65, с. 206], Л.А.Марозава [86, с. 57], Э.Я.Какарэ [53, с. 7]. Так, Г.Л.Пермякоў зазначыў, што прыказкі «пры ўсёй сваёй знешняй прастаце з’яўляюцца вельмі няпростымі ўтварэннямі». «З аднаго боку, гэта з’явы мовы, падобныя на звычайныя фразеалагізмы; з другога – якіясьці лагічныя адзінкі (суджэнні); і з трэцяга – мастацкія мініяцюры, якія ў яркай, чаканай форме адлюстроўваюць факты жывой рэчаіснасці… Траістая прырода прыказак і прымавак патрабуе і траякага да іх падыходу – як да з’яў мовы, з’яў думкі і з’яў фальклору, тым больш што названыя тры планы прыказак у значнай ступені аўтаномныя» [91, с. 8].

На жаль, гэтыя слушныя выказванні не атрымалі далейшага развіцця ў лінгвістыцы і фактычна не рэалізоўваюцца ў працэсе выкладання мовы як у вышэйшай, так і ў сярэдняй школе. А што да выказаных вышэй рэкамендацый разглядаць прыказкі менавіта як «звычайныя фразеалагізмы», вывучаць іх у фразеалогіі, дык з гэтым наўрад ці можна пагадзіцца, бо перад намі моўныя адзінкі разнароднага ўзроўню.

Прыгадаем перш за ўсё, што фразеалагізмы – гэта ўстойлівыя, узнаўляльныя, не менш як двухкампанентныя моўныя адзінкі, якія выступаюць будаўнічым матэрыялам для сказаў, спалучаюцца са словамі свабоднага ўжывання і, што самае галоўнае, маюць цэласнае значэнне, нераскладальнае на значэнні асобных кампанентаў, калі іх разглядаць на ўзроўні слоў. Напрыклад, у сказе «Баявыя атрады міліцыі рабілі ўсё, каб перашкодзіць гітлераўцам заслаць у горад пятую калону» («Полымя») *пятая калона* – гэта ‘варожая агентура ўнутры краіны’. У гэтым выразе,

як і ў кожным іншым, «усе словы вядомыя, а сэнс цэлага застаецца няясным» [67, с. 153].

Прыказкі ж, калі іх разглядаць з семантычнага боку (больш падрабязна пра гэта гл. у § 2), не з'яўляюцца аднатыпнымі моўнымі адзінкамі. У адных прыказках усе кампаненты пераасэнсаваліся; напрыклад, *Рука руку мые* абазначае 'адзін выгароджвае другога ў якой-небудзь несумленнай справе'. У другіх прыказках не ўсе кампаненты атрымалі пераасэнсаванне: *Куды нітка, туды і іголка* мае сэнс 'куды адзін, туды і другі'. У трэцяй групе прыказак усе кампаненты захоўваюць літаральнае слоўнікавае значэнне: *Вучыцца ніколі не позна.*

Несумненна, паміж прыказкамі і фразеалагізмамі ёсць шмат чаго падобнага, агульнага, але не настолькі важкага, значнага, каб іх атаясамліваць; гэта, у прыватнасці, устойлівасць, узнаўляльнасць, шматкампанентнасць. Адзначаючы гэта агульнае, нельга, аднак, не заўважаць, што паміж імі існуюць істотныя, прынцыповыя адрозненні лагічнага, структурнага, сінтаксічна-функцыянальнага і спалучальнага плана, якія дазваляюць адназначна сцвярджаць, што фразеалагізмы і прыказкі – моўныя адзінкі неаднароднага тыпу.

1. Фразеалагізмы заўсёды абазначаюць паняцце, выступаюць адзінкамі намінацыі, будаўнічым матэрыялам для сказаў. Фразеалагізмам уласціва катэгарыяльнае (часцінамоўнае) значэнне, у адпаведнасці з гэтым вылучаюцца дзеяслоўныя (*вадзіць за нос* каго, *несці свой крыж*), прыслоўныя (*гады ў рады, на вераб'іны скок*), назоўнікавыя (*агульнае месца, бабіна лета*), прыметнікавыя (*аднаго поля ягады, лёгкі на язык*) і іншыя разрады фразеалагізмаў. Возьмем такі ўрывак з аповесці Я.Коласа «Дрыгва»: «– Ты сам сабе яму капаеш... – Ты мне яму капаеш! – перапыніў Аўгіню Васіль». Будаўнічым матэрыялам для сказаў гэтага ўрыўка выступае паралельна са словамі і фразеалагізм *капаць яму* (каму), які служыць для выражэння пэўнага паняцця, мае дзеяслоўнае значэнне 'рыхтаваць пагібель каму-небудзь'.

Прыказкі ж выражаюць не паняцце, а суджэнне, заўсёды з'яўляюцца не намінатыўнымі, а камунікацыйнымі адзінкамі, пры дапамозе якіх перадаецца вычарпальны ў сэнсавых адносінах змест, што ўласціва толькі сказу, а не слову ці фразеалагізму. Адзін прыклад: «– Затаіўся здраднік, жыве з намі тут побач... А хто? – *Ціхая свіння глыбока капае*, – задуменна сказаў Карабан» (А.Кобец-Філімонава). Выдзеленая тут прыказка выражае суджэнне, якое можна перадаць сказам 'ціхі, скрытны чалавек здольны на рашучыя, нечаканыя ўчынкі'. Можна, аднак, зрабіць агаворку: ёсць зусім нязначная частка прыказак, якія не выражаюць суджэння (гл. § 2). У сваю чаргу і сярод фразеалагізмаў невялікая частка іх (мадальныя і выклічнікавыя) не выражаюць паняцця.

2. Фразеалагізмы адрозніваюцца ад прыказак і па сваёй структуры. Знешне, па сваёй форме, фразеалагізмы часцей за ўсё падобныя на словазлучэнні разнастайнага характару, у якіх ёсць граматычна галоўны кампанент і граматычна залежнае ад яго слова (напрыклад: *абіваць парогі, стрэляны верабей, казёл адпушчэння, бачыць наскрозь, на лес гледзячы*). Другая група фразеалагізмаў паводле іх структуры – гэта выразы са структурай спалучэння слоў; у такіх фразеалагізмах няма ні граматычна галоўнага, ні граматычна залежнага кампанента (*пад бокам, на вачах, ні рыба ні мяса, і ў хвост і ў грыву*). Яшчэ адна група –

фразеалагізмы са структурай сказа, аднак амаль усе яны «маюць адкрытую (незамкнёную) структуру і патрабуюць інфармацыйнай падтрымкі з боку моцна кіруемых слоў са значэннем асобы, якая выступае ў ролі лагічнага суб'екта» [45, с. 208]. Гэта выразы тыпу: *вочы на лоб лезуць* у к а г о, *душа не прымае* ч ы я ч а г о, *песенька спета* ч ы я, к а г о, *язык ля вушэй матляецца* ў к а г о, *кашы не зварыш* з к і м.

Калі цяпер звярнуцца да прыказак, то відавочна, што ўсе яны маюць форму закончанага сказа, валодаюць і сэнсавай, і інтанацыйнай завершанасцю, служаць для перадачы закончанай інфармацыі. Разглядаючы прыказкі з боку іх структуры, можна сцвярджаць, што сярод іх ёсць амаль усе вядомыя ў сінтаксісе тыпы простых і складаных сказаў. Вось прыклады прыказак, структурна арганізаваных як просты двухсастаўны сказ: *Адклад не ідзе на лад; Да пары збан ваду носіць.* Вельмі многія прыказкі маюць структуру аднасастаўных сказаў (напрыклад: *Кашы маслам не сапсуеш*) або з'яўляюцца разнавіднасцю складаназлучанага, складаназалежнага ці бяззлучнікавага сказа (больш падрабязна пра гэта гл. у § 14).

3. Істотныя адрозненні паміж фразеалагізмам і прыказкай назіраюцца і ў сінтаксічна-функцыянальным плане. Фразеалагізмы, з'яўляючыся будаўнічым элементам сказа, гэтак жа, як і словы, заўсёды функцыянуюць у ролі таго ці іншага члена сказа. Напрыклад, дзеяслоўныя фразеалагізмы выступаюць звычайна ў ролі выказніка, назоўнікавыя – у ролі розных членаў сказа, прыслоўныя – у ролі акалічнасці і г.д. Фразеалагізмы, несуадносныя з той ці іншай часцінай мовы (тыпу: *мядзведзь на вуха наступіў* каму) часцей за ўсё выконваць ролю галоўнага члена безасабовага сказа.

Што да прыказак, то паколькі яны ў камунікацыйных адносінах з'яўляюцца закончаным сказам, ні адна з іх не можа функцыянаваць у ролі якога-небудзь члена сказа. Калі перад намі прыказка, усе кампанеты якой выкарыстаны з прамым значэннем, то кожнае паўназначнае слова выступае ў ролі пэўнага члена сказа. Напрыклад, не выклікае ніякіх цяжкасцей сінтаксічны разбор прыказкі *Брат любіць сястру багатую, а мужык жонку здаровую.*

Зусім іншае назіраем у прыказках, усе ці амаль усе кампаненты якіх пераасэнсаваліся. Скажам, у прыказцы *Рука руку мые*, што значыць 'адзін выгароджвае другога ў якой-небудзь несумленнай справе', кампанент *рука* не з'яўляецца прадметам выказвання. А таму лічыць, што тут *рука* – дзейнік, *мые* – выказнік, *руку* – дапаўненне, значыць разбурыць прыказку, ператварыць яе ў звычайнае спалучэнне слоў, абяссэнсіць яе, вытравіць з яе тое абагульненае, пераасэнсаванае, што замацавалася за ёй у працэсе моўных зносін. Такімі ж сінтаксічна непадзельнымі з'яўляюцца і прыказкі тыпу *Яйцо курыцу вучыць*, у якой два першыя кампаненты пераасэнсаваныя, а трэці мае прамое значэнне (гл. пра гэта больш падрабязна ў § 2).

4. Фразеалагізмы адрозніваюцца ад прыказак і па сваіх спалучальных магчымасцях. Будучы структурным элементам сказа, фразеалагізм уступае ў пэўныя сувязі і адносіны з іншымі словамі ці (значна радзей) фразеалагізмамі. У залежнасці ад таго, як ажыццяўляецца лексіка-граматычная спалучальнасць фразеалагізма са словамі, выдзяляюцца чатыры тыпы фразеалагічных значэнняў: адносна

свабоднае, валентна абмежаванае, канструкцыйна абмежаванае і сінтаксічна абумоўленае.

Фразеалагізмы з адносна свабодным значэннем валодаюць семантычнай самастойнасцю і таму не маюць патрэбы ў слоўных канкрэтызатарах іх значэння. Спалучальныя магчымасці такіх фразеалагізмаў даволі шырокія. Фразеалагізм *бабіна лета* можа, напрыклад, ужывацца ў такім акружэнні: *Стаяла бабіна лета* (М.Капыловіч); *Быў пачатак бабінага лета* (І.Дуброўскі); *Адвячорак апошняй пары бабінага лета* (В.Быкаў); *Плыло павуцінне бабінага лета* (І.Шамякін).

Фразеалагізмы ж з валентна абмежаваным значэннем спалучаюцца толькі са строга акрэсленымі словамі. Напрыклад, фразеалагізм *куры не клююць* 'вельмі многа' ўступае ў кантакт толькі са словам *грошай.* Некаторыя фразеалагізмы спалучаюцца з двума і больш словамі; напрыклад, прыслоўны выраз *на свае вочы*, што значыць 'без пасрэднікаў, непасрэдна самому', кантактуе з дзеясловамі-суправаджальнікамі *бачыць, пераконвацца, упэўнівацца.*

Фразеалагізмы з канструкцыйна абмежаваным значэннем рэалізуюцца толькі ў пэўнай, акрэсленай канструкцыі, яны маюць абавязковую спалучальнасць «справа». Паяснім гэта такім прыкладам: *Дакуль жа вы будзеце вадзіць за нос мяне?* (С.Баранавых). Тут, як і ва ўсіх астатніх выпадках, дзеяслоўны фразеалагізм *вадзіць за нос* ужываецца пры дзейніку са значэннем асобы і абавязкова дапаўняецца назвай аб'екта са значэннем асобы ў вінавальным склоне. Менавіта такія ўмовы спалучальнасці з'яўляюцца нормай функцыянавання для гэтага фразеалагізма з канструкцыйна абмежаваным значэннем.

Фразеалагізмы з сінтаксічна абумоўленым значэннем – гэта такія назоўнікавыя выразы, якія надзелены яркай ацэначнасцю і не столькі называюць прадмет, асобу ці з'яву, колькі вобразна характарызуюць іх, а таму выступаюць у ролі іменнага выказніка, а таксама зваротка і прыдатка: «Табе, Андрэй, бачу… гэты завод *як костка ў горле*» (Э.Ярашэвіч); А ты, *божая кароўка,* не кіпі! І язык пачасаць нельга!» (І.Мележ); «*Святая прастата,* Піваварaў, мабыць, думаў, што на ваеннай карце ўсё абазначана» (В.Быкаў).

Прыказкі ж, самі з'яўляючыся сказамі, не абумоўлены якімі-небудзь заканамернасцямі лексіка-граматычнай спалучальнасці са словамі свабоднага ўжывання. Будучы «гатовымі формуламі жыццёвых з'яў ці гатовымі іх характарыстыкамі» [56, с. 226], прыказкі свабодна ўключаюцца ў тэкст. Найчасцей у гутарцы паміж суразмоўнікамі яны ўжываюцца як самастойны сказ-рэпліка: «–А не нарвёмся? За дротам ужо не пашкадуюць. Канец на месцы… – *Баязліваму і корч мядзведзь* (В.Адамчык). Нярэдка прыказка выступае як частка складаназлучанага ці складаназалежнага сказа, звязанага з папярэдняй часткай пры дапамозе злучнікаў: «Такія людзі заўсёды лезуць на ражон, а *беражонага і бог беражэ*» (У.Дамашэвіч); «Колькі я табе даказвала, што *ў каровы малако на языку*» (І.Шамякін).

У мастацкіх і публіцыстычных творах адным з найбольш пашыраных спосабаў уключэння прыказкі ў тэкст з'яўляецца папярэдняя спасылка на народную мудрасць звычайна са станоўчай яе ацэнкай. У такіх выпадках сінтаксічная канструкцыя ўяўляе сабой бяззлучнікавы складаны ці складаназлучаны сказ, першая частка якога –

уводна-ацэначная формула тыпу «нездарма людзі кажуць», «праўду людзі кажуць»і г.д. (гл. пра гэта больш падрабязна ў § 15).

Гаворачы пра адрозненне прыказак ад фразеалагізмаў, нельга пакінуць па-за ўвагай і той факт, што прыказкі з'яўляюцца дэрывацыйнай базай фразеалагізмаў, што на іх аснове сфармавалася каля сотні фразеалагічных адзінак. (гл. пра гэта ў § 12).

Хоць, як паказана вышэй, паміж прыказкамі і фразеалагізмамі ёсць досыць істотная розніца, у сучасных падручніках і навучальных дапаможніках па беларускай мове іх увесь час змешваюць, уключаюць прыказкі ў раздзел «Фразеалогія», з неперакананальнымі агаворкамі, а то і без іх, выдзяляюць у асобны параграф, дзе звычайна абмяжоўваюцца толькі іх азначэннем ды некалькімі прыкладамі. З аднаго боку, амаль аднадушна вызначаюць фразеалогію як раздзел лінгвістыкі, у якім вывучаюцца фразеалагічныя адзінкі, з другога – у гэтым раздзеле разглядаюць і прыказкі – моўныя адзінкі зусім іншага парадку. Атрымліваецца відавочная «нестыкоўка».

Часам спрабуюць апраўдаць гэта існаваннем «шырокай» і «вузкай» фразеалогіі, што, аднак, не ўласціва ніякай іншай навуцы. Тыя, хто асноўнымі прыметамі фразеалагізма прызнае ўстойлівасць і ўзнаўляльнасць, з'яўляюцца прыхільнікамі шырокага разумення фразеалогіі і ўключаюць у яе побач з сапраўднымі фразеалагізмамі *(перамываць костачкі, падпілоўваць рогі, кум каралю, паляванне на ведзьмаў)* прыказкі, крылатыя выразы, перыфразы і іншыя спалучэнні накшталт *закляты вораг, мастацкая самадзейнасць*. Як пісаў Ф.М.Янкоўскі, уключэнне ў фразеалогію спалучэнняў і выразаў «*смех бярэ, дамашняе заданне, працоўныя поспехі, глыбей узарэш – болей збярэш* вядзе амаль да «бязмежнасці» фразеалогіі» [132, с. 26]. У такім выпадку фразеалогію ператвараюць у звалачны пункт.

Нелагічнасць тэорыі дзвюх фразеалогій можна абвергнуць такой іранічнай аналогіяй. Ёсць навука арніталогія. Яна вывучае птушак. Птушкі лятаюць. Лятаюць таксама пчолы, мухі, мошкі, камары, хрушчы. Лятаюць самалёты, верталёты, дырыжаблі, ракеты, спадарожнікі. Але арніталогія займаецца толькі птушкамі, аб'ядноўваючы іх у клас пазваночных жывёл не столькі па такой прымеце, як здольнасць рухацца ў паветры, колькі па іншых, больш істотных прыметах. «Мысленне, – пісаў Ф.Энгельс, – калі яно не робіць промахаў, можа аб'яднаць элементы свядомасці ў нейкае адзінства толькі ў тым выпадку, калі ў іх або ў іх рэальных правобразах гэта адзінства ўжо да гэтага існавала. Ад таго, што шчотку для абутку залічым у адну катэгорыю з млекакормячымі, ад гэтага ў яе яшчэ не вырастуць малочныя залозы» [127, с. 37].

Іншы раз (гл., напрыклад [1, с. 63]) спасылаюцца на акад. В.У.Вінаградава, які, маўляў, таксама ўключаў прыказкі ў фразеалогію. Аднак толькі ў першым з трох вялікіх артыкулаў пра фразеалогію [29], напісаным у 1946 г., ён называў у ліку фразеалагічных адзінстваў «фразавыя штампы, клішэ», «літаратурныя цытаты, крылатыя выразы і народныя прыказкі». І толькі ў гэтым жа артыкуле як пацвярджэнне таго, што «замкнёнасць фразеалагічных адзінстваў можа ствараццa... рыфмічнымі сугуччамі, алітэрацыяй», побач з прыкладамі-фразеалагізмамі прыводзілася некалькі прыказак: *Федот, да не тот; На вкус и на цвет мастера нет; Что было, то сплыло; Не в службу, а в*

*дружбу; Не до жиру, быть бы живу.* У дзвюх пазнейшых працах (1947, 1969) В.У.Вінаградава пра прыказкі няма і ўпамінання.

М.А.Якалцэвіч, упершыню ў беларускім мовазнаўстве аналізуючы прыказкі ўжо не як «малы фальклорны жанр», а ў лінгвістычным (дакладней, стылістычным) аспекце, выказвала думку, што прыказкі як моўныя адзінкі найбольш мэтазгодна разглядаць у раздзеле «Сінтаксіс». «Яны, як і свабодна арганізаваныя простыя і складаныя сказы, называюць не паняцце, а суджэнне, валодаюць сэнсавай і інтанацыйнай закончанасцю. Разам з тым прыказкі надзелены цэлым шэрагам якасцей, якія адрозніваюць іх ад звычайных простых ці складаных сказаў. Гэтыя спецыфічныя асаблівасці і павінны быць у цэнтры ўвагі пры аналізе прыказак у раздзеле «Сінтаксіс»» [129, с. 134].

Але пры такім вывучэнні прыказак закранаўся б толькі амаль адзін іхні бок – сінтаксічны. А між тым прыказкі, як і іншыя моўныя адзінкі, павінны даследавацца з розных бакоў: семантычнага, этымалагічнага, граматычнага і стылістычнага. Дзе ж у такім разе вывучаць прыказкі? У якім раздзеле?

Такі раздзел здаўна існуе ў навуцы: парэміялогія. Праўда, як адзначалася напачатку, гэты раздзел традыцыйна кваліфікуюць як састаўную частку фалькларыстыкі. Але паколькі прыказкі не толькі малы фальклорны жанр (гэта, так бы мовіць, з пункту гледжання іх паходжання), але і рэальна існуючыя моўныя адзінкі, то ёсць неаспрэчныя падставы выкарыстоўваць тэрмін «парэміялогія» і як назву аднаго з раздзелаў мовазнаўства. Адпаведна варта абазначаць тэрмінам «парэміяграфія» тэорыю і практыку складання тлумачальных і іншых слоўнікаў прыказак.

Гэтак жа, як у мовазнаўстве існуюць раздзелы «Лексікалогія» і «Лексікаграфія», «Фразеалогія» і «Фразеаграфія», павінны быць у курсе сучаснай беларускай літаратурнай мовы і раздзелы «Парэміялогія» і «Парэміяграфія». У такім разе прыказкі перастануць быць беспрытульнымі і зоймуць сваё законнае, належнае ім месца ў курсе мовы як у вышэйшай, так і ў сярэдняй школе.

З паняццем «прыказка» школьнікі знаёмяцца ў 5 класе на ўроках літаратуры, дзе прыказкі разглядаюцца як адзін з відаў вуснай народнай творчасці. Калі і на адпаведных уроках мовы вучні атрымаюць хоць бы сціслыя веды пра прыказкі як моўныя адзінкі, то ўсё гэта, разам узятае, можа і павінна стаць асновай для далейшай сістэматычнай работы над прыказкамі на ўроках і мовы, і літаратуры ў наступных класах. Тое самае можна сказаць і пра комплексную работу над прыказкамі на факультэтах філалогіі і журналістыкі. Толькі ў такім разе школьнікі і студэнты авалодаюць прыказкавым багаццем, навучацца разумець сэнс алегарычных прыказак, набудуць неабходныя навыкі свабоднага і дарэчнага ўжывання прыказак у маўленні, дастасоўваючы іх да розных жыццёвых сітуацый.

Спынімся яшчэ на адным пытанні, непасрэдна звязаным з папярэдняй размовай.

Аўтары сучасных беларускіх падручнікаў і дапаможнікаў як па мове, так і па літаратуры ніяк не хочуць адмовіцца ад трафарэтных, шаблонных, анахранічных загалоўкаў «Прыказкі і прымаўкі». Вось толькі некалькі прыкладаў.

Выдадзены ў 2000 г. падручнік для студэнтаў-філолагаў «Беларуская вусна-паэтычная творчасць» (аўтары – К.П.Кабашнікаў, А.С.Фядосік і інш.) на с. 390–397 змяшчае раздзел «Прыказкі і прымаўкі». Тое самае і ў падручніку-хрэстаматыі для 5 класа «Родная літаратура» (аўтар-складальнік Л.К.Цітова; Мінск, 1994, с. 61–65). Аналагічную з'яву назіраем і ў навучальных дапаможніках па беларускай мове, напрыклад: *Красней В.П., Лазоўскі У.М., Шчарбакова І.М.* Сучасная беларуская мова: Лексікалогія. Фразеалогія (Мінск, 1984, с. 123–125); *Гваздовіч Г.А., Круталевіч М.М., Саўко У.П.* Беларуская мова: Вучэбны дапаможнік для 10 класа (Мінск, 1999, с. 87–88). Як у гэтых, так і ў іншых працах адносна прымаўкі гаворыцца, што яна, у адрозненне ад прыказкі, характарызуецца незавершанасцю думкі, а яе сэнс можна зразумець толькі ў кантэксце. Прымаўкі тут ілюструюцца такімі прыкладамі: *кіем галавы не дастанеш, на вярбе грушы растуць, як швед пад Палтавай, з камара рабіць вала, сем пятніц на тыдні, рэшатам ваду насіць, таўчы ваду ў ступе* і інш. Чытаючы падобнае ў навучальнай літаратуры, дапытлівы студэнт і вучань з недаўменнем і здзіўленнем усклікне: «Якія ж гэта прымаўкі, калі ўсе яны апісваюцца ў фразеалагічных слоўніках як самыя звычайныя, тыповыя фразеалагічныя адзінкі?!»

Рускі тэрмін *поговорка* перакладаецца па-беларуску як *прымаўка*. У «Кароткай літаратурнай энцыклапедыі» (т. 5, М., 1968, с. 821) *поговорка* мае такое тлумачэнне: «зварот маўлення, элемент суджэння (у адрозненне ад прыказкі як поўнага суджэння), *фразеалагізм*, які функцыянуе ў маўленні як частка сказа». Даюцца прыклады: *убить двух зайцев, на неделе семь пятниц*. Прыкладна гэтак жа вызначаецца прымаўка і ў беларускіх даведніках. Напрыклад, у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 4, с. 449) сказана, што яна «адрозніваецца ад прыказкі тым, што не з'яўляецца закончаным суджэннем і звычайна не мае павучальнага зместу». Нягледзячы на такое, здавалася б, лагічнае размежаванне дзвюх моўных з'яў, іх вельмі часта змешваюць, у тым ліку і ў тлумачальных слоўніках, прыводзячы ў якасці ілюстрацыйнага матэрыялу ў слоўнікавых артыкулах. Так, у ТСБМ ужыванне слоў *жыццё* і *перайсці* ілюструецца народным афарызмам *Жыццё пражыць – не поле перайсці*, але ў адным выпадку (т. 2, с. 267) гэта выслоўе суправаджаецца паметай «прыказка», а ў другім (т. 4, с. 184) – паметай «прымаўка».

У мастацкіх тэкстах розных аўтараў таксама сустракаюцца нярэдкія выпадкі, калі адзін пісьменнік называе пэўны народны афарызм прыказкай, а другі – прымаўкай. Напрыклад, у К.Крапівы: «Я прыказкай хачу тут байку завяршыць: *хто ўкраў свінню, таму ў вушах пішчыць*»; у рамане ж І.Новікава «Да світання блізка» гэта прыказка кваліфікуецца як прымаўка. *Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш* паводле К.Крапівы («Ёлкі-палкі») і Н.Гілевіча («Не кажы гоп...») – прыказка, а паводле М.Паслядовіча («Навошта цябе адкрылі, Амерыка?») – прымаўка. Такія прыклады лёгка доўжыць.

У фалькларыстыцы і мовазнаўстве існуе нямала поглядаў на размежаванне прыказак і прымавак. Вось найбольш тыповыя з іх.

1. Гэты погляд (яго можна назваць лагічным) стаў складвацца яшчэ ў першай палове XIX ст. У яго аснову рускія фалькларысты паклалі такія крытэрыі, як завершанасць ці незавершанасць выказвання, здольнасць выражаць суджэнне або паняцце. Прыказка выражае закончанае

суджэнне, а прымаўка абазначае паняцце і характарызуецца незавершанасцю выказвання. Паняцце «прымаўка» ілюструецца такімі прыкладамі: *чужымі рукамі жар заграбаць, не ўсе дома, аднаго поля ягада, малако на губах не абсохла* і інш. Аналагічнай думкі прытрымліваюцца і некаторыя беларускія даследчыкі. Так, К.Крапіва ў артыкуле «Беларускія прыказкі» (1927), прывёўшы прыклады *дзесятая вада на кісялі, як Піліп з канапель, і хвастом накрыўся,* дадае: «Тут адразу відаць, што яны самастойна ўжывацца не могуць і, такім чынам, з'яўляюцца прымаўкамі» [56, с. 225].

Прыхільнікі гэтага погляду, як відаць з пададзеных вышэй прыкладаў, прымаўкамі лічаць тое, што сёння аднадушна называецца фразеалагізмамі. Выразы тыпу *чужымі рукамі жар заграбаць, не ўсе дома, дзесятая вада на кісялі, рэшатам ваду насіць* на законнай падставе ўключаюцца ў сучасныя фразеалагічныя слоўнікі і з'яўляюцца аб'ектам фразеалогіі – параўнальна новай лінгвістычнай навукі, якая сфармавалася ў апошнія дзесяцігоддзі. Зразумела, што ахарактарызаваны погляд на размежаванне прыказак і прымавак сёння выглядае анахранізмам. У дадатак пададзім некалькі выказванняў з сучасных лінгвістычных прац. Прымаўка, як зазначае В.М.Макіенка, гэта тэрмін, «роўны па значэнні фразеалагізму» [84, с. 3]. У «Лінгвістычным энцыклапедычным слоўніку» чытаем: «У фалькларыстыцы, па сутнасці, прымаўкі атаясамліваюцца з фразеалагізмамі» [76, с. 379]. Ф.М.Янкоўскі пісаў: «У мінулым да прымавак адносілі звычайныя фразеалагічныя спалучэнні» [131, с. 164].

2. Яшчэ адзін погляд на паняцці «прыказка» і «прымаўка» можна назваць структурна-граматычным. Яго прыхільнікі ў аснову размежавання гэтых паняццяў кладуць форму народнага афарызма, адначленнасць ці двухчленнасць яго структуры. Я.Ляцкі пісаў: «Адметнай рысай прыказкі, як кароткага выслоўя, служыць яе фармальная двухчленнасць, тады як прымаўка ва ўласным сэнсе заўсёды адначленная» [79, с. 756].

Падзяляюць гэты погляд і некаторыя сучасныя беларускія мовазнаўцы. Так, В.П.Красней піша: «Адрозніваюцца прыказкі і прымаўкі сваёй структурай. Прыказкі па сваёй форме з'яўляюцца выслоўем, што складаецца з дзвюх частак *(Ад душы працуеш – Радзіму мацуеш).* Прымаўка – таксама выслоўе, але яно складаецца з адной часткі *(На чужыне і камар загіне)*» [58, с. 117].

Паводле прыхільнікаў гэтага погляду, такія, напрыклад, тыповыя прыказкі, як *Гарбатага магіла выправіць* ці *Для старца міля не круг,* трэба лічыць прымаўкамі, бо яны «адначленныя», а выслоўі *За двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш; Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж* варта кваліфікаваць як прыказкі, бо яны маюць «двухчленную» ці «трохчленную» структуру.

Думаецца, што такі погляд бесперспектыўны, фармалістычны і нічым не апраўданы. Розніцу паміж прыказкамі і прымаўкамі нельга шукаць у іх форме, у тым, з адной ці з дзвюх частак яны складаюцца. А між тым гэты погляд ужо шмат гадоў убіваецца ў галовы старшакласнікам і настаўнікам неаднойчы перавыдадзенымі навучальнымі дапаможнікамі, аўтар якіх – В.П.Красней [52, с. 134–135; выд. 2-е, с. 159–162; выд. 3-е, с. 186–191].

3. Адрозніваць прыказку ад прымаўкі можна і трэба толькі з улікам наяўнасці ці адсутнасці ў іх пераноснага сэнсу – такі пункт гледжання быў упершыню выказаны В.Шырокавай у 1931 г. Яна пісала: «Асноўным адрозненнем прыказкі ад прымаўкі лічыцца пераносны сэнс, якім валодае прыказка, і адсутнасць яго ў прымаўцы» [123, с. 117].

Гэты погляд у далейшым быў развіты У.П.Жукавым, які прапанаваў па-новаму асэнсаваць тэрмін «прымаўка» і ўсе парэміі, структурна арганізаваныя як сказ, падзяліў на тры групы: прыказкі, прымаўкі і прыказкава-прымаўкавыя выразы. Да прыказак ён адносіць народныя афарызмы, «якія маюць адначасова літаральны і пераносны (вобразны) план ці толькі пераносны і з'яўляюцца ў граматычных адносінах закончаным сказам». Гэта азначэнне прыказак ілюструецца наступнымі прыкладамі: «Так, прыказка *Чем бы дитя ни тешилось, лишь бы не плакало* вылучаецца падвойным планам – літаральным і іншасказальным. Наадварот, прыказка *Горбатого могила исправит* мае толькі вобразны план». Пад прымаўкамі «разумеюцца кароткія народныя выслоўі (нярэдка павучальнага характару), якія маюць толькі літаральны план і ў граматычных адносінах з'яўляюцца закончаным сказам: *Деньги дело наживное; Коса – девичья краса*». Прыказкава-прымаўкавыя выразы «спалучаюць у сабе прыметы прыказак і прымавак. Гэтыя выразы характарызуюцца тым, што частка слоў у іх складзе збліжаецца ці супадае са словамі свабоднага ўжывання, а другая частка (нярэдка рэальныя або патэнцыяльныя фразеалагізмы) мае фігуральнае, пераноснае значэнне. Напрыклад, у выразе *Пьяному море по колено* першае слова мае літаральнае значэнне, а спалучэнне *море по колено* мае фігуральны сэнс» [108, с. 11–12].

Варта сказаць некалькі слоў пра яшчэ адзін погляд, пададзены ў нядаўняй кнізе А.Аксамітава [2]. Гэта тым больш неабходна зрабіць, бо і ў анатацыі [2, с. 4], і ў іншых мясцінах (с. 11, 30) аўтар, можна сказаць, прэтэнцыёзна называе свой погляд «новым», лічыць, што «ў кнізе ўпершыню абгрунтоўваецца навуковае размежаванне прыказак ад прымавак паводле лінгвістычных прыкмет». Як сцвярджае А.Аксамітаў, «прыказцы ўласцівы адначасова прамы і пераносны сэнс». Але, па-першае, як будзе далей паказана ў дадзеным дапаможніку, такіх прыказак зусім мала. Па-другое, немагчыма ўявіць, які прамы сэнс мае прыказка *Пойдзе каза да ваза, папросіць сена: скулле ў бок* (яна прыводзіцца аўтарам, у ліку іншых, як прыклад прыказак з падвойным планам). Прымаўкі ж, паводле А.Аксамітава, «не маюць такога двухпланавага характару», «прымаўка мае толькі прамы план зместу выказвання». Прыказка – «вобразная матываваная адзінка мовы» (с. 298), а прымаўка – «фальклорны жанр» (с. 299). Затым аўтар ставіць пытанне: «Які ж лінгвістычны прынцып ляжыць у аснове размежавання прыказак і прымавак?» (с. 300). Пасля непераканальнага і досыць блытанага разгляду ўсяго пяці парэмій робіцца нечаканы і дзіўны вывад: «Такім чынам, магчымасць уключэння фразеалагічных адзінак у склад прымавак і немагчымасць уключэння іх у склад прыказак можа разглядацца як лінгвістычны крытэрый іх размежавання» (с. 301).

З такім «лінгвістычным крытэрыем» ніяк нельга пагадзіцца. Прыказкі і фразеалагізмы – гэта розныя рэчы. Разам з тым можна прывесці дзесяткі прыкладаў несумненных прыказак, а таксама, паводле У.П.Жукава, прыказкава-прымаўкавых выразаў, у якіх, як ужо

цытавалася, «другая частка (нярэдка рэальныя або патэнцыяльныя фразеалагізмы) мае фігуральнае, пераноснае значэнне» [108, с. 11–12]. Вось толькі некалькі прыкладаў: «На беднага Макара *ўсе шышкі валяцца*», «Як ваўка ні кармі, а ён *у лес глядзіць*»; «Ваўка *ногі кормяць*»; «Работа не воўк, *у лес не збяжыць*»; «Багатаму *чорт дзяцей калыша*».

Як бачым, сцісла апісаны тут «новы погляд» «навуковага размежавання прыказак ад прымавак» з'яўляецца не чым іншым як няўдалай спробай удасканаліць схему, прапанаваную У.П.Жукавым.

Сярод даследчыкаў беларускай парэміялогіі ёсць слушная думка не размяжоўваць прыказкі і прымаўкі. Так, К.Крапіва ў пачатку свайго артыкула «Беларускія прыказкі» (1927) выкладае погляды І.Снегірова, А.А.Патабні, А.І.Баршчэўскага на паняцці «прыказка» і «прымаўка», а пасля, прыступаючы да аналізу народных афарызмаў, зазначае, што ў далейшым ён будзе «ўжываць адно слова – прыказка» [56, с. 226]. Ф.М.Янкоўскі лічыць, што «справа, відаць, у надуманасці размежавання прыказак і прымавак» [131, с. 160]. Ён ставіць знак роўнасці паміж прыказкай і прымаўкай, называе іх словамі-дублетамі, паказвае, што слова *прымаўка* трапіла ў беларускую літаратурную мову з жывой народнай мовы, што ў народзе словы *прыказка* і *прымаўка* не адрозніваюцца. Зазначым, дарэчы, што не размяжоўваюць гэтыя словы і амаль усе аўтары беларускіх мастацкіх і публіцыстычных твораў. Так, яны, выкарыстоўваючы тую ці іншую прыказку, часам суправаджаюць яе разнастайнымі спасылкамі («ёсць такая прыказка», «ёсць прымаўка», «паводле прыказкі», «па прымаўцы», «як у той прымаўцы» і г.д.). Гэтыя спасылкі даюцца да тоесных па сваёй сутнасці моўных адзінак, якія называюцца па-рознаму. Паводле ілюстрацыйных цытат, змешчаных у «Слоўніку беларускіх прыказак», слова *прыказка* ўжыта 90 разоў, *прымаўка* – 72, *прыгаворка* – 9, *прыпавесць* – 3, *пагаворка* – 2, *показка* – 1.

Ужыванне тэрміна «прымаўка» было ў пэўнай меры апраўданым, пакуль у мовазнаўстве не замацаваўся тэрмін «фразеалагізм», які фактычна выцесніў свайго папярэдніка для абазначэння адных і тых жа моўных адзінак – устойлівых, узнаўляльных зваротаў з цэласнай семантыкай (*кот наплакаў, карона з галавы не спадзе, чужымі рукамі жар заграбаць*).

У гэтай сувязі, каб пазбегнуць тэрміналагічнай блытаніны, уяўляецца найбольш лагічным, неабходным скасаваць тэрмін «прымаўка» як аналаг фразеалагізма і выкарыстоўваць адзіны тэрмін «прыказка» для абазначэння народных афарызмаў, якія валодаюць інтанацыйнай і сэнсавай закончанасцю, або ўжываць абодва словы як тэрміны-дублеты.

Можна адзначыць некаторыя станоўчыя зрухі ў гэтым кірунку. Па-першае, у нядаўна выдадзеным падручніку для 5 класа «Беларуская літаратура» (пад рэд. В.Я.Ляшук; Мінск, 2002, с. 14–15) ужываецца толькі адзін тэрмін «прыказка». Па-другое, у навучальным дапаможніку для студэнтаў-філолагаў «Сучасная беларуская літаратурная мова: Лексікалогія. Фанетыка. Арфаграфія» (Мінск, 1993, с. 93–94) «прыказка» і «прымаўка» паслядоўна выкарыстаны як абсалютныя сінонімы ў такім напісанні: *прыказка (прымаўка).* Аналагічнае напісанне сустракаем таксама ў шмат якіх навуковых працах Ф.М.Янкоўскага, напрыклад: «прыказкі (прымаўкі), якія маюць толькі пераносны сэнс» [1931, с. 162].

Некалькі слоў пра тэрмін *парэмія*. У далейшым ён зрэдку будзе выкарыстоўвацца ў нашай працы як сінонім да слова *прыказка*. У грэчаскай мове, адкуль паходзіць гэты тэрмін, ён ужываўся як з царкоўным значэннем ‘урывак з Бібліі, у якім змяшчаецца прароцтва або павучанне і якія чытаецца ў праваслаўнай царкве падчас богаслужэння’, так і з літаратуразнаўчым ‘прыказка, прытча’. Дыфтонг *oi* ў грэчаскай мове *(paroimia)* вымаўляецца як *э: парэмія*. Але ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 4, с. 45), а таксама ў «Слоўніку беларускай мовы» (1987, с. 537) і «Беларуска-рускім слоўніку» (1989, т. 2, с. 125) чамусьці даецца недакладная перадача гэтага слова: *парамія´*. Параўн. у «Слоўніку сучаснай рускай літаратурнай мовы» (1959, т. 9, с. 183): *паремúя* і *паремия´*; ва ўкраінскай мове: *паремíя*. У сучасным беларускім літаратурным маўленні слова *парэмія* ўжываецца, як правіла, з націскам на перадапошнім складзе і з *э* пасля *р*. Параўн. утварэнні ад гэтага слова: *парэмійны, парэміялогія, парэміяграфія*.

## *Раздзел 1*
## СЕМАНТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ПРЫКАЗАК

### § 1. Азначэнне прыказкі

Прыказка як моўная адзінка ці проста як фальклорны жанр неаднолькава вызначаецца ў розных працах (энцыклапедыях, іншых даведніках, падручніках, навучальных дапаможніках і г.д.). Паводле адной энцыклапедыі, прыказка – гэта «граматычна і лагічна афармленае кароткае выслоўе павучальнага характару, закончанае суджэнне» [15, с. 597], паводле другой – гэта «кароткі, лаканічны і граматычна завершаны афарыстычны выраз» [16, с. 67]. В.П.Анікін характарызуе прыказку як «кароткі, устойлівы ў гутарковым ужытку, рытмічна арганізаваны вобразны народны выраз, які валодае здольнасцю да шматзначнага ўжывання ў мове па прынцыпу аналогіі» [103, с. 75]. Паводле У.І.Чычарава, прыказка – «кароткае вобразнае суджэнне, якое мае пераносны сэнс і дастасоўваецца да розных выпадкаў жыцця» [118, с. 310].

Яшчэ некалькі дэфініцый, змешчаных у лінгвістычных даведніках. У пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 4, с. 435) прыказка азначаецца як «устойлівае вобразнае выслоўе павучальнага зместу, якое носіць абагульняючы характар». В.С.Ахманава дае такое азначэнне прыказцы: «вобразны закончаны выказ, які мае павучальны сэнс і, звычайна, спецыфічнае рытма-фанетычнае афармленне» [5, с. 341]. Больш разгорнутая дэфініцыя даецца ў «Лінгвістычным энцыклапедычным слоўніку» [76, с. 389]: «Прыказка – кароткі, устойлівы ў маўленчым ужытку, як правіла, рытмічна арганізаваны выказ павучальнага характару, у якім зафіксаваны шматвяковы вопыт народа; мае форму закончанага сказа (простага або складанага). Прыказка выражае суджэнне...»

У мовазнаўчым дапаможніку для студэнтаў-філолагаў пра прыказку сказана, што гэта «народны выраз, які мае адначасова літаральны і пераносна-вобразны план або толькі пераносны, складаючы ў граматычных адносінах закончаны сказ» [60, с. 124]. А школьнікам прапануецца завучваць, што «прыказкай называецца створанае народам лаканічнае, часцей за ўсё вобразнае выслоўе з павучальным зместам, якое мае прамы і пераносны сэнс» [12, с. 14].

Як вядома, тэрмін – гэта слова ці словазлучэнне, якое дакладна абазначае, называе пэўнае паняцце і становіцца агульнапрынятым, як бы ўзаконьваецца ў якой-небудзь галіне навукі, тэхнікі і г.д. Прыказка – несумненны тэрмін. Яго сутнасць раскрываецца ў дэфініцыі. Пад яе павінны безагаворачна падпадаць кожная прыказка паасобку і ўсе, што ўваходзяць у парэмійны склад. Аднак калі звярнуцца да пададзеных вышэй дэфініцый, дык бачым, што амаль пад кожную з іх ніяк не падыходзіць вялізнае мноства прыказак. Называецца, напрыклад, як адна з адметных рыс прыказкі яе «рытмічная арганізаванасць». Але ў адных прыказках рытм сапраўды мае месца: *Зняўшы галаву, па валасах не плачуць* (шасцістопны харэй); *Калі хата гарыць, не да пацераў* (чатырохстопны анапест). Другія ж прыказкі не маюць рытму: *Кашы маслам не сапсуеш; І баран бы касіў, каб хто касу насіў.*

Гэтак жа прыказкі далёка не аднатыпныя паводле іншых нібыта адметных рыс. Не ўсе прыказкі вобразныя, не ўсе яны маюць «прамы і пераносны сэнс» або «адначасова літаральны і пераносна-вобразны план», не ўсе выражаюць суджэнне і не заўсёды з'яўляюцца выказамі павучальнага характару. Больш-менш падрабязная размова пра гэта будзе весціся ніжэй.

Можна, не прэтэндуючы на ісціну ў апошняй інстанцыі, прапанаваць такое азначэнне прыказкі: устойлівае, узнаўляльнае, не менш як двухкампанентнае афарыстычнае, найчасцей поўнасцю або часткова алегарычнае закончанае выказванне звычайна павучальнага характару ў форме простага ці складанага сказа. Але і такое азначэнне патрабуе агаворкі. Праўда, яна датычыць зусім нязначнай часткі прыказак, якімі даецца якасная ацэнка асобе, не названай у самой прыказцы: *І за лучынку знойдзе прычынку; І за шчэпку знойдзе прычэпку.* Або прыказка *І сам не гам і другому не дам,* якая гаворыцца з неадабрэннем пра таго, хто сам не карыстаецца і іншым не дае карыстацца чым-небудзь.

Пад у с т о й л і в а с ц ю прыказкі разумеецца пастаянства яе зместу, а таксама часцей за ўсё кампанентнага складу і структуры. Праўда, прыкладна 40 % прыказак здольныя, захоўваючы свой змест, вар'іравацца (гл. пра гэта ў § 5). У з н а ў л я л ь н а с ц ь – гэта рэгулярная паўтаральнасць, выкарыстанне прыказкі як звычайнай моўнай адзінкі, якая не складаецца ў працэсе зносін, а выхопліваецца з памяці ў гатовым выглядзе. А ф а р ы с т ы ч н а с ц ь – гэта трапнасць, лаканічнасць, адшліфаванасць.

У сувязі з цяжкасцю даць абсалютна дакладную і ўсебаковую дэфініцыю прыказкі варта прыгадаць выказванне амерыканскага парэміёлага Б.Дж.Уайтынга: «Прапанаваць кароткае і ў той час прымальнае для работы азначэнне прыказкі, асабліва такое, якое ахапіла б усе прыказкавыя выразы, амаль немагчыма... На шчасце, азначэнне не з'яўляецца сапраўды неабходным, таму што ўсе мы ведаем, што такое прыказка» (цыт. па кн.: [2, с. 297]).

## § 2. Сэнсавая класіфікацыя прыказак

Пры разглядзе гэтага пытання, як і іншых, для аналізу бяруцца каля 1 500 парэмій, якія ўжываюцца ў сучасным літаратурным маўленні і апісаны ў «Слоўніку беларускіх прыказак» [75] і дадатку да яго [73, с. 141–154]. Гэтая колькасць прыказак цалкам дастатковая, каб рабіць адпаведныя аб'ектыўныя высновы, бо, як вядома, «існуе некаторая імаверная заканамернасць.., якая кіруе частотнасцю кожнага элемента мовы» [39, с. 15]: тыповае праяўляецца рэгулярна і паслядоўна.

Пры аналізе прыказак з іх семантычнага боку відаць, што гэта далёка не аднатыпныя моўныя адзінкі. Тут выразна вылучаюцца тры групы.

У п е р ш у ю групу ўваходзяць прыказкі алегарычнага характару, г.зн. у іх гаворыцца пра адно, а маецца на ўвазе зусім іншае. Так, у прыказцы *Груган гругану вока не выдзеўбе* зусім не пра гругана і невыдзёўбванне вока ідзе размова; сэнс прыказкі – 'людзі, звязаныя якімі-небудзь агульнымі, звычайна карыслівымі, інтарэсамі, дзейнічаюць заадно і не здрадзяць, не зробяць кепскага адзін аднаму'. Сэнс прыказкі *Яблык ад яблыні недалёка падае* – 'свае недахопы ці станоўчыя рысы дзеці пераймаюць ад бацькоў', а *Кашы маслам не сапсуеш* абазначае

‘неабходнае, карыснае ніколі не зашкодзіць’. Яшчэ некалькі прыказак гэтай групы: *Адальюцца воўку авечыя слёзкі; Баба з воза – каню лягчэй; Бяздоннай бочкі не напоўніш; Дыму без агню не бывае; Клін клінам выбіваюць; Пад ляжачы камень вада не цячэ; Сабака брэша – вецер носіць.*

Як ужо гаварылася ў папярэднім параграфе, у шмат якіх навуковых і навучальных працах сцвярджаецца, што прыказкі надзелены вобразнасцю, пераноснасцю, алегарычнасцю. Іншы раз да гэтых нібыта адметных рыс прыказкі дадаецца «часцей за ўсё», але яно нідзе не пацвярджаецца якімі-небудзь колькаснымі паказчыкамі. На самай справе на долю алегарычных прыказак прыпадае не большая, а меншая частка парэмійных адзінак. Іх прыкладна 460 сярод 1 500 прааналізаваных прыказак.

Алегарычныя, пераносныя прыказкі ўтвараюцца не на лексічнай, а на сінтаксічнай аснове, г.зн. у выніку пераасэнсавання не кожнага слова паасобку, а ўсяго выказвання-сказа ў цэлым. Аб’ект пераасэнсавання (скажам, *Яблык ад яблыні недалёка падае*) як бы выварочваецца навыварат цалкам і адначасова, а не асобнымі сваімі словамі. *Яблык* і *яблыня* ў іх свабодным ужыванні, як засведчана ў тлумачальных слоўніках, наогул адназначныя назоўнікі, а *падаць* і *недалёка* маюць па некалькі слоўнікавых значэнняў. Адпаведныя ж словы-кампаненты ўнутры прыказкі *Яблык ад яблыні недалёка падае* дэактуалізаваліся, як бы растварыліся ў агульным сэнсе прыказкі і не маюць нічога агульнага з прамымі ці пераноснымі значэннямі гэтых слоў.

Такім чынам, кампаненты алегарычных прыказак толькі знешне, сваёй гукавой абалонкай падобныя на адпаведныя словы. У семантычных жа адносінах яны страцілі свае асноўныя якасці: асобнае лексічнае значэнне, лексіка-семантычную самастойнасць, прадметную аднесенасць. Вось чаму, як піша У.П.Жукаў, «у складзе сказа, якім перадаецца сэнс той ці іншай прыказкі, няма і не можа быць ніводнага слова, якое б адначасова ўваходзіла ў прыказку, што тлумачыцца» [47, с. 15]. Напрыклад: *Цягаў воўк, пацягнулі і воўка* – ‘прыйшоў час адплаты каму-небудзь за прычыненае зло’; *Рука руку мые* – ‘адзін выгароджвае другога ў якой-небудзь несумленнай справе’. І ў сінтаксічных адносінах кампаненты такіх прыказак не павінны кваліфікавацца як члены сказа. Алегарычныя прыказкі, як пра гэта больш падрабязна будзе гаварыцца ў раздзеле «Граматычная характарыстыка прыказак», сінтаксічна непадзельныя.

Д р у г а я група аб’ядноўвае прыказкі, у якіх няма поўнага пераасэнсавання ўсіх кампанентаў. Частка слоў такіх прыказак захоўвае сваё літаральнае значэнне. Да прыкладу, у прыказцы *Не такі чорт страшны, як яго малююць* іншасказальны сэнс маюць толькі кампаненты *чорт* і *малююць*; агульнае значэнне прыказкі – ‘не так страшна на самай справе, як здаецца’. Або возьмем прыказку *Стары вол баразны не псуе (не сапсуе).* У ёй таксама не ўсе кампаненты атрымалі метафарычнае пераасэнсаванне, таму яе змест перадаецца з выкарыстаннем гэтых непераасэнсаваных слоў: ‘стары, вопытны чалавек не сапсуе таго, за што бярэцца’. Захоўвае сваё літаральнае значэнне і слова *вучыць* у прыказцы *Яйцо курыцу вучыць*, яна абазначае ‘малады, нявопытны вучыць старэйшага вопытнага’.

У адных выпадках неперааснсаваным застаецца толькі адно слова, што лёгка выяўляецца пры перадачы прыказкавага значэння. Гэта, напрыклад, слова *пакуль* у прыказцы *Куй жалеза, пакуль гарачае* (між іншым, калька з лацінскай мовы), што значыць 'спяшайся рабіць што-небудзь, пакуль ёсць спрыяльныя ўмовы'. Вось яшчэ некалькі прыказак (у іх слова, ужытае ў яго літаральным значэнні, тут не курсівіцца): *Ваўкоў* баяцца – *у лес не хадзіць*; Абяцаная *шапка на вушы лезе*; Будзе *мёд і ў Сідаравай калодзе*; Будзе *і на нашай вуліцы свята*; Восень *на рабым кані едзе.* Часам, наадварот, толькі адно слова ці прыназоўнікава-склонавае спалучэнне (пазначанае курсівам) ужыта фігуральна, астатнія маюць літаральнае значэнне: Ад *торбы* і турмы не заракайся; Малако ў каровы *на языку*.

У другіх выпадках пераасэнсаванасць і літаральнасць значэння камбінуюцца ў іншых разнастайных прапорцыях: *Гэта яшчэ толькі кветачкі, а ягадкі наперадзе; Куды іголка, туды і нітка; Адсохні тая рука, што сабе не спрыяе; Ажаніцца – не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся; Альбо дожджык, альбо снег, альбо будзе альбо не; Мая хата з краю, нічога не знаю.* Асобныя словы ператвараюцца ў прыказкавыя кампаненты і ў выніку метанімічнага ці сінекдахічнага пераносу: *Аддай рукамі, хадзі нагамі; Адна галава добра, а дзве яшчэ лепей.*

Прыказкі з частковым пераасэнсаваннем іх кампанентаў складаюць больш за палову парэмійнага складу (іх каля 800 з ліку 1 500). У іх, як відаць з прыведзеных прыкладаў, адны кампаненты, як і ў прыказках першай групы, страцілі сваё асобнае лексічнае значэнне і, значыць, асноўныя прыметы слова, а другія ўспрымаюцца як звычайныя словы са сваімі слоўнікавымі значэннямі. Што да сінтаксічнага разбору такіх прыказак, то яны таксама сінтаксічна непадзельныя, хоць у іх не адбылося скразнога і адначасовага пераасэнсавання ўсіх слоў. Так, у прыказцы *Яйцо курыцу вучыць* дзеяслоўны кампанент захаваў сваё прамое значэнне, але і ў ёй *яйцо* (хоць і стаіць у форме назоўнага склону) не з'яўляецца прадметам нашай думкі і, значыць, дзейнікам.

Ёсць і т р э ц я я група прыказак (іх каля 260). Яны наогул ужываюцца толькі ў прамым значэнні і не патрабуюць тлумачэння. Агульны сэнс амаль кожнай такой прыказкі вынікае з прамых значэнняў яе слоў-кампанентаў, напрыклад: *Брат любіць сястру багатую, а мужык жонку здаровую; Век жыві – век вучыся; Вучыцца ніколі не позна; Госць госця ненавідзіць, а гаспадар абодвух; Госцю двойчы рады: калі ён прыязджае і калі ад'язджае; Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць; Зяць любіць узяць; Касі, каса, пакуль раса, раса далоў – каса дамоў; Кожнаму сваё дзіця міла.* Зрэшты, у прыказцы пра касу можна бачыць элементы пераасэнсавання – прыём увасаблення.

Некаторыя прыказкі гэтай групы вылучаюцца значнай скандэнсаванасцю, згушчанасцю думкі, таму пры іх ужыванні трэба ведаць, у якой маўленчай сітуацыі выкарыстоўваецца пэўная прыказка. Да прыкладу, *Лепш позна, чым ніколі* ўжываецца як рэакцыя на якія-небудзь дзеянні, што адбыліся са спазненнем; *Ніхто два разы не жыве* – гаворыцца як сцвярджэнне смяротнасці кожнага чалавека. Прыказкай *Многа шуму з нічога* ацэньваюць якое-небудзь нечаканае вялікае ажыўленне, шум, беспарадак, што, аднак, або было беспадстаўным, або не дало належных вынікаў. А прыказка *Напісанае застаецца* мае ў слоўніку такі каментарый: «Напісанае (часцей пра мастацкія творы) не

прападзе бясследна ў часе, захоўваецца ў памяці пакаленняў». Зразумела, што прыказкі гэтай групы сінтаксічна падзельныя. У іх кожнае паўназначнае слова выступае ў ролі пэўнага члена сказа.

Гэтак жа, як словы маюць лексічнае значэнне, а фразеалагізмы – фразеалагічнае, так і прыказкам, як ужо было відаць з папярэдняга выкладу, уласціва парэмійнае, або прыказкавае, значэнне. У прыказках 3-й групы яно ўяўляе сабой суму значэнняў слоў, з якіх складаецца прыказка; праўда, у некаторых выпадках яно мае патрэбу ў сітуацыйнай характарыстыцы, у паказе, дзе, калі, пры якіх абставінах ужываецца гэта прыказка.

Што да прыказак 1-й групы, то іх парэмійнае значэнне раскрываецца іх лагічнай (сэнсавай) характарыстыкай. Зрэдку сярод іх сустракаюцца прыказкі, лагічны змест якіх немагчыма вызначыць, бо яны існуюць у мове для якаснай ацэнкі найчасцей асобы. Да прыкладу, алегарычная (і нават сюжэтная) прыказка *Дзед бабцы купіў лапці, былі малыя – абсек пальцы* паясняецца так: гаворыцца як іранічная і асуджальная ацэнка чыіх-небудзь безразважных дзеянняў або намераў.

Пры семантызацыі прыказак 1-й, а часта і 2-й групы тлумачэнне ажыццяўляецца паводле прынцыпу «падобнае падобным». Паколькі прыказкі структурна арганізаваны як сказ, то іх тлумачэнне робіцца таксама праз сказ, просты ці складаны. Напрыклад, прыказка *Быць бычку на вяровачцы* тлумачыцца так: ‘прыйдзецца расплачвацца за што-небудзь, адчуць непрыемнасць’. Прыказка *Колькі ваўка ні кармі, ён у лес глядзіць*, утвораная па структурнай схеме складанага сказа, атрымлівае наступнае тлумачэнне: ‘як ні старайся перамяніць сутнасць чалавека, яго прывычкі, якасці, яны абавязкова праявяць сябе’. У некаторых выпадках прыказка са структурай простага сказа вымагае семантычнай характарыстыкі ў форме складанага сказа: *Ваўка ногі кормяць* – ‘каб пракарміцца, трэба шукаць харчы, турбавацца, а не сядзець на адным месцы’.

Тлумачэнне не павінна ўтрымліваць семантычных элементаў, якіх няма ў сэнсавай структуры самой прыказкі. Семантызуючы змест прыказкі *Не да пацерай, калі хата гарыць*, варта і ў тлумачэнні захоўваць сінтаксічную схему прыказкі: ‘не час каму-небудзь займацца чымсьці высокім, аддаленым, калі самому крута прыходзіцца’. Параўн., як недакладна тлумачаць гэту прыказку С. і Я.Івановы, ускладняючы яе змест тым, чаго ў ёй няма: ‘калі неабходна рашуча змагацца з ударамі лёсу, не трэба наракаць на долю, траціць час на роспач’ [49, с. 100]. Аналагічных прыкладаў адвольнага, шматслоўнага тлумачэння прыказак у гэтым даведніку мноства.

Прыказкі 2-й групы маюць патрэбу ў тлумачэнні толькі пераасэнсаваных слоў. Так, сэнсавы змест прыказкі *П’янаму і мора па калена* перадаецца з выкарыстаннем першага слова ў яго прамым значэнні: ‘п’янаму нічога не страшна, нічога не значыць’. Семантычная характарыстыка некаторых прыказак гэтай групы павінна суправаджацца дадатковай стылістычнай або, часцей, сітуацыйнай характарыстыкай. Да прыкладу: *Старой бабцы добра і ў шапцы* – ‘старому чалавеку неабавязкова быць добра прыбраным, прыгожа адзетым; часцей гаворыцца жартаўліва’. Дадатковую сітуацыйную характарыстыку маюць, скажам, такія сінанімічныя прыказкі: *Голы збірайся, голы гатоў* – ‘беднаму чалавеку вельмі лёгка сабрацца куды-

небудзь; кажуць пра каго-небудзь перад адыходам, ад'ездам'; *Голаму сабраццa – толькі падпераза цца* – 'чалавеку, не абцяжаранаму ўласнай маёмасцю, вельмі лёгка сабрацца; кажуць пра каго-небудзь перад адыходам, ад'ездам'. Дарэчы, першыя кампаненты ў гэтых дзвюх прыказках маюць на ўзроўні слоў па некалькі значэнняў, якія і ўнутры прыказкі сутыкаюцца, судакранаюцца. Зразумела, што тлумачэнне сэнсу гэтых прыказак куды бяднейшае за іх сапраўдны змест, які абрастае шматлікімі асацыятыўнымі ўяўленнямі (узяць толькі хоць адно гэта «голаму – падпеpaзацца»).

У прыказцы *Багатаму чорт дзяцей калыша* першы кампанент захоўвае сваё літаральнае значэнне. Яе сэнс – 'багатаму ўсё ўдаецца, ва ўсім шанцуе'. А С. і Я.Івановы ў памянёным ужо слоўніку, даючы волю фантазіі і ўводзячы чытача ў зман, семантызуюць прыказку так: «Звычайна ўдача спадарожнічае таму, хто і без таго не пакрыўджаны лёсам, а ўсе бядоты звальваюцца на таго, каму і так несаладка жывецца...» Неаб'ектыўнасць семантызавання, дадзенага гэтай прыказцы, няцяжка выявіць, карыстаючыся прыёмам накладання на прыказку, ужытую ў шырокім кантэксце, яе тлумачэння: «Прыказка нездарма кажа, багатаму чорт дзяцей калыша. Гаспадарка дыхт, воўк яго еш. Багаты гаспадар усяго мае: і зямлю, і скаціну, і дачушку-сакатушку. Вось каб бог дапамог ажаніцца з ёй» (У.Галубок); «Адзін Цукер-Крумкач адбухаў новую хату. Паспеў! Але ж багатаму і чорт дзяцей калыша» (П.Місько).

Правільна раскрыць сэнс прыказкі, даць ёй дакладную сітуацыйную і стылістычную характарыстыку – далёка не лёгкая справа. Зрабіць гэта можна толькі пры апоры на апраўдальны ілюстрацыйны матэрыял. Найбольш істотнай і аўтарытэтнай крыніцай у гэтых адносінах з'яўляецца мастацкая літаратура, бо мастакі слова валодаюць і тонкім стылістычным чуццём, і дакладным разуменнем сутнасці той ці іншай моўнай адзінкі, у тым ліку і прыказкі. Выключнае значэнне мастацкай і публіцыстычнай літаратуры як надзейнай крыніцы для тлумачэння прыказак, як важнага, а часам асноўнага сродку іх апісання неаднойчы адзначалася рознымі даследчыкамі. Гл., напрыклад: Анікін [3, с. 6], Жукаў [47, с. 21], Бандарэнка [21, с. 30], Е.В.Іванова [48, с. 52]. Прычым арыентавацца трэба не на адзінкавае ўжыванне прыказкі ў тым ці іншым мастацкім тэксце, а на суму аднародных ужыванняў у многіх творах. Менавіта так робіць У.П.Жукаў: функцыянаванне, скажам, рускай прыказкі *Долг платежом красен* пацвярджае 9 цытатамі, а прыказка *Волков бояться – в лес не ходить* ілюструецца 13 прыкладамі.

Калі ж рабіць спробу вызначыць сэнс прыказкі без апоры на яе рэальнае ўжыванне, а толькі гіпатэтычным шляхам, абстрактным разважаннем, то вынікі, мякка кажучы, пакідаюць жадаць лепшага. Гэта можна было б пацвердзіць дзесяткамі прыкладаў. Абмяжуемся толькі некалькімі.

Адна даследчыца пра алегарычную прыказку *Дзіравай кішэні ніколі не напоўніш* піша, што яе сэнс 'кішэнь ніколі не напоўніш, калі яна дзіравая' [25, с. 15]. Яшчэ ў адной працы, якая мае падзагаловак «Тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак...» [2, с. 2], знаходзім нямала няправільна растлумачаных прыказак. Так, прыказка *Лепей старожа, чым варожа* гаворыцца як парада лепей дзейнічаць асцярожна, чым

рызыкаваць, а ў памянёным слоўніку яна прыводзіцца двойчы з недакладным тлумачэннем яе сэнсу: «Прамаўляе дбайны селянін, лічачы, што лепей страціць час на вартаванне сваёй гаспадаркі, чым быць абрабаваным» і «Лепей вартаваць, чым думаць, што не ўкрадуць». *Лес усё чуе, а поле ўсё бачыць* – прыказка пра непазбежнасць раскрыцця таго, што было чыёй-небудзь тайнай. У тым жа слоўніку яна растлумачана так: «У лесе адзываецца рэха, а ў полі далёка відаць». Няправільную семантызацыю атрымалі тут і такія, напрыклад, прыказкі (гэта трэба ўлічваць пры карыстанні слоўнікам): *Ад напасці не прапасці; Бог не слухае, што свіння рухае; Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй; Мыш капы не баіцца; Над сіратою Бог з калітою; На сваім сметніку і певень гаспадар; Не адзін Гаўрыла ў Полацку; Не дай бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць; Пераначуем – болей пачуем; Старой бабцы хараша і ў шапцы; Хацела б душа ў рай, але грахі не пускаюць.*

Надуманае, непраўдападобнае тлумачэнне даецца ў метадычным артыкуле [33, с. 81], напрыклад, прыказцы *Няхай багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца*: «Багацце аслабляе жыццёвыя сілы чалавека, таму бедны выжывае ў тых умовах, у якіх багаты адразу б загінуў».

Звернемся цяпер да пытання пра вобразнасць прыказак. Як відаць з § 1, вельмі многія аўтары, даючы азначэнне прыказцы, абавязкова называюць вобразнасць як адну з асноўных адметных рыс прыказкі; у некаторых працах вобразнасць лічаць «неад'емнай арганічнай часткай прыказкі» [1, с. 4]. З выкладзенага ж вышэй матэрыялу можна бачыць, што вобразнасць уласціва далёка не ўсім прыказкам.

На тое, што ёсць прыказкі вобразныя і бязвобразныя, у свой час (1892 г.) звярнуў увагу А.А.Патабня: «Калі абагульненне не будзе змяшчаць у сабе следу свайго паходжання ад вобраза, мы атрымаем іншы від прыказкі, а менавіта – бязвобразны выказ маральнага зместу, напрыклад: «Береги денежку на черный день». «На бога надейся, а сам не плошай» – гэта прыказка бязвобразная» [95, с. 98]. Я.Ф.Карскі таксама падзяляў прыказкі на вобразныя «Калі ўзяўся за гуж, то не кажы, што не дуж», «На чыім возе едзеш, таму песеньку спявай») і бязвобразныя («Багаты дзівіцца, чым худы жывіцца», «Калі ёсць хлеб і вада, то не бяда»). Пра апошнія ён пісаў, што ў іх «няма іншасказання, разумець іх трэба літаральна, у многіх нават думка выказана без усякага намёку на вобраз, словам, перад намі – празаічнае суджэнне» [51, с. 437]. К.Крапіва адзначаў, што «ёсць прыказкі бязвобразныя, напрыклад: *Хто лжэ, той і крадзе; Не дай убогаму, а патрэбнаму; Хто дбае, той і мае*» [56, с. 251].

Пра тое, што «не ўсе прыказкі асэнсоўваюць рэчаіснасць праз вобраз» і што ў некаторых прыказках «сапраўды няма і не можа быць вобраза», пісаў і М.А.Янкоўскі, прыводзячы адпаведныя прыклады: «Жывы нажыве», «Кожны свой гонар мае», «Усё свой час мае» і г.д. Разам з тым робіцца спроба даказаць, што пададзеныя вышэй тры прыклады бязвобразных прыказак, прыведзеныя ў артыкуле К.Крапівы «Беларускія прыказкі», «падабраны няўдала». Гаворыцца, што прыказкі «Хто лжэ, той і крадзе», «Хто дбае, той і мае» вылучаюць «не толькі лагічную інфармацыю, у іх ёсць і іншыя адзнакі. Рыфма.., як вядома, зачыншчыца мастацкага вобраза. Ёсць тут своеасаблівае інтанацыйнае «дыханне» [130, с. 63–65].

Але, думаецца, у такім разе ў паняцці «вобраз», «вобразнасць» укладваецца залішне шырокі змест.

Як вядома, слова *вобраз* шматзначнае, у мастацтве яно абазначае канкрэтна-пачуццёвую форму ўяўлення, адлюстравання рэчаіснасці. Вобразнасць слушна атаясамліваецца з пераноснасцю, метафарычнасцю, фігуральнасцю. Пры метафарычным пераасэнсаванні пэўнае абстрактнае суджэнне, увасобленае ў прыказцы, перадаецца праз канкрэтныя вобразы, праз наглядное ўяўленне пра каго- ці што-небудзь. Скажам, прыказка *Бяздонную бочку не напоўніш*, што значыць ‘ніяк немагчыма накарміць, напаіць, задаволіць каго-небудзь’, сфармавалася на базе адпаведнага свабодна арганізаванага сказа.

Вобразнасць характэрна ў найбольшай ступені для прыказак з жывой унутранай формай. Нагадаем, што ўнутранай формай называюць вобраз, які пакладзены ў аснову наймення прыказкавай адзінкі, або вобразнае ўяўленне, якое спадарожнічае парэмійнаму значэнню. Вобразнасць у дачыненні да прыказак – гэта сумешчанае бачанне дзвюх карцін. Так, пры ўжыванні прыказкі *Кашы маслам не сапсуеш*, якая абазначае ‘неабходнае, карыснае ніколі не зашкодзіць’, зыходны вобраз надзённа-харчовага паходжання, пакладзены ў аснову прыказкі, хоць і знаходзіцца як бы ў цені свядомасці, але не можа не прасвечвацца праз цэласнае парэмійнае значэнне. Да таго ж гэта прыказка нярэдка ўжываецца і ў сваім прамым, зыходным значэнні.

Усе прыказкі 1-й групы – вобразныя. Сярод іх ёсць і такія, у аснове якіх – нерэальны, прыдуманы вобраз *(Адальюцца воўку авечыя слёзы; Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю)* або ў якіх унутраная форма сцёрлася, забылася, але тым не менш яны ўспрымаюцца як фігуральныя, забытая вобразнасць як бы пастуліруецца, дадумваецца. Да прыкладу, паходжанне прыказкі *На злодзеі шапка гарыць* (‘той, хто правінаваціўся ў чым-небудзь, міжвольна выдае сябе сваімі паводзінамі’) звязваюць з забытым ужо апавяданнем-анекдотам. Здарылася пакража, і абкрадзеныя звярнуліся да знахара. Той прывёў іх на базар і крыкнуў: «Ану, паглядзіце, праваслаўныя, на злодзеі шапка гарыць!» Злодзей міжволі схапіўся за шапку і гэтым выдаў сябе. Між іншым, у камедыі А.Макаёнка «Лявоніха на арбіце» ёсць творчае выкарыстанне гэтага анекдота: «[Максім:] Скажам, спаймалі чалавека – украў ён ахапак калгаснага сена... А яму ніякай кары. [Лявон:] Значыць – не спаймалі. [Максім:] Хапай шапку – гарыць».

Прыказкі 2-й групы таксама трэба лічыць вобразнымі, ці, лепей сказаць, часткова вобразнымі, бо ў іх няма скразнога пераасэнсавання: *Адзін з сошкай, а сямёра з ложкай; Ад бяды кіем не адаб’ешся; Багатаму шкада карабля, а беднаму – кашаля; Воз дадому возіць, а сані – на базар; Дзе чорт не зможа, туды бабу пашле; Дармовы сыр бывае толькі ў мышалоўцы.*

Усе прыказкі 3-й групы – бязвобразныя.

Адзін парэміёлаг піша: «Прыказкі, фразеалагізмы – гэта такія вобразныя матываваныя адзінкі мовы, у значэнні якіх важным з’яўляецца не дэнататыўны аспект, колькі рознага роду канатацыі, напластаванні, вобразы, эмоцыі, імпліцытныя ацэнкі» [2, с. 296]. Але, як было паказана, і прыказкі не ўсе вобразныя, і фразеалагізмы – часцей за ўсё бязвобразныя. Тое самае і наконт матываванасці. Матываванымі называюцца такія адзінкі мовы, матыў узнікнення якіх зразумелы сучасным носьбітам мовы. Напрыклад, *дуб* (дрэва) – нематываваная назва, а *дубовы* (‘зроблены з дубу’) – матываваная: *па галоўцы гладзіць*

(‘патураць каму-небудзь, хвалячы і адабраючы яго’) – матываваны фразеалагізм, а *сабаку з’еў* (на чым) – нематываваны. І ў прыказках тое самае: *Ад лёсу не ўцячэш; Вучыцца ніколі не позна; Не жолаб да каня, а конь да жолаба ідзе* – матываваныя прыказкі, а *Кароль жа голы; І на сонцы ёсць плямы; Чырвонае – белае ўсё перадзелае* – нематываваныя.

Закранём яшчэ адно пытанне, звязанае з вобразнасцю ці пераноснасцю прыказак. У адным з азначэнняў, пералічаных у § 1, сказана, што прыказка – «народны выраз, які мае адначасова літаральны і пераносна-вобразны план або толькі пераносны...» [60, с. 124]. Зрэшты, такое ж азначэнне амаль даслоўна паўтараецца і ў некаторых іншых працах, напрыклад, [47, с. 11]. Але, па-першае, пад гэтае азначэнне ніяк нельга падвесці ўсе адзінкі парэмійнага складу. Па-другое, такіх прыказак, якія маюць «адначасова літаральны і пераносна-вобразны план», ці, калі сказаць інакш, маюць не толькі пераноснае (вобразнае) значэнне, але могуць ужывацца і ў літаральным плане, – такіх прыказак – лічаныя адзінкі. Напрыклад, у СБП [75] двухзначных прыказак, першае значэнне якіх літаральнае, усяго 10, а ў «Слоўніку...» У.П.Жукава [108] – 3.

У сувязі са сказаным наўрад ці можна пагадзіцца, што прыказка *Як ні ары, абы чорным дагары* мае пераносны і літаральны сэнс [131, с. 162]. Яна ўжываецца толькі ў пераносным плане як ацэнка абыякавых адносін да працы, справы, напрыклад: *У нашага Лявона на ўсё свае законы: «Як ні ары, абы чорным дагары», «Нікога не чапаю, бо мая хата з краю»* (М.Скрыпка)*; Б’ецца Надзя як рыбіна аб лёд, стараецца, а ўсё роўна атрымліваецца, як у таго заклятага Богам і людзьмі гарапашнага Амелі: як ні ары, а ўсё чорным дагары* (М.Гроднеў).

Коратка спынімся яшчэ на некалькіх недакладнасцях, якія, паўтараючыся, сустракаюцца ў азначэнні прыказак (гл. § 1).

1. Не ўсе прыказкі маюць павучальны змест. Скажам, што павучальнага ёсць у прыказцы *Абедаў, а жывот не ведаў?* Яна гаворыцца пра дрэнную яду, калі чалавек не пад’еў. Няма ніякай павучальнасці, настаўлення ў дзесятках прыказак, напрыклад: *Ад лені баляць калені; Бачна па вочках, што ходзіць па ночках; Дзе каша ды аладка, там і грамадка; Людзі мруць, нам дарогу труць; Мароз сем баб павёз; Мая душа не крывая, усё прымае; На лаўца і звер бяжыць.*

2. Не ўсякая прыказка выражае суджэнне. У «Лінгвістычным энцыклапедычным слоўніку»[76, с. 389] слушна зазначана, што прыказкі, якія маюць пабуджальны сэнс, суджэннямі не з’яўляюцца. Ёсць шэраг прыказак, якімі нічога не сцвярджаецца або не адмаўляецца, а толькі выражаецца пабуджэнне да чаго-небудзь, заклік, забарона, парада, дазвол і інш. Вось некалькі прыкладаў: *Апускайся, куме, на дно; Рыхтуй калёсы зімой, а сані летам; Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня – з усіх чатырох бакоў; Вастры зуб аб зуб, а розум аб розум; Думай звечара, а рабі зрання; І бога хвалі і чорта не гнявi; Людзей слухай, а свой розум май; Маўчы, бо будуць таўчы; Меней гавары – болей слухай; Скачы, уража, як пан скажа; Даюць – бяры, б’юць – уцякай.* Не выражаюць суджэння і некаторыя прыказкі ацэначнага характару. Да прыкладу, пра небагатага чалавека, які любіць модна прыбірацца, насмешліва кажуць: *На назе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць.*

3. Не для кожнай прыказкі характэрны «абагульняючы характар» [115, т. 4, с. 435], і не ўсе яны «маюць абагульненае значэнне» [25, с. 4].

Напрыклад, няма ніякіх абагульненняў, вывадаў, правілаў у такіх прыказках: *Аддай рукамі, а хадзі нагамі; Ад работы коні дохнуць; Каму па каму, а каму два камы; Свой свайго пазнаў ды на пачостку пазваў; Дзякуй гэтаму дому, пойдзем к другому; Жывём, хлеб жуём.* М.Грынблат, ахарактарызаваўшы некалькі азначэнняў, якія даюцца прыказкам рознымі даследчыкамі, адзначае, што «гэтыя дэфініцыі ўсё ж патрабуюць удакладнення і дапаўнення. У іх не падкрэслены, напрыклад, абагульнены характар выражанага ў прыказцы меркавання і яго заканамернасць…» [41, с. 8]. Думаецца, няцяжка заўважыць адсутнасць якога-небудзь «абагульненага характару» і «заканамернасці меркавання» (працягнем пералік), скажам, у такіх прыказках: *Я не я і хата не мая; Зляпіў бог душу – ні ў пень, ні ў грушу; З рога ўсяго многа; У нагах праўды няма.*

## § 3. Сістэмныя сувязі ў парэміялогіі

Сучасную лінгвістыку часам характарызуюць як «адзіную сістэму сазлучаных сасудаў» (М.У.Усеваладава). Усе элементы мовы знаходзяцца паміж сабой ва ўзаемных адносінах і сувязях, утвараючы цэласнасць і пэўнае адзінства, якое называюць моўнай сістэмай. Яе іншы раз вызначаюць і як сукупнасць аднапланавых адзінак, звязаных апазіцыйнымі (супрацьпастаўленымі) адносінамі. Моўная сістэма складаецца з шэрагу падсістэм: фанетычнай, лексічнай, марфалагічнай і інш. Іх часта таксама называюць сістэмамі. Зрэдку, звычайна мімаходзь, прызнаюць і існаванне парэміялагічнай падсістэмы (гл., напрыклад, [44, с. 4]), але яна пакуль што не мае апісання яе асноўных сістэмных адносін.

У лексіцы і фразеалогіі асноўнымі відамі выяўлення сістэмнасці з'яўляюцца парадыгматычныя і сінтагматычныя адносіны. Нагадаем, што сутнасць парадыгматычных адносін «складае падабенства адзінак па адных кампанентах і супрацьпастаўленне – па другіх» [64, с. 33]; «парадыгматычныя адносіны можна інакш назваць унутрыкласавымі адносінамі паміж элементамі, якія складаюць адзін клас» [68, с. 204]. Сінтагматычныя адносіны – гэта спалучальнасць адных моўных адзінак з другімі. Абодва віды адносін вельмі істотныя пры вывучэнні сістэмнасці ў лексіцы ці фразеалогіі, бо і словы, і фразеалагізмы – будаўнічы матэрыял для сказаў. Да прыказак жа, паколькі яны амаль заўсёды выступаюць як закончаныя выказванні ў форме простага ці складанага сказа, сінтагматычныя адносіны дачынення не маюць.

Асноўнае ў парэміялогіі пры семантычнай характарыстыцы прыказак ці, дакладней, прыказкавага складу мовы (яго нярэдка называюць адным словам – *парэмійнік*) – гэта парадыгматычныя адносіны. Пры апісанні гэтых адносін выкарыстоўваецца тэрмін «семантычная парадыгма», якім абазначаецца сукупнасць аднародных моўных адзінак.

Прыказкі ўступаюць у розныя сэнсавыя сувязі і адносіны паміж сабой. Інакш кажучы, прыказкі, або парэміі, як узаемазвязаныя элементы ўтвараюць семантычную парадыгму, куды ўваходзяць: 1) групы прыказак паводле пераасэнсаванасці ці непераасэнсаванасці іх састаўных частак (слоў-кампанентаў); 2) прыказкі сінанімічнага характару; 3) прыказкі, ахопленыя з'явай варыянтнасці; 4) прыватныя

значэнні ўнутры мнагазначных прыказак; 5) парэмійна-семантычныя групы; 6) тэматычныя разрады прыказак.

Моўная сістэма, як пісаў адзін з заснавальнікаў сістэмнага падыходу да мовы Ф. дэ Сасюр, «грунтуецца на тоеснасцях і розніцах» пры дамінуючай ролі апошніх (цыт. па: [76, с. 453]). Адносіны ж паміж элементамі сістэмы называюцца моўнай апазіцыяй, г.зн. супрацьпастаўленнем пэўных груп, з'яў, катэгорый і інш. па якой-небудзь істотнай прымеце. Пры гэтым апазіцыя (супрацьпастаўленне) не абмяжоўваецца толькі якойсьці адной групай ці з'явай, а пашыраецца і на іншыя сумежныя групы або з'явы. Так, М.М.Шанскі адзначае: «З'яве аманіміі ў мове супрацьпастаўляецца з'ява сінаніміі» [120, с. 50]. Або параўн. у вучэбнай праграме: «Сінанімія як з'ява, супрацьлеглая і полісеміі, і аманіміі» [112, с. 7]. Таму, сістэматызуючы, напрыклад, парэміі сінанімічнага характару (гл. вышэй, п. 2), варта найперш падзяліць іх на два разрады: прыказкі, здольныя ўтвараць сінанімічныя рады, і прыказкі, якія не сінанімізуюцца.

Працытуем таксама ў якасці прыкладу ўрывак з працы пра сістэмнае вывучэнне фразеалагічнай варыянтнасці: «Адным фразеалагізмам уласціва варыянтнасць, а другія яе не маюць. Сярод фразеалагізмаў, для якіх характэрна варыянтнасць, у сваю чаргу назіраецца шэраг апазіцый. З аднаго боку, выступаюць выразы з лексічнай варыянтнасцю (з пераменным кампанентам у іх складзе), з другога – з фармальнай (з відазмяненнямі аднаго і таго ж кампанента). І тым, і другім фразеалагізмам, у якіх вар'іраванне адбываецца ў межах адной сінтаксічнай канструкцыі, супрацьпастаўляюцца выразы з канструкцыйна-колькаснай варыянтнасцю, у якіх мяняецца колькасць кампанентаў і, значыць, канструкцыя. Што да фразеалагізмаў з камбінаванай варыянтнасцю, то яны знаходзяцца ў апазіцыі да ўсіх пералічаных вышэй выразаў, бо ўтрымліваюць у сабе розныя віды вар'іравання» [117, с. 71–72]. Прыведзеная цытата ілюструе, так бы мовіць, мікрасістэму фразеалагічнай варыянтнасці.

Пры апісанні прыказак паводле іх паходжання або з сінтаксічнага ці стылістычнага бакоў таксама непазбежна выяўляецца шэраг апазіцый (гл. пра іх у раздзелах 2, 3, 4).

Што датычыць семантычнай парадыгмы прыказак, то першы яе кампанент (сістэматызацыя прыказак паводле пераасэнсаванасці ці непераасэнсаванасці іх састаўных частак) ужо прааналізаваны ў папярэднім параграфе. Некаторыя іншыя кампаненты будуць разгледжаны далей.

Думаецца, што на сённяшнім этапе вывучэння ці, дакладней, станаўлення парэміялогіі як лінгвістычнай дысцыпліны можна вылучыць шэраг іншых парэмійных апазіцый (у межах семантычнай парадыгмы). Яны сцісла разгледжаны ў папярэднім параграфе. Вось некаторыя з іх: а) прыказкі вобразныя і бязвобразныя; б) прыказкі павучальнага зместу і прыказкі з адсутнасцю такога зместу; в) прыказкі-суджэнні і прыказкі, якія суджэннямі не з'яўляюцца; г) прыказкі-абагульненні і прыказкі, у якіх няма ніякіх абагульненняў. Прычым сярод прыказак-суджэнняў можна бачыць супрацьпастаўленне суджэнняў агульнага і прыватнага характару. Так, прыказкамі *Век зжыць – не мех сшыць; Шыла ў мяшку не схаваеш; Усё цячэ, усё мяняецца; Двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма* выражаюцца суджэнні агульнага характару, а прыказкі *На*

*лаўца і звер бяжыць; Найшла каса на камень* з'яўляюцца суджэннямі прыватнага характару.

Сістэматызуючы прыказкавы матэрыял з таго ці іншага пункту гледжання, нельга пазбягаць і тых нярэдкіх выпадкаў, калі асобныя прыказкі не кладуцца ў пэўную схему, выступаюць як «антысістэмныя». У гэтай сувязі можна працытаваць выказванне Ш.Балі, якое хоць і непасрэдна дастасоўваецца да лексічнай сістэмы, але прыдатнае і да іншых сістэм і падсістэм: «Слоўнікавы склад не ўяўляе сабой геаметрычна правільнай канструкцыі, якая была б гэтак жаданай для лянівай думкі, што імкнецца ісці лёгкім шляхам аналогіі» [9, с. 62].

Як ужо згадвалася, пры выяўленні сістэмных сувязей у аснову пэўнай класіфікацыі павінна класціся адзіная і найбольш істотная прымета, рыса, асаблівасць. Інакш у некаторых выпадках могуць укараніцца ў навуковы ўжытак недакладныя схемы. Маючы на ўвазе вядомую семантычную класіфікацыю фразеалагізмаў, прапанаваную ў 1946–1947 гг. В.У.Вінаградавым, В.М.Макіенка слушна адзначыў: «У гэтай класіфікацыі фразеалагічныя зрашчэнні і адзінствы размяжоўваюцца па ступені матываванасці, а фразеалагічныя злучэнні – па прымеце абмежавання спалучальнасці, што з'яўляецца відавочным алагізмам» [85, с. 166].

## § 4. Сінанімічнасць прыказак

На тое, што паміж шмат якімі прыказкамі існуюць сінанімічныя сувязі, яшчэ ў 1874 г. звярнуў увагу І.І.Насовіч. У сваім «Зборніку беларускіх прыказак» ён больш-менш паслядоўна адзначаў гэтыя сувязі адсылкамі тыпу «тое самае, што», «глядзі», «параўнай». Напрыклад: «Маім дабром ды й мне ж чалом. *Тое ж, што*: За маё жыта ды й мне набіта» [106, с. 78]. Амаль такія адсылкі («тое ж, што», «параўн.») ёсць і ў «Слоўніку...» У.П.Жукава [108, с. 28–29].

Прыказкі-сінонімы маюць тоеснае ці гранічна блізкае значэнне і часцей за ўсё адрозніваюцца адна ад другой найперш сваёй унутранай формай (калі яны поўнасцю ці часткова іншасказальныя), іншы раз сэнсавымі адценнямі, стылістычнымі асаблівасцямі, структурай, індывідуальнай сітуацыйнай характарыстыкай.

Так, у пададзеных ніжэй прыказках толькі першая – бязвобразная (хоць і яна не пазбаўлена некаторых выяўленчых сродкаў – супрацьпастаўленых кантэкстуальных антонімаў для перадачы прычынна-выніковай залежнасці паміж пэўнымі з'явамі): *Якая заслуга, такая і пашана; Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць; Якая птушка, такое і гняздзечка; Які музы´ка такая і му́зыка; Якія самі, такія і сані.* Сэнс першай прыказкі вынікае са значэнняў яе кампанентаў: 'кожны мае тое, чаго заслужыў'. Значэнне ж іншых прыказак гэтай групы ўскладняецца дадатковымі сэнсавымі і экспрэсіўна-ацэначнымі адценнямі, звязанымі з вобразнай асновай той ці іншай прыказкі. Канатацыя неадабрэння, асуджэння найбольш праяўляецца ў прыказцы *Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць.* Першая прыказка больш нейтральная ў стылістычных адносінах, чым астатнія.

Прыкладна чацвёртая частка з 1 500 прааналізаваных прыказак уступае ў сінанімічныя адносіны, утвараючы больш як 150 сінанімічных

радоў. Звычайна сінанімізуюцца прыказкі, усе ці амаль усе кампаненты якіх пераасэнсаваліся.

У парэміялогіі гэтак жа, як і ў лексікалогіі і фразеалогіі, можна вылучыць 4 тыпы сінонімаў: абсалютныя, семантычныя, стылістычныя і семантычна-стылістычныя. Часта ў адной сінанімічнай групе суседнічаюць прыказкі розных тыпаў. Напрыклад, з шасці сінонімаў-парэмій тры – *Адзін у полі не воін; Адзін не трапіш у кон, то выскачыш вон; Адной рукой і вузла не завяжаш* – утвараюць падгрупу абсалютных сінонімаў у значэнні 'аднаму чалавеку, у адзіночку цяжка справіцца з чым-небудзь'; яшчэ два – *Адзін і ў кашы няспорны; Адна галавешка і ў печы тлее* – складаюць другую падгрупу абсалютных сінонімаў ('у адзіночку ніякая справа не ладзіцца'); прыказка *Адзін дасужы, ды нядужы* з'яўляецца семантычным сінонімам пры супастаўленні з першай падгрупай, бо ў сваёй сэнсавай структуры ўтрымлівае дадатковыя элементы 'які б ён спрытны, дзейны ні быў'. Прыказка *Адзін у полі не воін* мае дадатковую сітуацыйную характарыстыку: часцей ужываецца як апраўданне чыйго-небудзь бяссілля, бездапаможнасці. Зазначым, дарэчы, што ў гэтым сінанімічным радзе аб'ядноўваюцца дзве падобнаструктурныя прыказкі *(Адзін у полі не воін; Адзін і ў кашы няспорны)* і чатыры рознаструктурныя.

У сінанімічным радзе *Каму што, а Базылю аладкі; Каму што, а папу кадзіла; Ліса спіць і курэй бачыць; Каму што, а свінні месіва; Хто пра бяду, а яна ўсё пра гавяду* першыя тры прыказкі – абсалютныя сінонімы, г.зн. тоесныя ў сэнсавых і стылістычных адносінах, а дзве астатнія – стылістычныя сінонімы; яны адрозніваюцца ад трох папярэдніх тым, што маюць ярка выяўленую афарбоўку неадабрэння. Што да структуры прыказак, то тры *(Каму што…)* аднаструктурныя прыказкі, астатнія дзве – рознаструктурныя.

Даволі часта прыказкі, аб'яднаныя ў сінанімічную групу, выступаюць як абсалютныя сінонімы. Маючы аднолькавы сэнсавы змест і тоеснае стылістычнае значэнне, яны адрозніваюцца адна ад другой сваёй непаўторнай унутранай формай – зыходным вобразным стрыжнем. Вось толькі два прыклады такіх сінанімічных радоў: *1) Апёкшыся на малацэ і на ваду дзьмеш; Напужаў мех, дык і торба страшна; Пужаная варона і куста баіцца; 2) Гарбатага магіла выправіць; Як удасца жарабё з лысінкай, дык і здохне такім.* Часам у маўленчай практыцы сінанімічныя прыказкі гэтага тыпу могуць аказацца побач, як, напрыклад, у аповесці М.Воранава «Карона»: «Зразумеўшы, якога гаспадара і якую хату мае на ўвазе Яшка, Адам заўважыў: *якія сані, такі і гаспадар… па Сеньку шапка*».

Гэтак жа часта ў сінанімічным радзе сустракаюцца прыказкі семантычнага тыпу. Яны маюць нязначныя сэнсавыя адрозненні. Напрыклад, некаторыя сэнсавыя абертоны адчуваюцца пры выкарыстанні прыказак: *Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць; Пакуль да бога, дык чорт душу выме; Пакуль траўка падрасце, конік з голаду памрэ.* Яшчэ прыклад: *Не да каляды, калі поўная хата бяды; Не да парасят, калі свінню смаляць; Не да пацераў, калі хата гарыць.* У гэтым радзе групуюцца падобнаструктурныя парэміі.

Некалькі прыкладаў з прыказкамі стылістычнага тыпу: *Чорт чорта пазнаў і на піва пазваў; Чорт чорту спавядаўся: адзін мігнуў, другі дагадаўся.* Абедзве сінанімічныя прыказкі гавораццa пра тых, хто

здружыўся і дзейнічае заадно, але другая прыказка мае афарбоўку іранічнасці. Калі параўнаць прыказкі *Варона з куста, а пяць на куст* і *Святое месца пустым не бывае*, то першая – размоўная, а другая мае больш высокі стылістычны статус.

Некаторыя прыказкі адначасова адрозніваюцца і сэнсавым адценнем, і стылістычнай афарбоўкай. Так, прыказка *І рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць* абазначае 'і хацелася б зрабіць што-небудзь, ды немагчыма' і гаворыцца, калі прыходзіцца прымірыцца з абставінамі. Прыказка ж *Рада б цяпер наша мама выйсці за пана, ды пан не бярэ* ўжываецца з крыху іншым значэннем і з насмешкай пра чые-небудзь нязбытныя або недарэчныя планы.

Сярод сінанімічных прыказак сустракаюцца і сітуацыйныя (гл. пра іх у § 7). Вось некалькі парэмій-сінонімаў: *Глухім два разы ў касцёле не звоняць* і *Глухому дзве абедні не служаць* (кажуць у адказ на просьбу паўтарыць сказанае, пры нежаданні паўтараць); *Любіў рак жабу, але вочы выеў* і *Пашкадаваў воўк кабылу, пакінуў хвост ды грыву* (кажуць з недаверам пра таго, хто на словах любіць ці шкадуе каго-небудзь, а на самай справе гатовы падмануць яго, нашкодзіць яму); *Пасмяяўся гаршчок з катла* і *Пасмяяўся шалудзівы з пляшывага* (кажуць неадабральна таму, хто высмейвае каго-небудзь, хоць і сам заслугоўвае насмешкі); *Чым багаты, тым і рады* і *Чым хата багата, тым і рада* (кажуць, калі прымаюць гасцей і просяць іх паблажліва аднесціся да таго, што маюць і чым сардэчна дзеляцца з імі).

Як ужо гаварылася вышэй, у сінанімічныя адносіны ўступаюць звычайна прыказкі з пераасэнсаванымі кампанентамі. Зрэдку ў сінанімічны рад аб'ядноўваюцца і прыказкі неалегарычнага характару. Напрыклад, у групу сэнсава і сітуацыйна тоесных парэмій, якія гаворацца, калі чалавеку не шанцуе, калі непрыемнасці ідуць адна за адной, уваходзяць такія 5 прыказак: *Адна бяда – не бяда; Адна бяда не ходзіць <другую за сабою водзіць>; Бяда па бядзе як па нітачцы ідзе; Ты за мора, а за табою бяда і гора; Чорт бяду перабудзе – адна згіне, дзесяць будзе.* Тут прыказкі пададзены ў алфавітным парадку – без вылучэння дамінанты. Гэта пытанне патрабуе асобнага даследавання, хоць думаецца, яно можа быць вырашана гэтак жа, як і ў сінанімічным радзе фразеалагізмаў, г.зн. дамінантай трэба лічыць найчасцей ужывальную прыказку, якая больш-менш свабодна можа замяшчаць іншыя прыказкі пры іх рэалізацыі ў адпаведных маўленчых кантэкстах. У такім разе сярод пададзеных вышэй 5 прыказак узначальваць сінанімічны рад павінна прыказка *Адна бяда не ходзіць <другую за сабою водзіць>.*

Возьмем яшчэ адзін сінанімічны рад (зноў прыказкі – у алфавітным парадку): *Ад крывога дрэва не бывае прамога ценю; Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла; Калі бацька рыбак, то і сын глядзіць на ваду; Яблык ад яблыні недалёка падае; Які куст, такі і адростак; Якое дрэва, такі і клін, які бацька, такі і сын; Якое карэнне, такое і насенне.* Тут у якасці дамінанты найбольш падыходзіць прыказка *Яблык ад яблыні недалёка падае.* Яна не толькі найбольш частотная па сваёй ужывальнасці, але і мае больш шырокі сэнсавы змест, абазначае 'свае недахопы або станоўчыя рысы дзеці пераймаюць ад бацькоў'. Некаторыя ж іншыя прыказкі гэтай сінанімічнай групы ўжываюцца як выказванне пра перайманне дзецьмі ад бацькоў толькі недахопаў, якіх-небудзь заган, але не станоўчых рыс, схільнасцей.

Пераважаюць сінанімічныя рады з дзвюх прыказак (больш за 110 радоў). Напрыклад: 1) *Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць – Кошку б'юць – нявестцы намёк даюць;* 2) *Сабака брэша – вецер носіць – Сабака брэша, а караван ідзе.*

У такіх двухчленных сінанімічных радах не заўсёды лёгка вызначыць дамінанту. Напрыклад, у другой сінанімічнай групе, пададзенай вышэй, перавагу варта аддаць, напэўна, прыказцы *Сабака брэша, а караван ідзе*, бо яна, у адрозненне ад першай, хоць і не з'яўляецца спрадвечна беларускай, а скалькавана з турэцкай мовы і не так часта ўжываецца, як першая, але багацейшая семантычна: яна гаворыцца з асуджэннем каго-небудзь не столькі за яго выказванні, балбатню, колькі за недарэчныя дзеянні, учынкі. Звернем увагу яшчэ на тры двухчленныя сінанімічныя рады, у якіх адна прыказка спрадвечна ці ўласна беларуская, а другая скалькаваная з іншай мовы; сінанімічны рад тут пачынаецца з дамінанты: 1) *Кожнаму сваё* (калька з лацінскай мовы) – *Кожнаму ездаку свае сані;* 2) *На чыім возе едзеш, таму і песенькі спявай – Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку* (недакладная калька з англійскай мовы); 3) *Не варта шкурка вырабу – Спяваць дарма – баліць гарла* (запазычанне з польскай мовы).

Вось яшчэ некалькі сінанімічных груп з дамінантай на чале: 1) *Конь на чатырох нагах і то спатыкаецца – Здараецца, што і доктар ад жывата качаецца;* 2) *Клін клінам выбіваюць – Няма прыёму супраць лома, апрача самога лома* (параўнальна нядаўна ўзніклая прыказка); 3) *На злодзеі шапка гарыць – Хто парася ўкраў, у таго ў вушах пішчыць.* Калі ў сінанімічным радзе адна прыказка вобразная, а другая бязвобразная, то звычайна дамінантай трэба лічыць вобразную прыказку, напрыклад: 1) *Парою сена косяць – Усяму свой час;* 2) *Хто гняздо ўе, у таго ўецца – Хто дбае, той і мае;* 3) *Язык да Кіева давядзе – Хто пытае, той не блудзіць.*

Больш за 20 сінанімічных груп – трохчленныя, напрыклад: *Багатаму чорт дзяцей калыша; Багатаму і чорт у кашу дбае; У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца.* Радзей сустракаюцца рады з чатырох, пяці ці шасці прыказак. Дзве сінанімічныя групы аб'ядноўваюць па 7 прыказак. Адна група ўжо называлася (з дамінантай *Яблык ад яблыні недалёка падае).* А вось прыказкі другой сямічленнай сінанімічнай групы, якімі, з рознымі сэнсавымі і экспрэсіўна-эмацыянальнымі адценнямі, выказваецца замілаванасць да роднага краю, да месца, дзе нарадзіўся хто-небудзь, да ўсёй Беларусі: *Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка; Дзе воўк радзіўся, там і куст яму мілы; Міл той куток, дзе абрэзалі пупок; Мой родны кут, як ты мне мілы; Няма лепшай старонкі ад свае хаты; Родная зямелька як змораному пасцелька; У родным краю, як у раю.* Дамінантай тут, відаць, варта прызнаць крылаты коласаўскі выраз *Мой родны кут, як ты мне мілы* – першы радок з паэмы «Новая зямля», вядомы сёння амаль кожнаму беларусу.

## § 5. Варыянтнасць прыказак

Пад варыянтамі ў галіне парэміялогіі разумеюцца агульнаўжывальныя разнавіднасці прыказак, якія адрозніваюцца пэўнай структурнай (лексічнай, словаўтваральнай і інш.) зменнасцю плана

выражэння пры нязменнасці плана зместу. Напрыклад, прыказка *Адна паршывая аўца ўвесь статак псуе* найчасцей ужываецца менавіта ў такім афармленні. Аднак, апрача гэтага, яна бытуе і ў іншых разнавіднасцях: *Шалудзівая авечка ўвесь гурт псуе; Адна паганая аўца ўсю чараду псуе; Паршывая авечка ўвесь статак сапсуе.* Ва ўсіх сваіх варыянтах прыказка рэалізуе адно і тое ж значэнне ‘дрэнны чалавек сваімі паводзінамі, учынкамі адмоўна дзейнічае на ўвесь калектыў або стварае непрыхільнае ўражанне пра калектыў’ і непарушна захоўвае непаўторную вобразную аснову. Гэтыя абавязковыя дзве ўмовы і вызначаюць мяжу вар’іравання.

Парэмійныя варыянты непарушнасцю сваёй аднолькавай вобразнай асновы (унутранай формы) неаспрэчна адрозніваюцца ад сінанімічных прыказак. М.А.Янкоўскі, разглядаючы прыказкі *На чужы раток гузіка не нашыеш; На чужы раток не накінеш платок; На чужы раточак не начэпіш замочак; На чужы рот петляў не навесіш*, слушна зазначае, што хоць у іх «падаецца адна і тая ж лагічная думка аб тым, што чужому чалавеку гаварыць, плявузгаць і балбатаць не забароніш», але яны «абмалёўваюць адну і тую з’яву ў розных эстэтычных аспектах, тлумачаць пэўны факт рэальнага жыцця па-свойму, сваім вобразам, уласнай псіхалагічнай і эмацыянальнай напоўненасцю» [130, с. 77–81] і з’яўляюцца не варыянтамі адной прыказкі, а прыказкамі-сінонімамі.

А між тым іх досыць часта блытаюць. Напрыклад, В.А.Архангельскі піша: «Ёсць усе падставы семантычнага парадку лічыць, што прыведзеныя пяць прыкладаў з’яўляюцца варыянтамі лексічнага складу» [4, с. 132] адной і той жа прыказкі: *Гусь свинье не товарищ; Скоморох попу не товарищ; Горшок котлу не товарищ; Пеший конному не товарищ; Конный пешему не товарищ*». Гэтак жа беспадстаўна ў акадэмічным зводзе прыказак [97, кн. 2, с. 297] ставяць у адзін варыянтны рад побач з прыказкай *Ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць* і такія прыказкі: *Баяўшыся трэску, і ў лес не трэба хадзіць; Баяцца дразгу, то і ў лес не хадзіць.*

Часам не ўлічваюць усіх мажлівых прыказкавых варыянтаў, уласцівых агульнанароднай мове, і, напаткаўшы ў мастацкіх творах ужыванне прыказкі, памылкова кваліфікуюць яго як індывідуальна-аўтарскую апрацоўку народнай прыказкі. Так, пра ўжытыя ў аповесцях Я.Коласа прыказкі *Не пераскочыўшы роў, няма чаго і «гоп» казаць; Не пераскочыўшы, не кажы гоп* у адной працы чытаем: «У першым выпадку, не робячы карэннай ломкі яе будовы, Я.Колас толькі замяняе рытма-меладычны ўклад другой часткі выразу... У другім выпадку пісьменнік апускае толькі адзін член прыказкі – «роў», бо і без гэтага слова змест яе досыць вядомы» [8, с. 444]. З такім сцвярджэннем, аднак, нельга згадзіцца, бо гэта прыказка, як засведчана ў названым акадэмічным зводзе, бытуе ў дзесяці разнавіднасцях. Вось некаторыя з іх: *Не пераскочыўшы, не кажы гоп; Не кажы гоп, не пераскочыўшы; Пакуль не пераскочыў, не кажы гоп; Не кажы гоп (гоц), калі не пераскочыў; Не пераскочыўшы рэчкі (ямы, праз калоду), не кажы гоп.* Параўн. таксама ў мастацкіх творах: *Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш* (А.Асіпенка, К.Крапіва, М.Паслядовіч, В.Праскураў); *Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў* (Я.Брыль, М.Гарэцкі, Н.Гілевіч, Р.Кобец, І.Новікаў, М.Ткачоў); *Не кажы «гоп», не пераскочыўшы* (І.Мележ, Л.Родзевіч); *Калі не*

*пераскочыў, не кажы гоп* (К.Крапіва); *Не кажы гоп, не пераскочыўшы рэчку* (Я.Ермаловіч); *Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш яму* (І.Мележ).

Варыянтнасць у парэміялогіі – з'ява куды больш пашыраная (у прапарцыянальных адносінах), чым у лексічным ці фразеалагічным складзе мовы. Гэта вытлумачваецца найперш тым, што прыказкі, як правіла, шматкампанентныя моўныя адзінкі, «даўжэйшыя» за слова ці выраз, і далёка не заўсёды ўзнаўляюцца ў маўленні рознымі носьбітамі мовы аднолькава – у сваім першасным выглядзе. Часам адбываюцца замены: слова-кампанента іншым сінанімічным ці блізкім па значэнні словам, адной прыстаўкі або суфікса на іншыя, бяззлучнікавай сувязі паміж парэмійнымі часткамі на злучнікавую; пропуск якога-небудзь сэнсава не вельмі істотнага кампанента і г.д. Не заўсёды лёгка і дакладна асвойваецца запазычаная ці скалькаваная прыказка. Так, польская прыказка *Co zaduzo, to nie zdrowo* выкарыстоўваецца ў нас з такімі варыянтамі: *Што задужа (занадта, залішне), то не здрова (здарава). Несправядлівыя шляхі Гасподнія*, біблейская паводле паходжання прыказка, бытуе ў нас у такіх разнавіднасцях: *Несправедныя шляхі твае, Госпадзе; Шляхі Гасподнія няведамы; Божыя дарогі неспазнаныя.* Прыказка, якая ёсць у вельмі многіх народаў і скалькавана з лацінскай парэміі *Homo proponit, sed Dens disponit* (параўн. рускі пераклад: *Человек предполагает, а Бог располагает),* у розных беларускіх фальклорных зборніках (І.І.Насовіча, Я.Ляцкага, М.Федароўскага) фіксуецца па-рознаму: *Чалавек так, а Бог інак; Чалавек прымярае, а Бог адразае; Чалавек памяркуе, а Бог пашванкуе; Чалавек думае так, а Бог іначай; Чалавек так, а Бог сяк; Чалавек думае так, а выйдзе зусім інак.* У сучасных жа літаратурных тэкстах яна функцыянуе ў такіх разнавіднасцях: *Чалавек мяркуе, а Бог не чуе; Чалавек плануе, а Бог выракуе; Чалавек марыць, а Бог уладарыць; Чалавек мяркуе, а Бог распараджаецца.*

У з'яве варыянтнасці назіраецца пэўная заканамернасць: чым прыказка больш мнагачленная, тым больш яна мае варыянтаў, і наадварот. Так, зусім не вар'іруюцца, напрыклад, такія параўнальна няшматкампанентныя прыказкі: *Адзін у полі не воін; Ад дабра дабра не шукаюць; Запас бяды не чыніць; На бязрыб'і і рак рыба; На злодзеі шапка гарыць.* Устойлівасцю характарызуюцца і многія шматкампанентныя прыказкі, часткі якіх звязаны ўнутранай рыфмай або рытмічнай арганізаванасцю: *Дружба дружбай, а служба службай; З кім павядзешся, ад таго і набярэшся; Зняўшы галаву, па валасах не плачуць; Якія самі, такія і сані.*

Каля 40 працэнтам прыказак уласціва варыянтнасць. Разнавіднасці (варыянты) адной і той жа прыказкі характарызуюцца непарушнасцю яе ўнутранай формы, не адрозніваюцца паміж сабой якімі-небудзь сэнсавымі, стылістычнымі ці сітуацыйнымі адценнямі, таму заўсёды ўзаемазамяняльныя ў любых маўленчых кантэкстах.

У залежнасці ад таго, што змяняецца ў прыказцы: увесь кампанент ці толькі яго фармальны бок (марфемны, фанетычны і г.д.) або колькасць кампанентаў і структура парэміі, вылучаецца 8 тыпаў прыказкавай варыянтнасці.

Адным з найбольш распаўсюджаных тыпаў з'яўляюцца л е к с і ч н ы я варыянты (іх – 180; тут і далей у дужках падаюцца акругленыя колькасныя паказчыкі). Гэтыя варыянты адрозніваюцца адзін ад аднаго

слоўнымі відазмяненнямі. У якасці непастаянных кампанентаў пэўнай прыказкі найчасцей ужываюцца сінанімічныя словы: *Ведае (знае) кошка, чыё сала з'ела; Слязамі гору (бядзе) не паможаш; Бег сабака за калёсамі (возам), мусіць бегчы і за санямі.* Нярэдка нараўне з агульнамоўнымі лексічнымі сінонімамі выкарыстоўваюцца і кантэкстуальныя, але гэта не ўплывае на змест прыказкі: *Крывое (малое) дрэва ў сук расце; Пасля бойкі кулакамі (рукамі) не махаюць.* Лексічная варыянтнасць іншы раз распаўсюджваецца не на адзін кампанент, а на два і больш, напрыклад: *Груган гругану вока не выдзеўбе (не дзяўбе, не клюе) – Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе – Воран ворану вока не выклюе (не выдзеўбе, не клюе).*

М а р ф а л а г і ч н ы я варыянты (30) адрозніваюцца адзін ад другога формамі прыказкавага кампанента (лікавай, склонавай, асабовай і інш.): *Сорам не дым, вачэй (вочы) не выесць; Ваўкоў (ваўка) баяцца – у лес не хадзіць; Лішняга і свінні не ядуць (свіння не есць).*

Трэці тып – с л о в а ў т в а р а л ь н ы я варыянты (60). Яны адрозніваюцца дэрывацыйнымі сродкамі (прыстаўкамі, суфіксамі): *Пажывём – пабачым (убачым); З ваўкамі жыць – па-воўчы (па-воўчаму, па-ваўчынаму) выць; Адальюцца воўку авечыя слёзкі (слёзы).* Іншы раз у некаторых працах сцвярджаецца, што ўжытыя ў прыказках назоўнікавыя кампаненты з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі выконваюць разнастайныя мастацка-выяўленчыя функцыі (спагады, іроніі, сарказму і г.д.) (гл., напрыклад: [89, с. 46–48; 14, с. 433]). Але няцяжка паказаць, што гэта сцвярджэнне беспадстаўнае, бо суфікс у кампаненце прыказак, асабліва алегарычных, страчвае сваё памяншальна-ласкальнае ці іншае рэальнае значэнне, яно нейтралізуецца ў складзе прыказкі. Яна не ўзбагачаецца за кошт суфікса суб'ектыўнай ацэнкі ніякімі дадатковымі адценнямі, застаецца сама сабой. Супаставім ужыванні, напрыклад, прыказкі *Начная зязюля (зязюлька) дзённую перакукуе* ў двух такіх кантэкстах: 1) Пад уплывам [жонкі] ён часта перамяняе свае ранейшыя намеры: начная зязюлька дзённую перакукуе (К.Крапіва); 2) – Цьфу! – плюнуў бацька. – Каб на цябе халера: начная зязюля перакукуе-такі дзённую... (Г.Далідовіч).

Гэта ж можна было б пацвердзіць і рэалізацыяй шмат якіх іншых падобных прыказак: *Куды іголка (іголачка), туды і нітка (нітачка); Ранняя птушка (птушачка) зубкі цярэбіць, а позняя вочы (вочкі) праціРАе; Чыя б каройка (карова) мычала, а твая б маўчала (памаўчала).* Дарэчы, у апошняй прыказцы пад словаўтваральную варыянтнасць падпадаюць два кампаненты, суадносныя з рознымі часцінамі мовы, – назоўнікавы і дзеяслоўны. Адначасова варта зазначыць, што «памяншальна-ласкальныя формы наогул характэрныя для беларускай вусна-паэтычнай творчасці» [130, с. 109–110].

Значна радзей у параўнанні з іншымі тыпамі варыянтнасці сустракаюцца ф а н е т ы ч н ы я варыянты (5). Яны адрозніваюцца невялікімі асаблівасцямі ў агаласоўцы аднаго з кампанентаў: *Кось-кось (кося-кося, косю-косю), пакуль у аглоблі; У агародзе (гародзе) бузіна, а ў Кіеве дзядзька.* Рэдкаўжывальны тып – а к ц э н т н а- ф а н е т ы ч н ы я варыянты (5), у якіх адзін з кампанентаў адрозніваецца месцам націску, што вядзе і да фанетычных змяненняў: *Дзвюм сме́рцям (смярця́м) не бываць, а адной не мінаваць; Су́праць (супроць) ражна не папрэш.*

Некаторыя прыказкі могуць ужывацца то ў поўным, то ў скарочаным складзе, прычым абодва варыянты суадносяцца як раўнапраўныя, аднолькава дапушчальныя ў межах нормы. Назіранні паказваюць, што прыказка *Да пары збан (жбан) ваду носіць <ручка (вушка) адарвецца – збан паб'ецца>* толькі 4 разы выкарыстана ў поўным лексічным складзе (у творах Л.Арабей, І.Гурскага, В.Дуніна-Марцінкевіча, М.Клімковіча) і 15 разоў – у скарочаным варыянце (у творах В.Адамчыка, А.Бялевіча, В.Вольскага, Ц.Гартнага, І.Гурскага, У.Корбана, Я.Купалы, Я.Курто, М.Лобана, А.Макаёнка, А.Маўзона, А.Махнача, М.Машары, І.Новікава, А.Якімовіч). Даволі часта пры ўжыванні многіх прыказак апускаюцца асобныя іх кампаненты. Іх звычайна называюць факультатыўнымі, а самі прыказкі з такімі неабавязковымі кампанентамі нярэдка лічацца эліпсаванымі ці рэдукаванымі.

Несумненна, што гэта з'ява павінна разглядацца таксама ў межах парэмійнай варыянтнасці. Але паміж гэтым тыпам варыянтаў і іншымі, рагледжанымі вышэй, ёсць і істотная розніца. Іншыя пяць тыпаў, па-першае, характарызуюцца агульнай прыметай – колькаснай непарушнасцю кампанентаў у складзе прыказак, па-другое, вар'іраванні заўсёды адбываюцца ў рамках адной сінтаксічнай канструкцыі. На гэтым фоне прыказкі з факультатыўнымі кампанентамі ў іх складзе выглядаюць як выключэнне з правіла. Такія варыянты (тыпу *<Калі> улез у дугу, <дык> не кажы <што> не магу*) найбольш правамерна называць канструкцыйна-колькаснымі (а не эліпсавымі ці рэдукаванымі), бо, скажам, *Улез у дугу, не кажы не магу* і *Калі ўлез у дугу, дык не кажы, што не магу* адрозніваюцца адзін ад аднаго сваёй канструкцыяй і колькасцю кампанентаў, адзін з гэтых варыянтаў выкарыстоўваецца ў сваёй поўнай, нескарочанай форме, а другі – у эліпсаваным, рэдукаваным выглядзе (і толькі гэты другі можна называць эліпсаваным – пры параўнанні з першым).

Дарэчы, варыянтаў гэтага тыпу налічваецца каля 130. У адных выпадках варыянтнасць распаўсюджваецца на апошнюю частку прыказкі *(Пашкадаваў воўк кабылу <пакінуў хвост ды грыву>)*, у другіх – на асобныя кампаненты *(На адным месцы і камень <мохам> абрастае)*. У слоўніку факультатыўная варыянтная частка ці асобныя кампаненты бяруцца ў ломаныя дужкі. Між іншым, у СБП (с. 82) мае месца недакладная падача прыказкі *Век жыві – век вучыся <а дурнем памрэш>*. Гэта, па сутнасці, не адна прыказка з варыянтнасцю ў ёй, а дзве. Апошняя частка, абазначаная ломанымі дужкамі і, хутчэй за ўсё, этымалагічна «нарошчаная», змяняе сэнсавы змест прыказкі. У такім выглядзе яна ўжо абазначае не параду пастаянна вучыцца, а ўжываецца ў іншых маўленчых сітуацыях, напрыклад, як шкадаванне, калі даведваюцца пра што-небудзь новае, раней невядомае ці нечаканае: «Падвёў ты мяне, Дзіма, падвёў... Не чакаў... Памылка выйшла. Як кажуць, век жыві – век вучыся, а дурнем памрэш» (М.Зарэмба).

Сёмы тып складаюць сінтаксічныя варыянты (іх каля 40). Ад прыказкі ў яе найбольш тыповай форме яны адрозніваюцца відазмяненнямі сінтаксічнай канструкцыі. Так, прыказка *Клін клінам выбіваюць* структурна арганізавана як абагульнена-асабовы сказ, а яе сінтаксічны варыянт *Клін выбіваецца клінам* – як двухсастаўны сказ. У многіх выпадках адначасова адбываюцца і слоўныя відазмяненні або

другі варыянт адрозніваецца ад першага большай ці меншай колькасцю слоў- кампанентаў. Параўн., напрыклад: *Голаму разбой не страшан* і *Голы разбою не баіцца; Жывому найме жывое* і *Жывы пра жывое <і> думае; Тапелец і за саломінку хапаецца* і *<Той> хто топіцца, <і> за саломінку хопіцца, Як топішся, дык і за саломінку хапаешся; Як (калі) удасца жарабё (бычок, цялятка) з лысінкай, дык і здохне такім (з лысінкай)* і *Уродзіцца цяля з лысінкай, то і з лысінкай здохне, Урадзілася цяля з белай лысінкай на лбе, так яно і памрэ, Лысае цялятка і здохне з лысінкай; У сям'і не без вырадка* і *Сям'я не без вырадка; Апёкшыся на малацэ, <і> на ваду дзьмеш (дзьмухаеш)* і *Хто апарыцца на малацэ, той і на ваду дзьмухае, Апёкшыся малаком, ваду студзяць.*

Варыянты тыпу *Старцу міля не круг* і *Для старца міля не круг; Глухому дзве абедні не служаць* і *Для глухога дзвюх абедней не служаць* больш мэтазгодна кваліфікаваць не як сінтаксічныя, а як марфалагічныя: яны адрозніваюцца склонавай і прыназоўнікава-склонавай формай граматычна залежнага кампанента. Аналагічна, а менавіта як марфалагічныя варыянты, разглядаюцца такія ж разнавіднасці і ў фразеалогіі, напрыклад: *цераз хлеб (ад хлеба) шукаць хлеб, адарваць гніламу (у гнілога) цяляці хвост, заламаць асінку (асінкай).*

Восьмы, досыць пашыраны тып – к а м б і н а в а н ы я варыянты (150). Яны з'яўляюцца спалучэннем дзвюх і болей разнавіднасцей вар'іравання, апісаных вышэй. Напрыклад, у межах адной і той жа прыказкі бывае лексічная і словаўтваральная варыянтнасць: *Курачка (курыца) па зярнятку клюе (збірае);* лексічная і марфалагічная: *Слязамі (слязьмі) гору (бядзе) не паможаш;* лексічная і акцэнтна-фанетычная: *Маладзец супраць (супроць, сярод) авец, а супраць (супроць) малайца – сам айца;* лексічная і канструкцыйна-колькасная: *<Няхай> хоць сава, абы з другога (чужога) сяла;* акцэнтна-фанетычная і канструкцыйна-колькасная: *<І> адтуль горача (гарачо), <і> адсюль боляча (балячо);* лексічная, марфалагічная і словаўтваральная: *Міл (мілы, дораг) той куток, дзе абрэзалі (рэзалі) пупок;* лексічная, словаўтваральная і канструкцыйна-колькасная: *Няхай (хай) жыве <і пасецца> беларуская птушка бусел (бацян)!* і г.д. У межах дзвюх разнавіднасцей адной і той жа прыказкі можа быць варыянтнасць лексічная, акцэнтна-фанетычная, сінтаксічная і канструкцыйна-колькасная: *Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, <а> ён у лес глядзіць – Колькі (як) ваўка (воўка) ні кармі, а яго ў лес цягне* і г.д.

Пры карыстанні «Слоўнікам беларускіх прыказак» (2002) варта ўлічваць адну незаўважаную недакладнасць. На с. 288–289 апісваецца прыказка *Не я першы, не я апошні.* Унутры слоўнікавага артыкула паўтлустым (як і ў загалоўку) шрыфтам падаюцца нібыта яе варыянты: *Не ты першы, не ты апошні; Не ён першы, не ён апошні; Не мы першыя, не мы апошнія.* Але гэта не варыянты і не сінонімы, а 4 розныя прыказкі з неаднолькавым сэнсавым зместам, і падаваць іх трэба было ў 4-х розных слоўнікавых артыкулах.

## § 6. Мнагазначнасць прыказак

Мнагазначнасць у парэміялогіі – з'ява параўнальна рэдкая. У згаданых раней парэміяграфічных даведніках [75; 73] толькі 19

прыказак апісаны як мнагазначныя (двухзначныя); у СБП (2006) – 22. Але калі браць пад увагу, што даволі многія іншыя прыказкі алегарычнага характару здольны ўжывацца не толькі ў сваім іншасказальным, пераносным, але і ў прамым значэнні, то колькасць двухзначных прыказак будзе крыху большай. Так, прыказка *Апетыт прыходзіць у час яды* (дарэчы, паўкалька з французскай мовы) у маўленчай практыцы звычайна ўжываецца ў дачыненні да розных з'яў, не звязаных з ядой і апетытам, рэалізуецца ў фігуральным сэнсе 'жаданне, патрэбнасць, цікавасць ад чаго-небудзь павялічваецца па меры таго, як пазнаеш што-небудзь, захапляешся тым, што пачаў рабіць'. Але яна можа быць ужыта і з прамым значэннем яе кампанентаў. Напрыклад, у п'есе В.Зуба «Злавацца не трэба» Матруна кажа повару, каб ён усё ж такі пакаштаваў перасоленую ім страву. І далей: «[Пётр:] У мяне ў такі час апетыту не бывае. [Матруна:] Нічога. Апетыт прыходзіць у час яды». Рэалізаваны тут прамы сэнс прыказкі выконвае камунікацыйную функцыю, а другі, пераносны сэнс, які знаходзіцца як бы ў падтэксце, – экспрэсіўную функцыю.

Прыкладна тое самае можна сказаць і пра прыказку *З песні слова не выкінеш.* Яна абазначае 'прыходзіцца гаварыць усё, усю праўду'. Параўн. выкарыстанне гэтай прыказкі ў яе неметафарычным, зыходным значэнні – у аповесці М.Гроднева «Заручыны»: «Парадыйную песню, некім перайначаную на гэцікаўскіх хлопцаў, падхапіў і Мяжэнны: «А той Хролік, як у полі волік, ой, не аддай мяне, маці». Хролік не крыўдаваў – нічога не зробіш, з песні слова не выкінеш, – падыгрываў на ўсе басы і галасы».

Прыказка *Не ведаючы (не зведаўшы) броду, не сунься ў воду* апісана ў СБП як двухзначная. Яе першае значэнне – прамое. Яно ілюструецца прыкладам з п'есы Я.Коласа «У пушчах Палесся». Да гэтага можна дадаць і такі прыклад: «Вясной ды ўвосень яны, такія рачулкі, прагна дабіраюць снегавыя ды дажджавыя воды, якія лёгка сцякаюць па глiністых схілах узгоркаў, набухаюць, набіраюцца багатырскай сілы, становяцца грознымі ды свавольнымі. Тады сцеражыся, падарожнік, не лезь у ваду, не пашукаўшы броду» (І.Новікаў).

А.А.Патабня падзяляў усе прыказкі на вобразныя і бязвобразныя і лічыў, што вобразнае выказванне, ужытае з прамым значэннем, прыказкай не з'яўляецца: «Чалавек запальвае дровы і кажа, што «без падпалу дровы не гараць». Калі ён гаворыць гэта пра дровы, то гэта прыказкай не будзе; калі ж гэта кажуць у тым сэнсе, што без канавода, загоншчыка справа не ідзе спорна ці што без прычыны не бывае выніку, тады гэта становіцца прыказкай» [95, с. 103]. Іншага пункту гледжання прытрымліваўся У.П.Жукаў. Ён падзяляе ўсе прыказкі паводле іх сэнсавай матываванасці на 3 тыпы і да 2-га тыпу адносіць «прыказкі, якія характарызуюцца падвойным планам – літаральным і іншасказальным» [108, с. 14]. Зразумела, што прыказкі гэтага тыпу рэалізуюцца ў маўленчай практыцы найчасцей у пераносным значэнні. Але калі такая прыказка выкарыстоўваецца і ў яе літаральным плане, то ўсё роўна яна нярэдка багацейшая сваім сэнсавым зместам за суму значэнняў яе кампанентаў і звычайна мае больш шырокую дастасавальнасць, шырэйшую за першапачатковую, зыходную. Так, прыказка *Галоднай куме хлеб (сыр) наўме* растлумачана ў 1-м значэнні так: «галодны толькі і думае пра яду». І ва ўсіх чатырох ілюстрацыйных

прыкладах, пададзеных у СБП (с. 95–96), гаворка ідзе не пра куму і не толькі пра хлеб ці сыр. Напрыклад: «Часам з дымам далятаў пах смажанага сала ці цыбулі. І тады Клімёнак пачынаў глытаць сліну. Што ні кажы, а галоднай куме хлеб наўме» (У.Дамашэвіч).

Са сказанага не павінна вынікаць, што ва ўсіх мнагазначных прыказках адно значэнне прамое, а другое – пераноснае. Абодва значэнні некаторых парэмій фігуральныя, вобразныя *(Апошняму парасяці цыцка пад хвастом; Кволае цяля і ў Пятроўку зябне; Мыш капы не баіцца; Што не ясі, таго ў рот не нясі)* або адно значэнне – пераноснае, а другое толькі часткова звязана з прамым значэннем прыказкавых кампанентаў: *Блізка відаць, ды далёка дыбаць; Няхай хоць сава, абы з другога сяла; Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было.*

Напрыклад, памянёная вышэй прыказка *Што (чаго) не ясі, таго ў рот не нясі* рэалізуецца ў такіх пераносных значэннях: ‘не ўмешвайся не ў свае справы’ і ‘не чапай таго, што ці хто не падабаецца’, а *Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было* ў 1-м значэнні гаворыцца іранічна пра якія-небудзь агародныя расліны або хлебныя ці кармавыя злакі, калі і без іх можна абысціся ў гаспадарцы, а ў 2-м – абазначае ‘да гэтага абыходзіліся без якіх-небудзь навыкаў, новаўвядзенняў, і цяпер яны непатрэбныя’.

Дадатковым моўным паказчыкам парэмійнай полісеміі выступае ў некаторых выпадках і абмежаваная сінанімія. Так, прыказкі *Апошняму парасяці цыцка пад хвастом, Кволае цяля і ў Пятроўку зябне, На вайне як на вайне* сінанімізуюцца ў 1-х сваіх значэннях з іншымі прыказкамі. Прыказкі ж *Няхай хоць сава, абы з другога сяла; Пераначуем, болей пачуем; Пешы коннаму не таварыш* у сваіх 2-х значэннях маюць сінонімы. А ў прыказцы *Дзвюм смерцям не бываць, а адной не мінаваць* абодва значэнні ўступаюць у сінанімічныя адносіны з іншымі прыказкамі.

Варта асобна зрабіць заўвагу наконт функцыянавання прыказак *Пераначуем, болей пачуем* і *Раніца мудрэйшая (мудрэй) за вечар.* Абедзве шырока ўжываюцца ў сучасным беларускім літаратурным маўленні. Першая – двухзначная: 1) гаворыцца з надзеяй пачуць у бліжэйшы час што-небудзь новае; 2) раніцай прыйдзе больш правільнае рашэнне; кажуць пры адкладванні рашэння чаго-небудзь на заўтрашнюю раніцу, калі ўсё стане ясней, больш відавочна. Другая *(Раніца мудрэйшая за вечар)* адназначная, выступае як абсалютны сінонім да 2-га значэння прыказкі *Пераначуем, болей пачуем.* Аднак у «Беларуска-рускім слоўніку» (т. 2, 1989, с. 196) не ўлічваецца полісемія беларускай прыказкі і даецца такі пераклад: «**Пераначуем – болей пачуем** *посл.* утро вечера мудренее». Аналагічны пераклад і ў шмат якіх іншых працах, напрыклад: [131, с. 103; 105, с. 45]. У часопісе «Роднае слова» [100, с. 61] знаходзім і такі паспешлівы і недакладны каментарый: *«Раніца мудрэй за вечар»* – штучная калька з «Утро вечера мудренее» замест *Пераначуем – лепей змудруем*». Аднак, па-першае, паводле нормы, апошні кампанент нашай прыказкі не *змудруем*, а *пачуем*. Па-другое, перад намі не «штучная калька», а звычайная паўкалька, ужыванне якой пацвярджаецца ў «Слоўніку беларускіх прыказак» цытатамі з тэкстаў І.Шамякіна, Б.Сачанкі, П.Місько, Я.Крупенькі. Па-трэцяе, як ужо адзначалася, адна прыказка – двухзначная, другая – адназначная.

У некаторых парэміяграфічных працах можна бачыць штучнае выдзяленне ў шэрагу адназначных прыказак па два значэнні. Напрыклад, у «Слоўніку беларускіх прыказак, прымавак і крылатых выразаў» (1997) С.Ф.Івановай і Я.Я.Іванова прыказка *Будзе і на крапіву мароз* беспадстаўна апісана (за кошт шырокага кантэксту вакол прыказкі) як двухзначная.

Як слушна зазначае М.А.Якалцэвіч, полісемантычнасць прыказак – «з'ява рэальная, яна знаходзіцца ў стадыі развіцця» [128, с. 90].

## § 7. Пра дзве асобныя групы прыказак

Не разглядаючы тут парэмійна-семантычныя групы (гэта пытанне адкрытае для навуковых пошукаў, патрабуе асобнага, дэталёвага аналізу), спынімся на дзвюх групах, якія знаходзяцца па-за межамі парэмійна-семантычных груп і, відаць, належаць да асобных тэматычных разрадаў і могуць быць супрацьпастаўлены ўсяму прыказкаваму складу мовы.

Першая група – с і т у а ц ы й н ы я прыказкі. Іх больш чым 350. Яны ўжываюцца ў строга акрэсленых сітуацыях. Напрыклад, прыказка *Бог тройцу любіць* гаворыцца як прапанова зрабіць што-небудзь трэці раз ці ў апраўданне чаго- ці каго-небудзь трэцяга. Між іншым, тут кампанент *тройцу* двухсэнсавы, адным сваім, падтэкставым, прыхаваным, значэннем ён асацыюецца са святам хрысціянскай царквы. Прыказка *Аржаная каша сама сябе хваліць* гаворыцца з насмешкай пра таго, хто сам сябе хваліць, а *Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю* ўжываецца як адмоўная рэакцыя на чые-небудзь непрымальныя дзеянні выпраміць, выправіць, падправіць штосьці, якія могуць прывесці да горшага выніку.

Ужываючыся ў пэўнай сітуацыі, такія прыказкі перадаюць якое-небудзь суджэнне. І толькі ў рэдкіх, адзінкавых выпадках яны не маюць прадметна-паняццевага зместу і выкарыстоўваюцца як сітуацыйна абумоўленыя стэрэатыпныя, шаблонныя выказванні. Так, сінанімічныя прыказкі *За пастой грошы не плацяць* і *У нагах праўды няма* гаворацца пры запрашэнні сесці, напрыклад: «Сядай, мой мілы, мой харошы, бо за пастой не плацяць грошы» (Я.Колас); «– Сядай, дружа, – пачулася з кутка. – У нагах праўды няма» (І.Новікаў).

У нязначнай частцы сітуацыйных прыказак кожная з іх мае канкрэтны сэнс, яе кампаненты ўжыты ў прамым значэнні, але ўсё выказванне ўспрымаецца як афарызм дзякуючы ягонай замацаванасці за пэўнай маўленчай сітуацыяй. Напрыклад, прыказка *Бацькоў не выбіраюць* гаворыцца з незадавальненнем, калі хто-небудзь выказвае штосьці негатыўнае пра чыіхсьці бацькоў. Пра чалавека, які назаляе шматлікімі пытаннямі, з незадавальненнем кажуць: *Адзін дурань можа задаць столькі пытанняў, што дзесяць разумных не адкажуць.*

У гэту падгрупу варта ўключаць і прыказкі з бінарнай, двухчленнай структурай: у іх адна, першая частка, вобразная, алегарычная, супастаўляецца з другой, бязвобразнай, у якой і змяшчаецца яе канкрэтны сэнс. Напрыклад, *Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей* (гаворыцца пра таго, хто рашае змяніць сваё жыццё з надзеяй на лепшае, або як апраўданне сваіх дзеянняў, учынкаў); *Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка замужам, ды ідуць; Горкая гарэлка, але п'юць, дрэнна*

*замужам, але ідуць* (кажуць як суцяшэнне, што іншага выйсця няма, што з гэтым трэба прымірыцца). Параўн. таксама: *Гара з гарой не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды* (гаворыцца пры нечаканай сустрэчы ці ростані на няпэўна доўгі час).

Дарэчы, прыказкі гэтай падгрупы досыць часта скарачаюцца ў маўленчай практыцы, вызваляючыся ад слоў, ужытых з прамым значэннем. Так, *Гара з гарой не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды* ўжываецца:

а) з недагаворваннем апошняга кампанента: «З таго часу, абы Карзюк выходзіў у горад – усё сцішка азіраўся. «Гара з гарой не сходзіцца, а чалавек з чалавекам...» (С.Баранавых); у такой жа скарочанай форме прыказка ўжыта ў творах К.Чорнага, Б.Сачанкі, У.Корбана;

б) з апушчэннем другой часткі: «Няма за што дзякаваць, мілы чалавек, паслуга невялікая. А сустрэцца – не дзіва, гара з гарой не сходзіцца...» (І.Новікаў); аналагічнае знаходзім у творах Я.Брыля, В.Дайліды;

в) з апушчэннем другой часткі і дзеяслоўнага кампанента першай часткі: «– Як кажуць, гара з гарою... – Вядома, чаго ў жыцці не бывае... Можа, яшчэ і сустрэнемся калі, праўда» (Я.Васілёнак); «Ну то бывайце. Кажуць, гара з гарой...» (У.Паўлаў).

Пераважная большасць *несітуацыйных* прыказак, незалежна ад таго, алегарычныя яны ці складаюцца з кампанентаў, ужытых у іх літаральным сэнсе, передае суджэнне абагульненага характару, выступае як «правіла, якое пашыраецца на ўсе аналагічныя з'явы» [56, с. 226]. Так, алегарычная прыказка *Шыла ў мяшку не схаваеш* абазначае 'немагчыма ўтаіць тое, што само сябе выдае'. Яна, як паказваюць 8 ілюстрацыйных цытат, прыведзеных у «Слоўніку беларускіх прыказак», дастасоўваецца да самых разнастайных жыццёвых і маўленчых сітуацый. Або такія алегарычныя прыказкі: *З песні слова не выкінеш; Кашы маслам не сапсуеш; Найшла каса на камень; Любіш катацца, любі і саначкі вазіць.* Ці прыказка неалегарычнага характару: *Брат любіць сястру багатую, а муж жонку здаровую.*

Што да сітуацыйных прыказак, дык імі перадаецца суджэнне прыватнага кшталту, дарэчнае толькі ў строга акрэсленай сітуацыі. Напрыклад, сэнс прыказкі *Салаўя байкамі не кормяць* можна перадаць сказам 'размовамі сыты не будзеш', і гаворыцца яна, калі, перапыняючы размову, запрашаюць госця да стала. *Аддай рукамі, а хадзі нагамі* – так з абурэннем кажуць пра таго, хто доўга не вяртае пазычанага і да каго прыходзіцца хадзіць, нагадваючы пра пазычку. *Ад работы коні дохнуць* – кажуць, часам жартаўліва, у апраўданне сваёй ці чыёй-небудзь бяздзейнасці або тады, калі хочуць перастаць рабіць што-небудзь, перапыніць работу.

У гэту ж падгрупу ўваходзіць вельмі значная колькасць прыказак, якімі перадаецца канкрэтны змест, непасрэдна як бы прывязаны да чыіх-небудзь адпаведных дзеянняў, учынкаў, паводзін і г.д. У самой сітуацыйнай характарыстыцы амаль заўсёды прысутнічае слова, а то і не адно, аднагучнае ці сэнсава тоеснае з прыказкавым кампанентам. Некалькі прыкладаў: *Не злавіў за руку, не кажы, што злодзей* – гаворыцца ў апраўданне таго, каго падазраюць у зладзействе ці іншых адмоўных учынках, але не маюць бясспрэчных доказаў яго віны; *Бачылі*

*вочы, што бралі (выбіралі, куплялі), дык ешце, хоць павылазьце* – кажуць як папрок, дакор за неабачлівасць, неразважлівасць пры выбары, набыцці каго- ці чаго-небудзь; *На чужы каравай рот не разяўляй* – гавораць таму, хто хоча атрымаць чужое, тое, што яму не належыць; *Адзін з'еш хоць вала, дык адна хвала, а пакрысе, ды ўсе* – кажуць у пахвалу хлебасольнаму чалавеку і ў дакор таму, хто не любіць дзяліцца з іншымі.

Асобную падгрупу складаюць прыказкі, якія выражаюць розныя пачуцці і волевыяўленні. Напрыклад, прыказка *Чым чорт не араў, тым і сеяць не стаў* з'яўляецца выказваннем рашучасці перад прыняццем рашэння, яе сэнс можна перадаць словамі 'няхай так і будзе, варта рызыкнуць'. Яна, дарэчы, сінанімізуецца з прыказкамі *Спроба не хвароба; Дзвюм смерцям не бываць, а адной не мінаваць* (у 2 знач.). Прыказка *Сем бед – адзін атвет* (зафіксаваная ў свой час І.Насовічам, Я.Ляцкім, М.Федароўскім) гаворыцца, калі хто-небудзь рашыў зрабіць нешта рызыкоўнае і гатоў несці адказнасць за гэта. Тут жа варта назваць і прыказку *Пан ці прапаў*, якая абазначае 'ўсё ці нічога, дабіцца ўсяго жаданага ці ўсё страціць' і ўжываецца як выказванне рашучасці перад прыняццем рашэння, пры намеры рызыкнуць.

Яшчэ адна падгрупа – прыказкі з якаснай ацэнкай каго- ці чаго-небудзь. Прыказкай *Сівізна ў бараду, а чорт – у рабрыну* характарызуюць пажылога мужчыну, які пачынае цікавіцца жанчынамі. Пра таго, хто смелы, самаўпэўнены толькі сярод слабейшых, горшых за яго ў якіх-небудзь адносінах, кажуць: *Маладзец супраць авец, а супраць малайца – сам аўца.* Прыказкай *Малы жук, ды вялікі гук* з неадабрэннем ацэньваюць таго, хто перабольшвае свае якасці, магчымасці. Прыказка ж *Малы залатнік, ды дарагі* дастасоўваецца як да асобы, так і да прадмета, якія хоць знешне здаюцца малымі і нязначнымі, але каштоўнымі па сваіх якасцях, па сваёй сутнасці.

Сітуацыйныя прыказкі, як ужо часткова гаварылася вышэй і ў § 4, часам утвараюць сінанімічныя рады, ужываючыся ў адных і тых жа сітуацыях. Пералічым, апрача раней згаданых, яшчэ некалькі сінанімічных сітуацыйных прыказак: 1) *Абяцанага тры гады чакаюць – Абяцаная шапка не грэе – Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць;* 2) *Баязлівцу і корч мядзведзь – Баязлівцу і заяц воўк;* 3) *Голаму сабрацца – толькі падперазацца – Голы збірайся, голы гатоў;* 4) *Не тады вучацца плаваць, калі вада ў рот плыве – Не тады сабак кормяць, як на паляванне ісці.*

Большасць сітуацыйных прыказак пры іх апісанні ў парэміяграфічных слоўніках атрымлівае ці павінна атрымліваць падвойную характарыстыку – лагічную (сэнсавую) і сітуацыйную: *Грозен рак, ды вочы ззаду.* Няма чаго баяцца каго-небудзь. Насмешлівы адказ на чые-небудзь пагрозы; *Чыя б каро́ўка мычала, а твая маўчала.* Не табе пра гэта гаварыць. Кажуць з незадавальненнем у адказ на папрок, абвінавачванне таго, хто сам чым-небудзь абняславіў, заплямі́ў сябе.

Пяройдзем цяпер да другой групы прыказак – к а н т э к с т у а л ь н ы х (іх больш за 30). Яны, у адрозненне ад іншых прыказак, у тым ліку і сітуацыйных, ужываюцца толькі ў дыялагічным маўленні як звычайна адмоўная рэакцыя на якое-небудзь слова ў папярэднім выказванні суразмоўніка. У прыказцы-рэпліцы, выкліканай гэтым словам-стымулам, нярэдка ёсць такое ж слова-кампанент, часцей сэнсава тоеснае з ім.

Так, прыказка *Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так* мае сэнс ‘няма чаго ўспамінаць тое, што было калісьці’ і ўжываецца як іранічная рэакцыя на слова *бывала* пры спробе суразмоўніка супаставіць што-небудзь ранейшае з сучасным. Напрыклад: «– Даўней такога не здаралася. Бывала, неяк шанавалі, паважалі адзін другога. – Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так, – перадражніла Маланку Верка» (Л.Калодзежны).

Такія прыказкі, ужыванне якіх абмежавана пэўным тыпам кантэксту, можна назваць кантэкстуальнымі. Імі выказваюцца розныя, часцей неадабральныя адносіны да пачутага ад суразмоўніка (незадавальненне, абурэнне, іронія і інш.). Так, прыказка *Грэх у мех, а грашаняты ў торбу* ўжываецца як адмоўная рэакцыя на слова *грэх* у папярэдняй рэпліцы; напрыклад, у рамане К.Крапівы «Мядзведзічы»: «– А граху гэта ты не баішся? – Грэх у мех, грашаняты ў торбу. Годзе ўжо ўсіх баяцца!»

Пададзім некалькі кантэкстуальных прыказак з паказам перад імі (праз працяжнік) слова, якім стымулюецца ўжыванне пэўнай прыказкі: дарам, задарам – *Задарам і скулка не сядзе*; думаць, падумаць – *Індык думаў, думаў ды здох, Хай конь думае: у яго галава большая (вялікая)*; каб – *Каб ды кабы, дык у роце браслі грыбы*; бог – *На бога спадзявайся, а сам не давайся;* так – *Так нічога не бывае <усё за грошы>*; моцны, вялікі – *Турма моцная (вялікая), але ніхто не хоча там быць;* Маруся – *На Беларусі ўсе Марусі;* чорт – *У чорта спіна сцёрта.*

Шэраг кантэкстуальных прыказак, калі іх разглядаць з функцыянальна-прагматычнага пункту погляду, з’яўляюцца адказамі на пытанні суразмоўніка. Часам гэта ўніклівыя адказы. Так, на пытанне «Дзе быў?» адказваюць прыказкай *Дзе быў, там няма.* А прыказка *Будзеш усё ведаць, хутка пастарэеш* гаворыцца, часам з незадавальненнем, як уніклівы адказ на самыя розныя пытанні.

*Сарока на хвасце прынесла* звычайна ўжываецца як жартаўлівы ці ўніклівы адказ на пытанне пра крыніцу навін, чутак. Дарэчы, гэта прыказка з яе значнай патэнцыяльнай вобразнай энергіяй арыгінальна выкарыстана ў п’есе К.Крапівы «Партызаны». Тут прыказкавыя кампаненты канкрэтызуюцца, апрадмечваюцца, у выніку ўзнікае камічнае ўражанне. Батура расказвае хлопцам і дзяўчатам, як пану Яндрыхоўскаму была дастаўлена напісаная рукою ягонай маці запіска, каб ён неадкладна выпусціў трох палонных партызан, і як пан узлаваўся, чытаючы запіску. Затым ідзе:

Н а с т у л я. А далей што?
Б а т у р а. Вось назола! Адкуль я ведаю, што далей?
Н а с т у л я. Адкуль жа дзядзька гэта ведае, што расказваў?
Б а т у р а. *Сарока на хвасце прынесла.*
Н а с т у л я. То няхай бы *яна* ўсё *прынесла.*
Б а т у р а. *Хвост* малы, усё не змесцілася. Як прыляціць другі раз, то будзеш ведаць.

Апрадмечаныя кампаненты гэтай прыказкі выкарыстоўваюцца яшчэ раз, калі Батура, сустрэўшы сваю сувязную, «жанчыну з клумкам», пытаецца: «Ну, што сарока прынесла?»

Блізкая ў сэнсавых адносінах да папярэдняй прыказка *Чуткамі зямля поўніцца.* Яна гаворыцца, калі не хочуць сказаць, як ці ад каго даведаліся пра што-небудзь.

Асобныя прыказкі выступаюць як звычныя, шаблонныя адказы на пытанне «Як жывеш?». Напрыклад, прыказка *Жывём, хлеб жуём* ужываецца як няпэўная характарыстыка жыцця. На пытанні тыпу «Што чуваць?», «Як маешся?», «Як жывеш?» часам адказваюць, іншы раз з адценнем жартаўлівасці, прыказкай *Ад ліха ціха, а дабра не чуваць.* На гэтыя ж пытанні часта адказваюць словам «нічога», што ў сваю чаргу выклікае ацэначную прыказку *Лепей нічога, чым благога*, напрыклад, у аповесці Я.Коласа «Дрыгва»: «– Ну, што ў цябе чуваць? – Нічога, – даволі суха азвалася Аўгіня. – Лепей нічога, чым благога, – дзелавіта заўважыў Васіль».

Як адказ дзяўчыны, часцей жартоўны, дасціпны, на пытанне, чаму яна не выходзіць замуж, выкарыстоўваецца прыказка *Гора маё чубатае: ніхто мяне не сватае.*

Ёсць прыказкі, якія з'яўляюцца адказам на што-небудзь іншае, пачутае ад суразмоўніка. Напрыклад, як выказванне здзіўлення ад чаго-небудзь нечаканага, незвычайнага, толькі што пачутага выступае прыказка *Чуў, кум, сонца, бачыў гром*? У аснове яе дасціпнасці – нелагічнасць спалучэння слоў: *чуць сонца, бачыць гром.* Не менш цікавая і прыказка *А калі што якое, дык што тут такое.* Часткі яе звязваюцца рыфмай, а ўся яна арганізавана як чатырохстопны анапест.

Амаль усе кантэкстуальныя прыказкі, як часткова паказвалася на прыкладзе *Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так*, з'яўляюцца не толькі стандартнымі адказамі на пытанне ці рэплікай-рэакцыяй на папярэдняе выказванне, але і выконваюць інфармацыйную функцыю, часам агульнага, неакрэсленага характару. Так, *Задарма і скулка не сядзе* абазначае 'задарма, бясплатна нічога не робіцца', *Чуткамі зямля поўніцца* – 'чуткі, весткі пра каго- ці што-небудзь дайшлі і да нас', *Ад ліха ціха, а дабра не чуваць* – 'нічога асаблівага, ні дрэннага, ні добрага, не чуваць'. У стварэнні інфармацыйнасці ўдзельнічаюць і вобразныя парэмійныя часткі: *хлеб жуём, зямля поўніцца* і г.д.

Некаторыя прыказкі ўжываюцца як своеасаблівае рэагаванне на толькі што пачуты ад суразмоўніка фразеалагізм; напрыклад, выклічнікавы выраз *памагай бог* выклікае жартаўлівую рэпліку-прыказку *Казаў бог, каб і ты памог*, а мадальны *калі ласка* спараджае ў адказ іранічную прыказку *Ласка – не каляска, сеўшы не паедзеш.*

Некалькі слоў пра тры прыказкі, у якія як бы ўстаўляецца слова з пачутага папярэдняга выказвання, але знарок пераасэнсаванае, аманімічнае са словам-стымулам. У выніку ўзнікае каламбур. Так, прыказка *Калі здаецца, дык трэба хрысціцца* або *Калі здаецца, перахрысціся* ўжываецца як іранічная рэакцыя на слова *здаецца*, нібыта ўспрынятае са значэннем 'уяўляецца': «– Фактаў у мяне няма, але здаецца... – Калі здаецца, перахрысціся!» (А.Дзялендзік). Прыказка *Калі значыцца, дык ацеліцца* гаворыцца з іроніяй у адказ на частае ўжыванне слова *значыцца*, як быццам ўспрынятае ў значэнні 'выяўляць прыметы ацёлу (пра карову)': «– Усе, значыцца, сабраліся? Значыцца, пачнём!.. – Калі значыцца, дык ацеліцца. – Цяленне – адна справа, а пасяджэнне бюро – іншая» (Л.Калюга). Яшчэ адна прыказка – *Нуда горш за каросту* – іранічная рэпліка ў сувязі з пачутым ад суразмоўніка небеларускім

спалучэннем «ну, да». Яна, як піша К.Крапіва ў артыкуле «Беларускія прыказкі», «гаворыцца тады, калі хто, заміж беларускага – «ну, так», ужывае рускае «ну, да» [56, с. 254].

Апісаная тут спецыфіка выкарыстання кантэкстуальных прыказак, іх цеснае зліццё з папярэдняй рэплікай-стымулам і сумеснае стварэнне дыялагічнага адзінства павінны знаходзіць дакладнае адлюстраванне ў тлумачальных слоўніках прыказак. Адны з гэтых прыказак, як ужо адзначалася на некалькіх прыкладах, атрымліваюць і сэнсавую, і кантэкстуальную характарыстыку. Яшчэ два прыклады: 1) *Лёгкае пяро, ды на страху не закінеш.* Не так лёгка зрабіць што-небудзь, як здаецца. Звычайна ўжываецца як адмоўная рэакцыя на слова *лёгка* ў папярэднім выказванні; 2) *Можа надвое варожа.* Усяляк, па-рознаму можа быць. Ужываецца як рэакцыя на слова *можа* з папярэдняга выказвання.

Апісанне ж некаторых іншых прыказак абмяжоўваецца толькі іх кантэкстуальнай характарыстыкай (гл., напрыклад, прыказкі *Калі здаецца, дык трэба хрысціцца; Казаў бог, каб і ты памог*).

У некаторых жа парэміяграфічных працах не прытрымліваюцца гэтага правіла. Так, у даведніку І. і Р.Шкрабаў «Крынічнае слова» [125] без усякага апісання пададзены прыказкі *Грэх у мех, грашаняты ў торбу; Калі здаецца, дык трэба хрысціцца.* Прыказка *Хвароба – мігрэнь, жраць (есці) ахвота, а працаваць лень* растлумачана так: «высмейванне гультайства, якое прыкрываецца ўяўнай хваробай». Параўн. больш дакладнае апісанне гэтай прыказкі ў згаданым «Слоўніку беларускіх прыказак»: «Ужываецца як адмоўная рэакцыя на словы *хвароба, хварэць* у папярэднім выказванні, калі гавораць пра лянівага чалавека і не вераць, што ён хварэе».

Прыблізна і нярэдка шматслоўна, няправільна, а то і недарэчна тлумачацца многія кантэкстуальныя, а таксама сітуацыйныя парэміі ў слоўніку «Прыказкі і прымаўкі» А.Аксамітава [2]. Напрыклад, *Бывала, варона лапці абувала...* – ‘мода мяняецца’; *На бога спадзявайся, а сам не давайся* – ‘кажуць гультаю, які наракае на Бога за сваю беднасць’; *Ласка – не каляска, сеўшы не паедзеш* – ‘іранічна пра таго, хто некаму дагаджае за ласку; добрыя адносіны яшчэ нічога не вырашаюць’; *Дзе чорт не араў, там сеяць не стаў* – ‘калі нехта не спадзяецца на ўдачу ў якой-небудзь справе, то ён не рызыкуе’; *Мал залатнік, ды дораг* –‘адказ малых за ганьбаванне іх росту; пра малога, які мае станоўчыя якасці, заслугі’.

Пра няўлічванне ці няведанне сапраўдных умоў, пры якіх рэалізуюцца ў маўленні кантэкстуальныя прыказкі, сведчаць і такія факты. У акадэмічным зводзе «Прыказкі і прымаўкі ў дзвюх кнігах» (1976) шмат якія названыя вышэй прыказкі размешчаны ў раздзелах, да якіх яны не маюць абсалютна ніякага дачынення. Напрыклад, у раздзеле «Бог. Вера. Атэізм» пададзены прыказкі *Можа надвое варожа, Грэх у мех, грашаняты ў торбу*; прыказка *Лёгкае пяро, ды на страху не закінеш* трапіла ў раздзел «Жывёльны і раслінны свет»; *Нуда горш за капосту* – у раздзел «Беднасць. Жабрацтва»; *Задарма і скулка не сядзе* – у раздзел «Служба. Наймы»; *Турма моцная, але ніхто не хоча там быць* – у раздзел «Турма»; *Хай конь думае, у яго галава большая* – у раздзел «Розум. Кемлівасць. Дурасць»; *Ласка – не каляска, сеўшы не паедзеш* – у раздзел «Каханне. Дашлюбныя адносіны»; *Сарока на хвасце прынесла* – у раздзел

«Балбатня. Пляткарства. Сварка». Чытаючы такія звесткі ў акадэмічным зводзе, так і хочацца сказаць: «Знарок не прыдумаеш!»

## *Раздзел 2*
## ЭТЫМАЛАГІЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ПРЫКАЗАК

### § 8. Шляхі ўзнікнення прыказак

Ужываючы слова *прыказка*, ледзь не заўсёды ставяць перад ім, усё роўна як пастаянны эпітэт у казках ці песнях, прыметнік *народная*. Калі пад ім разумець «створаная народам», дык ён у аднолькавай меры павінен бы далучацца і да ўсіх спрадвечна беларускіх слоў і фразеалагізмаў, бо і яны створаны народам. Традыцыйна лічаць прыказкі афарызмамі народнага паходжання, узніклымі непасрэдна ў жывой мове народа. Але гэта не зусім так. Ёсць нямала прыказак, якія прыйшлі ў нашу мову з іншых моў як запазычанні, калькі ці паўкалькі. Так, *Іван ківае на Пятра* – запазычанне з рускай мовы, *Што задужа, то не здрова* – паўкалька з польскай мовы, *Рука руку мые* – калька з лацінскай мовы, *Прывычка – другая натура* – паўкалька з лацінскай мовы, *Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку* – недакладная калька з англійскай мовы, *Добра смяецца той, хто смяецца апошні* – калька з французскай мовы.

Ёсць шэраг прыказак, якія паводле свайго першапачатковага ўжывання з'яўляюцца афарызмамі кніжнага паходжання, крылатымі выразамі, што адарваліся ад сваёй літаратурнай крыніцы і цяпер успрымаюцца як звычайныя прыказкі, фіксуюцца ў фальклорных зборніках або парэміяграфічных слоўніках – без паметы, хто стваральнік гэтага афарызма-прыказкі. Да прыкладу, 17 прыказак прыйшлі ў нашу мову з Бібліі: *Не хлебам адзіным жыве чалавек; Хто не працуе, той не есць* і г.д.

Сёння амаль усе ўжываюць у пэўнай маўленчай сітуацыі прыказку *Апетыт прыходзіць у часе яды.* І дастасоўваюць яе зусім не да яды, а выкарыстоўваюць у значэнні: жаданне, патрэбнасць, цікавасць да чаго-небудзь павялічваецца па меры таго, як пазнаеш што-небудзь, захапляешся тым, што пачаў рабіць. Ужываючы гэту прыказку, сёння мала хто ведае, што яе аўтар – французскі епіскап Жэром дэ Анжэ, а асаблівай папулярнасці гэтага афарызма і набыццю ім крылатасці вельмі ж пасадзейнічаў славуты французскі пісьменнік Франсуа Рабле ў сваім шырокавядомым рамане «Гарганцюа і Пантагруэль».

Яшчэ толькі некалькі прыказак, якія маюць свайго аўтара: *Маўр зрабіў сваю справу, Маўр можа ісці* (Ф.Шылер); *Кропля камень точыць* (Авідзій); *З мілым рай і ў шалашы* (Н.Ібрагімаў); *Двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма* (Геракліт).

Шырока ўвайшоў у побыт крылаты выраз з байкі К.Крапівы «Сава, Асёл ды Сонца», ператварыўшыся ў звычайную прыказку: *Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала.* Яе ўжыванне ў сучасных літаратурных тэкстах пацвярджаецца ў «Слоўніку беларускіх прыказак» чатырма ілюстрацыйнымі прыкладамі.

Паўторым яшчэ раз: прыметнік-эпітэт *народная* пры слове *прыказка* лагічна не зусім апраўданы, хоць, несумненна, пераважная

большасць прыказак, што ўжываецца ў сучасным беларускім маўленні, склалася ў жывой народнай мове і многія з іх маюць шматвяковую гісторыю.

Шмат якія прыказкі, як лічыў А.А.Патабня, паходзяць з баек, анекдотаў і казак: само сюжэтнае апавяданне з цягам часу забылася, а вывад застаўся. Гэтакай жа думкі прытрымліваўся і І.І.Насовіч, калі ўзнікненне, напрыклад, прыказкі *Няхай той серадзіць, хто на неба глядзіць* звязваў з байкай пра хітрую лісіцу і воўка-дурня. Такія прыказкі Ф.І.Буслаеў называў «байкамі малога аб'ёму», а Я.А.Ляцкі – «прыказкамі-баечкамі».

А.А.Патабня пісаў, што «адзін з відаў прыказак прымыкае непасрэдна да баек» [95, с. 93]. Ён разглядае асобныя «прыёмы ператварэння складанага паэтычнага твора ў прыказку» (с. 98), у прыватнасці, адзначае: «Вядомая частка байкі становіцца прыказкай, дзякуючы таму што астатняя частка яе ўтрымліваецца ў думцы і гатова з'явіцца па нашым першым патрабаванні як паясненне гэтага выказу» (с. 96). Гэта можна было б пераканаўча пацвердзіць (на беларускім матэрыяле) асацыятыўнымі суадносінамі паміж згаданай вышэй прыказкай *Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала* і байкай К.Крапівы «Сава, Асёл ды Сонца».

Гаворачы пра прыказку *Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй*, А.А.Патабня піша, што «гэта варыянт байкі «Лягушка і Вол». У ёй расказваецца, што падкоўвалі каня, а рак падставіў сваю клюшню, каб і яго падкавалі» (с. 97). Адзначаецца, што іншы раз не асобны «выказ, а ўвесь змест байкі робіцца прыказкай» (с. 97); даюцца некаторыя прыклады: *Кабыла з воўкам цягалася, хвост ды грыва асталася; Сабака на сене ляжыць, сам не есць і другім не дае.*

Ужо ўпаміналася, што І.І.Насовіч у «Зборніку беларускіх прыказак» (1874) многія парэміі (больш за 40) пры тлумачэнні іх сэнсу суправаджаў іх прывязкай да, відаць, пачутых у народзе этымалогій. Так, аб прыказцы *Плачце вочы, хоць павылазьце, відалі, што купавалі* сказана, што яна «паходзіць ад баечкі. Цыган замест яблыкаў купіў цыбулю, ад якой пры ядзенні надта каціліся ў яго слёзы, таму ён і сказаў: плачце вочы, хоць павылазьце; відалі, што купавалі» [106, с. 127]. Паводле І.І.Насовіча, прыказка *На вяку ўсяго нажывеш – і Кузьму татам назавеш* «бярэ пачатак ад наступнага аповеду. Адзін пасынак, прывыкшы з маленства называць айчыма па імю Кузьмой, і, падросшы, не пакідаў сваёй прывычкі. Але аднойчы, везучы з айчымам на возе пшаніцы снаповай, неяк уз'ехаў на ўзгорак і трапіў пад воз, які перакуліўся на яго. Пасынак з крыкам клікаў на дапамогу свайго Кузьму, які ехаў наперадзе, але Кузьма, не адклікаючыся, працягваў ехаць. Пасынак, бачачы няўвагу айчыма, пачаў крычаць: «Тата, тата! Памажы мне вылезці». Айчым зараз жа спыніўся і вызваліў пасынка, але той, прыехаўшы дамоў, пры апавяданні пра такі выпадак сказаў: на вяку ўсяго нажывеш – і Кузьму татам назавеш» (с. 83). Падобныя прывязкі да канкрэтнага жыццёвага выпадку маюць і многія іншыя прыказкі (гл. с. 3, 15, 16, 18, 19, 34, 47, 50, 60, 63, 69, 80, 81, 90, 95, 106, 107, 110 і г.д.).

Я.А.Ляцкі таксама лічыў, што адной з крыніц узнікнення прыказак выступаюць байкі, песні, апавяданні: «яны ператвараюцца, шляхам «згушчэння думкі», па словах нябожчыка прафесара Патабні, у кароценькія прытчы, байкі, якія, атрымліваючы ў жыцці значэнне

прыказак, павінны разглядацца як асобны іх від і могуць быць названыя *прыказкамі-баечкамі*». У якасці прыкладу Я.А.Ляцкі падае прыказку *Хто парасё ўкраў, таму ўвушшу пішчыць*, пра якую «існуе наступнае апавяданне. Нехта, жадаючы даведацца, хто ўкраў у яго парасё, пайшоў да групы аднавяскоўцаў і хутка сказаў: «Хто парасё ўкраў, таму ўвушшу пішчыць!» – «Ото-ж няпраўда!»– адказаў злодзей і тым выдаў сябе» [78, с. VI].

Генетычная сувязь некаторых прыказак з народнымі апавяданнямі і баечкамі не адмаўлялася і Я.Ф.Карскім, але ён слушна адзначаў, што «толькі працяглыя даследаванні і вывучэнні могуць адкрыць сапраўднае паходжанне прыказкі» [51, с. 478]. Тыя шматлікія згаданыя вышэй спробы І.І.Насовіча вытлумачыць паходжанне той ці іншай прыказкі, несумненна, у сваёй пераважнай большасці – са сферы так званай народнай этымалагізацыі. І наўрад ці варта перабольшваць адзінкавыя выпадкі ўзнікнення прыказак з баек. Тут, хутчэй, можна гаварыць пра адваротны працэс – вельмі частае ўзнікненне баек на аснове прыказак. Як пісаў В.Р.Бялінскі, «байка ў адносінах да прымаўкі і прыказкі ёсць вышэйшы род, вышэйшая паэзія, або паэзія народных прыказак і прымавак» [19, с. 90]. Дарэчы, у далейшым (гл. §21 ) на прыкладзе творчай практыкі К.Крапівы як байкапісца паказваецца, што прыказкі для яго – крыніца ідэй і мастацкіх вобразаў, аснова баечных сюжэтаў і г.д.

А.А.Патабня хоць на многіх старонках сваёй працы і гаварыў аб прыказках як «аб паэтычнай форме, якую можна назваць скарачэннем байкі» [95, с. 98], але падмацоўваў такое сцвярджэнне толькі некалькімі прыкладамі. Адначасова ён жа пісаў адносна прыказкі *Если хочешь в рай, передайся к нам:* «Не выклікае ніякага сумнення, што гэта – заключная фраза якогасьці дыялогу. Мы не можам сказаць, хто менавіта так гаварыў, з якога прыватнага вобраза ўзнікла гэта прыказка» (с. 96).

Думаецца, што, сапраўды, не з баек, а з «якіхсьці дыялогаў» узнікла пераважная большасць прыказак. Такое меркаванне найперш датычыць бязвобразных прыказак, хоць, зразумела, не абмяжоўваецца толькі імі.

Уявім такую карціну з далёкага мінулага. Купка сялян, неяк сышоўшыся, гаворыць пра жыццё-быццё. Параўноўваюць, як няроўна, неаднолькава жывуць два вядомыя ім гаспадары: дапусцім, Пілiп ледзьве зводзіць канцы з канцамі, а ў Сцяпана і ўраджай заўсёды добры, і ў хляве з жывёламі ды птушкамі ўсё ідзе рукой. «Што і казаць, шанцуе Сцяпану», – з зайздрасцю кажа адзін з суразмоўнікаў, а другі, пасля некаторага роздуму, нібы пярэчыць: «Хто дбае, той і мае». З гэтым пагаджаюцца і іншыя: «Праўду ты сказаў: хто дбае, той і мае. Сцяпан жа гэты – такі руплівы, такі старанны, і ўся сям'я яго гэтакая ж». Так трапнае выказванне, ды яшчэ змацаванае рыфмай, паступова ператвараецца ў прыказку, калі яно ўспрымаецца моўным калектывам як абагульняльны вывад на аснове шматлікіх жыццёвых назіранняў.

Стваральнікам прыказкі заўсёды з'яўляецца які-небудзь асобны чалавек, і ўзнікае яна адразу, у маўленчым акце, у працэсе маўлення. Спачатку гэта – аўтарскі твор, а пасля ён падхопліваецца іншымі людзьмі з бліжэйшага асяроддзя і з цягам часу становіцца агульнаўжывальнай моўнай адзінкай. «Паколькі асоба аўтараў на прыказках не адбілася, – пісаў Я.Карскі, – то народ лёгка забыў іх складальнікаў і захаваў гэтыя творы як свае ўласныя» [51, с. 479].

Аказіянальнымі, індывідуальна-аўтарскімі былі на пачатку свайго жыцця сотні іншых прыказак неалегарычнага характару, напрыклад: *Адна бяда – не бяда; Вада не гарэлка – шмат не вып’еш; Госць мала гасцюе, ды многа бачыць; Добры гаспадар і сабаку не выганіць у такую пагоду; Едзеш на дзень, бяры хлеба на тыдзень; Лепей кепскі родны бацька, чым добры айчым; На хаценне ёсць цярпенне; Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы.* Дарэчы, утварэнне апошняга выказу, скарыстанага ў байцы К.Крапівы «Кувада», нярэдка памылкова прыпісваюць К.Крапіве, называюць яго крапівоўскім «дасціпным выразам, які ператварыўся ў прыказку» [63, с. 13; 50, с. 144]. Або параўн. у рамане П.Місько «Градабой»: «А што гаварыць? Як казаў Крапіва, не можаш памагчы, дык лепей памаўчы». Аднак так казалі і да Крапівы, прыказка занатавана ў свой час яшчэ І.І.Насовічам [106, с. 100], ёсць яна і ў некаторых іншых парэміялагічных зборніках. Гэтак жа беспадстаўна называюць [6, с. 128] наватворам-прыказкай К.Крапівы загаловак ягонага верша «Вось такія дактары вымуць душу без пары», хоць гэта на самай справе крыху перафразаванае аўтарскае запазычанне: *Там добрыя дактары вымуць душу без пары* [31, с. 186]*; Гэтыя дактары вынімаюць душу без пары: не лечуць, ды яшчэ калечуць* [122, с. 144].

Аналагічным шляхам, у індывідуальным акце маўлення, узніклі шматлікія прыказкі, якія ўжываюцца як адзін з паказчыкаў народнага календара і адносяцца да розных рэлігійных святаў, хоць, як пісаў Я.Карскі, «яны больш характарызуюць стан прыроды ў час гэтых святаў» [51, с. 481]: *На Пакровы дай сена карове; Грамніцы – палавіна зіміцы; Добра яблычка к Іспасу; Калі на Макавея дождж, дык будзе многа грыбоў; Калі на Юр’я роса, сей грэчку і проса; Магдалена – вады па калена; Прыйшлі Пакровы – заганяй у хлеў каровы; Як на Грамніцы адліга – з ураджаю будзе фіга* і шмат іншых.

Што да прыказак з поўным або частковым пераасэнсаваннем іх кампанентнага складу, то яны таксама часцей за ўсё паходзяць з «якіхсьці дыялогаў». Прычым, напэўна, толькі нямногія з іх напачатку маглі ўжывацца ў прамым значэнні, а пасля ўжо пераасэнсаваліся, стаўшы дастасоўвацца да шмат якіх іншых аналагічных з’яў. Гэта, напрыклад, такія выказы: *Бот лапцю не пара; Дзіравага мяшка не напоўніш; Дзе п’юць, там і льюць; З вялікага грому малы дождж бывае; З песні слова не выкінеш; Кабыла здыхае, а траву хапае; Клін клінам выбіваюць; Любіш катацца, любі і саначкі вазіць; На лечаным кані далёка не заедзеш; Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала; Якая птушка, такое і гняздзечка; Якія сані, такі і гаспадар; Не бойся таго сабакі, які брэша, а бойся таго, што лашчыцца; Парою сена косяць; Пешы коннаму не таварыш; Што пасееш, тое і пажнеш; Як сабаку кормяць, так сабака і брэша.*

Асобныя з гэтых прыказак і некаторыя іншыя і сёння выкарыстоўваюцца не толькі ў пераносным, але (зрэдку) і ў прамым значэнні, што часткова адлюстравана ў «Слоўніку беларускіх прыказак».

Пераносныя значэнні ўзнікаюць у прыказках звычайна ў выніку метафарычнага пераасэнсавання – пераносу пэўнага суджэння з адной з’явы на другую па аналогіі, на аснове падабенства паміж імі. Пры такім пераасэнсаванні пэўнае абстрактнае суджэнне, увасобленае ў прыказцы, перадаецца праз канкрэтны вобраз, праз нагляднае ўяўленне пра што-

небудзь. «Абагульненне мае для нас цану, – пісаў А.А.Патабня, – толькі ў тым выпадку, калі пад ім мы маем канкрэтныя ўспрыманні, з якіх яно атрымліваецца» [95, с. 94]. Напрыклад, абагульненае, абстрактнае значэнне ‘таго, што было, назад не вернеш’ мы можам перадаць праз метафарычнае выказванне-прыказку *Адрэзанай лусты не прыклеіш*, у аснове якой ляжыць канкрэтны вобраз. Прыказкі алегарычнага характару паводле свайго ўзнікнення – гэта разгорнутыя метафары, якія складаюцца з некалькіх унутрана звязаных кампанентаў-метафар.

Як ужо было паказана на прыкладзе *Яблык ад яблыні недалёка* падае (гл. § 2), прыказкі гэтага тыпу ўтвараюцца не на лексічнай, а на сінтаксічнай аснове. Скажам, у прыказцы *Кашу маслам не сапсуеш*, што значыць ‘неабходнае, карыснае ніколі не зашкодзіць’, усе кампаненты атрымалі скразное і адначасовае пераасэнсаванне. Яна ўспрымаецца як матываваная моўная адзінка, як разгорнутая метафара або як параўнанне, толькі без ягоных прывычных параўнальных злучнікаў *як, нібы, як быццам*, а менавіта: гэтак жа, як кашу маслам не сапсуеш, так і неабходнае, карыснае ніколі не зашкодзіць. Супаставім таксама: *Кабыла здыхае, а траву хапае* – ‘у якім бы стане ні знаходзіўся чалавек, яго думы і дзеянні звязаны з жыццёвымі, надзённымі інтарэсамі’.

Метафару часта азначаюць як прыхаванае параўнанне адной з’явы з другой. Можна вылучыць некалькі найбольш тыповых семантычных мадэляў, па якіх арганізуецца супастаўленне розных з’яў. Напрыклад, ёсць шмат прыказак «жывёльнага паходжання», г.зн. такіх, якія дастасоўваюцца да чалавека, але ўзніклі праз параўнанне людскіх учынкаў, дзеянняў і інш. з паводзінамі, звычкамі жывёл. Вось некалькі такіх прыказак – з поўным або частковым пераасэнсаваннем іх кампанентаў: *Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць; Адальюцца воўку авечыя слёзы; Апошняму парасяці цыцка пад хвастом; Бадлівай карове бог рог не дае; Быў конь, ды з’ездзіўся; Ваўка ногі кормяць; Воўк і лічанае бярэ; Воўк не з’еў, дык бугай не забадае; Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць; Стары вол баразны не псуе.*

А гэта прыклады прыказак «птушынага паходжання»: *Адна ластаўка вясны не робіць; Арлу з савой не па дарозе; Гусь свінні не таварыш; Варона з куста, пяць на куст; Кожная птушка ляціць у сваю чараду; Кожны кулік сваё балота хваліць; Над пешым арлом і варона з калом; На сваім сметніку і певень гаспадар; Начная зязюля дзённую перакукуе; Пужаная варона куста баіцца.*

Ёсць таксама нямала прыказак «раслiннага паходжання»: *Ад крывога дрэва прамога ценю не бывае; Без ветру і дуб не шуміць; Вясной і травінка да травінкі хінецца; Добрую траву сеюць, а ліхая чорт ведае адкуль бярэцца; І да грыба трэба нагнуцца; Пустазелле з поля вон; Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было; Скрыпучае дрэва доўга скрыпіць; Хвалілася рэдзька, што з мёдам смачная; Хто ў боб, хто ў гарох, а хто ў сачыўку.*

Як ужо адзначалася, у парэміялагічным складзе беларускай літаратурнай мовы ёсць шмат прыказак, якія прыйшлі ў яе кніжным шляхам – як запазычанні, калькі або паўкалькі з іншых моў, а таксама як былыя крылатыя выразы, што сталі звычайнымі прыказкамі.

Тут найперш трэба назваць такую крыніцу, як Біблія (у савецкія часы пра гэта стараліся не гаварыць). Адзначым, дарэчы, што Біблія,

самая папулярная ў свеце кніга, перакладзеная на 1250 моў і дыялектаў, аказала і працягвае аказваць вялікае ўздзеянне на развіццё сусветнай культуры. Біблейскія сюжэты, матывы, вобразы і сімвалы выкарыстоўваліся на працягу стагоддзяў і цяпер выкарыстоўваюцца ў сусветнай літаратуры, жывапісе, тэатры, музычным мастацтве, кіно. Ніводная іншая кніга не можа параўнацца з Бібліяй па колькасці фразеалагізмаў, уведзеных ва ўсенародны ўжытак (115 выразаў). Прыкметна папоўніла Біблія і прыказкавы склад мовы (17 прыказак). След ад Бібліі ва ўсім – вялізны, відавочны і неаспрэчны.

Пададзім далей прыказкі-біблеізмы, адначасова называючы біблейскі тэкст, з якога яны пачыналі свой шлях у афарыстыку.

*Бог даў, Бог і ўзяў.* Паўкалька з царкоўнаславянскага тэксту: «Господь даде, Господь и отъя» (з «Кнігі Іова», 1, 21).

*Няма прарока ў сваёй айчыне.* Неаднойчы паўтараецца ў Бібліі (напрыклад, у «Евангеллі ад Марка», 6, 4) як словы Ісуса пра тое, што не бывае прарока без пашаны, хіба толькі ў айчыне сваёй і ў доме сваім.

*Не хлебам адзіным жыве чалавек.* З евангельскага тэксту: «Не аб хлебе адзіным жыў будзе чалавек» (Лука, 4, 4).

*Няма нічога тайнага, каб не стала яўным.* «Няма нічога тайнага, каб не зрабілася яўным» (Марк, 4, 22).

*Неспавядальныя шляхі Гасподнія.* Паўкалька з царкоўнаславянскай мовы: «Неисповедимы пути Господни» (з «Паслання апостала Паўла да рымлянаў», 11, 39).

*Хто сее (пасее) вецер, той пажне буру.* З «Кнігі прарока Асіі», (8, 7): «Як яны сеялі вецер, то і пажнуць буру».

*Супраць ражна не папрэш.* З «Дзеянняў святых апосталаў» (9, 5; 26, 14): «Цяжка табе перці супраць ражна».

*Хто не працуе, той не есць.* З «Другога паслання апостала Паўла да фесаланікійцаў» (3, 10): «Калі хто не хоча працаваць, той не есць».

*Забаронены плод салодкі.* Паўкалька з рускай мовы *(Запретный плод сладок).* Склалася на аснове біблейскага сюжэта пра дрэва пазнання дабра і зла, зрываць плады з якога Бог забараніў Адаму і Еве: «І не датыкайцеся да іх, каб вам не памерці» (Быццё, 3, 3; 2, 16–17). Аднак занадта цікаўная Ева не ўтрымалася, каб не сарваць забаронены плод, і спакусіла Адама. За гэта абое былі пакараны і выгнаны з раю.

*Нішто не вечна пад месяцам.* Паўкалька з рускай мовы. Паходзіць з верша М.М.Карамзіна «Вопытная Саламонава мудрасць, або Вобразныя думкі Эклезіяста» (1797), дзе ёсць радок «Ничто не вечно под луною», які з'яўляецца перайманнем з «Кнігі Эклезіяста» (1, 9): «Што было, тое і будзе; і што рабілася, тое і будзе рабіцца, і няма нічога новага пад сонцам».

*Усё новае – гэта добра забытае старое.* Калька з французскай мовы. Лічыцца, што ўпершыню нібыта так сказала мадэмуазель Бертан, мадыстка Марыі Антуанеты, паднавіўшы старую сукенку каралеўны. У французскай мове афарызм склаўся пад уплывам радкоў з «Кнігі Эклезіяста» (1, 10): «Бывае нешта, аб чым кажуць: глядзі, вось гэта новае, але *гэта* было ўжо ў вяках, якія былі да нас».

*Бойся Усявышняга і не гавары лішняга.* Склалася пад уплывам біблейскага выказвання: «Не спяшайся языком сваім, і сэрца тваё няхай не спяшыць вымавіць словы перад Богам» (Эклезіяст, 5, 1).

*Падняўшы меч, ад мяча і згіне.* З «Евангелля ад Матфея» (26, 52): «Тады гаворыць яму Ісус: вярні твой меч у яго месца, бо ўсе, узняўшыя меч, мячом загінуць».

*Шукайце і знойдзеце.* Паўкалька з царкоўнаславянскай мовы: «Ищите и обрящете» (Матфей, 7, 7).

*Не судзіце, ды не судзімы будзеце.* З «Евангелля ад Матфея» (7, 1–2): «Не судзіце, ды не судзімы будзеце, бо якім судом судзіце, такім будзеце судзімы; і якою мераю мераеце, такою і вам будуць мераць».

*У чужым воку саломку бачым, а ў сваім і бервяна не заўважаем.* Параўн.: «Што ты глядзіш на сучок у воку брата свайго, а бервяна ў тваім воку не адчуваеш?» (Матфей, 7, 5; 6, 41).

*Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі памаўчаць.* Як лічыць І.І.Насовіч (106, с. 31), прыказка склалася пад уплывам выказвання з «Кнігі Эклезіяста» (3, 1–7): «Усяму свой час... час маўчаць і час гаварыць».

Прыказкі-біблеізмы, як пісаў Я.Карскі, «маглі быць запазычаны народам або з царкоўных чытанняў і пропаведзяў, або (што больш верагодна) унесены ў народную масу асобнымі пісьменнымі людзьмі» [51, с. 478].

Прыказкамі, кніжнымі паводле свайго пранікнення ў літаратурную мову, з'яўляюцца некаторыя крылатыя выразы беларускіх пісьменнікаў. З паэмы Я.Коласа «Новая зямля»: *Назад не прыйдзе хвала тая, што з быстрай рэчкай уплывае; Мой родны кут, як ты мне мілы; Забілі зайца не забілі, а гуку многа нарабілі.* З паэмы Я.Купалы «Курган»: *Дум не скуеш ланцугамі.* З байкі К.Крапівы «Заява»: *Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч*; з сатырычнага верша «Едзе крытык малады»: *Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай*, (а таксама памянёная раней *Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала* – з байкі «Сава, Асёл ды Сонца»). Ад назвы аповесці І.Пташнікава: *Зерне падае не на камень.* Шырока выкарыстоўваецца ў сучасным маўленні радок *Няма таго, што раньш было* – з верша М.Багдановіча «Ізноў пабачыў я сялібы...» (1913). Верш пакладзены на музыку (кампазітар І.Лучанок), стаў песняй, таму радок набыў асаблівую крылатасць, ператварыўся ў прыказку. Аналагічныя аўтарскія афарызмы, якімі ўзбагачаецца родная мова, называюць «неўміручымі помнікамі таленту, дасціпнасці і натхненню» [43, с. 422].

Можна прывесці яшчэ нямала прыказак, цяпер ужо іншамоўнага кніжнага паходжання, аўтарства якіх вядомае. Яны, як калькі, паўкалькі ці (радзей) запазычанні, папоўнілі парэмійны склад нашай мовы. Некаторыя з іх ужо называліся ў пачатку параграфа. Пададзім яшчэ толькі некалькі такіх афарызмаў-прыказак.

*Цяжка злавіць чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма* – належыць кітайскаму мысляру Канфуцыю (551–479 гг. да н.э.).

З грэчаскай мовы: *Корань навукі горкі, ды плады яго салодкія* (Арыстоцель); *Усё цячэ, усё мяняецца* (Геракліт).

З лацінскай мовы: *Нішто чалавечае мне* (ім і інш.) *не чужое* (Тэрэнцій); *Платон мне сябра, а ісціна даражэйшая* (Платон); *Час – найлепшы доктар* (Аўгусцін); *Грошы не пахнуць.* Апошні выказ паходзіць са слоў рымскага імператара Веспасіяна (I ст. н.э.), які ўвёў падатак на грамадскія прыбіральні, а калі сын папракнуў бацьку за гэта, той паднёс да яго носа першыя грошы, сабраныя як падатак, і прапанаваў яму панюхаць, ці пахнуць яны.

З англійскай мовы: *Час – гэта грошы* (В.Франклін); *Добрымі намерамі выслана дарога ў пекла* (С.Джонсан).

З французскай мовы: *Калі б маладосць умела, а старасць магла* (А.Эт'енне); *Ад вялікага да смешнага адзін крок.* Апошняя фраза належыць Напалеону, які ў снежні 1812 г. у часе ўцёкаў з Расіі часта паўтараў яе свайму паслу ў Варшаве, пра што той пісаў пасля ў сваёй кнізе «Гісторыя пасольства ў Вялікім герцагстве Польскім» (1816).

З рускай мовы: *Адзін раз схлусіўшы, хто табе паверыць?* (К.Пруткоў); *Што маем – не шануем, а як страцім – плачам* (К.Пруткоў); *Тэатр пачынаецца з вешалкі* (К.С.Станіслаўскі); *Вялікае бачыцца на адлегласці* (С.Ясенін); *Рукапісы не гараць* (М.Булгакаў). *Пераможцу(-аў) не судзяць* – выказ прыпісваецца імператрыцы Кацярыне ІІ, якая нібыта гэтак сказала пра Суворава, калі той самавольна павёў войскі на штурм Туртукая і авалодаў горадам. Яшчэ адзін выказ – *Няма (не бывае) правілаў без выключэння,* – відаць, паўкалька з рускай мовы, дзе афарызм стаў крылатым пасля таго, як А.С.Пушкін ужыў яго ў «Яўгеніі Анегіне» ў такіх радках: «Хоть он людей, конечно, знал и вообще их презирал, но (правил нет без исключений): иных он очень отличал». У рускую мову выслоўе прыйшло як калька з лацінскай мовы (словы належаць філосафу Сенеку: *Nulla regula sine exceptione*).

Калі цяпер вярнуцца да пытання пра тыповасць ці нетыповасць утварэння прыказак з баек, казак, песень, то, як паказвае прааналізаваны матэрыял, гэта вельмі рэдкія выпадкі ў парэміялогіі. У прыватнасці, толькі дзве згаданыя раней прыказкі *(Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала; Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч)* узніклі з баек (як іх канцоўка-мараль). Адна прыказка – *З рога ўсяго многа* – паходзіць з аднайменнай беларускай народнай казкі, дзе, апрача іншага, расказваецца і пра дзіўны сярэбраны рог, які падараваў журавель беднаму дзеду, пакрыўджанаму панам. Вось урывак з казкі: «– Скажы: «З рога ўсяго многа!» – З рога ўсяго многа! – крыкнуў зайздросны аканом. Тут, адкуль ні вазьміся, выскачылі з рога дванаццаць хлопцаў-малайцоў з бізунамі ды давай лупцаваць аканома». Прыказка *З мілым рай і ў шалашы* – запазычанне з рускай мовы, куды выказ прыйшоў з народнай песні на словы паэта Н.М.Ібрагімава – аўтара «Рускай песні» (1815), дзе ёсць такія радкі: «Не ищи меня, богатый, ты не мил моей душе. Что мне, что твои палаты? С милым рай и в шалаше!»

Варта асобна сказаць пра нетыповыя, адзінкавыя выпадкі ўтварэння як фразеалагізмаў, так і прыказак з загадак. Фразеалагізм *зімой і летам адным цветам*, што значыць 'заўсёды ў адным і тым жа адзенні', склаўся на аснове аналагічнай загадкі пра елку, хвою; напрыклад: «Адзець на змену не было чаго. І яна, і дзеці зімой і летам адным цветам, – адно насілі, латанае-пералатанае» (М.Гіль). Ацэначная прыказка *Сам худ, а галава з пуд* (ёю характарызуюць разумнага чалавека) утварылася з аднайменнай загадкі пра бязмен: «Якуб Якубыч Худ, у яго барада пад колер ліса і, як кажа прыказка, «сам худ, а галава з пуд» – чалавек разумны, нават мае лысіну» (А.Куляшоў).

### § 9. Класіфікацыя прыказак паводле іх паходжання

Тое, што шмат якія прыказкі жывуць ужо многія стагоддзі, а можа, і тысячагоддзі, нікім не аспрэчваецца. Пісьмовых жа пацвярджэнняў з даўнейшага жыцця якой-небудзь прыказкі амаль што няма. Рэдкім выключэннем з'яўляюцца «Лісты Філона С.Кміты-Чарнабыльскага» (1573–1574) – службовая перапіска аршанскага старасты з членамі каралеўскай рады Вялікага Княства Літоўскага [94]. Тут ёсць такія прыказкі (адны з іх у сучасных парэміялагічных зборніках ужо не фіксуюцца, другія ўжываюцца ў абноўленай форме): *Голодному смерть на уме; Коли топили – топор давали, а выплывши ни топорища; Як доробило лихо, прорежутся и зубы; Мы от ворот, а он дирою вон; Богатому так, а убогому сяк; Просто як овца: где их больш берет волк, там оне за ним идут; И каши не хочу, и по воду не иду; Ожогшыся на молоце, велено на воду дуть; Люди на кашы переели кашу, а я з голоду здох на сторожы.*

У навуковай літаратуры не сустракаюцца якія-небудзь больш-менш дакладныя і канкрэтызаваныя звесткі пра сістэматызацыю прыказак з этымалагічнага пункту гледжання. Ёсць толькі асобныя развàжанні агульнага характару. Так, Я.Карскі пісаў: «Да многіх вывадаў, выкладзеных у прыказках, людзі прыйшлі ўжо даўным-даўно, можа, у эпоху індаеўрапейскага адзінства, затым – агульнаславянскага жыцця і ў праpускую эпоху..; асноўныя палажэнні многіх прыказак маглі быць запазычаны адным народам у другога шляхам розных зносін, але многія прыказкі з'явіліся і ў дадзенага народа» [51, с. 471]. Або яшчэ ў адной працы чытаем: «Сярод… прыказак ёсць пэўная частка такіх, якія з'яўляюцца агульнымі для ўсходніх славян – беларусаў, рускіх і ўкраінцаў. Агульнасць іх тлумачыцца наступнымі галоўнымі дзвюма ўмовамі: 1) некаторыя з іх узніклі ў агульнаўсходнеславянскую эпоху, да ўтварэння трох народнасцей і адпаведна трох моў (беларускай, рускай, украінскай); такія прыказкі і прымаўкі можна назваць агульнаўсходнеславянскімі; 2) блізкасць лексікі і граматыкі ўсходнеславянскіх моў дае магчымасць засвойваць прыказкі аднаго народа другім народам» [17, с. 22]. Гэты слушны тэзіс, аднак, не падмацоўваецца ніводным прыкладам.

Часам асобныя прыказкі атрымліваюць няправільную этымалагічна-класіфікацыйную характарыстыку. Да прыкладу, у адной працы прыводзіцца лацінская прыказка і далей гаворыцца, што яна «адпаведна папулярнай беларускай *У чужым вочку парушынку бачыць, а ў сваім бервяна не заўважае*» [81, с. 68]. Але генетычна гэта не беларуская прыказка, а біблеізм, калька з царкоўна-славянскай мовы. Яшчэ сказ з той самай працы: «Успомнім беларускае *Ці пан ці прапаў*» [81, с. 69]. Гэта прыказка не ўласна беларуская, а агульная для ўсходнеславянскіх моў.

Як часткова відаць з прыведзенага вышэй выказвання Я.Карскага, прыказкі гэтак жа, як і словы ці фразеалагізмы, адрозніваюцца адны ад другіх па часе ўзнікнення, па месцы, дзе ўпершыню склаліся, па шляхах, якімі трапілі ў нашу літаратурную мову.

Адны прыказкі ўзніклі вельмі даўно, другія значна пазней, трэція (напрыклад, *Дармовы сыр бывае толькі ў мышалоўцы; На пераправе коней не мяняюць*) – у апошнія 10–15 гадоў. Адны прыказкі (напрыклад, *Да пары збан ваду носіць*) склаліся непасрэдна ў мове беларусаў, другія

прыйшлі ў нашу мову як запазычанні або калькі ці паўкалькі з іншых моў. Крыніцай пераважнай большасці прыказак з'яўляецца жывая народная мова, адкуль яны траплялі ў творы пісьменнікаў і публіцыстаў і пад іх пяром станавіліся фактам літаратурнай мовы. Другія ж прыказкі маюць свайго аўтара або іншымі кніжнымі шляхамі папаўнялі і папаўняюць парэмійны склад мовы (як запазычанні, калькі, паўкалькі).

Прыказкі паводле іх паходжання можна падзяліць на чатыры групы: 1) спрадвечна беларускія, 2) запазычаныя з іншых моў, 3) калькі, 4) паўкалькі. Гэтыя групы ў сваю чаргу падзяляюцца на падгрупы.

## § 10. Спрадвечна беларускія прыказкі

Спрадвечна беларускімі трэба лічыць прыказкі, якія ўзніклі непасрэдна ў беларускай мове або перайшлі па спадчыне з агульнаславянскай мовы ці з'яўляюцца агульнымі для ўсходнеславянскіх моў. У гэтым асноўным ярусе парэмійных рэсурсаў вылучаюцца агульнаславянскія, агульнаўсходнеславянскія і ўласна беларускія прыказкі.

А г у л ь н а с л а в я н с к і м і  варта называць такія прыказкі, якія ўжываюцца толькі ў славянскіх мовах (усіх ці амаль усіх) і, хутчэй за ўсё, узніклі ў агульнаславянскую эпоху. Праўда, даказаць, што тая ці іншая прыказка бярэ пачатак з праславянскай эпохі, сёння немагчыма, бо не захавалася ніякіх пацвярджэнняў. Тут галоўны крытэрый – наяўнасць пэўнай прыказкі (пры магчымых нязначных разыходжаннях у форме) ва ўсіх ці амаль ва ўсіх славянскіх мовах і яе адсутнасць у неславянскіх мовах.

На жаль, прыказкі гэтай падгрупы не былі яшчэ прадметам спецыяльнага даследавання, таму прывесці якія-небудзь адпаведныя прыклады немагчыма. Відаць, можна дапусціць, што прыказка *Стары вол баразны не псуе* – агульнаславянская; яна ёсць у польскай мове (*Stary wól brzozny nie psuje*), украінскай (Старий віл борозны не псуе), рускай (*Старый конь борозды не портит*) і беларускай мовах.

А г у л ь н а ў с х о д н е с л а в я н с к і я прыказкі, вядомыя толькі ў беларускай, рускай і ўкраінскай мовах, з'явіліся, калі ўсходнія славяне жылі адасоблена ад заходніх і паўднёвых, а таксама ў пазнейшы час, калі Украіна і Беларусь аказаліся ў складзе Расіі. Папаўненне парэмійнага фонду, агульнага для трох усходнеславянскіх моў, працягвалася і ў савецкі перыяд. Скажам, параўнальна нядаўна стала ўжывацца ў гэтых трох мовах прыказка *Дармовы сыр бывае толькі ў мышалоўцы.*

Тая ці іншая прыказка спачатку магла нарадзіцца, напрыклад, у Кіеўскай Русі, а потым перайшла ў Вялікае Княства Літоўскае ці Маскоўскае княства. І наадварот. Тое самае, па месцы ўтварэння пэўнай прыказкі, адбывалася і пасля, калі беларусы, украінцы і рускія жылі ў Расійскай імперыі і Савецкім Саюзе.

Варта адзначыць, што ў многіх навучальных дапаможніках пры разглядзе лексікі паводле яе паходжання вылучаюць пласт усходнеславянскай лексікі, хоць яшчэ ў акадэмічным «Курсе сучаснай беларускай літаратурнай мовы: Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія» (Мінск, 1961) яна кваліфікавалася як агульнаўсходнеславянская [66, с. 146]. Выкарыстоўваюць таксама тэрміны «ўсходнеславянская мова»,

«старажытнаруская мова», «усходнеславянскія фразеалагізмы» і пад. Гэтыя назвы, несумненна, былі прыдуманы ў вялікадзяржаўных, шавіністычных мэтах яшчэ ў XIX ст. і адпавядалі канцэпцыі трохмоўнай калыскі, «трох плямёнаў адзінага рускага народа – велікарусаў, маларосаў і беларусаў», канцэпцыі-трыядзе: адна дзяржава (Кіеўская Русь, ці Старажытнаруская дзяржава) – адзін народ (старажытнарускі) – адна мова (старажытнаруская, ці ўсходнеславянская). Гэта «канцэпцыя аб развіцці ўсходнеславянскіх моў з адзінай калыскі – старажытнарускай мовы» набыла ў рускім мовазнаўстве, як пісаў Л.М.Шакун, «усеагульнае прызнанне; у савецкія часы ёй быў нададзены статус афіцыйнай дактрыны, улады адгарадзілі яе ад усялякай крытыкі, бо яна як найлепей адпавядала іх імкненню сцвердзіць «адвечнае адзінства» ўсходніх славянаў, зліць «ізноў» іх мовы ў адзіную – рускую мову... Адзін сучасны даследчык [В.У.Мартынаў] так выказаўся пра яе [канцэпцыю] на старонках «Нашага слова» (№ 9 за 1994 г.): «Старая вядомая канцэпцыя калыскі трох моў не вытрымлівае ніякай крытыкі. Гэта была больш палітычная канцэпцыя, чым навуковая, і нам усім добра вядома, чаму яна была папулярная» [119, с. 113].

Вернемся да агульнаўсходнеславянскіх прыказак. У гэту падгрупу ўваходзяць (па нашых падліках) не менш як 300 прыказак (з 1500). Прывядзём некалькі прыкладаў (супастаўленні падаюцца ў такой паслядоўнасці: беларуская – руская – украінская): *Адзін у полі не воін – Один в поле не воин – Один у полі не воїн; Аўчынка вырабу не варта – Овчинка выделки не стоит – Шкурка виченки не варта; Адальюцца воўку авечыя слёзкі – Отольются волку овечьи слезки – Оділлються вовкові овечі слёзки; Кошцы гулі, а мышцы слёзы – Кошке игрушки, а мышке слезки – Кішці смішки, а мишці слёзки; Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць – Пока солнце взойдет, роса глаза выест – Поки сонце зійде, роса очі виїсть; Сарока на хвасце прынесла – Сорока на хвосте принесла – Сорока на хвості принесла; Свая сарочка бліжэй да цела – Своя рубашка ближе к телу – Своя сорочка до тіла бліжча; Зняўшы галаву, па валасах не плачуць – Снявши голову, по волосам не плачут – Стявши голову, по волоссям не плачуть; Пад ляжачы камень вада не цячэ – Под лежачий камень вода не течет – Під лежачий камінь вода не тече.*

У некаторых выпадках адна і тая ж прыказка адрозніваецца ў трох блізкароднасных мовах наяўнасцю ці адсутнасцю варыянтнасці, структурнай арганізацыяй ці іншымі неістотнымі асаблівасцямі, напрыклад: *Ведае (знае) кошка, чыё сала з’ела – Знает кошка, чье мясо съела – Знае (чуе) кішка, чие сало з’їла; <Адна> паршывая (шалудзівая, паганая) авечка ўвесь статак псуе – Паршивая овца всё стадо портит – Погана овечка всю отару поганить; З ваўкамі жыць – па-воўчы (па-воўчаму, па-ваўчынаму) выць – С волками жить – по-волчьи выть – Між вовками по-вовчи и вий; Голы разбою не баіцца – Голому разбой не страшен – Голий разбою не боїться; Баба з воза – каню лягчэй (Баба з калёс – калёсам лягчэй; Баба з калёс – калёсы як чорт панёс) – Баба с воза – кобыле легче – Баба с воза – кобыле легче.*

Уласна беларускія прыказкі ўжываюцца звычайна толькі ў беларускай мове. Яны ўзніклі з утварэннем і развіццём беларускай народнасці, а затым беларускай нацыі. Гэта самы значны пласт спрадвечна беларускіх прыказак. Іх (па нашых падліках) каля 600.

Праўда, не заўсёды можна адназначна сцвярджаць, што дадзеная прыказка менавіта ўласна беларуская. Як пісаў Я.Карскі, «хто мог бы, напрыклад, падумаць, што прыказка «Ласкавае цяля дзвюх матак ссе» знаходзіць для сябе паралель у візантыйскай грэчаскай прыказцы «To kalon arnin duo mannas budzanei», дзе выступае ягня, і, значыць, міжнароджнага паходжання» [51, с. 478].

Сярод уласна беларускіх прыказак, зразумела, ёсць прыказкі ўсіх трох груп паводле парэмійнай сэнсавай класіфікацыі. Вось некалькі прыказак алегарычнага характару: *Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла; Жабрак жабраку відзён па кійку; Загляне сонца і ў наша аконца; Збродлівай кошцы хвост уцінаюць; Каб свінні рогі, не саступіла б дарогі; Кінь наперад – знойдзеш ззаду; Крывое кола на сябе гразь кідае; На чужыя вусны не накінеш хусты; Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў; Панадзіўся журавель у зялёны канапель.*

Прыклады прыказак, у якіх не ўсе кампаненты пераасэнсаваныя: *Адзін Сцяпан – заўсёды пан, а калі нястача, дзіця не плача; Ад напасці не прапасці; Багатаму чорт дзяцей калыша; Бачна па вочках, што ходзіць па ночках; Бог не цяля, бачыць круцяля; Будзе мёд і ў Сідаравай калодзе; Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзеці; Ілья ўкінуў гнілля; Не адзін Гаўрыла, што ў Полацку; Спроба – не хвароба.*

А гэта прыказкі, якія ўжываюцца толькі з прамым значэннем іх кампанентаў: *А калі што якое, дык што тут такое; Госцю гадзі, ды і сябе глядзі; Госць выпіць рад, калі гаспадар дасць прыкла́д; Добра, як сусед блізкі і пералаз нізкі; Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы; Няма горшай балесці, як хочацца есці; Хто дужшы, той і прутшы; Хто дбае, той і мае; Хто мае грошы, той і харошы; Як ем, дык глух і нем.*

У падгрупу ўласна беларускіх уваходзяць і некаторыя прыказкі з канчаткова забытай гісторыяй іх узнікнення, са страчанай унутранай формай, г.зн. этымалагічным вобразам, ці вобразным уяўленнем, якое спадарожнічае парэмійнаму значэнню. Так, у СБП [75, с. 199, 440] апісваюцца (з адпаведным ілюстрацыйным матэрыялам) прыказкі *Кепска, пане Грыгоры: што далей, то горай* (гаворыцца пры няспынным пагаршэнні якіх-небудзь жыццёвых абставін) і *Што будзе, то будзе, а Грышка на куце не будзе* (выказванне поўнай рашучасці дабіцца таго, каб хто-небудзь не ажыццявіў сваіх намераў, пацярпеў паражэнне). І.І.Насовіч [106, с. 60, 142, 187] называе гэтыя прыказкі гістарычнымі і этымалагічна звязвае іх узнікненне з Грыгорыем Загорскім, які хоць не ўмеў нават чытаць па-царкоўнаславянску, але быў прызначаны уніяцкім Полацкім архіепіскапам і жорстка ўціскаў праваслаўнае духавенства.

Да ўласна беларускіх можна адносіць і некаторыя прыказкі, агульныя для дзвюх суседніх моў, калі няма відавочных прымет, у якой з гэтых моў склалася пэўная прыказка. Напрыклад, прыказкі, агульныя для беларускай і польскай моў: *Не чапай (не будзі) ліха, калі спіць ціха (Nie budź licha, gdy śpi cicho); Якое дрэва, такі і клін, які бацька, такі і сын (Jakie drzewo, taki klin, jaki ojciec, taki syn); Не будзь салодкі, а то праглынуць, не будзь горкі, а то праплююць (Nie bądz słodki, bo cię zliża, nie bądź gorki, bo cię splują)*; прыказка, агульная для беларускай і ўкраінскай моў: *Брат любіць сястру багатую, а муж жонку здаровую (Любить брат сестру багату, а жинку здорову).* Параўн. аналагічны пункт погляду ў дачыненні да слоў, агульных для беларускай і польскай моў, выказаны ў «Гістарычнай лексікалогіі беларускай мовы» [37, с. 73].

## § 11. Прыказкі-запазычанні, калькі і паўкалькі

Прыказкі як шматкампанентныя моўныя адзінкі пераходзяць з адной мовы ў другую звычайна ў выніку калькавання. Запазычванне ж можа быць толькі з роднасных моў. У адных выпадках (часцей) парэмійныя кампаненты запазычаных прыказак цалкам супадаюць з адпаведнымі словамі свабоднага ўжывання ў абедзвюх мовах. Параўн., напрыклад: укр. *Язик до Киева доведе* – бел. *Язык да Кіева давядзе.* Або: руск. *С милым рай и в шалаше* – бел. *З мілым рай і ў шалашы.* У другіх выпадках (радзей) пры запазычванні захоўваецца пэўнае слова-кампанент з мовы, адкуль запазычана прыказка: руск. *Своя рука владыка* – бел. *Свая рука ўладыка* (параўн. і ва ўкраінскай мове: *Своя рука владика*).

У беларускай мове ёсць прыказкі-з а п а з ы ч а н н і з рускай, украінскай і польскай моў.

З рускай мовы: *Іван ківае на Пятра; Сем бед – адзін атвет; Адзін з сошкай, а сямёра з ложкай; Тэатр пачынаецца з вешалкі; Масква слязам не верыць; Рукапісы не гараць* і некаторыя іншыя. Прыказка *Рукапісы не гараць* ужываецца як сцвярджэнне, што рукапісныя тэксты (звычайна пісьменнікаў) не знікаюць бясследна, рана ці позна знаходзяць доступ да чытача. А паходзіць яна з рамана М.Булгакава «Майстар і Маргарыта» (1929–1940), дзе ў 24-м раздзеле Майстар гаворыць, што не можа паказаць напісаны ім раман аб Понціі Пілаце, бо «спаліў яго ў печы». «Жартуйце, не паверу, – адказаў Воланд, – гэтага быць не можа. Рукапісы не гараць». І праз кароткі час усе ўбачылі «тоўстую пачку рукапісаў».

З украінскай: *У агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька* (укр. *На городі бузина, а в Киеві дядько*); *Цярпі, казак, атаманам будзеш* (укр. *Терпи, козаче, отоманом будеш*). Відаць, запазычаннямі з украінскай мовы трэба лічыць і такія прыказкі: *Дажыліся казакі: ні хлеба, ні табакі; Трапіў у вараны, крычы, як яны* (ужываецца і ў варыянтах: *Убіўся ў вароны, каркай, як оны; Папаўся ў вароны, то крычы, як воны; Улез у вароны, гракай, як і оны;* параўн. ва ўкраінскай мове: *Убрався між ворони, то й каркай, як они).*

З польскай мовы: *Спяваць дарма – баліць гарла* (польск. *Śpiewać darmo – bole garlo*). Напэўна, не без польскага ўплыву замацаваліся і такія прыказкі: *Бяла не бяла, абы ваду відала; Дзе фэст, там і я ест; Злазь з даху і не псуй гонту; Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў злоце; Пайшоў па попел, а чорт ухапіў.*

К а л ь к і – гэта своеасаблівыя копіі іншамоўных прыказак, у якіх кожны кампанент перакладзены на нашу мову сэнсавым адпаведнікам. Напрыклад, *Рука руку мые* – калька з лацінскай мовы *(Manus manum lavat)*; яна ўзнікла ў выніку паслоўнага перакладу: *manus* – рука, *manum* – руку, *lavat* – мые. Дарэчы, на аснове гэтай калькі ў беларускай мове склалася – у выніку нарошчвання аднаструктурнага выказвання з суадноснымі саматычнымі кампанентамі *(рука – нага)* – прыказка *Нага нагу падпірае, рука руку абмывае.*

Сярод калек можна вылучыць невялікую групу выказаў, іншамоўнасць якіх зусім не адчуваецца, паколькі іх структурная схема запоўнена нашымі словамі. Такія выказы ўсведамляюцца як разгорнутыя метафары з яркім вобразным стрыжнем, сфармаваным на

аснове слоў канкрэтнага значэння. Напрыклад, не як чужародная, а як свая, нацыянальная ўспрымаецца згаданая вышэй прыказка *Рука руку мые.* Або такія скалькаваныя прыказкі: *Груган гругану вока не выдзеўбе; Куй жалеза, пакуль гарачае; Кропля камень крышыць; Сабака брэша, а караван ідзе.*

Значная колькасць калек (больш за 20) прыпадае на лацінскую мову: *Грошы не пахнуць (Pecunia non olet); Калі Бог захоча пакараць каго, то адбярэ ў яго розум (Quem Deus nerdere vult, dementad prius); Кожнаму сваё (Suum cuigue); Груган гругану вока не выдзеўбе (Corvus oculum corvi non cruet); Напісанае застаецца (Scripta manent); Не месца красіць чалавека, а чалавек месца (Non locus ornat hominem, sed homo locum); Пра мёртвых або добрае, або нічога (De mortuis aus bene, aut nihie); Сказана – зроблена (Dictum (as) faktum); У здаровым целе – здаровы дух (Mens sana in corpore sano)* і інш.

Да некаторых парэмійных калек з лацінскай мовы варта падаць гістарычна-этымалагічныя даведкі. Да прыкладу, *Трэцяга не дадзена (Tertium non datur)* першапачаткова ўжывалася як фармулёўка лагічнага закону аб выключэнні трэцяга, г.зн. калі дадзена два палажэнні, адно з якіх сцвярджае што-небудзь, а другое адмаўляе, то трэцяга не можа быць. Лічаць, што выказванне паходзіць ад слоў Цыцэрона *Non est tertium* (няма трэцяй магчымасці). Аўтар крыху скарочанага афарызма *Кропля камень крышыць (дзяўбе) (Cutta cavat lapidem)* – старажытнарымскі паэт Авідзій, які ў «Пасланнях з Понта» пісаў: «Кропля дзяўбе камень не сілай, а частым падзеннем». *Платон мне сябра, а ісціна даражэйшая (Amicus Plato, sed magis amica veritas)* – у такой, найбольш папулярнай, форме афарызм сустракаецца ў рамане Сервантэса «Дон Кіхот» (1615). А першакрыніцай афарызма былі словы грэчаскага філосафа Платона (427–347 гг. да н.э.): «Наследуючы мне, меней думай аб Сакраце [вучню Платона], а болей аб ісціне». Пасля ў лацінскай мове адбылася замена імя *Сакрат* імем *Платон.*

Некаторыя прыказкі з'яўляюцца калькамі з грэчаскай мовы. Так, *Усё цячэ, усё мяняецца* і *Двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма* першапачаткова належаць старажытнаму грэчаскаму філосафу Геракліту, а *Корань навукі горкі, ды плады яго салодкія* – Арыстоцелю.

Некалькі прыказак, скалькаваных з французскай мовы: *На вайне як на вайне; Усё новае – гэта добра забытае старое; Ад вялікага да смешнага адзін крок; Добра смяецца той, хто смяецца апошні; Калі б маладосць умела, а старасць магла; Лепш позна, чым ніколі; У доме павешанага не гавораць пра вяроўку; Гара нарадзіла мыш.* Апошняя прыказка склалася ў французаў на аснове лацінскай *Parturiut montes, nascetur ridiculus mus* (раджаюць горы, нараджаецца смешная мыш). Мяркуюць, што гэту прыказку ведалі і старажытныя грэкі; у прыватнасці, на яе аснове будуецца сюжэт адной байкі Эзопа, якая, аднак, не захавалася і вядомая толькі ў пераробцы рымскага байкапісца Федра («Гара, якая раджае»).

Калькі з англійскай мовы: *Добрымі намерамі выслана дарога ў пекла; Час – гэта грошы* (выказванне належыць амерыканскаму палітычнаму дзеячу В.Франкліну, які ў кнізе «Парада маладому купцу» (1748) пісаў: «Памятай, што час – грошы»).

Ёсць таксама калькі з іншых моў: *Вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна* (з нямецкай), *Кароль жа голы* (з дацкай), *Цяжка злавіць чорную кошку ў*

*цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма* (з кітайскай), *Сабака брэша, а караван ідзе* (з турэцкай).

Зрэдку сустракаюцца недакладныя калькі. Напрыклад, шырока ўжываецца прыказка *Куй жалеза, пакуль гарачае* – недакладная калька з лацінскай мовы: *Ferrum quando caler cudere quisque valet* (літаральна «Кожны ў сілах каваць жалеза, пакуль яно гарачае») або *Ласкавае (ліслівае) цяля дзвюх матак ссе* – недакладная калька з грэчаскай мовы: *To kalon arnin duo mannas budzanei* (літаральна «Ласкавае ягня дзвюх матак ссе»). *Ружы без калючак не бывае* – недакладная калька з нямецкай мовы: *Keine Rose ohne Dornen* (літаральна «Няма ружы без калючак»). Яшчэ недакладныя калькі (гл. пра іх больш падрабязна на адпаведных старонках у СБП) з лацінскай мовы: *Вочы – люстра душы; Давярай, але правярай; Канец – дзелу вянец; Маўчанне – знак згоды; Нішто чалавечае мне не чужое; У спрэчках нараджаецца ісціна;* з англійскай мовы: *Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку.*

П а ў к а л ь к і – гэта часткова пераклад, часткова запазычанне з іншай мовы. Да прыкладу, *У нагах праўды няма* – паўкалька з рускай мовы: *В ногах правды нет.* Дарэчы, гэты выказ перажыў значныя семантычныя змяненні. У старажытныя часы ён абазначаў ‘біццём па нагах наўрад ці даб’ешся праўды’ і ўзнік, як мяркуе С.Максімаў [82, с. 158, 378], у сувязі з суровай судовай практыкай: западазронага ў чымсьці падвешвалі і білі па нагах тоўстымі прутамі, дапытваліся праўды. Калі такія прыёмы следства зніклі, а значыць, і выказ *У нагах праўды няма* страціў апору на адпаведныя рэаліі, то яго форма запоўнілася новым зместам. Цяпер (і даўно ўжо) прыказка ўжываецца як запрашэнне сесці.

Больш як 10 прыказак прыйшло ў беларускую літаратурную мову як паўкалькі з рускай мовы: *Адзін раз схлусіўшы, хто табе паверыць?* (афарызм К.Пруткова *Единожды солгавши, кто тебе поверит?*); *Вялікае бачыцца на адлегласці* (руск. *Большое видится на расстоянье*); *Забаронены плод салодкі* (руск. *Запретный плод сладок*); *Не адразу Масква будавалася* (руск. *Москва не сразу строилась*); *Нішто не вечна пад месяцам* (руск. *Ничто не вечно под луною)*; *Няпрошаны госць горш за татарына* (руск. *Незваный гость хуже татарина*); *Пераможцаў не судзяць* (руск. *Победителей не судят*); *Хвалілася сініца мора падпаліць* (руск. *Хвалилась синица море поджечь)* і інш. Паўкалькай з рускай мовы з’яўляецца і прыказка *У сям’і не без выродка* (руск. *В семье не без урода*). Гэта прыказка, хутчэй за ўсё, народнага паходжання, хоць некаторыя аўтары (М.С.Ашукін, М.Г.Ашукіна, В.М.Макіенка і інш.) лічаць яе цытатай з байкі І.А.Крылова «Слон на воеводстве» (1808). Але прыказка ўжывалася ў рускай літаратуры яшчэ да згаданай байкі – у творах XVII ст., напрыклад, у п’есе П.А.Кропатава (1736–1790) «Фомушка, бабушкин внучек».

Многія прыказкі-біблеізмы з’яўляюцца паўкалькамі з царкоўнаславянскай мовы: *Шукайце і знойдзеце; Несправядлівыя шляхі Гасподнія; Не хлебам адзіным жыў чалавек; Падняўшы меч, ад мяча і згіне* і інш.

Сустракаюцца паўкалькі і з некаторых іншых моў. Напрыклад, з польскай: *Што задужа, то не здрова*; з лацінскай: *Прывычка – другая натура*; з арабскай: *Калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет ідзе да гары*; з французскай: *Апетыт прыходзіць у час яды*; з нямецкай: *Майр*

*зрабіў сваю справу, Майр можа ісці*; з англійскай: *Факты — упартая рэч*; з італьянскай: *Фініта ля камедыя.*

## § 12. Прыказкі як дэрывацыйная база фразеалагізмаў

Ва «Уводзінах» апісаны істотныя адрозненні паміж прыказкамі і фразеалагізмамі. Гэтыя моўныя адзінкі, апрача таго, супрацьпастаўляюцца і па ўзаемадэрывацыйных магчымасцях: ад прыказак утвараюцца фразеалагізмы, адваротны ж працэс немагчымы (пра адзінае выключэнне з гэтай заканамернасці гл. на с. 80). Зразумела, што крыніцай узнікнення фразеалагічных адзінак бываюць толькі прыказкі з поўнасцю ці часткова пераасэнсаванымі кампанентамі.

У рускіх і ўкраінскіх працах па фразеалогіі неаднойчы закраналася гэтае пытанне, але звычайна толькі мімаходам, адзначаліся асобныя, рэдкія выпадкі ўзнікнення фразеалагізмаў на базе прыказак. У свой час быў апублікаваны і артыкул У.Т.Шклярава пра прыказкі як крыніцу папаўнення фразеалогіі [124]. Аднак і тут разглядаюцца толькі 7 фразеалагізмаў, якія з’яўляюцца, як піша даследчык, «своеасаблівымі асколкамі прыказак». На самай жа справе такіх фразеалагізмаў у некалькі разоў больш. Па нашых падліках, у беларускай літаратурнай мове іх каля сотні.

У памянёным артыкуле У.Т.Шклярава робіцца вывад, што «прыказка становіцца крыніцай фразеалагізма толькі ў «затухаючы» перыяд свайго існавання, калі разбураецца яе ўнутраны вобраз і аслабляецца ці знікае лагічная сувязь паміж часткамі» [124, с. 76]. Але, як будзе паказана далей, гэта бывае толькі ў параўнальна рэдкіх выпадках.

Скарачэнне кампанентнага складу прыказак і ўтварэнне на іх аснове фразеалагізмаў – адзін з жывых працэсаў, што адбываюцца ў мове. Для адных прыказак працэс эліпсацыі ўжо закончаны, яны ўжываюцца толькі ў скарочаным выглядзе (як фразеалагізмы): *губа не дура, і кнігі ў рукі, абое рабое, проста з моста.* Другія ж выкарыстоўваюцца і ў скарочанай форме (як фразеалагізмы), і ў поўнай (як прыказкі). Пры гэтым у некаторых выпадках ужыванне прыказкі ў няпоўнай форме становіцца ўсё больш пашыраным для сучаснай літаратурнай мовы. Так, тут можна было б прывесці толькі 4 прыклады на ўжыванне ў мастацкіх тэкстах прыказкі *Вольнаму воля, шалёнаму поле* і 12 прыкладаў на выкарыстанне яе «абломка» *вольнаму воля.* Часцей ужываецца фразеалагізм *абяцанка-цацанка,* чым прыказка *Абяцанка – цацанка, а дурню радасць*, а таксама ўсечаныя прыказкавыя фрагменты *мора па калена* каму, *прыйдзе коза да воза* і інш.

Пра параўнальна нядаўняе ўтварэнне некаторых фразеалагізмаў сведчыць іх даволі цесная сувязь з адпаведнымі прыказкамі. Гэта сувязь выразна адчуваецца пры ўжыванні фразеалагізма *ў лес глядзець* (з прыказкі *Як ваўка ні кармі, а ён у лес глядзіць*), напрыклад, у такіх кантэкстах: «Ды і што ён, Журавінка, зробіць, калі ўсе, *як ваўкі, у лес глядзяць*?» (М.Лобан); «– Добранькі ты, камісар! Каб я *карміла* немчуру, *ваўка,* які будзе ўвесь час *у лес глядзець*!.. – абуралася Лена. – Што табе скажуць партызаны?» (І.Шамякін). Тое самае можна было б сказаць і адносна такіх параўнальна нядаўніх утварэнняў-фразеалагізмаў, як *з міру па нітцы* (з прыказкі *З міру па нітцы – голаму сарочка*), *свята на*

*вуліцы* чыёй (з прыказкі *Будзе і на нашай вуліцы свята*), *ногі кормяць* (з прыказкі *Ваўка ногі кормяць*).

Некаторыя прыказкі як бы імкнуцца да далейшага сціску і лаканічнасці, вызваляючыся ад слоў з канкрэтным зместам і ператвараючыся ў фразеалагізмы. Такім чынам узнік, напрыклад, выраз *і кнігі ў рукі* з прыказкі *Пісьменнаму і кнігі ў рукі*, якая яшчэ ў XIX ст. ужывалася ў нескарочаным выглядзе. Фразеалагізм захаваў рэштквыя з'явы, атрыманыя ад прыказкі: ён не можа рэалізавацца ў маўленні, не дапоўніўшыся назвай суб'екта ў давальным склоне (*і кнігі ў рукі* каму), неабходным элементам фразеалагізма выступае часціца *і*. Спалучальныя ж здольнасці фразеалагізма непараўнальна пашырыліся. Ён выкарыстоўваецца не толькі ў дачыненні да пісьменнага, а наогул да дасведчанага ў чым-небудзь чалавека: «Цярэбяць дамаседа, гудуць суладна ўнукі: – Расказвай казкі, дзеда, табе і кнігі ў рукі…» (В.Вітка).

Зыходнай формай фразеалагізма *ўсе шышкі валяцца* (на каго) з'яўляецца прыказка *На беднага Макара ўсе шышкі валяцца*. Як «абломак» прыказкі, фразеалагізм узяў ад яе сваю «долю» семантыкі, набыў незамкнёную структуру і ў маўленні заўсёды кіруе назоўнікам са значэннем асобы ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *на*.

Можна прывесці яшчэ некалькі прыкладаў, у якіх не ўсе кампаненты маюць фігуральнае, пераноснае значэнне. Фактычна фразеалагізмам у такіх выпадках становіцца алегарычная частка прыказкі, ад якой адпадае слова з літаральным значэннем. Сінтаксічныя ж сувязі фразеалагізма (здольнасць кіраваць пэўным склонам) застаюцца такімі ж, якія былі ў прыказцы. Так, напрыклад, узніклі фразеалагізмы *мора па калена* каму (з прыказкі *П'янаму мора па калена*), *вазіць ваду* на кім (з прыказкі *На сярдзітых ваду возяць*), *закон не пісаны* каму (з прыказкі *Дурному закон не пісаны*), *чорт дзяцей калыша* каму (з прыказкі *Багатаму чорт дзяцей калыша*). З прыказкі *Прывычка – другая натура* (паўкалька з лацінскай мовы) утварыўся фразеалагізм *другая натура*, пашырыўшы свае спалучальныя магчымасці: «Асцярожнасць робіцца другой натурай» (У.Шыцік); «Новая работа пакрысе стала другою натураю» (А.Жук).

Даволі многія фразеалагізмы ўтварыліся з прыказак у выніку адпадзення ад іх другой, паяснялънай часткі, якая фактычна з'яўляецца сродкам канкрэтызацыі, расшыфроўкі папярэдняга вобраза або паказвае на вынік таго, пра што гаворыцца ў першай прыказкавай частцы. Гэта, напрыклад, *губа не дура* ў каго, утвораны з прыказкі *Губа не дура: знае, што прымае.* У XIX ст. яна мела, як сведчыць І.І.Насовіч, вузкае значэнне: выкарыстоўвалася, з жартаўлівым адценнем, толькі пры пачастунку. Сэнс фразеалагізма, утворанага з прыказкі, значна шырэйшы: 'хто-небудзь мае добры густ, умее выбраць найлепшае'.

З прыказак у выніку іх скарачэння ўзніклі і такія фразеалагізмы: *ні села ні пала* (з прыказкі *Ні села ні пала, давай, баба, сала*), *пальца ў рот не кладзі* каму (з прыказкі *Не кладзі сабаку пальца ў рот, бо адкусіць*), *проста з моста* (з прыказкі *Проста з моста, тарчма галавой*), *прыйдзе каза да воза* (з прыказкі *Прыйдзе каза да воза, ды не будзе сена*; параўн. і такія разнавіднасці прыказкі: *Прыйдзе каза да воза прасіць сена; Прыйдзе каза да воза прасіць аброку, дастане кіем па боку; Прыйдзе каза да ваза, папросіць сена, а мы ёй пугі дамо*), *прышый кабыле хвост* (з прыказкі *Прышый кабыле хвост, а ў яе свой ёсць*),

*сабака на сене* (з прыказкі *Сабака на сене, сам не есць і другім не дае*), *як гарох пры дарозе* (з прыказкі *Жыву, як гарох пры дарозе: хто ідзе, той скубе*).

Сюды ж трэба аднесці і агульны для беларускай і ўкраінскай моў фразеалагізм *абое рабое*, які паводле паходжання з'яўляецца фрагментам рыфмаванага выказу *Абое рабое, паеў воўк абое*, дзе першапачаткова меліся на ўвазе, відаць, маладыя істоты. Форма *абое рабое* замест чаканага *абое рабыя* выклікана патрабаваннем рыфмы. Існаванне фразеалагізма ў сучасных беларускай і ўкраінскай мовах падтрымліваецца тым, што ў абедзвюх мовах паралельна з *абодва* (мужчынскага і ніякага роду) і *абедзве* (жаночага роду) ёсць зборны лічэбнік *абое*, які звычайна ўжываецца, калі гаворыцца адначасова пра асоб мужчынскага і жаночага полу.

Усе пералічаныя фразеалагізмы, утвораныя з прыказак у выніку эліпсіса іх другой часткі, захавалі нязменнасць сваіх кампанентаў і звычайна той жа сэнс, які ім быў уласцівы ў складзе прыказкі. Аднак сустракаецца нямала фразеалагізмаў, якія, адарваўшыся ад прыказак, набылі зменнасць свайго граматычна галоўнага кампанента і рэалізуюць у маўленні многія яго формы. Калі такі фразеалагізм мае структуру дзеяслоўнага словазлучэння, то яго галоўны кампанент-дзеяслоў можа ўжывацца ў розных асобах абодвух трыванняў. Так, дзеяслоў *узяцца* ў фразеалагізме *ўзяцца за гуж* (з прыказкі *Узяўся за гуж – не кажы, што не дуж*) змяняецца па асобах і ліках, рэалізуе катэгорыі часу, трывання. Без граматычных абмежаванняў уключаюцца ў кантэкст фразеалагізмы *ваду ў ступе таўчы* (з прыказкі *Ваду ў ступе таўчы – вада і будзе*), *паспець з козамі на торг* (з прыказкі *Паспееш з козамі на торг: і коз прадасі, і грошы праясі*) і інш.

Адзначаючы нярэдкія выпадкі фармавання фразеалагізмаў у выніку такога дэрывацыйнага працэсу, як адпадзенне паяснялнай прыказкавай часткі, варта мець на ўвазе наступнае. Іншы раз у парэміялагічных зборніках можна знайсці два варыянты адной і той жа прыказкі – у шырокай і вузкай форме. Супастаўленне дзвюх такіх разнавіднасцей не заўсёды дазваляе гаварыць пра эліпсацыю, скарачэнне прыказкі. У маўленні нярэдка адбываецца і адваротная з'ява – працэс «нарашчэння», разгортвання прыказкі, рух ад меншага кантэксту да большага. Так, прыказка *Рука руку мые* пададзена ў працы М.Федароўскага «Люд беларускі на Русі Літоўскай» і ў такой форме: *Рука руку мые, каб абедзве былі белы.* Гэта – дапоўнены варыянт, вынік разгортвання прыказкі, якая паводле паходжання з'яўляецца калькай з лацінскай мовы (*Manas manum lavat*). У некаторых працах па ўкраінскай фразеалогіі сцвярджаецца, што фразеалагізм *не всі дома* склаўся ў выніку скарачэння прыказак *Не всі дома – половина поїхали; У нього не всі дома – поїхали по курай.* Аднак тое, што пададзеныя тут кантэксты не першасныя, а другасныя, пацвярджаецца такім моўным фактам, як фіксацыя гэтага выразу менавіта ў кароткай форме ў польскіх помніках яшчэ ў XVI ст. (у форме *nie wszyscy w domu*) [85, с. 120]. Адсюль можна меркаваць, што бел. *не ўсе дома* (параўн. рус. *не все дома*, чэш. *nemit usech doma*) – гэта паўкалька з польскай мовы.

Апрача апісаных вышэй шляхоў узнікнення фразеалагізмаў ёсць і такі, як апушчэнне першай часткі прыказкі і фразеалагізацыя другой часткі. Так, фразеалагізм *у лес не збяжыць (не ўцячэ)* утварыўся з

прыказкі *Работа не воўк, у лес не збяжыць (не ўцячэ).* Парадак кампанентаў і сінтаксічныя сувязі фразеалагізма (ужываецца пры дзейніку са значэннем абстрактнага прадмета) засталіся такімі, якія былі і ў прыказцы. Калі ў выніку такога дэрэвацыйнага працэсу ўтвараецца дзеяслоўны фразеалагізм, то ён звычайна свабодна рэалізуе розныя формы свайго граматычна галоўнага кампанента. Гэта адносіцца, напрыклад, да такіх фразеалагізмаў: *араць дарогі* (з прыказкі *Каб свінні рогі, арала б дарогі*), *за саломінку ўхапіцца* (з прыказкі *Хто топіцца – той за саломінку ўхопіцца*), *з'есці пуд хлеба* (з прыказкі *Каб пазнаць чалавека, трэба з ім пуд солі з'есці*), *неба капціць* (з прыказкі *Без працы жыць – неба капціць*). Аналагічна ўзніклі і яшчэ некаторыя фразеалагізмы: *раса вочы выядае* каму (з прыказкі *Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць*), *свая вош укусіць* каго (з прыказкі *Тады чалавек памысліць мусіць, як свая вош укусіць*), *як чорт панёс* каго, што (з прыказкі *Баба з калёс, а каня як чорт панёс*), *быллём зарасло* (з прыказкі *Калісьці было, ды быллём зарасло*).

Сярод іншых прыказак, якім абавязаны сваім узнікненнем фразеалагізмы, можна выдзеліць тры групы. Адны прыказкі расшчапіліся на дзве часткі, і кожная з іх ужываецца самастойна як фразеалагізм. Да прыкладу, з прыказкі *Старога вераб'я на мякіне не правядзеш*, якая абазначае 'вопытнага чалавека не ашукаеш', утварыліся фразеалагізмы *стары верабей* і *на мякіне не правядзеш* каго. Адпаведна і значэнне прыказкі размеркавалася паміж двума яе фрагментамі ('вопытны чалавек' і 'не перахітрыш, не абдурыш каго-небудзь'). Два фразеалагізмы (*сініца ў руках* і *жураўель у небе*) дала прыказка *Лепш сініца ў руках, чым жураўель у небе.* Параўн. таксама прыказкавыя ўтварэнні *заварваць кашу* і *расхлёбваць кашу* (з прыказкі *Сам заварыў кашу, сам і расхлёбвай*).

Другую групу складаюць прыказкі, ад якіх адарваўся толькі трапны вобраз з некалькіх слоў і стаў фразеалагізмам. Так, «абломкам» прыказкі *Мая хата з краю, нічога не знаю* з'яўляецца фразеалагізм *хата з краю*, які заўсёды выступае ў функцыі галоўнага члена безасабовага сказа і сваё значэнне 'каго-небудзь зусім не датычыцца, штосьці не мае ніякіх адносін да каго-небудзь' рэалізуе, ужываючыся ў спалучэнні з тым ці іншым прыналежным займеннікам: *мая хата з краю* (А.Макаёнак), *твая хата з краю* (К.Крапіва), *яго хата з краю* (А.Бачыла), *яе хата з краю* (І.Навуменка), *наша хата з краю* (І.Гурскі), *ваша хата з краю* (А.Куляшоў), *іх хата з краю* (Х.Шынклер), *іхняя хата з краю* (М.Лынькоў), *хата з краю* (М.Лужанін).

Пералічым іншыя фразеалагізмы, утвораныя ў выніку выдзялення з прыказак яе трапнага вобраза часцей за ўсё ў форме дзеяслоўнага ці назоўнікавага словазлучэння: *абрасці мохам* (з прыказкі *На адным месцы і камень мохам абрастае*), *адрэзаная луста (скібка, кавалак)* (з прыказкі *Адрэзанае лусты не прылепіш*), *гром грымнуў* (з прыказкі *Пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца*), *дабры бабры* (з прыказкі *Усе бабры дабры, адна выдра ліхая*; або: *Усе бабры дабры, адна выдра – ліха яе бяры*), *далёка не заедзеш* на чым (з прыказкі *На лечаным кані далёка не заедзеш*), *калоць вочы* каму (з прыказкі *Праўда вочы коле*), *капаць яму* каму (з прыказкі *Не капай другому яму, сам увалішся*), *крывое кола* (з прыказкі *Крывое кола на сябе гразь кідае*), *куку ў руку* (з прыказкі *Схавай тры грошы ў руку на куку*), *ліслівае цяля*

(з прыказкі *Ліслівае цяля дзве маткі ссе*), *пужаная варона* (з прыказкі *Пужаная варона куста баіцца*), *ранняя птушка* (з прыказкі *Ранняя птушка зубкі цярэбіць, а позняя вочкі працірае*), *сабаку з'еў* на чым, у чым (з прыказкі *Сабаку з'еў, а хвастом удавіўся*), *сыр-бор разгарэўся* (з прыказкі *Ад іскры сыр-бор загарэўся*), *фіга на талерцы* (з прыказкі *Той жа кукіш (фіга), толькі на талерцы*), *цягнуць ваду на сваё кола* (з прыказкі *Усякі чорт на сваё кола ваду цягне*; або: *Кожны млын на сваё кола ваду цягне*), *чужымі рукамі жар заграбаць* (з прыказкі *Чужымі рукамі добра жар заграбаць*).

У трэцюю групу ўваходзяць прыказкі, вобразная аснова якіх стала дэрывацыйнай базай фразеалагізмаў. Скажам, фразеалагізм *кусаць сабе локці* сфармаваўся на вобразнай аснове прыказкі *Блізка локаць, ды не ўкусіш*, як бы насуперак яе літаральнаму сэнсу. Гэтак жа склаліся фразеалагізмы *злавіць двух зайцаў* і *забіваць (забіць) двух зайцаў* на вобразнай аснове прыказкі *За двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш.* Дарэчы, з гэтай жа прыказкі ў выніку адпадзення яе другой часткі ўтварыўся фразеалагізм *гнацца (пагнацца) за двума зайцамі.* Вытокам фразеалагізма *не ў свае сані садзіцца (сесці)* стала прыказка *Не ў свае сані не садзіся;* з адмоўнай канструкцыі, структурна арганізаванай як абагульнена-асабовы сказ, атрымалася сцвярджальнае словазлучэнне незамкнёнай структуры і шырокага дыяпазону спалучальнасці. Аналагічна ўтварыліся фразеалагізмы *лезці са сваім статутам у чужы манастыр, размахваць (махаць, памахаць) пасля бойкі кулакамі* адпаведна на аснове прыказак *У чужы манастыр са сваім статутам не ходзяць; Пасля бойкі кулакамі не размахваюць.* На вобразнай аснове прыказак склаліся і яшчэ шмат якія фразеалагізмы, напрыклад: *выбіваць (выбіць) клін клінам* (з прыказкі *Клін клінам выбіваюць*), *дзяліць шкуру незабітага мядзведзя* (з прыказкі *Не забіўшы мядзведзя, шкуры не прадавай*), *адальюцца слёзы* каму чые (з прыказкі *Адальюцца воўку авечыя слёзы*), *як нітка за іголкай* (з прыказкі *Куды іголка, туды і нітка*).

Прыказкі ўсіх трох груп, даўшы жыццё фразеалагізмам, не перастаюць ужывацца і самастойна.

Як вядома, ёсць нямала фразеалагізмаў, якія прыйшлі ў беларускую літаратурную мову як запазычанні, калькі ці паўкалькі з іншых моў, а ў гэтых мовах утварыліся рознымі шляхамі, у тым ліку і на базе прыказак. Так, з рускай мовы запазычаны фразеалагізмы *з царом у галаве* (з прыказкі *Свой ум – царь в голове), і нашым і вашым* (з прыказкі *И нашим и вашим за копейку спляшем), цяп-ляп* (з прыказкі *Тяп-ляп да и корабль*). Паўкалькамі з рускай мовы з'яўляюцца наступныя фразеалагізмы прыказкавага паходжання: *забаронены плод* (з прыказкі *Запретный плод сладок), заднім розумам моцны* (з прыказкі *Мужик задним умом крепок), повен рот* (з прыказкі *Хлопот полон рот, а перекусить нечего), тры карабы* (з прыказкі *Баба из города привезла вестей три короба*), *цуд у рэшаце* (з прыказкі *Чудеса в решете: дыр много, а вылезти некуда*), *чым чорт не жартуе* (з прыказкі *Чем чорт не шутит, пока бог спит).*

Далей размова пойдзе пра тры прыказкі, якія, відаць, можна лічыць анамальнай з'явай, выключэннем з правіла. Маючы абсалютна аднолькавы кампанентны склад, яны ў адных выпадках выступаюць як прыказка з усімі ўласцівымі ёй рысамі, у другіх – як звычайны

фразеалагізм. І гэта адбываецца таму, што яны развілі ў сабе спалучальныя магчымасці, набылі здольнасць быць структурным элементам сказа, уступаць у пэўныя сувязі і адносіны са словамі кантэксту.

Адна з гэтых прыказак – *Язык без касцей.* Яе сэнсавы змест – 'нагаварыць можна ўсяго, што хочаш (кажуць, калі не надаюць значэння якім-небудзь чуткам, чыёй-небудзь балбатні)': «Ці мала што выдумаць ці сказаць людзі могуць? *Язык без касцей…*» (Б.Сачанка). Калі гэты выказ рэалізуецца ў строга акрэсленай сінтаксічнай канструкцыі, кіруючы залежным словам (лагічным дзейнікам) і патрабуючы ад яго абавязковай, прымусовай сувязі «справа» – роднага склону з прыназоўнікам *у* (*язык без касцей* у каго), то выказ перастае быць прыказкай, становіцца фразеалагізмам і ўжо абазначае 'хто-небудзь вельмі балбатлівы, гаворыць лішняе'. Два прыклады: «У Юлі *язык без касцей…* псуе нервы і сабе, і яму, Цімоху» (І.Капыловіч); «Палажка ўздыхнула: – У каго *язык без касцей*, хай што хоча меле…» («Полымя»).

Такая самая метамарфоза адбываецца і з выказам *Сэрца не камень*. Ён гаворыцца ў якасці прыказкі, калі хто-небудзь ідзе на ўступкі, адклікаецца на чые-небудзь просьбы, пачуцці: «Сын падаў бацьку руку, *сэрца не камень* – стары працягнуў сваю» (І.Гурскі). Набыўшы канструкцыйна абмежаванае значэнне (*сэрца не камень* у каго, чыё), прыказка ператвараецца ў фразеалагізм з сэнсавым зместам 'хто-небудзь перастае супраціўляцца, уступае чыёй-небудзь просьбе': «*Сэрца* ў Валодзі *не камень*, павінен зразумець, дзіця ж не павінна сірацінаю гадавацца, калі бацька жывы» (І.Капыловіч); «Лепш ідзі к бацькам сваім: *сэрца* бацькава *не камень*, бацькаў хлеб смачней віна» (Я.Колас).

Трэцяя прыказка – *Найшла каса на камень* 'адзін аднаму ні ў чым не хоча саступіць': «Некаторыя з хлопцаў смяяліся, другія мнагазначна пераміргваліся – *найшла каса на камень* – хто каго?» (М.Лынькоў). Параўн. ужыванне аманімічнага фразеалагізма *найшла каса на камень* у каго 'сутыкнуліся розныя непрымірымыя погляды, інтарэсы, характары і пад.': «Вось добра, што ўсе сабраліся, бо ў нас тут *найшла каса на камень*» (П.Броўка); «*Найшла* ў вас *каса на камень*» (І.Кірэйчык).

Калі цяпер супаставіць прыказку *Кароль жа голы* з вытворным ад яе назоўнікавым фразеалагізмам *голы кароль*, то тут ужо бачым пераўтварэнні некалькі іншага характару. Па-першае, прыказка крыху адрозніваецца ад свайго «вытворнага» кампанентным складам, па-другое, фразеалагізм мае не канструкцыйна абмежаванае, а сінтаксічна абумоўленае значэнне, іншую сінтаксічную будову, іншы парадак кампанентаў. Гэта прыказка паводле паходжання – калька з дацкай мовы, а па сферы першапачатковага ўжывання – крылаты выраз з казкі Х.К.Андэрсэна «Новае ўбранне караля» (1837). У ёй расказваецца, як два ашуканцы ўзяліся выткаць для караля найтанчэйшую тканіну і сшыць яму адзенне, якое не маглі бачыць толькі дурні і тыя, хто не адпавядае сваёй пасадзе, прызначэнню. Падмануты кароль у гэтым «адзенні», а фактычна галышом ішоў па вуліцы. Усе, баючыся апынуцца ў дурнях, захапляліся хараством каралеўскага «адзення». І толькі адзін хлопчык закрычаў: «А кароль жа голы!» Усім стала зразумела, што яны абдураныя. Прыказка *Кароль жа голы*, структурна арганізаваная як прэдыкатыўнае словазлучэнне, пераўтвараецца ў назоўнікавы фразеалагізм з найбольш

тыповай для такіх выразаў структурай «прыметнік + назоўнік» (*голы кароль*) і ўжо выражае не суджэнне, а паняцце, абазначаючы ‘пасрэдны чалавек з прэтэнзіяй на аўтарытэт ці з перабольшаным аўтарытэтам’: «Уяўляеце вы сабе сімпатычнага брандахлыста, фантазёра, які проста *голы кароль*?» (У.Караткевіч).

Несумненна, гэтыя аманімічныя моўныя адзінкі павінны кваліфікавацца дыферэнцыявана і апісвацца асобна ў слоўніках парэміяграфічных (як прыказкі) і ў фразеалагічных (як фразеалагізмы).

Звернем цяпер увагу на працэс, адваротны двум папярэднім, а менавіта фармаванне прыказкі на базе фразеалагізма. Праўда, перад намі, відаць, адзінкавы прыклад. Маецца на ўвазе прыказка *Іван ківае на Пятра <а Пётр на Івана>.* Гэта запазычанне з рускай мовы развілося на аснове фразеалагізма *ківаць на Пятра*, якое па сферы першапачатковага ўжывання з’яўляецца крылатым выразам з байкі І.А.Крылова «Люстэрка і Малпа». У баечнай маралі гаворыцца (пераклад М.Клімковіча): «Што Клімыч рукі грэць умее, – людзі знаюць; пра хабар Клімычу чытаюць, а ён украдкаю ківае на Пятра». Фразеалагізм абазначае ‘звальваць віну на іншага’: «Я не *ківаю на Пятра*, я толькі гавару, што і мы не ў бога цялятка ўкралі» (Я.Брыль). Сэнсавы ж змест прыказкі, узніклай у выніку нарошчвання кампанентнага складу, разгортвання фразеалагізма «ад меншага – да большага» – ‘адзін звальвае сваю віну на другога’: «Я ваенны чалавек, у нас на першым плане загад і яго выкананне... А тут *Іван ківае на Пятра*...» (А.Кажадуб); «Увядзенне мэрства таксама накіравана на ліквідацыю звыклага нашаму вуху і вобразу жыцця: *Іван ківае на Пятра, а Пётр на Івана*» («Звязда»).

## *Раздзел 3*
## ГРАМАТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ПРЫКАЗАК

### § 13. Марфалагічныя асаблівасці прыказак

Будаўнічым матэрыялам для прыказак выступаюць усе часціны мовы, за выключэннем выклічнікаў. Толькі зрэдку прыказкі складаюцца з двух кампанентаў (12 прыказак з 1500 прааналізаваных): *Госць – нявольнік; Кожнаму сваё; Малое – дурное; Напісанае застаецца; Пажывём – пабачым; Сказана – зроблена; Сцерпіцца – злюбіцца; Хата рагата* і інш. Часцей сустракаюцца трохкампанентныя прыказкі (іх 81); напрыклад: *Бацькоў не выбіраюць; Голад не цётка; Даганяючы не нацалуешся; Добрае далёка чуваць; Жывому найме жывое; Можа надвое варожа.* Колькасць слоў-кампанентаў у астатніх прыказках значна большая – ад 4 да 18: *Кашы маслам не сапсуеш; І баран бы касіў, каб хто касу насіў; Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ; Як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як беднячок – толькі поп ды дзячок; Да дваццаці пяці хлопец сам жэніцца, а з дваццаці пяці да трыццаці людзі, а пасля сам чорт не ажэніць.*

Агульная ж колькасць лексічных адзінак, якія, з рознай ступенню актыўнасці, удзельнічаюць ва ўтварэнні прыказак, невялікая. У 1500 прыказках выкарыстана (з далёка не аднолькавай частотнасцю) 2596 лексічных адзінак з ліку паўназначных і службовых часцін мовы. Прычым прыназоўнікі, злучнікі, часціцы – колькасна невялікія лексіка-

граматычныя класы – з'яўляюцца найбольш актыўнымі будаўнічымі элементамі прыказак. Так, часціца *не*, прыназоўнік *у*, злучнік *і* ўжыты адпаведна ў 527, 214, 314 прыказках. Іншымі найбольш частотнымі выступаюць шматлікія назоўнікі. Напрыклад, кампанент *бог* ёсць у 62 прыказках, *чорт* – у 44, *конь* – у 39, *хлеб* – у 27 прыказках. Яшчэ некалькі высокачастотных назоўнікаў: *чалавек, баба, госць, жонка; галава, рука, нага, рот, язык, вока; сабака, карова, свіння, воўк, рыба, рак.* Даволі часта сустракаюцца ў шматлікіх прыказках некаторыя прыметнікі *(чужы, стары)*, займеннікі *(той, свой)*, прыслоўі *(лепш, там)*. Да ліку высокачастотных адносяцца і многія дзеясловы. Так, дзеяслоў *быць* ужыты ў 94 прыказках. Некаторыя іншыя найбольш частотныя дзеясловы: *бачыць, баяцца, браць, ведаць, глядзець, даваць, даць, есці, з'есці, ехаць, жыць, зрабіць, рабіць, ісці, казаць, сказаць, любіць, мець, піць, хадзіць.* Варта сказаць, што амаль усе пералічаныя вышэй словы з'яўляюцца такімі ж высокачастотнымі не толькі ў прыказках, а і ў іншых функцыянальна-маўленчых сферах. Напрыклад, у «Частотным слоўніку беларускай мовы» [80] *і, у, не, быць* – у першай дзесятцы частотных слоў, а *рука, вока, галава, чалавек, хата, сказаць, ведаць, ісці, казаць, бачыць, глядзець, рабіць* – у першай сотні.

Зазначым, дарэчы, што ў некаторых мовазнаўчых працах, непасрэдна звязаных з даследаваннем прыказак, прыводзяцца колькасныя паказчыкі слоў, але без уліку частотнасці іх выкарыстання. Г.В.Параскевіч піша, што «назоўнік з'яўляецца граматычным і семантычным ядром большасці беларускіх прыказак: 29 % слоў у прыказках – назоўнікі... Толькі каля 13 % прыказак не ўключаюць у свой склад назоўніка» [89, с. 3–4]. Другі аўтар аддае перавагу іншаму парэмійнаму кампаненту: «Дзеяслоў з'яўляецца галоўным структурным элементам ва ўтварэнні большасці беларускіх прыказак... Каля 70 % усіх прыказак уключаюць у свой склад розныя дзеяслоўныя формы» [92, с. 4, 21].

Але, па-першае, якую б прыказку мы ні ўзялі, немагчыма вызначыць, дзе ў яе «граматычнае і семантычнае ядро» або «галоўны структурны элемент». Усе яе кампаненты ў аднолькавай меры ўдзельнічаюць у стварэнні і яе граматычнай структуры, і сэнсавага зместу. Па-другое, тое, што назоўнікі і дзеясловы пераважаюць у прыказках, – гэта не якая-небудзь асаблівасць прыказак, а з'ява, тыповая амаль для любога маўлення. Справа ў тым, што больш за палову слоў, змешчаных у акадэмічных слоўніках, прыпадае на назоўнікі. Другое месца займаюць прыметнікі, трэцяе – дзеясловы (гл. пра гэта больш падрабязна ў нашай працы [72, с. 166–172]. Гэта – колькасныя паказчыкі слоў у *мове.* Характэрна, што яны значна разыходзяцца з паказчыкамі слоў у *маўленні* – мове ў дзеянні, у працэсе зносін. У рэальным ужыванні мовы значную актыўнасць і высокую частотнасць набываюць колькасна рэдкія ў слоўніку службовыя часціны мовы, а таксама займеннікі, прыслоўі. Назоўнікі ж і ў мове, і ў маўленні першынствуюць. Другое месца ў маўленні займаюць ужо дзеясловы, а не прыметнікі, якія ў слоўніку саступаюць толькі назоўнікам, а ў маўленні аказваюцца на пятым месцы (пасля назоўнікаў, дзеясловаў, прыслоўяў і займеннікаў).

Прыказкі, як ужо адзначалася неаднойчы, маюць структуру сказа, характарызуюцца сэнсавай і інтанацыйнай закончанасцю. Здавалася б,

усе іх зменныя (на ўзроўні слова) кампаненты не могуць мець іншыя граматычныя формы, апрача той адзінай, якая замацавалася за імі. Аднак для некаторых прыказак, параўнальна нямногіх, характэрна зменнасць асобнага кампанента-слова, праўда, з абмежаванай сістэмай формаў. Пад такую зменнасць найчасцей падпадае дзеяслоўны кампанент.

У прыказцы *Будзе і на нашай вуліцы свята* першы кампанент вар'іруецца ў межах нормы, замяняецца дзеясловам *прыйдзе*. У пэўнай маўленчай сітуацыі ён здольны атрымліваць часавую актуалізацыю, ужывацца ў іншых часавых формах – цяперашняга і прошлага часу: «Прыйшла пара падымаць Беларусь, як некалі казаў Карусь Каганец. *Прыходзіць* свята і на нашую вуліцу...» (С.Александровіч); «Увесь дзень з вуснаў у Міхаіла Сцяпанавіча Былінскага не сыходзіла вясёлая ўсмешка. *Прыйшло* і на нашу вуліцу свята» (І.Гурскі). І гэта не індывідуальна-аўтарская, а звычайная, нарматыўная рэалізацыя прыказкі, якая ў аналагічных формах дзеяслоўнага кампанента фіксуецца і ў зборніках беларускіх прыказак. Тое самае можна сказаць і пра прыказку *Будзе (прыйдзе) і на крапіву мароз.* Яе дзеяслоўны кампанент *(прыйдзе)* ужываецца, калі гэтага патрабуе сітуацыя маўлення, і ў форме прошлага часу: «А дзеці гатовы пайсці да яго... Вялікая адзінота чакае цябе, Пёкла... *Прыйшоў* і на крапіву мароз» (Л.Левановіч).

Найчасцей зменнасць кампанента адбываецца ў межах сітуацыйных прыказак (гл. § 7). Часавая, лікавая, а ў прошлым часе і родавая актуалізацыя кампанента звычайна назіраецца ў прыказках з якаснай ацэнкай каго-небудзь. У іх амаль заўсёды адсутнічае, умоўна кажучы, дзейнік. Яны адрасуюцца іншаму суразмоўніку ці таму, пра каго гавораць. Так, прыказкай *Пайшоў па вайну, а вярнуўся стрыжаны* ацэньваюць дзеянні і стан таго, хто, імкнучыся атрымаць якую-небудзь выгаду, трапіў у бяду, непрыемнасць. Кампанент *пайшоў*, як паказана ў СБП (с. 304–305), рэалізуе формы жаночага роду *(пайшла)*, множнага ліку *(пайшлі)*, замяняецца формамі будучага часу *(пойдзе, пойдзеш)*. Адпаведныя змены адбываюцца і з другім дзеяслоўным кампанентам *(вярнулася, вернецца* і інш.).

Прыказка *І за лучынку знойдзе прычынку* гаворыцца з незадавальненнем пра таго, хто прыдзіраецца да каго-небудзь. Тут *знойдзе* хоць і мае форму будучага часу, але абазначае дзеянне, безадноснае да моманту гутаркі, якое адбывалася ў мінулым, праходзіць цяпер і будзе працягвацца далей. У пэўнай сітуацыі дзеяслоў можа замяняцца формай прошлага часу: «Усяго было. І цешча за лучынку *знаходзіла* прычынку, і ў Надзі субота часта заскоквала раней за пятніцу» (М.Гроднеў). Дарэчы, у І.І.Насовіча [106, с. 45] прыказка пададзена ў форме: *За лучынку можна найці прычынку.*

Дзеяслоўны кампанент прыказкі *Ад сціпласці не паміраюць* звычайна ўжываецца ў форме 2-й і 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку *(не памрэш, не памрэ, не памраце)*. Калі ў прыказцы ёсць два дзеясловы, то ў абодвух адбываюцца пэўныя змяненні: *Працуюць (-еш) і смаку не чуюць (-еш); Адну карову мае (-ю) і тую за хвост падымае (-ю); Вырас (выраслі), а розуму не вынес (не вынеслі). Злазь(-це) з даху, не псуй(-це) гонту; Прыйдзе (прыйшоў) Ілья – наробіць (нарабіў) гнілля; Прыйшлі (прыйшоў) у маю хату і б'юць (б'е) майго тату.* Параўн. больш складаныя змяненні дзеясловаў у прыказцы *У чужым воку саломку*

*(сучок) бачым (-ыш, -аць, убачыў), а ў сваім і бервяна не заўважаем (-еш, -юць).* Калі другі кампанент застыў у неазначальнай форме, то, зразумела, на яе не ўплываюць змяненні першага дзеяслова: *Купіў не купіў (куплю не куплю, купіш не купіш, купім не купім), а патаргавацца можна.* Другі дзеяслоўны кампанент не змяняецца і ў некаторых іншых выпадках, абумоўленых сітуацыяй маўлення: *Любіш (любіў) катацца, любі і саначкі вазіць.*

Прыказка *За што купіў, за тое і прадаю* абазначае ‘паўтараю тое, што чуў’ і гаворыцца, калі не ручаюцца за дакладнасць паведамлення. У ёй дзеясловы не супадаюць у формах часу, але ў пэўнай маўленчай сітуацыі такое супадзенне абавязковае. Да таго ж дзеяслоў *купіў* рэалізуецца і ў форме жаночага роду: *За што купіў (купіла), за тое і прадаю (прадаў, прадала).* Яшчэ адзін прыклад у дадатак да тых, што ёсць у СПБ (с. 158): «– Цыц! Ты пры сваім розуме ці што? «Грушы тваёй работа». Мы з ёй разам, калі хочаш знаць, шукаем злачынцу... – Ну, тады не ведаю... За што купіў, за тое і прадаў. Людзі і так баюць. Не сам жа прыдумаў» (В.Ткачоў).

Разнастайныя змяненні дзеяслоўнага кампанента можна бачыць і яшчэ ў некалькіх прыказках: *Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў (не пераскочыш); Што напішаш (напісана) пяром, не высечаш тапаром; Давялося свінні на неба глядзець (глянуць); Слова не верабей, выпусціў (выпусціш, вылеціць, вылецела) – не зловіш; Пад ляжачы камень вада не цячэ (не пацячэ).*

Прыказка *Першы блін камяком* ‘пачатак якой-небудзь справы бывае няўдалым’, у адрозненне ад іншых, пададзеных вышэй, бездзеяслоўная. Але ў маўленні яна нярэдка патрабуе часавага ўдакладнення свайго сэнсавага зместу, чым і выклікаецца паяўленне ў яе складзе дзеясловаў *выйшаў (выйдзе), будзе, атрымаўся (атрымаецца).* Адзін прыклад, дадатковы да тых, што ёсць у СПБ (с. 320): «Нягледзячы на тое што пра першы беларускі «Дзень паэзіі» неаднолькавыя думкі і меркаванні, для большасці, хто любіць і паважае роднае паэтычнае слова, усё-такі ясна, што, насуперак прыказцы, першы блін не выйшаў камяком» (Н.Гілевіч).

Падобнае назіраем і пры ўжыванні прыказкі *І воўк сыты і козы цэлыя* (ёй уласціва марфалагічная варыянтнасць: другі і трэці кампаненты выкарыстоўваюцца і ў множным ліку: *ваўкі сытыя*). Дадатковым кампанентам пры яе рэалізацыі ў маўленні нярэдка выступае дзеяслоў *будзе (быў)* або *аставаліся.* Некалькі прыкладаў: «[Грышка:] Злажыце [грошы] у кучу ды паднясіце найяснейшай кароне. Дык ён зжаліцца над вамі і дзела кончыць; вось як яны, людзі судовыя, умеюць: і воўк *будзе* сыты, і козы цэлы» (В.Дунін-Марцінкевіч); «[Кацярынка:] Вось лепей паміріцеся, каб воўк *быў* сыт і каза цэла» (Я.Купала); «[Федзя:] Трэба рабіць так, каб *быў* і воўк сыты – і козы цэлыя» (І.Козел); «У нашай справе, на жаль, не бывае так, каб і козы *аставаліся* цэлыя і ваўкі *былі* сытыя» (У.Карпаў).

Сустрэўся адзіны выпадак лікавай актуалізацыі прадмета – назоўнікавага кампанента *яйка* ў прыказцы *Яйка курыцу вучыць* (яна абазначае ‘малады, нявопытны вучыць старэйшага, больш вопытнага’). Гэта бывае тады, калі прыказка гаворыцца не пра адну асобу, якая павучае каго-небудзь, а пра некалькіх: «[Цярэшка:] А знаеце што,

дзеванькі? Ідзіце к чорту лысаму. Сабраліся тут... *Яйкі* курыцу вучаць!» (А.Макаёнак); «Ай-яй-яй, *яйкі* курыцу вучаць. Ну і ну!» (А.Асіпенка).

Ёсць прыказка *Малады – дурны.* Яна гаворыцца як прабачэнне дурасiлівасці дзіцяці ці маладога чалавека. Калі ж у падобнай маўленчай сітуацыі гаворка ідзе пра некалькіх маладых людзей, то і першы кампанент (апрадмечаны прыметнік), і другі (прыметнік) набываюць форму множнага ліку: «Адна толькі маці была за Марыю. Для яе ўсе дочкі харошыя. А што счэпяцца калі сварыцца з-за хлопцаў, казала: «Маладыя – дурныя» (М.Гроднеў).

Варта асобна адзначыць актуалізацыю займеннікавага кампанента, яго замену іншым займеннікам або тым самым, але ў другіх формах, як таго вымагае сітуацыя маўлення. Гэта з’ява мае месца ў такіх прыказках: *Каму па каму, а каму (мне, нам) два камы; Нішто чалавечае мне (ім* і інш.*) не чужое; Да цябе (да вас) не п’юць, не кажы (-ыце) здароў будзь; Вось табе (вам) хамут і дуга, я табе (вам) больш не слуга; Сам (сама, самі) заварыў (-ла, -лі) кашу, сам (сама, самі) і расхлёбвай(-це).* Гл. адпаведныя ілюстрацыі ў СБП (с. 194, 291, 120, 85, 344).

Ва ўсіх іншых прыказках (з ліку прааналізаваных 1500) ніякія змяненні ці замены кампанентаў (на ўзроўні нормы) не адбываюцца. Выключэннем з’яўляюцца індывідуальна-аўтарскія прыёмы творчага, эфектыўнага выкарыстання прыказак, пра што гаворка будзе весціся ў 4 раздзеле. У гэтай сувязі дзіўным, надуманым, нічым не апраўданым выглядае практыкаванне 249, пададзенае ў падручніку па беларускай мове для 10 класа, з заданнем: «Прачытайце прыказкі, замяняючы формы дзеясловаў 2-й асобы адзіночнага ліку формамі 2-й асобы множнага ліку. Запішыце дзеясловы парамі, растлумачце правапіс канчаткаў». Далей змяшчаюцца прыказкі: *Шыла ў мяшку не ўтоіш; Маслам кашу не сапсуеш; З песні слова не выкінеш; З кім павядзешся, ад таго набрэшся; Паспяшыш – людзей насмяшыш; Вышэй галавы не падскочыш; За двума зайцамі пагонішся, ні аднаго не зловіш* [36, с. 175]. Гэта практыкаванне – недапушчальны эксперымент над прыказкамі, у якіх усе кампаненты застылі ў пэўнай марфалагічнай форме і не могуць ні змяняцца, ні замяняцца.

## § 14. Структурна-семантычныя тыпы прыказак

Характарызуючы прыказкі паводле іх сінтаксічных асаблівасцей, найперш варта спыніцца на структурнай класіфікацыі гэтых моўных адзінак. Яна павінна рабіцца з абавязковым улікам сэнсавага зместу прыказак.

Як ужо гаварылася (§ 2), прыказкі па іх семантычнай класіфікацыі падзяляюцца на тры групы. Першую групу складаюць алегарычныя прыказкі, другую – часткова алегарычныя, трэцюю – непераасэнсаваныя, з прамым значэннем іх слоў-кампанентаў. У прыказках трэцяй групы агульны сэнс кожнай з іх у асноўным складаецца са значэнняў яе састаўных частак: *Кожнаму сваё дзіця міла; Зяць любіць узяць; Гультай за дзела – мазоль за цела.* І вызначэнне сінтаксічнай структуры такіх прыказак не выклікае ніякіх сумненняў (дзве першыя маюць структуру развітага двухсастаўнага сказа, трэцяя – структуру бяззлучнікавага складанага сказа з умоўна-выніковымі адносінамі).

У прыказках жа з поўнасцю або часткова пераасэнсаванымі кампанентамі іх сэнсавы змест амаль заўсёды перадаецца слоўным комплексам зусім іншай структуры, не такой, якую фармальна мае сама прыказка: *Воўчае насенне да лесу цягне* 'сутнасць чалавека, яго прывычкі застаюцца нязменнымі і ўсё роўна выяўляецца'; *Цягаў воўк, пацягнулі і воўка* – 'прыйшоў час адплаты каму-небудзь за прычыненае ім зло'. Таму гаварыць, што першая з гэтых прыказак мае структуру двухсастаўнага сказа, а другая – бяззлучнікавага складанага сказа, можна толькі ўмоўна. Больш правільна будзе сцвярджаць, што яны толькі пабудаваны па схеме гэтых сказаў, але, з прычыны метафарычнага пераасэнсавання, набылі змест, які нельга перадаць сказам той жа структурнай схемы.

Паводле З.К.Тарланава, «той, хто захацеў бы апісаць сінтаксічную сістэму мовы, не зварочваючыся да зместу сінтаксічных канструкцый, быў бы асуджаны весці бясконцую і марную работу. Спробы адарваць сінтаксічную форму ад сінтаксічнага значэння павінны быць прызнаныя бясплённымі» [114, с. 75]. Пра тое, што ў аснове выдзялення розных тыпаў аднасастаўных сказаў ляжыць структурна-семантычны прынцып, гаворыцца і ў акадэмічнай «Беларускай граматыцы». Сутнасць гэтага прынцыпу ў тым, што «пры вызначэнні тыпу аднасастаўных дзеяслоўных сказаў неабходна ўлічваць семантыку сказа па ступені пэўнасці дзеяння і суадносін гэтай семантыкі з формай выражэння галоўнага члена сказа» [11, с. 210].

Прымаючы пад увагу складаныя суадносіны паміж сінтаксічнай структурай і сэнсавым зместам у поўнасцю або часткова пераасэнсаваных прыказках, аўтары «Беларускай граматыкі» амаль нідзе не ілюструюць такімі прыказкамі тэарэтычны матэрыял, звязаны з простым ці складаным сказамі. Было б нелагічна падмацоўваць прыкладам-прыказкай *Адальюцца воўку авечыя слёзкі* звесткі пра двухсастаўны развіты сказ або прыказкай *Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй* звесткі пра складаназалежны сказ з дадатнай часткай са значэннем месца. Першая прыказка абазначае 'крыўдзіцель паплаціцца за прычыненае каму-небудзь зло, крыўду', а другая – 'за старэйшым і больш вопытным, пераймаючы яго, цягнецца і маладзейшы, нявопытны'.

Прыказкі ж неіншасказальнага характару зрэдку і слушна выкарыстоўваюцца ў «Беларускай граматыцы» як ілюстрацыйны матэрыял: *Вучыцца ніколі не позна* (с. 125), *Ніколі не бярыцеся за наступнае, не зрабіўшы як след папярэдняга* (с. 139), *Не пакарміўшы каня, многа не наарэш* (с. 148), *Спрачайся да слёз, а ў бойку не лезь* (с. 210), *Як дбаеш, так і маеш* (с. 218) і інш.

Разам з тым пры апісанні абагульнена-асабовых сказаў побач з прыкладамі тыпу *Языком работы не зробіш; За багацце розуму не купіш* неапраўдана даюцца і такія, як *Клін клінам выбіваюць*, што значыць 'непрыемныя вынікі якіх-небудзь дзеянняў ці стану ліквідуюцца тымі ж сродкамі, якімі выкліканы гэтыя дзеянні ці стан'.

Дарэчы, абагульнена-асабовыя сказы толькі зрэдку ілюструюцца ў навуковай і навучальнай літаратуры прыкладамі накшталт *Алеся Адамовіча не папікнеш у саўковасці* (М.Тычына), *Аб адсутных не гавораць кепска* (І.Шамякін) або *Машыну за такія малыя грошы не купіш.* У прыведзеных сказах сапраўды выразна праяўляецца адзінства зместу і формы. У іх кожнае слова рэалізуе сваё слоўнікавае лексічнае

значэнне (напрыклад, *купіць, грошы, малы, машына*). У навуковых жа граматыках і дапаможніках абавязкова падкрэсліваецца, што тыповым узорам абагульнена-асабовых сказаў выступаюць прыказкі, а ў некаторых працах у якасці ілюстрацый даюцца амаль адны прыказкі, прычым іншасказальнага кшталту: *З песні слова не выкінеш; Шыла ў мяшку не схаваеш; Любіш катацца, любі і саначкі вазіць; Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж.* Але ў такім разе ўжо нельга гаварыць пра адзінства формы і зместу.

У гэтых прыказках толькі фармальна можна вылучыць галоўны член, суадносны з выказнікам, але такое вылучэнне адразу ж разбураецца сэнсавым зместам кожнай з гэтых прыказак. *З песні слова не выкінеш* – гэта ‘прыходзіцца гаварыць усё, усю праўду’. *Шыла ў мяшку не схаваеш* – ‘немагчыма ўтаіць тое, што само сябе выдае’. *Любіш катацца, любі і саначкі вазіць* – ‘непазбежна прыходзіцца расплачвацца за тое, што было зроблена з ахвотай, з задавальненнем’. *Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж* – ‘перш чым зрабіць што-небудзь сур’ёзнае, старанна абдумай’.

Гэта, несумненна, трэба мець на ўвазе пры разглядзе розных відаў аднасастаўных сказаў. Многія прыказкі па ф о р м е (але не сэнсава) арганізаваны як абагульнена-асабовы сказ (прыклады прыводзіліся вышэй). Калі гэта прыказкі з алегарычным зместам, тады няма падстаў выдзяляць дзеяслоў-выказнік у іх складзе і чляніць іх сінтаксічна. Так, прыказка *Адным пальцам і гузіка не зашпіліш* структурна пабудавана як абагульнена-асабовы сказ, але ў ёй гаворыцца не пра зашпільванне гузіка і не пра палец, яна абазначае ‘немагчыма справіцца з чым-небудзь у адзіночку’. Улічваючы менавіта гэту асаблівасць прыказак, якія ўжываюцца ў іншасказальным сэнсе, акадэмічная «Граматыка сучаснай рускай літаратурнай мовы» (М., 1970) пры разглядзе аднасастаўных сказаў не дае ніводнага прыкладу з прыказак.

У беларускіх жа падручніках, дапаможніках, а таксама акадэмічных граматыках у ліку абагульнена-асабовых сказаў падаюцца і сапраўдныя сказы гэтага тыпу, і прыказкі алегарычнага характару, і нават фразеалагічныя адзінкі *(што ні кажы, хоць вока выкалі, хоць на воўка ўссунься* і г.д.*).* Пра апошнія гаворыцца: «Абагульнена-асабовымі сказамі па форме з’яўляюцца спалучэнні тыпу *хоць пакаціся, куды ні глянь, што ні рабі, як ні круці* і інш. Яны адыгрываюць ролю даданага сказа пры галоўным, але ў сучаснай беларускай мове ва ўсё большай ступені набываюць устойлівы характар» [40, с. 429]. У беларускай літаратурнай мове ёсць некалькі дзесяткаў фразеалагічных адзінак, толькі знешне падобных на абагульнена-асабовыя ці даданыя ўступальныя сказы: *за вушы не адцягнеш, на казе не пад’едзеш, кашы не зварыш, снегу леташняга не дапросішся, хлебам не кармі, пальчыкі абліжаш, язык зломіш, язык праглынеш, вадой не разальеш* і г.д.; *хоць іголкі збірай, хоць распеража́ся, хоць сякеру вешай, хоць вяроўку ві, хоць скрозь зямлю правалілся, хоць касой касі, хоць гаць гаці, хоць бокам каціся, хоць махалам махай, хоць на сабаку вылі* і шмат іншых. Вось толькі два прыклады з ужываннем гэтых выразаў у кантэксце: «Жонка халадзец прыгатавала – *за вушы не адцягнеш*» (І.Аношкін); «Усё такое нясмачнае, прэснае, як трава, *хоць на сабаку вылі*» (І.Сяркоў). Як бачым, няма ніякіх рэальных падстаў кваліфікаваць сказы з такімі адзінкамі як абагульнена-асабовыя.

Вернемся да прыказак трэцяй групы (неперааснсаваных). Раней ужо згадвалася, што іх каля 260 (з 1500 прааналізаваных). Тут вылучаюцца шматлікія структурна-семантычныя тыпы, адэкватныя амаль усім няпрыказкавым сказам, што вывучаюцца ў сінтаксісе простага або складанага сказа. У колькасных жа адносінах пераважаюць прыказкі са структурай складаназалежных сказаў (амаль трэцяя частка з ліку 260), затым ідуць прыказкі, пабудаваныя па схемах двухсастаўнага сказа, потым – прыказкі са структурай бяззлучнікавых сказаў.

Спачатку коратка разгледзім прыказкі, структурна арганізаваныя як просты сказ. Тут, як адзначалася, першынствуюць прыказкі ў форме двухсастаўных сказаў. У адных выпадках (рэдка) гэта двухкампанентныя, неразвітыя сказы *(Разумны зразумее; Малое – дурное)*, у другіх – развітыя, шматкампанентныя *(Шчасце пераходзячы жыве; Дружба пазнаецца ў няшчасці; Гарэлка да дабра не давядзе; Госць мала гасцюе, ды многа бачыць; Добры гаспадар і сабаку з двара не выганіць у такую пагоду).* Абодва галоўныя члены двухсастаўнага прыказкавага сказа часта выражаюцца назоўнікам у назоўным склоне: *Час – гэта грошы; Няведанне – нягрэшанне; Грамніцы – палавіна зіміцы; Маладосць – дурносць; Смех не грэх* і г.д. Многія падобныя прыказкі можна аднесці да сказаў тоеснасці, у якіх, як вядома, устанаўліваецца тоеснасць двух прадметаў і якія часам дапускаюць фармальную абарачальнасць дзейніка і іменнай часткі састаўнога выказніка: *Муж і жонка – найлепшая суполка; Маўчанне – знак згоды; Лепшы спосаб абароны – нападзенне; Старасць не радасць; Факты – рэч упартая; Час – найлепшы доктар.* Параўн. ужыванне, напрыклад, апошняй прыказкі з іншым парадкам слоў: «Трэба лячыць нервы. *Самы лепшы доктар – час!*» (Я.Колас). Але звычайна ўсе прыведзеныя прыказкі рэалізуюцца ў маўленні з фіксаваным парадкам кампанентаў.

У агульнай сістэме парэмійных структурна-семантычных тыпаў параўнальна нязначнае месца (каля 14 %) займаюць прыказкі, пабудаваныя па схемах аднасастаўных сказаў. Зусім рэдка сустракаюцца пэўна-асабовыя сказы (напрыклад, *На памылках вучымся* – звычайна гаворыцца 1-ай асобай, але ў абагульнена-асабовым значэнні; або *Будзеш ўсё ведаць, хутка пастарэеш* – у складзе бяззлучнікавага сказа), няпэўна-асабовыя *(Пад гумар жартуюць, а ў злосці катуюць).* Часцей за ўсё ўжываюцца абагульнена-асабовыя сказы *(Свайго лёсу не мінеш; Розуму грашыма не заменіш; Пераможцу не судзяць; Не шукаючы не знойдзеш; На Пакровы дай сена карове)*, а таксама безасабовыя *(Няма ліха без дабра; На бяду мала трэба; Разумнаму дастаткова; Трэцяга не дадзена; Было сватацца ўдзень, распытаўшы ў людзей).*

Складаны сказ, як вядома, складаецца з дзвюх прэдыкатыўных частак. У залежнасці ад таго, як звязваюцца прэдыкатыўныя часткі (злучнікамі ці толькі сродкамі саміх частак), складаныя сказы падзяляюцца на злучнікавыя і бяззлучнікавыя. Злучнікавыя сказы ў сваю чаргу падзяляюцца, з улікам таго, якімі злучнікамі (злучальнымі ці падпарадкавальнымі) звязваюцца састаўныя часткі, на складаназлучаныя і складаназалежныя.

Прыказак, структурна арганізаваных як складаназлучаны сказ, нямнога (каля 9 %). Прэдыкатыўныя часткі прыказак ледзь не ва ўсіх выпадках звязваюцца злучнікам *а*, пры дапамозе якога выражаюцца

адносіны супрацьпастаўлення ці супастаўлення *(П’яніца праспіцца, а дурань ніколі; Усё мінецца, а праўда застанецца; Дзяды не ведалі бяды, а ўнукі набраліся мукі)* або супрацьпастаўляльна-ўступальныя адносіны *(Салдат спіць, а служба ідзе; Платон мне сябра, а ісціна даражэйшая).* Для многіх прыказак гэтага структурна-семантычнага тыпу характэрны сінтаксічны паралелізм: *Слова вецер, а пісьмо грунт; Хараство прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца.* Зрэдку паміж часткамі прыказкавых сказаў ужываюцца злучнікі *але, і (Турма моцная, але ніхто не хоча там быць; Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго).*

Як ужо ўпаміналася, пераважаюць прыказкі са структурай складаназалежнага сказа. А сярод іх самымі частотнымі з’яўляюцца сказы з даданымі дзейнікавымі часткамі (іх яшчэ называюць і складаназалежнымі сказамі з суб’ектнымі адносінамі); напрыклад: *Хто ажэніцца, той пераменіцца; Хто пытае, той не блудзіць; Хто спіць, той не грашыць.* Звычайна даданая частка змяшчаецца перад галоўнай. Толькі ў рэдкіх выпадках галоўная частка стаіць у прэпазіцыі: *Усё забыта, што зямлёй зарыта; Добра смяецца той, хто смяецца апошні; Усё добра, што добра канчаецца.* Для сказаў з прэпазіцыйнай даданай часткай нярэдка характэрныя сінтаксічны паралелізм і сіметрычнасць у арганізацыі кампанентаў: *Хто шукае, той знаходзіць; Хто дужшы, той прутшы; Хто не працуе, той не есць.* Другое месца па частотнасці займаюць сказы з даданымі дапаўняльнымі часткамі. У іх таксама часцей даданая частка папярэднічае галоўнай: *Хто матку забывае, таго бог карае; Хто лепшага не мае, таму і гэта добра; У каго грошы, у таго і розум.* Радзей сустракаецца адваротны парадак частак: *Ніхто не ведае, як хто абедае; Маем, што маем.* У адным выпадку даданая частка займае інтэрпазіцыйнае месца: *Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра.* Пералічым іншыя структурна-семантычныя тыпы прыказак, утвораных па схемах складаназалежных сказаў: а) з даданай часткай умовы: *Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы; Госць выпіць рад, калі гаспадар дасць прыкла́д;* б) з даданай азначальнай часткай: *Няма той хаткі, дзе б не было звадкі;* в) з даданай месца: *Дзе быў, там няма;* г) з даданай часу: *Як трывога, тады да бога;* д) з даданай супастаўляльнай: *Лепш едучы змерзнуць, чым ідучы спацець;* е) з даданай спосабу дзеяння: *Як дбаеш, так і маеш;* ё) з даданай меры і ступені: *Не столькі работы, колькі турботы;* ж) з даданай мэты: *Жаніся, каб дурні не звяліся;* з) з даданай прычыны: *Маўчу, дык, пэўне, замуж хачу;* і) з даданай уступальнай часткай: *Хоць горшае, абы іншае;* й) з даданай выказнікавай часткай (або з прэдыкатыўнымі адносінамі): *Якая заслуга, такая і пашана.*

Прыказак, утвораных па структурных схемах бяззлучнікавага складанага сказа, больш як 40. Сярод іх значная частка прыпадае на прыказкі са структурай сказаў з умоўна-выніковымі адносінамі. Суджэнне, выказанае ў другой частцы такіх прыказак, абумоўліваецца тым, пра што гаворыцца ў першай частцы. Будова прыказак сэнсава аднатыпная: у першай частцы – умова, у другой – вынік. Абедзве часткі характарызуюцца сінтаксічным паралелізмам: *Госць на парог – гаспадыня за пірог; Гультай за работу – мазоль за руку.* Але структура першай часткі, а значыць, і другой, у такіх прыказках неаднолькавая. Тут могуць быць і двухсастаўныя сказы (поўныя і няпоўныя, развітыя і неразвітыя) з прамым і адваротным парадкам слоў, і аднасастаўныя

розных тыпаў: *Сарока шчабеча – гасцей кажа; Высока ляціць вырай – высокі вырасце і авёс; Госць на парог – радасць у хату; Гусі нізка – зіма блізка; Меней гавары – больш пачуеш; Прыйшлі Пакровы – заганяй у хлеў каровы; Скончыў дзела – гуляй смела; Сказана – зроблена; Сцерпіцца – злюбіцца.* Ёсць і больш складаныя канструкцыі: *Малыя дзеці – малы клопат, большыя дзеці – большы клопат.*

Апрача сказаў з умоўна-выніковымі адносінамі, маюць месца і некаторыя іншыя структурна-семантычныя тыпы: а) з прычынна-выніковымі адносінамі: *Хай конь думае: у яго галава большая; Не шукай бяды, яна цябе сама знойдзе;* б) са значэннем пералічэння: *Век жыві, век вучыся; Не я першы, не я апошні;* в) з супастаўляльна-супрацьпастаўляльным значэннем: *Адзін сын – не сын, два сыны – палова сына, тры сыны – сын; Хлеб на стале – рукі свае;* г) з удакладняльным значэннем: *Вада не гарэлка – шмат не вып'еш.*

Каля 20 прыказак маюць структуру складаных сказаў з рознымі відамі сувязі: а) са злучэннем і падпарадкаваннем: *Не тое добра, што добра, але тое, што каму даспадобы; Скажы мне, хто твае сябры, і я скажу, хто ты;* б) са злучэннем і бяззлучнікавай сувяззю: *Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка замужам, ды ідуць; Яму раніцай росна, у поўдзень млосна, а ўвечары камары кусаюць;* в) з падпарадкаваннем і бяззлучнікавай сувяззю: *Будзьце як дома, не забывайце, што ў гасцях; Касі, каса, пакуль раса, раса далоў – каса дамоў.*

Звернемся да прыказак 1-й групы (з поўным пераасэнсаваннем усіх кампанентаў) і 2-й групы (з частковым пераасэнсаваннем) і разгледзім іх у сукупнасці, бо і тыя, і другія амаль у аднолькавай меры супрацьпастаўлены прыказкам 3-й групы. Як паказвалася на пачатку гэтага параграфа, прыказкі 1-й і 2-й груп не сэнсава і фармальна, а толькі фармальна паводле сваёй структуры суадносяцца з тымі ці іншымі тыпамі простага або складанага сказа. Таму гаворачы пра сінтаксічную будову прыказак 1-й і 2-й груп, здаецца больш правамерным ужыванне тэрміна «структурны тып» (а не «структурна-семантычны тып»).

Сярод прыказак гэтых дзвюх груп, у адрозненне ад 3-й групы, пераважаюць прыказкі, утвораныя па структурных схемах двухсастаўнага сказа (іх каля 370 з ліку прааналізаваных 1250), другое месца займаюць прыказкі са структурай складаназалежнага сказа (каля 250), трэцяе – са структурай складаназлучанага сказа (больш за 200). Але рабіць з гэтага якіясьці высновы, звязаныя з семантыкай прыказак ці яшчэ чым-небудзь, наўрад ці магчыма.

Коратка аб прыказках, якія маюць структуру простага сказа. Форма прыказак, пабудаваных па схемах двухсастаўнага сказа, самая разнастайная. Зрэдку сустракаюцца двухкампанентныя прыказкі *(Хата рагата; Кожнаму сваё; Госць – нявольнік)* або трохкампанентныя, у якіх прэдыкатыўная частка складаецца з назоўнікаў у назоўным склоне і адмоўем «не» перад другім назоўнікавым кампанентам: *Вада не бяда; Голад не цётка; Сівізна не ўкарызна; Служба не дружба; Спроба не хвароба; Сэрца не камень; Укрой – не ўдой.* Параўн. прыказкавыя сказы іншай структуры, але таксама з назоўнікамі ў ролі галоўных членаў: *Баязліўцу і заяц воўк; На бязлюддзі і поп чалавек; Надзея – матка дурных; Удава – шалёная галава.* Шмат прыказак трохкампанентных з двума назоўнікамі ў іх складзе: *Бог тройцу любіць; Зайца ногі ратуюць;*

*Капейка рубель беражэ; Рыба любіць ваду; Свіння лужыну знойдзе; Сіла салому ломіць; Шэпты хату зводзяць.* Ёсць нямала прыказак, у якіх структура двухсастаўнага сказа ўскладняецца аднароднымі членамі, напрыклад: *Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць; Чорт чорта пазнаў і на піва пазваў; Адзін дасужы, ды нядужы; Бог сіротак любіць, але долі не дае; Нечая сучка мазь з'ела і сама сабле мазёнку на галаву надзела.*

Часам, калі гаворка заходзіць пра прыказкі са структурай аднасастаўных сказаў, сцвярджаюць, што сярод гэтых канструкцый «самымі распаўсюджанымі з'яўляюцца абагульнена-асабовыя сказы (74 %) [25, с. 13]. Такія працэнтныя паказчыкі робяцца на аснове парэмійных зборнікаў, дзе, як вядома, змяшчаюцца не толькі агульнанародныя прыказкі, але і такія, ужыванне якіх абмежавана невялікім рэгіёнам ці нават адной вёскай або некалькімі моўнікамі. Калі ж звярнуцца да тлумачальных слоўнікаў прыказак, то выяўляецца, што на долю абагульнена-асабовых сказаў-прыказак (ва ўсіх трох групах) прыпадае 58 % ад агульнай колькасці аднасастаўных прыказкавых сказаў (у трох групах). Прыкладна такі ж працэнт называе і Е.Ясюкевіч. Прааналізаваўшы 1000 рускіх і 1000 англійскіх парэмій, яна выявіла «139 рускіх і 73 англійскіх аднасастаўных прыказкавых сказаў. Меншая ўдзельная вага аднасастаўных прыказкавых сказаў у англійскім парэмійным корпусе ў параўнанні з рускім вытлумачваецца нарматыўнасцю дзейнікава-выказнікавай структуры для англійскага сказа» [134, с. 160–161]. Прапарцыянальна аналагічныя колькасныя паказчыкі выяўляюцца на матэрыяле беларускіх парэмій, змешчаных у тлумачальных даведніках: тут на 1500 прыказак прыходзіцца 220 адзінак, структурна арганізаваных як аднасастаўны сказ. У абодвух выпадках гэта складае прыблізна 14 % ад агульнай колькасці прааналізаваных прыказак.

У 1-й і 2-й групах ёсць 110 прыказак, пабудаваных па схеме абагульнена-асабовага сказа, напрыклад: *Бяздоннай бочкі не напоўніш; Ехаўшы бачком, ні з кім не зачэпішся; Каля мукі ходзячы, запылішся; Абяцанага тры гады чакаюць; Жывы ў зямлю не палезеш.* Другое месца належыць безасабовым прыказкавым сказам (іх 52): *Без глыбокага кораня дуба не бывае; І да грыба трэба нагнуцца; Беднаму Івану няма нідзе талану.* Радзей сустракаюцца прыказкі, фармальна ўтвораныя як аднасастаўныя сказы іншых тыпаў. Няпэўна-асабовых прыказкавых сказаў – 12: *Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю; Заручылі дзеўку процій панядзелку; Без мяне мяне жанілі.* Пэўна-асабовых сказаў – 4: *Міласці прашу к нашаму шалашу; Па малаку ног не павалаку.* Інфінітыўных – 7: *Адкуль сіраце бацьку ўзяць; Ад напасці не прапасці; Гуртам і бацьку добра біць.*

У прыказках, утвораных па структурнай схеме складаназлучанага сказа, прэдыкатыўныя часткі ў абсалютнай большасці выпадкаў звязваюцца пры дапамозе злучніка *а*, які служыць для выражэння супастаўляльных адносін паміж часткамі прыказак-сказаў або паказвае на супрацьпастаўленасць адной часткі другой: *Воўк не пастух, а казёл не агароднік; Вераб'і крупы склявалі, а сініцу за гэта ў клетку пасадзілі; Сабака брэша, а караван ідзе; Кошцы гулі, а мышцы слёзы.* Зусім рэдка, у адзінкавых выпадках, сродкам сувязі паміж састаўнымі часткамі выступае злучнік *але*, якім выражаюцца супрацьпастаўляльны-

ўступальныя адносіны: *Брат мой, але хлеб еш свой; Хіцер Зміцер, але і Сайка не дурань.* Затое тут, у адрозненне ад прыказак 3-й групы, нярэдка ўжываецца злучнік *ды*, звычайна ў значэнні *але: Грозен рак, ды вочы ззаду.* Часам у маўленні замест *ды* выкарыстоўваюць *але: – Э-эх, і свіснуў бы я па гэтай першай скрыпцы... – Грозен рак, але ззаду вочы* (І.Гурскі). Але звычайна *ды* не вар'іруецца і служыць для выражэння супастаўляльных, а таксама супрацьпастаўляльна-ўступальных адносін: *І рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць; Мал жук, ды вялікі гук; Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў; Смачная кашка, ды малая чашка; Хутка каты робяцца, ды сляпыя родзяцца.* Сустрэлася прыказка, дзе *ды* ўжыта ў значэнні *і: Цаца-цаца, ды ў кішэнь.*

З іншых злучнікаў, якія выкарыстоўваюцца ў прыказках са структурай складаназлучанага сказа, варта назваць *і*. Пры яго дапамозе выражаюцца розныя адносіны: а) спалучальныя: *Я не я і хата не мая;* б) далучальныя: *Дурань дурнем і вушы халодныя; Ні калёс, ні атос, і воўк кабылу панёс;* в) супрацьпастаўляльныя: *Жыве кот і жыве сабака;* г) прычынна-выніковыя: *Закончан баль – і дудкі ў торбу;* д) умоўна-выніковыя: *З вачэй далоў і з сэрца вон.* Ужываецца і паўторны злучнік *і–і*, які ўзмацняе значэнне прэдыкатыўных частак: *І адтуль горача, і адсюль боляча; І бога хвалі, і чорта не гняві; Удовіна і сякера не сячэ, і кабыла не вязе.* У прыказках, якія паводле адносін зместу да рэчаіснасці маюць форму адмоўных сказаў, паўторны злучнік *і–і* ўжываецца ў значэнні паўторнага злучніка *ні–ні: І ракаў не хачу, і ног не мачу; І рыбкі не хачу, і адзежкі не змачу.* Састаўныя часткі некаторых прыказак звязваюцца паўторным злучнікам *ці–ці: Ці свінні елі, ці шляхта папасвалася; Ці пан ці прапаў; Ці памёр Гаўрыла, ці яго скула задавіла.*

У межах складаназалежных прыказкавых сказаў выдзяляецца найбольшая колькасць структурных тыпаў, прычым першае месца займаюць прыказкі са структурай даданай часткі ўмовы (іх больш як 60). У такіх сказах даданыя часткі далучаюцца да галоўных пры дапамозе злучнікаў *калі, каб, як*; перад галоўнай часткай звычайна ёсць адносныя словы *то, дык, так: Калі не наеўся, дык не наліжашся; Калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет ідзе да гары; Каб свінні рогі, не саступіла б дарогі; Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў злоце; Як удасца жарабё з лысінкай, дык і здохне такім; Як гол, так васцёр.* У гэты ж структурны тып варта ўключаць і такія прыказкі, у якіх няма злучнікаў *калі, каб, як,* але на стыку прэдыкатыўных частак абавязкова аказваюцца кампаненты *дык* ці *то.* Гэта сказы з умоўна-выніковымі адносінамі. Дзеянне «другой часткі такіх сказаў ажыццяўляецца пры ўмове, аб якой гаворыцца ў першай частцы» (115, т. 2, с. 217): *Загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е; Не будзе Гіршы, дык будзе чорт іншы; Захочаш павесіцца, то знойдзеш вяроўку; Пень прыбяры, то і той харошы.* Як гэтыя, так і іншыя падобныя (напрыклад: *Воўк не з'еў, дык бугай не забадае; Пусціўся Мікіта ў валакіту, дык ідзі і не аглядайся)* лёгка трансфармуюцца ў звычайныя складаназалежныя сказы з даданай умовы (часцей са злучнікам *калі*, напрыклад: *Калі воўк не з'еў, дык бугай не забадае*). Але пры такой трансфармацыі фармальна галоўная частка з умоўным значэннем (яна заўсёды папярэднічае той, у якой гаворыцца пра вынік) ператвараецца ўжо ў даданую частку. Дарэчы, сказаў з умоўна-выніковым значэннем сярод прыказак вельмі многа: *З хаткі ў хатку, дык на рубель упадку; Займі чорта ад варот, дык ён цераз плот;*

*Напужаў мех, дык і торба страшна; Нечым ваўку спаражняцца, дык ён лыкам* і г.д.

Да ліку пашыраных належаць і прыказкі з даданай дапаўняльнай часткай *(Ведае кошка, чыё сала з’ела; Казала Насця, як удасца)*, даданай дзейнікавай *(Хто на чым сядзіць, той таго і глядзіць; Не дурань, хто маўчыць)*, даданай месца *(Дзе коратка, там і рвецца; Куды ноч, туды і сон)*, даданай часу *(Не тады вучацца плаваць, калі вада ў рот плыве; Не заўсёды світае, як певень спявае)*. Назавём іншыя структурныя тыпы, менш частотныя, а то і адзінкавыя (як прыказка з даданай часткай прычыны: *Маўчы, бо будуць таўчы)*: а) з даданай выказнікавай: *Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць;* б) з даданай азначальнай: *Злавілі плотку, што не лезе ў глотку;* в) з даданай способу дзеяння: *Як пасцелешся, так і выспішся;* г) з даданай мэты: *На тое і шчупак у моры, каб карась не драмаў;* д) з даданай супастаўляльнай: *Чым чорт не араў, тым і сеяць не стаў;* е) з даданай уступальнай: *Хоць муж з лапаць, абы з ім не плакаць.*

Да прыказак, структурна арганізаваных як складаназалежны сказ з даданай уступальнай часткай, належаць і такія: *Колькі ваўка ні кармі, а ён у лес глядзіць; Колькі вяровачны ні віцца, а канцу быць; Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч; Стары гаршчок як ні аплятай, толку мала.* У навуковай і навучальнай літаратуры пра падобныя няпрыказкавыя сказы гаворыцца, што тут «даданыя ўступальныя часткі звязваюцца з галоўнай пры дапамозе злучальных слоў *як, колькі..* і часціцы *ні*» [11, с. 300]. Варта, аднак, пагадзіцца з аргументаваным сцвярджэннем, што тут сродкам сувязі паміж прэдыкатыўнымі часткамі выступаюць не злучальнае слова плюс часціца «ні», а формы *колькі ні, як ні* і інш., якія «трэба лічыць непадзельнымі вытворнымі злучнікамі ў тых выпадках, калі прэдыкатыўныя адзінствы, куды яны ўваходзяць, маюць несумненна ўступальна-ўзмацняльнае значэнне, а самі адзінствы з гэтымі злучнікамі эквівалентныя даданым уступальным сказам са злучнікамі *хоць, нягледзячы на тое што*» [114, с. 45].

Што да прыказак, пабудаваных па структурных схемах бяззлучнікавага складанага сказа, то тут, у парэміях 1-й і 2-й груп, назіраецца прыкладна тое самае, што і ў прыказках 3-й групы. Тут, як і там, пераважаюць (34 %) прыказкі, структурна арганізаваныя як сказы з умоўна-выніковымі адносінамі: *Даўся запрэгчы – дасіся і паганяць; За двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш.* Досыць частымі з’яўляюцца і прыказкі з супастаўляльна-супрацьпастаўляльным значэннем: *Аднаму льецца, а другому нават не капае; Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся.* Крыху радзей сустракаюцца прыказкавыя сказы з прычынна-выніковымі адносінамі *(Не плюй у калодзеж, прыгадзіцца напіцца)*, са значэннем пералічэння *(Хто любіць папа, хто пападдзю, хто папову дочку)*, са значэннем удакладнення *(Чорт чорту спавядаўся: адзін мігнуў, другі здагадаўся).* Зрэдку некаторыя прыказкі нагадваюць сказы з прэдыкатыўнай часткай, якая мае часавае значэнне, напрыклад: *Пакуль жаніцца – загаіцца; Прыйдзе Ілья – наробіць гнілля.*

У манаграфіі З.К.Тарланава [114] на матэрыяле больш за 20000 прыказак, узятых са зборнікаў У.І.Даля, П.Сімані, А.М.Жыгулёва і іншых складальнікаў, робіцца, як сказана ў анатацыі, «першая спроба ўсебаковага сінтаксічнага аналізу рускіх прыказак, арганізаваных па

тыпу складанага сказа» [114, с. 2]. Тут, напрыклад, на с. 84 прыводзяцца ў якасці ілюстрацый 16 прыказак са структурай бяззлучнікавага сказа. Усе яны выбраны з вядомага зборніка У.Даля «Прыказкі рускага народа». Аднак ніводная з гэтых 16 прыказак не апісваецца ў «Слоўніку рускіх прыказак і прымавак» У.П.Жукава, дзе змяшчаецца каля 1200 парэмій, «найбольш часта ўжывальных у рускім маўленні і зафіксаваных у пісьмовых літаратурных крыніцах» [47, с. 2]. Аналізуючы прыказкі, многія з якіх хоць і занатаваны ў памянёных зборніках, але, відаць, ніколі не былі шырокавядомымі, З.К.Тарланаў піша пра «вялізную ступень распаўсюджанасці бяззлучнікавых структур у мове прыказак», робіць выснову, што «эталонам складанага цэлага ў сінтаксісе прыказак выступае, такім чынам, бяззлучнікавы складаны сказ» [114, с. 128]. Але супаставім колькасныя паказчыкі са згаданага «Слоўніка...» У.П.Жукава: тут сярод апісаных 1200 прыказак, па нашых падліках, толькі 172, або 14 %, маюць структуру бяззлучнікавага сказа. І ў «Слоўніку беларускіх прыказак» [75] з 841 парэміі, якія маюць структуру складанага сказа, бяззлучнікавых толькі 208 (ва ўсіх трох семантычных групах), што не дае ніякіх падстаў лічыць «эталонам» прыказкавыя сказы гэтага тыпу.

Сярод прыказак 1-й і 2-й груп больш як 50 структурна арганізаваны як складаныя сказы з рознымі відамі сувязі: а) са злучэннем і падпарадкаваннем: *Была б дзеўка, але певень запеў, як радзілася;* б) са злучэннем і бяззлучнікавай сувяззю: *Ёсць хлеб – ядзім, няма – глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра – не ведаем*; в) з падпарадкаваннем і бяззлучнікавай сувяззю: *Добрае сена: каб пасаліў, то і поп з'еў бы.*

Г.Л.Пермякоў робіць вывад, набраны ў кнізе чорным, паўтлустым шрыфтам: «Практычна прыказкі і прымаўкі прадстаўлены ўсімі мажлівымі відамі сказаў», і ў зносцы дадае: «За выключэннем, разумеецца, намінатыўных, такіх, як *Зима, Двенадцать часов, Тихий морозный день* і пад.» [91, с. 18]. Але гэта не зусім так. Няма сярод прыказак генітыўных, нерасчлянёных сказаў, шмат якіх канструкцый з ліку ускладненых простых сказаў, многіх разнавіднасцей, што бытуюць у няпрыказкавых складаназлучаных, складаназалежных і бяззлучнікавых сказах, не бывае сярод прыказак складаназалежных сказаў з сузалежным (аднародным і неаднародным) падпарадкаваннем, сказаў з простай мовай.

### § 15. Спосабы ўключэння прыказак у кантэкст

Маўленчым кантэкстам прыказкі трэба лічыць яе мінімальнае лінгвістычнае акружэнне, якое дазваляе вызначыць яе сэнсавы змест. Гэта акружэнне або папярэднічае прыказцы, або ідзе ўслед за ёй, напрыклад: *«Кінь за сабою, то знойдзеш перад сабою...* От тады прынялі хораша Аляксея Аляксеевіча, то і ён як чалавек паставіўся да нас» (П.Місько). Іншы раз кантэкст павінен быць больш шырэйшы: «– Мусіць жа, Ціхон вашу зямлю ўзяў урабляць?.. – А маё ты дзіцятка! Хто яго ведае, як яно тут выходзіць. Як той казаў, *кось-кось, пакуль у аглоблі,* – прыцішыла Марыська голас. – Як угаворваліся, дык усё добра было: і рабіць мы нічога не будзем, і глядзець яны нас будуць. А цяпер кажа: «Калі вы на поле не будзеце выходзіць, дык падумаюць, што я зусім вашу зямлю сабе забраў, ды яшчэ ў фонд адбяруць» (К.Крапіва).

Звычайна прыказка ўводзіцца ў тэкст гэтак жа, як і іншыя сэнсава і інтанацыйна закончаныя выказванні тыпу сказа. Толькі прыкладна пятая частка (каля 900) з 4500 рэалізаваных у маўленні прыказак уключана ў тэкст з дапамогай разнастайных, але больш-менш стандартных уводаў («як кажуць», «як у той прыказцы», «нездарма кажуць» і інш.).

Часцей за ўсё прыказка змяшчаецца побач і нароўні з суседнім свабодна арганізаваным сказам, без якіх-небудзь фармальных паказчыкаў на іх прыналежнасць да парэмійнага складу мовы: «Прыкусі язык. *Млын меле – мука будзе, язык меле – бяда будзе*» (П.Місько). Зрэдку ў такіх выпадках перад прыказкай ужываюць далучальны злучнік *але*, які выкарыстоўваецца пры рэзкім пераходзе да новай думкі, што тут жа выказваецца прыказкай: «– У вас багаты вопыт... – Вельмі вам удзячны, – намотваў на вус Езавітаў. Ён падумаў: «Ну і жук! Але *старога вераб'я на мякіне не падманеш*» (І.Гурскі); «Цяпер і мы з пэўнасцю можам меркаваць аб ягоных памылках. Але *вялікае бачыцца на адлегласці*» («Звязда»). Яшчэ ў адным прыкладзе пасля *але* ідуць дзве сінанімічныя прыказкі: «Дзён колькі легкавушка... была без гаспадара. Але *святое месца пустым не бывае: варона з кала – сем на кол*» (В.Гардзей). Перад прыказкай ужываецца і далучальны злучнік *а*, які па сувязі з папярэдняй думкай далучае прыказку ў сэнсе супастаўлення і высвятлення сутнасці сказанага: «[Кацярына:] Пяцёра дзяцей – сіроты. А *бог сірот любіць, але долі не дае.* Самой трэба дбаць!» [І.Гурскі]; «Мы павінны жыць, каб біць ворага, каб помсціць. А *слязамі гору не паможаш...*» (І.Сіняўскі). Часам у далучальнай функцыі выступае злучнік *і*, у такім разе прыказка дапаўняе і развівае тое, пра што гаварылася ў папярэднім выказванні: «Праўда, у лесе красці не грэх. Гэта не тое, што залезці да гаспадара ў хлеў. І *хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар*» (Я.Колас).

Яшчэ адзін вельмі пашыраны спосаб уключэння прыказак у кантэкст назіраецца ў дыялагічным маўленні, дзе прыказка ўжываецца як самастойны сказ-рэпліка: «– А ты, я бачу, халасцяк?.. – Выходзіць, што так. – Нічога!.. Ажэнім!.. – *Ажаніцца – не ўпасці: не ўстанеш і не атрасешся*, – сказала маці» (У.Гніламёдаў); «– З хлебам трэба нешта рабіць. Збыць каму. – *Не да парасят, калі свінню смаляць*» (У.Сауліч).

Прыказка можа ўступаць у граматычную сувязь з рознымі тыпамі простых сказаў і разам з імі ўтвараць складаны сказ. У складаназлучаным сказе яна аб'ядноўваецца з папярэдняй састаўной часткай пры дапамозе злучальных злучнікаў *але, а, і*: «Канечне, не нам вучыць вас, але ж *людзям не завяжаш языкоў*» (А.Пальчэўскі); «Мне, як птушцы нябеснай, трэба толькі адно каліва, а там *дасць бог дзень, дасць і полудзень*» (С.Грахоўскі); «Косцю што – сёння тут, заўтра – там. А вось што сабе Маня думае? Ёй жа тут аставацца, і *людзям языкоў не завяжаш*» (П.Місько). У наступным прыкладзе, у адрозненне ад папярэдніх, прыказка займае прэпазіцыйнае становішча: «*Ад смерці не адкупішся*, і ніхто не ведае свайго веку» (Т.Супрановіч).

У складаназалежным сказе прыказка найчасцей выступае як даданая дапаўняльная частка, далучаная да галоўнай пры дапамозе злучніка *што*: «Мы часта чуем, што *воран ворану вока не клюе*» (У.Казбярук); «Я не суддзя, але наперад скажу, што *з багатым не варта судзіцца, а з дужым біцца*» (У.Галубок). Нярэдка прыказка займае месца

даданай часткі са значэннем прычыны: «Варушыцца трэба, бо *пад ляжачы камень вада не бяжыць…*» (Б.Сачанка); «Не дужа ўдавайся ў святасць, бо *лішняга і свінні не ядуць*» (Я.Колас); «Ад цябе дзяцей не дачакаешся, бо *на выбітай дарозе трава не расце*» (А.Асіпенка). Сустракаюцца прыказкі і ў некаторых іншых разнавіднасцях складаназалежнага сказа, напрыклад: «Дзяцей? Можна сказаць, няма дзяцей. Хоць *ад прыбытку галава не баліць*, але ж у чым я вінен?» (М.Лынькоў); «Цяпер за падпольныя групы як след возьмемся. Дык пастарайцеся, каб *першы блін не атрымаўся камяком*» (М.Ткачоў).

Прыказкі ўдзельнічаюць ва ўтварэнні складаназалежных сказаў з некалькімі даданымі. Сустракаюцца розныя віды падпарадкавання: сузалежнае (аднароднае і неаднароднае), паслядоўнае (аднатыпнае і разнатыпнае). Некалькі прыкладаў: «Ён не прабаваў [алоўкі], трымцяць яны ці звіняць, бо ведаў, што *дармовому каню ў зубы не глядзяць*» (А.Чарнышэвіч); «Вацлаў Вароўскі» ўжо двойчы грозна раўнуў, папярэджваючы турыстаў, якія загасцяваліся ў палярнікаў, што *ў гасцях добра, а дома лепей*» (У.Корбан); «Вольга Сідараўна з малых гадоў даводзіла сыну, што добрага ніколі не замнога, бо *жыць – не мех сшыць…*» («Настаўн. газ.»); «У грамадстве культывавалася «палітыка згоды» (модная не толькі зараз), калі ніхто не адважыўся сказаць, што *кароль голы*» («Звязда»).

Будучы гатовымі, устойлівымі моўнымі адзінкамі, прыказкі нярэдка становяцца будаўнічым матэрыялам для бяззлучнікавых складаных сказаў. Пераважаюць прыклады, калі паміж часткамі бяззлучнікавага сказа выражаюцца прычынна-выніковыя адносіны. Звычайна прыказка змяшчаецца ў другой частцы сказа: «– Спяшайся, кум, а то спознімся. – Прыстаў зусім, *старасць не радасць*» (У.Галубок); «Нічога, Аксён: *будзе свята і на нашай вуліцы*» (Я.Колас); «Мабыць, у пэўнай меры ім [прозе і публіцыстыцы А.Адамовіча] суджана быць спасцігнутым пасля – *вялікае бачыцца на адлегласці*» (В.Быкаў). Як у гэтых, так і ў некаторых іншых прыкладах першая частка сказа паказвае на вынік той прычыны, пра якую гаворыцца ў другой частцы (прыказцы): «Хоць і на сто метраў пад зямлёй бачыць наш першы сакратар, але на гэты раз ён даў маху, не тую падабраў кандыдатуру. Яго можна зразумець: *на бязрыб'і і рак рыба*» (В.Шырко); «[Аксіння] крыўдзілася на гэтыя словы.., але не пярэчыла: *на чужы язык замок не павесіш* «(М.Даніленка); «Не трацьце надзеі, *у сваім доме і сцены памагаюць*» (І.Новікаў).

Прыказкі ўжываюцца таксама ў бяззлучнікавых сказах са значэннем семантычнага разгортвання ў іх другой частцы (у прыказцы) зместу выказніка першай часткі, напрыклад: «Помніце: *адзін за ўсіх і ўсе за аднаго*» (М.Зарэцкі); «Ты, брат, сам павінен ведаць, не малы: *не падмазаўшы, не паедзеш!..*» (Я.Брыль); «Я ведаю: *незапрошаны госць горш за татарына*» (І.Шамякін).

Радзей выкарыстоўваюцца прыказкі ў бяззлучнікавых сказах са значэннем адначасовасці дзеянняў, з'яў (напрыклад, у М.Кусянкова: «Сам выбраў [жонку], дык, калі што якое, на сябе, як той казаў, і наракай. Ну, а што было, дык было – *з песні слова не выкінеш…*»), а таксама ў сказах са значэннем удакладнення таго, пра што ў агульнай форме сказана ў першай частцы: «А гэта заўсёды так: *з вялікага грому –*

*малы дождж!*» (В.Зуб); «Мне ўжо страшна надаела з імі тут валынка ўся: *баба клопату не мела, дык купіла парася!*» (К.Крапіва).

Як відаць з прыведзеных і шмат якіх іншых прыкладаў, прыказка ў бяззлучнікавых сказах займае постпазіцыйнае месца. Але сустракаюцца сказы, якія пачынаюцца з прыказкі: «*Не адзін Гаўрыла, што ў Полацку* – на Захадзе і на Усходзе існуюць альтэрнатывы тае наваствоpанай еднасці дзяржаў» (В.Быкаў); «*Што праўда, то не грэх:* набудавалі мы з табою, Сяргей Віктаравіч, нямала» (І.Капыловіч); «Ну, а *жывым наўме жывое*: злюбіліся ў сяле тым двое, ды вось бяда – няма каму вянчаць» (К.Крапіва).

Прыказкі шырока ўключаюцца ў складаныя сказы з рознымі відамі сувязі. Прывядзём толькі па два прыклады на складаныя сказы: 1) са злучэннем і падпарадкаваннем: «Глыбока запала ў душу пачутае на вёсцы, што *лапаць боту не пара*, і ён [Алесь], усё больш цвярдзеючы і зацінаючыся ў сабе, рабіў быццам знарок, каб яшчэ больш аддаліцца ад Рэні» (Я.Лецка); «*Чужая душа – пацёмкі*, і, як ты таго ні хаці, у змроку, дзе цень стане ломкі, блукаць давядзецца ў жыцці» (Р.Барадулін); 2) са злучэннем і бяззлучнікавай сувяззю: «Сядайце, падвязу, а то *блізка відаць, ды далёка дыбаць*» (Р.Няхай); «Жыццё працягвалася, а прырода брала сваё: *вясной і травінка да травінкі хінецца*» (А.Варановіч); 3) з падпарадкаваннем і бяззлучнікавай сувяззю: «Стала відавочным, што два дыктатары – Гітлер і Сталін – не здолеюць пазбегнуць вайны, *два мядзведзі ў адным бярлогу жыць не маглі*» (М.Скобла); «Па ўсім было відаць, што *наскочыла каса на камень*: чым настойліва Раман дамагаўся збіць цану, тым меней уступаў Прахор, зразумеўшы, што пакупніку кабыла вельмі патрэбна» (А.Макаёнак).

Паводле сваёй функцыянальна-стылёвай афарбоўкі большая частка прыказак належыць да размоўнага стылю. І гэта знаходзіць сваё адлюстраванне ў мастацкай літаратуры, у прыватнасці, ва ўжыванні канструкцый з простай мовай. Як вядома, гэтыя канструкцыі складаюцца з дзвюх частак: слоў аўтара і простай мовы. Прыказкі, ужываючыся ў такіх канструкцыях, у адных выпадках знаходзяцца пасля слоў аўтара, у другіх – перад імі: «Цар скамарохаў пахваліў парашок і майстра: – *Дзела дзельніка баіцца*» (З.Бядуля); «Да іх размовы прыслухоўваліся здаля трое старшынь. Васько падміргнуў Вярному: – *Найшла каса на камень*» (А.Асіпенка)»; «– Усё сяло абыдзі, не ўпросіш чалавека за сведку пайсці. *Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе*, – сказаў ён не зусім дарэчы» (К.Крапіва); «– Шкада, што ў ім [замку] жыць нельга… – *З мілым рай і ў шалашы*, – адказала Мая» (І.Дуброўскі).

Зрэдку прыказкі могуць уключацца ў кантэкст як устаўныя канструкцыіі: «Гэту капусту да немагчымасці насольвала Камбала, адна наша гора-суродзічка, нейкая Новік. Камбала таму, што вока адно навыкаце *(Бог шэльму меціць)*» (Л.Геніюш); «Чутак тых, чутак!.. Герман пад Гродняю, герман у Беластоку, герман ля Слоніма – страхоцце… І хоць мне няма чаго шкадаваць – *голы збірайся, голы гатоў*, – а вось кут дарагі, з месца не ўзняцца…» (Ц.Гартны); «Сама больш іх [святаў] прыпадае на восень, зіму, калі і работы менш і свята можна было справіць па-належнаму, бо было з чаго *(увосень жа і верабей багаты)*» (Б.Сачанка).

Часам прыказка выкарыстоўваецца як зачын якога-небудзь мастацкага ці публіцыстычнага твора або як пачатак пэўнага адрэзку

маўлення. Так, апавяданне Я.Коласа «Слабода» пачынаецца дзвюма прыказкамі: *На сваім сметніку,* кажуць, *і певень гаспадар.* А *ў сваім стане і прыстаў цар.* Далей расказваецца пра прыстава, што жыў у Ігумене, «нягоднага, сярдзітага, як звер». Байка К.Крапівы «Лісліваe цяля» мае такі пачатак: *«Лісліваe цяля дзве маткі ссе».* Вы гэту прыказку, напэўна, чулі ўсе. Але на практыцы выходзіць, што і цяляткам часта шкодзіць залішне многа малака». А гэта толькі тры прыклады з прыказкай як абзацным зачынам: *«Вольнаму воля, шалёнаму поле, а спасёнаму рай.* Так беларусы вызначаюць абсягі чалавечага духу, розуму, руху» (Р.Барадулін); «*Апетыт прыходзіць у часе яды...* А чаму б гэта мне не набраць крамы на плацце ці, можа, і на два?..» (А.Васілевіч); «*Бог лесу не зраўнаваў, а то людзей ты зраўнуеш.* Падзялі вось сёння ўсё пораўні, дык на той год зноў перадзельваць давядзецца. Бо адзін будзе рабіць ад цямна да цямна, а другі будзе чэрава грэць пад сонцам» (К.Крапіва).

У СБП змешчана больш як 30 кантэкстуальных прыказак. Яны выкарыстоўваюцца толькі ў дыялагічным маўленні як рэпліка ў адказ на выказванне суразмоўніка (гл. § 7). Іх ужыванне абмежавана пэўным тыпам кантэксту і выклікаецца якім-небудзь папярэднім словам-стымулам. Скажам, кантэкстуальная прыказка *Індык думаў, думаў ды здох* ужываецца толькі як рэакцыя на словы *думаць, падумаць* у папярэдняй рэпліцы: «– Заўтра можа пайсці дождж, і хлеб загіне. Паветкі ж ніводнай не маеш. Ты *падумаў* аб гэтым? – *Індык многа думаў ды здох*» (В.Праскураў).

Як ужо адзначалася, прыкладна пятая частка прааналізаваных прыказкаўжыванняў уключана ў кантэкст пры дапамозе разнастайных прамых (да прыкладу, *згодна з прыказкай, як кажа прыказка*) ці ўскосных (*праўду кажуць, як той казаў* і інш.) стылеўказальных агаворак, спасылак на прыказку. Спынімся больш падрабязна на гэтым спосабе ўключэння прыказак у кантэкст.

Найчасцей выкарыстоўваюцца спасылкі *як кажуць* і *кажуць* (больш як у 170 прыказкаўжываннях; у гэты лік не ўваходзяць таксама высокачастотныя *кажуць* і *як кажуць*, якія ўкліньваюцца ў сярэдзіну прыказак і, разам з іншымі моўнымі адзінкамі, разглядаюцца асобна – у параграфе «Аб пранікальнасці прыказак»). Гэтыя спасылкі адначасова з'яўляюцца сувязным звяном паміж прыказкай і папярэднім ці (радзей) наступным сказам, ускосна паказваюць на крыніцу паведамлення або ацэньваюць манеру маўлення: «Я магла б угаварыць мужа пайсці працаваць на рынак (*як кажуць*, начная зязюля дзённую перакукуе)» (С.Шаўцоў); «Будзе на свеце хоць трошкі праўды, дык людзі і жыцьмуць. А згонім яе з зямлі – збірайцеся, людцы, і паўзіце на могілкі. *Кажуць*, зямля святая ўсіх прымае» (А.Кажадуб). *Як кажуць* іншы раз выкарыстоўваецца ў больш пашыраным кампанентным складзе – *як гэта кажуць*, што, думаецца, не робіць ні сэнсавай, ні стылістычнай розніцы паміж імі; звычайна ў такіх выпадках пасля *як гэта кажуць* ставяць не коску, а двукроп'е: «*Як гэта кажуць*: выбірай жонку не на ігрышчы, а на іржышчы» (А.Казлоў); «*Як гэта кажуць*: дзеткі падраслі, хатку растраслі? Падобна на праўду» (А.Кажадуб). Неаднолькавыя знакі прыпынку (то коску, то двукроп'е) ставяць і пасля *кажуць*: «*Кажуць*, адна галава добра, а дзве лепей» (М.Аўрамчык); «*Кажуць*, жыццё пражыць – не поле перайсці» (М.Замскі); «*Кажуць*: бадлівай карове бог

рог не дае» (І.Гурскі), «*Кажуць*: добра смяецца той, хто смяецца апошнім» (Б.Кавалерчык). *Кажуць* часта ўскладняецца часціцай *жа*: «*Кажуць жа*, застаў дурня богу маліцца, дык ён лоб разаб'е» (В.Шырко); «*Кажуць жа*, золата за плячыма, а чорт перад вачыма» (А.Фомчанка).

Назавём яшчэ найбольш частотныя ўскосныя спасылкі (у іх няма слоў «прыказка» ці «прымаўка»). Звычайна гэта ўводна-ацэначныя формулы.

*Праўду кажуць, праўду людзі кажуць, правільна людзі кажуць*: «Мой родны кут, як ты мне мілы… *Праўду кажуць*, у гасцях добра, а дома лепей» (В.Зуб); «*Праўду людзі кажуць*: шчасце адно не ходзіць, бяду за сабою водзіць» (В.Шырко); «*Правільна кажуць людзі*: перад смерцю не надышашся» (М.Даніленка).

*Нездарма (недарма, недарэмна) кажуць, нездарма людзі кажуць*: «*Нездарма кажуць*, чалавек мяркуе, а бог не чуе» (У.Краўчанка); «*Недарма кажуць*: воз дадому возіць, сані на базар» (В.Адамчык); «*Недарэмна кажуць*: лапці ваду не прапускаюць» (В.Казько); «*Нездарма людзі кажуць*: дай бог адным кавалкам папярхнуцца» (В.Кадзетава).

*Людзі кажуць, народ кажа*: «*Людзі кажуць*: лепш едучы змерзнуць, чым ідучы спацець» (В.Шырко); «*Народ кажа*: ад бяды кіем не адаб'ешся» (С.Алексіевіч).

*Як той казаў, казаў той*: «*Як той казаў*, пад богам усе ходзім, грэшныя, хоць пішам некралогі, бадзёрыя, уцешныя» (В.Вітка); «Нічога, *казаў той*, будзе мёд і ў Сідаравай калодзе» (М.Воранаў).

*Як кажуць (гавораць) людзі, як гаворыцца, у народзе кажуць (гавораць)*: «Ведама ж, *як кажуць людзі*, другіх слухай, а сваім розумам жыві» (В.Быкаў); «Нічога, *як гавораць людзі*, для старца – міля не круг» (Л.Левановіч); «*Як гаворыцца*, не было ні граша, а раптам – алтын» (В.Гроднікаў); «*У народзе кажуць:* горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі» (І.Гурскі); «*У народзе гавораць:* захочаш ударыць сабаку – палку знойдзеш» (Я.Ермаловіч).

*Вядома (добра вядома, даўно вядома, здаўна вядома)*: «*Вядома*, чалавек – не арэх, адразу не раскусіш» (І.Новікаў); «*Добра вядома:* два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць» (В.Гігевіч); «*Даўно ж вядома*, што клін клінам выбіваюць» (В.Зуб); «*Здаўна вядома*, што двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма» (В.Быкаў).

У параўнальна нешматлікіх выпадках перад прыказкай ставяцца пабочныя словы *зрэшты, сапраўды, выходзіць, значыць, словам* ці пабочны выраз *адным словам*, якія звычайна паказваюць на адносіны паміж часткамі кантэксту, паміж папярэднім сказам і прыказкай: «Сказаць, што ў нас прыгожая мясціна, значыць, нічога не сказаць. *Зрэшты*, кожны кулік хваліць сваё балота» (Л.Левановіч); «У сваім блізкім да вар'яцтва паталагічным жаданні ўтрымаць уладу наўрад ці яны разумеюць, што твораць. *Сапраўды*, калі Бог хоча пакараць, таго ён пазбаўляе розуму» (В.Быкаў); «Бач ты яго, якім героем зрабіўся. Стройны, бадзёры. А быў такі сутулы, проста ў зямлю жывы лез. *Выходзіць*, граза ў лес не ідзе» (І.Сіняўскі); «– Бачыце, мы, можна сказаць, ужо як і жанатыя. – *Значыць*, шлюб пад плотам, а вяселле потым?» (І.Козел); «Усё абяцанкамі-цацанкамі нас частуе. *Словам*, сыты галоднага не разумее» (В.Супрунчук); «Зямлю паны цэняць дарага. Не толькі чвэрткі – дзесятай долі не аплаціць. *Адным словам*, куды ні кінь, дык клін» (А.Якімовіч).

Неаднойчы выкарыстаны і яшчэ некаторыя ўскосныя спасылкі: *і праўда, яно ж так, яно і праўда, па прынцыпу, гавораць жа і так* і інш.

У асобную падгрупу можна вылучыць шматлікія нестандартныя формулы, у якіх нібыта канкрэтызуецца крыніца паведамлення, робіцца спасылка на каго-небудзь – блізкага, знаёмага, родзіча і пад.: *мая маці, бывала, гаварыла; як мой дзед вучыў; як любіць гаварыць Рыгор Іванавіч; як кажа мой бацька; дзядуля некалі жартаваў; успомнілася чутае ад людзей; як казала Віталёва бабка; як кажа мая гаспадыня; нездарма ж старыя людзі мне гаварылі* і г.д. Некалькі прыкладаў: «*Не малады*, галубка, мусіць, *сказаў*: старасць – не радасць. Охо-хо! І сярэдзіна баліць, і сама вось-вось рассыплюся» (М.Даніленка); «*Згадалася даўно пачутае ад старое маці*: дзед бабцы купіў лапці, былі малыя – адсек пальцы» (Я.Брыль); «Абедаць хоць, можа, і рана, але ж *некалі мой Гірша казаў:* абед на абед не тое, што кій на кій» (І.Чыгрынаў).

Ускосныя, як, зрэшты, і прамыя, спасылкі зрэдку займаюць не прэпазіцыйнае, а постпазіцыйнае месца: «Куды іголачка, туды і нітачка, *кажуць людзі*» (А.Пальчэўскі); «Усякі чорт на сваё кола ваду цягне, – *кажуць у народзе*» (В.Іпатава); «Няма нічога патайнага, што не стала б яўным, *як казаў калісь дзяк Бацяноўскі*» (Я.Колас); «Смеласць гарады бярэ, – *так калісьці казаў паважаны папаша*» (М.Лынькоў).

Што да прамых, непасрэдных спасылак на прыказку, то сярод іх таксама адны досыць пашыраныя, другія – спарадычныя. Назавём найбольш пашыраныя спасылкі. Варта нагадаць, што ў аўтарскіх спасылках словы «прыказка» і «прымаўка» не размяжоўваюцца, выкарыстоўваюцца як абсалютныя сінонімы.

*Ёсць (такая) прыказка (прымаўка): «Ёсць прыказка*: хто ажэніцца, той пераменіцца» (С.Кавалёў); «*Ёсць прымаўка:* не смейся, рабе, дасць бог і табе» (С.Лобач); «*Нават прыказка такая ёсць*: што кажух, то не вата, што капуста, то не гарбата» (В.Зуб); «*Ёсць такая прымаўка:* хутка каты робяцца, да сляпыя родзяцца» (А.Петрашкевіч).

*Як у (той) прыказцы (прымаўцы); атрымліваецца, як у той прыказцы (прымаўцы): «Як у прыказцы той*: не купіў бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць» (М.Лынькоў); «*Як у той прымаўцы:* каб не клін ды не мох, то і плотнік бы здох» (С.Кухараў); «*Як у той прымаўцы:* лепш мець вераб'я ў руцэ, чым арла на суку» (Л.Прокша); «*Атрымліваецца, як у той прыказцы:* адзін з сошкаю, а пяць з ложкаю» (У.Кулажанка); «*Атрымліваецца, як у той прымаўцы*: добрая слава на паліцы ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць» (І.Скарынкін).

*Згодна прыказцы (прымаўцы), паводле прыказкі (прымаўкі), па прыказцы (па прымаўцы): «Згодна прыказцы* – едзеш на дзень, а хлеба бяры на тыдзень – добры гаспадар без адпаведнага запасу ежы ў дарогу ніколі не выбіраецца» (В.Ластоўскі); «Кожны меў права, калі быў галодны, адрэзаць кавалак хлеба ды падсілкавацца, запіваючы вадой *паводле прыказкі:* «Хлеб ды вада – маладзецкая яда» (У.Калеснік); «Як я жыву, пан доктар? Я таксама *па прымаўцы*, як той гарох, што расце пры дарозе, хто ідзе, той і скубе» (М.Клімковіч).

*Як кажа прыказка (прымаўка), як тая прыказка кажа:* «Вучыцца, *як кажа прыказка,* ніколі не позна» (М.Паслядовіч); «*Як тая прыказка кажа* – пана клянуць, а пан таўсцее» (К.Крапіва).

*Прыказка нездарма кажа, прыказка (прымаўка) кажа (гаворыць): «Прыказка нездарма кажа,* багатаму чорт дзяцей калыша» (Ф.Аляхновіч);

«*Прымаўка кажа:* да бога высока, да пана далёка» (В.Дунін-Марцінкевіч); «*Прыказка гаворыць:* хто ўкраў парася, у таго ў вушах пішчыць» (Я.Колас).

Сустракаюцца і іншыя, менш тыповыя спасылкі на прыказку: *наша прыказка кажа, старая беларуская прымаўка кажа, прыказка праўду кажа, як кажа народная мудрасць, як кажа наша прымаўка, якраз па прыказцы, ёсць мудрая прымаўка, нездарма народная мудрасць гаворыць, успомніў ён прыказку, прыйшла ў галаву прыказка, тут прымаўка падыходзіць, прыгадваецца прыказка, ведаеш прымаўку, да такой вёскі цалкам падыходзіць прыказка, хіба што прыказка і суцяшала, трымайся прымаўкі, у нас нават прымаўка пайшла ў народзе* і інш.

Прамыя спасылкі на прыказку ставяцца іншы раз не перад прыказкай, а пасля яе: «У сям'і не без вырадка, *кажа прыказка*» (У.Дамашэвіч); «– Казала Насця, як удасца, – *прыгадаў Дзяніс прымаўку*» (І.Сіняўскі); «Хто дбае, той і мае, – *кажа старая прыказка*» (М.Лужанін); «Слова – серабро, маўчанне – золата, – *вучыць даўняя прымаўка*» (П.Пестрак).

У некаторых выпадках, пераважна пры ўжыванні прыказак кніжнага паходжання, робяцца спасылкі на іх дакладную этымалагічную крыніцу: *усходняя мудрасць гаворыць, ён ведаў афарызм Казьмы Пруткова, як сказаў паэт, усплываюць словы старажытных грэкаў, як кажуць палякі, старадаўні грэчаскі філосаф сказаў* і інш. Тры прыклады: «Я з ходу нічога іншага не прыдумаў, як *працытаваць Крапіву:* «Каб сонца засланіць – вушэй асліных мала» (Я.Брыль); «Не судзі, *як кажа Біблія*, каб самому не быць асуджаным» (А.Бельскі); «*Праўду кажуць кітайцы:* цяжка знайсці чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма» («Наша слова»).

Паўторымся, што пры рэалізацыі прыказак у маўленні толькі іх пятая частка суправаджаецца ўскоснымі ці прамымі спасылкамі, ва ўсіх жа астатніх выпадках прыказкі ўключаюцца ў кантэкст без усякіх спасылак. Таму неяк кідаецца ў вочы творчая практыка В.Дуніна-Марцінкевіча, які, ужываючы прыказкі, больш за 40 разоў суправаджаў іх амаль аднатыпнымі стылеўказальнымі агаворкамі: *знаеш (ведаеш) прымаўку (прыказку, прыпавесць, прыгаворку), добра кажа прыгаворка (гутарка, прыказка, прымаўка, пагаворка).* Радзей выкарыстоўваюцца іншыя спасылкі, скажам, у такіх прыкладах: «*Вы ж ведаеце прыпавесць:* даганяючы не нацалавацца»; «*Добра прыгаворка вучыць:* папаўся, наш пане жучку, ды ў панскую ручку»; «*Не дарма кажа прымаўка:* ранняя пташачка крылкі цярэбіць, а позняя вочы праціраe». Між іншым, у Я.Коласа таксама многія прыказкі ўжыты са спасылкамі, але яны, як правіла, разнастайныя: *ёсць такая прыказка, жыву па прыказцы, паводле прыказкі журботнай, праўдзівая прыказка, як гаворыць народная прыказка, асноўная формула яго філасофіі, кіруючыся мудрым правілам* і г.д.

Прыказкі, як відаць са шматлікіх спасылак, прыведзеных на папярэдніх старонках, атрымліваюць у маўленні самую высокую ацэнку, бо ў іх увасоблена вякамі праверaная народная мудрасць. Ёсць і шчырае, аголенае захапленне той ці іншай прыказкай: «вельмі мудрая народная прыказка» (І.Шамякін), «залатое правіла» (І.Навуменка), «не дурны чалавек выдумаў» (К.Крапіва), «народ прыдумаў такую геніяльную

прыказку» (Н.Гілевіч). Зрэшты, адна і тая ж прыказка ў неаднолькавых маўленчых сітуацыях можа ацэньвацца па-рознаму. Супаставім, да прыкладу: «Не вельмі да душы ёй [Ганне] Яўхім, але хіба ж – праўда – не першы жаніх на сяле?.. Чаму было не паверыць векавечнай мудрасці: сцерпіцца – злюбіцца, мілым будзе?» (І.Мележ) і «Усе госці гукнулі ў адказ збітае, старасвецкае: «Сцерпіцца – злюбіцца!» (П.Пестрак). Параўн. таксама і такія кантэксты, дзе выказваецца нязгода з прыказкай, яе ўстарэласць: «Каму-нікаму яшчэ цяжка зразумець гэта. Цяжка таму, што жывуць яны яшчэ па старой прымаўцы: рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей» (І.Шамякін); «– А мох навошта?.. – Вы хочаце сказаць: «Каб не клін ды не мох, дык цясляр бы падох». Гэта старая прыказка» (А.Пальчэўскі); «Можа, і не вельмі дарэчы тут наша беларуская прымаўка: «Век жыві, век – будуйся» (В.Адамчык); «Ранейшая прымаўка – не красна хата вугламі, а пірагамі – устарэла. Хата наша, сучасная, павінна быць красна і пірагамі, і вугламі» (І.Дуброўскі).

## § 16. Аб пранікальнасці прыказак

Характарызуючыся сэнсавай і інтанацыйнай закончанасцю, прыказкі з'яўляюцца структурна замкнёнымі моўнымі адзінкамі. Але іх структурную замкнёнасць «нельга атаясамліваць са структурнай непранікальнасцю» [107, с. 57]. Назіранні за рэалізацыяй прыказак у маўленні паказваюць, што нярэдка паміж парэмійнымі кампанентамі ўключаюцца пабочныя канструкцыі, звароткі або перад прыказкай аказваюцца сінтаксічна не звязаныя з ёю выклічнікі, часціцы. Сустракаюцца і некаторыя іншыя ўскладненні прыказак, што не выходзяць за межы моўнай нормы.

Так, сярод прыкладаў, якімі ў СБП (с. 450) ілюструецца ўжыванне прыказкі *Шыла ў мяшку не схаваеш (не ўтоіш)*, ёсць і такія (уключаныя ў прыказку або далучаныя да яе словы ці спалучэнні далей выдзелены курсівам: 1) Шыла, *як кажуць*, у мяшку не ўтоіш (У.Галубок); 2) *Што ж*, шыла ў мяшку не ўтоіш (М.Ткачоў); 3) *І ўсё ж* – шыла ў мяшку не схаваеш (Л.Арабей). Параўн. прыклады з выкарыстаннем яшчэ адной прыказкі: 1) – Што будзе міру, – *сказаў дзед устрывожанай маці*, – тое і бабінаму сыну (А.Якімовіч); 2) *А ўжо, браток*, што будзе міру, тое і бабінаму сыну (І.Сіняўскі); 3) А наконт панікі – то я не панікёрша *і наогул* што міру, то і бабінаму сыну (Л.Арабей). Гл. таксама ў СБП разнастайную пранікальнасць структуры, напрыклад, у прыказках: *Ад прыбытку галава не баліць; Ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць; Дай божа нашаму цяляці ваўка спаймаці; Загляне сонца і ў наша аконца.*

З'ява пранікальнасці прыказак не такая ўжо рэдкая пры іх рэалізацыі ў маўленні: яна сустрэлася больш як у 280 выпадках пры ўжыванні прыкладна 4500 прыказак.

Уключацца ў прыказку могуць толькі фармальна не звязаныя з ёю пабочныя кампаненты і звароткі. Часціцы ж і выклічнікі як бы прымыкаюць да прыказкі, займаючы прэпазіцыйную, інтанацыйна і сэнсава адасобленую пазіцыю, а дэтэрмінанты зрэдку могуць уключацца і інтэрпазіцыйна.

1. Часцей за ўсё ўводзяцца пабочныя словы, словазлучэнні, сказы. А сярод іх пераважаюць такія, што паказваюць на крыніцу паведамлення або ацэньваюць манеру маўлення, спосаб перадачы думкі,

змешчанай у прыказцы. Найчасцей выкарыстоўваецца *кажуць* (каля 40 разоў), напрыклад: «А мы ўдваіх праверым… Адна галава, *кажуць*, добра, а дзве яшчэ лепей» (М.Ваданосаў); «Будзь здаровы, сынок. Беражонага, *кажуць*, бог беражэ» (М.Даніленка). Іншы раз уключэнне пабочных слоў у прыказку лічаць стылістычным прыёмам, сцвярджаюць, што «асноўны стылістычны эфект прыёму заключаецца ва ўзмацненні, падкрэсліванні абагульненага павучальнага характару парэміі» [87, с. 129]. Дастаткова, аднак, параўнаць выкарыстанне пададзеных вышэй прыказак, але ўжо без устаўкі *кажуць*, як становіцца відавочным, што сцвярджэнне непераканальнае: «Васіль вырашыў паклікаць на дапамогу сяброў. «Адна галава добра, а дзве – лепш», – успомніў ён прыказку» (А.Якімовіч); «Беражонага бог беражэ. Спадзеючыся на бога, берагліся, як маглі, і верасаўцы…» (В.Адамчык). Уключэнне ў сярэдзіну прыказкі пабочнага кампанента *кажуць* нікольки не ўплывае ні на яе сэнсавы змест, ні на стылістычную афарбоўку, а толькі выконвае сваю звычайную функцыю мадальных слоў. З другога боку, гэта *кажуць*, як і іншыя пабочныя кампаненты, незалежна ад таго, ці яно знаходзіцца ў сярэдзіне прыказкі, ці перад ёю, выступае сувязным звяном паміж прыказкай і папярэднім сказам, адным са сродкаў увядзення прыказкі ў кантэкст.

Досыць часта ў прыказкі ўкліньваюцца мадальныя фразеалагізмы *як той казаў* і *як кажуць* (яны абазначаюць 'як прынята гаварыць'): «Мала што на свеце бывае. А, *як той казаў*, калі што якое, дык што там такое» (У.Калеснік); «Апетыт, *як кажуць*, прыходзіць у час яды» (М.Лынькоў). Дарэчы, Я.Карскі пісаў, што, «калі народ у маўленні звяртаецца да прыказак ці прымавак, ён звычайна не прыводзіць гэтых слоў, а гаворыць: *як той казаў, не дарма кажуць* і г.д.» [51, с. 471]. У мастацкіх жа тэкстах нярэдка ёсць і спасылкі на «гэтыя словы», прычым, як ужо адзначалася, паняцці «прыказка» і «прымаўка», як правіла, атаясамліваюцца: «У сямі нянек, *як прымаўка гаворыць*, дзіця без носа» (І.Грамовіч); «Адкуль жа, *як адзначыла прыказка*, сіраце бацьку ўзяць» (М.Лужанін); «Вучыцца, *як кажа прыказка*, ніколі не позна» (М.Паслядовіч); «Госць, *кажа беларуская прыказка*, мала бывае, ды шмат бачыць» (А.Лойка).

У прыказкі ўстаўляюцца іншыя пабочныя канструкцыі, якія паказваюць на крыніцу паведамлення: *як сцвярджаюць вопытныя людзі, як кажуць старыя, кажуць людзі, як кажа мая гаспадыня, як казалі некалі* і г.д. Як устаўкі выкарыстоўваюцца пабочныя словы і спалучэнні, якія паказваюць ступень упэўненасці таго, хто гаворыць, у рэальнасці свайго паведамлення, выказанага прыказкай (*праўду кажуць, як вядома, канечне, адно сапраўды, праўда, можа, можна сказаць, мабыць* і пад.), або з'яўляюцца зваротам да суразмоўніка, каб прыцягнуць увагу: «А дурням, *як вядома*, закон не пісаны» (І.Клімянкоў); «Бяда, *праўду кажуць*, адна не ходзіць» (І.Мележ); «Жывём, *можна сказаць*, як гарох пры дарозе, – хто ідзе, той і скубе» (В.Зуб); «Добра, *мусі*, там, дзе нас няма» (В.Адамчык); «Пакорнае цялятка, *знай*, дзве маткі ссець» (В.Дунін-Марцінкевіч); «Праўда, *знаеш*, наверх выйдзе» (В.Мыслівец); «Куй жалеза, пакуль, *ведаеш*, гарачае» (М.Ваданосаў).

Іншы раз прыказка ўскладняецца двума пабочнымі кампанентамі: «– Праз Падую ісці на Рым ты будзеш. – Праз Падую? А гэта па дарозе? *Зрэшты*, сяло, *як кажуць*, старцу не наклад» (М.Клімковіч). Праўда,

*зрэшты*, тут паказвае на кантэкставую сувязь паміж папярэднім сказам і прыказкай.

2. Паміж кампанентамі прыказкі могуць укліньвацца звароткі. Як і ў пазапрыказкавым кантэксце, лексічнае значэнне слоў, што выконваюць функцыю звароткa, разнастайнае. Неаднойчы сустракаецца зваротак-назоўнік, які абазначае ступень роднасці: «Шылам мора, *сынок*, не нагрэеш» (С.Грахоўскі); «Жыццё пражыць, *сынок*, не поле перайсці» (У.Краўчанка); «З добрым гаспадаром, *сынок*, нажывешся, з дрэнным гора набярэшся» (В.Шырко). У ролі зваротка выступаюць і ўласныя імёны: «Не дзівіся таксама з убораў маіх: гора красіць, *Паліна*, толькі ракаў адных» (А.Куляшоў). Прыказка *Вырас пад неба, а дурань як трэба* звычайна ўжываецца ў дачыненні да юнака або маладога чалавека высокага росту, калі той не разумее або не зразумеў чаго-небудзь простага. Па форме яна, як правіла, бяздзейнікавая, але калі ў яе ўключаецца зваротак, то разам з ім і побач з ім аказваецца і дзейнік-займеннік *ты*: «Вырас *ты, Валодзька*, пад неба, а дурань як трэба» (І.Капыловіч).

Зрэдку звароткі выражаюцца формай былога клічнага склону назоўніка: «Закон, *суседзе*, што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла» (І.Аношкін); «Куй, *браце*, жалеза, пакуль не астыла!» (Я.Купала); «Работы, *пане настаўніку*, ніколі не пераробіш» (Я.Колас).

Іншы раз зваротак, уключаны ў прыказку, абазначае асобу неадушаўлёным назоўнікам, узятым у дыялагічным маўленні з папярэдняй рэплікі суразмоўніка, што служыць для стварэння камічнага эфекту, але, як і ў іншых выпадках, не закранае сэнсавага зместу прыказкі і яе экспрэсіўнага гучання. Прыклад з п’есы Я.Купалы «Прымакі»: «[Мацейка:] Адным словам, без паўкварты не разбярэш. Ха-ха-ха! [Паланея:] А да цябе, *паўкварта*, калі не п’юць, то і не кажы здароў будзь». У камедыі Я.Купалы «Паўлінка» любімымі словамі Сцяпана з’яўляюцца «каханенькая, родненькая», якімі ён «аздабляе» амаль кожнае выказванне. Гэтыя ж словы ён уводзіць як спустошаны зваротак і ў прыказку: «Скора састарышся, *каханенькая, родненькая*, як усё будзеш ведаць».

Прыказка часам ускладняецца адначасова пабочным словам і звароткам: «*Ведаеш, Сярожа*, пужаная варона і куста баіцца» (М.Машара); «Бог, *зайваж, суседзе*, не цяля – бачыць круцяля» (Я.Колас).

3. Прыказкі могуць ускладняцца дэтэрмінантамі – даданымі членамі сказа, што адносяцца не да аднаго якога-небудзь парэмійнага кампанента, а да ўсёй прыказкі. У адрозненне ад пабочных слоў і звароткаў, якія ўключаюцца ў прыказку і займаюць у ёй ізаляваную пазіцыю, дэтэрмінанты ўступаюць у граматычную сувязь з прыказкай. Калі дэтэрмінант у няпрыказкавай структуры звычайна змяшчаецца ў пачатку сказа, то ў прыказках гэта назіраецца не заўсёды. Напрыклад, ва ўсіх шасці выяўленых прыкладах з ужываннем дэтэрмінанта (акалічнасці часу) *заўсёды* ён аказваецца ў сярэдзіне прыказкі: 1) – За няўдачу *заўсёды* даюць прыдачу, – буркнуў Тодар (К.Крапіва); 2) З вялікага грому – *заўсёды* малы дождж (А.Асіпенка; 3) Як ваўка ні кармі, ён *заўсёды* ў лес глядзіць (М.Пянкрат); 4) Свая кашуля *заўсёды* бліжэй да цела (А.Крыга); 5) Новая мятла *заўсёды* па-новаму мяце (І.Шамякін); 6) Ранні зайчык *заўсёды* зубкі цярэбіць, а позні вочкі прадзірае (І.Чыгрынаў). Параўн. месца дэтэрмінанта *часам (часамі)* у прыказках: 1)

*Часамі* думкі за гарамі, а смерць за плячамі (К.Крапіва); 2) Каму невядома, што і ў сцен *часам* ёсць вушы (В.Быкаў); 3) Конь на чатырох нагах і то спатыкаецца *часам* (С.Александровіч).

Можна адзначыць і яшчэ адну асаблівасць, звязаную з дэтэрмінантамі ў прыказкавай структуры. У некаторых выпадках дэтэрмінанты-фразеалагізмы *ўсё роўна* і *ўсё адно* (у іх прыслоўна-акалічнасным значэнні 'абавязкова, пры любых абставінах') адносяцца не да ўсёй прыказкі, а, хутчэй, толькі да другой яе часткі: 1) А ўсё-такі правільна кажа народная прыказка: як воўка ні кармі, а яго *ўсё роўна* ў лес цягне (В.Дайліда); 2) Недарма кажуць: як ваўка ні кармі, *усё адно* яго ў лес цягне (І.Шамякін). Параўн. іншыя прыклады: 1) *Усё роўна* колькі вяровачцы ні віцца, а канец будзе (М.Герчык); 2) *Усё роўна* Масква слязам не верыць (С.Грахоўскі); 3) Шыла ў мяшку *ўсё роўна* не схаваеш (В.Дайліда).

У большасці выпадкаў дэтэрмінант змяшчаецца перад прыказкай, напрыклад, *тады* (у значэнні 'калі такое здарыцца; у такім выпадку'), скажам, у У.Дамашэвіча: «– Гэта вы сур'ёзна? – На жаль, сур'ёзна. – *Тады* аддайце мае цацкі, я з вамі не гуляю»; або ў І.Гурскага: «– Не чакай ад мяне гэтага! – *Тады* вось табе хамут і дуга, а я болей не слуга».

Сэнсавае ўзаемадзеянне паміж дэтэрмінантам і прыказкай неаднолькавае. У адных выпадках дэтэрмінанты амаль страчваюць сваё самастойнае лексічнае значэнне, як бы раствараючыся ў абагульненым сэнсе прыказкі і толькі пацвярджаючы правільнасць заключанага ў ёй вываду. Так, прыказка *Воўк не шкодзіць паблізу свайго логава* абазначае 'несумленны, але хітры чалавек не робіць шкоды суседзям, каб не выклікаць у іх падазрэння да сябе'. Параўн. у У.Шахаўца: «... гэта так: воўк *ніколі* не шкодзіць паблізу свайго логава». Сэнс прыказкі *Пан за пана цягне (верне)* – 'адзін уплывовы, уладарны чалавек садзейнічае, дапамагае другому'. Параўн. у Я.Коласа: «... бо *ўсюды* пан за пана цягне». Тут таксама дэтэрмінант *ўсюды* ўзмацняе абагульняльны характар прыказкі.

У другіх выпадках дэтэрмінант захоўвае сваё значэнне і ўся канструкцыя «дэтэрмінант + прыказка» роўная суме двух значэнняў. Гэта бачым пры далучэнні да прыказкі ці ўключэнні ў яе, напрыклад, слоў *там, некалі, урэшце, калі-небудзь*: «– Па Мяснікову і Сталіну – *там* [ва ўрадзе] усе чэрці адной шэрсці, – прамовіў Жалуновіч» (Г.Далідовіч); «... а *там* дасць бог дзень, дасць і полудзень» (С.Грахоўскі); «Але *ўрэшце* загляне сонца і ў нашае аконца» (В.Быкаў); «Будзе *калі-небудзь* і на нашай вуліцы свята» (М.Лынькоў).

Нярэдка кампанентны склад прыказкі пашыраецца адначасовым далучэннем ці ўстаўкай дэтэрмінанта і пабочных кампанентаў (*тут, як кажуць; цяпер, як той казаў; заўсёды, кажуць; ніколі, кажуць* і інш.), напрыклад: «А *ў нас і сёння, як той казаў*, адзін з сошкай, а сямёра з ложкай» (Л.Арабей); «*Пакуль, на жаль*, маем тое, што маем» (Ю.Голуб); «Клін *у такіх выпадках, здаецца,* выбіваецца клінам» (А.Мальдзіс); «І *тут зноў, як кажуць,* кожнаму сваё» (В.Казько).

Іншы раз дэтэрмінант суседнічае са звароткам: «А *цяпер, Фядос,* злазь з даху і не псуй гонту!» (А.Петрашкевіч); «*Усё роўна, дзеткі,* ліхтаром пушчы не асвеціш» (У.Галубок).

4. Структурная пранікальнасць асабліва відавочная тады, калі прыказка разрываецца двухсастаўным сказам. Сама прыказка

найчасцей у такіх выпадках аформлена як канструкцыя з простай мовай: «– З кім жыць, – *развёў рукамі Сайка*, – таго не гнявіць» (І.Гурскі); «– Лістам сцелецца, – *гаварыў Шпакоўскі*, – а ўкусіць цэліцца» (І.Гурскі). Параўн. устаўку іншага кшталту: «Чаго ўздыхаеш? «Не ўздыхай, – *кажа беларуская прыказка*, – чаго няма, то няхай» (Р.Мурашка).

Як будзе далей паказана, прыказкі могуць у маўленні ўскладняцца выклічнікамі і часціцамі. Часам яны аддзяляюцца ад прыказкі ўстаўкамі двухсастаўнага сказа: «Эх, – *уздыхнуў Лабановіч,* – каб ведаў, дзе павалішся, то саломкі падаслаў бы» (Я.Колас); «– Эт! – *махнуў рукой Габрусь*, – плакаў, плакаў – усё бог аднакаў, пачаў пяяць, стаў бог даваць» (З.Бядуля); «– Ну што ж, – *падумаў задаволена*, – не падмажаш, не паедзеш» (А.Вараповіч); «– А! – *махнуў рукой Андрэй.* – Служачы хлеб – сабачы» (Я.Колас).

5. Як ужо ўпаміналася, прыказкі дапускаюць ужыванне пры сабе выклічнікаў. Выражаючы розныя пачуцці, выклічнікі хоць і не валодаюць намінатыўнай функцыяй, але «маюць усвядомлены калектывам сэнсавы змест» [30, с. 745]. Праўда, многія з іх поліафектыўныя: імі, вар'іруючы інтанацыю, выказваюць то здзіўленне, то захапленне, то страх, спачуванне, абурэнне і г.д. У пісьмовым маўленні выражаная выклічнікам эмоцыя падказваецца, вызначаецца кантэкстам. Так, неаднолькавыя, хоць і блізкія пачуцці выражае выклічнік *ат* пры трох прыказках, але ва ўсіх выпадках сэнсава і эмацыянальна кантактуе з пэўнай прыказкай, да якой далучаецца: 1) Вядома, калі б [у юшку] перцу ды лаўровага лісту – яшчэ лепш… *Ат*, сіраце – прыкіпіць у жываце! (Я.Брыль); 2) – Столькі людзей у нас і маладых, і заслужаных, а – старую бабу [намалявалі]. – А чаму вы думаеце, што яна не заслужаная? – *Ат*, старога хвалі, ды з двара гані (М.Гроднеў); 3) – А чаго ж вы яго [баптыста] баіцеся? – *Ат*, воўк сабакі не баіцца, але не хоча звягі слухаць (Я.Брыль).

Адмоўная характарыстыка каго-небудзь, уласцівая прыказцы *Яйкі курыцу вучаць*, узмацняецца адпаведным выклічнікам: «– Чым раней ты возьмешся за розум, тым табе ж будзе лепш. – *Ай-яй-яй*, яйкі курыцу вучаць. Ну і ну!» (А.Асіпенка). Эмацыянальная сумяшчальнасць паміж прыказкай і выклічнікам выразна адчуваецца і ў такіх прыкладах: «– Я на такое не наймаўся. – А ты на што спадзяваўся? *Дудкі*, трапіў у вараны, крычы, як яны» (А.Асіпенка); «*Эх,* воўк не з'еў, дык бугай не забадае» (У.Калеснік); «*Ну-ну*, дай бог нашаму цяляці ваўка з'есці» (Г.Марчук); «*Эх-хе*, быў час, калі любілі і нас» (Л.Леванoвіч); «*Э*, ваўка баяцца – у лес не хадзіць» (С.Грахоўскі).

Поліафектыўны выклічнік *ага* павышае эмацыянальна-экспрэсіўную танальнасць прыказкі з камедыі Я.Купалы «Паўлінка»: «– Скажыце, скажыце, татачка! – *Ага*, ні села, ні пала, захацела баба сала!» Параўн. таксама: «*Эт*, язык да Кіева давядзе» (З.Бядуля).

Нярэдка паміж выклічнікам і прыказкай аказваюцца:

а) пабочныя кампаненты (*эх, праўду кажуць; от, сапраўды; ат, кажуць* і інш.), напрыклад: «*Ай, як кажуць,* не заўсёды світае, як певень спявае» (В.Адамчык); «*Ну, думаю,* гаманіць галава не баліць» (В.Шырко); «*Цьфу, праўду кажуць,* дурной бабе і галава мяшае» (А.Кажадуб);

б) зваротак: «*Ой, Вольга,* ты гавары, ды не ўсё дагары» (В.Адамчык); «*Эх, пане,* дзе чубы трашчаць, там і пэйсы ляцяць» (Я.Колас); «*Ну, хлопцы,* у полі дзве волі» (В.Вольскі) і інш.;

в) зваротак і пабочны кампанент: «*Э, чалавеча, кажуць,* не кайся рана ўстаўшы і рана жаніўшыся» (В.Адамчык);

г) часціца і зваротак: «*Э-э, не, брат,* чуткамі зямля поўніцца» (Б.Сачанка).

6. Даволі часта прыказкі ўскладняюцца часціцамі. Усе яны, апрача *ж (жа)*, займаюць прэпазіцыйнае становішча.

Часціца *ж* (пасля галосных) і *жа* (пасля зычных) ставіцца пасля першага прыказкавага кампанента, які, дзякуючы гэтаму, выдзяляецца інтанацыйна і атрымлівае лагічны націск. Звычайна пад такое ўскладненне падпадаюць прыказкі, у якіх або ўсе кампаненты маюць літаральнае значэнне, або толькі частка слоў атрымала іншасказальны сэнс; напрыклад: «Чалавек *жа* невучоны што тапор нетачоны» (В.Праскураў); «Жывы *ж* пра жывое думае» (В.Адамчык); «Пешы *ж* коннаму не таварыш» (П.Броўка); «Свату *ж* першая чарка і першая палка» (Б.Сачанка); «І чорт *жа* літасць мае» (А.Петрашкевіч); «Увосень *жа* і верабей багаты» (Б.Сачанка); «Самі *ж* заварылі гэтую кашу, дык няхай самі і расхлёбваюць» (М.Аўрамчык). Часціца *ж (жа)* надае ўсёй прыказцы ці толькі яе першаму кампаненту ўзмацняльнае значэнне. Скажам, сэнс прыказкі *Ад прыбытку галава не баліць* – ‘прыбытак ніколі не зашкодзіць, не можа непакоіць каго-небудзь’. Параўн. яе ўжыванне ў такім кантэксце: «[Ядзя:] Нашто нам другая карова тая?! [Федзя:] Ад прыбытку *ж* галава не баліць» (І.Козел). Тут ужо прыказка абазначае ‘прыбытак *жа* ніколі не зашкодзіць, не можа непакоіць каго-небудзь’. Або: «Сэрцу *ж* не загадаеш» (М.Лынькоў) – ‘не прымусіш *жа* сябе кахаць ці не кахаць каго-небудзь’.

З іншых часціц больш за ўсё выкарыстоўваюцца *што ж* (каля 20 ужыванняў), а таксама *ну што ж*. Не змяняючы сэнсавага зместу прыказкі, яны служаць для выказвання згоды, прымірэння з чым-небудзь ці адабрэння чаго-небудзь, што тут жа апраўдваецца як бы спасылкай на прыказку. Напрыклад: «Дырэктар забраў з воза свой лёгенькі, з увагнутым бокам, чамаданчык і заспяшаўся да машыны. – *Што ж*, баба з воза – кабыле лягчэй! – весела прамовіў Жывіца» (І.Мележ); «– Пра ўвесь калгас мне застаецца думаць. – *Што ж*, вялікаму каню вялікі хамут» (І.Мележ); «Дык вось куды завяла яго безвыходнасць: да сутарэння, у якім жыве Глеб Кротаў. *Ну што ж*, калі топішся, дык за брытву ўхопішся» (А.Асіпенка). Гэтыя часціцы дастасоўваюцца да прыказак як алегарычных, так і неалегарычных: «*Што ж*, ад прыбытку галава не баліць» (М.Паслядовіч); «*Ну што ж*, век звекаваць – усяго пазнаць» (Т.Супрановіч); «*Ну што ж*, дзякуй гэтаму дому, пайшлі к другому» (А.Кажадуб).

З узмацняльным ці мадальным значэннем ужываюцца перад прыказкамі часціцы *ну, ну і, усё ж, усё-такі* і інш.: «– Ну, а калі што якое? – *Ну*, а калі што якое, дык што тут такое...» (У.Караткевіч); «*Ну і* супроць ражна не папрэш» (К.Крапіва); «*Усё ж* свет не без добрых людзей» (У.Кузьмянкоў); «*Усё-такі* чужая душа пацёмкі» (І.Чыгрынаў).

Каля 10 разоў сустрэлася часціца *маўляў*, якая ўжываецца пры ўскоснай перадачы чужога ўяўнага маўлення: «– Хоча, каб канцы ў ваду. – *Маўляў*, я не я і хата не мая...» (І.Навуменка); «Стуканок за клічку «Заморыш» зусім не крыўдзіўся, *маўляў*, заві хоць гаршком, толькі ў печ не стаўляй» (А.Рылько).

У шматлікіх выпадках паміж часціцай і прыказкай аказваюцца:

а) пабочныя кампаненты; напрыклад: «*А ўсё ж, як кажуць,* сцеражонага бог сцеражэ» (М.Машара); «*Што ж, кажуць*, служыў да вуса, служы і да барады» (І.Ісачанка);

б) зваротак: «*Не, брат,* вышэй пупа не падскочыш» (Я.Колас); «*Ну што ж, душа любезны*, павінную галаву меч не сячэ» (Л.Левановіч).

У паэме Я.Коласа «На шляхах волі» сустрэўся прыклад, калі прыказка разрываецца ўстаўкай часціцы і выклічніка: «Але сцяны ілбом – *не, дудкі* – не праб'еш!»

Апісаная вышэй з'ява структурнай пранікальнасці прыказак адлюстроўвае іх рэальнае функцыянаванне ў маўленні – на ўзроўні моўнай нормы.

## § 17. Парадак слоў-кампанентаў у прыказках

Часам лічаць, што парадак слоў у беларускай мове, як і ў рускай ці ўкраінскай, свабодны. Свабода гэта, аднак, абмежаваная мноствам абавязковых правіл словапарадку. Таму можна гаварыць толькі пра адносна свабодны парадак слоў. Прыгадаем у гэтай сувязі вядомае выказванне Л.Талстога аб ідэальным «адзіна магчымым парадку адзіна магчымых слоў» або такі ўрывак з аповесці І.Навуменкі «Замець жаўталісця»: «Не на сваім месцы слова ў сказе – і ад усяго сказа патыхае фальшам. У матэматыцы ад перастаноўкі складаемых сума не мяняецца, а ў літаратуры – мяняецца».

У сінтаксісе пры разглядзе парадку слоў у сказе, свабодна арганізаваным, няпрыказкавым, вылучаюць прамы і адваротны парадак размяшчэння слоў у пэўнай іх лінейнай паслядоўнасці. Сярод прыказак, як паказвалася раней (§ 14), ёсць амаль усе вядомыя ў сінтаксісе структурна-семантычныя тыпы сказаў, і, значыць, таксама адны прыказкі маюць прамы, а другія – адваротны парадак слоў-кампанентаў.

У прыказках, пабудаваных па схемах простага сказа, калі яны маюць прамы парадак кампанентаў, дзейнік (фармальны і лагічны ў непераасэнсаваных прыказках і толькі фармальны ў поўнасцю ці часткова іншасказальных) заўсёды прэпазіцыйны выказніку: *Дружба пазнаецца ў няшчасці; Зяць любіць узяць; Апетыт прыходзіць у час яды; Гара нарадзіла мыш.* У адных выпадках дзейнік «абсалютна прэпазіцыйны» [11, с. 257] *(Ілья ўкінуў гнілля; І сцены маюць вушы)*, у другіх – пры дзейніку-назоўніку ёсць дапасаванае азначэнне: *Чужая болька не баліць; Забаронены плод салодкі.* Іншы раз прэпазіцыйны дзейнік выражаецца апрадмечаным займеннікам: *Кожны плача па сваім бацьку, як умее; Кожны па часе мае розум.*

Прамы парадак кампанентаў маюць і прыказкі са структурай двухсастаўнага сказа, у якіх: а) на першым месцы стаіць дэтэрмінант, на другім – дзейнік, на трэцім – выказнік *(Пад ляжачы камень вада не цячэ; На кірмашы і бык цельны)*; б) перад дзеясловам-выказнікам аказваецца якаснае прыслоўе *(Скрыпучае дрэва доўга скрыпіць; Ціхая свіння глыбока рые)*; в) пры дзеяслове-выказніку ёсць прэпазіцыйная акалічнасць часу *(Маладое піва заўсёды шуміць; Кволае цяля і ўлетку зябне).*

Пераважная большасць прыказак, структурна арганізаваных як двухсастаўны сказ, мае адваротны, або інверсійны, словапарадак. Інверсіяй называюць змяненне звычайнага парадку слоў у сказе, «у

выніку чаго «перастаўлены» элемент сказа аказваецца выдзеленым і такім чынам прыцягвае да сябе ўвагу (набывае асобную псіхалагічную або стылістычную канатацыю)» [5, с. 176]. Інверсія выкарыстоўваецца не толькі ў размоўным стылі і мастацкім маўленні, але і ў вельмі многіх прыказках. Напрыклад, у наступных прыказках прэпазіцыйнае месца займае дзеяслоўна-выказнікавы кампанент (ён у вусным маўленні выдзяляецца інтанацыйна пры дапамозе лагічнага націску): *Адальюцца воўку авечыя слёзкі; Мінулася кату масленіца; Абыдзецца без марцыпанаў цыганскае вяселле; Загляне сонца ў наша аконца; Заракалася кошка мышэй лавіць; Пазайздросціў шалудзівы пляшываму; Пасмяяўся гаршчок з катла; Хвалілася сініца мора падпаліць.*

Інверсійны словапарадак бачым і ў шматлікіх прыказках, утвораных па структуры двухсастаўнага сказа, у якіх побач стаяць два назоўнікі: адзін з іх у ролі дзейніка (ці нібыта дзейніка), а другі – залежны ад дзеяслова-выказніка і пры прамым парадку кампанентаў павінен бы ісці ўслед за дзеяслоўным кампанентам. Вось толькі некалькі прыкладаў: *Абяцаная шапка на вушы не лезе; Ад работы коні дохнуць; Адна ластаўка вясны не робіць; Ад прыбытку галава не баліць; Баба і чорта звядзе; Багатаму чорт дзяцей калыша; Бог тройцу любіць; Панскае вока каня тучыць; Стары вол баразны не псуе; Шэпты хату зводзяць.*

У адной дысертацыйнай працы, прысвечанай вывучэнню сінтаксісу беларускіх прыказак са структурай простага сказа, робіцца выснова: «Нягледзячы на тое, што пераважная большасць прыказак мае пэўныя структурныя схемы – у прыватнасці, вельмі ўжывальныя схемы: «дзейнік + дадаены член + выказнік», «два дадания члены сказа + галоўны член аднасастаўнага сказа», – размяшчэнне членаў ні ў адной схеме нельга лічыць фіксаваным. У двухсастаўных і аднасастаўных сказах-прыказках выказнік часцей стаіць у постпазіцыі, але не выключана інтэрпазіцыя і прэпазіцыя» [25, с. 23]. Выснова не пацвярджаецца ні колькаснымі паказчыкамі, ні, што асабліва важна, прыкладамі ўжывання той ці іншай прыказкі ў пісьмовым маўленні. Калі ж звярнуцца да пісьмовых літаратурных крыніц, дзе засведчана непасрэдная, фактычная рэалізацыя прыказак, то з прыведзенай вышэй высновай ніяк нельга пагадзіцца. Даводзіцца сцвярджаць адваротнае: амаль ва ўсіх прыказках са структурай простага сказа парадак слоў-кампанентаў устойлівы, фіксаваны.

Гэта сцвярджэнне ў аднолькавай меры адносіцца да прыказак як з прамым, так і з інверсійным словапарадкам. Скажам, прыказка *Да пары збан ваду носіць* мае інверсійны парадак кампанентаў (у ёй *ваду* «не на сваім месцы»). Ва ўсіх 19 прыкладах яе выкарыстання ў літаратурных тэкстах яна рэалізуецца толькі з фіксаваным парадкам кампанентаў. Тое самае можна сказаць, да прыкладу, і пра прыказкі з прамым парадкам слоў: *Дурное дзела няхітрае; На бязрыб'і і рак рыба; На злодзеі шапка гарыць; На лаўца і звер бяжыць; Свая кашуля бліжэй да цела* і г.д.

Калі цяпер звярнуцца да прыказак, пабудаваных па схеме аднасастаўных сказаў, то іхні словапарадак (незалежна ад таго, прамы ён ці адваротны) таксама заўсёды фіксаваны, устойлівы, цвёрды, прычым у адных выпадках тыповы для цэлай групы ці пагрупы пэўнага тыпу аднасастаўных прыказкавых сказаў, а ў другіх – індывідуальны,

«персанальны» для кожнай асобнай прыказкі, замацаваны шматвяковай маўленчай практыкай.

У прыказках са структурай пэўна-асабовага сказа (іх усяго 7) іхні граматычна галоўны член можа быць у пачатку, у сярэдзіне і ў канцы прыказкі, што часта абумоўліваецца ўнутранай рыфмай; напрыклад: *Ядзім хлеб траякі: чорны, белы і ніякі; Міласці прашу к нашаму шалашу; Чужую бяду рукамі развяду; На памылках вучымся; Па малаку ног не павалаку.* Галоўны член прыказкавых сказаў са структурай няпэўна-асабовых сказаў (іх таксама няшмат) часцей займае прэпазіцыйнае становішча *(Заручылі дзеўку процій панядзелку; Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю; Прыйшлі ў нашу хату і б'юць нашага тату)*, але ў некаторых прыказках замацаваўся ў постпазіцыі, што часам звязана з рытмічнымі асаблівасцямі прыказкі *(Без мяне мяне жанілі)* або адначасова з патрабаваннямі рытму і рыфмы *(Пад гумар жартуюць, а ў злосці катуюць).* У інфінітыўных прыказкавых сказах незалежны дзеяслоўны кампанент у большасці выпадкаў ставіцца ў канцы сказа *(Ад напасці не прапасці; Даганяючы не нацалавацца; Адкуль сіраце бацьку ўзяць).* Але зрэдку ён аказваецца ў пачатку прыказкі *(Быць бычку на лычку)* або ў сярэдзіне *(Сіраце прыкіпіць у жываце).*

Як адзначалася ў папярэднім параграфе, прыказкі, утвораныя па схемах абагульнена-асабовага сказа, значна пераважаюць над іншымі структурнымі тыпамі аднасастаўных канструкцый. А сярод іх першае месца (больш за 60 парэмій) займаюць прыказкавыя сказы, у якіх галоўны член выражаецца дзеясловам 2-й асобы адзіночнага ліку і знаходзіцца ў постпазіцыі: *Адной рукой і вузла не завяжаш; На кожны чых не наздароўкаешся; Шылам кісялю не схопіш; З хараства вады не нап'ешся; Маной свет пройдзеш, а назад не вернешся; На ўсіх пірага не спячэш; Слязамі гору не паможаш; Каханне і кашаль не схаваеш; Свайго лёсу не мінеш; На двух конях верхам не паедзеш.* І толькі ў адзінкавых выпадках прыказка заканчваецца спалучэннем дзеяслова з залежным кампанентам, што зноў-такі абумоўліваецца ўнутранай рыфмай або рытмам *(Без працы не будзеш есці каляцы; З-за блох не кінеш кажуха)* ці рытмам і рыфмай адначасова *(На чужыя вусны не накінеш хусты).*

Калі ў прыказках са структурай абагульнена-асабовага сказа галоўны член выражаецца дзеясловам 3-й асобы множнага ліку, то ён таксама амаль заўсёды завяршае сказ: *Пажар агнём не тушаць; Парою сена косяць; На тым свеце не дадуць; У чужой царкве свечак не папраўляюць; Глухому дзве абедні не служаць.* Выключэнні параўнальна рэдкія: *Хваляцца з кірмашу едучы; На паследкі даюць аб'едкі; Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку; У доме павешанага не гавораць пра вяроўку; За спрос не б'юць у нос; За няўдачу даюць прыдачу.* Ёсць каля 40 прыказак гэтага ж структурна-семантычнага тыпу, у якіх галоўны член выражаны дзеясловам 2-й асобы адзіночнага ліку загаднага ладу. У іх галоўны член звычайна змяшчаецца ў пачатку сказа: *Апускайся, куме, на дно; Не кайся, рана ўстаўшы і рана жаніўшыся; Аддай рукамі, а хадзі нагамі; Вастры зуб аб зуб, а розум аб розум; Гавары, ды не ўсё дагары; Пашлі дурнога, а за ім другога.* Значна радзей ён стаіць на другім месцы ў прыказкавым сказе *(Паміраць збірайся, а жыта сей; Салому еш, а фасону не губі; Старога хвалі, ды з двара гані; Языком гавары, а рукам волі не давай)* або ў канцы сказа: *Ад торбы і ад турмы не адракайся; З чужога воза і сярод гразі злазь.*

Найбольшая разнастайнасць словапарадку характэрна для прыказак са структурай безасабовага сказа (іх каля 70 у трох семантычных групах). Гэта разнастайнасць часткова вытлумачваецца наяўнасцю ўнутранай рыфмы аж у 22 прыказках. Ёю рэгулюецца месца галоўнага члена ў безасабовай канструкцыі. Ён аказваецца то ў канцы прыказкі *(У родным краю, як у раю; Увосень работ восем; З рога ўсяго многа; За маё жыта ды мяне і пабіта; Такога цвету па ўсяму свету),* то ў сярэдзіне *(Старой бабцы хораша і ў шапцы),* то ім пачынаецца прыказка *(Што дразду па чужому гнязду; Удалося забіць бабе лося; Было сватацца ўдзень, распытаўшы ў людзей).* 29 прыказак аформлены як безасабова-адмоўныя канструкцыі. Іх галоўны член часцей выражаецца адмоўным словам *няма,* якое, нярэдка не без уплыву рыфмы, ставіцца ў пачатку прыказкі *(Няма роду без выроду; Няма прарока ў сваёй айчыне; Няма злей асенняй мухі і дзеўкі-векавухі; Няма ліха без дабра; Няма лесу без ваўка; Няма прыёму супраць лома, апрача самога лома* і інш.), радзей у сярэдзіне *(Ад астрогу няма перасцярогу; З адкладу няма ладу; Сялянскаму роду няма пераводу; У карцішкі няма брацішкі* і г.д.) і ў адзінкавых выпадках у канцы прыказкавага сказа *(У нагах праўды няма).* У іншых безасабова-адмоўных канструкцыях галоўны член звычайна стаіць у канцы сказа: *Без глыбокага кораня дуба не бывае; Дыму без агню не бывае; На крывой дарозе наперадзе не відаць; Двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма; Без бога ні да парога; Ружы без калючак не бывае; Арлу з савой не па дарозе; Не да танцу абадранцу; У сям'і не без вырадка* і інш. Калі прыказка мае структуру безасабовага сказа, галоўны член якога выражаецца словам катэгорыі стану, то ён (галоўны член) найчасцей стаіць у канцы прыказкі *(Старой бабе і ўлетку на печы холадна; І да грыба трэба нагнуцца; Чужымі рукамі жар заграбаць лёгка; На бяду мала трэба; Разумнаму дастаткова),* радзей замацаваўся ў інтэрпазіцыі ці ў прэпазіцыі: *На чужы лоб сягаючы, трэба і свой падстаўляць; Свайго не меўшы, трэба легчы спаць не еўшы; Недаростку трэба падмостку; Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць; Добра яблычка к Іспасу.*

Што да прыказак, пабудаваных па схемах складанага сказа, то ў іх, нягледзячы на іхнюю шматкампанентнасць, парадак прэдыкатыўных частак і слоў-кампанентаў унутры гэтых частак таксама амаль заўсёды ўстойлівы, фіксаваны.

У папярэднім параграфе пры разглядзе структурна-семантычных тыпаў прыказак, пабудаваных па схемах складаназлучанага, складаназалежнага, бяззлучнікавага сказаў, а таксама сказаў з рознымі відамі сувязі, паказвалася, якія разнастайныя віды адносін выяўляюцца паміж прэдыкатыўнымі часткамі, у якой строга акрэсленай паслядоўнасці размяшчаюцца гэтыя часткі. Скажам, у прыказках *Лес усё чуе, а поле ўсё бачыць; На назе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць; Новае сітка на калку навісіцца, а старое і пад лаўкай наваляецца* структура кожнай наступнай прэдыкатыўнай часткі прадвызначаецца структурай папярэдняй часткі. Або непаўната першай часткі абумоўлівае непаўнату другой прэдыкатыўнай часткі: *На воўка памоўка, а мядзведзь цішком; Поп сваё, а чорт сваё.* У сувязі са сказаным адпадае патрэба больш падрабязна разглядаць словапарадак у прыказках са структурай складанага сказа розных тыпаў. Можна толькі спаслацца на выснову З.К.Тарланава, зробленую на аснове дэталёвага аналізу

прыказак, арганізаваных па схемах аднаго з тыпаў складанага цэлага: «Парадак слоў у бяззлучнікавым складаным сказе цалкам фіксаваны і не дапускае перастановак» [114, с. 121]. Гэта выснова дастасоўваецца і да прыказак са структурай іншых тыпаў складанага сказа.

Ёсць каля 30 прыказак, якія складаюцца з чатырох прэдыкатыўных частак (часам няпоўных), але і ў іх парадак слоў «цалкам фіксаваны і не дапускае перастановак», напрыклад: *Пакуль жывеш – усяго трэба, а як памрэш – чатыры дошкі і зямлі трошкі; Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш; Горкая гарэлка, але п'юць, дрэнна замужам, але ідуць.*

Стабільнасць, устойлівасць, фіксаванасць парадку слоў-кампанентаў у прыказках падтрымліваецца шэрагам «прыродных» асаблівасцей, уласцівых прыказкам. Гэта, у прыватнасці, наступныя.

1. Унутраная рыфма. Амаль палова прыказак (630 з 1500 прааналізаваных) – рыфмаваныя: *Адклад не ідзе на лад; Ад напасці не прапасці* і г.д. Кампаненты некаторых прыказак звязаны падвойнай рыфмай, папарна: *Адзін з'еш хоць вала, дык адна хвала, а пакрысе, ды ўсе; Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так* і інш. Зрэдку ўсе кампаненты рыфмуюцца: *Дома і салома ядома.* Гл. больш падрабязна пра рыфмаваныя прыказкі ў § 19.

2. Рытмічнасць некаторых прыказак. Напрыклад, прыказка *Без мяне мяне жанілі* «напісана» чатырохстопным харэем, ёсць у ёй, дарэчы, і каламбурнае сутыкненне амаформаў: першае *мяне* – родны склон, а другое – вінавальны. Сродкам спайкі кампанентаў рытм выступае, скажам, і ў такіх прыказках: *Бог не роўна дзеліць; Беражонага бог беражэ* (у гэтай прыказцы ёсць і своеасаблівая таўтаграма: усе кампаненты пачынаюцца з адной і той жа літары); *Зняўшы галаву, па валасах не плачуць* (тут шасцістопны харэй).

3. Сінтаксічны паралелізм, сіметрычнасць у арганізацыі кампанентаў абедзвюх прэдыкатыўных частак вельмі многіх прыказак са структурай складанага сказа. Да прыкладу, у прыказкавых складаназлучаных сказах: *Кошцы гулі, а мышцы слёзы; Воўк не пастух, а казёл не агароднік; Воцат не гарэлка, а кума не жонка; Думкі за гарамі, а смерць за плячамі; Слова вецер, а пісьмо грунт.* У складаназалежных сказах-прыказках: *Дзе грошы гавораць, там праўда маўчыць; Дзе коратка, там ірвецца; Куды вецер, туды і дым; Куды ноч, туды і сон* і г.д. У бяззлучнікавых сказах-прыказках: *Бог не без літасці, казак не без шчасця; Бог не выдасць, свіння не з'есць; Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся; Век жыві, век будуйся; Волас сівее, розум слабее; Дурань дае, разумны бярэ; За пчолкаю – у мёд, за жуком – у гной.*

4. Аднолькавая структурная мадэль, па якой утварылася значная група прыказак. Да найбольш тыповых можна аднесці наступныя мадэлі:

а) назоўнік у назоўным склоне + назоўнік у назоўным склоне з адмоўем «не»: *Вада не бяда; Голад не цётка; Смех не грэх; Спроба не хвароба; Старасць не радасць; Сэрца не камень* і інш.;

б) сваім пачаткам (трыма першымі кампанентамі) гэта мадэль падобная на папярэднюю, а ў тлумачальнай канцоўцы насмешліва, жартаўліва ці каламбурна адмаўляецца сувязь паміж лагічна несупастаўляльнымі, несумяшчальнымі назоўнікамі першай часткі –

абстрактным і канкрэтным прадметамі *(Доўг не вяроўка..; Душа не кажух…)*, асобай і канкрэтным прадметам *(Чалавек не арэх…)*, абстрактным прадметам і жывой істотай *(Работа не воўк…)* і г.д. Прыказак гэтай мадэлі больш за 20: *Доўг не вяроўка, ззаду не цягнецца; Дзейка не конь, вупраж не накінеш; Душа не кажух, не вывернеш; Розум не кулеш, у галаву не накладзеш; Розум не сякера – не пазычыш; Жонка не рукаў, не адарвеш; Сорам не дым, вачэй не выесць; Бог не цяля, бачыць круцяля; Вада не гарэлка – шмат не вып'еш* і інш. У некаторых выпадках дзеяслоўны кампанент другой прыказкавай часткі адначасова рэалізуе два значэнні: прамое і пераноснае. Так, у прыказцы *Работа не воўк, у лес не ўцячэ* апошні кампанент абазначае (у дачыненні да ваўка) 'паспешліва пойдзе, збяжыць' і 'прападзе, знікне (пра работу)'. Дзеяслоўны кампанент *раскусіш* у прыказцы *Чалавек не арэх, адразу не раскусіш* выяўляе прамое значэнне 'кусаючы, раздзеліш на часткі' і пераноснае 'распазнаеш, добра ўведаеш'. *Парвецца* ў прыказцы *Доўг не вяроўка, не парвецца* абазначае і 'разарвецца на часткі', і 'спыніцца, скончыцца';

в) назоўнік + назоўнікавае словазлучэнне: *Прывычка – другая натура; Факты – рэч упартая; Час – найлепшы доктар; Канюшына – каню сіла; Канец – дзелу вянец; Удава – шалёная галава; Надзея – матка дурных; Маўчанне – знак згоды* і пад.;

г) два дзеяслоўныя словазлучэнні, супрацьпастаўленыя адно другому, з адмоўем «не» перад другім словазлучэннем: *Жыццё пражыць – не поле перайсці; Дзяцей радзіць – не грошы лічыць; Замуж пайсці – не лапці плясці; Дзетак узгадаваць – не грыбоў назбіраць; Век зжыць – не мех сшыць; Гаспадарку весці – не лапці плесці* і інш.;

д) *лепш …, чым …;* напрыклад: *Лепш раз убачыць, чым сто разоў пачуць; Лепш кепскі родны бацька, чым добры айчым; Лепш горкая праўда, чым салодкая мана; Лепш позна, чым ніколі; Лепш сініца ў руках, чым журавель у небе* і г.д.;

е) *якая (які, якое, якія) …, такая (такі, такое, такія) і…;* напрыклад: *Якая заслуга, такая і пашана; Якая птушка, такое і гняздзечка; Які куст, такі і адростак; Які поп, такі і прыход; Якія самі, такія і сані; Якое семя, такое і племя* і пад.;

ё) *каму што, а …: Каму што, а Базылю аладкі; Каму што, а лысаму грэбень; Каму што, а папу кадзіла; Каму што, а свінні месіва; Каму што, а пеўню бойка* і інш.;

ж) *была б (было б, быў бы) …, а … знойдзецца (знойдуцца): Была б шыя, а хамут знойдзецца; Было б балота, а чэрці знойдуцца; Быў бы хлеб, а мышы знойдуцца* і г.д.

Гаворачы пра фіксаваны парадак слоў-кампанентаў у прыказкавых сказах, нельга не адзначыць параўнальна рэдкія выпадкі, калі ў некаторых прыказках дапускаецца (у межах нормы) перастаноўка слоў. Пададзім гэтыя прыказкі (іх варыянтны словапарадак адлюстроўваецца ў «Слоўніку беларускіх прыказак» і пацвярджаецца ў адпаведных парэміялагічных зборніках запісамі фалькларыстаў): *Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго* і *Усе за аднаго і адзін за ўсіх; Адна бяда не ходзіць <другую за сабою водзіць>* і *Бяда адна не ходзіць <за сабою другую водзіць>; Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць* і *У адной бярлозе два мядзведзі не зімуюць; Малако ў каровы на языку* і *У каровы малако на языку; Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў* і *Калі не пераскочыў, не кажы*

*гоп; Не варта шкурка (аўчынка) вырабу* і *Шкурка (аўчынка) вырабу не варта.*

Зрэдку ў мастацкай прозе можна сустрэць прыказку, для якой тыповым з'яўляецца фіксаваны словапарадак, але яна выкарыстана ў крыху інакшым размяшчэнні кампанентаў. Звычайна гэта абумоўлена метрычнай асновай празаічнага выказвання, рытмам фразы, які, паводле В.Быкава, «важная справа не толькі для паэзіі, але і для прозы. Ёсць пэўны рытм, які вымагае свайго стаўлення да слова... Рытм дыктуе вобразную аснову ў межах абзаца» [26, с. 138]. Менавіта з гэтага пункту гледжання можна ацэньваць рэдкія, адзінкавыя сярод іншых прыклады-цытаты, што даюцца ў «Слоўніку беларускіх прыказак» як ілюстрацыйны матэрыял да парэмій *Не да пацерай, калі хата гарыць; Гарбатага магіла выправіць; Найшла каса на камень; Рыба з галавы псуецца; Двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма; Кашы маслам не сапсуеш.*

Што датычыць вершаванага маўлення, дык у ім прыказкі даволі часта выкарыстоўваюцца з разнастайнымі змяненнямі, у тым ліку і з іншым размяшчэннем парэмійных кампанентаў, што вытлумачваецца патрабаваннямі рыфмы і рытму. Так, прыказка *Грозен рак, ды ззаду вочы* мае фіксаваны словапарадак, а ў вершы К.Крапівы «Біблія людаеда» яе два апошнія кампаненты, у сувязі з рыфмай *гаду*, памяняліся месцамі: «Мы на гэта скажам гаду: – Грозен рак, ды вочы ззаду!» Або параўн. ужыванне прыказак *Куды ні кінь, усюды клін; На злодзеі шапка гарыць; Хто парасё ўкраў, у таго ў вушах пішчыць* у вершаваных творах: «Усюды клін, куды ні кінь! Хіба падацца на Валынь!» (Я.Колас); «Бо як там кажуць: шапка На злодзеі гарыць, ці – парасё хто ўкраў, Таму ў вушах пішчыць...» (Я.Купала).

## § 18. Пра сінтаксічны разбор прыказак

Думаецца, што натуральным і неабходным працягам тэарэтычных звестак пра прыказкі, выкладзеных у папярэдніх параграфах, з'яўляецца пытанне аб прымяненні гэтага матэрыялу на практыцы – у навучальным працэсе – і, у прыватнасці, пытанне аб сінтаксічным аналізе прыказак.

Н.Бурака піша: «Якая б тэма ні закраналася на занятках па роднай мове, прыказка – зручны ілюстрацыйны матэрыял» [23, с. 18]. Гэта меркаванне, аднак, не зусім слушнае, перабольшанае. Няма патрэбы штучна прывязваць прыказкі да шмат якіх праграмных тэм, асабліва калі прыказкі бяруцца толькі з парэмійных зборнікаў, – без неабходнага мінімальнага акружэння. А наогул у школьных падручніках па беларускай мове для 4–11 класаў выкарыстана больш як 300 прыказак. Шмат іх таксама (каля 150) у чатырох прагледжаных дапаможніках і зборніках для практычных заняткаў па мове на філалагічных факультэтах ВНУ.

У гэтых падручніках, дапаможніках і зборніках прыказкі нярэдка ўключаюцца нароўні з няпрыказкавымі сказамі як дыдактычны матэрыял у практыкаванне з заданнем па пэўнай тэме. Так, у адным падручніку [34, с. 95] змешчана практыкаванне на складаназалежныя сказы, ставіцца заданне: падкрэсліць выказнік у галоўнай частцы кожнага сказа і вызначыць, якой часцінай мовы ён выражаецца. Тут сярод 8 сказаў 4 прыказкі: *Якая заслуга, такая і пашана; Якая справа, такая і слава; Якое поле, такі і ўраджай; Таварыш той, хто дапаможа ў*

*бядзе.* Усе гэтыя прыказкі – неалегарычныя, таму ў іх, як і ў звычайных, няпрыказкавых сказах, лёгка знаходзім дзейнік, выказнік ці іншыя члены сказа. Тое самае датычыць і яшчэ аднаго практыкавання з гэтага ж падручніка [34, с. 86], дзе адзін са сказаў пазначаны як «прыказка»: *Тое дорага, што нялёгка даецца.* Аналагічныя практыкаванні ёсць і ў іншай навучальнай літаратуры. Напрыклад, у дапаможніку для студэнтаў-філолагаў [135, с. 56] ёсць практыкаванне з заданнем: спісаць, падкрэсліць дзейнік адной лініяй, выказнік – дзвюма; вызначыць, якія часціны мовы і ў якой форме выконваюць ролю галоўных членаў сказа; паставіць, дзе трэба, працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам. Сярод 34 сказаў ёсць і прыказкавыя сказы: *Старасць не радасць; Жыццё пражыць – не поле перайсці.*

Часта практыкаванні складаюцца толькі з адных прыказак. Даюцца разнастайныя заданні ў адпаведнасці з тэмай, якая вывучаецца. Так, у падручніку для 10 класа [36, с. 50, 195, 160, 113] ёсць практыкаванні з такімі, напрыклад, заданнямі: 1) спісаць прыказкі, растлумачыць іх сэнс, падкрэсліць спалучэнні зычных, дзе назіраецца асіміляцыя па глухасці *(Каб не ежка ды адзежка, была б грошай поўная дзежка* і інш.); 2) прачытаць прыказкі ў адпаведнасці з арфаэпічнымі нормамі; 3) абазначыць канчаткі назоўнікаў 1 скланення і растлумачыць іх правапіс; 3) дапісаць прыведзеныя ніжэй прыказкі, растлумачыць іх значэнне (*У ціхім балоце…; У сямі нянек…* і інш.). Пры такой умове-заданні («Растлумачыць іх значэнне») ёсць усе падставы ўключаць у практыкаванне і непераасэнсаваныя, і пераасэнсаваныя прыказкі. Шмат практыкаванняў, якія складаюцца толькі з прыказак, знаходзім і ў іншых падручніках па мове. Напрыклад, у падручніку для 8 класа [28, с. 204, 50] ёсць заданні: запісаць прыказкі, выбіраючы з дужак *не* ці *ні* (*Рэшатам вады (не, ні) наносіш; Куды (не, ні) кінь, усюды клін* і г.д.); вызначыць, якімі членамі сказа з'яўляюцца прыслоўі, ужытыя ў прыказках (дарэчы, у практыкаванні слушна змешчаны толькі непераасэнсаваныя прыказкі накшталт *Увесну плача, хто ўвосень скача*). 7 практыкаванняў з прыказкамі даецца ў падручніку для 7 класа [27, с. 162, 179] з такімі, да прыкладу, заданнямі: запісаць прыказкі, утвараючы ад дзеясловаў, што ў дужках, кароткія дзеепрыметнікі; дапоўніць прыказкі патрэбнымі дзеепрыслоўямі або дзеепрыслоўямі з залежнымі словамі: *Рыбы не зловіш…; Не кажы гоп…; … не сунься ў ваду* і г.д. Параўн. таксама ў падручніку для 5 класа [61, с. 335]: спісаць прыказкі, ставячы займеннікі ў патрэбнай склонавай форме *(Той багаты, хто (нішто) не вінаваты* і пад.). Або ў падручніку для 10–11 класаў [13, с. 90], дзе ў адным практыкаванні пададзена 27 прыказак з заданнем: уставіць прапушчаныя літары *(Воран ворану вока не выдз…ўбе; Зняўшы галаву, па валасах не плач…ць* і інш.).

Іншы раз прыказкі прыводзяцца ў якасці ілюстрацыйнага матэрыялу да пэўнага правіла, прычым амаль ва ўсіх выпадках апраўдана даюцца неалегарычныя прыказкі. Напрыклад, у падручніку для 4 класа паняцце пра антонімы пацвярджаецца прыказкай *Родная зямля – маці, чужая старонка – мачаха* [62, с. 298]. Яшчэ некалькі прыкладаў з іншых падручнікаў ці дапаможнікаў: правіла пра знакі прыпынку паміж дзейнікам і выказнікам падмацавана прыказкай *На полі працаваць – ураджай збіраць* [113, с. 63], пра парныя злучнікі ў складаназалежным сказе – прыказкай *Калі родзяць грыбы, то і жыта*

*зародзіць* [28, с. 155], пра складаназалежны сказ з даданай дзейнікавай часткай – прыказкай *Той не можа быць другам, хто ў бядзе абыдзе кругам* [135, с. 183].

Разам з тым у навуковай і навучальнай літаратуры досыць часта пры выкарыстанні прыказак не ўлічваецца іх сэнсавы змест, не прымаецца пад увагу, якая гэта прыказка – з непераасэнсаванымі кампанентамі ці іншасказальная. Ужо гаварылася (§ 14), што нярэдка прыказкі тыпу *З песні слова не выкінеш* безагаворачна, але беспадстаўна разглядаюць як абагульнена-асабовыя сказы.

Пры сінтаксічнай характарыстыцы прыказак абавязкова трэба ўлічваць, да якой з трох семантычных груп належыць тая ці іншая прыказка. Калі маем справу з прыказкай, усе кампаненты якой захоўваюць сваё слоўнікавае значэнне, то яна характарызуецца з сінтаксічнага пункту гледжання як звычайны, няпрыказкавы сказ. Скажам, прыказка *Старасць нікога не красіць* павінна разглядацца як двухсастаўны сказ, у якім *старасць* – дзейнік, *не красіць* – выказнік, *нікога* – дапаўненне. Калі ж перад намі прыказка алегарычнага характару (напрыклад, *Ваўка ногі кормяць*), то вызначаем, што яна толькі фармальна, але не сэнсава структурна арганізавана як просты, двухсастаўны сказ. І, зразумела, не кажам, што тут *ногі* – дзейнік, *кормяць* – выказнік, *ваўка* – дапаўненне. Тут не тыя *ногі*, не той *воўк* і не тое *кормяць*, якія ёсць у слоўніках. Яна абазначае ‘каб пракарміцца, трэба не сядзець на адным месцы, а турбавацца, шукаць харчы’.

Прыказка *Яйцо курыцу вучыць* адрозніваецца ад папярэдняй тым, што ў ёй два першыя кампаненты пераасэнсаваныя, а трэці мае літаральнае значэнне. Але і ў ёй *яйцо* (хоць і стаіць у форме назоўнага склону) не з’яўляецца прадметам нашай думкі і, значыць, дзейнікам. Інакш кажучы, «прыказкі, якія ўжываюцца ў іншасказальным плане, сінтаксічна непадзельныя. Спроба сінтаксічнага чляненне або пераводзіць іх з іншасказальнага, вобразнага плана ў літаральны, або ператварае прыказку, калі яна не мае літаральнага плана, у свабодны сказ такога ж лексічнага складу» [108, с. 11]. Вызначэнне галоўных і даданых членаў у падобных прыказках гэтак жа немэтазгодна і пярэчыць цвярозаму сэнсу, як і чляненне фразеалагізмаў, па структуры суадносных са сказам (напрыклад, *мядзведзь на вуха наступіў* каму). Як у фразеалагізмах, так і ў прыказках з поўнасцю або часткова алегарычным зместам усе ці амаль усе кампаненты не маюць самастойнага лексічнага значэння і дэнататыўнай накіраванасці, дэактуалізаваліся, а сінтаксічныя сувязі паміж кампанентамі носяць чыста фармальны характар. У гэтай сувязі трэба лічыць няправільным наступнае сцвярджэнне, змешчанае ў падручніку для 10–11 класаў [13, с. 50]: «У адрозненне ад фразеалагізмаў прыказкі сінтаксічна падзельныя – у іх можна вылучаць асобныя члены сказа». Яно можа дастасоўвацца толькі да непераасэнсаваных прыказак.

У некаторых навуковых працах прыказкі з поўнасцю або часткова пераасэнсаванымі кампанентамі разглядаюцца як звычайныя сказы з выдзяленнем у іх галоўных і даданых членаў. Так, у адной працы прыказкі *Пазычка басяком ходзіць; Пазыкі ходзяць у лыкі* кваліфікуюцца як двухсастаўныя сказы, дзе першыя кампаненты – «дзейнікі, выражаныя назоўнікамі дзеяслоўнага паходжання» [25, с. 7]. Гэтыя прыказкі зафіксаваны яшчэ І.І.Насовічам [106, с. 130, 131] і

растлумачаны так: першая – ‘кажуць пры адмове таму, хто просіць пазычыць’, другая – ‘той, хто часта пазычае, пазычыўшы, хаваецца’. Паводле аўтара той самай навуковай працы, выдзеленыя ніжэй кампаненты з’яўляюцца выказнікамі ў наступных прыказках: «У страху вочы *па яблыку*», «Галоднай куме хлеб *наўме*», «У чужых руках пірог *вялік*», «*Малы* жук, ды *вялікі* гук» [106, с. 10, 11]; дапаўненнямі – у прыказках «Цянькі зводзяць *дзянькі*», «Адвага *гарады* бярэ», «*У няўмекі* рукі калекі»; азначэннем: «*Ціхая* вада берагі падмывае» [106, с. 12, 13]. Яшчэ ў адной працы таго самага аўтара сцвярджаецца, што прыказка *Нораў нораву не ўказ* (занатаваная І.І.Насовічам з такім тлумачэннем: кажуць, калі новая ў сям’і асоба асуджае ранейшы парадак жыцця і робіць па-свойму) мае схему: «дзейнік + дапаўненне + выказнік»; прыказка *На бязлюддзі і дзяк чалавек* пабудавана па схеме «акалічнасць + дзейнік + выказнік»; прыказкі *Гусь свінні не сябра; Пешы коннаму не таварыш* маюць схему «дзейнік + дапаўнене ў форме давальнага склону + выказнік» [24, с. 10–12].

У алегарычнай прыказцы *Будзь авечкаю – ваўкі знойдуцца* гаворыцца, зразумела, не пра авечку і не пра ваўкоў. Аднак у адной дысертацыйнай працы *будзь авечкаю* прызнаецца састаўным іменным выказнікам; *ныць пачне* – у прыказцы *Часам і старая рана ныць пачне* – састаўным дзеяслоўным выказнікам; *мусіць галодна быць* – у прыказцы *Дзе многа на куце сядзіць, там мыш мусіць галодна быць* – трохкампанентным складана-састаўным выказнікам [92, с. 17, 18, 19]. Дарэчы, апошняя прыказка абазначае ‘дзе многа начальства, там кепска жыць падначаленым’.

Недакладнасці пры характарыстыцы прыказак сустракаюцца таксама і ў падручніках ці дапаможніках па беларускай мове для сярэдняй і вышэйшай школы. Так, у падручніку для 10 класа [35, с. 148] гаворыцца, што лічэбнікі самастойна і ў спалучэнні з іншымі часцінамі мовы могуць быць любым членам сказа, і гэта ілюструецца адпаведнымі сказамі-прыкладамі. Адзін з прыкладаў – прыказка *Сем разоў адмер, адзін раз адрэж*. У ёй умоўнымі абазначэннямі паказана, што *сем разоў* і *раз* – акалічнасць. Але ў гэтай прыказцы нельга шукаць галоўныя і даданыя члены сказа: яна іншасказальная са значэннем ‘перад тым як зрабіць што-небудзь сур’ёзнае, старанна абдумай’. У дапаможніку для студэнтаў-філолагаў чытаем: «Пры даданай дапаўняльнай частцы ўказальнае слова галоўнай часткі стаіць ва ўскосных склонах і выконвае ролю дапаўнення: *Што пасееш, тое і пажнеш* (Пр.). Тут *тое* – прамое дапаўненне, даданая частка – дапаўняльная» [135, с. 184]. Выдзеленая прыказка – двухзначная, але яна вельмі рэдка выкарыстоўваецца ў першым, зыходным значэнні, звязаным з сяўбой і жнівом, і амаль заўсёды – толькі ў пераносным сэнсе ‘за свае справы, учынкі даводзіцца расплачвацца’. Таму наўрад ці варта выкарыстоўваць гэту прыказку як прыклад складаназалежнага сказа з даданай дапаўняльнай часткай. Алегарычная прыказка *Які размах, такі палёт* не павінна быць ілюстрацыяй складаназалежнага сказа з даданай выказнікавай часткай [135, с. 185].

Ёсць у падручніках шэраг практыкаванняў, дзе побач з іншымі сказамі змяшчаюцца і іншасказальныя прыказкі. Напрыклад, прапануецца [34, с. 76] спісаць сказы, пазначаючы лічбамі іх граматычныя часткі, падкрэсліць граматычныя асновы, пабудаваць

схемы сказаў. Пад нумарам 6 ідзе прыказка *Хто б дзятла ведаў, каб не яго доўгі нос.* Але гэта прыказка гаворыцца ў дачыненні не да дзятла, а да чалавека, які прагаварыўся або яшчэ якім-небудзь чынам выдаў сябе. Шмат іншасказальных прыказак знаходзім у дапаможніку для студэнтаў-філолагаў. Тут ставяцца заданні: выпісаць спачатку сказы з даданымі азначальнымі, потым з даданымі выказнікавымі, спачатку з даданымі дзейнікавымі часткамі, затым з даданымі дапаўняльнымі і г.д. І сярод змешчаных тут сказаў трапляе нямала прыказак алегарычнага характару, якія толькі па форме падобныя на тыя ці іншыя разнавіднасці складаназалежных сказаў: *Хто на чым сядзіць, той таго глядзіць* (І.І.Насовіч вызначае сэнс гэтай прыказкі так: кожны павінен берагчы сваё); *Які ў ядзе, такі ў хадзе; Якія самі, такія нашы сані; Каб на хмель не мароз, ён бы тын перарос* і інш. [135, с. 195, 196, 200]. Ёсць тут [135, с. 195] і прыказка *Не ўсё тое мёд, што салодка,* блізкая ў сэнсавых адносінах да прыказкі *Не ўсё тое золата, што блішчыць* (‘не ўсё прывабнае, знешне прыгожае мае вялікую каштоўнасць’), яна ж даецца ў другім дапаможніку [70, с. 264] для сінтаксічнага аналізу складаназалежных сказаў.

Яшчэ ў адным дапаможніку [22, с. 209] ёсць заданне прааналізаваць структуру і высветліць сінтаксічнае значэнне абагульнена-асабовых сказаў. Тут шмат непераасэнсаваных прыказак *(Праўду ў кішэнь не схаваеш; Работу словам не заменіш; Ранняй сяўбы не кайся* і інш.), а таксама іншасказальных *(З песні слова не выкінеш; Вышэй галавы не падымешся* і г.д.), у якіх наўрад ці можна «высветліць сінтаксічнае значэнне», г.зн. функцыянальны змест – без адпаведнага маўленчага кантэксту, у якім гэтыя прыказкі рэалізуюць свой сэнс (гл. § 15). Зрэшты, сустрэлася толькі адно практыкаванне, у якім прыказка пададзена не ізалявана, як гэта бачым ва ўсіх іншых практыкаваннях, а ў шырокім кантэксце. Але гэта практыкаванне патрабуе іншай заўвагі. Тут [96, с. 109] прыводзіцца вялікі ўрывак з трылогіі Я.Коласа «На ростанях», ставіцца заданне: выпісаць складаназалежныя сказы, падкрэсліць у іх галоўную частку, абазначыць лічбамі даданыя часткі, сказаць, колькі даданых частак у кожным сказе і што кожная з іх паясняе. Ва ўрыўку ёсць і прыказка *Калі ўзяўся за гуж, не кажы, што не дуж.* Яна структурна арганізавана як складаназалежны сказ з дзвюма даданымі часткамі, але мае іншасказальны змест. Цікава, як у такім разе дзевяцікласнікі, без дапамогі настаўніка, змогуць прааналізаваць гэту прыказку (у шэрагу іншых, няпрыказкавых) у адпаведнасці з заданнем практыкавання?

Правільны падыход да сінтаксічнай характарыстыкі прыказак знаходзім толькі ў адным дапаможніку для сярэдняй школы [34, с. 159]. Тут у практыкаванні пададзена 19 прыказак, амаль усе яны алегарычныя, у заданні сказана: «Прачытайце прыказкі, растлумачце іх сэнс, выпішыце спачатку тыя з іх, якія па структуры падобныя на простыя сказы, потым тыя, што нагадваюць складаназлучаныя сказы, потым – што нагадваюць складаназалежныя сказы, і, нарэшце, прыказкі са структурай бяззлучнікавых складаных сказаў».

Прыказкі, як цытавалася ўжо раней, «самастойна не бытуюць» [56, с. 226], яны «жывуць толькі ў кантэксце, у стыхіі няпрыказкавай мовы» [20, с. 282]. Раней (§ 15) ужо гаварылася пра найбольш тыповыя спосабы ўключэння прыказак у кантэкст, паказвалася, што прыказка вельмі

часта ўступае ў граматычную сувязь з рознымі відамі простых сказаў і разам з імі ўтварае складаны сказ. У навучальнай жа і навуковай літаратуры нідзе не гаворыцца, як сінтаксічна аналізаваць такія сказы; больш таго, у падручніках пазбягаюць такіх сказаў, як бы не заўважаюць іх у пісьмовым і вусным маўленні. А між тым гэтыя сказы – даволі тыповая з'ява (у «Слоўніку беларускіх прыказак» яны сустракаюцца больш як у 170 ілюстрацыйных цытатах). Вось некалькі ўзораў агульнай сінтаксічнай характарыстыкі складаных сказаў з прыказкамі ў іх складзе.

1. *Слухаць не хацелася, але не начэпіш замок на чужы раток* (Ф.Янкоўскі). – Складаназлучаны сказ з супастаўляльнымі адносінамі, складаецца з дзвюх частак, звязаных злучнікам *але*. Першая частка – безасабовы сказ, другая – па форме арганізавана як абагульнена-асабовы сказ, але паколькі яна іншасказальная прыказка (абазначае 'людзей не прымусіш маўчаць'), то ў ёй нельга вылучаць ні галоўнага члена, суадноснага з выказнікам, ні залежных членаў.

2. *Знаўцы сцвярджаюць, што дармовы сыр бывае толькі ў мышалоўцы* («Маладосць»). – Складаназалежны сказ з даданай дапаўняльнай часткай. Даданая частка стаіць пасля галоўнай, адносіцца да дзеяслова *сцвярджаюць*, адказвае на пытанне ш т о?, звязваецца з галоўнай пры дапамозе злучніка *што*. У галоўнай частцы *знаўцы* – дзейнік, *сцвярджаюць* – выказнік. Даданая частка, структурна арганізаваная як двухсастаўны, развіты сказ, з'яўляецца іншасказальнай прыказкай са значэннем 'бескарысліва, бясплатна нічога не робіцца', і яе нельга разбіраць па членах сказа.

3. *Кандрат хваліў сваіх баравікоў, Рыгор – сваіх, бо ўсякі цыган сваю кабылу хваліць* (Я.Колас). – Складаны сказ з рознымі відамі сувязі: бяззлучнікавай і падпарадкавальнай. Трэцяя частка звязана з дзвюма папярэднімі злучнікам *бо*, з'яўляецца даданай з прычыннымі адносінамі, фармальна арганізавана як двухсастаўны, развіты сказ, але сінтаксічна не падзяляецца, бо яна прыказка з часткова пераасэнсаванымі кампанентамі і абазначае 'кожны хваліць тое, што яму найбольш блізкае, дарагое'.

## *Раздзел 4*
## СТЫЛІСТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ПРЫКАЗАК

### § 19. Прыказкі як мастацкія мініяцюры

Можна сцвярджаць, што амаль усе прыказкі арыгінальныя сваёй ідэяй, зместам, абазначаюць важную, актуальную думку, вылучаюцца сэнсавай ёмістасцю пры лексічнай лаканічнасці. Але аднаго багатага зместу недастаткова. Выказ павінен быць убраны ў высокамастацкую форму, характарызавацца трапнасцю, выразнасцю, а досыць часта і вобразнасцю. Толькі ў такім разе, адначасова дзейнічаючы на свядомасць і пачуцці, выслоўе, створанае «ўзаемнымі сіламі гукаў і думкі» (Ф.Буслаеў), дасць «велізарную эканомію мыслення» і «эстэтычнае задавальненне» [56, с. 226].

Амаль усе прыказкі задавальняюць гэтыя патрабаванні і па праву лічацца мастацкімі мініяцюрамі.

У сваю чаргу найпершае месца сярод іх займаюць алегарычныя, вобразныя прыказкі, з поўным ці частковым пераасэнсаваннем іх кампанентаў. Найбольшы «каэфіцыент вобразнасці» (У.П.Жукаў) маюць прыказкі, якія могуць быць супрацьпастаўлены адпаведным свабодна арганізаваным сказам і на іх фоне ўспрымаюцца як разгорнутыя метафары. Мова шмат якіх прыказак, як піша К.Крапіва, «вызначаецца надзвычайнай вобразнасцю. Часам дзівіцца прыходзіцца, як гэта людзі, не чытаўшы ніякай паэтыкі, маглі дасягнуць такой высокай ступені вобразнасці. Не рэдка сустракаюцца прыказкі, у якіх амаль кожнае слова з'яўляецца тропам» [56, с. 254].

У вельмі многіх выпадках пэўнае абстрактнае суджэнне, увасобленае ў прыказцы, як ужо гаварылася ў § 8, перадаецца праз канкрэтны вобраз. Там жа называліся некаторыя найбольш тыповыя семантычныя мадэлі, па якіх арганізуецца супастаўленне розных з'яў. У дадатак да раней прыведзеных пададзім яшчэ некалькі прыказак «жывёльнага паходжання»: *Кошцы гулі, а мышцы слёзы; Ведае кошка, чыё сала з'ела; Мінулася кату масленіца; Мыш капы не баіцца; Прапала каро̆ўка, прападай і вяро̆ўка; Чыя б каро̆ўка мычала, а твая б маўчала; Каторы конь цягне, таго і паганяюць; Кабыла здыхае, а траву хапае; Адна паршывая авечка ўвесь статак псуе; Сабака брэша – вецер носіць; Як сабаку кормяць, так сабака і брэша; Ціхая свіння глыбока рые; Свіння лужыну знойдзе; Кволае цялятка і ў Пакроўку зябне; На бязрыб'і і рак рыба; Зайца ногі ратуюць; Паранены звер страшны; На лаўца і звер бяжыць.* У гэтай жа групе ёсць нямала прыказак «ваўчынага паходжання», якія склаліся праз параўнанне людскіх учынкаў, дзеянняў і пад. з паводзінамі, звычкамі ваўка: *Колькі ваўка ні кармі, а ён у лес глядзіць; З ваўкамі жыць – па-воўчы выць; Няма лесу без ваўка; Воўк казе не таварыш; Воўк каля свайго логава не бярэ; Воўк ліняе, ды нораву не мяняе; Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл; Ваўка ногі кормяць* і інш.

Ёсць шэраг прыказак «птушынага паходжання»: *На сваім сметніку і певень гаспадар; Пужаная варона куста баіцца; Ранняя птушка зубкі цярэбіць, а позняя вочы праціраe; Сава не родзіць сакала; Сляпой курыцы і жарства – пшаніца; Старога вераб'я на мякіне не правядзеш; Якая птушка, такое і гняздзечка; Кожная варона за сваё каркае; Лепш сініца*

*ў руках, чым журавель у небе; Лепш мецъ вераб'я ў руцэ, чым арла на суку; У каго дабро вядзецца, у таго і певень нясецца; Усякая птушка сваё гнездо бароніць* і г.д.

Значную групу складаюць прыказкі «раслiннага паходжання», напрыклад: *Крывое дрэва не выпраміш; Без глыбокага кораня дуба не бывае; Вецвейка ад дрэва недалёка адскочыла; Клін клінам выбіваюць; Крывое дрэва ў сук расце; На вытаптанай дарозе трава не расце; Што пасееш, тое і пажнеш; Яблык ад яблыні недалёка падае; Які куст, такі і адростак; Якое карэнне, такое і насенне; Кожная сасна свайму бору спявае; Ружы без калючак не бывае; Чым далей у лес, тым болей дроў* і пад.

Некаторыя прыказкі алегарычнага характару склаліся на аснове сказаў, якія ў сваім першапачатковым сэнсе непасрэдна звязаны з канкрэтнымі назіраннямі чалавека за рознымі з'явамі прыроды: *З вялікага грому малы дождж бывае; Пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца; Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць; На адным месцы і камень мохам абрастае; Ціхая вада грэблі рве; Ціхая вада берагі мые; Куды вецер, туды і дым* і інш.

Пад пераасэнсаванне падпалі сотні іншых выказванняў-сказаў з самых разнастайных сфер: *Адной рукой і вузла не завяжаш; Бяздоннай бочкі не напоўніш; Дзе п'юць, там і льюць; Дыму без агню не бывае; За чужой шчакой зуб не баліць; Золата і ў смецці блішчыць; Каля вады ходзячы намочышся; Крывое кола на сябе гразь кідае; Маладое піва заўсёды шуміць; Найшла каса на камень; Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала; Адзін у полі не воін; Галоднай куме хлеб наўме; З чужога воза і сярод гразі злазь; Свая кашуля бліжэй да цела; Хто бліжэй да міскі, той і чэрпае; Чужы кажух не грэе; Шыла ў мяшку не схаваеш* і г.д.

В.Г.Караленка пісаў пра сілу слова ў добрым вершы: «Сіла гэта ў тым, што ў дадзенай камбінацыі слоў кожнае слова, акрамя прамога ўяўлення, цягне за сабой яшчэ цэлы рад уяўленняў, што мімавольна ўзнікаюць у галаве» [54, с. 454]. Гэта выказванне ў пэўнай ступені можна дастасоўваць да шмат якіх прыказак, асабліва вобразных, алегарычных. Аналізуючы адну з іншасказальных прыказак («Не мела баба клопату, дык купіла парася»), падобную да многіх пададзеных вышэй, К.Крапіва пісаў: «Калі мы сапраўды маем выпадак, што баба купіла парася і набыла сабе лішні клопат, то тады прыказка не будзе алегорыяй, а простым канстатаваннем факта. Але калі гэта прыказка дапасоўваецца да выпадку зусім з іншай галіны жыцця, калі чалавек з-за маленькай выгады набыў сабе вялікі клопат, дык тут ужо яна з'яўляецца алегорыяй» [56, с. 255].

Апрача апісанай (і самай вялікай) групы прыказак, якія маюць «у сваім значэнні і афармленні спецыфічныя прыметы мастацка-паэтычнага характару» [120, с. 223], варта вылучыць яшчэ шэраг груп парэмійных мініяцюр.

1. Прыказкі з нерэальным вобразам у іх аснове (іх каля 40). Іх узнікненне – плён народнай фантазіі. Напрыклад: *Нечая сучка мазь з'ела і сама сабе мазёнку на галаву надзела; Прыйшлі куры на хаўтуры, верабейка памёр; За двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш; І баран бы касіў, каб хто касу насіў; Хвалілася сініца мора падпаліць.*

У аснову гэтых і падобных прыказак пакладзены прыдуманыя, нерэальныя вобразы, вельмі многія з іх (калі прыказкі разглядаць на

ўзроўні звычайных, непарэмійных сказаў) сэнсава алагічныя: *Кінь наперад – знойдзеш ззаду; Кінь за сабою – знойдзеш перад сабою; Адальюцца воўку авечыя слёзы; Заракалася свіння за вугол хадзіць; Сарока на хвасце прынесла; Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў; Чорт чорта пазнаў і на піва пазваў; Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так* і інш. Сюды ж можна аднесці і прыказку пра добрае, пажыўнае, ядкое сена *Добрае сена: каб пасаліў, то і поп з'еў бы* (занатавана ў свой час і М.Федароўскім). Яе дзве апошнія часткі алагічныя. Параўн. яе ўжыванне (у перафразаванай форме) у паэме Я.Коласа «Новая зямля», у раздзеле «Агляд зямлі», дзе Фядос Хадыка паказвае Міхалу і Антосю сваё поле: «Вось паплавец мой. Сена – піва! Ядкое, брацікі, на дзіва: запраў, дык есці будзе поп».

Вобразнасць некаторых прыказак гэтай групы засноўваецца на гіпербале ці літоце: *Загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е; Калі топішся, дык за брытву хопішся; І сцены вушы маюць; Цаляеш у варону, а пападаеш у карову; На кірмашы і бык цельны; Галодны і каня з капытамі з'есць; Шылам мора не нагрэеш; Лыжкай мора не вычарпаеш; Пугай абуха не пераб'еш* і шэраг іншых.

2. Прыказкі з сюжэтным патэнцыялам. Ужо згадвалася (§ 8), што А.А.Патабня адзначаў асобныя выпадкі, калі ў прыказцы як бы змяшчаецца сціслы змест усяго якога-небудзь народнага аповеду ці байкі, і ілюстраваў гэта двума прыкладамі: *Кабыла з воўкам цягалася, хвост ды грыва асталася; Сабака на сене ляжыць, сам не есць і другім не дае.* Такіх прыказак, для якіх характэрна сюжэтнасць, па нашых падліках, каля 50. Найчасцей гэта прыказкі, якія па семантычнай класіфікацыі належаць да 1-й ці, радзей, 2-й групы: *Вераб'і крупы склявалі, а сініцу за гэта ў клетку пасадзілі; Выпрамлялі быку рогі, да скруцілі шыю; Дайся запрэгчы – дасіся і паганяць; Дзед бабцы купіў лапці, былі малыя – адсек пальцы; Аддайце мае цацкі, я з вамі не гуляю; Жыве кот і жыве сабака; Любіў рак жабу, аж вочы выеў; Пашкадаваў воўк кабылу, пакінуў хвост ды грыву* і інш.

Як бачым, у гэтых і падобных прыказках пэўныя дзеянні, адлюстраваныя ў іх зыходным, першапачатковым, дапрыказкавым значэнні, падаюцца ў цеснай сувязі паміж сабой, як і ў сюжэце якога-небудзь мастацкага твора. Сюжэтнасць выразна адчуваецца і ў шэрагу іншых прыказак: *Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць; Кошку б'юць – нявестцы намёк даюць; Сабака брэша, а караван ідзе; Ішла Хоўра жыта жаць, забылася серп узяць; Пайшоў па вайну, а вярнуўся стрыжаным; Цешыўся старац, што пражыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю* і г.д.

Некаторыя пісьменнікі дасціпна выкарыстоўваюць сюжэтны патэнцыял такіх прыказак і на іх зыходнай, дапрыказкавай аснове ствараюць часцей сатырычныя вершы, байкі. Асабліва часта гэтым прыёмам карыстаўся К.Крапіва. Так, у аснову байкі «Дзед і Баба» пакладзена прыказка *Баба з воза – каню лягчэй.* Яна бытуе і ў такіх варыянтах: *Баба з калёс – калёсам (каню, кабыле) лягчэй; Баба з калёс – калёсы як чорт панёс.* М.І.Міхельсон падае гэту агульную для ўсходнеславянскіх моў прыказку з дадаткам-этымалогіяй: «Баба с возу, кобыле легче (сказал мужик, когда, баба, рассердившись, что ей сидеть неловко, слезла с возу)» [83, с. 37]. Прыкладна ў такім жа плане і распрацоўваецца сюжэт байкі, толькі матывы спрэчкі паміж героямі

іншыя, і гэта адпавядае ідэйнай задуме сатырыка: байка пра Бабу, што стала памагаць каню, «седзячы на возе», накіравана супраць такіх «баб» ва ўстановах, якія, «здэцца, й робяць штось, але справы слабы». Параўн. пачатак байкі: «Ехаў Дзедка на кірмаш, З ім на возе – Баба» і канцоўку (перад мараллю): «Потым – гоп *яна з калёс*, Села ля дарогі, А *каня як чорт панёс*, – Дзе ўзяліся й ногі!». Дарэчы, выдзеленыя словы амаль дакладна паўтараюць загаловак байкі пры яе першай публікацыі: «Баба з калёс, дык каня як чорт панёс» (Беларуская вёска. 1925, 29 вер.).

Адносна прыказкі *Сем гадоў мак не радзіў, а голаду не было* Я.Сіпакоў піша: «Гэта – цэлая аповесць, у якой ёсць усё: гумар, іронія, добрая ўсмешка, годнасць, нацыянальная адметнасць, духоўнасць, дабрыня і мудрасць».

Сюжэтнасць уласціва і некаторым неалегарычным прыказкам: *Як багаты памрэ, па тры з хаты прэ, а як бедачок – толькі поп ды дзячок.* Як сюжэтныя варта разглядаць і асобныя прыказкі, якімі характарызуюць стан прыроды: *Дождж ідзе не тады, як просяць, а тады, як жнуць ды косяць; Летам дзень мокне, а гадзіну сохне, восенню гадзіну мокне, а дзень сохне.*

3. Прыказкі-каламбуры. Гэтак умоўна абазначым прыказкі, у якіх каламбурна выкарыстана якое-небудзь слова-кампанент. К.Крапіва [56, с. 254] сярод амаль 4500 прыказак, змешчаных у працах І.Насовіча і Е.Раманава, называе толькі 3 прыказкі каламбурнага характару: *Я не арганісты, не перабіраю* (тут дзеяслоўны кампанент мае дваякі сэнс: ‘рытмічна кратаць пальцамі’ і ‘быць пераборлівым’); *Нуда горш за хваробу* (іранічная рэпліка ў сувязі з пачутым ад суразмоўніка небеларускім спалучэннем «ну, да»); *Каму шуткі, а мне авечкі* (абыгрываецца слова *шуткі*, якое ў рускай мове абазначае ‘жарты’, а ў беларускай – ‘авечкі’).

Аналіз жа 1500 прыказак, апісаных у парэміяграфічных даведніках [75; 73], сведчыць, што каламбур не такая ўжо рэдкая з’ява ў прыказках. Ёсць больш за 30 прыказак, у якіх знарок сутыкаюцца розныя значэнні полісемантычнага слова ці абыгрываюцца амонімы або сумежныя з імі паняцці.

Каламбур у прыказках найчасцей ствараецца абыгрываннем мнагазначнага слова. Пэўнае слова ўжыта ў прыказцы адзін раз, але адначасова ў двух значэннях. Напрыклад, у чатырохзначным дзеяслове *піць* два першыя значэнні такія: ‘глытаць якую-небудзь вадкасць’ і ‘ўжываць спіртныя напіткі’. Абодва гэтыя значэнні рэалізуюцца ў прыказцы *Зранку і коні не п’юць*, якую кажуць суразмоўніку, адмаўляючыся ад яго запрашэння нашча, зранку выпіць спіртнога. Падвойны змест мае дзеяслоўны кампанент *падмажаш* у прыказцы *Не падмажаш – не паедзеш*: пераноснае значэнне ‘дасі хабар, падкупіш’ і прамое ‘злёгку змажаш (колы ў возе)’. У прыказцы *Ажаніцца – не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся* апошні кампанент *(атрасешся)* надзелены сэнсавай двухпланавасцю: гэта і ‘трасучыся, ачысціўшся пасля падзення’, і ‘пазбавіўшся нежаданага, непрыемнага, дакучлівага’.

Іншы раз прыказкавы кампанент мае не толькі звычайнае, слоўнікавае значэнне, але і яшчэ адно – кантэкстуальнае, няслоўнікавае, якое накладваецца на першае значэнне. Так, у прыказцы *Вастры зуб аб зуб, а розум аб розум* дзеяслоўны кампанент *вастры* абазначае ‘рабі вострым’ (у дачыненні да спалучэння *зуб аб зуб*) і ‘ўдасканальвай,

узбагачай’ (у дачыненні да *розум аб розум*). *Красіць*, паводле слоўнікаў, – адназначны дзеяслоў (‘рабіць прыгожым, упрыгожваць’). А ў прыказцы *Гора толькі ракаў красіць* на гэта значэнне наслойваецца яшчэ адно – праз супастаўленне з ракамі, якія, калі іх зварыць, робяцца чырвонымі.

Часцей, як бачым, абыгрываецца дзеяслоўны кампанент (гл. яшчэ ў § 17 нярэдкія прыклады тыпу «Чалавек не арэх, адразу не *раскусіш*»). Зрэдку падвойны сэнс атрымліваюць і недзеяслоўныя кампаненты, напрыклад: *Бог **тройцу** любіць*; *Зяць на парог – цешча за **яйцы**; Турма **моцная**, але ніхто не хоча там быць; **Так** нічога не бывае <усё за грошы>.*

Даволі часта ў межах адной і той жа прыказкі двойчы выкарыстоўваецца мнагазначнае слова, але ў розных яго значэннях. Так, у прыказцы *На гэта лета добра і гэта* першае *гэта* – указальны займеннік, другое – у значэнні назоўніка. Яшчэ прыклады прыказак-каламбураў гэтага тыпу: *Вялікага сабакі вялікі брэх; Вялікаму караблю – вялікае і плаванне; Што будзе, то будзе, а Сайка на куце не будзе; Рукі забрудзіш – вадою адмыеш, душу забрудзіш – і мыла не паможа; Не той дужы, хто коней **стрымлівае**, а той, хто сябе **стрымлівае**.*

Як згадвалася вышэй, амонімы таксама ўдзельнічаюць у будове прыказак-каламбураў. Напрыклад, кантэкстуальная прыказка *Можа надвое варожа* гаворыцца як рэакцыя на слова *можа* ў папярэднім выказванні. У гэтым выпадку супрацьпастаўляюцца два амонімы: *можа* як пабочнае слова і *можа* ў значэнні назоўніка-дзейніка. Падобнае бачым і пры рэалізацыі кантэкстуальнай прыказкі *Калі значыцца, дык ацеліцца* (гл. § 7). *Граза ў лес не ідзе* абазначае ‘строгасць, пагроза не праходзіць безвынікова’. Першы прыказкавы кампанент успрымаецца як два амонімы: адзін у значэнні ‘пагроза, тое, што наводзіць страх’, другі – дыялектнае слова (занатаванае і І.Насовічам) са значэннем ‘навальніца з громам’.

У некалькіх прыказках абыгрываюцца амаформы. Так, у прыказцы *Без мяне мяне жанілі* першае *мяне* – форма роднага склону, другое – вінавальнага склону; у прыказцы *Каму па каму, а каму два камы* першае і другое *каму* – аднолькавыя па гучанні і напісанні формы граматычнай парадыгмы двух розных слоў: займенніка *хто* і назоўніка *ком*. Яшчэ прыказкі-каламбуры: *Сядзі ў бўдзе ды чакай, што будзе; Калі здаецца, трэба хрысціцца* (гл. пра гэту кантэкстуальную прыказку ў § 7).

Сустрэлася каламбурная прыказка з абыгранымі амографамі: *Які музыка, такая і музыка.*

У гэтай жа групе можна, з некаторымі агаворкамі, разглядаць і такія прыказкі: *Чуў, кум, сонца, бачыў гром?; На адно вуха слепаваты, на адно вока глухаваты; Пабачым – сказаў сляпы.*

4. Рытмічныя прыказкі. У адных працах, як паказвалася ў § 1, прыказку вызначаюць як «рытмічна арганізаваны вобразны народны выраз», як «рытмічна арганізаваны выказ павучальнага характару». У другіх працах, наадварот, сцвярджаюць, што «прыказак з дакладна вытрыманай рытмікай мала», што большасць прыказак «не мае вершаванай рытмікі», але ёсць прыказкі, у якіх «выкарыстаны двухскладовыя стопы – ямб, харэй, а часам і трохскладовыя – анапест, дактыль, амфібрахій» [10, с. 396]. Ісціна ж, як гаворыцца, пазнаецца ў параўнанні, у тым ліку праз колькасныя паказчыкі. Па нашых падліках, для больш як 270 прыказак (з 1500 прааналізаваных) характэрна

рытмічнасць, прычым 150 маюць толькі рытмічнасць, астатнія рыфму і рытм.

Як асаблівасць рытму, характэрную для некаторых прыказак, адзначым наступнае. Калі рытмічная прыказка мае структуру простага сказа (такія прыказкі называюць аднachленнымі), то ў ёй захоўваецца які-небудзь пэўны парадак у чаргаванні націскных і ненаціскных складоў; напрыклад, у прыказцы *Воўчы дух да лесу цягне* – чатырохстопны харэй. Калі ж прыказка паводле сваёй будовы двухчленная ці трохчленная, то ў адных выпадках вершаваны памер ва ўсіх прэдыкатыўных частках аднолькавы; да прыкладу, у прыказцы *Каб ведаў, дзе паваліўся, саломкі падаслаў бы* – сямістопны ямб. У другіх жа выпадках – у кожнай частцы іншы памер. Скажам, у прыказцы *Колькі ваўка ні кармі, а ён у лес глядзіць* памер першай часткі – дактыль, памер другой часткі – ямб. Або ў прыказцы *Баба з воза – каню лягчэй* двухстопны харэй у першай частцы і двухстопны ямб – у другой; тое самае і ў прыказцы *Бог не выдасць, свіння не з'есць*. Памер першай часткі ў прыказцы *З міру па нітцы, голаму сарочка* – дактыль, памер другой часткі – харэй. Такі рытмічны разнабой вытлумачваецца, відаць, тым, што ў вуснай народнай творчасці, дзе скаліся гэтыя і падобныя прыказкі, панавала не сілаба-танічная, а танічная сістэма вершаскладання, заснаваная на аднолькавай колькасці націскных складоў пры адносна свабоднай колькасці ненаціскных складоў. Так, у прыведзенай вышэй прыказцы *Колькі ваўка ні кармі, а ён у лес глядзіць* у абедзвюх частках аднолькавая колькасць націскных складоў.

Разнабой у выкарыстанні вершаваных памераў назіраецца ў 22 неаднachленных прыказках са 150 рытмічных (без уліку рыфмавана-рытмічных), напрыклад: *Бі сароку, бі варону, даб'ешся да белага лебедзя* (харэй – харэй – амфібрахій); *Бог не без літасці, казак не без шчасця* (дактыль – амфібрахій); *Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць* (харэй – анапест); *І рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць* (ямб – анапест); *Не было ні граша, а раптам алтын* (анапест – амфібрахій).

Часам сцвярджаецца, што «ў прыказках пануюць харэічныя (двухстопныя), анапестычныя і дактылічныя (трохстопныя) памеры» [55, с. 76]. Але гэта не зусім слушна. Вось колькасныя паказчыкі вершаваных памераў у 128 рытмічных прыказках: ямб – 48 (напрыклад: *З-за блох не кінеш кажуха; Пажар агнём не тушаць);* харэй – 45 *(Што пасееш, тое і пажнеш; Шэпты хату зводзяць)*; дактыль – 13 *(Збродлівай кошцы хвост уцінаюць; Конская матка не здохла)*; амфібрахій – 11 *(Захочаш павесіцца, то знойдзеш вяроўку; Капейка рубель беражэ)*; анапест – 11 *(Галавою сцяны не праб'еш; Заракалася кошка мышэй не лавіць).*

Зразумела, нельга лічыць, што хтосьці пры стварэнні той ці іншай рытмічнай прыказкі задумваўся, які ў ёй вершаваны памер. Прыказкі, як слушна піша К.Крапіва, «у пераважнай сваёй большасці, калі не ўсе, утварыліся інтуітыўна» [56, с. 251].

5. Рыфмаваныя прыказкі. Рыфма – вельмі пашыраная з'ява ў парэмійным складзе: ёю ахоплена 42 % прыказак (630 сярод 1500).

Калі ў прыказках са структурай складанага сказа найчасцей рыфмуюцца апошнія словы прэдыкатыўных частак, то ў прыказках, структурна арганізаваных як просты сказ, схема рыфмоўкі куды больш разнастайная. Па-першае, ёсць двухкампанентныя прыказкі, абодва словы якіх звязаны рыфмай: *Хата рагата; Маладосць – дурносць; Малое*

*– дурное; Няведанне – нягрэшанне.* Да гэтай жа групы можна далучыць шэраг трохкампанентных прыказак з адмоўем «не» паміж словамі: *Служба не дружба; Спроба не хвароба; Сівізна не ўкарызна; Смех не грэх; Укрой – не ўдой.* Параўн. прыказкі крыху іншых канструкцый: *Старое што малое; Давярай, але правярай.*

Па-другое, прыказкі з рыфмай-кольцам (часцей гэта трох- ці чатырохкампанентныя прыказкі, у якіх рыфмуюцца першае і апошняе словы). Іх больш як 20, напрыклад: *Зяць любіць узяць; Можа надвое варожа; Цянькі адбіраюць дзянькі; Удаве бяды дзве; Увосень – работ восем; Увосень і кабан паросен; Удалося забіць бабе лося; Брахаць – не цэпам махаць; Абедаў, а жывот не ведаў.*

Па-трэцяе, прыказкі, у якіх рыфмуюцца два першыя кампаненты: *Адной рукой і вузла не завяжаш; За чужой шчакой зуб не баліць; Не зважай на ўраджай, а жыта сей* і інш. Зрэшты, з такой жа рыфмоўкай нярэдка сустракаемся і сярод прыказак са структурай складанага сказа: *Абяцанкі – цацанкі, а дурню радасць; Ад ліха ціха, а дабра не чуваць; Свой за гарой, а сусед у акне; Хіцер Зміцер, але і Саўка не дурань; Грэх у мех, грашаняты ў торбу; Удзень кавярзень, а ўвечары барышня.*

Па-чацвёртае, прыказкі, у сярэдзіне якіх рыфмуюцца два сумежныя словы: *Бадлівай карове бог рог не дае; На адно вуха глуха, а на другое не чуе.* Такая ж рыфма назіраецца і ў прыказках, пабудаваных па схемах складанага сказа: *На воўка памоўка, а мядзведзь цішком; Пра воўка памоўка, а ён і сам тут; Усе бабры дабры, адна выдра ліхая; Усе яршы харашы, адзін шчупак як дурак.*

Па-пятае, прыказкі, дзе рыфмуюцца два канцавыя кампаненты: *Не да танцу абадранцу; Не красна хата вугламі, а пірагамі; Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку; Свая сярмяжка не цяжка; Чужая яечня не вечна.*

Па-шостае, прыказкі, у якіх рыфмуюцца тры словы. Адна з іх – *Дома і салома ядома* – чытырохкампанентная, тры кампаненты, суадносныя з паўназначнымі словамі, звязаны рыфмай. Іншыя прыказкі гэтай групы складаюцца больш чым з 4-х кампанентаў: *За дурной галавой нагам неспакой; І сам не гам, і другому не дам; Сава не родзіць сакала, а такога ж чорта, як сама; На гэта лета добра і гэта; Май – каню сена дай, а сам на печ уцякай.* Тры словы рыфмуюцца і ў некаторых прыказках са структурай складанага сказа: *Ні калёс, ні атос, і воўк кабылу панёс; Чым хата багата, тым і рада; Ніхто не бача, як сірата плача, але кожны бача, як сірата скача; Каб не ежка ды адзежка, была б грошай поўна дзежка; Калядкі – добрыяияткі: паеў ды на палаткі; Атаўка – сену прыбаўка, ды не мог скасіць яе Саўка* і інш.

Па-сёмае, прыказкі, у якіх рыфмай звязаны канцавыя словы сінтагмы, маўленчага такта ці рытміка-інтанацыйнай групы. Такіх прыказак больш за 30, напрыклад: *Галоднай куме хлеб наўме; За маё жыта ды мяне пабіта; Зямля святая ўсіх прымае; На жывой касці мяса мусіць нарасці; На чужы каравай рот не разявай; Рыбак рыбака бачыць здаляка; Усякі гад чужому грошу рад; Чужую бяду рукамі развяду; Сытае бруха да навукі глуха; Цікаўнай Варвары сабакі нос адарвалі.*

Па-восьмае, прыказкі, у якіх кампаненты рыфмуюцца папарна, утвараючы дзве пары рыфмаў: *На чужой старонцы рад сваёй варонцы; Дружба дружбай, а служба службай.*

У двухчленных прыказках, пабудаваных па схемах складанага сказа, рыфмай звязаны, як ужо ўпаміналася вышэй, апошнія словы прэдыкатыўных частак. Вось па два прыклады рыфмаваных прыказак са структурай а) складаназлучанага сказа: *Дзякуй гэтаму столу, а мы пойдзем дадому; Ці памёр Гаўрыла, ці яго скула задавіла;* б) складаназалежнага: *Дзе нянек многа, там дзіця бязнога; Каб не клін ды не мох, дык і цясляр бы здох;* в) бяззлучнікавага: *Мая хата з краю, нічога не знаю; Не ўрадзіў мак, перабудзем і так.* Часам у кожнай прэдыкатыўнай частцы свая рыфма: *У музы´кі хлеб невялікі, а спява́кі маюць ніякі; Худы – хоць куды, а тлусты – чалавек пу́сты; Добраму чалавечку добра і ў запечку, а благой благаце дрэнна і на куце; Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так.* У некаторых двухчленных прыказках рыфма ёсць толькі ў 1-й частцы: *Каму па каму, а каму па два камы; Не дай бог свінні рог, а мужыку панства; Каб яды, як на дзяды, а рабіць, як у нядзельку.*

У трохчленных прыказках схема рыфмоўкі таксама неаднатыпная. Адны прыказкі маюць дзве пары рыфмаў: *Адзін Сцяпан – за ўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача; Радня да пайдня, а як сонца зойдзе, сам чорт не знойдзе; Цешыўся старац, што паражыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю.* У другіх – адна рыфма, прычым у адных выпадках (два першыя прыклады) рыфмуюцца апошнія словы першых дзвюх парэмійных частак, у другіх – першай і трэцяй частак: *Не ў тым сіла, што кабыла сіва, а што воза не цягне; Першая чарка калом, другая сакалом, а трэцяя сама ўляціць; Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж; Кепска, пане Грыгоры: што далей, то горай; Купіў мыла – еш, хоць і не міла.*

Амаль усе чатырохчленныя прыказкі (іх больш за 20) маюць па дзве пары рыфмаў, напрыклад: *Як п'ян, дык капітан, а як праспіцца, дык свінні баіцца; Пі ды еш, пакуль рот свеж, бо як умрэш, то і калом не ўпрэш; Адзін з'еш хоць вала, дык адна хвала, а пакрысе, ды ўсе; Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа – не дай божа; Хто хлусіць, то вып'е і закусіць, а хто праўду кажа, той галодны ляжа.* Толькі ў адзінкавых чатырохчленных прыказках рыфмуюцца 3-я і 4-я часткі ці 1-я і 3-я, а таксама кампаненты 4-й часткі: *Першы дзень госць – золата, другі – срэбра, трэці –медзь, дадому едзь; Пакуль жывеш – усяго трэба, а як памрэш – чатыры дошкі і зямлі трошкі.*

Як вядома, рыфмы паводле месца апошняга націскнога склада бываюць мужчынскія, жаночыя і дактылічныя. К.Крапіва пісаў: «Са ста дваццаці прыказак, узятых мною па парадку, 8 мелі дактылічную рыфму, а рэшта дзялілася пароўну паміж жаночымі і мужчынскімі» [56, с. 261]. Па нашых жа падліках, сярод 630 рыфмаваных прыказак 239 маюць рыфму мужчынскую *(Смех не грэх)*, 370 – жаночую *(Ад напасці не прапасці)*, 21 – дактылічную *(Колас ад коласу – не пачуеш голасу).* На долю дактылічных рыфмаў прыпадае, як бачым, не 7 %, як у К.Крапівы, а толькі 3 %. Некалькі прыкладаў такіх рыфмаў: *малоціцца – калоціцца, запрагаючы – выбіраючы, гарачае – сабачае, курыцы – вуліцы, гарбатае – багатае, сцеліцца – цэліцца, ажэніцца – пераменіцца, абыякага – ніякага.*

У адной працы хоць і не падаюцца канкрэтныя колькасныя паказчыкі, але гаворыцца, што «дзеяслоўная рыфма ў нашай прыказкавай паэзіі – з'ява вельмі пашыраная» [130, с. 142]. Гэта рыфмоўка сапраўды «вельмі пашыраная», але ўсё ж пераважае

назоўнікавая рыфмоўка: у 228 прыказках назоўнік рыфмуецца з назоўнікам *(бычку – лычку, аладка – грамадка).* Дзеяслоў з дзеясловам рыфмуецца ў 198 прыказках *(сеў – прыкіпеў, носіць – просіць).* Радзей сустракаецца рыфмоўка прыметнікавая *(багаты – вінаваты, прымачы – сабачы),* прыслоўная *(нізка – блізка, міла – гніла)*, займеннікавая *(нікога – нічога, я – мая).*

У вельмі многіх выпадках (больш як 120) сустракаем арыгінальную, незвычайную рыфму, заснаваную на сугучнасці слоў не аднолькавай, а розных часцін мовы. Так, асабліва часта рыфмуюцца назоўнік з дзеясловам: *Зяць любіць узяць;* або: *княгіня – загіне, Гаўрыла – задавіла, Зося – прыйшлося, камедыя – ведае, палена – паела, лапаць – плакаць, бядзе – ідзе, гулі – абулі, дышла – выйшла, мароз – павёз* і яшчэ каля 30 падобных рыфмаў.

Крыху радзей рыфмуюцца назоўнікі з прыметнікамі або прыслоўямі, займеннікамі, лічэбнікамі, напрыклад: *бабры – дабры, Зміцер – хіцер, сіла – сіва, бруха – глуха, яршы – харашы; грак – так, ліха – ціха, гора – скора, дошкі – трошкі, ліска – блізка; спявáкі – нíякі, вараны´ – яны, час – нас, крам – нам, Гіршы – іншы; друг – двух, удаве – дзве, рукой – адной.*

Прыметнікі іншы раз звязваюцца рыфмай з назоўнікамі, дзеясловамі, зрэдку – з займеннікамі ці прыслоўямі: *дурной – галавой, п'ян – капітан, чужой – шчакой, ласы – прыпасы; святая – прымае, свеж – еж, чубатае – сватае, крывая – прымае, міла – мыла; траякі – ніякі, худы – куды.* Сустракаецца нямала рыфмаў, заснаваных на сугучнасці прыслоўя, дзеяслова, займенніка з якой-небудзь іншай часцінай мовы, напрыклад: *увосень – паросен, многа – бязнога, заўсягды – дзяды, пакрысе – усе, увосень – восем; пад'еў – хлеў, удалося – лося, мог – ног, ем – нем, гавары – дагары; сам – дам, свой – гарой, самі – сані, каму – па каму.*

Як вядома, рыфмы паводле іх дакладнасці падзяляюцца на поўныя, ці дакладныя, і няпоўныя, прыблізныя. Нязначная колькасць рыфмаў у прыказках адносіцца да прыблізных: *вырас – вынес, Мікола – нікога, сітка – навісіцца, снег – не, грошы – босы, старац – хваліць, кінь – клін, кусцік – пусціць, кашаль – красен, удзень – у людзей, узяў – капрал.*

«На колькі высока ставіцца ў прыказцы.. рыфма, відаць з таго, што для рыфмы часта мяняецца ў слове націск» [56, с. 262]. Але такіх выпадкаў сустрэлася толькі тры: *Госць выпіць рад, калі гаспадар дасць прыклáд; У музыкі хлеб невялікі, а спявáкі маюць ніякі; Худы – хоць куды, а тлусты – чалавек пýсты.* У трох прыказках слова, якое рыфмуецца, – форма былога клічнага склону: *Гора табе, воле, калі цябе карова коле; Скачы, уража, як пан скажа; Не смейся, рабе, дасць бог і табе.* Некалькі прыказак захавалі ў сваім складзе асобныя дыялектныя словы (яны рыфмуюцца) ці дыялектныя граматычныя формы: *Каму кірмаш, а каму жыцця* ***нямаш****; Няма горшай* ***балесці****, як хочацца есці; Тры* ***лісе*** *ў адно зліліся; Мужыку розум* ***прыходзе*** *па шкодзе; Гадавала сава* ***дзеці****, ды няма на што* ***глядзеці****.* Як дыялектнае трэба лічыць і слова *лядзень* (аналаг літаратурнага *лядзяк*) у прыказцы *Ілья ўкінуў лядня*, хоць у адной працы яно кваліфікуецца як неалагізм, утвораны для рыфмы [56, с. 263]. А вось *аганец* у прыказцы *Кожны курэц павінен мець свой аганец і тытунец* – наватвор, абумоўлены рыфмоўкай.

З раней прыведзеных прыкладаў можна бачыць, што многія прыказкі (а менавіта 120) маюць не толькі рыфму, але і рытм. Рыфма,

рытм, іншыя мастацка-паэтычныя якасці садзейнічаюць лёгкаму запамінанню прыказак і іх даўгавечнаму жыццю.

6. Прыказкі з фанетычнымі сродкамі выразнасці. Р.Крушына ў прадмове да сваёй кнігі «Сны і мары» пісаў: «Паэзія спрадвеку прыхільніца прыгожага слова, прыбіраецца ў пышныя строі: метафары, алітэрацыі, багатыя рыфмы, арыгінальны рытм» (цыт. па [93, с. 246]). Гэта выказванне можна адносіць і да вялікага мноства прыказак. Так, у прыказцы *Гора табе, воле, калі цябе карова коле* ёсць разгорнутая метафара, рыфма, рытм (у другой частцы – чатырохстопны ямб) і асананс – паўтарэнне галоснага «о», што ўзмацняе гукавую выразнасць прыказкі і ўвогуле ўвесь яе сэнсавы змест, надаючы яму іранічную афарбоўку.

Адна з асаблівасцей многіх прыказак – іх мілагучнасць, музычнасць, гукавая зладжанасць слоў, што ствараецца не толькі рытмам і рыфмай, але ў многіх выпадках і гукавой арганізацыяй прыказкі. Ёсць шэраг прыказак, у якіх усе кампаненты, суадносныя з паўназначнымі словамі, пачынаюцца аднолькавым зычным гукам: *Воран ворану вока не выклюе; Беражонага бог беражэ; Кропля камень крышыць; Сабаку сабачая смерць; Не ў свае сані не садзіся.* Або такія прыказкі, для якіх характэрна алітэрацыйная згушчанасць зычнага «к»: *Укаталі сіўку крутыя горкі; Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй; Каму па каму, а каму два камы; Куды ні кінь, усюды клін; Крывое кола на сябе гразь кідае; Кумка кумцы па сакрэту, а кумка – усяму свету; Курачка па зярнятку клюе.*

Часта гукавыя паўторы, у дадатак да зыходнага зрокавага вобраза прыказкі, ствараюць слыхавы вобраз. Так, адносна прыказкі *Валачыў воўк, павалаклі і воўка* К.Крапіва піша, што ў ёй «асабліва дарэчы паўторы гука «в» і «ў», бо гэта стварае падабенства воўчага выцця» [56, с. 262]. Такія ж асацыяцыі выклікаюцца і прыказкай *З ваўкамі жыць – павоўчы выць.* Паўтор гука «р» у прыказках *Паранены звер страшны* і *Трапіў у вараны, крычы, як яны* выклікае неаднолькавыя слыхавыя вобразы: у першай нагадвае пра раз’ятранае, дзікае рыканне, у другой – пра карканне варон. У прыказцы *Касі, каса, пакуль раса, раса далоў – каса дамоў* праз паўторы гукаў «к» і «с» адчуваецца працэс кашэння.

Алітэрацыя (паўтораныя зычныя гукі далей выдзелены) назіраецца, напрыклад, і ў такіх прыказках: ***Скр**ыпучае д**р**эва доўга **скр**ыпіць; **С**алдат **с**піць, а **с**лужба ідзе; **С**арока на хва**с**це прыне**с**ла; У **с**ваім **с**тане і пры**с**таў цар; Вяс**н**ой і траві**н**ка да траві**н**кі хі**н**ецца; Міласці пра**ш**у к на**ш**аму **ш**ала**ш**у; Ад**с**охні тая рука, што **с**абе не **с**прыяе; Па**к**уль **гр**ом не **гр**ымне, мужы**к** не пера**хр**ысціцца.*

У адной працы [130, с. 149] пра гукапіс у прыказцы *Блізка відаць, ды далёка дыбаць* гаворыцца, што ў ёй «гукавая гама выснавана на чатырохразовым ужыванні зычнага «д» і на чаргаванні спалучэнняў яго з галоснымі: *да – ды – да – ды.* У кожнай канве прыказкі яны імітуюць рытмічнасць чалавечых крокаў і ў нейкай меры напамінаюць стук абцасаў. Гукапіс прыказкі, такім чынам, цудоўны, звонкі і вельмі падобны на жывыя формы жыцця».

Прывядзём яшчэ некалькі прыказак, у якіх выразна адчуваецца асананс – паўтарэнне то «а», то «о», то «у»: *Бадлівай карове бог рог не дае; Забаронены плод салодкі; За пчолкаю – у мёд, за жуком у гной; Збродлівай кошцы хвост уцінаюць; З хаткі ў хатку, да на рубель упадку;*

*Багатаму шкада карабля, а беднаму – кашаля; Аднаму густа, другому пуста; Бачна па вочках, што ходзіць па ночках.*

«Зразумела, што ўсе гукавыя паўторы сродкам мастацкай выразнасці становяцца толькі ў пэўным кантэксце; самі па сабе яны не могуць ні стварыць вобраз, ні выказваць ідэю... Мастацкую выразнасць гукавыя паўторы набываюць толькі ў мастацкім (вобразна-эмацыянальным) маўленні і ў спалучэнні з цэлым шэрагам іншых яго ўласцівасцей» [109, с. 160] або толькі ў выказе, ладна скроеным і моцна сшытым.

7. Таўталагічныя прыказкі (іх больш за 50). Таўталогія ў прыказках гэтай групы выступае не як нешта заганнае, а як своеасаблівы стылістычны прыём, які склаўся гістарычна і замацаваўся ў маўленні.

У некаторых прыказках паўтараюцца не адно і тое слова, а аднакаранёвыя кампаненты, напрыклад: *Шукай цар царыцу, а пастух пастушку; Новая мятла па-новаму мяце; Дзела дзельніка баіцца; Бі сароку, бі варону, даб'ешся да белага лебедзя; На бязрыб'і і рак рыба.* Іншы раз паўтораны словы ў розных яго формах: *Новы поп, дык і новае маленне; Даўся запрэгчы, дасіся і паганяць; Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго.*

Многія прыказкі пабудаваны на прыёме сінтаксічнага паралелізму, і гэтым абумоўлена паўтарэнне ў іх аднолькавага кампанента: *Чужы дурань – смех, свой дурань – сорам; Дасць бог дзень, дасць і полудзень; Абед на абед не тое, што кій на кій; Госць у дом, бог у дом; Палавіна свету скача, а другая палавіна свету плача; Жыве кот і жыве сабака.*

У многіх выпадках паўтарэнні матывуюцца рытма-рыфмічнымі патрабаваннямі: *Бяда па бядзе як па нітачцы ідзе; Кума куме, а кума па ўсім сяле; Касі, каса, пакуль раса, раса далоў – каса дамоў; Жабрак жабраку відзён па кійку; Дружба дружбай, а служба службай.*

У прыказцы *Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе* – анафарычны паўтор (у пачатку кожнай парэмійнай часткі).

Да таўталагічных умоўна можна адносіць і такія прыказкі, у якіх паўторанае полісемантычнае слова рэалізуе не аднолькавыя значэнні або ў якіх паўтараюцца амонімы ці амаформы. Вышэй, у пункце 3 гэтага ж параграфа, разглядаліся некаторыя падобныя таўталагізмы: *На гэта лета добра і гэта; Без мяне мяне жанілі; Каму па каму, а каму два камы* і інш. Да такіх умоўных таўталагізмаў варта аднесці і яшчэ, напрыклад, наступныя тры прыказкі. Першая – *Цягаў воўк, пацягнулі і воўка.* Тут *цягаў* (у зыходным, дапрыказкавым сэнсе) абазначае 'краў', а *пацягнулі* – 'павалаклі'. У другой – *Было што піць і есці, але прынукі не было* – паўтор-кольца (па форме). Першае *было* – гэта 'існавала ў наяўнасці', апошняе – 'мела месца, прысутнічала'. Трэцяя – *Так дык так, не так, дык памяняўшы.* Тут *так дык так* – выраз са значэннем 'ладна, няхай будзе гэтак', а яшчэ адно *так* (у зыходным значэнні) – 'дакладна'.

8. Прыказкі з антытэзным супрацьпастаўленнем. Ёсць каля сотні прыказак, пабудаваных на сэнсавым супрацьпастаўленні кампанентаў, якія на ўзроўні слоў з'яўляюцца моўнымі або кантэкстуальнымі антонімамі. Прычым у прыказках 3-й семантычнай групы, а нярэдка і 2-й групы антанімічныя словы ўспрымаюцца са сваім звычайным, слоўнікавым значэннем, але і ў такім разе яны, супрацьпастаўленыя ў межах прыказкі, робяць усё выказванне больш яркім, ёмістым, экспрэсіўным, лёгка запамінальным. Супрацьпастаўляюцца, напрыклад, моўныя антонімы *дрэнна – добра, меней – болей, гора – радасць, багаты –*

*бедны: Лепш дрэнна ехаць, чым добра ісці; Меней гавары – болей пачуеш; З добраю жонкаю гора – паўгора, а радасць удвайне; Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.* У якасці моўных антонімаў выкарыстоўваюцца і словы ў іх пераносных (слоўнікавых) значэннях: *Хто ў жыцці спазнаў рай, той памрэ ў пекле; Корань навукі горкі, ды плады яго салодкія.* Многія прыказкі будуюцца на супрацьпастаўленні кантэкстуальных антонімаў, напрыклад: *Воз дадому возіць, сані на базар; Гэта яшчэ кветачкі, а ягадкі наперадзе.*

Даволі часта ў межах адной прыказкі сустракаюцца два супрацьпастаўленні. У адных выпадках яны абодва засноўваюцца на моўных антонімах, у другіх – на кантэкстуальных, у трэціх – на моўных і кантэкстуальных адначасова: *1) Лепш горкая праўда, чым салодкая мана; Добраму чалавеку добра і ў запечку, а благой благаце дрэнна і на куце* (у гэтай прыказцы супрацьпастаўленняў больш як два); *2) Адзін з сошкай, а сямёра з ложкай; Лепш сініца ў руцэ, чым журавель у небе; 3) Багатаму шкада карабля, а беднаму – кашаля; Пакуль з багатага пух, з беднага дух.*

Што да прыказак 1-й семантычнай групы, а ў многіх выпадках і 2-й групы, то супрацьпастаўленыя ў іх кампаненты можна лічыць антонімамі толькі фармальна, разглядаючы саму прыказку не ў яе фігуральным змесце, а ў зыходным, неператасэнсаваным выглядзе. Скажам, у прыказцы *Пакуль вялікі нагнецца, малы нап'ецца*, што значыць 'чалавек у адзіночку паруліцца пра сябе хутчэй, чым гэта зробіць грамада', толькі фармальнымі антонімамі выступаюць *вялікі – малы*. Тое самае датычыць і такіх, напрыклад, прыказак: *Ранняя птушка зубкі цярэбіць, а позняя вочы праціраe; Начная зязюля дзённую перакукуе; За аднаго бітага двух нябітых даюць; Нязнайка ляжыць, а знайка бяжыць.* Між іншым, назоўнікавыя кампаненты апошняй прыказкі разглядаюцца ў адной працы [89, с. 15] як «прыказкавыя новаўтварэнні», хоць *знайка* і *нязнайка* даюцца ў беларускіх акадэмічных даведніках як звычайныя словы, толькі з паметай «размоўнае».

У алегарычных прыказках такімі ж фармальнымі, ці ўмоўнымі, трэба лічыць і кантэкстуальныя антонімы: *Бег сабака за калёсамі, мусіць бегчы і за санямі; Жыве кот і жыве сабака; За пчолкаю – у мёд, за жуком – у гной; Паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць* і інш.

Калі прыказка здольна ўжывацца ў літаральным і пераносным сэнсе, яе супрацьпастаўленыя кампаненты павінны кваліфікавацца неаднолькава. Параўн., напрыклад: *Блізка відаць, ды далёка дыбаць* мае два значэнні: 1) не так і блізка што-небудзь, як здаецца; 2) не так лёгка дасягнуць таго, пра што марыць хто-небудзь. У 1-м значэнні кампаненты *блізка – далёка* – моўныя антонімы, а ў 2-м – фармальныя, умоўныя.

Ёсць шэраг прыказак, у якіх супастаўленыя кампаненты, суадносныя з мнагазначнымі словамі, толькі на першы погляд здаюцца антонімамі. На самай жа справе гэта квазіантонімы. Так, у прыказцы *Вяроўка добра доўгая, а размова кароткая* (ужываецца як папярэджанне, каб хто-небудзь гаварыў каротка, непрацягла) *доўгая* абазначае 'якая мае вялікую даўжыню', а *кароткая* – 'непрацяглая, малая па часе'; у прыказцы *Малы жук, а вялікі гук* прыметнік *малы* – гэта 'нязначны па велічыні, памерах', а *вялікі* – 'значны па сіле, інтэнсіўнасці'. Як квазіантонімы трэба кваліфікаваць выдзеленыя словы

ў наступных прыказках: ***Высока*** *лятаеш, але* ***нізка*** *сядзеш; З* ***вялікага*** *грому* ***малы*** *дождж бывае; Каб такіх* ***часта*** *сеялі, ды* ***рэдка*** *ўзыходзілі; У бабы валасы* ***доўгія****, а розум* ***кароткі***.

У няхай і не знарочыстым, а інтуіцыйным утварэнні такіх прыказак праявілася асаблівае майстэрства іх творцаў.

9. Прыказкі з сінтаксічным паралелізмам. Больш за 200 прыказак грунтуюцца на адным з пашыраных кампазіцыйных прыёмаў паэтычнага маўлення – сінтаксічным паралелізме. Зразумела, гэты прыём, або стылістычная фігура, магчымы толькі ў прыказках, структурна арганізаваных як складаны сказ: у іх дзве прэдыкатыўныя часткі, а зрэдку і болей маюць аднолькавую (паралельную) будову. Сінтаксічны паралелізм у аднолькавай меры характэрны для прыказак усіх трох семантычных груп. Вось прыклады прыказак з сінтаксічным паралелізмам, якім уласцівы толькі літаральны план: *Век жыві, век будуйся; Госць на парог – гаспадыня за пірог; Гультай за дзела – мазоль за цела; Раней устанеш – болей зробіш; Хто шукае, той знаходзіць* і дзесяткі іншых. Аднак дзякуючы сінтаксічнаму паралелізму, а часам у сукупнасці з рытмам ці рыфмай і такія прыказкі ўспрымаюцца як мастацкая з’ява.

У вельмі многіх прыказках 1-й і 2-й груп структура наступнай прэдыкатыўнай часткі, як ужо згадвалася ў § 17, прадвызначаецца структурай папярэдняй часткі, напрыклад: *Вады не засіліш не павярушыўшыся, рыбкі не зловіш не памачыўшыся; Воўк не пастух, а казёл не агароднік; Лес крадзе – поле бачыць; Вочы страшацца, а рукі зробяць; Грэх у мех, грашаняты ў торбу; На каго бог, на таго і людзі.* Калі першая структурная частка няпоўная, то гэтым абумоўліваецца і непаўната другой структурнай часткі: *Поп сваё, а чорт сваё; За пчолкаю – у мёд, за жуком – у гной; Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну; Аднаму густа, другому пуста; З тварам да вянца, з розумам да канца.* Галоўны ці іншы член сказа, агульны для абедзвюх частак, у другой частцы прапускаецца: *Адзін едзе на шчасці, другі на снасці; Карову б’юць за зык, а бабу за язык; Добрая слава на паліцы ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць; Жонка ў хаце тры вуглы трымае, а мужчына адзін; Малыя дзеткі топчуць бацькам ногі, а вялікія – сэрца.*

Сінтаксічным паралелізмам характарызуюцца каля 20 прыказак з трыма і чатырма прэдыкатыўнымі часткамі: *Па кропельцы – рэчка, па сянінцы – копка, па копцы – стог; Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе; Еду ціха – са мной ліха, еду скора – са мной гора; Якое дрэва, такі і клін, які бацька, такі і сын* і інш.

Як відаць з апошняга, прыведзенага вышэй прыкладу, у прыказках нярэдка супастаўляюцца з’явы прыроды з фактамі, падзеямі чалавечага жыцця, «супастаўляюцца дзве якасці, дзве з’явы, два матывы, якія адзін аднаго напамінаюць і падказваюць», «яны выяўляюць адзін аднаго, прычым перавага на баку таго, які поўніцца чалавечым зместам» (А.Н.Весялоўскі) (цыт. па [130, с. 40]). Прывядзём толькі некалькі прыкладаў на такія супастаўленні ў прыказках, дзе паслядоўна захоўваецца сіметрычнасць у арганізацыі кампанентаў: *Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей; Як няма рыбы без косці, так і няма чалавека без злосці; Горка рэдзька, ды ядуць, цяжка замужам, ды ідуць; Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўку выбіраючы; Каню хваста не вяжы, а*

*бабе праўды не кажы; Курыца не птушка, а баба не чалавек; Не хвалі дзень з раніцы, а жонку змоладу.*

У прыказках з сіметрычным размяшчэннем кампанентаў, структурна арганізаваных як складаназлучаны сказ, прэдыкатыўныя часткі часцей за ўсё звязваюцца пры дапамозе злучніка «а» *(Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць)*, рэдка злучнікам «але» *(Высока лятаеш, але нізка сядзеш)*, злучнікам «ды» *(Малы жук, ды вялікі гук)*, а таксама пры дапамозе злучніка «і» і паўторнага «ні – ні»: *Жыве кот і жыве сабака; Не чапай нікога і не бойся нічога; І адтуль горача, і адсюль боляча; І рыбкі не хачу, і адзежкі не змачу.* У прыказках са структурай складаназалежнага сказа сувязь паміж часткамі ажыццяўляецца пры дапамозе злучальных слоў *хто, што, які, якая, якое, якія, дзе, куды, пакуль* (з адпаведнымі адноснымі займеннікамі або прыслоўямі ў другой прыказкавай частцы): *Хто не працуе, той не есць; Што пасееш, тое і пажнеш; Які прывет, такі і прыём; Якая заслуга, такая і пашана; Якое семя, такое і племя; Якія сані, такі і гаспадар; Дзе чубы трашчаць, там і пэйсы ляцяць; Куды ноч, туды і сон; Пакуль на гумне цэп, патуль на стале хлеб.*

Як ужо згадвалася, ледзь не ўсе прыказкі – мастацкія мініяцюры. У іх значэнні і афармленні ёсць хоць адна якая-небудзь прымета паэтычнага характару. Напрыклад, у непераасэнсаванай прыказцы *Брат любіць сястру багатую, а мужык жонку здаровую* бачым прыём сінтаксічнага паралелізму і гукавую зладжанасць (паўтор *а, я* ў 1-й частцы і *о* – у 2-й). А можна прывесці сотні прыкладаў, калі высокая мастацкасць прыказак дасягаецца сукупнасцю некалькіх стылістычных прыёмаў. Так, прыказка *Блізка відаць, ды далёка дыбаць* (‘не так лёгка дасягнуць таго, пра што марыць хто-небудзь’) склалася ў выніку пераасэнсавання яе кампанентаў, грунтуецца на прыёмах сінтаксічнага паралелізму і антытэзнага супрацьпастаўлення; апрача таго, у ёй ёсць рыфма, рытм (чатырохстопны дактыль), гукапіс *(да – ды – да – ды). Каму па каму, а каму два камы* (гаворыцца неадабральна, калі неаднолькава адносяцца да каго-небудзь, несправядліва дзеляць што-небудзь) – прыказка, па-першае, вобразная, алегарычная, па-другое, каламбурнага характару (абыгрываюцца амаформы *каму* – ад займенніка *хто* і *каму* – ад назоўніка *ком*); да таго ж у ёй ёсць рыфма ў першай частцы, рытм (амфібрахій у 1-й частцы і анапест у 2-й), антытэза, гукапіс, эфектыўная таўталагічнасць аднолькавага, аднакаранёвага і сугучнага слоў.

### § 20. Функцыянальна-стылёвыя разрады прыказак

У сэнсавую струтуру прыказак уваходзіць не толькі яе парэмійнае значэнне, лагічны змест (гл. § 2), але і стылістычнае значэнне – канататыўны элемент, які экспрэсіўна-эмацыянальна афарбоўвае сэнсавы змест прыказкі, надае выказванню фамільярнасць, іранічнасць, жартаўлівасць, непашану, пагардлівасць і інш.

Стылістычнае значэнне складаецца з двух кампанентаў, што выступаюць як розныя бакі адной з’явы: а) экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкі, якая надае прыказцы ацэначныя, эмацыянальныя і іншыя адценні, б) функцыянальна-стылёвай афарбоўкі, якая паказвае на прыналежнасць прыказкі да пэўнага стылю. Так, прыказка *Не жолаб да каня, а конь да жолаба ідзе* мае парэмійнае значэнне ‘каму-небудзь непасрэдна самому трэба нешта рабіць, а не чакаць немагчымага ад іншых’, а таксама экспрэсіўна-ацэначную афарбоўку неадабрэння чыіх-

небудзь паводзін і належыць да разраду размоўных прыказак. Усе гэтыя тры кампаненты і складаюць сэнсавую структуру дадзенай прыказкі.

Экспрэсіўна-ацэначная афарбоўка, уласцівая той ці іншай прыказцы, даволі часта (але не заўсёды) адзначаецца ў існуючых парэміяграфічных даведніках. У адных выпадках яна ўключаецца ў тлумачальную частку прыказкі, у сэнсавую характарыстыку. Напрыклад, прыказка *Кось, кось, пакуль у аглоблі* мае такое тлумачэнне: кажуць з неадабрэннем пра таго, хто напачатку задобрывае каго-небудзь, каб дасягнуць пэўнай мэты. У другіх выпадках яна даецца асобна, пасля тлумачальнай часткі, часам у сукупнасці з апісаннем сітуацыі, у якой рэалізуецца пэўная прыказка. Семантычная, экспрэсіўна-ацэначная і сітуацыйная характарыстыка, скажам, прыказкі *Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй* апісваецца так: «За старэйшым і больш вопытным, пераймаючы яго, цягнецца і маладзейшы. Часцей ужываецца як адмоўная ацэнка таго, хто пераймае чые-небудзь дзеянні, звычкі і пад.».

Калі экспрэсіўна-ацэначная афарбоўка прыказак звычайна адчуваецца носьбітамі мовы, выразна ўсведамляецца імі, то функцыянальна-стылёвая афарбоўка не заўсёды паддаецца адназначнай інтэрпрэтацыі. Дарэчы, у тлумачальных парэмійных слоўніках зусім не закранаецца гэты бок прыказак. Існуюць, аднак, аб’ектыўныя паказчыкі, крытэрыі функцыянальна-стылёвага размежавання прыказак. Гэтыя крытэрыі ўпершыню былі распрацаваны ў дачыненні да фразеалагічных адзінак[1], але, думаецца, яны амаль цалкам прыдатныя і ў дачыненні да прыказак. Гэта ў першую чаргу значнасць унутранай формы той ці іншай прыказкі, або яе здольнасць ствараць пэўнае ўражанне, і этымалагічны крытэрый, пад якім разумеюцца генетычныя асаблівасці прыказкі, яе паходжанне, першапачатковая сфера ўжывання, шляхі пранікнення ў літаратурную мову, час узнікнення. Апрача гэтага, істотнымі паказчыкамі стылёвай прыналежнасці прыказкі выступаюць такія крытэрыі, як семантычны, структурны, эўфанічны, кампанентны (г.зн. стылеўтваральныя магчымасці асобных прыказкавых кампанентаў) і колькасны (г.зн. колькасныя паказчыкі частаты ўжывання прыказкі ў тым ці іншым стылі).

Пры функцыянальна-стылёвай дыферэнцыяцыі прыказак улічваюцца ўсе магчымыя крытэрыі, што дае найбольш аб’ектыўныя вынікі. Абавязкова прымаецца пад увагу і ўласцівая пэўнай прыказцы экспрэсіўна-ацэначная афарбоўка. Яна нярэдка сумяшчаецца з функцыянальна-ацэначнай афарбоўкай, і ў такім разе паміж імі існуюць прычынна-выніковыя адносіны, г.зн. першая выклікае другую. Чым больш яркую экспрэсіўна-ацэначную афарбоўку мае прыказка, тым больш яна функцыянальна абмежаваная. *Няма чым вайку спаражняцца, дык ён лыкам* гаворыцца з абурэннем ці насмешкай пра таго ці таму, хто няўмела, беспадстаўна апраўдваецца ці ўзводзіць паклёп на каго-небудзь. Гэта прыказка павінна кваліфікавацца як прастамоўная – з

[1] *Лепешаў І.Я.* Крытэрыі функцыянальна-стылявой класіфікацыі фразеалагізмаў // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. 1983. № 4. С. 97–104; *Яго ж.* Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы. Мінск, 1984. С. 22–37.

улікам як яе экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкі, так і найперш такіх крытэрыяў, як значнасць унутранай формы (яна ў гэтым выпадку стварае негатыўнае ўражанне), колькасны (амаль ва ўсіх 7 прыкладах прыказка выкарыстана ў дыялагічным маўленні ў суседстве з іншымі прастамоўнымі сродкамі), этымалагічны (нарадзілася ў жывой народнай мове, зафіксавана ў зборніку І.І.Насовіча, праўда, у «акультуранай» форме), кампанентны (у літаратурнай мове дзеяслоўны кампанент – вульгарнае слова ў народзе – заменены нейтральным, а часам абазначаецца шматкроп'ем, як, напрыклад, у У.Дубоўкі: «Гэта было зроблена выключна паводле прынцыпу: «Калі няма воўку чым…, дык ён лыкам»). Дарэчы, па гэтай жа прычыне прастамоўнымі трэба лічыць і такія прыказкі з «акультуранымі» кампанентамі: *Грозен рак, ды вочы ззаду; За пчолкаю – у мёд, за жуком – у гной; Заракалася свіння за вугол хадзіць.*

Алегарычная прыказка *Да пары збан ваду носіць* абазначае 'ўсяму бывае канец' і звычайна ўжываецца як пагроза ці папярэджанне быць асцярожным. Па шэрагу паказчыкаў яна належыць да разраду размоўных прыказак: паводле сваёй унутранай формы, паходжання, семантыкі, а таксама па колькасным паказчыку (з 19 ужыванняў 18 разоў выкарыстана ў дыялагічным маўленні).

Прыказкі можна падзяліць з боку іх функцыянальна-стылёвай афарбоўкі на дзве групы: функцыянальна замацаваныя за пэўнымі стылямі і функцыянальна не замацаваныя за асобным стылем. У першай групе выдзяляюцца кніжныя, размоўныя і прастамоўныя прыказкі.

К н і ж н ы х прыказак вельмі мала (каля 1 %). Яны выкарыстоўваюцца ў публіцыстычным, навуковым стылях, а таксама ў мастацкіх тэкстах і маюць ярка выяўленую афарбоўку кніжнасці, што звязана з іх кніжным паходжаннем.

Этымалагічны крытэрый, такім чынам, з'яўляецца адным з істотных паказчыкаў функцыянальна-стылёвай прыналежнасці гэтых прыказак. Зразумела, што адначасова павінны ўлічвацца і такія крытэрыі, як семантычны і колькасны.

Сярод кніжных ёсць паўкалька з царкоўнаславянскай мовы, біблеізм *Не судзіце, ды не судзімы будзеце*, паўкалькі з рускай мовы: *Адзін раз схлусіўшы, хто табе паверыць?; Вялікае бачыцца на адлегласці;* калькі з французскай мовы: *Усё новае – гэта добра забытае старое; У доме павешанага не гавораць пра вяроўку;* калька з нямецкай мовы: *Вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна.*

Да кніжных належаць і шматлікія калькі з лацінскай мовы: *Вочы – люстра душы; Трэцяга не дадзена; Напісанае застаецца; Разумнаму дастаткова; У спрэчках нараджаецца ісціна; Час – найлепшы доктар* і некаторыя іншыя. Па сутнасці, гэта інтэрнацыянальныя прыказкі: у розных мовах яны ўжываюцца з такім самым значэннем, граматычнай структурай, стылістычнай афарбоўкай і адрозніваюцца толькі гучаннем, кампанентным складам (у роднасных мовах некаторыя з такіх прыказак супадаюць і гучаннем). Як кніжныя варта ацэньваць і асобныя прыказкі з нявысветленай этымалогіяй: *Усё геніяльнае – простае; Няма большай кары, чым кара свайго сумлення.*

Са сказанага нельга рабіць выснову, што ўсе прыказкі, скалькаваныя з заходнееўрапейскіх ці іншых моў, – кніжныя. Вельмі многія з іх, асабліва з жывой унутранай формай, даўно страцілі кніжную

афарбоўку, шырока ўжываюцца ў вусным і пісьмовым маўленні, сталі размоўнымі (*Рука руку мые; Куй жалеза, пакуль гарачае; Груган грugану вока не выдзеўбе* і інш.) або функцыянальна не замацаванымі, напрыклад: *Прывычка – другая натура; Няма прарока ў сваёй айчыне.*

Абсалютная большасць прыказак – р а з м о ў н ы я. Іх ужыванне паказвае на неафіцыйнасць адносін паміж суразмоўнікамі, надае маўленню натуральнасць, прастату і непасрэднасць. Размоўныя прыказкі выкарыстоўваюцца ў бытавых зносінах, літаратурна-гутарковым маўленні і ў мастацкай літаратуры.

Генетычна гэта прыказкі, якія часцей за ўсё ўзніклі ў жывой народнай мове. Размоўныя прыказкі этымалагічна могуць быць і запазычаннямі, калькамі ці паўкалькамі, якія, аднак, і ў мове-першакрыніцы мелі не кніжнае паходжанне. Многія з іх захавалі сваю першапачатковую вобразнасць і ўспрымаюцца носьбітамі мовы як свае, прывычныя і зразумелыя: *Язык да Кіева давядзе; У агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька; З мілым рай і ў шалашы; Не адразу Масква будавалася; Ласкавае цяля дзвюх матак ссе; Канец – дзелу вянец; Ружы без калючак не бывае* і г.д. Сюды ж можна аднесці і некаторыя біблеізмы: *Бог даў, бог узяў; Бойся Усявышняга і не гавары лішняга.*

Вельмі многія размоўныя прыказкі вылучаюцца значнасцю ўнутранай формы, яркай вобразнасцю, наяўнасцю рыфмы, рытму, гукапісу, іншых спецыфічных якасцей паэтычнага характару, і гэта абмяжоўвае іх ужыванне гутарковым стылем, а таксама мастацкім маўленнем, істотная рыса якога – вобразнасць. Групу размоўных прыказак папоўнілі і некаторыя генетычна крылатыя выразы: *Забілі зайца не забілі, а гуку многа нарабілі; Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала; Няма таго, што раньш было.*

П р а с т а м о ў н ы я прыказкі (іх каля 50) трэба разглядаць у складзе размоўнага стылёвага разраду як яго найбольш зніжаную частку, якая знаходзіцца як бы на перыферыі літаратурнай мовы, хоць гэта нікольні не зніжае актыўнасці іх ужывання. Яны рэалізуюцца ў вусным маўленні, а таксама ў мастацкай літаратуры, але звычайна ў мове персанажаў.

Характарызуючы прастамоўныя сродкі выказвання, часам сцвярджаюць, што ўсе яны маюць грубавата-зніжаны змест, ярка выяўленае адценне рэзкасці, грубасці, вульгарнасці і г.д. На самай справе гэтыя рысы ўласцівыя далёка не ўсім прыказкам. Да прыкладу, прыказка *Вышэй пупа не падскочыш* абазначае ‘больш за тое, на што здольны, што ў чыіх-небудзь магчымасцях, не зробіш’, а сэнс прыказкі *З паршывай авечкі хоць шэрсці клок* – ‘калі нельга атрымаць ад каго-небудзь многае, то рады ўзяць хоць штосьці нязначнае’. У значэннях гэтых прыказак няма нічога грубавата-зніжанага. Іншая справа, што сама форма выражэння гэтых значэнняў не зусім адпавядае нормам маўленчай культуры.

Прастамоўная афарбоўка прыказак часцей за ўсё ствараецца іх этымалагічным вобразам, які выклікае негатыўныя асацыяцыі. Вось некалькі прастамоўных прыказак «жывёльнага паходжання»: *Апошняму парасяці цыцка пад хвастом; Вялікага сабакі вялікі брэх; Давялося свінні на неба глянуць; Каму што, а свінні месіва; Карова целіцца, а ў быка зад баліць; Пусці свінню пад стол, то яна захоча і на стол; Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць; Лішняга і свінні не ядуць; Свіння лужыну*

*знойдзе.* Да гэтых прыказак можна далучыць і крапівоўскі крылаты выраз, які стаў прыказкай: *Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч.* У сінанімічным радзе *Заракалася свіння за вугол хадзіць* і *Заракалася кошка мышэй не лавіць* першая прыказка, з улікам значнасці яе ўнутранай формы, ацэньваецца як прастамоўная, а другая – як размоўная.

Дарэчы, амаль усе прастамоўныя прыказкі паводле іх семантыкі належаць да 1-й ці 2-й груп (з поўным або частковым пераасэнсаваннем): *Вайна не вайна, абы кішка поўна; Разумныя валасы пакінулі дурную галаву; Вочы па яблыку, а галава з арэх; Загадай дурню богу маліцца, дык ён і лоб разаб'е; Хоць плюй у вочы, а ён кажа, што дождж ідзе* і інш.

У лік прастамоўных трапляе і прыказка біблейскага паходжання: *Супраць ражна не папрэш.*

Кніжныя, размоўныя і прастамоўныя прыказкі, абазначаючы тую ці іншую з'яву, адначасова сігналізуюць аб пэўных тыпах маўлення. Яны не могуць ужывацца ў іншых, не характэрных для іх стылях, калі не лічыць выпадкаў мэтанакіраванага выкарыстання, напрыклад, кніжнай прыказкі ў гутарковым маўленні або размоўнай у публіцыстычным стылі. Разам з тым у мове, апрача стылістычна замацаваных, ёсць шэраг прыказак, не абмежаваных у сваім ужыванні толькі пэўнай сферай зносін. Гэта абумоўліваецца гістарычнай зменлівасцю мовы, грамадскай пераацэнкай той ці іншай прыказкі, пашырэннем або звужэннем межаў яе функцыянавання. Пераход адной з'явы ў другую адлюстроўвае бесперапынны і непазбежны працэс развіцця мовы. У гэтай сувязі ў кожны перыяд моўнага развіцця існуе шэраг пераходных, прамежкавых з'яў, якія ў галіне парэміялагічнай стылістыкі варта называць ф у н к ц ы я н а л ь н а  н е  з а м а ц а в а н ы м і прыказкамі.

Гэты стылёвы разрад актыўна папаўняецца за кошт кніжных і размоўных прыказак. Шматлікія былыя, несумненна, кніжныя прыказкі (*Падняўшы меч, ад мяча і згіне; Двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма; Добрымі намерамі выслана дарога ў пекла; Кожнаму сваё; Не хлебам адзіным жыве чалавек; Разумнаму дастаткова* і інш.) страцілі кніжны каларыт, выйшлі за межы кніжных тэкстаў, шырока ўжываюцца ў гутарковым маўленні, сталі функцыянальна не замацаванымі. Не менш актыўна пераходзяць у гэты разрад многія былыя размоўныя прыказкі: *Адна ластаўка вясны не робіць; Загляне сонца і ў наша аконца; З песні слова не выкінеш; Капейка рубель беражэ; Лес сякуць – трэскі ляцяць; Сем разоў адмерай, а адзін раз адрэж* і г.д.

Разрад функцыянальна не замацаваных прыказак параўнальна невялікі (6 % ад агульнай колькасці). Адны з іх стаяць як бы бліжэй да кніжных, але ўжо не кніжныя: *Гара нарадзіла мыш; Кропля камень крышыць; Грошы не пахнуць; Надзея памірае апошняй; Дум не скуеш ланцугамі; Назад не прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай уплывае* і інш. Яны ўжываюцца ў мастацкіх і публіцыстычных тэкстах, у некаторых адгалінаваннях навуковага стылю, а таксама ў гутарковым маўленні. Другія – бліжэй да размоўных, але перасягнулі межы гутарковага стылю, актыўна выкарыстоўваюцца ў мастацкай і публіцыстычнай літаратуры, іншы раз са стылеўказальнымі агаворкамі тыпу «як кажуць», «што называецца», «як прынята гаварыць»: *Вялікаму караблю – вялікае плаванне; Смеласць гарады бярэ; Што пасееш, тое і*

*пажнеш; Адзін у полі не воін; Многа шуму з нічога; Хто шукае, той знаходзіць* і г.д.

Функцыянальна не замацаваныя прыказкі не павінны ацэньвацца як міжстылёвыя і нейтральныя, бо не з'яўляюцца «стылістычнымі нулямі», не пазбаўлены экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкі і гэтым істотна адрозніваюцца ад разраду функцыянальна не замацаваных слоў: апошнія складаюць асноўнае ядро лексікі і з'яўляюцца нейтральнымі з экспрэсіўна-ацэначнага боку і міжстылёвымі з функцыянальнага пункту гледжання.

Паколькі размоўныя прыказкі колькасна пераважаюць амаль у 10 разоў усе разам узятыя іншыя парэмійныя стылістычныя разрады, то ў новых тлумачальных даведніках прыказак можна, агаварыўшы гэта ў прадмове да слоўніка, не суправаджаць стылістычнай паметай размоўныя прыказкі, а толькі ставіць адпаведныя паметы каля кніжных, прастамоўных і функцыянальна не замацаваных прыказак.

## § 21. Стылістычныя функцыі прыказак

Стылістычныя функцыі прыказак у маўленні, г.зн. іх своеасаблівая роля, мэтанакіраванасць, пэўнае прызначэнне, самыя разнастайныя і шматлікія. Адны з іх – «прыродныя», унутрана ўласцівыя самім прыказкам, другія – індывідуальна-аўтарскія, выконваюцца па волі аўтара. Першыя можна назваць (як і ў фразеалогіі) функцыямі узуальнага характару, другія – функцыямі аказіянальнага характару.

Функцыі **узуальнага характару** – гэта агульныя, пастаянныя функцыі, якія рэалізуюцца ва ўсіх выпадках ужывання і абумоўліваюцца ўласцівасцямі саміх прыказак. Гэта функцыі камунікатыўная, ці камунікацыйная (як цяпер нярэдка пішуць; гл., напрыклад [98, с. 14, 15, 29 і інш.]), «лаканізацыі» маўлення, вобразнага выказвання, ацэначная, эмацыянальная і экспрэсіўная функцыі.

Калі ўсе фразеалагізмы, акрамя мадальных і выклічнікавых, з'яўляючыся будаўнічым матэрыялам для сказаў, заўсёды выконваюць намінатыўную (намінацыйную) функцыю, то прыказкі, паколькі яны структурна арганізаваныя як сказы і валодаюць сэнсавай і інтанацыйнай завершанасцю, – выступаюць адзінкамі камунікацыі, служаць для перадачы закончанай інфармацыі ў межах маўленчага прыказкавага кантэксту і выконваюць, такім чынам, к а м у н і к а ц ы й н у ю функцыю. Так, у розных жыццёвых абставінах выкарыстана прыказка *У ціхім балоце чэрці водзяцца* – у творах Я.Коласа, К.Чорнага, К.Крапівы, І.Шамякіна, Л.Гаўрылкіна, В.Каваленкі, Л.Калодзежнага (гл. СБП, с. 392–393). Ва ўсіх маўленчых кантэкстах ёю перадаецца аднолькавы сэнсавы змест: ціхі, знешне пакорлівы чалавек здольны на нечаканыя, неспадзяваныя ўчынкі. Сустракаюцца толькі адзінкавыя прыказкі (з ліку сітуацыйных, гл. § 7), якія не выступаюць з камунікацыйнай функцыяй. Гэта прыказкі *У нагах праўды няма* і *За пастой грошы не плацяць.* Яны ўжываюцца як сітуацыйна абумоўленыя стэрэатыпныя выказванні пры запрашэнні сесці, але як дадатак да ўжо выказанага папярэднім дзеясловам *сядайце (сядай):* «То сядайце, добры чалавек, у нагах, як казалі некалі, праўды няма» (М.Лынькоў).

Ф у н к ц ы я «л а к а н і з а ц ы і» м а ў л е н н я. Прыказкі ў сваёй абсалютнай большасці выражаюць ёмісты змест у максімальна сціслай

форме. Яны лаканізуюць маўленне, перадаюць, кажучы словамі К.Крапівы, «найбольшую канцэнтрацыю думкі пры найменшай затраце слоўнага матэрыялу» [56, с. 250]. Возьмем такі ўрывак: «Найчасцей знаходзілі выхад у тым, што ішлі з горада ў вёску, каб прынесці мяшэчак бульбы. І гэта кіламетраў за трыццаць і болей, і на сваім гарбу. Голад – не цётка...» (М.Гарэцкі). Тут пры дапамозе кароткай, трохкампанентнай прыказкі *Голад не цётка* перададзена складаная думка пра апраўданне дзеянняў, звязаных з пошукамі ежы, пра тое, што голад вымушае скарыцца з абставінамі і рабіць што-небудзь супраць уласнай волі.

Прыказкі дазваляюць сцісла ў гатовай формуле, адшліфаванай стагоддзямі, выказаць дакладную характарыстыку, скажам, пэўнага псіхалагічнага стану ці складанай сітуацыі, апісанне якіх іншымі словамі было б значна большым, груваcткім. Немагчыма замяніць, напрыклад, прыказку *Дзе коратка, там і рвецца* ў пададзеным ніжэй урыўку якім-небудзь іншым такім жа лаканічным і раўназначным у сэнсавых адносінах эквівалентам, не гаворачы ўжо пра тое, што ў выніку любой замены выказванне будзе пазбаўлена вобразнасці, экспрэсіўнасці і іншых якасцей, уласцівых прыказцы: «А я, грэшным дзелам, палічыў, што мы і без парома абыдземся. Ажно... Дзе коратка, там і рвецца» (Б.Сачанка).

Пра здольнасць прыказак лаканізаваць маўленне можна ў пэўнай ступені гаварыць і на аснове супастаўлення прыказак і іх ідэнтыфікатараў – суджэнняў, пры дапамозе якіх перадаецца сэнсавы змест прыказак: *Клін клінам выбіваюць* – ‘непрыемныя вынікі якіх-небудзь дзеянняў ці стану ліквідуюцца тымі ж сродкамі, якімі выкліканы гэтыя дзеянні або стан’; *У страху вочы вялікія* – ‘спалохаўшыся, чалавек перабольшвае небяспеку ці бачыць яе там, дзе яе няма’.

Ф у н к ц ы я  в о б р а з н а г а  в ы к а з в а н н я. Як ужо адзначалася (§ 2), ёсць прыказкі вобразныя і бязвобразныя. Названую функцыю выконваюць прыказкі 1-й і 2-й семантычных груп. Ужываючыся ў маўленні, яны ствараюць канкрэтныя, наглядна-пачуццёвыя ўяўленні пра пэўныя з’явы рэчаіснасці: *Адальюцца воўку авечыя слёзы; Пужаная варона куста баіцца; Пустазелле з поля вон* і г.д. Бязвобразныя прыказкі (3-я семантычная група) не могуць наглядна-вобразна адлюстроўваць рэчаіснасць: *Зяць любіць узяць; Старасць не радасць; Раней устанеш – болей зробіш.* Але ім уласцівы іншыя стылістычныя функцыі, што і робіць іх не менш актыўным моўным сродкам.

А ц э н а ч н а я  ф у н к ц ы я. Шмат якія прыказкі не толькі выражаюць пэўнае суджэнне пра тыя ці іншыя з’явы, асобу, прадмет, але і даюць ім станоўчую або адмоўную ацэнку. Часцей гэта прыказкі суб’ектнай накіраванасці, імі кваліфікуюць чалавека, яго паводзіны, адносіны да іншых людзей і г.д. Напрыклад, станоўчую ацэнку адабрэння маюць прыказкі *Хто рана ўстае, таму і бог дае; Вялікаму караблю – вялікае плаванне; Вялікаму каню – вялікі хамут.*

Ёсць шэраг прыказак, ацэначнае значэнне якіх адмоўнае, неадабральнае, асуджальнае. Імі часта даецца ацэнка асобе, не названай у самой прыказцы: *І сам не гам і другому не дам; І за шчэпку знойдзе прычэпку; Вырас пад неба, а дурань як трэба; Пайшоў па воўну, а вярнуўся стрыжаны; Маладзец супраць авец, а супраць малайца – сам аўца.* Некаторыя прыказкі ацэначнага характару, у адрозненне ад

папярэдніх, «бяздзейнікавых», структурна арганізаваны інакш, але таксама адрасуюцца асобе, напрыклад: *Малы жук, ды вялікі гук; Наназе бот скрыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць; Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну.*

Э м а ц ы я н а л ь н а я ф у н к ц ы я. Многія прыказкі адначасова выконваюць камунікацыйную і эмацыянальную функцыі, перадаюць эмацыянальны стан чалавека, выражаюць разнастайныя пачуцці: захапленне, здзіўленне, насмешку, іранічнасць, жартаўлівасць, пагардлівасць і інш. Эмацыянальнасць у такіх выпадках уваходзіць у сэнсавую структуру прыказкі, з'яўляецца яе пастаяннай якасцю. Так, прыказка *Чыя б каро́ўка мычала, а твая б маўчала,* абазначаючы 'не табе пра гэта гаварыць', ужываецца з незадавальненнем ці з асуджэннем таго, хто абвінавачвае каго-небудзь, хоць сам чымсьці абняславіў, запляміў сябе.

Розныя эмацыянальна-валявыя рэакцыі суб'екта выражаюцца, напрыклад, такімі прыказкамі: *Загляне сонца і ў наша аконца* – упэўненасць, надзея; *Беднаму Івану няма нідзе талану* – шкадаванне ці спачуванне; *Аддай рукамі, а хадзі нагамі* – абурэнне; *Рада б цяпер наша мама выйсці за пана, ды пан не бярэ* – іронія; *Хараша ў наймé, ды не дай божа мне* – неадабрэнне ці іронія; *Якая справа, такая і слава* – асуджэнне.

Э к с п р э с і ў н а я ф у н к ц ы я. Хоць тэрмін «экспрэсіўнасць» пакуль што не напоўнены акрэсленым і дакладным зместам, але найчасцей яе атаясамліваюць з выразнасцю. Таму ўсе прыказкі, якім уласцівы вобразнасць або эмацыянальнасць ці ацэначнасць, адначасова з'яўляюцца і яркім сродкам моўнай выразнасці (экспрэсіўнасці).

Як паказана ў § 19, амаль усе прыказкі – мастацкія мініяцюры, у якіх ёсць хоць адна якая-небудзь прымета паэтычнага характару (рыфма, рытм, гукапіс, разгорнутая метафара, каламбур, сінтаксічны паралелізм і інш.). Таму можна сцвярджаць, што ўсе ці амаль усе прыказкі выконваюць у маўленні экспрэсіўную функцыю. Іх стылістычнае прызначэнне не абмяжоўваецца толькі гэтай функцыяй.

Адначасовае выкананне шматлікіх функцый – вось у чым сутнасць і стылістычная значнасць прыказак. Таму калі гаворым пра іх розныя стылістычныя функцыі, то трэба мець на ўвазе, што гэта функцыянальнае размежаванне некалькі ўмоўнае. Справа ў тым, што прыказка, абазначаючы тую ці іншую з'яву, адначасова выражае пэўную ацэнку яе і адносіны суб'екта да выказвання, лаканізуе маўленне, робіць яго экспрэсіўным.

Поліфункцыянальнасць прыказкі выразна выяўляецца, калі параўнаць дзве формы выказвання аднолькавага зместу. Возьмем такі сказ з «Сяброўскіх згадак» У.Калесніка: «Упэўнена трымаў сябе заходнебеларускі селянін, памяць аб ваенных жахах рабіла яго смелым перад трывожным эксперыментам калектывізацыі: «Эх, *воўк не з'еў, дык бугай не забадае*». Замена выдзеленай прыказкі, якая тут выступае з функцыямі камунікацыйнай, вобразнай, эмацыянальнай, экспрэсіўнай і «лаканізацыі» маўлення, семантычна блізкім сказам-ідэнтыфікатарам «Перажылі больш страшнае, дык перажывём і гэта, менш небяспечнае» збедніла б усё выказванне ў розных адносінах.

Звернемся цяпер да функцый **аказіянальнага характару**. Гэта ў адрозненне ад разгледжаных прыватныя стылістычныя функцыі,

здольныя рэалізавацца толькі ў спецыяльна арганізаваным кантэксце. З другога боку, яны як бы працяг «прыродных» функцый, бо рэалізуюць у маўленні стылістычныя патэнцыі прыказак.

У гэтай групе пераважаюць функцыі *кампазіцыйна-канструкцыйнай накіраванасці.* Маюцца на ўвазе шматлікія выпадкі, калі прыказкі так ці інакш удзельнічаюць у пабудове мастацкага твора, з'яўляюцца яго істотнай састаўной часткай, выступаюць або асновай, на якой разгортваецца фабульная сітуацыя твора, або ў якасці загалоўка, эпіграфа, зачыну і г.д.

Ф у н к ц ы я с ю ж э т н а й а с н о в ы т в о р а. У гэтай функцыі могуць выкарыстоўвацца толькі такія прыказкі алегарычнага характару, якім уласціва патэнцыяльная сюжэтнасць. Асабліва часта прыказкі становяцца асновай для развіцця баечных сюжэтаў.

Нельга думаць, што аўтар, ужываючы прыказку ў якасці сюжэтнага ядра байкі, дакладна ўзнаўляе тую канкрэтную сітуацыю, якая спарадзіла гэту прыказку. Байкапісец выкарыстоўвае толькі яе сюжэтнасць, фабульную ж сітуацыю ён разгортвае ў адпаведнасці са сваімі ідэйна-мастацкімі мэтамі. Часткова гэта ўжо было паказана (§ 19, п. 2) на прыкладзе байкі К.Крапівы «Дзед і Баба». Яшчэ некаторыя прыклады з ягоных баек.

Байка «Чорт» высмейвае тых, хто адмяжоўваецца ад жыцця, замыкаецца ў сваіх вузкіх інтарэсах, людзей «у футарале, што ў промнях сонца яснага баяцца ценю ўласнага». Прыведзеная тут баечная мараль выцякае з сюжэта, пабудаванага на вобразнай аснове прыказкі *Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць.* У байцы расказваецца, як ледзь не памёр ад страху пяцігадовы Янук-сынок, якога вечарам бацькі ўклалі спаць, «а самі выйшлі з хаты». Ён у змроку ўбачыў «нешта чорнае ў кутку на лаве ля красён»: «касматае з зялёнымі вачыма, дым чорны ў страху верне з ляпы і з кіпцюрамі лапы». Малому здалося, што гэта чорт. Перапалоханага небараку ледзь выратаваў Бацька: «– Дзе чорт? Вось гэта? Ха-ха-ха! Ну й дурань жа ты, Янка! Свайго спужаўся кажуха». А Янку трэсла ліхаманка».

У К.Крапівы ёсць і іншыя байкі, сюжэтнай асновай якіх сталі прыказкі. У некаторых выпадках аўтар называе прыказку, якая мае непасрэдную сувязь з фабулай і вобразнай сістэмай пэўнай байкі. Такія прыказкі становяцца ў загаловак байкі («Давялося свінні на неба глядзець»), або падаюцца як эпіграф (напрыклад, эпіграф да байкі «Кувада» – прыказка *Карова целіцца, а ў быка зад баліць),* або з'яўляюцца пачаткам байкі (прыказкай *Ліслівае цяля дзве маткі ссе* пачынаецца байка «Ліслівае цяля»).

Агульнае, што аб'ядноўвае прыказку і байку, – алегарычнасць. І калі пісьменнік разгортвае тую ці іншую прыказку ў байку і, ствараючы пэўны бытавы малюнак, рэалізуе яе прамы сэнс, то гэтым, аднак, з прыказкі не здымаецца і яе іншасказальны характар, што абумоўліваецца жанравай асаблівасцю байкі – алегорыяй. Пра пераноснае значэнне выкарыстанай прыказкі пісьменнік нагадвае ў маралі.

Так, паэтычным зернем байкі К.Крапівы «Мурашка і Жук» стала другая частка прыказкі *За пчолкаю ў мёд, за жуком – у гной.* Мурашка, сустрэўшыся з Жуком – «бліскучым ягамосцем», згадзілася «хоць вокам глянуць на той рай – на Жукавы палацы»: «Жук важна крочыць перадом,

За ім Мурашка сціпла. Жук ганарліва: – Вось мой дом! І тут… Мурашка ўліпла». Пераносны сэнс разгорнутай прыказкі відавочны нават і без маралі: «Такі не мелюць языком, А праўду кажуць людзі: Як папаўзеш ты за Жуком, Дык апынешся ў брудзе».

Ёсць аналагічная сувязь паміж байкай К.Крапівы «Стары і Малады» і прыказкай *Стары конь баразны не псуе*, паміж байкай «Мядзведзь» і прыказкай *Мядзведзь скача, а цыган грошы бярэ.*

Некаторыя байкі Э.Валасевіча таксама будуюцца на прыказкавай аснове. Сама прыказка ў баечным тэксце не прыводзіцца, але загаловак байкі і яе змест адразу выклікаюць у свядомасці чытача прыказку, якая стала крыніцай пэўнай ідэі і мастацкіх вобразаў. Байка «Арэх і Жаба» з'яўляецца разгорнутым сюжэтным каментарыем прыказкі *Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.* Выразная сувязь адчуваецца паміж байкай «Шчупак і Плотка» і прыказкай *На тое шчупак у моры, каб карась не драмаў.* Ёсць у Э.Валасевіча і байка-мініяцюра «Крапіва і Мароз», якая складаецца ўсяго з двух радкоў; у першым – яе «сюжэт», у другім, аддзеленым ад першага гарызантальнай рыскай, – мараль: «– І Крапіву сячэ Мароз! – То крытык крытыка разнёс». У аснову гэтага сюжэта-рэплікі пакладзена прыказка *Будзе і на крапіву мароз.*

Некалькі іншую функцыю, чым у байках, выконвае прыказка ў лірычных творах (яны, як вядома, бессюжэтныя). Яна можа быць штуршком для роздуму, для перадачы асобных думак, пачуццяў і перажыванняў. У А.Вярцінскага ёсць вершаваны цыкл «Лясныя прымаўкі». Назвы вершаў гэтага цыкла – прыказкі: «Ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць», «Колькі ваўка ні кармі – усё адно ў лес глядзіць», «Лес сякуць – трэскі ляцяць», «Далей у лес – болей дроў». Вось пачатак аднаго з гэтых вершаў-роздумаў: «Ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць. У лес не хадзіць – не мець лясіны. Лясіны не мець – не мець хаціны. Хаціны не мець – дзяцей не радзіць. Баяцца ваўкоў – не мець дачок і сыноў».

З дапамогай прыказак можна стварыць самастойныя «міні-творы», што складаюцца з прыказкі і адрасата – паказальніка, да якіх людзей ці падзей адносіцца гэта прыказка. З цэлай падборкай такіх мініяцюрных твораў К.Крапівы, пашпартызаваных прыказак, сустракаемся ў газеце «Раздавім фашысцкую гадзіну!» (№ 137). Сатырык знайшоў вельмі ўдалую форму асмяяння фашызму, яго кіраўнікоў і сцвярджэння ідэі пра нашу непазбежную перамогу над ворагам, абраўшы для гэтага крылатую мудрасць народа – прыказкі. Вось некаторыя з гэтых маленькіх твораў, што нагадваюць адзін з сучасных папулярных жанраў перыёдыкі – «кароткія байкі» або нарыхтоўкі да баек, дзе прыказка выступае як мараль, а радкі накшталт «Пра Гітлера і Усходні фронт» вычарпальна замяняюць апавядальную частку пра добра вядомыя чытачам ваеннага часу факты:

1. Паспытала свіння палена, памятае, дзе паела.
   Пра Гітлера і Усходні фронт.
2. Чорт чорту спавядаўся, адзін мігнуў, другі дагадаўся.
   Пра Гітлера і Франко.
3. Быць бычку на вяровачцы.
   Пра Гітлера і віселыню.
4. Маўчы, бо будуць таўчы.
   Пра гітлераўскі рэжым у Германіі.
5. Няпраўдай свет пройдзеш, ды назад не вернешся.
   Пра фашысцкіх разбойнікаў.

6. Вочы па яблыку, а галава з гарэх.
   Пра прагнасць і дурасць нямецкіх захопнікаў.
7. Няма чым ваўку спаражняцца, дык ён лыкам.
   Пра звыштатальную мабілізацыю.

Такія пашпартызаваныя, напоўненыя новым, канкрэтным зместам прыказкі становяцца ўзорам твораў з найбольшай канцэнтрацыяй думкі пры найменшай затраце слоўнага матэрыялу.

З а г а л о в а ч н а я  ф у н к ц ы я. З выказванняў многіх пісьменнікаў (напрыклад, Л.Талстога) вядома, што даць твору найбольш адпаведную назву – даволі цяжкая задача. К.Федзін пісаў: «Перабярэш дзесяткі назваў, пакуль спынішся на адной. Прыйдуць у галаву цудоўныя варыянты, але выяўляеш, што яны былі ўжо ў іншых пісьменнікаў» (цыт. па [101]).

Вельмі часта аўтары выносяць у загаловак свайго твора прыказку. Хоць ужо гаварылася, што прыказка самастойна, ізалявана не бытуе і ўжываецца толькі ў акружэнні іншых камунікацыйных адзінак, але і прыказка-загаловак не з’яўляецца выключэннем з гэтага правіла. Яна, як і іншыя, няпрыказкавыя загалоўкі, цесна звязана з усім творам ці яго асобным раздзелам, якія найчасцей выступаюць у якасці шырокага кантэксту прыказкі. Ужытая як загаловак, яна не перастае выконваць свае іншыя стылістычныя функцыі, пра якія гаварылася вышэй, і ў першую чаргу – экспрэсіўную і камунікацыйную. Нярэдка пры дапамозе прыказкі-загалоўка даецца апераджальная ацэнка пэўным падзеям, з’явам, апісаным у творы. Называючы твор, прыказка нясе некаторую інфармацыю аб змесце твора, яго тэме ці ідэі. Так, яшчэ не чытаўшы апавядання Я.Коласа, якое мае назву «Старасць не радасць», ці верша Я.Купалы «Дзе ні кінь – дык клін», мы ўжо атрымліваем агульнае ўяўленне пра змест гэтых твораў.

Варта адзначыць і яшчэ адзін бок прыказак-загалоўкаў – іх рэкламную накіраванасць. Яны прыцягваюць увагу чытача, інтрыгуюць сваёй «прывабнай сюжэтнасцю» (Г.Вінакур).

Прыказкамі названы, напрыклад, такія творы Ф.Багушэвіча: «Дзе чорт не можа, там бабу пашле», сатырычныя вершы П.Панчанкі «Гарбатага магіла выправіць» і «Маладзец супроць авец, супроць малайца – сам аўца», камедыя У.Краўчанкі «Шыла ў мяшку не схаваеш», камедыя М.Чавускага «Дзе тонка, там і рвецца», змешчаны ў часопісе «Вожык» (1985. № 7) крытычны артыкул І.Самахвалава «Няма дыму без агню» – аб скаргах насельніцтва на нарыхтоўшчыкаў.

У загаловачнай функцыі прыказкі выкарыстоўваюцца і ў дачыненні да асобных раздзелаў твора. Так, у рамане Р.Мурашкі «Сын» некаторыя раздзелы маюць такія назвы: «Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць», «Сава не прывядзе сакала, а такога чорта, як і сама» і інш.; прыкладна тое самае сустракаецца і ў рамане гэтага ж пісьменніка «Салаўі святога Палікара»: «Бі сароку, бі варону, даб’ешся да белага лебедзя», «Калода гнілая, але сук – смаляк». Яшчэ адзін раздзел гэтага рамана носіць назву «Горка рэдзька – ды ядуць, блага замужам – ды ідуць»; у ім расказваецца пра нялёгкае жыццё Яніны з нялюбым мужам і злой свякрухай, пра тое, як Яніна часам праклінае свайго бацьку, які «ўпёр яе ў гэтую сям’ю». Прыказкі ставяцца ў загалоўкі раздзелаў дакументальных аповесцяў І.Новікава «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску» і «Тварам да небяспекі»: «Будзе і на крапіву мароз», «Колькі б вяровачцы ні

віцца...» (у раздзеле гаворыцца, як партызанам у рэшце рэшт удалося выкрыць здрадніцу-шпіёнку).

Прыказкі-загалоўкі могуць выкарыстоўвацца як у поўнай, так і ў скарочанай форме. Звычайна апускаецца другая частка прыказкі. Абрыў, незавершанасць прыказкі абазначаецца шматкроп'ем. Некалькі прыкладаў: камедыя Н.Гілевіча «Не кажы «гоп»...», аповесць А.Рыбака «Што пасееш...», байка Э.Валасевіча «Закон як дышла...», апавяданне М.Кусянкова «Пра воўка памоўка...», раздзел з аповесці «Канец сервітуту» А.Якімовіча мае назву «Адна бяда не ідзе...», яшчэ адзін з раздзелаў аповесці «Цяжкі год» гэтага ж аўтара называецца «Не такі чорт страшны...». Эліптычныя варыянты прыказак-загалоўкаў часта сустракаюцца ў газетных і часопісных карэспандэнцыях: «Слова – не верабей...» (ЛіМ. 1984. 21 снеж.); «Яблык ад яблыні...» (Звязда. 1979. 30 кастр.); «Пакуль гром не грымне...» (Вожык. 1977. № 17) і г.д.

Значна радзей прыказка-загаловак выкарыстоўваецца са скарачэннем першай часткі. Напрыклад, загаловак камедыі К.Крапівы «Хто смяецца апошнім» – аўтарскае скарачэнне прыказкі *Добра смяецца той, хто смяецца апошнім.* Другая частка прыказкі *Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй* стала назвай байкі Э.Валасевіча, а таксама яго зборніка баек.

Зрэдку прыказка-загаловак ужываецца з апушчэннем, недагаворваннем апошняга кампанента: «Клін клінам» – так назваў сваё апавяданне У.Дамашэвіч. Дарэчы, і ў тэксце апавядання ў мове двух суразмоўнікаў таксама прыказка выкарыстана з такім жа скарачэннем: «Клін клінам», – зразумеў Асовік і кіўнуў галавою. – Клін клінам, – як рэха паўтарыў яго думку доктар».

Вынесеная ў загаловак прыказка ў многіх выпадках паўтараецца і ў тэксце твора. Так, адзін з раздзелаў у рамане Р.Мурашкі «Сын» называецца прыказкай «Што ў каго баліць, той аб тым і гаманіць», яна ж ужыта ў тым жа раздзеле – у мове персанажа. Тое самае можна сказаць і адносна прыказкі *Да цябе не п'юць – не кажы здароў будзь*, якая выкарыстана як загаловак раздзела ў аповесці І.Дуброўскага «Зямныя вузлы» і паўторана ў тэксце.

У некаторых выпадках, асабліва ў сатырычных творах, прыказка, пастаўленая ў загаловак, неаднаразова абыгрываецца ў тэксце. Адзін з памфлетаў М.Лынькова, напісаных у часы Вялікай Айчыннай вайны, мае назву «На злодзеі шапка гарыць». Памфлет высмейвае нямецкіх фашыстаў і іх спадручных, якія на акупаванай тэрыторыі пачалі выдаваць на беларускай мове некалькі газет. «Чатырнаццатага ліпеня адна з гэтых газет выйшла, прыхаваўшыся пад чужой *шапкай*: замест сваёй назвы надрукавала назву нашай беларускай савецкай газеты. Чаму ж моські палезлі пад чужую *шапку*? Чаму ўкралі яны чужы загаловак? Як вядома, *на злодзеі шапка гарыць* – ніякім загалоўкам тут не замаскуешся». І яшчэ адзін урывак: «Вось ужо сапраўды, як кажа народ: «Не купіў бацька *шапкі* – няхай вушы мерзнуць».

Іншы раз прыказка-загаловак адначасова выступае і ў функцыі сюжэтнай асновы твора. Такую падвойную ролю выконвае прыказка *Еш, дурань, бо то з макам* у аднайменнай байцы К.Крапівы. Адштурхоўваючыся ад пастаўленай у загаловак прыказкі з яе абагульненым зместам, пісьменнік вяртаецца да канкрэтнага жыццёвага выпадку, які мог спарадзіць гэту прыказку. У байцы расказваецца пра

цётухну Магрэту, якая няўдалую страву папраўляла макам ці каноплямі і павучальна прыгаворвала, калі елі не са смакам: «Еш, дурань, бо то з макам!» Дарэчы, у баечнай маралі прыказка зноў набывае абагульнены сэнс: «Забыцца мне пра цётухну пара, Бо ўжо даўно яе аплакаў, але ў жыцці я чуў яшчэ не раз: «Еш, дурань, бо то з макам!».

Своеасаблівую загаловачную функцыю можна бачыць і ў назве першай беларускай легальнай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца» (1906–1914): «Эпімах-Шыпіла быў фактычным арганізатарам і кіраўніком выдавецкага таварыства «Загляне сонца і ў наша ваконца» (М.Зяньковіч).

П р ы к а з к а ў р о л і э п і г р а ф а. Пісьменнікі ў якасці эпіграфа выкарыстоўваюць не толькі цытаты з празаічных ці вершаваных твораў іншых аўтараў, але і прыказкі. Эпіграфы-прыказкі садзейнічаюць правільнаму ўспрыманню твора або яго раздзела, паясняюць галоўную думку твора, выражаюць аўтарскую ацэнку, актывізуюць увагу чытача. Прыказка, ужытая як эпіграф, суправаджаецца паказчыкам на яго крыніцу (тыпу: «народная прыказка», «з народнага», «прымаўка»).

Даволі часта прыказкі выкарыстоўваліся ў ролі эпіграфаў у мастацкай літаратуры XIX – пачатку XX стст. Ёсць яны ў творах В.Дуніна-Марцінкевіча (у паэме «Гапон»: *Над сіратою бог з калітою*), Ф.Багушэвіча (у вершы «Бог не роўна дзеліць»: *Бог сіроты любе, але долі не дае*), у ананімнай гутарцы «Дзядзька Антон» *(Загляне сонца і ў наша аконца)*, у вершах Я.Купалы «Сват» і «Страх» *(Не зведаўшы броду, не сунься ў воду; Да пары збан ваду носіць).* Асабліва многа прыказак-эпіграфаў у творах М.Гарэцкага. Так, у драматызаванай аповесці «Антон», якая складаецца з 15 частак, толькі дзве часткі не маюць эпіграфаў; амаль ва ўсіх выпадках гэта эпіграфы-прыказкі: *Затым сляпы плачыць, што сцежкі не бачыць; Дурны паспех – людзям на смех; Гарэлка не дзеўка, не саромеючыся п'ецца* і інш. Прыказкі выступаюць у ролі эпіграфа і ў другіх творах М.Гарэцкага («Віленскія камунары», «У чым яго крыўда»).

У мастацкіх творах пазнейшага часу эпіграф-прыказка – параўнальна рэдкая з'ява. Можна, напрыклад, адзначыць эпіграф да верша «Падпальшчыкам вайны» А.Александровіча: *Хто сее вецер – той пажне буру;* да аднаго з раздзелаў паэмы «Дзесяты падмурак» П.Труса: *А было ж яно, было, ды сплыло з вадою*; да нарыса «Лёс Андрэя Дзенісенкі» В.Праскурава: *Жыццё пражыць – не поле перайсці.*

З твораў апошніх дзесяцігоддзяў можна назваць кнігу Б.Сачанкі «Вечны кругазварот», у ёй як своеасаблівы ідэйна-сэнсавы ці эмацыянальна-эстэтычны ключ да пэўнага раздзела выступае эпіграф-прыказка. Амаль усе раздзелы маюць свае эпіграфы, вось толькі некаторыя з іх: *Ад старасці ды ад смерці няма лекаў на свеце; Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка; Кожнаму сваё дзіця міла; Людзі і мядзведзя вучаць; Што ні край – то і свой абычай.* Прыкладна такую ж функцыю выконваюць эпіграфы-прыказкі ў кнізе Ф.Янкоўскага «І за гарою пакланюся». Гэта зборнік абразкоў, невялікіх апавяданняў. Тэматычна яны аб'яднаны ў сем раздзелаў. Кожнаму з іх папярэднічае эпіграф. Найчасцей гэта эпіграф-прыказка, напрыклад: *Добра, як сусед блізкі і пералаз нізкі; Без людзей ні нараджацца, ні будавацца, ні паміраць.*

Як ужо ўпаміналася, у некаторых байках К.Крапівы прыказкі падаюцца як эпіграфы і адначасова выконваюць функцыю сюжэтнай асновы баек. Часам К.Крапіва разгортвае сюжэт байкі як бы насуперак літаральнаму зместу прыказкі. Так, байка «Саманадзейны Конь» мае эпіграф *Вялікаму каню – вялікі хамут.* Сюжэтнай асновай байкі становіцца не столькі гэта прыказка, колькі яе магчымы лагічны працяг – «малому каню – малы хамут». У байцы асмейваюцца «крыкуны», «да славы прагныя, ды вузкія ў плячах», падобныя да «мізэрнага Каня», якім авалодала манія вялічча. Гэты Конь рашыў, што калі яго запрагуць у вялікі хамут, то будзе і ён, як ламавік, вазіць вялікія грузы. У байцы далей камічна апісваецца, што атрымалася пасля таго, як гаспадар задаволіў просьбу Каня.

П р ы к а з к а ў р о л і п а ч а т к у т в о р а. А.Твардоўскі ў паэме «За даллю – даль» пісаў:

Лиха беда – пути начало,
Запев дается тяжело,
А там глядишь: пошло, пожалуй?
Строка к строке – ну да, пошло.

Амаль заўсёды сутыкаючыся з праблемай «першага радка», пісьменнікі нярэдка звяртаюцца да народных афарызмаў, робячы прыказку зыходным пунктам твора ці яго раздзела. Напрыклад, як ужо ўпаміналася ў § 15, апавяданне Я.Коласа «Слабода» пачынаецца дзвюма прыказкамі: *На сваім сметніку, кажуць, і певень гаспадар. А ў сваім стане і прыстаў цар.*

Прыказка выражае абагульненую думку, у якой тыпізуюцца розныя з’явы жыцця. Паміж гэтай абагульненай думкай і пэўнай канкрэтнай з’явай пісьменнік знаходзіць асацыятыўна-сэнсавыя сувязі, таму вобразнае адлюстраванне гэтай з’явы пачынае прыказкай. Такія сувязі выразна прасочваюцца ў пачатку раздзела з кнігі Б.Сачанкі «Вечны кругазварот». «Кажуць, *кожны кулік сваё балота хваліць.* Хвалю, слаўлю, у меру сіл і здольнасцей, і тыя мясціны, дзе нарадзіўся і рос, бо ведаю, добра ведаю – няма лепшага раю ад роднага краю». Параўн. такі пачатак з твора А.Якімовіча «П’яны воўк»: «Кажуць жа, *да пары збан ваду носіць.* Гэтак здарылася і з цёткай Параскай». Або пачатак апавядання К.Крапівы «Сабачанё»: «Праўду людзі кажуць: *воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць.* Ёсць у майго суседа сабачанё – ну, каб яно нечага здохла! Так жа ўсім у косці ўелася!»

Асобныя кампаненты ці часткі прыказкі, выкарыстанай у ролі «запеву», могуць паўтарацца ў далейшым, не страчваючы свайго пераноснага, фігуральнага сэнсу. Два прыклады: «Нездарма людзі кажуць: «*Калі б ведаў, дзе спатыкнешся, дык саломку падсцяліў бы*». Там, дзе Жан асцерагаўся, што можа наскочыць на гестапаўцаў, ён добра «*падсцілаў саломку*». А на гэты раз ён зусім не разлічваў на небяспеку» (І.Новікаў); «*З’еш адзін вала – Адна хвала*», – Гэта сказана не мною. Прымаўка стагоддзі пражыла, Абрасла сівою барадою. А таму – не *з’ем адзін вала.* Не зайздроснік я і не хапуга. Падзяліць гатовы напалам Нават скібачку малую з другам» (А.Бялевіч).

Часам пачатак твора можа будавацца па прынцыпе адштурхоўвання ад прыказкі, адмаўлення выражанай у ёй абагульненай думкі. Прыказка *Не святыя (не багі) гаршкі лепяць* мае алегарычны сэнс

‘пры жаданні кожны можа выканаць якую-небудзь цяжкую справу’. У вершы ж Д.Бічэль-Загнетавай «Гаршкалепы» прыказка ўжыта з прамым значэннем яе кампанентаў. Сама форма прыказкі (прыватнаадмоўны сказ з часціцай *не* перад дзейнікам) дае магчымасць супаставіць дзве розныя з’явы, выкарыстаць у далейшым тэксце прыём адмоўнага паралелізму. Вось пачатак гэтага верша – гімна ганчарам: «Не багі гаршкі ляпілі – багі перунамі лупілі. Гаршкі ляпілі замораныя гаршкалепы з няблізкага Морына».

Нязгода са зместам прыказкі выказваецца і ў пачатку верша А.Бялевіча «Залаты запас» (параўн. прыказку *Прыбяры пень, дык і пень будзе прыгожы* ў яе традыцыйнай форме і версіфікацыйную варыяцыю ў творы А.Бялевіча): «Прымаўка з даўніны ходзіць светам: Будзе пень прыгожым – прыбяры... Адмаўляю прымаўку я гэту: Прыбяры яго ў самацветы – Як і быў, глухім застаўся пень».

П р ы к а з к а ў р о л і р э ф р э н а. Гэту функцыю прыказка выконвае ў вершаваным маўленні, выступаючы як сродак узмацнення выразнасці. Звычайна такая прыказка (у поўнай ці скарочанай форме) ставіцца ў загаловак вершаванага твора. Яна перадае асноўную думку твора, пранізвае яго, неаднаразова паўтараючыся ў тэксце праз пэўныя прамежкі. Прыказка-рэфрэн можа быць як у канцы, так і ў пачатку страфы.

Верш М.Танка «Сем раз адмерай...» складаецца з пяці строфаў і ў кожнай з іх як істотны канструкцыйны элемент паўтараецца гэты эліптычны варыянт прыказкі. У дзвюх першых страфах паэт паказвае, як людзі, улічваючы векавы вопыт, будавалі хату ці ставілі печ, папярэдне ўсё абдумаўшы і прадугледзеўшы. І далей: «Сем раз адмер...». Забылі гэту мудрасць. І, асушваючы балотныя абшары, О, колькі пахавалі І крыніц, і рэк Пад чорным саванам Тарфянікаў перагарэлых». У дзвюх наступных страфах гаворыцца пра іншыя прыклады безгаспадарчасці і бесклапотнасці. Зноў паўтараецца ў канцы верша тая ж прыказка-рэфрэн, толькі ўжо ў трансфармаваным выглядзе: «Даравацъ не можам, Што нехта там забыўся Сем раз адмерацъ і праверыць Кожную дэталь, Каб наш зямны каўчэг Не пад жалобным ветразем у будучыню плыў».

У функцыі рэфрэна выкарыстана прыказка і ў вершы Р.Барадуліна «Чужая душа – пацёмкі». Вось адна з строфаў: «Чужая душа – пацёмкі, І як ты таго ні хаці, У змроку, дзе цень стане ломкі, Блукаць давядзецца ў жыцці».

П р ы к а з к а ў р о л і к а н ц о ў к і т в о р а. Ва «Уводзінах» ужо цытавалася, што «прыказкі не спрачаюцца, не даказваюць – яны проста сцвярджаюць ці адмаўляюць што-небудзь з упэўненасцю, што ўсё імі сказанае – цвёрдая ісціна» [3, с. 3]. Можна прывесці нямала прыкладаў, калі прыказкі, паколькі ў іх закладзена бясспрэчная думка-вывад, выкарыстоўваюцца ў ролі канцоўкі, як своеасаблівы заключны акорд. Асабліва часта гэта назіраецца ў байках, мараллю якіх становіцца прыказка. Так, байка К.Крапівы «Дэкрэт» у першых яе выданнях заканчвалася радкамі: «Я прыказкай хачу тут байку завяршыць: *Хто ўкраў свінню, таму ў вушах пішчыць*». Прыказкі ў якасці маралі выкарыстаны ў байках Э.Валасевіча (часам з нязначнымі змяненнямі, выкліканымі версіфікацыяй): *Ды што напісана пяром, Не высечаш і*

*тапаром!* (байка «Пацук і друк»); *А пугаю абух не пераб'еш* (байка «Рэдактар, крытык і байкар»); *Вялікія ў страху вочы* (байка «Вадзянік»).

У некаторых выпадках адна і тая ж прыказка ставіцца ў загаловак твора і з'яўляецца яго канцоўкай. Сатырычны твор М.Лынькова «Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў...» заканчваецца так: «А наконт Беларусі і ўсялякіх замыслаў фашысцкіх граміл і проста так аб заняволенні імі нашых сялян і рабочых – скажам простай і мудрай прыказкай: «Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў». Памфлет К.Крапівы «Перад смерцю не надышашся» мае такую канцоўку: «Ніякім прачэсваннем тыла Гітлер не заткне дзірак на фронце. «Перад смерцю не надышашся», – кажа беларуская прыказка». Параўн. таксама канцоўку камедыі А.Махнача «Да пары збан ваду насіць»: «[Міхась:] Сапраўды! Да пары збан ваду насіць!».

Адзін з раздзелаў аповесці А.Якімовіча «Канец сервітуту» завяршаецца прыказкай: «А пасвіць жывёлу і ў пушчы, і на Абадку нам па старых законах было забаронена. Забараняе нам гэта рабіць не закон, а пан. Вось тут і разбярыся ў такіх законах. Недарэмна ж кажуць: закон што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла...»

Безумоўна, як у гэтым, так і ва ўсіх іншых прыведзеных прыкладах стылістычная роля прыказкі не абмяжоўваецца толькі яе падагульняльнай функцыяй заключнага акорда. Напрыклад, прыказка *Закон што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла* адначасова выконвае і многія іншыя функцыі, уласцівыя ёй самой. Апрача таго паведамлення, якое яна нясе з сабой ('закон заўсёды можа быць выкарыстаны самавольна'), прыказка адмоўна ацэньвае несправядлівасць, што чыніцца пад прыкрыццём закона, вобразна адлюстроўвае рэчаіснасць, з'яўляецца яркім экспрэсіўным сродкам маўлення.

Разгледжаныя вышэй стылістычныя функцыі сюжэтнай асновы, загалоўка, эпіграфа, рэфрэна і г.д. звязаны паміж сабой адзінствам свайго мэтавага прызначэння, тым, што ўсе яны служаць кампазіцыйна-канструкцыйнай арганізацыі тэксту. Апрача гэтых, у групу прыватных стылістычных функцый уваходзіць і ф у н к ц ы я м а ў л е н ч а й х а р а к т а р ы с т ы к і п е р с а н а ж а.

Вобразы герояў літаратурных твораў ствараюцца пры дапамозе разнастайных сродкаў: прамой аўтарскай характарыстыкі, апісання паводзін, учынкаў, светапогляду персанажа, паказу яго душэўных перажыванняў і г.д. Пэўнае ўяўленне пра той ці іншы вобраз у чытача фарміруецца і праз маўленчую характарыстыку персанажа, праз тое, што і як ён гаворыць. Прыказкі з'яўляюцца адным са сродкаў тыпізацыі і індывідуалізацыі маўлення персанажаў, дапамагаюць раскрыць духоўны воблік героя, а ў многіх выпадках выступаюць своеасаблівым знакам прыналежнасці персанажа да пэўнага грамадскага асяроддзя.

У камедыі Я.Купалы «Паўлінка» з 18 выкарыстаных прыказак 10 прыходзіцца на долю Сцяпана – селяніна з вялікім жыццёвым вопытам. Ужытыя ім прыказкі характарызуюць яго як чалавека дасціпнага, з вострай назіральнасцю, з уменнем хутка зарыентавацца ў абставінах, даць трапны адказ. Не жадаючы прызнацца, пра каго ён толькі што гаварыў, Сцяпан адказвае Паўлінцы прыказкай *Скора састарышся, як усё будзеш ведаць*, а затым і яшчэ адной прыказкай: Ага, *ні села, ні пала, захацела баба сала!* А вось як Сцяпан запрашае гасцей да стала: *Чым хата багата – тым рада. Хлеб на стале, – рукі свае.* З другіх

персанажаў камедыі прыказкі найчасцей выкарыстоўваюць Паўлінка і Якім – прадстаўнікі передавой моладзі свайго часу.

Прыказкі з'яўляюцца сродкам маўленчай характарыстыкі персанажаў п'есы К.Крапівы «Партызаны», асабліва дзеда Бадыля – чалавека разважлівага і рашучага, дасціпнага і вопытнага. Свае погляды на жыццё, адносіны да канкрэтных жыццёвых з'яў ён выказвае трапным ужываннем такіх, напрыклад, прыказак: *Голаму разбой не страшны; Старцу міля не круг; Пана клянуць, а пан тлусцее; Дзе панская сіла, там мужыцкая спіна; Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку.* Дасціпнасць і афарыстычнасць маўлення дзеда Бадыля падкрэсліваецца і тым, што некаторыя яго рэплікі маюць абагульняльны характар і вельмі падобныя да народных афарызмаў. Так, калі незнаёмы чырвонаармеец (гэта быў падпольны работнік Скіба) сказаў, што нібыта адстаў ад палка, бо «Сарокін, расцяпа падвёў», дзед Бадыль пярэчыць: «Сам, сынку, варонай не будзь, дык і сарока не падвядзе». Або яшчэ адно сітуацыйна выклікана афарыстычнае выказванне дзеда Бадыля, зробленае пад прыказку: «Не трэба горшай скулы на мужыцкае цела, як пан».

Дапаўняюць маўленчую характарыстыку бежанца Батуры, які вельмі часта гаворыць у рыфму, і некаторыя ўжытыя ім прыказкі: *На бога спадзявайся, ды сам не давайся; Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў.* Яшчэ тры прыказкі, выкарыстаныя ў драме «Партызаны», знаходзім у маўленні Кастуся, Рыгора, Кацярыны – простых людзей з народа. Няма ніводнай прыказкі ў маўленні персанажаў-палякаў, кулака Маргуна і інш.

Асобна можна гаварыць і пра такую выяўленчую ролю прыказак, як ф у н к ц ы я  с т в а р э н н я  г у м а р у  і  с а т ы р ы. Пры дапамозе многіх прыказак выказваюцца разнастайныя гумарыстычныя адносіны да пэўнай з'явы, бо сэнсавая структура значнай часткі прыказак утрымлівае ў сабе элементы іранічнасці, камізму, жартаўлівасці і г.д. Некалькі прыкладаў: *Старой бабцы добра і ў шапцы; Гарбатага магіла выправіць; Нечая сучка мазь з'ела і сама сабе маслёнку на галаву надзела; І баран бы касіў, каб хто касу насіў; Дзед бабцы купіў лапці, былі малыя – адсек пальцы; Маўчы, язычку, кашкі дам.*

Прыказкі выступаюць як сродак гумару і сатыры найчасцей тады, калі пісьменнікі, публіцысты не абмяжоўваюцца традыцыйным ужываннем гэтых афарызмаў, а абнаўляюць, асвяжаюць іх, творча выкарыстоўваюць іх багатыя патэнцыяльныя магчымасці (гл. § 24–25).

### § 22. Пра частотнасць прыказак

Пры вывучэнні функцыянальна-стылістычнай ролі прыказак у маўленні, у прыватнасці ў мастацкім, іх якасная характарыстыка непазбежна павінна быць дапоўнена колькаснай. Квантытатыўныя метады дапамагаюць выяўленню самой прыроды прыказак, спецыфікі іх выкарыстання ў мастацкім і публіцыстычным маўленні.

Прыказкі як моўныя адзінкі шырока ўжываюцца як у вусным, так і ў пісьмовым маўленні. У выніку шматгадовага вывучэння мовы, быту, звычаяў свайго народа І.І.Насовіч зазначыў: «Беларусы ўсе факты, усе выпадковасці чалавечага жыцця, усе ўчынкі, як добрыя, так і дрэнныя, і ўсякае нават меркаванне пра што-небудзь падводзяць пад мерку

прыказак сваіх… Паміж простых людзей ёсць шмат такіх здольных, якія на ўсякую падзею, на ўсякі выпадак, вясёлы, спрэчны, сумны, – адразу ж і дарэчы выдаюць прыказку, нібы яны знарок вывучалі іх, як тыя, хто, авалодваючы лацінскай мовай, завучвае на памяць дыстыхі Катонавы» [106, с. III–IV]. Шырокую вядомасць, распаўсюджанасць і ўжывальнасць прыказак у народзе падмеціў і К.Крапіва: «Ёсць такія аматары прыказак, якія чуць не кожны свой крок апраўдваюць прыказкаю, чуць не кожны свой выраз аздабляюць ёю. Пра такіх нават і знарочыстая прыказка ўтварылася: «Без прыказкі і з лаўкі не зваліцца» [56, с. 217].

Гэта пашыранасць прыказак у народзе знаходзіць сваё адлюстраванне і ў мастацкіх тэкстах. Так, у трылогіі Я.Коласа «На ростанях» выкарыстана 109 прыказак, у п’есах Я.Купалы «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо» іх адпаведна 18 і 21, у раманах «Сокі цаліны» Ц.Гартнага – 29, «Людзі на балоце» І.Мележа – 26, «Птушкі і гнёзды» Я.Брыля – 32, «Плач перапёлкі» І.Чыгрынава – 30, у аповесцях «Рудабельская рэспубліка» С.Грахоўскага – 24, «Шануй сваё імя» В.Блакіта – 12.

Зразумела, ніякай меркі, што акрэслівае, колькі прыказак можна ўжываць, няма і не павінна быць. Тут самае галоўнае, з якой натуральнасцю і ідэйна-мастацкай матываванасцю ўводзяцца яны ў тэкст. Пры ўжыванні гэтых моўных самацветаў нельга, аднак, кіравацца прыказкай *Кашы маслам не сапсуеш*, бо перанасычанасць твора прыказкамі не павялічвае яго мастацка-выяўленчай вартасці. Можна прыгадаць выпадкі з гісторыі беларускай літаратуры, калі творы асобных пісьменнікаў, напрыклад Альберта Паўловіча, вызначаліся мноствам ужытых фразеалагізмаў і прыказак, але ад гэтага не рабіліся лепшымі. Занадта многа прыказак у оперы В.Дуніна-Марцінкевіча «Сялянка». З 69 выкарыстаных тут прыказак 65 належаць войту Навуму. Вось адзін урывак-маналог Навума: «Ведаю добра гутарку, што *пакуль сонца ўзойдзе, раса вочы выесць*. Няма чаго казаць: *воран ворану вачэй не выклюе*. Пан з панам пазнаюцца, а мы ўсё-такі ў бядзе. Добра кажа прыгаворка: *і бога хвалі і чорта не гняві*». Я.Ф.Карскі слушна зазначыў, што ў гэтай оперы мова Навума, «як у славутага збраяносца Дон-Кіхота Санча Пансы, не ў меру перасыпана масай народных прыказак» [52, с. 50].

З другога боку, адсутнасць у творы прыказак і фразеалагізмаў ці слабае выкарыстанне гэтага найбагацейшага сродку мастацкай выразнасці пазбаўляе мову нацыянальнага каларыту, часам робіць яе бледнай і бясколернай, падобнай на няўдалы пераклад з чужой мовы. Менавіта ў адсутнасці «чыста рускіх зваротаў» В.Р.Бялінскі бачыў слабасць стылю Карамзіна, які «пагарджаў ідыёмамі рускай мовы, не прыслухоўваўся да мовы прасталюдзінаў і не вывучаў наогул родных крыніц». І наадварот, адной з крыніц славы І.А.Крылова, якая «ўсё будзе расці і пышней квітнець», Бялінскі лічыў тое, што байкі Крылова ўвабралі ў сябе «невычэрпнае багацце ідыём, русізмаў, якія складаюць народную фізіяномію мовы, яе арыгінальныя сродкі і самабытнае, самароднае багацце», і што вялікі байкапісец змог перадаць такую асаблівасць «рускага нацыянальнага духу», як здольнасць «коратка, ясна і разам кучарава выказвацца» (цыт. па [102, с. 148, 155]).

Ступень стылістычнай актыўнасці прыказак (як, дарэчы, і фразеалагізмаў) у мастацкіх творах розных аўтараў залежыць ад індывідуальнай схільнасці таго ці іншага пісьменніка, яго прыналежнасці да пэўнага літаратурнага напрамку, ад таго, як добра валодае пісьменнік парэміялогіяй, ад яго парэмійнага запасу. Залежыць гэта, відаць, і ад таго, ці звяртаецца аўтар пры напісанні твора да слоўнікаў і іншых даведнікаў. Так, вядома, што Л.Талстой перад пачаткам працы над раманам «Вайна і мір» спісаў два аркушы прыказкамі і прымаўкамі (на адным 29, на другім 33), а затым увёў гэтыя і шмат якія іншыя выслоўі ў твор. Пра карыстанне слоўнікамі і даведнікамі гаворыць і К.Крапіва: «У працэсе напісання твораў я спецыяльна звяртаўся да зборнікаў Насовіча і Ляцкага. З гэтымі зборнікамі я знаёміўся ў розныя часы раней. Трапныя выразы з гэтых зборнікаў (і не толькі з гэтых), а таксама з жывой народнай гаворкі адкладваліся ў памяці і ў патрэбны момант прыходзілі на думку»[1].

У часопісе «Дзеяслоў» (2005. № 15 – 16) змешчаны адказы некаторых пісьменнікаў на анкету, у якой ёсць дзесяткі пытанняў. Адно з іх такое: «Ці звяртаецеся падчас напісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедый?» Вось некалькі адказаў. *Я.Брыль*: «Даведачнай літаратурай карыстаюся і чытаючы, і пішучы. Сабраныя за многія гады энцыклапедыі ды слоўнікі па мове роднай, рускай, польскай і ўкраінскай незаменна служаць у пажыццёвай самаадукацыі». *Н.Гілевіч*: «У слоўніках капаюся часта, без іх сваёй працы проста не ўяўляю... Да энцыклапедычных выданняў на розных мовах... таксама звяртаюся часта. Прафесійная праца абавязвае». *Р.Барадулін:* «Слова для мяне – усё... З маладых гадоў люблю слоўнікі». *А.Вярцінскі:* «Да слоўнікаў і даведнікаў звяртаюся. Люблю гэта рабіць. Гэта адначасова – і праца, і адхланне».

Ужыванне пэўнай прыказкі ў мастацкім творы абумоўліваецца перш за ўсё зместам твора, адпаведнай сітуацыяй, неабходнасцю больш дакладна выказаць тую ці іншую думку. Аднак майстры слова пры выбары прыказкі кіруюцца не толькі крытэрыем яе мэтазгоднасці ў пэўным кантэксце, але і імкненнем не паўтараць самога сябе. Хоць прыказкі з'яўляюцца гатовымі агульнанароднымі сродкамі выразнасці, але калі тая ці іншая з іх неаднаразова сустракаецца ў адным творы, то гэта не можа не кідацца ў вочы, не ствараць уражання стандартнага выказвання. З гэтай прычыны пісьменнік пазбягае паўтарэнняў адных і тых жа прыказак, знаходзіць належную замену ім. Калі ж прыказка ўжыта неаднойчы, то паўтарэнні, як правіла, матываваныя. Пакажам гэта на двух прыкладах.

У трагікамедыі Я.Купалы «Тутэйшыя» выкарыстана 8 прыказак (дарэчы, палова з іх – у маўленні Янкі Здольніка). Ніводная з прыказак не паўтараецца.

У рамане К.Крапівы «Мядзведзічы» ёсць 37 прыказак. Дзве з іх паўтараюцца. Адна – *Выйдзе праўда наверх* – служыць сродкам маўленчай характарыстыкі дзеда Агея, які ўжывае яе ў розных сітуацыях двойчы: «– Пачакайце, выйдзе праўда наверх. Папомніце маё слова, хіба я жыў не буду, – гарачыўся Агей, стукаючы палкаю ў мёрзлы снег»; «– Вось, сынку, казаў я тады – выйдзе праўда наверх, – лагодна пыхкае Агей цыгаркаю. – Вось яна і выйшла, на маім стала...» Трэці раз

[1] З пісьма К.Крапівы (1971, 25 мая) аўтару гэтых радкоў.

прыказка выкарыстана пры апісанні далейшых вясковых падзей, калі «ўспомнілі, што і тады, пасля суда Соміка з Наздрэйкамі, ён [Агей] усё на штосьці намякаў, кажучы, што злодзея шукаюць не там і што праўда наверх выйдзе». Другая прыказка – *Свая кашуля бліжэй к целу* – адзін раз ужыта Аўдоляй, якая са злосцю гаворыць Зосі: «Здурнеў Юзік твой… Але дзе ж, свая кашуля бліжэй к целу»; другі раз – у маўленні Зосі, якая пераказвае Юзіку: «Яна яшчэ сказала, што табе свая кашуля бліжэй к целу. Але я ведаю, што гэта няпраўда».

Вельмі многія мастакі слова (напрыклад, Я.Купала, К.Крапіва, М.Лынькоў, Я.Брыль, М.Лобан), паслядоўна прытрымліваючыся «няпісанага правіла», з належным пачуццём меры выкарыстоўваюць прыказкі, не паўтараючы ніводнай з іх без пэўнай стылістычнай матывацыі.

Рэдкасць ужывання адных і тых жа прыказак у творы вытлумачваецца нежаданнем пісьменніка некалькі разоў эксплуатаваць гатовы матэрыял і імкненнем шукаць і шукаць новыя сродкі выразнасці, у тым ліку і сярод нявыкарыстаных парэмійных рэсурсаў. Такое ўжыванне прыказак якраз і адпавядае вядомаму закону аб павелічэнні інфармацыйнай каштоўнасці знака з памяншэннем яго частотнасці. Маўленне, як піша Б.М.Галавін, тым багацейшае, чым радзей паўтараюцца ў ім адны і тыя ж знакі і ланцужкі знакаў [38, с. 214]. «Выполваць лішняе бязлітасна!.. Гнаць паўторы!!!» – як наказ самому сабе, запісаў на папцы І.Мележ, працуючы над раманам «Завеі, снежань».

Звяртаючы ўвагу на дзесятак прыказак, ужытых у дзелавой перапісцы – у «Лістах Філона С.Кміты-Чарнабыльскага» (гл. § 9), Я.Ф.Карскі ў адным з сямі выпускаў сваёй капітальнай працы «Беларусы» пісаў у 1916 г., што «ў XVI ст. да прыказак зварочваліся асобы вышэйшай інтэлігенцыі, а не толькі просты народ, як цяпер» [51, с. 474]. Гэтае супастаўленне «як цяпер» вымушае сказаць, што вельмі многія сучасныя аўтары, асабліва маладзейшага пакалення, пазбягаюць ужывання прыказак у сваіх творах (відаць, і іхні парэмійны запас невялікі, і да розных даведнікаў не звяртаюцца). Так, у часопісе «Полымя» (2004. № 7) змешчаны аповесць, апавяданні, п’еса і іншыя творы, а прыказак тут усяго тры: дзве ў апавяданні У.Дамашэвіча *(Пасмяяўся кацёл з гаршка; Маслам кашы не сапсуеш)* і адна *(Сарока на хвасце прынесла)* у сямейнай хроніцы І.Дуброўскага. У «Полымі» (2004. № 10) – толькі адна прыказка – у аповесці А.Бароўскага «Вужык». У часопісе «Маладосць» (2004. № 9) – толькі дзве прыказкі, абедзве ў апавяданні Л.Левановіча.

Тут ужо так і просіцца на язык Багдановічаў радок-прыказка: *Няма таго, што раньш было.*

## § 23. Стылістычнае выкарыстанне прыказак

Назіраючы за спосабамі і прыёмамі ўжывання прыказак у маўленні, можна бачыць некаторае падабенства з аналагічнай з’явай у фразеалогіі. Форма і змест прыказкі пры яе звычайным, агульнамоўным, нарматыўным ужыванні захоўваецца нязменна, непарушна. Аднак нярэдка пісьменнікі, а таксама публіцысты «амаладжваюць», творча абнаўляюць прыказкі, вынаходліва выкарыстоўваюць іх невычэрпную

«вобразную энергію», змяняюць іх традыцыйную форму ці абыгрываюць сэнсавы змест. У такіх выпадках стылістычная роля прыказак у сістэме моўных сродкаў нібы падвойваецца. Абноўленыя прыказкі маюць вялікую прыцягальную сілу і, калі сказаць словамі Я.Брыля, «здорава, часам нават вырашальна працуюць на красу і значнасць цэлага».

Такім чынам, ёсць два віды, або спосабы, стылістычнага выкарыстання прыказак: а) ужыванне ў нязменным выглядзе, б) ужыванне са змяненнямі разнастайнага характару.

Прыказкі найчасцей выкарыстоўваюцца ў іх звычайнай, нарматыўнай форме (з магчымымі яе разнавіднасцямі, калі прыказцы ўласціва варыянтнасць) і з замацаваным за імі зместам. І гэта зразумела, бо і ў такім выглядзе яны, як было паказана ў § 21, з’яўляюцца яркім стылістычным сродкам. На долю «амалоджаных» прыказак прыходзіцца невялікі працэнт. Напрыклад, у п’есе К.Крапівы «Партызаны» з 11 выкарыстаных прыказак дзве абыграны.

Індывідуальна-аўтарскую пераробку і пераасэнсаванне прыказак (і фразеалагізмаў) Б.А.Ларын ахарактарызаваў як больш складаны і «артыстычны спосаб транспазіцыі народных выразаў у літаратурную мову» [67, с. 158]. Хоць такія ўжыванні прыказак у параўнанні з іх звычайным выкарыстаннем і не вельмі частыя, але яны заслугоўваюць спецыяльнага вывучэння як істотны сродак павышэння стылістычнай ролі прыказак у тэксце, як адзін са спосабаў іх рэалізацыі ў маўленні.

Усе шматлікія прыёмы творчага выкарыстання прыказак можна аб’яднаць у дзве групы. Першая група – структурна-семантычныя змяненні, калі знарок парушаецца форма прыказкі і гэтым самым закранаецца яе змест. Прыказка *Сабака брэша – вецер носіць* пагардліва асуджае каго-небудзь за недарэчныя словы, плёткі, за беспадстаўную, нявартую ўвагі балбатню. У адным з сатырычных вершаў ваеннага часу К.Крапіва замяняе першы кампанент гэтай прыказкі канкрэтным адрасатам – прозвішчам галоўнага гітлераўскага брахуна, міністра прапаганды Гебельса. З’яўленню абноўленай прыказкі ў тэксце папярэднічаюць параўнанні Гебельса з сабакам («Не збрахаць, як карлік, столькі дзесяці сабакам», «брэша з захапленнем»), а пасля гэтага ідзе: «Нам ужо абрыдлі досыць байкі прайдзісвета: – Гебельс брэша – вецер носіць, – кажам мы на гэта». Абнаўленне ўспрымаецца на фоне прывычнай прыказкі, і заменены кампанент так і праглядвае праз «наместніка», даючы яму сваёй назвай належную характарыстыку. Сатырычны эфект і дасціпнасць гэтага перафразавання становіцца яшчэ больш відавочным, калі прыняць пад увагу, што ў нямецкай мове прозвішча гітлераўскага доктара прапаганды супадае ў гукавых адносінах са словам *Gebell* (брэх, гаўканне); у родным склоне адзіночнага ліку – *Gebells*; параўн. прозвішча Гебельса ў нямецкай арфаграфіі: *Goebbels*.

Другая група – семантычныя змяненні, калі прыказка, не змяняючы сваёй формы, абыгрываецца ў далейшым выказванні (найчасцей у рэпліцы суразмоўніка). Да прыкладу, у «Тутэйшых» Я.Купалы Гануля Зносчыха прыказкай *Маладое піва заўсёды шуміць* ацэньвае дзеянні Здольніка і Аленкі, якія носяцца «з усялякімі мудрымі думкамі». Гарошка, Аленчын бацька, занепакоена адказвае: «Так яно, так. Але найчасцей ад гэтага шуму нам, бацьком, галава баліць». Як бачым, слова *шум*, выкарыстанае на фоне папярэдняй прыказкі і

пастаўленае ў сувязь з кампанентам *шуміць*, атрымала спецыфічнае значэнне ‘кіпучая дзейнасць’.

Перш чым разглядаць шматлікія стылістычныя прыёмы выкарыстання прыказак са структурна-семантычнымі і семантычнымі змяненнямі, неабходна коратка спыніцца на ўжыванні прыказак у вершаваным маўленні. Тут досыць часта можна сустрэць версіфікацыйную варыяцыю прыказак, выкліканую неабходнасцю падпарадкаваць прыказку рыфма-меладычным асаблівасцям вершаванага маўлення.

Розныя змяненні, абумоўленыя самой прыродай верша, як піша М.М.Шанскі, «укласці ў пракрустава ложа стылістычнай матывацыі – без суб’ектывізму і нацяжак – вельмі цяжка». Ён папракае асобных даследчыкаў вершаванага маўлення, якія абавязкова імкнуцца розныя моўныя факты «вытлумачыць толькі тымі ці іншымі стылістычнымі прычынамі, зусім не ўлічваючы патрабаванняў верша. Між тым у вершаваным творы многае можа абумоўлівацца і яго непразаічнай формай, версіфікацыйнай традыцыяй, патрабаваннямі рыфмы і рытму, а таксама тым, што можна назваць неабходнасцю запаўнення вершаванай прасторы (пры страфічнай структуры тэксту» [121, с. 117].

Асабліва цяжка ўключыць у тканіну паэтычнага твора шматкампанентную прыказку, не падпарадкаваўшы яе адпаведным рытма-рыфмічным уласцівасцям верша. Гэта выклікае і змяненні інверсійнага парадку, і іншыя дэфармацыі, і ўключэнне слоў, узятых «збоку», каб запоўніць «вершаваную прастору».

Вось як, напрыклад, выкарыстана прыказка *Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць* у паэме Я.Коласа «Новая зямля»:

І не сабака страшан воўку,
Калі прыйшлося сказаць к слоўку,
Мой пане-браце, мой Марцяга,
А непрыемна яго звяга.

І гэта, зразумела, не «творчая апрацоўка» прыказкі «з боку пісьменніка», як лічыць М.Суднік [111, с. 10], і не набыццё прыказкай «зусім іншага вобразна-семантычнага ўвасаблення» «пад пяром Я.Коласа – таленавітага майстра пародыі», як сцвярджае С.К.Майхровіч [81, с. 114], а звычайная для вершаванага маўлення варыяцыя прыказкі, выкліканая версіфікацыйнай мэтай.

Або яшчэ прыклад. Прыказка *У чужым воку сучок (саломінку) бачым, а ў сваім бервяна не заўважаем* у вершы Я.Купалы «На тэму крытыкі і самакрытыкі» выкарыстана так:

Пылінку бачым у суседа,
Ды што? – ў яго іх не адна!
А ў сваім воку, даўнім следам,
Не заўважаем бервяна.

Адна і тая прыказка ў вершаваных творах нават аднаго і таго ж паэта падпадае пад неаднолькавыя змяненні, бо гэта залежыць ад памеру, выбранага аўтарам, ад рыфмы і іншых асаблівасцей вершаскладання. Так, прыказка *Злазь з даху і не псуй гонту (гонты, гонтаў)* (у такой форме яна выкарыстана ў празаічных творах І.Гурскага, Я.Коласа, А.Макаёнка, А.Петрашкевіча, В.Праскурава, І.Сяркова) чатыры разы сустракаецца ў вершаваных творах Я.Коласа,

прычым кожны раз у іншым афармленні. Паэма «Рыбакова хата» напісана чатырохстопным ямбам, таму паэт прыстасоўвае прыказку да выбранага памеру, уводзіць у яе састаў часціцу *жа* і займеннік *ты*, а ў сувязі з рыфмай *пад паху* робіць перастаноўку структурных прыказкавых частак: *Не псуй жа гонты, злазь ты з даху – Не з той дзьме вецер стараны, І паляцяць з табой паны, Схваціўшы клунак свой пад паху.*

Параўн. ужыванне гэтай прыказкі:

1) у паэме «На шляхах волі»: *Даволі іх тут песціць! Пара ім з даху злезці, Каб не псаваць тут гонт!;*

2) у вершы «Парада (прысвячаецца Мусаліні)»: *Злазь ты, Мусаліні, Фашыстоўскі рэбе, З даху, не псуй гонт! Ты не ў Абісініі, Не ў Адыс-Абебе – Тут народны фронт!;*

3) у вершы «На міжнародныя тэмы»: *Скажуць табе, папа, людзі на твой сказ: «Злазь ты, папа, з даху, не псуй божай брамы Ды каціся, папа, да чортавай мамы!»*

З іншымі змяненнямі выкарыстоўвае гэту прыказку У.Корбан у вершы «Лоры і Жоры»: *Такі ж цудоўны момант надышоў, І у жыцці наладжана была папраўка – Сцяпану дадзена адстаўка. Не псуй, брат, гонту, з даху злазь далоў.*

Найчасцей тыя ці іншыя варыяцыі вымагаюцца патрабаваннямі пэўнага р ы т м у. Напрыклад, каб захаваць памер паэмы, чатырохстопны ямб, Я.Колас змяняе лікавую форму першага кампанента прыказкі *Багатаму чорт дзяцей калыша*, укарочвае яе на адзін склад, лішні для прынятага ў «Новай зямлі» вершаванага памеру: *Глядзі – панам і тут шанцуе: Сама пагода ім слугуе. І сонца свеціць, стала ціша – Багатым чорт дзяцей калыша.* Па гэтай жа прычыне Я.Купала (верш «Чатыры крыжы») апускае кампанент *а* ў прыказцы *Усюды добра, а дома лепей: Усюды добра, дома – лепей, Дзе гуляў з дзяцінай, Дзе ніхто цябе не чэпе Так, без дай прычыны.*

Нямала ёсць прыкладаў на змяненні, звязаныя з патрабаваннямі р ы ф м ы. Так, у мэтах рыфмоўкі К.Крапіва ў прыказцы *Грозен рак, ды ззаду вочы* два апошнія кампаненты мяняе месцамі: *Мы на гэта скажам гаду: Грозен рак, ды вочы ззаду* («Біблія людаеда»). Прыказка *Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе* ў вершы Э.Валасевіча «Кароль і чорныя палкоўнікі» (у сувязі з рыфмай *бараццьбе*) выкарыстана ў такім афармленні: *Крумкача крумкач ніколі не дзяўбе.*

Шматлікія змены выкліканы неабходнасцю захаваць рытм і рыфму адначасова: *Махай дружна касой, пакуль згіне раса, Куй жалеза, пакуль не астыне яно! Рэж аселіцу, брат, калі зрэзаў гумно, А там далей – на лог няхай мчыцца каса* (Я.Купала. Касьба). У гэтым урыўку маем справу з версіфікацыйнымі варыяцыямі дзвюх прыказак: *Касі, каса, пакуль раса..* і *Куй жалеза, пакуль гарачае.* Рытма-рыфмічным фактарам падпарадкаваны і змяненні прыказкі *Дома і вуглы памагаюць: На сваім котлішчы, дачушка, Табе паможа вугал, куст, А там пакрыўдзіць кожны хлюст, Тут – гаспадар ты, а там – служка* (Я.Колас. На шляхах волі). У паэме Я.Купалы «Сон на кургане» прыказка *Праўда наверх выйдзе* дэфармуецца такім чынам: *Наверх праўда выйсць павінна, Хоць бы мела ўзяць нам сына.*

Больш падрабязна пра мноства іншых разнастайных версіфікацыйных змяненняў прыказак гл. у [74, с. 54–62].

Са сказанага нельга, аднак, рабіць вывад, што ў вершаваным маўленні ўсе выкарыстаныя прыказкі падпадаюць пад тыя ці іншыя версіфікацыйныя змяненні. Можна прывесці мноства прыкладаў, калі прыказкі ў вершаваных творах ужыты без якіх-небудзь змен, у іх прывычнай, традыцыйнай форме: *Хто дбае, той і мае* (Э.Валасевіч); *Няма той хаткі, дзе б не было звадкі* (Э.Валасевіч); *Кончыў дзела, гуляй смела* (К.Крапіва); *Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы* (К.Крапіва) і г.д. Часцей за ўсё гэта прыказкі, якія складаюцца з невялікай колькасці кампанентаў і сваім лексічным складам укладаюцца ў вершаваны памер, а таму не патрабуюць ніякіх змяненняў: *Язык да Кіева давядзе* (Р.Барадулін); *На лаўца і звер бяжыць* (Э.Валасевіч); *Гарбатага магіла справіць* (Э.Валасевіч); *Праўда вочы коле* (К.Крапіва, Я.Непачаловіч) і інш.

Што датычыць апісаных вышэй версіфікацыйных варыяцый прыказак, то хоць яны і дапушчальныя ў паэтычнай мове, але ў сваёй пераважнай большасці не могуць быць выкарыстаны ў парэмійных тлумачальных слоўніках у якасці ілюстрацыйнага матэрыялу, бо ўжыты ў змененай форме, нетыповай для агульнанароднай мовы. У СБП [75] многія версіфікацыйныя варыяцыі падаюцца з абзаца за знакам зорачкі (*).

### § 24. Структурна-семантычныя змяненні прыказак

Як ужо ўпаміналася, змяненне структуры, кампанентнага складу прыказкі так ці інакш адбіваецца на яе семантыцы: прыказка або змяняе сваё значэнне, або атрымлівае сэнсавае прырашчэнне, узбагачаецца дадатковымі асацыятыўнымі ўяўленнямі. Існуюць разнастайныя прыёмы структурна-семантычнага змянення прыказак – ад замены кампанента іншым словам да выкарыстання толькі асобных састаўных элементаў прыказкі.

**Замена кампанента іншым словам.** Гэта адзін з пашыраных стылістычных прыёмаў. Звычайна замена кампанента выклікаецца пэўнай сітуацыяй, прадвызначаецца кантэкстам і амаль заўсёды дае значны эфект, бо ў свядомасці чытача на звычайнае значэнне прыказкі накладваецца яшчэ і значэнне слова, якое выцiснула прывычны кампанент.

Прыказка *Не дай бог свінні рог, а мужыку панства* абнаўляецца ў аповесці М.Гарэцкага «Ціхая плынь»: «І толькі дзядзька Тамаш.. першы здагадаўся сказаць – ці то пра настаўніка, ці то пра яго навуку: «Ат! *Не дай бог свінні рог, а хамуйле панства*». Гэта ж прыказка ўжыта ў п'есе Я.Купалы «Тутэйшыя» з заменай двух апошніх кампанентаў і некаторымі іншымі зменамі – у рэпліцы Янкі Здольніка, адрасаванай калежскаму рэгістратару Мікіту Зноску: *Бачыў бог, што не даў свінні рог, а рэгістратару панавання.*

Пад пяром пісьменніка прыказка прыстасоўваецца да кантэксту, у ёй замяняецца адзін з кампанентаў такім словам, якое найбольш адпавядае пэўнай маўленчай сітуацыі. Так, калі гаворыцца не пра двух, а пра сем чалавек, то апраўдана і эфектыўна будзе выкарыстанне прыказкі *Адна галава добра, а дзве лепей* у такім афармленні: *Адна галава добра, а сем лепей.* Менавіта так у рамане Л.Гаўрылкіна «Не магу без цябе» ўжывае прыказку адзін з персанажаў, даведаўшыся ад

суразмоўніка, што да іх едзе прадстаўнічая камісія (адзін акадэмік, два дактары навук, таварышы з Масквы і мясцовыя вучоныя), каб зрабіць заключэнне «наконт перспектыўнасці разведкі на нафту і газ». І далей: «– Цудоўна!.. – Ты рады? – здзіўлена спытаў Бурдзіч. – *Адна галава добра, а сем лепей*... Памяркуем разам, што рабіць далей». Гэта ж прыказка ў іншых маўленчых абставінах выкарыстана з заменай кампанента *дзве* словам *тры*: «Слухай, Тарасе, можа б ты зайшоў да мяне? Захапі Відука. Чакаю. Разам абмяркуем. *Адна галава добра, а тры лепей*» (І.Гурскі).

Іншы раз замена кампанента матывуецца этычнымі меркаваннямі персанажа, а сам прыём выконвае характарыстычную ролю. Напрыклад, у апавяданні І.Чыгрынава «Трэція пеўні» чытаем: «– Я ж пісаў табе... і ў апошнім пісьме таксама. – Ці мала каму хто і пра што піша... *Абяцанкі-цацанкі, а*.. – але яна не сказала «дурню», падабрала замест гэтага слова нешта іншае, як ёй здавалася, бяскрыўднае, – *а некаму радасць*». Замена кампанента выступае як сродак маўленчай характарыстыкі персанажа і ў такім урыўку: «Вольф нязграбна павярнуўся і разліў кофе. Ён хацеў пахваліцца, што ведае рускую мову, і сказаў: – *Дзе коратка, там і льецца*.. Чорт вазьмі! – У нас кажуць: дзе п'юць, там і льюць, – усміхнуўся Зорын, дадаўшы: – А яшчэ: дзе коратка, там і рвецца...» (І.Гурскі). Параўн. таксама выкарыстанне прыказкі *Бог не выдасць, свіння не з'есць* у рэпліцы Свіста, нядаўняга арыштанта, з аповесці В.Быкава «Жураўліны крык»: «Нічога, *чорт не здрадзіць – свіння не з'есць*».

У прыказцы, як відаць з папярэдняга прыкладу, могуць быць заменены два кампаненты і больш, але ўсё роўна выразна адчуваецца прыказка ў яе зыходнай форме. У адным з эпізодаў трылогіі Я.Коласа «На ростанях» расказваецца пра складаныя ўзаемаадносіны паміж Лабановічам і Баўдзеем. Лабановіч, адчуўшы ў характары Баўдзея новыя, добрыя рысы, аднойчы падумаў: «*На свеце пажывеш і Баўдзея другам назавеш*». Перад намі перайначаная прыказка *На вяку ўсяго нажывеш – і Кузьму бацькам назавеш*. Прыказка *Злазь з даху і не псуй гонту* таксама падпадае пад замену двух кампанентаў: «Выклікаў аднойчы Сцяпана [трактарыста] старшыня калгаса ў свой кабінет. – Нам, братка, «балалаечнікаў» не трэба. Не хочаш быць чалавекам, дык, як той казаў, – *злазь з трактара і не псуй баразны*» (М.Пянкрат).

Многія прыказкі маюць бінарную структуру, пры іх выкарыстанні першая частка захоўваецца нязменна, а другая, у адпаведнасці з сітуацыяй, запаўняецца пэўным канкрэтным матэрыялам. Як і ва ўсіх іншых выпадках, сувязь з прататыпам не страчваецца, але абноўленая частка заўсёды нясе з сабой дадатковую інфармацыю, дапаўняе агульнапрынятае значэнне прыказкі. Пры такой рэалізацыі прыказак узнікае эфект падманутага чакання: пачатак прыказкі прадказвае канцоўку, а яна аказваецца зусім іншай, нечаканай. Вось, напрыклад, як выкарыстана прыказка *Курыца не птушка, нявестка не дачушка*: «У афіцэрскім асяроддзі прапаршчык Канстанцін Міцкевіч па-ранейшаму адчуваў сябе чужаком, мужыцкім сынам. Недарма кажуць: «*Курыца не птушка, прапаршчык – не афіцэр*» (С.Александровіч). Яшчэ прыклады (з выдзяленнем у іх толькі першай, нязмененай часткі): «Нічога, нічога, Аўгінька. *Пражылі лета гарачае,* пражывём і панскую няволю» (Я.Колас); «– Я ж і кажу, што капрамонт – гэта такая справа, што *куй жалеза*.. – Пакуль не ўкралі? – Пакуль брыгада тут. А яна ў нас

комплексная, камсамольская. Усе ўдарнікі» (А.Петрашкевіч); «Тут, як той казаў, і на яе [былую нявестку], і за яе. Яно-то, канечне, *як уродзіцца цялятка з лысінкай*, дык і на мясакамбінат з лысінкай адвязуць» (В.Макоўскі).

Прыкладна гэтак жа выкарыстана прыказка і ў п’есе Н.Гілевіча «Не кажы «гоп»...». Жонка дацэнта Кутаса паставіла на экзамене двойку «кандыдату ў аспіранты» Пацяруху. І далей: «[Пацяруха:] Яшчэ тры дні назад вы мяне стукалі па плячы і казалі: ну, цяпер ужо можаш лічыць сябе аспірантам! А што ж выходзіць? Што праўду кажуць: не кажы «гоп», пакуль не пераскочыў! [Кутас:] Гэтую старую прыказку, дарэчы, можна абнавіць. Да нашай сітуацыі, мне здаецца, лепей падыдзе такі варыянт: не кажы «гоп», не пагаварыўшы з жонкай».

Сустракаецца нямала прыкладаў, калі назоўнікавы кампанент прыказкі замяняецца ўласным імем. У такіх выпадках прыказка, якая звычайна мае абагульнены змест, становіцца прыватным суджэннем, выведзеным на аснове агульнага і дастасаваным да канкрэтнага адрасата. Разам з тым абноўлены варыянт не губляе сувязі з самой прыказкай, якая ўсплывае ў свядомасці чытача. Часам паміж замененым кампанентам і словам, якое выціснула яго, аўтаматычна ставіцца знак роўнасці. Параўн., напрыклад, прыказку *Гультай за работу – мазоль за руку* і яе трансфармаваны варыянт: «Саўка з выгляду просты чалавек, а натура яго панская: *Саўка за работу, мазоль за руку*» (Я.Колас). Уласным імем заменены прыказкавыя назоўнікавыя кампаненты і ў такіх кантэкстах: «А мо ён [Кунцэвіч] проста прыдзіраецца да Сурміды? Мо нечага не разумее? Мо *не такі Сурміла страшны, якім яго малююць?*» (В.Блакіт); «– Боязна рабочаму браць уладу... – *Керанскага баяцца, у лес не хадзіць,* – наступаў пуцілавец» (І.Гурскі); «– Правільна!.. Недарма кажуць, што *стары Маскалевіч баразны не сапсуе.* – Кажы ўжо – *вол*, не бойся, – зарагатаў Максім Паўлавіч» (І.Дуброўскі). Часам два назоўнікавыя кампаненты могуць быць заменены ўласнымі імёнамі: «Недарма ў Верамейках кажуць – *Лепей з Меляшонкам згубіць што, чым з Раманам знайсці*» (І.Чыгрынаў); «– Цікава, што гэты скажа?.. – Тое самае! *Скірмунт Крыжаноўскаму вока не выдзеўбе*» (І.Гурскі).

«Стылістычны эфект адваротна прапарцыянальны сэнсавай агульнасці паміж збліжанымі словамі пры адной абавязковай умове: нечаканая замена павінна адпавядаць руху думкі, мецъ дакладнае і выразнае прызначэнне» [42, с. 68]. Цікава і арыгінальна, у адпаведнасці з лагічным рухам думкі расказчыка, зроблена замена кампанента сугучным словам: «Толькі ў сваёй траншэі я скумекаў, чаго гэта ён так да майго кажушка ліпне: *холад не цётка*, а мы палоннага, аказваецца, па марозу ды снегу дастаўлялі транзітам у адных спондніках» (Вожык. 1985, № 12). Параўн. таксама ў сатырычным вершы Р.Барадуліна «Несуны»: «Як захочаш смачна есці, жыць, не лічачы грашы, умудрышся спрытна несці, *з мілым рай і ў гаражы*! І нясеш, і весела ад любога несіва!»

Заменай кампанента іншым словам нярэдка дасягаецца камічны эфект. Найчасцей гэта бывае тады, калі паміж прыказкавым кампанентам і словам, якое замяніла гэты кампанент, няма ні сэнсавай, ні этымалагічнай сувязі. Прыказка *Вялікаму караблю – вялікае плаванне* мае алегарычны сэнс ‘незвычайнага чалавека чакае і вялікая плённая дзейнасць’; гэта прыказка выкарыстана ў сатырычным вершы П.Сушко

«Студэнт пад ветразем» з заменай кампанента *караблю*: «Ён плавае на ўсіх заліках і на любым экзамене. Вядома, *гультаям вялікім – вялікае і плаванне*». Дарэчы, камізм тут узмацняецца яшчэ і тым, што дзеяслоў *плаваць* рэалізуе пераноснае значэнне ‘выказвацца павярхоўна і блытана’ і не суадносіцца ў гэтым значэнні з прыказкавым кампанентам *плаванне*, генетычны сэнс якога – ‘перамяшчэнне на паверхні вады’.

**Мадэліраванне на ўзор прыказак.** Гэты стылістычны прыём адрозніваецца ад папярэдняга тым, што ў прыказцы замяняюцца амаль усе яе кампаненты і ў выніку ўзнікае дасціпны індывідуальна-аўтарскі наватвор, у падтэксце якога адчуваецца прыказка-прататып. Звычайна такія мадэліраваныя выразы, утвораныя на ўзор прыказак, характарызуюцца сэнсавай ёмістасцю, з’яўляюцца яркім выяўленчым сродкам, удзельнічаюць у стварэнні камізму ці сатырычнай завостранасці.

Некаторыя з наватвораў, зробленых пад прыказку, выражаюць абагульненае суджэнне і здольныя дастасоўвацца да розных аналагічных з’яў. Напрыклад, аднолькавыя ў сэнсавых адносінах прыказка *На бязрыб’і і рак рыба* і выраз, утвораны на яе аснове, *На бясптушшы і варона салавей:* «– Ат, глупства ўсё гэта! – махнуў рукою Вялеська. – З мяне літаратурны перакладчык… Проста падхалтурваю, як, помніш, любіў казаць наш колішні шэф… *На бясптушшы і варона салавей…*» (В.Блакіт). Суджэнне абагульненага характару ўласціва і аўтарскаму выразу *Адна варона не робіць граю*, пабудаванаму па мадэлі прыказкі *Адна ластаўка вясны не робіць*: «– Пагаварылі з намі – і спакайней у групе. Толькі Панкова. Але ведаеце пагаворку: адна ластаўка вясны не робіць. – Ластаўка? От не тую выбрала ты пагаворку. Я лепей новую прыдумаю, спецыяльна для Панковай: *адна варона не робіць граю*» (Я.Радкевіч).

Найчасцей мадэліраваныя выразы носяць прыватны характар, прывязаны да пэўнай сітуацыі, маюць канкрэтную, кантэкстуальна абумоўленую семантыку. Структурная мадэль прыказкі *З міру па нітцы – голаму сарочка* стала асновай для стварэння некалькіх аўтарскіх выразаў. Гэта прыказка абазначае ‘ад усіх патроху – і атрымліваецца штосьці значнае, адчувальнае для каго-небудзь аднаго’. На яе аснове Г.Марчук у аповесці «Паляшук» стварае свой афарызм, які рэалізуе значэнне, уласцівае прыказцы-мадэлі, толькі больш звужанае, абумоўленае пэўным кантэкстам. Гэты наватвор, у складзе якога ёсць слова *капейка*, укладваецца ў вусны прагнага да грошай Апанаса і выступае як дадатковая самахарактарыстыка персанажа: «Скоч у праўленне, адзнач мне камандзіроўку. Маўляў, чалавек яблыкі закупляе. Я сваю ўжо адзначыў, а гэту ўзяў быццам на таварыша. *З люду па капейцы – жабраку падштанікі*». Тая ж прыказка-прататып адчуваецца і ў наступным урыўку, дзе гаворыцца пра калектыўную працу сатырыкаў у газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну!» і часопісе «Вожык»: «Сягоння нават цяжка сказаць, хто аўтар тых ці іншых калючых радкоў, бо часам у рэдакцыі атрымлівалася, як у той прыказцы: кожны… па іголцы, а «Вожыку» – чарговы штых у фашысцкае чэрава» (У.Корбан, Г.Кляўко).

Мадэль той жа прыказкі ў эпіграме К.Крапівы «Чыжык» запаўняецца зусім іншым матэрыялам: *З людзей па радку, а мне эпіграма.* Хоць тут усе словы ўжыты з прамым значэннем, непасрэдна

накіраваным на канкрэтныя рэаліі, але сваім комплексам яны ствараюць выразны намёк на прыказку-мадэль. Майстэрства сатырыка нельга поўнасцю ацаніць, калі не бачыць перад сабой усёй гэтай арыгінальнай сваім мастацкім выкананнем эпіграмы-літмантажу, змешчанай у часопісе «Заклік» (1933. № 1. С. 51). У эпіграме знайшоў увасабленне адзін з тыповых эпізодаў тагачаснай жорсткай рэчаіснасці, бесчалавечнай барацьбы, крыжовага паходу ў пошуках «ворагаў народа». Вось гэты твор:

Чыжык
(Эпіграма-літмантаж[1])
на дэбют крытыка Аркадзя Куляшова

– Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
– За гарой Максіма біў.
«Дзюбаў, дзюбаў, аслабеў,
Толькі збрудзіў, а не з'еў».

[1] З людзей па радку, а мне эпіграма:
у гэтым вершы толькі адзін радок мой.

Сапраўды, «у гэтым вершы толькі адзін радок» крапіўоўскі: *За гарой Максіма біў* (маецца на ўвазе выступленне ў друку маладога, 19-гадовага паэта А.Куляшова ў нязвычнай для яго ролі дэбютанта-крытыка твораў Максіма Гарэцкага). Першы радок эпіграмы ўзяты з вядомай жартоўнай песенькі такой самай назвы, а два апошнія – з верша А.Александровіча «Хлопчык і певень»:

Ку-ка-рэ-ку! Ку-ка-рэ-ку!
Вось і певень тут аднекуль,
Крадучыся, неўзаметку
Падляцеў, хапіў катлетку.
Дзюбаў, дзюбаў – аслабеў,
Толькі збрудзіў, а не з'еў.

Ды і другі радок не зусім крапіўоўскі, гэта – перафразаванне з той жа песенькі: *За гарой гарэлку піў*. Варта таксама зазначыць, што ў кантэксце гэтай эпіграмы адбыліся семантычныя зрухі ў словах, дастасаваных да крытыка-дэбютанта: *чыжык, дзюбаў, збрудзіў, з'еў*. Яны атрымалі сэнсавае прырашчэнне, падвойны змест.

З прааналізаваных вышэй мадэліраваных выразаў відаць, што нярэдка яны ствараюцца з выкарыстаннем структуры і асобных кампанентаў – прыназоўнікаў ці злучнікаў. Напрыклад, выраз *З людзей па капейцы – жабраку падштанікі* ўзнік па структурнай схеме «з каго па чым – каму што». Гэтак жа, толькі па іншай структурнай схеме, запаўняецца новым лексічным матэрыялам мадэль *На бязрыб'і і рак рыба*: «Антось і сёння розныя свінушкі, ласі, радоўкі, хоць мясцовыя людзі і перасталі іх цурацца, разважаючы, што на *бязрыб'і і свінушка грыб*, усё роўна не лічыць за грыбы, не можа паверыць, што яны ядомыя» (В.Блакіт).

Ёсць некалькі прыказак, структурна арганізаваных па схеме «была б (было б) што, а што знойдзецца»: *Была б шыя, а хамут знойдзецца; Было б балота, а чэрці знойдуцца; Было б сала, а кубел знойдзецца; Было б карыта, а свінні знойдуцца*. Па гэтай жа мадэлі пабудаваны і выраз *Была б галава цэлая, а шапка знойдзецца*, ужыты ў сатырычным апавяданні І.Аношкіна «Уважлівая прычына».

Пры мадэліраванні часам выкарыстоўваюцца разам са структурай і некаторыя кампаненты, у тым ліку паўназначныя часціны мовы. У «Карацельках» Бр.Баровак, дзе гаворыцца пра калекцыянера, якому замест старажытных манет хацелі падсунуць жалезныя гузікі, з'едзеныя ржой, ёсць такая рэпліка: «Я так і ведаў, браце, што *вопытнага калекцыянера на гузіках не правядзеш*». Выдзелены выраз створаны па мадэлі прыказкі *Старога вераб'я на мякіне не правядзеш.* Пададзім яшчэ некаторыя прыклады выкарыстання мадэліраваных выразаў, у якіх лёгка ўгадваюцца прыказкі-прататыпы: «Сучасныя газетчыкі таксама вельмі слушна сцвярджаюць: *пад ляжачае пяро ганарар не бяжыць*» (Я.Васілёнак); «– Самалёт!.. – Ліха з ім, з самалётам, *немцаў баяцца – на паравозе не ездзіць,* – махнуў рукой Каляда і злосна бразнуў дзверцамі топкі» (І.Гурскі).

**Ускладненне прыказак словамі свабоднага ўжывання.** Называючы гэты прыём «укліньваннем», «пашырэннем кампанентнага складу», «уключэннем у прыказку іншых слоў», некаторыя даследчыкі ілюструюць яго прыкладамі, калі паміж прыказкавымі кампанентамі аказваюцца звароткі, пабочныя канструкцыі, іншыя словы, не звязаныя з прыказкай граматычна і семантычна. У § 16 падрабязна аналізавалася з'ява структурнай пранікальнасці прыказак і рабілася выснова, што гэта з'ява – не стылістычны прыём, а адлюстраванне рэальнага функцыянавання прыказак у маўленні – на ўзроўні моўнай нормы. Напрыклад, (словы, праніклыя ў прыказку, выдзелены): «Дай божа, *як кажуць*, нашаму цяляці ваўка спаймаці» (В.Коўтун); «Бог, *заўваж, суседзе*, не цяля – бачыць круцяля» (Я.Колас); «За кампанію, *маўляў*, і цыган павесіўся» (Л.Гаўрылкін).

Індывідуальна-аўтарскім ускладненнем прыказкі трэба лічыць такія выпадкі, калі ў межы прыказкі ўключаецца слова, якое ўступае ў семантычныя і граматычныя адносіны не з усёй прыказкай, а толькі з пэўным яе кампанентам. Традыцыйная структура прыказкі ў такім разе пашыраецца, а сама прыказка атрымлівае семантычны зрух. Адбываецца ажыўленне слоўных якасцей паяснёнага пераасэнсаванага кампанента, яго актуалізацыя, а разам з тым павышаецца экспрэсіўнасць усяго выказвання.

Прыказка *Сам заварыў кашу, сам і расхлёбвай* абазначае 'сам распачаў што-небудзь клапатлівае, сам і выкручвайся'. Кампанент *кашу* тут не мае самастойнага лексічнага значэння і, здавалася б, не можа паясняцца якім-небудзь эпітэтам. Аднак у фантастычнай камедыі К.Крапівы «Брама неўміручасці» фізік Змітрук, звяртаючыся да акадэміка Дабрыяна, гаворыць: *Самі заварылі неўмiручую кашу, самі і расхлёбвайце.* Уключэнне прыметніка-эпітэта, які носіць удакладняльны характар, у склад прыказкі вытлумачваецца імкненнем лепш прыстасаваць гэты народны афарызм да кантэксту: у камедыі паказана, якія праблемы і вострыя сітуацыі ўзніклі пасля таго, як вучонаму Дабрыяну ўдалося адкрыць закон неўміручасці і як у гэтай сувязі праяўляюцца розныя якасці людзей. Уведзены ў прыказку прыметнік *неўміручую* сваёй экспрэсіяй і прыналежнасцю да іншага, «высокага» стылю не кантактуе з экспрэсіўна-стылістычнымі якасцямі прыказкі, таму становіцца аб'ектам асаблівай увагі, надае прыказцы экспрэсію іранічнасці, стварае камічнае ўражанне. Прыказка ўзбагацілася і семантычна, да яе звычайнага зместу прыплюсоўваецца значэнне слова

*неўміручую* і тое сэнсавае прырашчэнне, якое атрымлівае тут назоўнік *каша*.

Эфектыўна выкарыстана ў аповесці В.Быкава «Праклятая вышыня» прыказка *Бог цярпеў і нам вялеў*, у ёй іранічна-ацэначна ўдакладняецца кампанент *нам:* «– Пацерпім. – Во-во – цярпі. *Бог цярпеў і нам, дурням, вялеў*».

Прыказка *Каб такіх часта сеялі, ды рэдка ўзыходзілі* ўжываецца як зламысны праклён у дачыненні да нядобрага, шкоднага чалавека. У апавяданні А.Варановіча «Ластаўкі пакідаюць гнёзды» займеннікавы прыказкавы кампанент канкрэтызуецца, удакладняецца. Тут гаворыцца, як Алена наняла чалавека з суседняй вёскі перакрыць страху, а ў абед пачала яго частаваць. «Бутэльку на стол паставіла. «Пі, чалавеча». А не ведала таго, што гарэлку зяць даўно выпіў, замест яе вады наліў… – *Каб такіх, як твой зяць, часта сеялі, ды рэдка ўзыходзілі!* – прабурчаў Марцін».

У апавяданні Я.Коласа «Знайшлі» прыказка *Язык да Кіева давядзе* выкарыстана са значнымі змяненнямі яе формы, з уключэннем паміж яе кампанентамі слоў свабоднага ўжывання: «– Язык век па балоце скача і не гразне дый яшчэ і ў Кіеў у карчму завядзе, – гукнуў Нічыпар, таксама ўбачыўшы капялюш». Такое ўжыванне прыказкі адпавядае агульнай танальнасці ўсяго гэтага гумарыстычнага апавядання. Тут прыказка ўспрымаецца і са сваім звычайным сэнсам ‘пытаючыся, пра ўсё даведаешся, усё знойдзеш’, і з прамымі значэннямі двух яе апошніх кампанентаў.

Часам у склад прыказкі ўключаецца яшчэ адзін назоўнік, які аб’ядноўваецца з папярэднім прыказкавым кампанентам злучальнай сувяззю ў групу аднародных членаў, хоць яны абазначаюць лагічна неспалучальныя паняцці. Сітуацыйна абумоўленым з’яўляецца ўвядзенне ў прыказку назоўніка *табліца*: «– Мо ты ўжо праверыў табліцу? Мо выйгралі? – Смалы мы выйграем! – весела сказаў Мечыслаў Станіслававіч. – Як той казаў, *на бога і табліцу спадзявайся, а сам маху не давай!*» (Я.Васілёнак).

Прыказка *Чым багат, тым і рад* ужываецца, калі просяць гасцей паблажліва паставіцца да пачастунку. Іншы сэнс атрымлівае гэта прыказка, ускладненая ўключэннем ў абедзве яе часткі двух розных дзейнікаў. Яна выкарыстана ў сатырычным вершы К.Крапівы «Нямецкі дзед Мароз» (верш суправаджаецца малюнкам: у мяшку дзеда Мароза – косці): «Нёс я гасцінцаў вам трошку, ды трапіў якраз пад бамбёжку, засталося ў мяне іх не шмат: *чым Гітлер багат, тым я й рад*».

Ускладненне прыказак можа адбывацца разнастайнымі шляхамі, у тым ліку далучэннем да яе кампанента звязанага з ім слова, уключэннем у склад прыказкі незалежнага ад кампанентаў слова (напрыклад, неспрагальнага дзеяслова імгненнага дзеяння) і г.д.: «Умарыўся!.. *Жыццё пражыць – не поле перайсці з сахой…*» (З.Бядуля); «Шанцуе чалавеку. І, глядзі, не вучыўся, а жыве як! Гэта ж і праўда, кажуць: *ляжэнька на печы ляжыць, а доля да яго сама – хлоп! – на печ бяжыць…*» (А.Масарэнка). Ва ўсіх выпадках прыказка атрымлівае пэўны сэнсавы прывесак і ўспрымаецца як асвежаны экспрэсіўны сродак маўлення.

Як асобную разнавіднасць у межах гэтага ж стылістычнага прыёму варта разглядаць далучэнне да ўсёй прыказкі слоў свабоднага ўжывання ці словазлучэнняў, звязаных з прыказкай злучнікавай або бяззлучнікавай

сувяззю. Такое пашырэнне прыказкі садзейнічае актуалізацыі яе кампанентаў, часам істотна закранае яе сэнсавы змест і звычайна стварае камізм. Напрыклад, у аповесці Я.Радкевіча «Антаніна»: «Любіць Казік паўтараць недзе пачутую фразу: «з любым рай і ў шалашы – толькі з тэлевізарам – намякае на сваю халтурную работу ў тэлеатэльe». Або ў мініяцюры «Сіла языка» А.Лешчанкі чытаем: «Бытуе жарт здаўна ў народзе, усім яго запомніць варта: «Язык да Кіева даводзіць, а часам нават да… інфаркта». Прыказка *Кожнаму сваё* (калька з лацінскай мовы) абазначае 'ў кожнага свае схільнасці, здольнасці, магчымасці', у Р.Барадуліна яна атрымала камічны дадатак, зрыфмаваны з апошнім парэмійным кампанентам, і ў такім выглядзе выступае як важкі заключны акорд да папярэдняга выказвання: «Засталася лірыка Аркадзя Куляшова, паэмы, пераклады. А ад шмат якіх паэтаў, абвешчаных пасадамі, і напаміну не засталося. Кожнаму сваё – каму вуда, каму пугаўё».

**Выкарыстанне вобразнай асновы прыказак.** Гэты стылістычны прыём распаўсюджваецца толькі на прыказкі, якія маюць пераносны сэнс, у якіх усе ці амаль усе кампаненты пераасэнсаваныя.

З апісання папярэдніх прыёмаў відаць, што пры іх прымяненні структурная схема прыказкі ў асноўным захоўваецца: яна часткова ці поўнасцю запаўняецца іншым лексічным матэрыялам або пашыраецца за кошт слова, уведзенага ў прыказку. Пры выкарыстанні ж вобразнай асновы прыказкі яе традыцыйная структура парушаецца, разбураецца, ад прыказкі бярэцца толькі частка яе кампанентаў, якія даюць больш-менш яркае ўяўленне пра яе вобразную аснову. Часам намёкам на прыказку з'яўляецца яе адзіны кампанент ці слова, аднакаранёвае з яе кампанентам. Напрыклад, у «Альпійскай баладзе» В.Быкава: «– Ну, сволачы, цяпер чакайце! – сцішна, з ледзь стоеным, гатовым прарвацца запалам сказаў Жук. Галадай, устаючы ад бомбы, буркнуў: – Памаўчы. Раней *скокні*». Тут *скокні* – элемент вобразнай асновы прыказкі *Не кажы гоп, не пераскочыўшы.* «Чым лепш чытач ведае агульнанародную мову, тым лепш ён адчуе гэту аснову, тым паўней адчуе дасціпнасць і сілу вобразаў і выразаў» [104, с. 179].

Больш-менш выразны намёк на пэўную прыказку адчуваецца і ў наступных кантэкстах (тут асобныя прыказкавыя кампаненты выдзелены): «Хваліўся *збан*, што *носіць воду*, але забыўся на слупкі, што б'юць збанок на чарапкі – і панскага не будзе зброду» (Я.Колас); «– Хадзем жа! – Не магу. – Чаму? – Адвагі мала. Далёкі свет, чужы. – А помніш, ты казала пра *рай у шалашы*?» (А.Куляшоў); «Паэт.. узростам яшчэ не стары, а прэтэндуе на бязгрэшнасць, на тытул майстра. Але чытача зараз цяжка *правесці на мякіне.* Дый *вераб'і* інакшыя сталі, таксама ў корме разбіраюцца» (Р.Барадулін).

Я.Купала ў вершы «Час!» піша: «Усходзе сонца залатое роўна ўсім свяціць». І яшчэ праз тры радкі: «Дык і нам цапы і косы час браць з вышак, покі росы воч не згрызлі ў нас». За метафарычнымі прэдыкатыўнымі словазлучэннямі «ўсходзе сонца» і «покі росы воч не згрызлі» адчуваюцца творча выкарыстаныя элементы прыказкі *Покі сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.*

У камедыі «Хто смяецца апошнім» К.Крапіва вельмі часта карыстаецца падтэкстам, у прыватнасці пры абмалёўцы вобраза Гарлахвацкага, амаль кожная рэпліка якога пабудавана так, што

змяшчае ў сабе выкрывальны эфект, накіраваны на самога персанажа. Каб ашальмаваць сумленнага вучонага прафесара Чарнавуса, Гарлахвацкі, даведаўшыся, што яго хаўруснік Зёлкін ужо «шапнуў» на геафаку пра Чарнавуса, вырашае «падліць масла ў агонь». Ён звоніць у выдавецтва і аб'яўляе прафесара ворагам, шкоднікам. Зрабіўшы гэты больш чым непрыстойны, ганебны ўчынак, ён задаволена гаворыць сам сабе: «Ну, пасеяў, дай божа ўраджай сабраць». І з-пад гэтай фразы выглядае падтэкст, накіраваны супраць самога Гарлахвацкага – сапраўднага шкодніка і прайдзісвета, падтэкст, які ўкладваецца ў прыказку *Што пасееш, тое і пажнеш.*

Лёгка ўгадваецца ў «Лясной казцы» К.Крапівы падтэкст такога ж самавыкрывальнага характару *(Ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць)* і гучыць як адказ на знойдзеныя лянівым Абібокам «аб'ектыўныя» прычыны, каб не ехаць на лесанарыхтоўку:

І наогул ужо нярана,
Ды дарога ў лес не працёрта,
Ды ваўкоў жа ў лесе да чорта:
Туды ехаць – шукаць сабе згубы:
Пападзіся ім толькі на зубы.

Вобразная аснова некаторых прыказак выкарыстоўваецца асабліва часта. Пры гэтым элементы вобразнай сістэмы адной і той жа прыказкі ўключаюцца ў больш шырокі кантэкст звычайна па-рознаму, становячыся будаўнічым матэрыялам гэтага кантэксту і падпарадкоўваючыся заканамернасцям лексіка-граматычнай спалучальнасці з іншымі моўнымі адзінкамі. Неаднолькава выкарыстоўваюцца, напрыклад, асобныя кампаненты прыказкі *Хто топіцца, і за саломінку хопіцца,* аднак ва ўсіх выпадках яны выклікаюць у свядомасці чытача асацыяцыі, звязаныя менавіта з гэтай прыказкай і яе цэласным сэнсавым зместам 'у бязвыхадным становішчы, калі няма магчымасці выбару, звяртаюцца нават да безнадзейнага сродку': «І хоць [Андрэй] разумеў, што шанц нешта паправіць, перайначыць у яго не больш, чым саломінка для тапельца, усё роўна не рашаўся забіраць дакументы, спадзеючыся на цуд» (В.Блакіт); «– А як жа Галіна? А Толік?.. Ты хоць пра іх падумаў? – як за апошнюю саломінку, ухапіўся я за гэтую думку» (Я.Васілёнак); «Нехта назваў маё імя. Гэта было падобна на тапельца, які хапаецца за саломінку. Аднак калі мужчыны крыху паразважалі, то згадзіліся, што я не такі ўжо блазан» (А.Якімовіч).

Прыказка *Што пасееш, тое і пажнеш* мае структуру складаназалежнага сказа, яе дзеяслоўныя кампаненты застылі ў форме другой асобы адзіночнага ліку. Выкарыстоўваючыся ў дэфармаваным выглядзе, прыказка страчвае сваю ранейшую структурную схему, але звычайна захоўвае форму складаназалежнага сказа, дзеяслоўныя кампаненты дэфармаванай прыказкі ўжываюцца ў розных асабовых формах: «Мы вучым дзяцей хлусіць, мы падрываем веру ў справядлівасць, сумленне, чысціню. А потым уздыхаем: чаму старшакласнікі нахабныя, бессаромныя цынікі? Мы жнём тое, што сеем. І пачынаем сеяць у першым класе» (Л.Левановіч); «Мы не дамо жыцця захопнікам. Яны пажнуць тое, што пасеялі» (І.Шамякін); «Разбэсціў гэтага дамарошчанага генія – цяпер жні, што пасеяў» (І.Шамякін); «От так вот... Кончыліся забаўкі... Пасеяў, то жаць трэба...» (П.Місько).

Супаставім яшчэ некалькі прыкладаў разнастайнага выкарыстання вобразнай асновы адных і тых жа прыказак у творах розных аўтараў: «Баяўся гэтага Гарыдавец, але калі пайшоў, здружыўшыся, у лес з ваўкамі – па-воўчаму і вый» (М.Танк); «Тут толькі пакажы слабасць, дык цябе адразу з'ядуць, бо навокал ваўкі, каб з імі жыць, трэба па-воўчаму выць...» (І.Шамякін); «Меў Міхед вялікі вопыт, мог з ваўком па-воўчы выць (А.Астрэйка); «Трапіў [Клімчук] у воўчую зграю і вый па-воўчы... Як бы цяпер ні хацеў, а звароту назад да сваіх няма» (М.Гамолка); «Адзін Віктар не п'е, няма яшчэ такой звычкі, а ў кампаніі – атлёт... Павесіўся б, як той цыган, за кампанію» (П.Місько); «– Не ведаю, як хто, а я буду пад яблынямі [спаць]... – Я таксама ў садзе... – А я, як той цыган, што за кампанію павесіўся. – Старэйшы таксама пажадаў спаць у садзе» (Л.Гаўрылкін).

Часта носьбітамі вобразнасці пэўнай прыказкі выступаюць назоўнікавыя кампаненты, якія і намякаюць на саму прыказку, напрыклад: «Памятай, Мікола Крывавы: цяпер табе *масленіца*, але прыйдуць і посныя дні» (Я.Колас); «Не тую выбралі дарогу: у маны кароценькія ногі. Няхай яшчэ і тое знаюць: не *жабе* раскусіць *арэх*...» (А.Бачыла); «І кожны другі абразіўся б, падыдзі я са сваім кантролем. Прафесійны гонар толькі зачапі... Ды яшчэ нейкі практыкант... *яечка* супраць *курыцы*!» (Э.Ярашэвіч).

Прыказка ў яе традыцыйнай форме заўсёды з'яўляецца закончаным суджэннем-сказам. Пры выкарыстанні ж яе ў дэфармаваным выглядзе яе асобныя кампаненты становяцца структурнымі элементамі сказа, членамі сказа. Напрыклад, у ролі выказніка выступаюць зменены першая частка прыказкі *Апёкшыся на малацэ, на ваду дзьмеш* і параўнальны зварот, скампанаваны на аснове назоўнікавых кампанентаў прыказкі *На воўка памоўка, а воўк тут:* «– Усё невядомае палохае. Адкуль я ведаю, што мяне чакае з табою? Ды яшчэ я буду не адна... Каму патрэбна чужая бяда, лішні клопат? – Ты *апяклася на малацэ*!» (У.Дамашэвіч); «І чыгунок бульбы маладое [Ніна] адварыць. І сялёдчык ёсць. Хоць госця прымай. А госць – як *воўк на памоўку.* На двары стукнула фортка варот. Андрэй?» (М.Лобан). Будаўнічым матэрыялам для сказа становяцца асобныя кампаненты прыказкі *Адна паршывая авечка ўвесь статак псуе:* «Працуе цэх, шчыруе цэх, ідзе ўсё чынна-гладка. Ды завялася, як на грэх, *адна авечка ў статку...*» (Г.Кляўко).

Цікава выкарыстана прыказка *Кропля камень крышыць* (яе сэнс – 'частымі і настойлівымі дзеяннямі можна дасягнуць многага') у аповесці Я.Брыля «У Забалоцці днее»: «І ўсё, што гаварыў Капейка, ападала на цвёрдае сэрца майго швагруся, нібы кропля на камень. Паслаць такога суцяшальніка к чорту – што ён зрабіў бы раней – Міхась ужо не мог: кроплі рабілі сваё». Тут прыказка спачатку дае аб сабе знаць у межах параўнальнага звароту, а пасля – як асобны кампанент *(кроплі),* надзелены кантэкстуальным значэннем 'частыя і настойлівыя дзеянні', атрыманым ад цэласнага зместу прыказкі.

У навуковай літаратуры да індывідуальна-аўтарскіх прыёмаў творчага выкарыстання прыказак са змяненнем іх формы нярэдка адносяць і іх скарочанае ўжыванне, або эліпсіс.

Тыя ці іншыя аўтарскія фармальныя змяненні прыказак успрымаюцца як стылістычны прыём толькі тады, калі яны

мэтанакіраваныя і іх мастацкая эфектыўнасць відавочная. Што да эліпсіса прыказак, то творчы пачатак у тым, што аўтар выкарыстаў прыказку ў скарочанай форме, фактычна зводзіцца да мінімуму. Напрыклад, прыказка *Чакай, бабка, Пятра – сыр з'ясі*, як і шмат якія іншыя, ужываецца і ў скарочаным варыянце, з недагаворваннем яе апошняй часткі: *Чакай, бабка, Пятра!..* (Я.Купала). Персанаж або аўтар разлічвае ў такіх выпадках, што суразмоўнік ці чытач добра ведае прыказку ў яе нескарочаным лексічным складзе і ў думках дапоўніць яе. Як паказвае даследаванне Г.Л.Пермякова, ад 800 да 1500 прыказак уваходзяць у парэмійны мінімум, з'яўляюцца шырокавядомымі і без цяжкасцей могуць быць дапоўнены і завершаны носьбітам мовы, калі яму прапанаваць толькі пачатак таго ці іншага народнага афарызма [90, с. 131–137].

Параўн. выкарыстанне прыказкі *Не мела баба клопату, дык купіла парася* ў рэпліцы аднаго з персанажаў рамана І.Мележа «Людзі на балоце»: *Не мела, грэц яго, баба клопату!..* Яшчэ толькі некалькі прыкладаў з вялікага мноства: «Да таго ж лічу, народная прыказка вельмі мудрая: *«Хто старое памяне...»* (І.Шамякін); «– Нарэшце гэты мацёры бальшавіцкі воўк ідзе проста ў маю пастку! – *Не кажы гоп...*» (П.Васілеўскі); *«Закон, кажуць, што дышла..* На сілу трэба мець сілу, а не закон» (А.Якімовіч).

Непаўната прыказкі на пісьме абазначаецца шматкроп'ем, а вымаўленне такіх прыказак звычайна суправаджаецца інтанацыйнай незаконачанасцю. Скарочанае выкарыстанне прыказак адлюстроўвае тыповую для вуснага маўлення з'яву і павінна кваліфікавацца як стылістычна не абумоўленае змяненне прыказак.

## § 25. Семантычныя змяненні прыказак

Раней (§ 23) ужо адзначалася, што другая разнавіднасць творчага выкарыстання прыказак – семантычныя змяненні, пры якіх форма прыказкі застаецца традыцыйнай, а ў далейшым выказванні прыказка абыгрываецца разнастайнымі прыёмамі і гэтым так ці інакш закранаецца яе сэнсавы бок.

Аналагічная разнавіднасць ёсць і пры выкарыстанні фразеалагізмаў, але ў іх куды большыя магчымасці для гэтага, чым у прыказак. Большая частка фразеалагізмаў узнікла з пераменных словазлучэнняў такога самага лексічнага складу, таму ўсякае наўмыснае супрацьпастаўленне фразеалагізма або яго асобных кампанентаў адпаведным словам ці слову свабоднага ўжывання выклікае двухсэнсавае ўспрыняцце. Супярэчнасць паміж семантычнай непадзельнасцю фразеалагізма і яго расчлянёнай формай, кампанентным характарам яго структуры, з аднаго боку, структурная блізкасць фразеалагізма са словазлучэннем, а ў вельмі многіх выпадках і іх слоўна-кампанентнае супадзенне, з другога боку, ствараюць спрыяльныя ўмовы для featureрознага тыпу вобразна-семантычных пераасэнсаванняў, для так званых абыгрыванняў, калі, напрыклад, у пэўным кантэксце той ці іншы выраз успрымаецца двухпланава ці ажыўляецца яго ўнутраная форма. Існуе пэўная сувязь паміж тыпам фразеалагізма і яго магчымасцю абнаўляцца, абыгрывацца. Найбольшыя патэнцыяльныя магчымасці ў гэтых адносінах маюць фразеалагічныя

адзінствы – выразы з жывой унутранай формай, з рэальным ці нерэальным вобразам у іх аснове. Такія фразеалагізмы на фоне суадносных свабодных словазлучэнняў успрымаюцца як разгорнутыя метафары, а таму параўнальна лёгка падпадаюць як пад семантычныя, так і пад структурна-семантычныя змяненні. Напрыклад, нярэдка ўнутраная форма фразеалагізма агаляецца параўнальным зваротам, пастаўленым побач з фразеалагізмам, у выніку чаго ажыўляецца семантычны вобраз, прыхаваны, скажам, у фразеалагічнай адзінцы *выссаць кроў* (з каго): «Ты, як п’яўка, усю кроў з нас выссаў!» (В.Дунін-Марцінкевіч).

Калі ж звярнуцца да фразеалагізмаў тыпу зрашчэнняў, г.зн. выразаў з найбольшай ступенню семантычнай цэласнасці, але нематываваных, часам з рэліктавым кампанентам у іх складзе або з невыразнай сінтаксічнай сувяззю паміж састаўнымі часткамі, то яны хоць і абыгрываюцца, але рэдка. На долю фразеалагічных зрашчэнняў прыходзіцца каля 20 % ад агульнай колькасці выяўленых у беларускіх мастацкіх і публіцыстычных тэкстах аказіянальна выкарыстаных фразеалагізмаў. Выключна рэдка «амалоджваюцца» нешматлікія фразеалагізмы з так званым аналітычным ці паўаналітычным значэннем тыпу *адбіваць хлеб, падаць духам; з пустымі рукамі, пад гарачую руку*, у якіх усе кампаненты або адзін з іх з’яўляюцца сэнсаўтваральнымі і семантычна суадносяцца са значэннямі адпаведных слоў свабоднага ўжывання.

Што да прыказак, то іх магчымасці выкарыстоўвацца з семантычнымі змяненнямі значна абмежаваныя. Найчасцей абыгрываюцца прыказкі 1-й семантычнай групы, шмат радзей – 2-й групы, зусім не абыгрываюцца прыказкі 3-й групы. Абмежавана і колькасць тыповых прыёмаў эфектыўнага выкарыстання прыказак са змяненнямі семантычнага характару: у фразеалогіі іх 14 (гл. [71, с. 141–173]), а ў парэміялогіі – 6, прычым некаторыя прыёмы, тыповыя для творчага ўжывання прыказак, у галіне фразеалогіі займаюць перыферыйнае месца. І наадварот.

Пры абыгрыванні прыказак (у адрозненне ад фразеалагізмаў) сэнсавая двухпланавасць сустракаецца вельмі рэдка. Прыказка ўспрымаецца са сваім звычайным значэннем, але даволі часта яна атрымлівае сэнсавае прырашчэнне за кошт кампанента, абыгранага ў далейшым кантэксце, абрастае дадатковымі асацыятыўнымі ўяўленнямі. Галоўны вынік, які дасягаецца пры абыгрыванні прыказак, – гэта павелічэнне «вобразнай энергіі», экспрэсіўнасці больш шырокага кантэксту, у цэнтры якога – творча выкарыстаная прыказка. Часам такім кантэкстам з’яўляецца значны ўрывак твора. Пакажам гэта на такім прыкладзе.

Прыказка *Бог не выдасць, свіння не з’есць* абазначае ‘нічога кепскага не павінна здарыцца’ і гаворыцца для заспакаення, што ўсё пагрозлівае, небяспечнае мінецца і што з рызыкоўнага становішча будзе выйсце. Яна выкарыстана ў п’есе К.Крапівы «На вастрыі» – у наступным эпізодзе. Урач Галубовіч гаворыць загадчыку хірургічнага аддзялення Ракітнаму: «Вось тэлеграму атрымаў. У Мінск выклікаюць. На чацвер назначана абарона маёй дысертацыі. Так што прашу дазволу». І далей: «[Ракітны:] Калі ласка. Жадаю поспеху. Як той казаў – ні пуху ні пяра. [Галубовіч:] Трэба абараняць, пакуль яшчэ ў ВАК не пайшла заява, а то

тады ад маёй дысертацыі паляцяць і пух, і пер'е. [Ракітны:] Будзем спадзявацца на лепшае. *Бог не выдасць, свіння не з'есць*». Праходзіць некалькі дзён. Галубовіч вяртаецца з Мінска, сустракаецца з Ракітным. І зноў, ужо ў 12-й карціне п'есы, усплывае тая самая прыказка, але толькі сваімі асобнымі кампанентамі, апрадмечанымі, напоўненымі канкрэтным значэннем: «[Ракітны:] А што здарылася? [Галубовіч:] *Свіння* хоць і не *з'ела* мяне, але здорава нагадзіла. [Ракітны:] Якім чынам? [Галубовіч:] Ананімка мяне апярэдзіла. З ВАКа прыйшло распараджэнне адкласці абарону да высвятлення справы. [Ракітны, з абурэннем:] Гэта чорт ведае што! [Галубовіч:] Так што *свіння* сваю справу зрабіла. Цяпер невядома, як *бог*: выдасць ці *не выдасць*». Кантэкстуальныя значэнні канкрэтызаваных тут слоў і словазлучэнняў можна перадаць так: *свіння* – 'подлы чалавек-ананімшчык', *бог* – 'праўда, справядлівасць', *бог не выдасць* – 'праўда пераможа'.

Ужо ўпаміналася, што ў групе семантычных змяненняў прыказак можна выдзеліць 6 стылістычных прыёмаў.

**Выкарыстанне на фоне прыказкі яе кампанентаў.** Гэты прыём найбольш пашыраны сярод іншых. Ім, як правіла, абыгрываюцца прыказкі алегарычнага характару, а таксама такія, у якіх амаль усе кампаненты пераасэнсаваліся. Паўтараецца ж услед за прыказкай і набывае спецыфічнае, кантэкстуальнае значэнне абавязкова пераасэнсаваны кампанент. Ён становіцца нібы ўмоўным знакам, які чэрпае сваё значэнне з семантыкі ўсёй прыказкі. Дастасоўваючыся да канкрэтнай з'явы, прыказка як бы пераносіць сваю алегорыю на гэтыя з'явы. У выніку ствараецца магчымасць словамі-вобразамі, што леглі ў аснову прыказкі, называць самі з'явы, прадметы, людзей.

Часта такім чынам апрадмечваецца назоўнікавы кампанент прыказкі, якой характарызуюць дзеянні, паводзіны людзей, і прымяняецца ў дачыненні да пэўнага чалавека ці групы людзей. Так, напрыклад, у аповесці В.Блакіта «Шануй сваё імя» на фоне прыказкі *Не хвалі кабылу запрагаючы, а нявестку прыбіраючы* выкарыстоўваецца апрадмечаны кампанент *нявестку*. Адзін з персанажаў, выступаючы на агульным сходзе калгаснікаў, асуджае раённага начальніка, які «сватае» ім Сурмілу ў якасці старшыні аб'яднанага калгаса. «– Сватава дзела сватаць, а мы самі з вусамі. Не хвалі, сваток, кабылу запрагаючы, а нявестку прыбіраючы… – Прыгразіў сваім крывым пальцам, потым тыцнуў на Сурмілу: – Мы гэтую *нявестку* до-о-обранька-а знаем!..» Сэнс канкрэтызаванага тут кампанента даволі празрысты, як празрысты ён і ў такіх урыўках: 1) – Калі б уланы рабавалі саміх немцаў, то, можа б, яны і далі адпор… А другіх ім не шкада. – Воран ворану вока не выдзеўбе, – зрабіў вывад з усёй гісторыі Азаркевіч. – А яны не толькі *вораны*, а і шакалы. І адзін ірве колькі можа, і другі (А.Якімовіч); 2) [Валодзя:] А ты ўжо і прыраўнавала [Валю]. [Надзя:] Глядзі, брат, за двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш. [Валодзя:] За гэтым *зайцам* я не ганяюся. [Надзя:] Дык, можа, *заяц* за табой? [Валодзя:] У нас з ёю старая дружба (К.Крапіва).

Канкрэтызацыя назоўнікавага кампанента (зрэшты, як і іншых кампанентаў) найчасцей бывае ў дыялагічным маўленні. Другі суразмоўнік востра рэагуе на прыказку, ужытую папярэднім суразмоўнікам: «– Няма каб памагчы злодзея за каўнер узяць, дык яшчэ пакрываюць. Усё сяло абыдзі, не ўпросіш чалавека за сведку пайсці.

Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе, – скончыў ён [Сомік] не зусім дарэчы. Старога Верамейчыка кальнулі гэтыя Сомікавы словы.. «Ці не я гэта ўжо *крумкач*?» – падумаў ён насупіўшыся» (К.Крапіва). Параўн. прыклад, дзе ўслед за прыказкай *Дзяк не поп, бярэ і боб* ідзе як ацэначнае слова не толькі *дзяк*, але і суадноснае з ім – *дзячыха*: «[Лена:] Ты ж ад мамы ўсё грабеш! Пра цябе ж сказана: дзяк не поп, бярэ і боб! [Валодзя:] Гэта Люда мая – *дзяк*? Ну і ну! Тады ты, Ленка, самая што ні ёсць *дзячыха*!» (М.Гіль).

Як відаць з папярэдніх прыкладаў, выкарыстаныя тут прыказкі маюць абагульнены сэнс, а ўжытыя на іх фоне назоўнікавыя кампаненты атрымалі канкрэтнае значэнне, накіраванае на пэўную асобу. Даволі часта, у адрозненне ад гэтага, назоўнікавыя кампаненты рэалізуюць аказіянальнае значэнне, так ці інакш звязанае з сэнсавым зместам прыказкі і яе вобразнай сістэмай. Незвычайны сэнс атрымлівае слова *яма* (‘пагроза’) і словазлучэнне *яму пераскочыць* (‘пазбегнуць небяспекі, застацца жывым’) у такім урыўку: «[Яфрэйтар-немец:] У рускіх ёсць хітрая пагаворка: не кажы «гоп» – пакуль не пераскочыш яму. Калі я адпраўляўся ў дарогу, я і не думаў, што гэта *яма* будзе такая небяспечная. І Гуго не ведаў, што трапіць у *яе* з партызанскаю куляю. Ледзь не з кожнага лесу чакаў стрэлаў… І ўсё ж мы *яму пераскочылі* – і можна сказаць – *гоп*…» (І.Мележ).

Адзін і той жа кампанент, ужыты ў розных тэкстах пасля аднолькавай прыказкі, можа атрымаць рознае значэнне. Напрыклад, слова *свята* як абыграны кампанент прыказкі *Будзе свята і на маёй (нашай) вуліцы* ў адным выпадку абазначае ‘ўрачыстасць’, а ў другім – ‘перамога’: 1) – Я не злуюся. Алена… У цябе сёння больш зроблена. Але… будзе свята і на маёй вуліцы! – Тады пазавеш мяне на сваё *свята*, – засмяяўшыся, адказала яна і пайшла (А.Чарнышэвіч); 2) [Гудовіч:] Ну, а як настрой там, на Вялікай зямлі? [Юля:] Лётчыкі расказваюць: настрой адзін – перамагчы. Будзе і на нашай вуліцы свята. [Гудовіч:] Хацелася б дажыць да гэтага *свята*. [Юля:] А мы дажывём. [Гудовіч:] Трэба дажыць, Юлінька. Дажыць, чаго б гэта ні каштавала! А тады ўжо мы і пасвяткуем. На ўвесь свет будзе наша *свята* чутно (К.Крапіва).

Кампаненту-назоўніку абыгранай прыказкі можа вяртацца яго першаснае, прамое значэнне (першы прыклад) ці адно са значэнняў, якія ўваходзяць у сэнсавую структуру дадзенай лексемы (другі прыклад): 1) [Мусніцкі:] Усе мы праліваем кроў толькі за саміх сябе. І кожнаму свая кашуля бліжэй да цела. Старыя ісціны. [Раброў:] Трымаючыся гэтай старой ісціны, вельмі лёгка страціць *кашулю* разам з *целам* (П.Васілеўскі); 2) От вы пытаецеся, як жывём. Жывём, хлеб жуём, як той казаў, толькі нялёгка нам той *хлеб* даўся. Паваявалі мы са сваім балотам – гэта ж яшчэ да вайны пачалі яго асушваць (В.Палтаран). Іншы раз паўтарэнне прыказкавага кампанента ў яго зыходным, прамым значэнні стварае камічны эфект або служыць сродкам маўленчай характарыстыкі персанажа: «[Надзя:] І наогул, Антаніна Пятроўна, сёння я ў вас апошні дзень. Пасуду памыю пасля гасцей – і бывайце здаровы. *Вось вам хамут і дуга, і я вам больш не слуга*. [Антаніна Пятроўна:] Які *хамут*? Што ты такое гародзіш? [Надзя:] А вось такі… Абрыдлі мне гэтыя чарапы. На завод пайду» (К.Крапіва). Можна меркаваць, што Антаніна Пятроўна, жонка галоўнага інжынера аўтазавода, упершыню з вуснаў сваёй хатняй

работніцы чуе выдзеленую тут прыказку, не разумее фігуральнага сэнсу яе першай часткі, а таму і перапытвае: «Які хамут?»

Як і ў папярэднім прыкладзе, названы стылістычны прыём наогул досыць часта служыць сродкам стварэння камічнага ўражання. Прыказка *Будзе табе (нам) дудка, будзе і свісток* ужываецца як пагроза пакараць каго-небудзь ці як чаканне пакарання. У п'есе А.Макаёнка «Выбачайце, калі ласка» на фоне гэтай прыказкі яе назоўнікавыя кампаненты, ствараючы камічны эфект, напаўняюцца кантэкстуальным сэнсам, не парываючы, аднак, сувязі з яе агульным зместам: «[Гарошка:] Дачуецца Каліберaў – будзе нам і дудка, будзе і свісток. Не? [Моцкін:] Навошта табе *свісток*?.. Хопіць з цябе і *дудкі*... А паслязаўтра на пасяджэнні ад Каліберава не толькі *дудка*, труба табе будзе». У п'есе К.Крапівы «Канец дружбы» на фоне прыказкі *І я не я і кабыла не мая* разгортваецца кантэкст з выкарыстаннем назоўнікавага кампанента, які нясе з сабою метафарычны «зарад» папярэдняга афарызма: «Таварыш Лютынскі пра Далеўскага тут выказаўся так, што гэта, бачыце, «і я не я і кабыла не мая». А *кабыла* то якраз ваша, таварыш Лютынскі, якраз землеўпарадкаванне было вашым улюбёным *каньком*». Кампанент *кабыла* супастаўляецца са словам *канёк*, ужытым у пераносным значэнні 'заўсёдны прадмет думкі', у выніку чаго ўнутраная форма гэтага слова агаляецца, пры яго ўспрыманні сутыкаюцца супрацьлеглыя асацыяцыі, што і стварае камізм.

Значна радзей абыгрываецца дзеяслоўны кампанент прыказкі. Семантычна намагнічаны сэнсавым зместам прыказкі, ён рэалізуе кантэкстуальнае значэнне. Напрыклад, у аповесці І.Макаловіча «Версія капітана Барташа» – у размове супрацоўнікаў крымінальнага вышуку: «– Ну годзе дакараць сябе... Конь на чатырох нагах і то спатыкаецца. Ды гэта яшчэ праверыць трэба, ці *спатыкнуліся*... – *Спатыкнуліся*, Сцяпан, *спатыкнуліся*... Сэрцам чую». Або такія ўрыўкі: 1) Мы проста выпрабоўваем вас – ну, нашых... правадыроў... Ведаеш, браток Андрэй, ёсць прыказка – сем разоў прымер і адзін раз адрэж. Дык чаму ж мы не можам *прымерыць*! (Я.Колас); 2) У мяне ў гасцях часам бываюць начальства з фельдкамендатуры, гарадскі бургамістр і нават камандуючы вобласці. Сам ведаеш прымаўку: «Не падмажаш – не паедзеш». Вось я і *падмазваю*. Кожны раз так накачаю, што на нагах не стаяць (І.Новікаў); 3) Двор, дзе служыў ён [Прохар], прадалі, і гаспадарыць узяўся другі. Новая мятла іначай мяце, і пачалі *вымятаць* усё непатрэбнае, і *вымелі* Прохара за браму (У.Галубок).

Сустракаецца нямала прыкладаў, калі на фоне папярэдняй прыказкі выкарыстоўваюцца не адзін, а два і больш кампанентаў. Часам гэтымі кампанентамі называюць пэўных асоб, пра якіх ідзе гаворка ў дадзенай маўленчай сітуацыі. Такую ролю выкарыстоўваюць або разрозненыя назоўнікавыя кампаненты, або часткі прыказак у форме назоўнікавага словазлучэння: 1) Збольшага я ведаю, як яны разышліся. Каса на камень наскочыла. Праўда, неяк жа і *каса з каменем* гадоў дзесяць мірыліся, дзяцей гадавалі (В.Карамазаў); 2) – Стары вол баразны не псуе, – сказала некалькі чалавек у адзін голас. А гэты *«стары вол»* пыхнуў дымам з люлькі, і дым закрыў яго твар, яго крыху сарамлівую ўсмешку (П.Пестрак); 3) Бацька, казалі людзі, пракляў дачку-ўцякачку, бачыць яе не хоча і крычаў, напіўшыся ў Белазора, што Дзіна адна такая гуляшчая з усіх Радзімовічаў і што на вытаптанай дарозе трава не расце.

Бач, куды верне. Гэта яна, Дзіна, *вытаптаная дарога*, яна, што і пацалавалася ўпершыню толькі з Міхасём Сырамалотам. Крыўдна рабілася ад такога, але няхай, няхай звягае неразумны бацька (Л.Дайнека).

Пры абыгрыванні прыказак з выкарыстаннем на іх фоне некалькіх кампанентаў найчасцей аднаўляецца першапачатковае, зыходнае значэнне гэтых слоў-кампанентаў. У такім разе ў межах звычайна двух суседніх сказаў адбываецца сутыкненне розных сэнсаў: фігуральнага, пераноснага (у прыказцы) і прамога, літаральнага (у словах, аднолькавых гучаннем з кампанентамі прыказак). Гэтым сутыкненнем і ствараецца стылістычны эфект. Некалькі прыкладаў: 1) – Людзей вешаюць за адно падазрэнне, што яны звязаны з партызанамі. – Дык што ж, ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць? – *«У лес не хадзіць»*, – передражніў яе Андрэй. – Табе, як я бачу, *у лес хадзіць* не трэба. *Ён* сам ідзе да цябе. Што, можа, гэты госць з *лесу* заданне табе даваў?.. (Л.Арабей); 2) «На бязрыб'і і рак рыба», – казаў калісьці паважаны папаша. Так, *на бязрыб'і* нашым, на нашай бязладзіцы, на нашым веку сумным, часе кручаным... Так, *на бязрыб'і*.... «Смеласць гарады бярэ», – так калісьці казаў паважаны папаша. Так, *гарады... Гарады* і *смеласць*. Не, папаша, не ў *смеласці* справа, здаецца. У *гарады*, дружа, не суйся пакуль – прышчэмяць нос (М.Лынькоў).

У некаторых выпадках у выказванні, якое ідзе следам за прыказкай, паўтараецца яе частка з двух кампанентаў, утрымліваючы ў сабе прыналежную ёй «долю» сэнсавай структуры ўсёй прыказкі. Напрыклад, кампанент *яблыкі* ў прыказцы *Яблыкі ад яблыні далёка не падаюць* можа семантычна суадносіцца са словам *дзеці*, кампанент *яблыні* – са словам *бацькі* і г.д. У аповесці В.Блакіта «Шануй сваё імя» Кунцэвіч разважае пра аднавяскоўца Мацея і яго дзяцей, якія, як толькі памёр бацька, пачалі, «як ваўкі, як шакалы якія», грызціся за бацькавы тысячы. «Усю вёску асаромілі. Што ж, яно і праўда: яблыкі ад яблыні далёка не падаюць... А яго, Кунцэвічавы *яблыкі* куды *ўпадуць*? Хто ж яго ведае, куды ўпадуць...» Тут выказванне *яго яблыкі куды ўпадуць* абазначае 'яго дзеці якімі стануць'.

Прыказка *Перамелецца – мука будзе* абазначае 'ўсё непрыемнае, дрэннае пройдзе, забудзецца'. У пададзеным ніжэй урыўку на фоне гэтай прыказкі паўтараецца спачатку *мука будзе*, а затым *мука*; слова *мука* тут атрымала аказіянальнае, не звязанае з агульным сэнсам прыказкі значэнне 'расплата, помста': «Больш цвяроза разважаў Грэйнім. Ён не лаяў Довіда. «Перамелецца – мука будзе», – казаў ён, але ўсе зразумелі, што *мука будзе* з Довіда. «І добрая *мука*!» – устаўляў Грэйнім рэплікі ў гарачыя прамовы бацькі і маці» (А.Чарнышэвіч).

Гэта ж прыказка неаднаразова і аднатыпна абыгрываецца ў творах многіх пісьменнікаў: яе паўтораны следам за прыказкай кампанент *мука* сутыкаецца з амографам *мýка*, у выніку чаго ствараецца каламбур. Вось толькі некаторыя ілюстрацыі: 1) Ён [пісар] не парушыўся ў сваіх перакананнях, нават пабачыўшы бурлівы вір маніфестантаў на вуліцах Пінска, калі паліцыя баязліва пахавалася. А старшыні сказаў: – Нічога, Захар: перамелецца – мука будзе. – Або муќа, або мýка, – уздыхае старшыня (Я.Колас); 2) Лабановіч спыніўся ў дзвярах бакавушкі і сказаў: – Перамелецца – мука будзе. – Можа, мукá, а можа і мýка, – заўважыў Турсевіч (Я.Колас); 3) [Ракітны:] А што? Заява

непакоіць? Глупства ўсё гэта. Перамелецца – мука будзе. [Галубовіч:] Перамелецца, тады тое і будзе. А пакуль што не мука́, а му́ка (К.Крапіва).

**Разгортванне метафарычнага кантэксту на вобразнай аснове прыказкі.** Метафарычным кантэкстам называюць сукупнасць узаемна звязаных тропаў, якія разгортваюцца ў пэўнай паслядоўнасці і засноўваюцца на семантычнай двухпланавасці. Названы прыём грунтуецца на актуалізацыі ўнутранай формы прыказкі і развіцці на гэтай аснове цэлага малюнка ў напрамку, які задаецца метафарычным сэнсам прыказкі. «Зона дзеяння» прыказкі выходзіць за яе межы, пашыраецца на ланцужок метафар, у якім першае звяно – прыказка.

У наступным урыўку іншасказальны, пераносны сэнс набылі амаль усе словы, што ідуць услед за прыказкай, а сама прыказка атрымала сэнсавае прырашчэнне і завершанае паэтычнае рашэнне: «Нарэшце [Ігнат Сцяпанавіч] глыбока зацягваецца, пускае дым, гаворыць ціха, як сам сабе: – Камень на адным месцы і той абрастае, а пачні качаць яго туды-сюды – у порах рассыплецца» (А.Кудравец).

Развіццё вобразных асацыяцый, звязаных з папярэдняй прыказкай, адбываецца па-рознаму. Часам выкарыстоўваецца прыказкавы кампанент, у якім аднаўляецца першапачатковае, зыходнае значэнне. Метафарычны кантэкст, у цэнтры якога – прыказка, звычайна характарызуецца сэнсавай двухпланавасцю. Тры прыклады: 1) Кажуць, што вялікаму караблю – вялікае плаванне. Дык Сёмка Фартушнік, як узбуяў добра, не стаў вялікі карабель. На вялікую глыбіню ён нырца ніколі не даў, меў дробны ход (К.Чорны); 2) Шмат [пра В.Быкава] напісана подлага, брыдкага, пра што і ўспамінаць не хочацца, бо куплена ўсё гэта кан'юнктурай і нянавісцю да бескампраміснa-нязменнай мастацкай і грамадзянскай пазіцыі пісьменніка. Усходняя мудрасць гаворыць жорстка: «Сабака брэша, а караван ідзе». У каравана свой маршрут і свая мэта. Але каравану лягчэй ісці без гэтага сабачага галашэння (А.Кудравец); 3) Паспрабуй спатыкнуцца раз-другі, і няма больш яго, даверу. У апраўданне часта гавораць: «Конь на чатырох нагах і той скапыціцца можа». А вось уявіць сябе ў якасці ездака на такім кані не хочуць. А як яму, конніку, калі ногі няўпэўнена сядзяць у стрэмях (В.Праскураў).

Ланцужок метафар, залежных ад прыказкі, мае месца і ва ўрыўку з рамана К.Крапівы «Мядзведзічы». Юзік Верамейчык не ведае, як жыць далей: ці пакінуць вёску і шукаць работу ў горадзе, ці рабіць па прыказцы *З ваўкамі жыць, па-воўчы выць*. «Але ж ці выхад гэта, калі адкінуць сябе ўбок, глянуць на вясковае жыццё? Гэта азначала б, што з вёскі падаўся, падтуліўшы хвост, найменш зубасты і заядлы, які не здужаў з ваўкамі «па-воўчы выць», а вёска засталася па-ранейшаму, па-звярынаму прагавітая і цёмная». Параўн. таксама ўрывак з рамана Л.Левановіча «Бесядзь цячэ ў акіян», дзе выкарыстаны створаныя на вобразнай аснове прыказкі *Укаталі сіўку крутыя горкі* метафарычныя спалучэнні *на ўзбочыну* і *перавесці дых*: «– Да мяне дайшла чутка... А можа, гэта няпраўда?.. Ну, што падалі ў адстаўку... – На жаль, Ягоравіч, гэта праўда. Укаталі сіўку крутыя горкі. Прашуся на ўзбочыну. Каб перавесці дых».

Часам у метафарычным кантэксце выкарыстоўваюцца амаль усе кампаненты папярэдне ўжытай прыказкі, толькі крыху ў іншым плане, прыстасаваным да пэўнай маўленчай сітуацыі. Напрыклад, у рамане

Я.Міклашэўскага «Каханне і смерць...»: «Максім Багдановіч так і не ўбачыў сваё імя на старонках пецярбургскага часопіса... Назва беларускай выдавецкай суполкі ў Пецярбургу «Загляне сонца і ў наша ваконца» несла надзею ўсім, але ў акенца Максіма Багдановіча гэтае сонца так і не заглянула».

Метафарычны кантэкст можа складацца і з адной пасляпрыказкавай метафары: «Вы адно аднаму да пары. Што цяпер, як бачыш, чэпіцца, гаворыць абы-што, дык на тое свая прычына. Маладое піва заўсёды шуміць, але *выхадзіцца...*» (Г.Далідовіч). З раней прыведзеных прыкладаў відаць, што пад гэты стылістычны прыём падпадаюць, як правіла, алегарычныя прыказкі. І толькі ў адзінкавых выпадках падобным чынам можа абыгрывацца і прыказка, у якой не ўсе кампаненты пераасэнсаваліся. Так, у «Віленскіх камунарах» М.Гарэцкага на вобразнай аснове прыказкі *У каханкі смаляныя лаўкі* (абазначае ‘прыйшоўшы да каханкі, доўга прабудзеш у яе’) выкарыстана метафара *прыліп*: «Жартаўлівыя ж людзі пасля смяяліся, што палкоўнік Вэйтка еў куццю ў свае каханкі, а «ў каханкі смаляныя лаўкі», дык ён *прыліп* там, заседзеўся і спазніўся пачаць наступленне». Як у гэтым, так і ў некаторых прыведзеных вышэй прыкладах прыём дапамагае стварыць камічнае ўражанне.

Звернем увагу яшчэ на адну прыказку, параўнальна нядаўна ўзніклую: *Зерне падае не на камень*. Паводле паходжання яна з’яўляецца крылатым выразам: так называецца аповесць І.Пташнікава, апублікаваная ў 1959 г. Сама назва аповесці ўтрымлівае ў сабе алегарычнасць, што садзейнічала ператварэнню яе ў прыказку. Сёння яна актыўна ўжываецца ў маўленні, абазначаючы ‘павінны быць належныя вынікі пасля чыёй-небудзь парады, размовы, настаўлення, агітацыі і інш.’. Дзеяслоўны кампанент прыказкі выкарыстоўваецца як у першапачатковым выглядзе, так і ў форме закончанага трывання *(упала)*, а таксама з лексічнай варыянтнасцю *(кінута)*. Рэалізацыю гэтага былога крылатага выразу ў сучасным літаратурным маўленні можна пацвердзіць прыкладамі з твораў А.Кудраўца, Л.Левановіча, М.Тычыны. А ў працы Б.Сачанкі «Беларуская эміграцыя» на вобразнай аснове прыказкі разгортваецца метафарычны кантэкст: «Зерне было кінутае не на камень – яно ўзышло, дало плады. Адным з тых, хто гэтую ідэю [мець сваю самастойную дзяржаву] падтрымаў і панёс далей, быў удзельнік паўстання 1863 г. Ф.Багушэвіч».

**Пераасэнсаванне прыказкі ў дыялагічным маўленні.** Гэты прыём звычайна служыць сродкам стварэння камічнага ці сатырычнага эфекту або дапамагае так ці інакш характарызаваць персанажа, яго маўленчую манеру.

Часцей за ўсё суразмоўнік знарок пераасэнсоўвае прыказку, робіць выгляд, нібыта ён успрымае яе літаральна. Гэтак абыгрываецца ў камедыі К.Крапівы «Мілы чалавек» прыказка *Зняўшы галаву, па валасах не плачуць*, што абазначае ‘страціўшы важнае, вялікае, няма чаго шкадаваць малое, дробязі’. Стылістычны прыём пераасэнсавання прыказкі дапамагае стварэнню вобраза Жлукты – махінатара і блатмайстра: «[Жлукта:] Ну, як табе падабаецца пакой? [Клава, абыякава:] А, ужо які ёсць. Зняўшы галаву, па валасах не плачуць. [Жлукта:] Вось гэта ты дарэмна. *Галаву* маглі *зняць*, гэта праўда, але мы своечасова паклапаціліся, каб захаваць *яе*. Нават з *валасамі*.

(Пагладжвае яе па *галаве.*) А калі *ёсць галава на плячах*, дык усё будзе». У выказванні Жлукты выкарыстоўваюцца амаль усе кампаненты прыказкі, пры гэтым каламбурна перакрыжоўваюцца, па-першае, слова *валасы* ў першасным значэнні і сугучны прыказкавы кампанент, па-другое, прамое значэнне слова *галава* і цэласныя значэнні фразеалагізмаў *галаву зняць, ёсць галава на плячах*, у складзе якіх маецца кампанент *галава*.

У п’есе К.Крапівы «Проба агнём» лейтэнант-разведчык Перагуд, закаханы ў Наталлю – жонку камандзіра палка, дасціпна рэагуе на яе калючыя рэплікі, умела каламбурыць, абыгрывае асобныя словы, выразы. Па-свойму ён успрымае з вуснаў Наталлі і прыказку *Цярпі, казак, атаманам будзеш* (яе сэнс ‘будзь цярплівы і дачакаешся чаго-небудзь лепшага’). У выказванні Перагуда супрацьпастаўляюцца слова *атаман*, надзеленае вобразным, пераносным зместам, і слова *яфрэйтар* у сваім звычайным значэнні: «[Перагуд:] Здзекуйцеся, я усё сцярплю. [Наталля:] Цярпі, казак, атаманам будзеш. [Перагуд:] Дзе ўжо там! Хоць бы за выслугу год вы мне калі-небудзь яфрэйтара прысвоілі».

Камічнае ўражанне выклікаецца пераасэнсаваннем прыказкі *Як удалося жарабё з лысінкай, так яно і састарэе такім*, якой характарызуюць нязменнасць чалавечых прывычак, паводзін і сэнс якой можна перадаць словамі ‘якім чалавек нарадзіўся, такім і памрэ’: «[Агата:] А што я магу адна зрабіць са сваім вырадкам? Кажуць нездарма, што як удалося жарабё з лысінкай, дык яно і састарэе такім. [Драматург:] Цяпер не праблема – перафарбуецца» (А.Махнач).

Прыказка *За аднаго бітага двух нябітых даюць* абазначае ‘адзін бывалы, вопытны чалавек варты двух нявопытных’. Яна выкарыстана ў рамане І.Шамякіна «Атланты і карыятыды» – у эпізодзе выкліку галоўнага архітэктара Максіма Карнача «на дыван» у гарком. «Галіна Уладзіміраўна размашыста напісала сваім алоўкам на чырвонай паперы: «Вас будуць біць». Максім знарок.. засмяяўся і гучна сказаў: «За аднаго бітага двух нябітых даюць». Аўсянікаў, які ні пра што не здагадваўся і нават не ведаў, па якім пытанні выклікаюць галоўнага архітэктара, запярэчыў: – Устарэла, брат Карнач, твая прымаўка. Цяпер за бітага ні чарта не даюць. Яго проста выкідваюць».

Гэта прыказка атрымала іншае пераасэнсаванне ў аповесці Л.Арабей «На струнах буры», у эпізодзе, дзе гаворыцца пра мноства ахвяр у часе рэвалюцыі 1905 г.: «– Ведаеце… хутка ў Расіі насельніцтва павялічыцца ўдвая. – Чаму? – пытаўся нехта, бо падача жарту патрабавала такога пытання. Усе з затоенымі ўсмешкамі чакалі адказу. – Бо за бітага двух нябітых даюць».

Прыказка *Цішэй едзеш, далей будзеш* (яе сэнс ‘чым менш паспешнасці і неабдуманасці ў чым-небудзь, тым лепш’) у рэпліцы аднаго з суразмоўнікаў, які, відаць, успрымае яе літаральна, адмаўляецца ім і «падпраўляецца»: «– Гэта цяпер моладзь пайшла вельмі порсткая, гарачая. А народ нездарма сказаў: «Цішэй едзеш, далей будзеш». – Цішэй едзеш, у хвасце будзеш! – сказаў я. – Малады чалавек, я гавару наогул, у шырокім маштабе, так сказаць…» (М.Пянкрат). Дарэчы, у гэтым жа творы («Шчасце маё») прыказка абыгрываецца яшчэ раз – у маўленні таго ж персанажа: «Паважаны Антон Мітрафанавіч, ды каб я не пагарачыўся тады ў райкоме, вы ведаеце калі, то па сваёй прымаўцы

«цішэй едзеш, далей будзеш» вы да самай вясны не даехалі б да нашага калгаса…»

Літаральная інтэрпрэтацыя прыказкі не толькі стварае камізм, але часам з'яўляецца ўскоснай адмоўнай характарыстыкай персанажа. У сатырычным вершы Э.Валасевіча «Змікіціў» выкарыстана прыказка *У каровы малако на языку* (абазначае 'колькасць і якасць малака ў каровы залежыць ад таго, як яе кормяць'). Пачуўшы гэту прыказку, адзін кіраўнік, «які быў да рэформ ахвочы», разважае перад прыняццем рашэння: «Дык вось чаму надой на ферме нізкі – даяркі шморгаюць кароў за сіські, а метад састарэў такі… І загадаў: – Даіць за языкі!»

Характарыстычную ролю выконвае падобная інтэрпрэтацыя прыказкі *Чужое дабро не грэе* (у значэнні 'чужое дабро не ідзе на карысць') у камедыі В.Дуніна-Марцінкевіча «Залёты». Арандатар Сабковіч раіць парабку Петруку адабраць у сялян з суседняй вёскі некалькі кажухоў. «[Пятрук:] Кажуць старыя людзі, што чужое дабро не грэе. [Сабковіч:] Супакойся! Каб толькі мяккае ды з воўны, а, напэўна, грэць будзе».

Прыказка *Што <ні> галава, то і розум* прымяняецца толькі ў дачыненні да людзей, абазначаючы 'кожны мяркуе інакш, па-свойму, не так, як іншыя'. Аднак параўн. у апавяданні А.Карпюка «Сказануў»: «Дзядзька Шыман вёз капусту. Конь раптоўна звярнуў з дарогі, фурманка раз'ехалася, і капуста пакацілася ва ўсе бакі. – Шыман, чаго яна ў цябе гэтак паразляталася? – пытаецца сусед. – Глядзі, аж у кювет нават пазалятала!.. І на поле – гэ! – нават у лужыну! – Бо тут, брат, што галава, то і розум! Але конь, халера на яго, куды глядзеў!» Камічнае пераасэнсаванне прыказкі тут адбылося, відаць, на аснове асацыятыўных сувязей паміж прыказкавым кампанентам *галава* і словам *галоўка* ў сэнсе 'качан капусты'.

**Стварэнне сэнсавага паралелізму.** Як ужо адзначалася ў § 6, сярод мнагазначных (дакладней, двухзначных) прыказак толькі нямногія здольны ўжывацца як у сваім іншасказальным, пераносным значэнні (часцей), так і ў прамым (рэдка). Іншыя прыказкі 1-й і 2-й семантычных груп, і адназначныя, і двухзначныя, такой здольнасцю не валодаюць. Тут варта прывесці выказванне У.П.Жукава [46, с. 144] адносна многіх фразеалагізмаў, на фоне якіх «свабодныя словазлучэнні такога ж лексічнага складу здаюцца малапраўдападобнымі. Наогул такія свабодныя словазлучэнні выцясняюцца фразеалагізмамі са сферы моўных зносін. І гэта адбываецца з тым большай паўнатой і паслядоўнасцю, чым большай пашыранасцю і актыўнасцю прымянення характарызуецца той ці іншы фразеалагізм». Такімі ж «малапраўдападобнымі» выглядалі б і сказы накшталт *Адрэзанай лусты не прыклеіш; Задам толькі ракі ходзяць; Можа надвое варожа.* Аднак у пэўным, спецыяльна створаным кантэксце прыказка ўспрымаецца дваяка: як прыказка (з яе алегарычным зместам) і як свабодна арганізаваны сказ такога ж лексіка-кампанентнага складу. Як вынік гэтага, часта ўзнікае яркі стылістычны эфект, разлічаны на нечаканасць успрымання.

Сумяшчэнне двух сэнсаў прыказкі, звычайнага для яе (алегарычнага) і апрадмечанага, прамога, адчуваецца ў такіх вершаваных радках Р.Барадуліна: «Загоніш авечак сумлення ў хлявы, крывая з прамой смяецца вярста. Чаму гэта рыба гніе з галавы, а

чысцяць яе з хваста?» Можна гаварыць пра суіснаванне двух сэнсаў і ў наступным урыўку з апавядання І.Капыловіча «Аблава», хоць, зразумела, тут на першым плане прамое значэнне прыказкі, дастасаванае да ваўка: «Калі Пісар вечарам таго ж дня прыйшоў дадому, дзядзька Сцяпан сказаў яму: «Як ваўка ні кармі – ён у лес глядзіць...» І добра, што збег [воўк], а то я так баяўся, каб ён бяды не нарабіў».

Сэнсавы паралелізм можа ўзнікаць у выніку таго, што следам за прыказкай, успрынятай у яе пераносным значэнні, ідзе выказванне, якое арыентуе на канкрэтнае, літаральнае асэнсаванне слоў-кампанентаў прыказкі. У «Карацельках» Бр.Баровак змешчана пад загалоўкам «Ашукалі» такая мініяцюра: «– Каса на камень наскочыла. – А хваліліся ж у газеце, што ўсе лугі добраўпарадкавалі». Аналагічнае перапляценне пераноснага і прамога сэнсу ёсць і ў такіх прыкладах: 1) Можа, гэта і праўда, што ўсё, што напісана пяром, не высечаш тапаром. Але ж напісанае пяром вельмі лёгка сцерці звычайнай гумкай (Б.Сачанка); 2) Кажуць, што адна лыжка дзёгцю псуе бочку мёду. Не ведаю, не каштаваў такога мёду. Але што адна лыжка дзёгцю падняла хворага з ложка – бачыў на ўласныя вочы (У.Дубоўка).

Перапляценне двух сэнсавых планаў і ступень іх сумяшчэння пры абыгрыванні прыказкі разнастайныя. Напрыклад, у вершы М.Танка «Дым без агню» ствараецца мастацкі вобраз барвовага дыму ў час, калі «жыта расцвітае», і выказваецца як бы сумненне ў праўдзівасці людской пагудкі, «што без агню дыму не бывае»:

Няўжо ізноў зямля палае!
Адкуль жа ўзняўся дым барвовы,
Заслаўшы ўсё да небакраю?
Ах, гэта – жыта расцвітае
У перазвоне жаўруковым,
Аж каласы пад ветрам гнуцца.
Вось ты і вер людской пагудцы,
Што без агню дыму не бывае.

У «Імгненнях» В.Рагаўцова чытаем: «Нельга ўвайсці ў адну раку двойчы. А мне – удалося. У раку маленства. У мроях». Сумяшчэнне сэнсавых планаў ужытай тут прыказкі ўспрымаецца праз супрацьпастаўленне па лініі «нельга – можна («у раку маленства», «у мроях»)». А звычайнае значэнне прыказкі – ‘немагчыма паўтарыць якія-небудзь дзеянні, працэсы, падзеі і пад. з-за пастаяннай зменлівасці жыцця, яго бесперапыннага руху’.

**Сутыкненне прыказкі і сугучнага з яе кампанентам слова.** Як ужо неаднойчы адзначалася, у адной групе прыказак усе кампаненты прыказак пераасэнсаваліся, у другой – не ўсе, у трэцяй – усе захоўваюць сваё літаральнае, слоўнікавае значэнне. Па гэтай прычыне далёка не ўсе маўленчыя выпадкі, калі прыказцы папярэднічае слова, аднагучнае з яе кампанентам, можна ацэньваць як мастацкі прыём.

Возьмем такі прыклад: «– Мяняеш? – прыставаў цыган. – Хто мяняе, у таго хамут гуляе, – яшчэ раз акінуўшы вачыма цыганову клячу, у якой ходырам хадзілі бакі, адказаў селянін» (І.Гурскі). Тут ужыты ў першай рэпліцы дзеяслоў *мяняць* мае тое ж першасна-намінатыўнае значэнне, што і адпаведны кампанент у складзе прыказкі *Хто мяняе, у таго хамут гуляе*. Такое ўжыванне прыказкі сведчыць, што іншы раз яна якраз і выклікаецца ў маўленні якой-небудзь аднолькавай з яе

кампанентам лексічнай адзінкай, выкарыстанай у папярэднім выказванні. Адно і тое значэнне рэалізуе дзеяслоў *жаніцца* як слова свабоднага ўжывання і як кампанент прыказкі: «[Ракітны:] Жаніцца вам трэба – вось што. [Галубовіч:] Жаніся, каб дурні не звяліся, – кажуць людзі. [Ракітны:] Кажуць, а самі жэняцца. Кіруюцца больш мудрым правілам, каб людзі не звяліся» (К.Крапіва).

У § 7 разглядалася асобная група прыказак – *кантэкстуальных* (іх больш як 30). Яны ўжываюцца толькі ў дыялагічным маўленні звычайна як адмоўная рэакцыя на якое-небудзь слова ў папярэднім выказванні суразмоўніка. Вельмі часта ў такіх выпадках узнікае каламбур. Але гэта не аказіянальны, індывідуальна-аўтарскі каламбур, а агульнамоўны, узуальны, звязаны са спецыфікай ужывання такіх прыказак. Напрыклад, у Р.Барадуліна: «– Значыцца... – Калі значыцца, дык і ацеліцца». Або: «– Каб цябе чорт схапіў! – У чорта спіна сцёрта» (В.Вольскі).

У адрозненне ад гэтага, у «творчым кантэксце», найчасцей з устаноўкай на камічны эфект, знарок сутыкаюць слова намінатыўнага значэння з прыказкай, у складзе якой ёсць кампанент, сугучны з гэтым словам. Прычым у стварэнні каламбура ўдзельнічаюць прыказкі як з поўным, так і з няпоўным пераасэнсаваннем іх кампанентаў. У прыказцы *Праўда вочы коле* (яе сэнс – 'праўда не заўсёды прыемная, раздражняе, выклікае злосць') першы кампанент непераасэнсаваны. Але ён можа быць абыграны, напрыклад, сутыкненнем са словам *«Правда»* – назвай газеты: «У адной толькі «Правде» расказвалася, што наступленне наша не ўдалося і што вінаваты ў гэтым Часовы ўрад. Пасля гэтага «Правда» перастала прыходзіць да нас. Недарэмна кажуць: праўда вочы коле. Вось яна і ўкалола вочы генералам ды міністрам. Ну, тыя і закрылі яе» (А.Якімовіч). Экспрэсіўнасць абыгранай тут прыказкі значна павялічылася, узмацнілася ўражанне і ад усяго кантэксту.

Словам, якое сутыкаецца з прыказкавым кампанентам, часам можа быць уласнае імя. Менавіта так абыграна прыказка *Хіцер Зміцер, але і Саўка не дурны* ў рамане І.Гурскага «Вецер веку»: «Прыязджаў да нас нейкі Кастроўскі Зміцер, палохаў нас казацкімі бізунамі. Новы ўрал Львова, – кажа, – моцны ўрад, ён не сцерпіць свавольства. Хіцер Зміцер, але і Саўка не дурны».

У аснове прыказкі *Язык да Кіева давядзе* – алегорыя. Гаворка тут ідзе, зразумела, не пра Кіеў. Сэнс прыказкі – 'пытаючы, усё знойдзеш'. Калі ж у блізкім суседстве з прыказкай аказваецца слова *Кіеў*, то ў выніку адбываецца сутыкненне супрацьлеглых асацыяцый, ствараецца каламбур. Двойчы абыграна гэта прыказка ў аповесці Р.Няхая «Туман над стэпам», прычым у другім урыўку абыгрываецца і кампанент *язык*: 1) – Дзядзечка, я не тутэйшая. Як мне да Кіева дайсці? – Праўду кажуць, што язык да Кіева давядзе. Табе як найпрасцей ці мо бітым шляхам?; 2) Так! Нам сапраўды відаць Кіеў. Блішчаць на сонцы макаўкі Пячэрскай лаўры... Некалі казалі, што язык да Кіева давядзе. Мы ж дайшлі без языка, сваімі патаемнымі сцежкамі. Там нас хаваў і абараняў лес, а тут трэба выйсці на голае месца, дзе мы, як белая варона, адусюль будзем бачны. Тут ніякі язык не дапаможа. Лепш быць зусім без языка. Гестапа не жартуе...

Прыказка *Рыба псуецца з галавы* адносіцца да алегарычных. Яе ўжываюць для сцвярджэння, што распад, разлажэнне ў якім-небудзь

асяроддзі пачынаецца раней за ўсё зверху. Ніводзін з яе кампанентаў не мае самастойнага лексічнага значэння. Этымалагічнае значэнне кампанента *псуецца* – ‘гніе, становіцца гнілой’. І яно адчуваецца, калі гэты кампанент супастаўляецца са словам *псавацца* ў значэнні ‘станавіцца горшым’, дзякуючы чаму і ствараецца дасціпны каламбур: «Потым пачалося незвычайнае: наш маленькі дружны калектыў пачаў катастрафічна псавацца. Рыба псуецца з галавы, а наш калектыў пачаў псавацца з хваста. Пайшлі чуткі, што прыбіральшчыца Яўгіння Прохараўна крадзе чыстую канцылярскую паперу» (М.Пянкрат). Тут ёсць і антытэзнае супрацьпастаўленне канструкцый: *з галавы – з хваста.*

Каламбурна сутыкаецца дзеяслоў *пляваць* (на каго, на што) (‘пагардліва адносіцца да каго-, чаго-небудзь’) і сугучны дзеяслоўны кампанент прыказкі *Не плюй у калодзеж, прыгадзіцца вады напіцца* (прыказка ўжыта з недагаворваннем яе другой часткі): «[Ганна:] Таварыш Калібераў! Пойдзем к народу! Ён разбярэцца. [Калібераў:] Што мне народ? Я сам разбяруся! [Міхальчук:] І верна, што яму народ, плюе ён на народ. [Калібераў:] Што? [Міхальчук:] Не плюй у калодзеж» (А.Макаёнак).

**Паралельнае ўжыванне структурна-аднатыпных прыказкі і сказа.** Гэты прыём, у адрозненне ад разгледжаных вышэй, грунтуецца не на семантычна-гукавой, а на граматычнай аснове. Іншы раз у індывідуальна-аўтарскім кантэксце побач з прыказкай можа знаходзіцца аднатыпны паводле сінтаксічнай структуры сказ. Такое «незаконнае» суіснаванне прыказкі (з яе алегарычным значэннем) і сказа, у якім кожнае слова мае самастойны сэнс, заўсёды прыцягвае ўвагу чытача незвычайнасцю выказвання. Так, у рамане М.Машары «Крэсы» змагаюцца» ўслед за прыказкай выкарыстоўваецца свабодна арганізаваны сказ, які паўтарае структурную мадэль папярэдняй прыказкі: «На бязрыб’і і рак рыба, а на бязлюддзі і Сашка чалавек. Трэба ж з кім-небудзь працаваць, бо што рабіць, калі на такую работу [сакрэтнае супрацоўніцтва з паліцыяй] людзі разумнейшыя і сумленныя, хоць азалаці іх, – не ідуць».

Як бачым, дзве структурна-аднатыпныя часткі аб’ядноўваюцца ў складаназлучаны сказ з уласна супастаўляльнымі адносінамі, пры гэтым супастаўляюцца не адзін, а ўсе члены састаўных частак гэтага сказа. Аднатыпныя па структуры прыказка і сказ уступаюць у своеасаблівы сэнсавы кантакт: у прыказцы перададзена абагульненая, тыпізаваная думка-правіла, а ў сказе, пабудаваным на ўзор прыказкі, гэта думка канкрэтызуецца прыватнай жыццёвай з’явай. Такое паралельнае выкарыстанне прыказкі і структурна-аднатыпнага сказа ажыўляе вобразнасць прыказкі, узмацняе экспрэсіўнасць кантэксту.

Зрэшты, прыведзены прыклад з рамана М.Машары можна інтэрпрэтаваць па-іншаму. Калі М.Машара ведаў, што ў беларускай мове ёсць не толькі агульная для ўсходнеславянскіх моў прыказка *На бязрыб’і і рак рыба*, але і сінанімічная з ёй уласна беларуская *На бязлюддзі і поп чалавек*, то ў такім разе справу маем з дзвюма прыказкамі, у другой з якіх кампанент *поп* заменены ўласным імем персанажа *(Сашка).* Дарэчы, у працы М.Федароўскага [136, с. 5, 241, 290] прыказка запісана ў такіх варыянтах: *У аднаселлі і поп чалавек; У недастатку людзей, то і поп чалавек*, а таксама (гэта ўжо не варыянт) у форме: *У чужой старане то й поп чалавек.*

Сінтаксічная сувязь паміж дзвюма структурна-аднатыпнымі канструкцыямі не заўсёды ажыццяўляецца ў рамках складаназлучанага сказа. Але ўсё роўна паміж імі выразна адчуваюцца ўласна супастаўляльныя адносіны на сінтаксічным узроўні і сувязі «агульнае – прыватнае» на семантычным узроўні: «Што ні поп, то свая малітва. Што ні начальнік астрога, то свае здзекі над людзьмі. Пасля забойства начальніка Мінскага турэмнага замка арыштантаў пачалі тасаваць і перакідваць каго куды» (С.Александровіч).

Такое паралельнае ўжыванне дзвюх аднатыпных канструкцый можна назіраць і на дыялагічным узроўні, калі адзін суразмоўнік выкарыстоўвае прыказку, а другі – сказ, пабудаваны па аналогіі з прыказкай: «– Хурс маю работу ацэніць [падаруе за верную службу хутар]. – Перш за ўсё павінен ацаніць тваю работу я, а тады ўжо Хурс. – Пакуль да бога, дык чорт душу выме. – Пакуль да Хурса, дык я над табой начальнік. Або ты аддай мне зараз жа матэрыялы, або…» (К.Чорны).

Нярэдка падобнае абыгрыванне прыказкі робіцца з установкай на камічны эфект. У сатырычным вершы К.Крапівы «Навагодняя быль» расказваецца, як два з чатырох «фрыцаў, у баі недабітых» пасля трохдзённага бадзяння па лесе і балоце вырашылі здацца ў палон дзецям. У апошняй страфе гэтага верша супастаўляецца прыказка *Голад не цётка* і аднатыпны па структуры сказ *Мох не маліна:*

Голад не цётка, а мох не маліна, –
Відаць, не дабрацца ім да Берліна.
А што, калі смела стаць па-геройску
І… здацца вось гэтаму войску?

З разгледжаных вышэй шматлікіх творчых прыёмаў выкарыстання прыказак відаць, што мэтанакіраванае абнаўленне формы прыказак ці іх абыгрыванне ў спецыяльна створаным кантэксце яшчэ больш павышае іх стылістычную ролю ў маўленні, выяўляе іх невычэрпныя магчымасці.

## § 26. Прыказка і норма

У двух папярэдніх параграфах гаварылася пра разнастайныя прыёмы эфектыўнага выкарыстання прыказак з матываванымі адхіленнямі ад нормы, таму натуральным і неабходным працягам размовы пра ўжыванне прыказак у маўленні з'яўляецца разгляд нічым не абумоўленых адступленняў ад нормы.

У парэміялогіі існуюць на ўзроўні мовы даволі частыя варыянты ў межах нормы; напрыклад, аднолькава дапушчальныя *Стары вол баразны не псуе* і *Стары конь баразны не псуе.* На ўзроўні ж маўлення неабходна адрозніваць матываваныя і нематываваныя адхіленні ад прыказкавай нормы.

Прыказкавая норма – гэта традыцыйнае, аднатыпнае і раўнацэннае ўжыванне прыказак, прынятае ў дадзены перыяд моўным калектывам і ўсвядомленае ім як правільнае і ўзорнае. У паняцце прыказкавай нормы ўваходзіць правільнасць выбару прыказкі, аптымальнасць яе прымянення з захаваннем уласцівых ёй асаблівасцей. Моўная практыка замацавала за кожнай прыказкай пэўнае значэнне ці значэнні, кампанентны склад, структурную арганізацыю, а часта і

ўжыванне ў строга акрэсленай маўленчай сітуацыі. Прыказкавыя нормы, як і ўсякія іншыя моўныя нормы, утвараюцца самой маўленчай практыкай людзей, «куюцца і назапашваюцца ў кузні гутарковага маўлення» (Л.У.Шчэрба), а не выдумляюцца асобным чалавекам, хто б ён ні быў: пісьменнік, журналіст, мовазнаўца і г.д. Нормы спачатку існуюць як «няпісаныя правілы», а затым кадыфікуюцца. Кадыфікацыя – гэта «пісанае правіла», пісьмовая фіксацыя нормы ў даведніках, слоўніках пры апоры на маўленчую практыку аўтарытэтных аўтараў, рэгулярнасць ужывання таго ці іншага варыянта і на другія крытэрыі, істотныя пры кадыфікацыі нормы. Кадыфікаваная, узаконеная норма становіцца абавязковай для ўсіх носьбітаў мовы.

Ад разгледжаных у § 24–25 індывідуальна-аўтарскіх адхіленняў ад нормы, якія з'яўляюцца вынікам наўмысных, свядомых дзеянняў пісьменніка, журналіста для дасягнення пэўных стылістычных эфектаў, трэба адрозніваць нематываваныя парушэнні прыказкавай нормы.

Параўн. ужыванне адной і той жа прыказкі ў наступных урыўках: 1) – Будуем то шмат. Ды вось кепска, што не заўсёды з розумам... – Ёсць, ёсць! Але *лес сякуць – трэскі ляцяць* (П.Васілеўскі); 2) – Ураженне гнятлівае: у майстэрні холад, хоць ваўкоў ганяй. – Людзям холад, а мне горача! Перабудова! Гэта вам не плот пераскочыць. Вось тут часам і нявыкрутка. Словам, *лес сякуць – трэскі ляцяць*. – Дык ці не дужа многа *трэсак*, Міхаіл Сцяпанавіч? – А мне на *трэскі* працэнт не ўстаноўлены. Сам паспрабуй, падлічы розныя плюсы і мінусы... (М.Пянкрат); 3) Я спачатку адкажу наконт студняў... Тут вельмі да месца прымаўка: *«Лес рубаюць – трэскі ляцяць».* Так, сапраўды, калі спраміць рачулку, узровень грунтовых вод недзе знізіцца і студні ў вёсцы прыйдзецца паглыбляць... (М.Замскі). У першым урыўку ўжыванне прыказкі адпавядае норме (менавіта ў такой форме прыказка пададзена ў БРС–88, т. 1, с. 640; у РБС–82, т. 1, с. 403; у СБП, с. 222). У другім урыўку маем справу са стылістычным прыёмам семантычных змяненняў: выкарыстанне на фоне прыказкі яе кампанента. У трэцім урыўку беспадстаўна парушана форма прыказкі, яе другі кампанент заменены пазалітаратурным словам *(рубаць)*, якое не фіксуецца ў нашых акадэмічных слоўніках.

Парушэнне без відавочнай матывацыі якой-небудзь уласцівасці пэўнай прыказкі спараджае прыказкавую памылку. Такія памылкі – нярэдкая з'ява ў вусным і пісьмовым маўленні.

Паспяховае вывучэнне парэміялогіі ў вышэйшай і сярэдняй школе і авалоданне прыказкавымі нормамі наўрад ці магчыма без ведання цяжкіх выпадкаў ужывання прыказак, патэнцыяльных прыказкавых памылак.

Далей і пойдзе размова пра найбольш тыповыя адхіленні ад прыказкавай нормы.

**Парушэнні семантычнага характару.** Прыказка павінна ўжывацца з тым значэннем, якое замацавалася за ёй. Толькі пры такой умове паміж тым, хто піша ці гаворыць, і тым, хто чытае ці слухае, усталёўваецца ўзаемаразуменне.

Калі прыказка ўжыта з іншым, ненарматыўным значэннем і адыход ад нормы не выклікаецца стылістычнай мэтай, перад намі прыказкавая памылка семантычнага характару. Падобныя памылкі звязаны з парушэннем такой камунікацыйнай якасці

маўлення, як дакладнасць, якая патрабуе строгай адпаведнасці паміж агульнапрынятым значэннем слова, фразеалагізма ці прыказкі і іх прымяненнем у маўленні. Недакладна ўжытая прыказка выклікае няправільнае ўспрыманне тэксту, скажае сэнс выказвання, дэзінфармуе чытача.

Прыказка *Кінь (кінеш, закінеш) наперад – знойдзеш ззаду* нарматыўна абазначае 'калі зробіш каму-небудзь ласку, то і табе адплацяць тым самым'. З неўласцівым ёй сэнсам яна ўжыта ў аповесці М.Воранава «Перад адлігай»: «– Добра, што хоць управіліся ўчора палонкі прасекчы. – Кінь наперад – знойдзеш ззаду, – дапоўніў Ілья. – Больш часу будзе на лоўлю». Гэта ж прыказка (з неапраўданай заменай другой часткі – *знойдзеш ззаду* – фразеалагізмам *як знойдзеш*) тройчы недакладна выкарыстана І.Гурскім у трох розных творах («Качагары», «У вялікай дарозе», «Сымоніха»): «– Адрамантуем станок! – А як жа, трэба дапамагчы! – Закінеш наперад – як знойдзеш»; «Можа, таварыш старшыня, пачнём колы рабіць?.. Вясна не за гарамі... Закінеш наперад, як знойдзеш...»; «Будзе чым дзяцей сустракаць з вайны, яны, нябось, па малаку засумавалі... – А помніш, я сказаў: закінеш наперад, як знойдзеш». Зрэшты, яшчэ ў адным творы І.Гурскага («Хлеб») прыказка мае яе звычайны сэнсавы змест (толькі яе другая частка заменена фразеалагізмам *як знойдзеш*): «[Касперскі:] Як не дапамагчы суседу. Закінеш наперад, як знойдзеш».

Прыказка *Сарока на хвасце прынесла* належыць да кантэкстуальных (гл. § 7) і ўжываецца як жартаўлівы або ўнікліvы адказ на пытанне пра крыніцу навін, чутак, напрыклад: «– А дзе ты ўсё гэта бярэш? – Сарока на хвасце прыносіць, – хітра адказаў дзед Архіп» (І.Гурскі). Параўн. яе памылковае ўжыванне ў п'есе М.Зарэцкага «Ная»: «[Якуб:] Ну што табе там сарока на хвасце прынесла? [Зора, таямніча:] Стаю, мой саколік, на вуліцы, але ідзе маладзіца і з ёй гарадскі нейкі – малады, чарнявы...»

Як засведчана ў працах Я.Ляцкага, М.Федароўскага, а таксама ў акадэмічным зводзе [97, кн. 2, с. 52], прыказка *Недасол на стале, а перасол на спіне* гаворыцца толькі ў дачыненні да яды, калі на стол пададзена недасоленая ці перасоленая страва. Параўн. прымяненне прыказкі з неапраўданым яе выхадам за межы застолля: «Грыша ўзяўся рыхтаваць украінскую самадзейнасць, хор дэкламатараў са сваіх старых школьных сяброў. – Толькі не зарывайся, знай меру, бо недасол на стале, а перасол на спіне, – папярэдзілі мы яго» (Р.Няхай).

Нарматыўны сэнс прыказкі *Салаўя байкамі не кормяць* – 'размовамі сыты не будзеш'. Яна гаворыцца толькі ў строга акрэсленай сітуацыі, калі, прыпыняючы размову, запрашаюць госця да стала. У п'есе В.Зуба «Тыдзень вечнага кахання» яна ўжыта недакладна, да таго ж з пашырэннем яе кампанентнага складу: «[Матыль:] Буду спяваць... [Алімпіяда:] Ну, а апроч песень, што яшчэ будзе мець ваша будучая жонка? Нават салаўя і то аднымі байкамі не кормяць».

Асноўныя прычыны, якія спараджаюць памылкі семантычнага характару, як і іншыя прыказкавыя памылкі, – гэта недастатковае валоданне нормамі літаратурнай мовы, нядбайнасць, няўважлівасць да сродкаў выказвання, а магчыма, і неапраўданае імкненне сказаць не так, як прынята, неяк інакш, па-новаму. Абагульніць прычыну з'яўлення недакладных і прыблізных ужыванняў слоў, фразеалагізмаў і прыказак

можна, як зазначае А.М.Бабкін [7, с. 6], «пры дапамозе вядомага выразу: чуў звон, ды не ведае, дзе ён».

Пра два значэнні, уласцівыя прыказцы *Пераначуем – болей пачуем*, ужо гаварылася ў § 6. Ні адно з іх не выяўляецца ва ўрыўку з рамана Л.Дайнекі «Людзі і маланкі». У прыказку ўкладваецца нейкі суб’ектыўны сэнс, які цяжка, немагчыма зразумець: «– Кінь ты хаваць сам сябе, – аж замахнуўся на яго Кузьма... – Заб’юць мяне [на фронце], – уткнуўся тварам у купіну, уздрыгнуў худой спіной Лусковіч. – Пераначуем – болей пачуем, – зноў спрабаваў суцешыць яго Кузьма, але ў гэты час над балотам пачала суха лопацца шрапнель».

Гэтак жа цяжка зразумець, што абазначае прыказка *Поле бачыць, а лес чуе* ў такім урыўку з рамана Л.Дайнекі «След ваўкалака»: «Калі мы спыталіся ў яго, няўжо ён кавалак дрэва лічыць богам, полацкі князь кашчунна адказаў, што тая выява, той чалавечы твар, які мы малюем на дошках і палатне, таксама не бог. Тады мы пачалі горача пераконваць яго, а брат Улеб нават плакаў, прыгаворваючы: «Няўжо ты, князь, не бачыш і не чуеш бога?» – «Поле бачыць, а лес чуе», – з незразумелай усмешкай вымавіў полацкі князь». А між тым нарматыўны сэнс прыказкі *Лес усё чуе, а поле ўсё бачыць* – ‘тое, што з’яўляецца чыёй-небудзь тайнай, непазбежна будзе раскрыта’. Дарэчы, у акадэмічным зводзе [97, кн. 1, с. 356; кн. 2, с. 366] прыказка чамусьці не пададзена ў такой форме, як яе занатаваў М.Федароўскі [136, с. 239]: *Поле бачыць, а лес чуе* (праўда, з прыблізным каментарыем да яе: «У полі напружваеш зрок, а ў лесе слых»).

Пададзім цалкам верш С.Законнікава «На бітай дарозе»:

Выслоўе пакінулі мудрыя продкі:
«На бітай дарозе трава не расце...»
Гісторыі чаша стаіць, як на сподку,
Адпі і даверся яго праваце.
Тапталі наш край капыты і абцасы,
Паўзла смерць на траках і шынах сюды.
Людская атава ўзнімалася з часам,
Але, як заўсёды, пад знакам бяды.
Пасля вынішчэння, пасля катаванняў,
А лютасць зазнаў ад чужых і сваіх,
Схаваўся народ у нару выжывання,
Як пушча прад бурай, стаіўся, прыціх.
Ды гвалт дастае, ён людзей валіць долу,
Зняверанасць ные ў крыві і касцях.
А ў нас лекаванне адно – валідолам,
Аднак валідолам не вылечыш страх.
Няўжо я скажу і растайнай вярсце:
«На бітай дарозе трава не расце...»?

Наўрад ці апраўдана ствараць на аснове прыказкі, двойчы паўторанай у тэксце, мастацкі вобраз нашага патоптанага ліхадзеямі краю. Прыказка сваім алегарычным зместам выклікае зусім іншыя асацыяцыі, далёкія ад пачуцця радзімы. У акадэмічным зводзе [97, кн. 2, с. 23] яна змешчана ў раздзеле «Каханне. Дашлюбныя адносіны моладзі». І.І.Насовіч [106, с. 89] тлумачыць прыказку так: «Говорят насчет любодейных женщин, если они не рожают». І ў сучасных літаратурных тэкстах прыказка *На вытаптанай (выбітай, торнай) дарозе трава не*

*расце* абазначае ‘ў гуляшчай, распуснай жанчыны дзяцей не бывае’ (СБП, с. 243–244).

Асобна можна спыніцца на ўжыванні ў аповесці М.Ваданосава «Пераломнае лета» выказу *Знойдзецца і сляпой курыцы зярнятка*: «Значыць, сваю справу знойдзеш... А цяпер пойдзем пазнаёмлю цябе з рабочым месцам, з майстрам. Знойдзецца і сляпой курыцы зярнятка». Па-першае, гэты выказ сэнсава не стыкуецца з папярэднім кантэкстам. Па-другое, у фальклорных зборніках і парэміяграфічных слоўніках прыказка ў такой форме не фіксуецца. Даюцца толькі наступныя: *Трапіцца (давядзецца) і сляпой курыцы зернетка (зярнятка) знайсці* [97, кн. 1, с. 195], *Здарылася сляпой курыцы зярня знайсці, і то ўсе ведаюць* [97, кн. 2, с. 392].

**Парушэнні прыказкавай формы.** Прыказка мае форму і змест, якія знаходзяцца ў дыялектычным адзінстве.

Сэнсавы змест прыказкі заўсёды ўстойлівы, нязменны, а лексіка-кампанентны склад значнай часткі прыказак можа змяняцца, у выніку чаго пэўная прыказка функцыянуе ў дзвюх, а то і болей разнавіднасцях – варыянтах. Так, прыказка *Пажар агнём не тушаць* ужываецца з аднолькавым значэннем ‘што-небудзь непрыемнае для кагосьці не ліквідуеш дакорамі, натацыямі’ і ў такіх варынятах: *Агонь агнём не тушаць (не гасяць).* Або: *Тапелец і за саломінку хапаецца* ‘ў бездапаможным становішчы, калі няма выбару, звяртаюцца да безнадзейнага сродку’ і *<Той> хто топіцца, <і> за саломінку (саломку) хопіцца*. Як паказвалася ў § 5, ёсць некалькі тыпаў парэмійнай варыянтнасці: лексічны, марфалагічны, словаўтваральны, фанетычны, акцэнтна-фанетычны, канструкцыйна-колькасны, сінтаксічны і камбінаваны. Ужыванне пэўнай прыказкі ў дзвюх і больш разнавіднасцях адпавядае яе моўнай норме. Нарматыўныя слоўнікі ў форму такой прыказкі ўключаюць (дакладней, павінны ўключаць) усе ўласцівыя ёй варыянты.

У маўленні нярэдка назіраюцца разнастайныя парушэнні прыказкавай формы. Стылістычна не абумоўлены выхад за межы характэрнай для прыказкі варыянтнасці з’яўляецца грубай памылкай. Вылучаецца шэраг тыповых нематываваных адступленняў ад нормы.

*1. Памылкі словаўтваральнага характару.* Некаторым прыказкам уласціва словаўтваральная варыянтнасць: *Начная зязюля (зязюлька) дзённую перакукуе.* Семантычная тоеснасць варыянтаў прыказкі не парушаецца. Але такую варыянтнасць маюць далёка не ўсе прыказкі. Напрыклад, *Хто пытае, той не блудзіць* ужываецца толькі ў сваёй адзінай форме, якая падтрымліваецца яшчэ і рытмам (у прыказцы чатырохстопны харэй). Таму ў наступным урыўку, дзе замест *пытае* выкарыстана *пытаецца*, – адыход ад нормы: «– Хіба ж не ведаеш, як прозвішча таго, што піша венікам па падлозе? – Ведаю. – Нашто ж пытаеш? – Хто пытаецца, той не блудзіць» (У.Галубок).

Прыказка *Чаму быць, таго не мінаваць* таксама не мае словаўтваральнай варыянтнасці. Толькі ў гэтай форме яна падаецца ў зборніку І.І.Насовіча [106, с. 182], ва ўсіх іншых даведніках. Параўн. яе памылковае «абнаўленне» з заменай суфікса ў апошнім кампаненце: «Страшны, кручаны боль то рве, распінае мяне ўздоўж, то скручвае ў тры пагібелі. Я толькі закусваю губы. Чаму быць, таго не мінуць» (Н.Маеўская).

*2. Парушэнне марфалагічных уласцівасцей прыказкі.* У § 13 паказана, што толькі для зусім нямногіх прыказак характэрна зменнасць асобнага, часцей дзеяслоўнага кампанента, прычым з абмежаванай сістэмай граматычных формаў. Ва ўсіх астатніх прыказках іх кампаненты (зменныя на ўзроўні слова) не могуць мець іншыя граматычныя формы, апрача той адзінай, якая замацавалася за імі.

Парушэнні нормы назіраюцца ў формах роду, ліку, склону. Як вядома, лічэбнік *два* мае форму жаночага роду – *дзве.* Яна цалкам залежыць ад роду таго назоўніка, з якім сінтаксічна звязваецца. Параўн. прыклад, дзе замест нарматыўнага *дзвюх матак* выкарыстана памылковае: «Лісліваe цялятка двух матак ссе» (І.Гурскі). Тое самае знаходзім і ў В.Шырко: «Спачатку новы дырэктар стараўся дагадзіць і раённаму начальству, і людзям, мусіць, чуў пагаворку пра ласкавае цялятка, якое двух матак ссе».

У прыказцы *З песні слова не выкінеш* трэці кампанент застыў у форме адзіночнага ліку, аднак у творах А.Карпюка двойчы сустракаем форму множнага ліку: «Хоць і няёмка прызнавацца ў такіх рэчах, але, як кажуць, з песні слоў не выкінеш»; «Мажліва, на сотні тысяч нашых палонных тое прадажніцтва здаралася з нямногімі, але зноў з песні слоў не выкінеш – такое было». Нарматыўная форма апошняга кампанента ў прыказцы *П'янаму і мора па калена* – вінавальны склон адзіночнага ліку. Параўн. памылковае: «Цені нешта замармыталі, але не спыніліся: вядома, п'яным і мора па калені» (А.Якімовіч).

Што да склонавых формаў, то найбольш частыя ваганні назіраюцца ў месным і родным склонах адзіночнага ліку пры ўжыванні прыказак з кампанентам-назоўнікам ніякага або мужчынскага роду. Напрыклад, пры ўжыванні прыказкі *На бязрыб'і і рак рыба* ў прыназоўнікава-склонавай форме *на бязрыб'і* маем справу не з вінавальным, а з месным склонам. Гэта форма зафіксавана ў БРС (1988, т. 1, с. 209), у ТСБМ (т. 1, с. 440). Аднак сустракаецца: «Што вам? На бязрыб'е, кажа мая матуля, і рак – рыба. Не той гэта чалавек. Не па мне. У Стасі свае дарогі, у мяне – свае» (А.Кандрусевіч). У прыказцы *На злодзеі шапка гарыць* другі кампанент нарматыўна павінен мець у месным склоне канчатак *–і*, менавіта так яна падаецца ў ТСБМ (т. 2, с. 481), БРС-88 (т. 1, с. 521), РБС-82 (т. 1, с. 120). Але зрэдку сустракаемся з парушэннем яе нормы: «Праўду кажуць, што на злодзею шапка гарыць» (А.Макаёнак); «У нас гавораць, што на злодзею шапка гарыць» (П.Дудо).

Адзіна магчымая форма кампанента *рог* у прыказцы *Бадлівай карове бог рог не дае* падтрымліваецца рытмічнай арганізацыяй гэтай прыказкі (у ёй чатырохстопны амфібрахій) і ўнутранай рыфмай *(бог – рог).* Таму, здаецца, той, хто адчувае мастацкую спецыфіку гэтай прыказкі, ніколі не будзе выступаць супраць яе. Аднак параўн.: «– Каб я была хлопцам, толькі б мяне тут і бачылі. – Не балабонь пустое. Бадлівай карове бог рогаў не дае» (Л.Дайнека).

Слова *страх*, як і іншыя абстрактныя назоўнікі мужчынскага роду з цвёрдай асновай, у родным склоне мае канчатак *–у*. Гэта слова ніяк не можа быць выключэннем пры яго ўжыванні ў прыказцы *У страху вочы вялікія*, напрыклад: «– У страху вочы вялікія, – здзекліва пакпіў Хяндога ў часе чарговага вобыску» (М.Аўрамчык); «У кожным сустрэчным [немцы і паліцаі] бачылі цяпер толькі партызан. У страху вочы вялікія: праходу не было ні старым, ні маладым» (В.Праскураў). Аднак можна сустрэць

дзесяткі прыкладаў з няправільным выкарыстаннем гэтага слова (у творах Э.Валасевіча, В.Вольскага, С.Грахоўскага, І.Гурскага, У.Дамашэвіча, В.Жуковіча, К.Крапівы, М.Лынькова, В.Праскурава, Б.Сачанкі, В.Супрунчука і інш.) – у памылковай форме *У страха вочы вялікія.* Магчыма, тут вінаваты не столькі аўтары, колькі рэдактары і карэктары, якія прыкалалі руку да гэтага, кіруючыся нарматыўнымі слоўнікамі; гл. БРС (т. 2, с. 515), РБС (т. 2, с. 450): *У страха вочы вялікія.* Але гэта пярэчыць правілам элементарнай логікі.

Зрэдку сустракаюцца няправільныя выпадкі пры ўжыванні дзеяслоўнага прыказкавага кампанента. Прыказка *Ад дабра дабра не шукаюць* структурна арганізавана як абагульнена-асабовы сказ, яе дзеяслоўны кампанент не можа мець ніякай іншай асабовай формы. Прыказка гаворыцца, калі не бачаць сэнсу мяняць існуючае становішча, прывычны спосаб жыцця, што цалкам задавальняе каго-небудзь. Пры неапраўданым жа змяненні дзеяслоўнай формы кампанента прыказка атрымлівае не зусім зразумелы сэнс: «Не дарма хадакамі звалі. І праўда, хадакі. Ох, і пахадзіліся. Чаму б і не? Малады быў, рэзвы, не раўнуючы, стаеннік. Праўда, ад дабра дабра не шукалі. Гора вяло, бяда паганяла» (С.Грахоўскі).

*3. Падмена кампанента.* Калі адхіленне ад нормы зроблена свядома, з разуменнем самой нормы, то яно і ўспрымаецца, на фоне нарматыўнага, як мастацкі прыём. Як пісаў Л.У.Шчэрба, «аўтараў, якія зусім не адступаюць ад нормы, канешне, не існуе – яны былі б нясцерпна нудныя... Калі пачуццё нормы выхавана ў чалавека, ён пачынае адчуваць усю прывабнасць абгрунтаваных адступленняў ад яе ў розных добрых пісьменнікаў (я гавару «абгрунтаваных», таму што ў дрэнных аўтараў яны часта бываюць недастаткова матываваны ўнутраным зместам – таму гэтыя аўтары і лічацца дрэннымі» [126, с. 10].

Пры няведанні ці слабым веданні нормы кампанент не замяняюць, як было паказана ў § 24, а падмяняюць прыблізным, часта недарэчным словам.

*Мір* – агульнае для ўсходнеславянскіх моў, цяпер ужо ўстарэлае слова са значэннем ‘сельская грамада’. Яно захавалася ў фразеалагізме *ўсім мірам* і ў прыказках *Што будзе міру, тое і бабінаму сыну; З міру па нітцы – голаму сарочка (кашуля).* Таму нелагічнай, абсурднай з’яўляецца яго замена словам *свет* ці спалучэннем *усёй грамадой*: «Са свету па нітцы, беднаму – кашуля» (Вожык. 1983. № 2); «Усёй грамадой па нітцы, голаму кашуля» (І.Гурскі).

Ёсць прыказка *Дарма і каза вайку не скача.* А С.Лобач памылкова памяняла месцамі назоўнікавыя кампаненты: «Хлеб дарма не даюць. Усюды трэба працаваць. Дарма і воўк казе не скача».

Прыказка *Свая рука ўладыка* – запазычанне з рускай мовы, у такой форме занатавана ў працах І.І.Насовіча [106, с. 147], Я.А.Ляцкага [78, с. 40], у БРС (т. 2, с. 606), РБС (т. 2, с. 340), СБП (с. 348). Часам апошні кампанент прыказкі неапраўдана падмяняецца словам *уладар:* «Адміністрацыя дзейнічала па прынцыпу: свая рука – уладар» (Звязда. 1986. 6 мая).

Часта прыказка з падмененым кампанентам укладваецца ў вусны персанажа, і калі пры гэтым няма ніякай ацэначнай рэакцыі з боку аўтара або іншых герояў твора, то гэта не столькі персанажава, колькі аўтарская памылка. Вось прыклады няправільнага ўжывання ў мауленні

персанажаў прыказак *Пужаная варона куста баіцца; Вайка ногі кормяць; На лайца і звер бяжыць; На жывой касці мяса нарасце:* «Грунтоўнай падставы сумнявацца ва ўзаемаадносінах з саслужбоўцамі не было. «Нервы, – заключыла Ніна. – *Палоханая* варона куста баіцца» (І.Новікаў); «– Пасля пачастуемся, – сказала яна. – Няма мне сёння калі. *Сабаку* ногі кормяць, так і мяне. Я да цябе, Хведар, па справе» (І.Шамякін); «– На *паляўнічага* і звер бяжыць, – прамовіў ён, – сядай, Глеб Кузьміч, я, прызнацца, збіраўся шукаць цябе, ёсць размова» (І.Капыловіч); «– Нічога, Дзяменцьеўна, на жывой касці *цела* нарасце. От набегаюся за сваім канём, дык чыгун бульбы ўбяру» (С.Грахоўскі).

Параўн. прыклад іншага характару, дзе другі суразмоўнік папраўляе першага: «– Хадзем лепш абедаць. Наш госць, пэўна, галодны, а *вераб'я байкамі не кормяць.* – Не *вераб'я*, а *салаўя,* – паправіў яе Янка. – *Салаўя байкамі не кормяць.* – Хай будзе *салаўя,* – засмяялася яна» (Ф.Сіўко).

*4. Скажэнне прыказкавай структуры.* У § 14 прааналізаваны шматлікія і разнастайныя структурна-семантычныя тыпы прыказак, паказана, што за кожнай прыказкай замацавалася свая структурная арганізацыя і што яна на ўзроўні нормы такая ж устойлівая, як, скажам, і сэнсавы змест прыказкі.

У маўленні ж без пэўнай прычыны часам скажаюць структуру прыказкі, перадаюць яе прыблізна, нібы пераказваюць сваімі словамі. Ёсць прыказкі *Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку; Дай божа нашаму цяляці ваўка спаймаці; Чакай Пятра – сыр з'ясі; Лепей біць свае вошы, чым лічыць чужыя грошы.* Параўн., аднак, з якім скажэннем структурных схем выкарыстаны гэтыя прыказкі і як некаторыя з іх у выніку гэтага змянілі свой сэнс: «Канешне, пры першых іншых абставінах яна імгненна паставіла б на месца гэтую нявыхаваную хамку, але ж, як кажуць, *хто заказвае музыку, той і правіць баль*» (В.Праўдзін); (Між іншым, тут ёсць і агаворка «як кажуць», але нарматыўна гэтак не кажуць.); «Я, канешне, ваяваў, як мог, на ўсіх гэтых падрыхтоўчых этапах, розных рэдсаветах, каб пакінуць у тэксце хоць крыху нацыянальнага, ды *«не нашаму цяляці з ваўкамі ваяваці»* (А.Федарэнка); «Чаго варта такое, скажам, абяцанне... Словам, *чакай, Мар'я, сыр з'ясі»* (Вожык. 1987. № 9); «Трудзяга твой бацька, рабіў сумленна. Казаў: *«Лепей лічыць свае вошы, чым чужыя грошы»* (У.Ліпскі).

Парушэнне прыказкавай структуры нярэдка можна бачыць у прыказках, дзе адзін з кампанентаў – прыметнік або прыслоўе вышэйшай ступені. У нас, як пісаў К.Крапіва, «вельмі часта няправільна ўжываюць вышэйшую ступень прыметніка: або на польскі лад, напрыклад, «другая частка большая ад першай», або на рускі лад: «другая частка больш першай», а па-беларуску трэба сказаць: «другая частка большая за першую» [57, с. 356]. Менавіта «на рускі лад» аформлена прыказка *Хрэн за рэдзьку не саладзейшы* ў такім сказе: «У выніку выходзіла, што хрэн рэдзькі не саладзейшы, адзін быў, скажам, п'яніца, а замянілі яго гультаём» (У.Краўчанка). Параўн. нарматыўнае ў БРС-89 (т. 2, с. 672), РБС-82 (т. 2. с. 396, 575), СБП (с. 403): *Хрэн за рэдзьку не саладзейшы.*

Аналагічнае сустракаем пры ўжыванні прыказак з кампанентам-прыслоўем *лепш* ці *горш.* Замест нарматыўных *Стары друг лепш за новых двух; Ахвота горш за няволю* часам ужываюць «на рускі лад».

«Нездарма кажуць: стары друг лепей новых двух» (І.Аношкін); «Пакінь свой нумар тэлефона... я пазваню. Стары сябра лепей новых двух» (Г.Марчук); «Нездарма ж кажуць, што ахвота горш няволі» (М.Ваданосаў).

Іншы раз у навучальнай і навуковай літаратуры падаюць якую-небудзь прыказку не ў той нарматыўнай форме, якая замацавалася за ёй. Так, у школьных падручніках [62, с. 24; 34, с. 216] прыводзіцца як прыказка: *Напішаш пяром – не высечаш тапаром.* Але яна не ўжываецца ў форме бяззлучнікавага сказа. Яе нарматыўная структура (з усімі ўласцівымі варыянтамі), занатаваная ў парэміялагічных зборніках і пацверджаная адпаведнымі прыкладамі-цытатамі ў СБП (с. 444), такая: *Што напісана (напішаш) пяром, <то> не вырубіш (не высечаш) тапаром.* Гэта ж прыказка яшчэ ў адным падручніку [36, с. 164] змешчана ў не зусім дакладнай форме: *Што напісана пяром, таго не высечаш і тапаром.* У гэтым жа падручніку некаторыя прыказкі часам падаюцца з парушэннем іх фіксаванага словапарадку. Напрыклад, прыказка *Ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць,* як і многія іншыя, характарызуецца сіметрычным размяшчэннем назоўнікавых і дзеяслоўных кампанентаў, аднак прыведзена ў такім выглядзе: *Баяцца воўка – у лес не хадзіць.*

*5. Пашырэнне кампанентнага складу.* Далучэнне да прыказкі ці ўключэнне ў яе якога-небудзь слова часта выкарыстоўваецца як мэтанакіраваны мастацкі прыём (гл. пра гэта ў § 24). Усякае іншае, немэтанакіраванае пашырэнне кампанентнага складу, а значыць, і змяненне нарматыўнай прыказкавай структуры стварае ўражанне памылкі.

Прыказка *Жыццё пражыць – не поле перайсці* мае стройную будову. Па-першае, яна рытмічная, у ёй пяцістопны ямб. Па-другое, яна ўтворана па адной з тыповых мадэляў (два дзеяслоўныя словазлучэнні, супрацьпастаўленыя адно другому, з адмоўем «не» перад другім словазлучэннем), да прыкладу: *Век зжыць – не мех сшыць.* Таму лішнім, непатрэбным варта лічыць слова *чалавеку,* уведзенае ў гэту прыказку, выкарыстаную ў такім урыўку: «Жыццё чалавеку пражыць – не поле перайсці, у жыцці чалавеку багата чаго трэба знаць і ўмець» (І.Капыловіч). Гэта прыказка прымяняецца толькі ў дачыненні да чалавека (прычым не да канкрэтнай асобы, а да чалавека як грамадскай істоты), а таму аўтарскае ўскладненне прыказкі гэтым назоўнікам нікольki не ўзбагачае яе сэнс, а толькі шкодзіць ёй.

Думаецца, лішняй выступае ўзмацняльная часціца *нават,* уключаная ў сярэдзіну прыказкі *Пад ляжачы камень вада не цячэ,* у такім урыўку з рамана К.Чорнага «Люба Лук'янская»: «Гэта праўда, што пад ляжачы камень нават і вада не цячэ». Тут побач аказваюцца дзве сінанімічныя часціцы, адну з якіх можна лічыць непатрэбнай. Дарэчы, як паказвае маўленчая практыка (гл. СБП, с. 302), а таксама фіксацыя прыказкі ў многіх даведніках, яна звычайна функцыянуе наогул без часціцы: *Пад ляжачы камень вада не цячэ.*

*6. Кантамінацыя прыказак.* Кантамінацыя, або зліццё, аб'яднанне дзвюх прыказак у адну, – нематываванае адступленне ад нормы.

Памылковае змешванне дзвюх прыказак *(Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца* і *Ніхто не ведае, як хто абедае)* і ўтварэнне на іх аснове нейкага гібрыда бачым у такім урыўку: «Цікава, што бяднейшыя ахвяруюць ахвотней. *Багаты не ведае, чым бедны абедае*» (У.Міхно). Міжвольна ўзнікае пытанне: а што значыць «ч ы м абедае»?

У рамане Л.Дайнекі «Жалезныя жалуды» сустракаемся з такім кантамінаваным утварэннем, як *Свой лёс і канём не аб’едзеш*: «– З усіх бакоў ідуць на варуцкага кунігаса. Не ўтрымацца яму. – Свой лёс і канём не аб’едзеш, – падумаўшы, адказвае Далібор. – Але здаецца мне, што ты дрэнна ведаеш кунігаса Міндоўга». Гэты прыказкавы гібрыд – вынік несвядомага змешвання, ненаўмыснага аб’яднання частак дзвюх сінанімічных прыказак: *Свайго лёсу не мінеш + Суджанага канём не аб’едзеш.*

**Ужыванне пазалітаратурных прыказак.** Чыстата маўлення – адна з яго асноўных камунікацыйных якасцей. Маўленне чыстае, калі ў ім няма неўласцівых літаратурнай мове слоў, фразеалагізмаў, прыказак.

З пытаннямі чыстаты маўлення звязаны шматлікія выступленні на старонках перыядычнага друку, грамадскія дыскусіі аб мове. Падводзячы вынікі адной з такіх дыскусій, Ф.П.Філін адзначыў, у прыватнасці, што нікому не дадзена бяскарна парушаць законы літаратурнай мовы і што пісьменнік не можа ставіцца да мовы валюнтарыстычна. «Лічыцца з нормамі літаратурнай мовы зусім не азначае, што тым самым абмяжоўваецца свабода моватворчасці пісьменніка. Патрэбна толькі ў гэтай свабодзе пачуццё меры, апраўданасці («рацыянальнай» ці яшчэ якой) ужывання дыялектызмаў і іншых «ізмаў!» [116, с. 29].

Калі гаварыць не пра лексічныя або фразеалагічныя, а толькі пра парэмійныя сродкі, якія падчас разбураюць чыстату маўлення, то тут перш-наперш варта назваць прыказкі, запазычаныя тым ці іншым аўтарам з рускай мовы. Толькі ў вельмі рэдкіх выпадках такія запазычанні можна лічыць апраўданымі, бо яны выступаюць як сродак маўленчай характарыстыкі персанажа. Так, у п’есе М.Грамыкі «Воўк» знаходзім пададзеную ў рускай арфаграфіі прыказку *Федот, да не тот* – у мове Старшага: «[ Яська:] Даўно тое было... Цяпер судзілі за іншае... [Старшы:] Ну, да словам – Федот, да не тот». С.Шаўцоў у нарысе «Крытычная маса» стылістычна абумоўлена ўкладвае ў вусны жанчыны выдзеленую двукоссем частку рускай прыказкі: «– Потым кінулася работу шукаць – куды там... Кажуць, ты, цётка, старая, нам маладыя патрэбны, даўганогія. А мне 45. У 45 – «баба ягадка апяць», – смяецца. Потым уздыхае». Зрэшты, як нейкае нібыта апраўданне можна знайсці гэты іншамоўны выказ у адным зборніку «сучасных запісаў беларускіх народных прыказак»: *Як сорак і пяць, баба ягадка апяць* [77, с. 76].

Калі аўтар не звяртаецца да нацыянальных рэсурсаў беларускай мовы, а шукае неабходны сродак у рускай мове і ўводзіць яго ў свой твор, то гэта толькі кампраментуе нашу мову на старонках кніг, газет, часопісаў. Напрыклад, у творах П.Місько сустракаемся з шэрагам індывідуальна-аўтарскіх запазычанняў прыказак з рускай мовы (яны ніжэй выдзелены курсівам): «– Ну – зімою можна адпачываць, піць, гуляць... А чаму ж вы летам – і тут? – *Бывае і на старуху праруха...* Прыхварэў, прастудзіўся ў навальніцу...»; «Быў тады ў мяне ў атрадзе Ванькам-узводным, і цяпер для мяне – Ванька... Не больш! *Знай свярчок свой шасток...*»; «Не хацелі і распачынацца камбайнеры... *Шкурка выдзелкі не стоіць*». Або ў Н.Маеўскай: «Ён сумна пагаджаўся, што сапраўды няма за што яго прывячаць, што сам ён вінаваты, на каго наракаць? *Як аукнецца, так і адзавецца*». Аж у трох аўтараў (В.Гігевіча, А.Масарэнкі, Б.Сачанкі) знаходзім ужыванне рускай прыказкі *На чужы*

*раток не накінеш платок.* А між тым у беларускай мове ёсць адпаведнікі да ўсіх гэтых прыказак. Напрыклад, у РБС-82 руская прыказка *И на старуху бывает проруха* перадаецца (са знакам прыблізнага падабенства) прыказкай *Конь на чатырох нагах, і то спатыкаецца*; руск. *Всяк сверчок знай свой шесток* – прыказкамі *Не сунь носа не ў сваё проса* і *Калі худ, не лезь у кут*; руск. *Овчинка выделки не стоит* – бел. *Не варта аўчынка вырабу*; руск. *Как аукнется, так и откликнется* – бел. *Як гукнеш, так і адгукнецца*; руск. *На чужой роток не накинешь платок* – бел. *Нікому языка не завяжаш.* Дарэчы, непасрэднымі аналагамі апошняга рускага выказу могуць быць аж 4 беларускія прыказкі, апісаныя ў СБП (с. 258–259, 228): *На чужы рот гузіка не нашыеш; На чужы рот замок не навесіш; На чужыя вусны не накінеш хусты; Людзям языка не завяжаш.*

Асабліва засмечваюць мову такія прыказкі, у якіх ёсць кампанент, несумяшчальны з лексічнай сістэмай беларускай мовы. У нас няма, напрыклад, слоў *гроб, драка, жыр, стыд,* няма і прыказак з гэтымі кампанентамі, але некаторыя аўтары насуперак норме і логіцы ўжываюць іх у сваіх творах: «Прыказка нездарма кажа: *хвалі сена ў стагу, а пана ў грабу*» (У.Галубок); «*Пайшоўшы ў драку, не шкадуй хахла!* Не пойдзем адгэтуль, пакуль не дазнаемся, у чым справа» (З.Бядуля); «– Сядзіся ж снедаць… – Тут *не да жыру,* як кажуць, *быць бы жыву.* Дай хлеба ды скварку ў руку ды пабягу, пакуль не засталі» (В.Адамчык); «Алесі было брыдка, хоць у зямлю праваліся. – *Стыд не дым,* дзеткі, *вочы не выесць…*» (В.Адамчык).

Р.Мурашка ў рамане «Сын» і ў загалоўку раздзела, і ў тэксце гэтага раздзела тройчы ўжывае прыказку з кампанентам *ум: Чужую бяду пальцам развяду, а сваёй ума не дабяру.* З відавочна неўласцівым беларускай мове словазлучэннем *маць радна* двойчы выкарыстоўвае У.Паўлаў прыказку *Каму вайна, а каму маць радна,* прычым са спасылкай на «народнае»: «Зброя давала магчымасць не толькі абараніцца, а і застацца жыць. Іншым нават прыпяваючы. Успомнім народнае: каму вайна, а каму маць радна».

Не ўзбагачаюць, не ўпрыгожваюць мову і такія, напрыклад, перлы – вынік калькавання рускай прыказкі *Лиха беда начало:* «Два дні ўсяго – і невялікія шулы ўжо стаялі ў варотах. Ліхая бяда, як кажуць, пачатак. Разахвоціўшыся, Іван ад варотаў адразу ж перайшоў да лапшы» (М.Ракітны).

**Прыказкавыя анахранізмы.** Ствараючы раман, аповесць, п'есу на гістарычную тэму, пісьменнік арыентуецца на чытача-сучасніка і піша ў асноўным на мове сваёй эпохі, але з пачуццём меры і мастацкай мэтазгоднасці выкарыстоўвае і моўныя сродкі той эпохі, пра якую апавядае ў мастацкіх вобразах. У выніку ствараецца неабходны гістарычны каларыт. Твор гістарычнага плана не павінен перанасычацца архаічнымі, незразумелымі моўнымі сродкамі. Разам з тым у ім нельга ўжываць словы, фразеалагізмы і прыказкі, якія выразна ўсведамляюцца як храналагічна неадпаведныя пэўнай эпосе. Інакш кажучы, пісьменнік павінен «адчуваць узрост кожнага слова» (С.Я.Маршак), фразеалагізма, прыказкі. Вальтэр Скот, непераўзыдзены майстар гістарычнага рамана, слушна лічыў, што ў творы пра даўнейшую эпоху нельга дапускаць слоў і выразаў сучаснага паходжання. Ён пісаў, што адна справа выкарыстоўваць мову і пачуцці,

аднолькава ўласцівыя і нам, і нашым продкам, другая – навязваць ім перажыванні і мову, характэрныя толькі для іх нашчадкаў [32, с. 69].

Парушэннем прынцыпу гістарычнай дакладнасці трэба лічыць выпадкі, калі аўтар занадта асучаснівае мову таго ці іншага персанажа, пераносіць словы, фразеалагізмы, прыказкі, якія ўзніклі параўнальна нядаўна і звязаны ў свядомасці чытача з пэўнай часавай характарыстыкай, у другую, ранейшую эпоху.

Несумненным фразеалагічным анахранізмам варта лічыць выраз *з калена выламаць*, выкарыстаны ў рамане Л.Дайнекі «Меч князя Вячкі», дзе апісаныя падзеі адбываюцца ў XII ст.: «– Дабраслаўчык, ці не дасі мне трут? Я свой згубіў. – Што я табе з калена выламлю? – вылаяўся Дабраслаў, і воі адышлі ад вазоў». Празмернае асучасніванне мовы персанажаў адчуваецца і пры ўжыванні іншых моўных сродкаў. Напрыклад: «Ды рана радавалася Гарэлая Весь… Толькі паменела снегу ў пушчы і на рэках, як прыйшла ў Свіслацкае княства дружына друцкіх князёў. Кажуць жа людзі: *куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй…* Дручане палезлі на вал, але сустрэў іх Рагвалод стрэламі калёнымі, каменнямі-галышамі з камнястрэльнай машыны, смалой і агнём». Выдзеленая тут прыказка – парэміялагічны анахранізм. Да таго ж ужыта яна не з тым значэннем, якое замацавалася за ёй у народнай мове. Яе звычайны сталы сэнс – ‘за старэйшым і больш вопытным, пераймаючы яго, цягнецца і маладзейшы, нявопытны’.

У другім рамане Л.Дайнекі – «След ваўкалака» – дзеянне адбываецца ў XI ст. Вось урывак з рамана: «Праўду кажуць: *у голад намруцца, у вайну налгуцца.* Калі вялікі князь салгаў, падмануў, не будзе яму даравання ні на гэтым свеце, ні на тым». Ніяк не верыцца, што ў тыя далёкія часы людзі ведалі выдзеленую прыказку і што наогул яна існавала тады. Тое самае варта сказаць і пра яшчэ адну прыказку ў эпізодзе бітвы паміж русічамі і полаўцамі: «Усяго некалькі імгненняў валтузіліся яны, а здавалася, прайшла вечнасць. Лют у адзін скок развярнуўся, ляснуў цяжкой дубінай па загрыўку полаўцу, крыкнуўшы: – *Не лезь, жаба, дзе коні куюць!*» Гэта прыказка нарматыўна выкарыстоўваецца зусім у іншай сітуацыі, тут яна ўжыта з парушэннем семантычнага характару, яе традыцыйны сэнс – ‘не ўмешвайся ў справы, якія не маюць дачынення да цябе’.

Нямала адчувальных анахранізмаў, лексічных, фразеалагічных і прыказкавых, ёсць у рамане З.Дудзюк «Велясіты». Тут падзеі адбываюцца ў 805–807 гг., а можа, і раней, бо перад пачаткам рамана даецца ўрывак з гістарычнага даследавання: «Улада славян над Грэцыяй доўжылася, згодна са звесткамі патрыярха Мікалая III, 218 гадоў, да перамогі грэкаў у Патрасе (805–807 гады)». У рамане сустракаем такія, да прыкладу, відавочныя фразеалагічныя анахранізмы: *забіць двух зайцаў, весці рэй, з агню ды ў полымя, толькі за смерцю пасылаць, цягнуць ката за хвост.* Ёсць тут і прыказкавыя анахранізмы, напрыклад: «Вокамір, у сваю чаргу гатовы да самых страшных пакут, стараўся трымацца як мага спакойным. Ён разумеў, што *крумкач крумкачу вока не выклюе* – рамеяў, напэўна, пашкадуюць». Выдзеленая прыказка – калька з лацінскай мовы, і ў VIII ці IX ст. нашы далёкія продкі не маглі яе ўжываць. Яшчэ ў адным урыўку Базілеус Візантыі (811 г.) кажа: «Цяпер самы спрыяльны час для вайны супраць славян, дзякуючы якой мы рэабілітуем сябе перад народам. Ён убачыць, што

недарма даверыў нам кіраваць сабою, а заадно ўзбагацім казну нарабаваным. Разумею, што будуць і сіраты, але ж *пераможцаў не судзяць*». Выдзеленая тут прыказка, як ужо гаварылася ў § 8, – паўкалька з рускай мовы і склалася толькі пры імператрыцы Кацярыне II.

**Арфаграфічныя няправільнасці.** Сустрэлася некалькі прыкладаў з парушэннем правілаў напісання пэўных літар у кампаненце. У прыказцы *Я не я і хата не мая* абедзве часціцы – адмоўныя. Параўн. памылковае напісанне другога кампанента (*ні* замест *не*): «Ордэнам ён толькі перад намі спекулюе, калі, канешне, ён у яго быў… А калі да справы, то ў кусты: я ні я і хата не мая» (М.Машара). Гэта ж прыказка (у крыху пашыраным выглядзе) з той самай памылкай сустракаецца ў рамане Р.Мурашкі «Сын»: «Ён зноў апраўдаецца, скажа, што я ні я, хата не мая і не гаспадар я».

У прыказках жа *Колькі ваўка ні кармі – у лес цягне* і *Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала* – узмацняльная часціца *ні*, аднак іншы раз замест *ні* памылкова пішуць *не:* «Тры гады [Анкуда] быццам мяняўся і не змяніўся, цішэў і не пацішэў. Колькі ваўка не кармі – у лес цягне» (В.Карамазаў); «Часам, калі Пронька дапячэ вострым слоўцам, Паўлюк паблажліва махне рукой: «Ат, чым бы дзіця не цешылася!» (В.Каваленка).

**Няправільнасці пры міжмоўным перакладзе прыказак.** Як вядома, асноўным прынцыпам, якім кіруюцца пры складанні перакладнога слоўніка, з'яўляецца вызначэнне, падбор дакладнага эквівалента да моўнай адзінкі, што перакладаецца з адной мовы на другую. Калі прыказка не мае прамога аналага, то падбіраецца блізкі ў сэнсавых і стылістычных адносінах адпаведнік і абазначаюць гэта знакам прыблізнага падабенства (≅).

Аднак некаторыя складальнікі слоўнікаў не заўсёды прытрымліваюцца гэтага прынцыпу. Так, у слоўніку З.Санько [105] досыць часта можна бачыць неабгрунтаваны падбор адпаведнікаў да пэўнай прыказкі. *Гара нарадзіла мыш* – прыказка, агульная для вельмі многіх моў, у якія трапіла як калька з французскай мовы, дзе склалася на аснове лацінскага афарызма, і ў РБС–82 (т. 1, с. 184) знаходзім адзіна правільнае: рус. *Гора родила мышь* – бел. *Гара нарадзіла мыш.* У слоўніку З.Санько гэтай прыказцы, як і шмат якім іншым, беспадстаўна надаецца статус рускага першародства, і яна перакладаецца на беларускую мову не адным, як прынята, якім-небудзь адпаведнікам (яго наогул няма), а аж 4 прыказкамі, як агульнанароднымі, так і вузкамясцовымі, дыялектнымі, мала каму вядомымі: *З вялікага гуку не будзе чаго браць у рýку; Шырокі двор, ды невялікі збор; З вялікага грому малы дождж; З вялікай хмары малы дождж.* Але на самай справе ніводная з іх не мае нават прыблізнага ў сэнсавых адносінах падабенства да згаданай прыказкі.

Або яшчэ толькі адзін прыклад. Прыказка *Быў конь, ды з'ездзіўся* запісана вельмі многімі збіральнікамі беларускага фальклору: Я.Чачотам (1848), Я.Тышкевічам (1847), П.Шпілеўскім (1853), І.Насовічам (1874), В.Дыбоўскім (1881) і інш. Ёсць гэта прыказка ва ўкраінскай мове (занатавана М.Номісам у 1864 г.), а таксама ў рускай (апублікавана У.Далем у 1879 г.). У БРС–88 (т. 1, с. 515) не без падстаў лічаць гэту прыказку беларускай і даюць ёй рускі адпаведнік *Укатали сивку крутые горки.* У слоўніку ж З.Санько прыводзіцца *Был конь, да изъездился* як руская прыказка і перакладаецца чатырма беларускімі

нібыта адпаведнікамі: *Быў конь, ды з'езджаны, быў хлеб, ды з'едзены; Быў ляснічым, а цяпер нічым; Быў піўчым, а застаўся нічым; Быў калісьці Яўхім, ды цяпер чорт ухапіў.* Такія пераклады, што называецца, не вытрымліваюць ніякай крытыкі.

Аналагічны адвольны падбор адпаведнікаў назіраецца і ў «Слоўніку...» С. і Я.Івановых [49], толькі тут, наадварот, да беларускіх загаловачных прыказак падбіраюцца рускія адпаведнікі. Але найчасцей гэта несуадносныя адзінкі. Напрыклад, да беларускай прыказкі *Чым чорт не араў, тым і сеяць не стаў*, што значыць 'няхай так і будзе, варта рызыкнуць', прыраўноўваецца руская *Бог не выдаст – свинья не съест*, сэнс якой –'нічога кепскага не павінна здарыцца'. У многіх выпадках беларуская прыказка атрымлівае не адзін сапраўдны эквівалент, а тры-шэсць. Так, прыказка *Блізка відаць, ды далёка дыбаць*, першае, непераноснае значэнне якой – 'не так і блізка што-небудзь, як здаецца', гаворыцца ў дачыненні да таго, хто ідзе або едзе. С. і Я.Івановы да гэтага непераасэнсаванага значэння даюць 4 рускія прыказкі: *Близок локоть, да не укусишь; Видит собака молоко, да рыло коротко; Глазам видно, да ногам обидно; Видит око, да зуб неймет.* Але ўсе гэтыя прыказкі маюць алегарычны змест і ніяк не стыкуюцца з названым значэннем беларускай прыказкі. Такі шматлікі падбор адпаведнікаў можна кваліфікаваць толькі як недарэчны. Ды і прыказкі павучаюць: «Што задужа, то не здрова» і «Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж».

У друку ў свой час на абодва гэтыя слоўнікі былі крытычныя рэцэнзіі. Разам з тым пра слоўнік З.Санько (а ён выдадзены значным тыражом – 30 тысяч!) часам пішуць, што «хоць зроблены ён на аматарскім узроўні, усё ж практычнае значэнне яго вельмі істотнае» [99, с. 33]. Якраз і бяда, што памылкі слоўніка, набываючы аўтарытэтную моц, укараняюцца ў практыку, асабліва ў навучальную літаратуру. Небездакорны матэрыял гэтага даведніка ўключаецца ў віктарыны (гл., напрыклад: [110, с. 39, 167]), выкарыстоўваецца на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах па беларускай мове і, напэўна, у школьнай практыцы выкладання мовы. Як ні дзіўна, некаторыя фрагменты занадта вольнага перакладу з даведніка З.Санько перанесены ў трэцяе і чацвёртае выданні акадэмічнага «Руска-беларускага слоўніка» (1991, 1993); напрыклад, ранейшае «семь пятниц на неделе – сем пятніц на тыдні» папоўнена адзінкамі, не падмацаванымі маўленчай практыкай: *на адзін дзень сем перамен; як увосень: на дзень пагод восем.*

Як было паказана, пераклад прыказак ці падбор адпаведнікаў – справа далёка не лёгкая і вельмі адказная, і наўрад ці пад сілу яна выпускнікам школ або ўдзельнікам алімпіяд. Аднак на старонках часопіса «Роднае слова» час ад часу друкуюцца пад рубрыкай «Гаварыце па-беларуску» (гл., напрыклад, № 3, 6, 7 за 2003 г.) беларускія адпаведнікі да рускіх прыказак, і перадрукоўваюцца гэтыя нібыта адпаведнікі слова ў слова з памянёнага «Малога руска-беларускага слоўніка...» З.Санько, але без спасылкі на гэты даведнік. Параўн., напрыклад, у «Родным слове» (2003. № 7. С. 43) і ў даведніку З.Санько (с. 10): «рус. *Волка бояться – в лес не ходить* – бел. *Баючыся ваўкоў, застанешся без грыбоў = Баяўшыся трэску, і ў лес не трэба хадзіць = Хто ваўкоў баіцца, па ягады не ходзіць = Баючыся воўка, у лес не ісці».* Прыказка ж, якой пачынаецца гэты ўрывак і якая кваліфікуецца як

руская, актыўна функцыянуе ў беларускай літаратурнай мове (у форме *Ваўкоў (ваўка, воўка) баяцца – у лес не хадзіць)*, напрыклад, у творах Ц.Гартнага, С.Грахоўскага, І.Гурскага, В.Зуба, М.Клімковіча, К.Крапівы, П.Місько, Б.Сачанкі, І.Сіняўскага, І.Шамякіна. Амаль усе іншыя прыказкі, якія ў рубрыцы «Гаварыце па-беларуску» падаюцца (услед за З.Санько) як рускія, у аднолькавай меры ўжываюцца ў абедзвюх мовах, а то і ў некалькіх іншых: *Век жыві, век вучыся; Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж; Беражонага бог беражэ; У цеснаце, ды не ў крыўдзе; Бачыць вока, ды зуб няйме; У сям'і не без вырадка.*

У «Родным слове» (2001, № 3, 7) змешчаны пад рубрыкай «Займальны матэрыял» заданні і адказы да іх, падрыхтаваныя М.Верціхоўскай, пад загалоўкам «Знайдзіце адпаведнікі». У адным заданні прапануецца падабраць да беларускіх прыказак рускія адпаведнікі, а ў другім – наадварот. Абодва заданні фактычна складзены на аснове слоўніка З.Санько і характарызуюцца тымі ж самымі хібамі. Па-першае, амаль усе прыказкі, якія ў заданнях і адказах падаюцца як рускія, ёсць у беларускіх слоўніках, зборніках, ужываюцца ў нашай літаратуры: *Яблык ад яблыні недалёка падае; Будзе і на нашай вуліцы свята; Паспяшыш – людзей насмяшыш* і г.д. Па-другое, многія так званыя адпаведнікі нідзе больш, апрача як у З.Санько, не фіксуюцца, напрыклад: *Первый блин комом – Першае цялятка – шчанятка.* Па-трэцяе, шмат якія адпаведнікі ніяк не адпавядаюць гэтаму тэрміну. Скажам, даецца бел. *Кінь перад сабою – знойдзеш за сабою* (сэнс прыказкі 'калі зробіш каму-небудзь ласку, то і табе адплацяць тым самым') – рус. *Что посеешь, то и пожнешь* (у 1-м значэнні гаворыцца пра залежнасць ураджаю ад сяўбы, а ў 2-м абазначае 'за свае справы, учынкі даводзіцца расплачвацца').

## ПАРЭМІЯГРАФІЯ

У фалькларыстыцы, як ужо адзначалася ва «Уводзінах», выкарыстоўваюць не толькі тэрмін «парэміялогія», але зрэдку і тэрмін «парэміяграфія», якім абазначаюць запіс, збіранне і публікацыю прыказак. У мовазнаўстве ж пад парэміяграфіяй трэба разумець раздзел, які займаецца тэорыяй і практыкай складання парэмійных слоўнікаў, а таксама іх апісаннем і характарыстыкай.

Паміж парэміялогіяй і парэміяграфіяй існуюць самыя цесныя сувязі. Парэміяграфічныя слоўнікі складаюцца на аснове тых тэарэтычных дасягненняў, якія мае сучасная парэміялогія, і ў сваю чаргу даюць ёй правераны, сістэматызаваны матэрыял для далейшых даследаванняў.

Прыказкавыя слоўнікі бываюць аднамоўныя і двухмоўныя ці, радзей, шматмоўныя (перакладныя). Сярод аднамоўных адрозніваюць паводле іх прызначэння тлумачальныя, этымалагічныя, слоўнікі прыказкавых сінонімаў.

Гісторыя беларускай парэміяграфіі пачынаецца з сярэдзіны XIX ст. і звязана з дзейнасцю нашага славутага лексікографа, этнографа і фалькларыста **Івана Іванавіча Насовіча** (1788–1877), які збіранню і апісанню прыказак аддаў больш за 20 гадоў жыцця. Першая тысяча апісаных ім прыказак была апублікавана ў 1852 г. Аддзяленнем рускай мовы і славеснасці Імператарскай Акадэміі навук. Затым, як піша сам даследчык, ён, збіраючы матэрыял да слоўніка беларускай мовы, «адкрыў непараўнана большую колькасць прыказак, якія існуюць у гаворках беларускіх жыхароў, асабліва сялян», апісаў яшчэ больш як 2000 прыказак і перадаў іх, разам з раней надрукаванымі, у Акадэмію навук. Яшчэ да выхаду зборніка ў свет, азнаёміўшыся з рукапісам, Рускае геаграфічнае таварыства прысудзіла І.І.Насовічу залаты медаль і выбрала яго членам-супрацоўнікам Таварыства. Дарэчы, і іншыя буйныя даследаванні вучонага, якія не страцілі сваёй вартасці па сённяшні дзень, былі высока ацэнены акадэмічным Аддзяленнем рускай мовы і славеснасці: за «Слоўнік беларускай мовы» (1870) І.І.Насовіч атрымаў Дзямідаўскую прэмію, за «Алфавітны паказальнік старых беларускіх слоў...» – Увараўскую.

У яго **«Зборніку беларускіх прыказак»** (СПб., 1874) змешчана ў алфавітным парадку 3715 прыказак. Пад агульнае паняцце «прыказка» аўтар падводзіць і больш як 500 прымавак, ці, як іх цяпер называюць, фразеалагізмаў: *за пояс заткнуць, за рукамі не відаць, кіем галавы не дастанеш, з плеч у печ, ні даць ні ўзяць* і г.д. Да зборніка прыкладаецца тлумачальны слоўнік асобных слоў – прыказкавых кампанентаў (каля 2000).

Аўтар сціпла назваў сваю працу зборнікам прыказак, а між тым гэта быў першы ў гісторыі ўсходнеславянскага мовазнаўства тлумачальны слоўнік прыказак (і фразеалагізмаў). Е.Р.Раманаў справядліва ахарактарызаваў гэты слоўнік як «працу, пакуль што адзіную ў сваім родзе».

У кароткай прадмове да «Зборніка...», якую трэба лічыць пачаткам тэарэтычнага асэнсавання беларускай парэміялогіі, І.І.Насовіч піша: «Прыказкамі змагаюцца з хібамі і слабасцямі.., насміхаюцца, упікаюць,

пагражаюць.., суцяшаюць у смутку, смешаць і нават у таго, хто плача, выклікаюць усмешку» [106, с. III].

Амаль усе змешчаныя ў «Зборніку...» прыказкі растлумачаны. Не паясняюцца толькі тыя, якія ўжываюцца ў іх літаральным сэнсе, напрыклад: *Брат брату паняволі прыяцель; Брат любіць сястру багатую, а муж жонку здаровую.* Сэнсавая характарыстыка, якая даецца прыказкам, амаль ва ўсіх выпадках прымальная. Праўда, часам яна некалькі звужаная – да межаў прыватнай, адной з магчымых сітуацый. Так, сэнсавы змест прыказкі *Дарованаму каню ў зубы не глядзяць* раскрываецца так: «Недахопаў падарунка не разбіраюць»; параўн. яе тлумачэнне ў СБП [75, с. 117], заснаванае на шматлікіх ілюстрацыйных прыкладах: «Тое, што лёгка дасталося каму-н., не павінна ім абмяркоўвацца ці прыдзірліва ацэньвацца».

Слоўнікавы артыкул складаецца з дзвюх частак: загаловачнай прыказкі і яе паяснення:

Кашу масломъ не сопсуешь. Говорится во многих случаях, где нужно или пособіе, или угожденіе, или подарок, или приветливость, или покровительство.

Тыпы тлумачэння сэнсу прыказак разнастайныя. Даволі часта паведамляецца сітуацыя, у якой ужываецца прыказка: «Кажуць наконт...», «Кажуць пры...», «Гаворыцца, калі...», «Кажуць у выпадку...» і г.д. Напрыклад, пасля прыказкі *Маладое піва ўходзіцца* ідзе: «Говорят насчет шалостей, или вспыльчивости, или самой ревности к чему-либо молодого человека». Часамі да сітуацыйнай характарыстыкі далучаецца і стылістычная. Экспрэсіўна-ацэначная афарбоўка пазначаецца словамі: *з насмешкай, жартаўліва, насмешліва, у пахвалу, у папрок, з нездаволенасцю, з жальбой, з радасцю* і інш. Вось тры прыклады: «*Людзей слухай, а свой розум май.* Кажуць у выпадку няўдачы ад парады іншых ці як павучанне задумвацца пры розных супрацьлеглых парадах»; «*Не красна хата вугламі, а красна пірагамі.* Кажуць у пахвалу гасціннаму гаспадару»; «*Каждаму старцу па стайцу.* З прыкрасцю кажуць гаспадыні, калі сям'я неадначасова збіраецца да стала і ім прыходзіцца даваць есці паасобку».

Прыказкі-сінонімы або прыказкі-варыянты суправаджаюцца паметамі-адсылкамі: *тое самае, што; глядзі; параўнай: «Усе бабры дабры, адна выдра ліха яе бяры.* Адпавядае прыказцы: *Усе людзі як людзі, адзін чорт у калпаку»; «Насталі калядкі, гаспадарам парадкі.* Кажуць наконт таго, што калядныя святы – час найму новых працаўнікоў ці працаўніц або ўтрымання ранейшых. Параўнай: *Калядкі – гаспадарскія парадкі»*.

Часам пасля загаловачнай прыказкі прыводзяцца паралелі з іншай мовы і іх перакладам: *«Воран ворану вока не клюець».* Par pari gandet. Роўны роўнаму рад. Людзі аднаго саслоўя адзін аднаму не шкодзяць». Між іншым, як адзначалася ў § 11, загаловачная прыказка – дакладная калька з лацінскай мовы, зусім з іншага лацінскага афарызма.

Асобныя прыказкі, на думку І.І.Насовіча, намякаюць на гістарычныя факты: *Мсціслаў не аднаго сціснуў; Батура – сабача натура* і г.д. У слоўніку растлумачваецца паходжанне многіх прыказак шляхам іх прывязкі да этымалогій, відаць, пачутых у народзе, але, як гаварылася ў § 11, многія з гэтых прывязак, хутчэй за ўсё, са сферы народнай этымалагізацыі.

Да парэміяграфічных тлумачальных даведнікаў можна адносіць і працу **Міхала Федароўскага «Люд беларускі на Русі Літоўскай»**, том 4 (Варшава, 1935). Аўтар за 30 гадоў (1877–1905) сабраў для гэтага тома 13231 моўную адзінку (прыказкі, фразеалагізмы, словы з пераносным значэннем, розныя іншыя ўстойлівыя спалучэнні слоў). Каля паловы з іх – прыказкі. Па колькасці змешчанага тут матэрыялу даведнік уступае толькі акадэмічнаму выданню «Прыказкі і прымаўкі ў дзвюх кнігах» (1976). Каштоўны ён і ў лінгвістычных адносінах: запісы вызначаюцца дакладнасцю перадачы фанетычных асаблівасцей, лексікі, сінтаксісу, граматычных формаў.

Запісы рабіліся пераважна ў заходніх раёнах Беларусі, слаба даследаваных у гэтых адносінах папярэднікамі М.Федароўскага. У адрозненне ад іх аўтар каля кожнай прыказкі дае паметы, у якой мясцовасці яна была занатавана. Праўда, месца запісу абмяжоўваецца толькі назвай павета: Слонімскі, Гродзенскі, Лідскі, Мірскі, Навагрудскі, Ашмянскі, Сакольскі і інш. Пераважная большасць прыказак запісана ў Ваўкавыскім павеце.

Прыведзены ў томе матэрыял нумаруецца і падаецца ў алфавітным парадку пад «галоўным» словам, агульным для некалькіх устойлівых выразаў. Так, пад словам *Бог* даецца 257 адзінак, сярод іх больш за палову – прыказкі (з варыянтамі): *Без Бога ні да парога; Бог не цяля, знае круцяля; Даў Бог цяля, ды не даў хлява; На каго Бог, на таго і людзі; На табе, Божа, што мне нягожа* і г.д.

Кожная прыказка ці фразеалагізм або іншае ўстойлівае спалучэнне ідзе пад чарговым нумарам. М.Федароўскі, як і І.І.Насовіч, праўда, параўнальна рэдка, сцісла тлумачыць сэнс таго ці іншага выказу. Каментарыі да прыказак даюцца на польскай мове. Некалькі прыкладаў:

425. І баран бы касіў, каб хто касу насіў. – С. [= Слонімскі]. Гавораць аб гультаях, або няўмеках.

428. На бок свіны лабок, бо баравік ідзе. – В., Г. [= Ваўкавыскі, Гродзенскі]. Адраджаецца ў масленіцу, калі ўжо пост надыходзіць.

1322. Без худа не ўгледзіш дабра. – В. [= Ваўкавыскі]. Хто ліхога не зазнаў, той і дабра не скаштуе.

Тлумачачы значэнне асобных прыказак, аўтар зрэдку гаворыць пра крыніцы іх узнікнення. Значная заслуга М.Федароўскага і ў тым, што ўсе сабраныя прыказкі ён зверыў не толькі з запісамі сваіх папярэднікаў (а для гэтага спатрэбілася ўважліва прачытаць 26 парэмійных выданняў), але і супаставіў іх з падобнымі фальклорнымі адзінкамі ў польскай, украінскай, рускай і чэшскай мовах. Так, пад нумарам 8985 ідзе прыказка *На чыім возе едзеш, таму і песню спявай*, пасля чаго ў квадратных дужках паказана, што дзеяслоўныя кампаненты прыказкі могуць ужывацца і ў 1-й асобе: *... еду, таму і песню спяваю*. Пазначана месца запісу: *В., Ск.* [= Ваўкавыскі, Сакольскі]. Затым з абзаца даюцца адпаведныя спасылкі на публікацыі папярэднікаў (праз прынятыя скарачэнні): Чачот, 65; Дыбоўскі, 412; Насовіч, 90; *украінскія*: Чубінскі, 253; Номіс, 9610; *польскія*: Адальберг, 611, 10; *велікарускія*: Даль, І, 137.

Асобна можна сказаць некалькі слоў пра «Дадатак. Прыказкі» ў дыферэнцыяльным слоўніку **«З народнай фразеалогіі» І.Я.Лепешава** (Мінск, 1991). У дадатку-падборцы пададзена 105 прыказак, якія ў

беларускіх парэміялагічных працах не фіксаваліся і нідзе не апісваліся. Уключаны таксама і прыказкі, што адрозніваюцца ад раней апублікаваных сваім кампанентным складам, крыху зменена вобразнай асновай, больш пашыранай канструкцыяй, інакшай другой часткай (у прыказках са структурай складанага сказа). У падборцы пераважаюць прыказкі алегарычнага характару. Кожная з іх атрымлівае сэнсавую, а ў многіх выпадках і сітуацыйную, а таксама экспрэсіўна-ацэначную характарыстыку, ілюструецца прыкладам з жывой народнай мовы (з паказам месца запісу). Уяўленне пра гэты даведнік могуць даць наступныя два слоўнікавыя артыкулы:

**Адумаўся рак, што вочы не так**. *Неадабр.* Кажуць таму ці пра таго, хто запознена адумаўся, адмовіўся ад чаго-н. *Адумаўся рак, што вочы ні так. А дзе твой розум раней быў?* Шчуч., Лоз. [= Шчучынскі р., в. Лозкі].

**Каму што, а бабе яйцы**. *Іран.* Каго больш за ўсё нешта займае, хвалюе, той пра гэта і гаворыць. *Каму што, а бабе яйцы! Што ты пляцеш сто разоў адно і тоя?* Дубр., Мам. [=Дубровенскі р., в. Мамонькі].

У даведніках І.І.Насовіча і М.Федароўскага апісваюцца прыказкі, узятыя з тагачаснай жывой народнай мовы. А ў 1987 г. выйшла кніга **І.Шкраба і Р.Шкрабы «Крынічнае слова»**; яна, як слушна сказана ў прадмове, «першая спроба даць тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак, якія скарыстоўваюцца ў мастацкіх творах».

У гэтым даведніку каля 750 слоўнікавых артыкулаў, кожны з іх прысвечаны асобнай прыказцы. Яго будова такая: загаловачная прыказка, яе семантычная, а часта і сітуацыйная характарыстыка, ілюстрацыйны матэрыял. Адзін прыклад:

**Да пары збан (збанок) ваду носіць.** *Усё мае свой канец. Часам гаворыцца ў якасці асуджэння: як бы чалавек ні ўтойваў свае намеры або свае ўчынкі, усё ўрэшце выйдзе наверх.* [Далей змешчаны дзве ілюстрацыі-пацвярджэнні з твораў Я.Купалы і А.Жука.]

Паказаць жыццё прыказкі ў маўленні, у кантэксце – адна з істотных задач тлумачальнага слоўніка прыказак. Таму прыклады-цытаты ў ім выступаюць як неад’емная частка слоўнікавага артыкула, як дадатковы сродак сэнсавай і іншай інфармацыі. Вальтэр пісаў: «Слоўнік без прыкладаў – гэта шкілет!» Да таго ж правільна выявіць, што абазначае прыказка, часцей за ўсё можна толькі ў больш шырокім кантэксце. Такімі кантэкстамі для аўтараў названага слоўніка сталі выбаркі з мастацкіх твораў. Гэтыя выбаркі-цытаты, прыведзеныя ў слоўніку, пераконваюць чытача ў сапраўдным існаванні пэўнага значэння, уласцівага дадзенай прыказцы. Адначасова яны паказваюць, у якіх маўленчых абставінах выкарыстоўваецца прыказка, як і калі яе можна ўжыць. Інакш кажучы, ілюстрацыйны матэрыял у слоўніку такога тыпу мае выключна важнае значэнне, бо дае поўнае ўяўленне аб змесце і ўжыванні прыказкі. Дарэчы, у ахарактарызаваных раней даведніках І.І.Насовіча і М.Федароўскага ілюстрацыі (з жывой народнай мовы) адсутнічаюць, і гэта збядняе паказ сэнсавага зместу прыказак.

Некаторыя прыказкі ў «Крынічным слове» пададзены без паяснення (*Добрае далёка чуваць; Свет не без добрых людзей; Слязамі гору не паможаш* і інш.), бо, на думку аўтараў, не маюць у гэтым патрэбы. Але ўсё ж пры асобных з такіх прыказак павінна быць калі не

сэнсавая, дык сітуацыйная або кантэкстуальная характарыстыка. Так, *Грэх у мех, а грашаняты ў торбу* пададзена без паяснення, а між тым гэта прыказка ўжываецца толькі як адмоўная рэакцыя на слова «грэх» у папярэдняй рэпліцы суразмоўніка.

У слоўніку знаходзім нямала прыказак, якія сэнсава вельмі блізкія паміж сабой або тоесныя. На сінанімічнасць такіх прыказак паказваюць паметы «тое самае, што...» або «параўн.», напрыклад: *З ваўкамі жыць – па-воўчы выць* – тое самае, што *Сярод варон жыўшы – варонай і каркай; Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш* – параўн. *Не хваліся, ідучы на раць.*

Адлюстравана ў слоўніку і варыянтнасць прыказак. У адных выпадках, калі гэтым не парушаецца алфавітны парадак, варыянты пададзены ў загалоўку слоўнікавага артыкула: *Лісліваe цяля (цялятка) дзве маткі (дзвюх матак) ссе.* У другіх – праз памету «гл.»: *Прыйдзе і на крапіву мароз.* Гл. *Будзе і на крапіву мароз.*

Аўтары слоўніка імкнуліся пераадолець даўнюю традыцыю, практыку, характэрную для ўсіх папярэдніх фальклорных зборнікаў і парэміяграфічных прац, куды побач з прыказкамі ў якасці нібыта прымавак уключаліся тыповыя фразеалагізмы. Апошнія, як паказвалася ва «Уводзінах», адрозніваюцца ад прыказак па ўсіх параметрах. На жаль, і ў «Крынічнае слова» трапіла каля 30 фразеалагізмаў: *давай бог ногі, з гразі ў князі, з плеч ды ў печ, не верыць сваім вачам, не першы год замужам, пасаліўшы можна есці, смех і грэх, чым чорт не жартуе, хто ў лес хто па дровы* і інш.

У адной рэцэнзіі на «Крынічнае слова», змешчанай у часопісе «Беларуская мова і літаратура» (1989. № 1. С. 71–72), слушна гаварылася: «Застаецца невядомым, на якой падставе рабіўся адбор прыказак, уключаных у слоўнік. Ці гэта найбольш ужывальныя прыказкі, ці тут проста пададзены тыя, якія былі ў картатэцы складальнікаў? У прадмове сказана, што слоўнік з'яўляецца «зборам лепшых беларускіх прыказак і прымавак, якія прайшлі праз творчую майстэрню мастака». Але зноўтакі незразумела, якімі крытэрыямі карысталіся аўтары, каб адрозніць «лепшую» прыказку ад «горшай». І яшчэ цытата з той жа рэцэнзіі: «Часцей тая ці іншая прыказка ілюструецца адным прыкладам, і толькі ў рэдкіх выпадках – двума, трыма ці чатырма. Хацелася б, каб ілюстрацыйны матэрыял быў больш багаты, бо па адной цытаце цяжка меркаваць пра распаўсюджанасць прыказкі. У слоўнік чамусьці не трапілі многія высокачастотныя, шырокаўжывальныя прыказкі, напрыклад, такія, якія.. маюць больш чым па дзесяць пацвярджэнняў іх выкарыстання ў друку: *Слова не верабей, выпусціў – не зловіш* – 12, *Сабака брэша – вецер носіць* – 12, *Адзін у полі не воін* – 16».

У 1996 г. выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя» быў апублікаваны **«Слоўнік беларускіх прыказак» І.Я.Лепешава і М.А.Якалцэвіч**. У ім апісана 954 прыказкі. А ў 2002 г. гэты слоўнік, у дапоўненым і папраўленым выглядзе, пабачыў свет у выдавецтве «Беларуская навука». У ім змешчана 1485 прыказак. У 2006 г. выдавецтва «Беларуская асацыяцыя «Конкурс» перавыдала гэты слоўнік, дапоўнены многімі раней не апісанымі прыказкамі, новым, дадатковым ілюстрацыйным матэрыялам, даведачнай часткай да шмат якіх слоўнікавых артыкулаў. У ім 1629 прыказак, зафіксаваных у пісьмовых літаратурных крыніцах (мастацкіх, публіцыстычных і часткова навуковых творах).

У гэтым даведніку апісваюцца прыказкі, якія ўжываюцца ў сучасным літаратурным маўленні як моўныя адзінкі, суадносныя са сказам. Кожная прыказка з усімі ўласцівымі ёй варыянтамі характарызуецца ў асобным слоўнікавым артыкуле, які складаецца з наступных элементаў: а) загаловачнай прыказкі; б) семантычнай, а пры неабходнасці – сітуацыйнай, кантэкстуальнай і стылістычнай характарыстыкі (з паказам, дзе гэта магчыма, сінанімічных сувязей пэўнай прыказкі з іншымі); в) ілюстрацыйнага матэрыялу; г) даведачнай часткі.

Напрыклад, у слоўнікавым артыкуле (з выдання 2006 г.) *І козы сыты(-я) і сена цэлае* пасля загаловачнай прыказкі змешчана яе сэнсавая і іншыя характарыстыкі: «І для адных, і для другіх выгадна. Гаворыцца, калі імкнуцца знайсці выйсце з цяжкага становішча. Часцей ужываецца ў складаным сказе пасля злучніка *каб* ці *калі*». Пазначана праз **Сін.:**, што прыказка мае сінонім *І воўк сыты і козы цэлыя.* Затым ідуць ілюстрацыйныя прыклады з твораў І.Шамякіна, П.Пестрака, В.Дайліды. Унутры гэтага ж артыкула даецца варыянт прыказкі: *І сена цэла(-е) і козы сыты(-я).* Яго ўжыванне праілюстравана цытатамі з твораў Х.Шынклера, І.Гурскага, І.Навуменкі. У даведачнай частцы (з абзаца) паказана, у якіх зборніках занатавана гэта прыказка ці яе варыянты: *Ляцкі*, с. 14...; *Федароўскі*, с. 141...; *Прыказкі*, кн. 2, с. 454...

Амаль усе тыпы прыказкавай варыянтнасці ўключаюцца ў загаловак слоўнікавага артыкула і даюцца ў круглых дужках: *Задам (назад) толькі ракі поўзаюць (паўзуць, ходзяць); З вачэй (з воч) далоў і з сэрца вон.* Што да сінтаксічных, а іншы раз і марфалагічных варыянтаў, то іх звычайна нельга адлюстраваць у загалоўку. Таму яны прыводзяцца ўнутры слоўнікавага артыкула паўтлустым (як і ў загалоўку) шрыфтам. Так, у артыкуле *У сям'і не без вырадка* пасля загаловачнай прыказкі ідзе яе апісанне (семантычная характарыстыка з паказам сінанімічных сувязей) і ілюстрацыйны матэрыял, а затым даецца сінтаксічны варыянт *Сям'я не без вырадка,* які таксама ілюструецца адпаведнымі прыкладамі.

Варыянты, уключаныя ў загаловак або пададзеныя ўнутры слоўнікавага артыкула, прыводзяцца і на адпаведным месцы агульнага алфавіта з адсылкай да асноўнай (зыходнай) формы, напрыклад:

**Адвага гарады бярэ**. *Гл.* Смеласць (храбрасць, адвага) гарады бярэ.

**Не злоўлены – не злодзей**. *Гл.* Не злавіў (не ўзяў) за руку, не кажы <што> злодзей.

Факультатыўная частка прыказкі бярэцца ў ломаныя дужкі:

**Старасць не радасць <а горб не карысць>.**

У дачыненні да загаловачных прыказак, якія пачынаюцца з факультатыўнага слова, таксама выкарыстоўваецца сістэма адсылак:

**Лыжка дзёгцю псуе бочку мёду**. *Гл.* <Адна> лыжка дзёгцю псуе бочку мёду.

Калі прыказка мае не адно, а два значэнні, то кожнае значэнне аддзяляецца парадкавай лічбай і, апрача першага, даецца з чырвонага радка.

У многіх выпадках, акрамя семантычнай (лагічнай) характарыстыкі, узнікае неабходнасць даваць сітуацыйную або кантэкстуальную характарыстыку, якая пачынаецца словамі: «Кажуць пра...», «Кажуць, калі...», «Гаворыцца ў адказ...», «Кажуць у апраўданне...».

Скажам, тлумачальная частка прыказкі *Ад ліха ціха, а дабра не чуваць* складаецца з семантычнай і кантэкстуальнай характарыстыкі: «Нічога асаблівага, ні дрэннага, ні добрага, не чуваць. Жартоўны адказ на пытанне: «Што новага?» ці «Што чутно?».

Шмат якія прыказкі атрымліваюць стылістычную (экспрэсіўна-ацэначную) характарыстыку (тыпу: *іранічна, жартаўліва, з адабрэннем, з неадабрэннем, з незадавальненнем* і інш.). Нярэдка яна ўключаецца ў сітуацыйную характарыстыку («Гаворыцца жартаўліва пра...»).

У тлумачальную частку слоўнікавага артыкула ўваходзіць і адлюстраванне сінанімічных сувязей паміж прыказкамі. Калі прыказка мае сінонімы, то яны прыводзяцца ў канцы сэнсавай ці іншай характарыстыкі скарачэннем **Сін.** (сінонімы). Да прыкладу, да прыказкі *Аднаму льецца, а другому нават не капае* пададзены сінонімы: *Аднаму густа, а другому пуста; Каму па каму, а каму два камы.* Або ў тлумачальнай частцы прыказкі *Адным калом плота не падапрэш* даецца 6 сінонімаў: *Адзін дасужы, ды нядужы; Адзін і ў кашы няспорны; Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон; Адзін у полі не воін; Адна галавешка і ў печы не тлее; Адной рукой і вузла не завяжаш.*

Сэнсавы змест, сітуацыйная, кантэкстуальная і стылістычная характарыстыка прыказкі і яе рэалізацыя ў кантэксце звычайна ілюструюцца трыма-чатырма цытатамі з твораў беларускіх пісьменнікаў ці з перыёдыкі. Калі прыказцы ўласцівы такія з'явы, як варыянтнасць або факультатыўнасць, то колькасць ілюстрацыйных прыкладаў адпаведна павялічваецца.

У мастацкіх і публіцыстычных тэкстах сустракаюцца індывідуальна-аўтарскія варыяцыі прыказак, звычайна абумоўленыя мастацкімі мэтамі або асаблівасцямі вершаванага маўлення. Такі магчымы спосаб рэалізацыі прыказак таксама адлюстроўваецца ў слоўнікавым артыкуле. У ім услед за прыкладамі-цытатамі, у якіх прыказкі выкарыстаны нарматыўна, з абзаца за знакам зорачкі (*) даюцца індывідуальна-аўтарскія ўжыванні прыказак у змененай форме.

У даведачнай частцы слоўнікавага артыкула (з абзаца і з працяжнікам перад яе пачаткам) амаль ва ўсіх выпадках адзначаецца, у якіх парэміялагічных зборніках фіксуецца загаловачная прыказка ці яе варыянты. Калі ў некалькіх зборніках прыказка пададзена ў аднолькавай форме, то перавага аддаецца аднаму зборніку, храналагічна больш ранняму. Нярэдка ў даведачнай частцы ёсць звесткі, з якой мовы запазычана або скалькавана загаловачная прыказка. Часам даюцца звесткі гістарычна-этымалагічнага характару (гл., напрыклад, артыкул *Апетыт прыходзіць у час яды*).

Многія прыказкі дапускаюць свабодную перастаноўку кампанентаў *(Адна бяда не ходзіць – Бяда адна не ходзіць)*, ужываюцца ў некалькіх варыянтах, маюць факультатыўныя словы. Таму, каб палегчыць пошукі той ці іншай прыказкі, у канцы слоўніка (у першым яго выданні) прыводзіўся алфавітны пералік слоў (за выключэннем службовых), якія ўваходзяць у загаловачныя прыказкі або ў іх варыянты, пададзеныя ўнутры слоўнікавых артыкулаў. Карыстаючыся ім, можна было знайсці любую з апісаных прыказак, ведаючы хоць бы адзін яе кампанент. Пры кожным з гэтых слоў прыводзіліся ў алфавітнай паслядоўнасці ўсе прыказкі, у якіх яно (слова) сустракаецца. Але такі алфавітны пералік слоў займаў больш як 100 старонак у слоўніку. Таму ў

2-м і 3-м выданнях слоўніка даецца іншы паказчык слоў, значна карацейшы і, думаецца, не менш эфектыўны. А засноўваецца ён на такім істотным фактары.

У мове (паводле акадэмічных слоўнікаў) больш за палову слоў прыпадае на назоўнікі. А ў апісаных у СБП прыказках прыкладна 90 % ад іх агульнай колькасці маюць у сваім складзе кампанент-назоўнік. Сярод астатніх ёсць нямала такіх, у якіх прыметнік, лічэбнік, займеннік ужыты ў значэнні назоўніка *(багаты, бедны, голы, добры, дурны, скупы, стары, сыты, чужы, адзін, кожны, сам* і інш.). І гэта дазваляе, абраўшы ў якасці «апорнага» слова назоўнік або апрадмечаны прыметнік, лічэбнік, займеннік, агульны для многіх прыказак, падаваць іх у адной групе, незалежна ад іх тэматыкі. І «апорны» назоўнік, і прыказкі пры гэтым назоўніку захоўваюць свой алфавітны парадак. «Безназоўнікавыя» прыказкі аб'ядноўваюцца ў групы на чале з іншым паўназначным словам (дзеясловам, прыслоўем і г.д.) і таксама займаюць сваё алфавітнае месца. У такім разе, скажам, прыказку *Куды ні кінь, усюды клін* параўнальна хутка знаходзім пры «апорным» назоўніку **Клін**, а *Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш* – пры дзеяслове **Казаць**. У некаторых, параўнальна рэдкіх, выпадках адна і тая ж прыказка па пэўных прычынах прыводзіцца двойчы. Напрыклад, папярэдняя – і пры дзеяслове **Казаць**, і пры апрадмечаным назоўніку **Гоп**. Калі ў прыказцы ёсць два назоўнікі, то нярэдка і яна паўтараецца. Так, прыказку *Калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет ідзе да гары* можна знайсці пры словах як **Гара**, так і **Магамет**.

Варта адзначыць некаторыя недакладнасці, выяўленыя ў СБП (выданне 2002 г.). Яны датычаць прыказак *Век жыві – век вучыся <а дурнем памрэш>; Не я першы, не я апошні* (пра гэтыя недакладнасці ўжо гаварылася ў § 5). Агульным недахопам усіх сучасных тлумачальных парэмійных слоўнікаў, у тым ліку і СБП, трэба лічыць адсутнасць пры той ці іншай прыказцы памет пра іх функцыянальна-стылёвую афарбоўку (гл. пра гэта ў § 20).

Ужо раней (ва «Уводзінах» і ў § 2, 7) упамінаўся тлумачальны слоўнік **«Прыказкі і прымаўкі» А.Аксамітава** (Мінск, 2000). Тут змешчана каля 3500 прыказак, «пачэрпнутых з рукапісных фондаў.., што захоўваюцца ў архівах Вільнюса, Кракава, Лондана, Мінска і Санкт-Пецярбурга, а таксама з рэдкіх публікацый, па тых ці іншых прычынах не ўлічаных у найбольш поўных акадэмічных выданнях «Прыказкі і прымаўкі», кн. 1, 2 (Мінск, 1976) і «Выслоўі» (Мінск, 1979)» [2, с. 5]. Сапраўды, гэтыя рэдкія публікацыі і парэмійны матэрыял з архіваў не былі ў свой час вядомыя складальнікам памянёных акадэмічных выданняў, таму ў іх і няма адпаведных спасылак на гэтыя рукапісныя фонды і рэдкія публікацыі. А што да саміх прыказак, пададзеных у слоўніку А.Аксамітава, то абсалютная іх большасць фіксуецца і ў названых акадэмічных выданнях, толькі часам з нязначнымі арфаграфічнымі ці іншымі адрозненнямі. Параўн., напрыклад, у слоўніку А.Аксамітава і ў акадэмічным зводзе: *Абіцанка-цацанка, а дурному радасьць – Абяцанка-цацанка, а дурному радасць; Госьць – нявольнік – Госць – нявольнік; Граза ў лесе няйдзе – Граза ў лес не йдзець* (у іншых даведніках: *Граза ў лес не ідзе*).

А.Аксамітаў не проста падае ў алфавітным парадку прыказкі са збораў Я.Чачота, А.Варлыгі, А.Шыманоўскага і іншых фалькларыстаў, а,

як піша ў прадмове, «робіць спробу ўстанавіць дэфініцыю прыказкі, выявіць сітуацыю, у якой яна ўжываецца» [2, с. 9]. Не зусім зразумела, чаму ў многіх слоўнікавых артыкулах следам за дэфініцыяй ідзе супастаўленне загаловачнай прыказкі з іншымі прыказкамі ці варыянтамі прыказкі, занатаванымі ў працах другіх аўтараў. Напрыклад:

**Аб воўку памоўка, а воўк тут.** Гавораць, калі ў гутарцы некага ўспамінаюць, а той у гэты час з'яўляецца. **Насовіч:** *Пра воўка памоўка, а воўк з падналуску;* **Санько**: *Пра цыгана гамана, а ён тут; Мы пра цыганку, а яна на ганку (а яна за клямку); Пра воўка памоўка, а ён на парог; Пра каго звоняць, таго чэрці гоняць;* **Федароўскі:** *На воўка памоўка, а мядзведзь цішком (спадцішка); Аб воўку памоўка, а воўк тут (есць).*

У прыведзеным шэрагу прыказак апошняя цалкам супадае з загаловачнай, асобныя можна лічыць варыянтамі, некаторыя – сінонімамі, а *На воўка памоўка, а мядзведзь цішком* – ні тое, ні другое, ні трэцяе: яе сэнс – 'падазраваюць аднаго, а вінаваты не ён, а іншы' (гл. яе правільнае апісанне ў [106, с. 83] і [75, с. 243]).

Як ужо адзначалася ў § 2, вызначыць сэнс вельмі многіх прыказак без апоры на іх рэальнае ўжыванне, без адпаведных маўленчых кантэкстаў, а толькі шляхам абстрактных разважанняў, гіпатэтычна – рызыкоўная і далёка не заўсёды паспяховая справа. На с. 26, 52 ужо прыводзіліся некаторыя прыклады прыказак, якія ў слоўніку А.Аксамітава растлумачаны недакладна. А іх даволі многа. Так, прыказка *Абяцанка-цацанка, а дурному радасць*, як паказваюць шматлікія кантэксты яе рэалізацыі [75, с. 37–38], абазначае 'няма надзей на здзяйсненне абяцанага', а ў слоўніку А.Аксамітава апісанне прыказкі зводзіцца да пераліку толькі некалькіх магчымых маўленчых сітуацый яе праяўлення: «Гэтак высмейваюць простага паслухмянага чалавека, які паверыў абяцанкам ашуканца. Таксама прамаўляе насмешна ашуканы чалавек, якога цешаць абяцанкамі, на здзяйсненне якіх няма ніякіх надзей. Кажуць яшчэ з неадабрэннем, калі не вераць у хуткае выкананне абяцання» [2, с. 13].

Сэнсавы змест прыказкі *Старой бабцы хараша ў шапцы* такі: 'старому чалавеку неабавязкова быць добра прыбраным, прыгожа адзетым'. У слоўніку А.Аксамітава знаходзім наступнае тлумачэнне: «Раней старыя беларускія жанчыны насілі шапкі-каптуры. Цэняць не тое, што на галаве, а што ў галаве» [2, с. 95].

Прыказка *Мыш капы не баіцца* мае ў даведніку А.Аксамітава такое паясненне: «Насмешліва кажуць, калі нехта, імкнучыся быццам бы пакараць каго-небудзь, стварае яму спрыяльныя ўмовы, пускае вінаватага ў асяроддзе пражывання» [2, с. 252]. У сапраўднасці ж гэта прыказка двухзначная: 1) гаворыцца ў дачыненні да жанчыны, несуадноснай па камплекцыі з мужчынам; 2) кажуць, часам іранічна, калі хто-небудзь не баіцца мацнейшага за сябе праціўніка.

Можна было б прывесці і яшчэ дзесяткі прыказак, недакладна растлумачаных, напрыклад: *Бог тройцу любіць; Кінь перад сабою, знойдзеш за сабою; З песні слова не выкінеш.* Гл. пра некаторыя з іх у § 2, 7.

На с. 296–305 аўтар спрабуе абгрунтаваць свой «новы погляд на жанр прыказак і прымавак». Пра крытычны аналіз гэтага погляду гл. ва «Уводзінах» (с. 16–17).

Яшчэ адзін даведнік – **«Слоўнік беларускіх прыказак, прымавак і крылатых выразаў» С.Івановай і Я.Іванова** (Мінск, 1997). Хоць у слоўніку 262 старонкі, але апісаны ў ім усяго толькі 141 афарызм. Дарэчы, у слоўніку паняццем «афарызм» аб'ядноўваюцца прыказкі, прымаўкі і крылатыя выразы (апошнія, хутчэй патэнцыяльныя, чым сапраўдныя крылатыя выразы, бо ў даведніку не пацвярджаецца іх ужыванне хоць бы адзінкавымі прыкладамі з пісьмовых літаратурных крыніц). Аж 102 старонкі займае «Дадатак». У ім, здаецца, без усякай патрэбы тыя ж самыя афарызмы пералічваюцца ў алфавітным парадку то агульным спіскам, то тэматычна, то па лексічным складзе, то па суадноснасці з рускамоўнымі адпаведнікамі.

Магчыма, такая структура слоўніка, на думку аўтараў, абумоўлена тым, што ён мае падзагаловак «Лінгвакраязнаўчы дапаможнік» і, як сказана ў прадмове, прызначаецца перш за ўсё іншаземцу, зарыентаваны на практыку вывучэння беларускай мовы як замежнай. Разам з тым у анатацыі гаворыцца, што «слоўнік будзе карысны настаўнікам, школьнікам і студэнтам, выкладчыкам ВНУ і навукоўцам, пісьменнікам і журналістам».

Паколькі гэта лінгвакраязнаўчы дапаможнік, аўтары апісанню кожнага афарызма адводзяць 1-3 старонкі. А нібыта крылаты выраз «Будзем сеяць, беларусы» заняў аж 4 старонкі. Аўтары ўсюды даюць «лінгвакраіназнаўчы каментарый», у якім «змяшчаецца апісанне тых з'яў побыту і звычаяў беларусаў, пэўных гістарычных і культурных падзей у жыцці Беларусі, яе прыродна-геаграфічных асаблівасцей і г.д., на падставе якіх склаўся «прататып» моўнага афарызма» [49, с. 20]. Прыводзіцца падрабязнае апісанне не слоў, а саміх рэалій, абазначаных словам, што сустракаецца ў прыказцы. Напрыклад, у 16 радках усебакова характарызуецца карова (яе трэба добра даглядаць, «у час карміць, паіць, выганяць як мага раней на пашу, карову нельга біць»). На думку аўтараў, яны даюць цікавыя звесткі пра сала («яго соляць, вэндзяць, смажаць, скарыстоўваюць як прыправу да розных страў»), пра парася («калі яго бярэш у рукі, вельмі прарэзліва пішчыць, асабліва калі яму прычыняюць боль») і г.д. З нязменнай цікавасцю (і недаўменнем) успрымаеш звесткі пра панчохі. Аказваецца, «да канца XIX ст.» беларусы абгортвалі ногі анучамі, «на якія надзявалі лапці». І толькі «з пачатку XX ст. [відаць, пасля так званай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі] сталі насіць вязаныя з воўны або фабрычныя панчохі» [49, с. 130]. А вось І.І.Насовіч у «Слоўніку беларускай мовы» (1870) слова *панчоха* тлумачыць рускім *чулок* і дае прыклады з тагачаснай народнай гаворкі: «Панчохі падраліся, у падраных панчохах ходзіш, як жыдоўка».

Адзначым яшчэ некаторыя хібы гэтага слоўніка.

1. Уключэнне фразеалагізмаў у слоўнік прыказак (афарызмаў): *людзьмі звацца*, (відаць) *пана па халявах, папраў казе хвост, паспееш з козамі на торг* і інш. Напрыклад, у слоўніку падаецца як прыказка выраз *пасалійшы можна есці* і, хоць ён мае форму словазлучэння, атрымлівае семантычную характарыстыку ў выглядзе закончанага выказвання (сказа): «Усё здаецца нядрэнным, прывабным, калі знарок не зважаць на недахопы». На самай жа справе гэта прыметнікавы фразеалагізм, які ўжываецца як азначэнне або выказнік у адносінах да асобы, канкрэтнага ці абстрактнага прадмета і абазначае 'не дрэнны і не добры, сярэдні, пасрэдны', што можна пацвердзіць, скажам, такімі

прыкладамі: «Добрых і розных» вершаў у «Дні паэзіі» багата, іх больш, чым вершаў-сераднячкоў, пра якія звычайна гавораць «так сабе», «пасаліўшы есці можна» (Н.Гілевіч); «– Звычайныя заводскія, фабрычныя дзяўчаты, якіх тузін на фунт сушаных. – Пасаліўшы есці можна, – ацаніў Жорка» (В.Казько); «– Новых п'ес у вас не густа, чым мая вам не да густу? – Калі справа йдзе аб змесце, пасаліўшы можна есці» (К.Крапіва).

2. Падача індывідуальнай варыяцыі якой-небудзь прыказкі ў творы аднаго аўтара ў якасці агульнапрынятай, агульнамоўнай прыказкі. Так, Р.Барадулін на вобразнай аснове прыказкі *Лепш сініца ў руках, чым журавель у небе* стварае метафарычны кантэкст, у якім ёсць і *Бачаннем не зловіш журайля.* Але гэта не прыказка. Тое самае, напрыклад, у паэме Я.Коласа «Новая зямля»: *Тады толькі пан, калі добра я п'ян.* Або ў рамане І.Мележа «Людзі на балоце», дзе Сарока амаль заўсёды гаворыць у рыфму, часам перайначваючы прыказку: *Лёгка сказаць, ды далёка дыбаць.* Гэтак жа беспадстаўна падаюцца ў якасці загаловачных у слоўнікавых артыкулах і многія іншыя аўтарскія варыяцыі прыказак: *І дурань ведае, што ў нядзелю свята* (замест *І без папа ведаю, што ў нядзелю свята*); *Дзе прапала кароўка, там прападай вяроўка* (замест *Прапала кароўка, прападай і вяроўка*); *Добрае карэнне, добрае і насенне* (замест *Якое карэнне, такое і насенне*).

3. Уключэнне ў загаловак слоўнікавага артыкула і апісанне маўленчых адзінак пэўнага аўтара, абумоўленых кантэкстам. У п'есе К.Крапівы «Канец дружбы» камсамолка Зося ў час хлебанарыхтовак гаворыць пра Лютынскага (ён *у акулярах*), які спачувальна паставіўся да селяніна: «Чатыры вокі мае, але трасцу бачыць». І гэту рэпліку, дастасаваную да канкрэтнай сітуацыі і да канкрэтнага чалавека ў акулярах, аўтары «Слоўніка...» падаюць як прыказку. Ёсць і адпаведнае тлумачэнне гэтай нібыта прыказкі: «Нават і той, хто павінен бачыць больш за іншых, можа не бачыць таго, што відавочна». У якасці прыказак апісваюцца, напрыклад, і такія выкліканыя пэўнай маўленчай сітуацыяй індывідуальныя выказванні, як *Не падганяй, бо не вельмі паедзеш* (В.Адамчык); *Ад жыгучкі трымай далей ручкі* (У.Дубоўка).

4. Недакладная семантызацыя прыказак. Аўтары паставілі перад сабой непасільную і непатрэбную мэту: даць кожнай прыказцы семантычную і сітуацыйную характарыстыку. А між тым многія прыказкі не маюць пераноснага сэнсу і таму не патрабуюць тлумачэння. *Канюшына – каню сіла* дастасоўваецца толькі да канюшыны, што і пацвярджаецца адпаведнай цытатай з твора М.Лужаніна. Аднак у «Слоўніку...» чытаем шасцірадковае «філасафічнае» тлумачэнне: «Кожнаму патрэбныя пэўныя ўмовы для самавыяўлення ўласцівых яму якасцей. Гаворыцца, калі хто-н. атрымлівае ўволю або, наадварот, недаатрымлівае тое, што...» І гэтак далей. Не мае патрэбы ў тлумачэнні, напрыклад, і прыказка *Муж і жонка – найлепшая сполка,* але атрымлівае яго (аж 8 радкоў).

Прыказкі толькі ў рэдкіх выпадках маюць не адно, а два значэнні. Складальнікі ж «Слоўніка...» штучна выдзяляюць у шэрагу адназначных прыказак па два значэнні. Прыказка *Пазнаюць нашу дачку і ў андарачку* заўсёды адрасуецца таму, хто, будучы не надта прыбраным, няёмка адчувае сябе перад чужым чалавекам. У «Слоўніку...» ж яна двухзначная: 1) добра вядомае лёгка распазнаецца ў любым аблічча; 2) сапраўды выдатнае па сваіх якасцях абавязкова будзе заўважана і

адпаведна ацэнена, нягледзячы на яго знешні выгляд. Але прыведзеныя ілюстрацыйныя прыклады не толькі не пацвярджаюць гэтага, а, наадварот, бясспрэчна паказваюць, што прыказка адназначная. У даведніку С. і Я.Івановых усе прыказкі (часцей без патрэбы) забяспечваюцца сітуацыйнай характарыстыкай, а многім з іх беспадстаўна даецца па дзве такія характарыстыкі – за кошт шырокага кантэксту, у якім рэалізуецца прыказка. Напрыклад, *Баязліваму і корч мядзведзь* нібыта выкарыстоўваецца ў такіх дзвюх, па сутнасці, тоесных сітуацыях: 1) гаворыцца, калі хто-небудзь палохаецца таго, што не ўяўляе сабой ніякай небяспекі; 2) гаворыцца, калі хто-небудзь занадта перабольшвае якую-небудзь небяспеку.

Вышэй характарызаваліся тлумачальныя (аднамоўныя) слоўнікі прыказак. Ёсць у нас і двухмоўны (перакладны) даведнік – **«Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем» З.Санько** (Мінск, 1991). Слоўнік складаецца з дзвюх частак. У адной перакладаюцца прыказкі (іх 478), а ў другой – фразеалагізмы (іх 871). У канцы слоўніка змяшчаюцца ў алфавітным парадку «Беларускія адпаведнікі, скарыстаныя ў слоўніку». Зрэдку аўтар прыводзіць больш дакладныя эквіваленты асобных прыказак, чым гэта давалася ў «Руска-беларускім слоўніку». Але часцей за ўсё для працы З.Санько характэрны занадта вольны пераклад. І гэта выклікае ў чытача асцярогу і недавер.

Пра асноўныя недахопы гэтага слоўніка ўжо гаварылася ў § 26, дзе сярод шматлікіх парушэнняў парэмійнай нормы аналізаваліся і няправільнасці пры міжмоўным перакладзе прыказак. Дададзім яшчэ некалькі заўваг.

Сярод 478 прыказак, вынесеных у загалоўкі, каля 140 прыпадае на долю агульных для беларускай і рускай моў, і ў перакладным слоўніку яны павінны падавацца як аднолькавыя ці вельмі блізкія сваім гучаннем і кампанентным складам. Аўтар не прымае пад увагу таго, што яны засведчаны ў шмат якіх парэміялагічных даведніках, у тым ліку ў акадэмічным зводзе «Прыказкі і прымаўкі», у зборніку Ф.Янкоўскага «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы». З.Санько не прызнае беларускімі такія напрыклад, прыказкі: *Баба з воза – кабыле (каню) лягчэй; Беражонага бог беражэ; Будзе і на нашай вуліцы свята; Быў конь, ды з'ездзіўся; Век жыві, век вучыся; Ваўкоў баяцца – у лес не хадзіць; Ваўка ногі кормяць; Гарбатага магіла выправіць; Голад не цётка; Голаму разбой не страшны.* Відаць, цяжка знайсці беларуса, які б не ведаў прыказкі *У нагах праўды няма*; фіксуецца яна ў розных беларускіх слоўніках, парэміялагічных зборніках, шырока ўжываецца ў мастацкіх творах (напрыклад, В.Адамчыка, М.Гіля, Л.Дайнекі, М.Лынькова, І.Новікава, І.Сіняўскага, І.Шамякіна). У слоўніку ж З.Санько да рускай прыказкі *В ногах правды нет* падбіраюцца зусім іншыя паралелі. Ігнаруецца рэальнае існаванне ў сучаснай моўнай практыцы прыказкі біблейскага паходжання *У чужым воку сучок бачым, а ў сваім бервяна не заўважаем* (ёсць у творах Я.Купалы, Я.Коласа, І.Гурскага, Я.Брыля, Э.Валасевіча), калькі з лацінскай мовы *Рука руку мые* (выкарыстана ў творах П.Пестрака, І.Гурскага, І.Дуброўскага), калькі з французскай мовы *Гара нарадзіла мыш.*

Вось адзін прыклад слоўнікавага артыкула ў даведніку З.Санько:

**173. Куй железо, пока горячо** – Касі, каса, пакуль раса = Гні галінку, пакуль маладзенькая = Гні дрэўца, пакуль гнецца = Дзяры лыка, як дзярэцца, бо прысохне – не

ўдзярэш = Ідзі, пакуль дзверы адчынены (бо потым рады не дасі) = Куй жалеза, пакуль гарачае, як астыне – не ўкуеш.

Артыкул выклікае пярэчанні. Па-першае, загаловачная прыказка трапіла ў рускую мову, як і ў шмат якія іншыя, як калька з лацінскай мовы. Па-другое, прамым аналагам гэтай рускай прыказкі з'яўляецца беларуская *Куй жалеза, пакуль гарачае* (яна ёсць у зборніках М.Федароўскага, Ф.Янкоўскага, акадэмічным зводзе прыказак, у шмат якіх іншых даведніках, ужываецца ў творах Я.Коласа, С.Александровіча, М.Гамолкі, П.Місько, Б.Сачанкі, В.Гігевіча, А.Дзятлава і іншых аўтараў). Гэта прыказка – алегарычнага характару і мае толькі пераноснае значэнне 'спяшайся рабіць што-небудзь, пакуль ёсць спрыяльныя ўмовы'. Па-трэцяе, *Касі, каса, пакуль раса* ніяк не можа быць эквівалентам папярэдняй прыказкі, бо не мае пераноснага, вобразнага сэнсу, а заўсёды ўжываецца толькі ў прамым значэнні, у дачыненні да касца (дарэчы, тое самае ў рускай і ўкраінскай мовах): *Марцін падаўся разам з хлопцамі да Андрэя, які дабіваў апошні пракос. Дзядзька весела сказаў: – Касі, каса, пакуль раса, раса далой, касец дамой!* (Я.Колас).

У § 26 адзначалася, што прыкладна такі ж адвольны падбор рускіх адпаведнікаў да беларускіх прыказак знаходзім у «Слоўніку...» С. і Я.Івановых.

Апрача разгледжаных тут парэміяграфічных даведнікаў, у перспектыве могуць быць даведнікі іншых тыпаў: этымалагічны слоўнік прыказак, слоўнік прыказкавых сінонімаў і г.д.

Будова слоўнікавага артыкула, напрыклад, у этымалагічным даведніку прыказак уяўляецца такой. Пасля загаловачнай прыказкі ідзе агульная яе характарыстыка паводле паходжання: уласна беларуская, агульнаўсходнеславянская, калька з французскай мовы і г.д. Затым тлумачыцца сэнс прыказкі, даецца ілюстрацыйны прыклад, а ў канцы – этымалагічная даведка. Вось узор такога артыкула:

**Ці пан ці прапаў (Або пан або прапаў; Пан ці прапаў).** *Агульная для ўсходнеславянскіх моў* (руск. *Либо пан либо пропал*; укр. *Або пан або пропал; Чи пан чи пропал*). Усё ці нічога, дабіцца ўсяго жаданага ці ўсё страціць. Ужываецца як выказванне рашучасці перад прыняццем рашэння, пры намеры рызыкнуць. *Нам цяпер так: ці пан ці прапаў. Выбіраць няма чаго* (І.Мележ).

Відаць, склалася пад уплывам і на аснове лацінскага афарызма *Aut Caesar aut nihil* (літаральна «або цэзар або нішто»). Параўн. у аповесці У.Арлова «Час чумы»: «Эразм пачуў, як той смела сказаў камусьці на добрай лаціне: «*Aut Caesar aut nihil*».

## ПРАКТЫКУМ

Далей змешчаны практыкаванні амаль па ўсіх тэмах, выкладзеных на папярэдніх старонках.

**1.** У першых трох прыкладах – сказы з ужытымі ў іх фразеалагізмамі. У трох іншых – урыўкі з прыказкамі. Што агульнае паміж фразеалагізмамі і прыказкамі і чым яны адрозніваюцца? Пакажыце на пададзеных прыкладах адрозненні лагічнага, структурнага, сінтаксічна-функцыянальнага і спалучальнага плана. Пры неабходнасці звярніцеся да «Фразеалагічнага слоўніка блеларускай мовы: У 2 т.» І.Я.Лепешава і СБП [75].

1. Ад вясны і да восені цвіла купалаўская клумба, ад першых нарцысаў і цюльпанаў да апошняга бабінага лета *(А.Лойка)*. 2. Гледачу робіцца як бы сорамна і крыўдна за Канягіна, які не можа здагадацца, як лоўка Чарскі абводзіць яго вакол пальца *(В.Вітка)*. 3. Ідзі сабе куды вочы глядзяць, ані мяне хата свая затрымлівае, ані мяне радня звязвае, ані мяне зямелька свая к сабе цягне *(Я.Купала)*.

1. Можа, і сёння яшчэ засталіся ў жывых ветэраны, хто верыць такім абяцанням, у млявай стоме слінкі глытаючы. Але, як трапна заўважана, абяцаная шапка на вушы не лезе *(В.Гроднікаў)*. 2. Хто гэты чалавек, адлюстраванне якога зыбаецца на бруістай воднай паверхні? Рэвалюцыянер? Тыран, асуджаны на павольную агонію на забытым богам востраве?.. Геній? Блазан? Ад вялікага да смешнага адзін крок *(У.Арлоў)*. 3. Не праціўся, калі гоняць дарогу правіць не сваю дый дарма: можа, часам і цябе будуць па ёй весці, дык не будзеш каяцца; кінь за сабою, знойдзеш перад сабою *(Я.Купала)*.

**2.** Ніжэй прыводзяцца прыклады з парэмійнага зборніка і з парэміяграфічнага слоўніка, дзе побач з прыказкамі даюцца (відаць, як прымаўкі) фразеалагізмы. Вызначце і абгрунтуйце, якія з прыкладаў прыказкі, а якія – фразеалагізмы.

[97, кн. 1]: Высокае дрэва здалёку відаць; Зімой і летам адным цветам (с. 70); Яшчэ чэрці на кулачкі не біліся; Не заўсёды світае, як певень спявае (с. 91); Адну казу маю і тую за хвост падымаю; Козамі сена травіць; Нашто козамі сена травіць? (с. 196); Няма ані цыбулькі, ані ўкрышыць ва што; Ні ў мяшку, ні ў гаршку; Дагуляліся гулякі: няма хлеба і табакі (с. 222); Хто спіць, той есці не просіць; Часам з квасам, а парою з вадою ( с. 227); На бязрыб'і і рак рыба; Ні рыба ні мяса (с. 244).

[125]: Давай бог ногі; Дай бог нашаму цяляці ваўка спаймаці (с. 65); Дзе коратка, там і рвецца; Дзе наша не прападала (с. 71); І хочацца і колецца; І баран бы касіў, каб хто касу насіў (с. 102); Папраў казе хвост; Пара касцей не ломіць; Паспееш з козамі на торг (с. 185).

**3.** Якія ёсць тры асноўныя погляды на размежаванне прыказак і прымавак? Чаму ў пададзеных ніжэй прыкладах выказы аднолькавага тыпу аднымі аўтарамі называюцца прыказкамі, а другімі – прымаўкамі?

1. Дзе-небудзь прыпынюся. Ёсць такая прыказка: «Адзін Сцяпан – заўсёды пан, а калі і нястача, дзіця не плача» *(Я.Колас)*. 2. Ёсць такая людская прымаўка: забілі зайца – не забілі, а шуму многа нарабілі *(І.Чыгрынаў)*. 3. З радасці, што сустрэліся з сваім чалавекам, Панас і Тарас, згодна прыказцы, што добры гаспадар не толькі ў жываце, а нават у ботах вады не любіць, пачаставаліся з Арцёмам квартаю гарэлкі

*(В.Ластоўскі).* 4. Згодна народнай прымаўцы, адзін сын у сям'і – бліннічак, смятаннічак *(Р.Барадулін).* 5. Цэліліся ў кулакоў, а папалі па астатніх сялянах. Як у прымаўцы: вераб'і крупы склявалі, а сініцу за гэта ў клетку пасадзілі *(В.Гроднікаў).* 6. Як у той прыказцы гаворыцца: горка рэдзька, ды ядуць, цяжка замужам, ды йдуць *(М.Гарэцкі).*

**4.** На якія тры групы падзяляюцца прыказкі паводле пераасэнсаванасці ці непераасэнсаванасці іх састаўных частак? Размяркуйце прыказкі па трох семантычных групах, пры неабходнасці звяртаючыся да СБП [75].

1. Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць. 2. Адной рукой і вузла не завяжаш. 3. Меней гавары – болей пачуеш. 4. Бацькоў не выбіраюць. 5. Вялік пень, ды дурань. 6. Хто матку забывае, таго Бог карае. 7. Як ем, дык глух і нем. 8. Ехаўшы бачком, ні з кім не зачэпішся. 9. А калі што якое, дык што тут такое. 10. Добры сусед раднейшы за роднага брата. 11. Забаронены плод салодкі. 12. За дурной галавой нагам неспакой. 13. Гаманіць галава не баліць. 14. Бог шэльму меціць. 15. Вада не бяда. 16. На воўка памоўка, а мядзведзь цішком. 17. Сабака брэша – вецер носіць. 18. Старасць нікога не красіць. 19. Чаму быць, таго не мінаваць. 20. Абразу лепей праглынуць, чым разжоўваць. 21. Адзін і ў кашы няспорны.

**5.** Знайдзіце ў прыведзеных урыўках прыказкі і дайце ім семантычную, а іншы раз сітуацыйную і стылістычную характарыстыку. Ужыванне кожнай прыказкі тут ілюструецца двума прыкладамі, апісання ж гэтых прыказак у СБП [75] няма.

1. Слухаючы Гары і Джэкі, мы міжволі задумаліся: а колькі ў нас ветурачоў, заатэхнікаў, аграномаў, інжынераў, бухгалтараў у кожным калгасе, саўгасе. Як кажуць, адзін з сошкай, а сямёра з лыжкай. Ці не павучыцца нам у амерыканскіх фермераў? *(І.Макаловіч).* 2. Непакой выклікае і тое, што непамерна расце колькасць служачых сярод занятых у рэальным сектары. Атрымліваецца, як у той прыказцы: адзін з сошкай, а пяцёра з лыжкай *(У.Кулажанка).* 3. Канае на звалках вялікіх і малых гарадоў выкінутае туды бязлітаснай маладой рукой напаўдэбільнага нашчадка [дабро]. А гэтыя трое, іх інтэлігентныя бацькі, не прамінаюць нічога. Толькі над патрэбнымі, але груваcткімі і цяжкімі рэчамі больш сумуюць: бачыць вока, ды зуб няйме *(В.Казько).* 4. [Тамара:] Гэта ж, ведаеце, чаго хацеў? Хацеў, каб Ліза яго папрасіла... [Ліза:] Няма чаго вам зубаскаліць! [Леанід:] Мы пра цябе нічога не гаворым. Гэта ж у Аўласа – вока бачыць, ды зуб няйме *(А.Макаёнак).* 5. – Да мяне дайшла чутка... А можа, гэта няпраўда? Можа, плётка? Ну, што вы падалі ў адстаўку... – На жаль, Ягоравіч, гэта праўда. Укаталі сіўку крутыя горкі. Прашуся на ўзбочыну. Каб перавесці дых *(Л.Левановіч).* 6. – І што з гэтага? – А тое, што і я, стары конь, хачу звярнуць у кусты. Укаталі сіўку крутыя горкі. – Што ж, я вас разумею... Вы сапраўды заслужылі адпачынак. Хоць мне, прызнацца, шкада вас адпускаць *(«Полымя»).* 7. – Бачу, ты дастукаўся да свайго даўжніка? – спытаў я. – Ага, сустрэліся – і ён якраз пры грашах. Кажа: колькі разоў адкладваў – столькі і распускаў. Грошы – вада *(А.Кудравец).* 8. – Бяры, студэнт, – падбадзёрыў яго гаспадар. – Спатрэбіцца. Грошы – вада. Не паспееш азірнуцца, як сплывуць. Асабліва калі кішэні ў чалавека дзіравыя *(Я.Курто).*

**6.** Як разумець слова *вобразнасць* у дачыненні да прыказак? Якія з пададзеных ніжэй прыказак вобразныя, а якія – бязвобразныя?

1. Воўк не з’еў, дык бугай не забадае. 2. Бадлівай карове бог рог не дае. 3. Будзеш усё ведаць, хутка пастарэеш. 4. Смех не грэх. 5. Сцерпіцца – злюбіцца. 6. Пойдзеш нацянькі – праходзіш тры дзянькі. 7. Ад работы коні дохнуць. 8. Жывы ў зямлю не палезеш. 9. З адкладу няма ладу. 10. За вялікім пагонішся – і малое згубіш. 11. Век жыві, век будуйся. 12. Ніхто не ведае, як хто абедае. 13. Там добра, дзе нас няма. 14. Скончыў дзела – гуляй смела. 15. Што ні край, то і свой абычай. 16. Якая заслуга, такая пашана. 17. Які поп, такі і прыход. 18. Які прывет, такі прыём. 19. Я не я і хата не мая. 20. Я яму пра Фаму, а ён мне пра Ярому. 21. Адрэзанай лусты не прыклееш. 22. Адна лыжка дзёгцю псуе бочку мёду. 23. І баран бы касіў, каб хто касу насіў. 24. Найшла каса на камень. 25. На кірмашы і бык цельны. 26. Усюды добра, а дома лепей. 27. Хвароба нікога не красіць. 28. Хто дбае, той мае.

**7.** Даючы азначэнне прыказцы, часта яе называюць афарызмам павучальнага характару. Але ці заўсёды гэта так? Якія з наступных прыказак маюць павучальны змест, а ў якіх няма ніякай павучальнасці?

1. Добра смяецца той, хто смяецца апошнім. 2. Дзяды не зналі бяды, а ўнукі набраліся мукі. 3. Добры пачатак – палавіна справы. 4. Меней гавары – болей пачуеш. 5. Мая душа не крывая, усё прымае. 6. Галоднае бруха да працы глуха. 7. Добрае далёка чуваць. 8. З хараства вады не нап’ешся. 9. Іскру тушы да пажару, бяду адводзь да ўдару. 10. За пераборы лапці ды аборы. 11. Запас бяды не чыніць. 12. Зранку і коні не п’юць. 13. На лаўца і звер бяжыць. 14. Апетыт прыходзіць у час яды. 15. Без ветру і дуб не шуміць. 16. Была б дзеўка, ды певень запеў, як радзілася. 17. Адну карову мае і тую за хвост падымае.

**8.** Якія з гэтых прыказак выражаюць суджэнне, а якія суджэннямі не з’яўляюцца?

1. Адкуль сіраце бацьку ўзяць. 2. Адна ластаўка вясны не робіць. 3. Думай звечара, а рабі зрання. 4. Апускайся, куме, на дно. 5. Каля мукі ходзячы, запылішся. 6. Колькі вяровачцы ні віцца, а канцу быць. 7. Не зважай на ўраджай, а жыта сей. 8. Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў. 9. Бі сароку, бі варону, даб’ешся да белага лебедзя. 10. Бойся Усявышняга і не гавары лішняга. 11. Без падпалу дровы не гараць. 12. Клін клінам выбіваюць. 13. Будзьце як дома, але і не забывайце, што ў гасцях. 14. Госцю гадзі, ды і сябе глядзі. 15. Давярай, але правярай. 16. На бога спадзявайся, а сам не давайся.

**9.** Звычайна пішуць, што ўсе прыказкі маюць абагульненае значэнне, змяшчаюць у сабе вывад, правіла і г.д. Пакажыце, у якіх з прыведзеных прыказак няма ніякіх абагульненняў.

1. Вучыцца ніколі не позна. 2. Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не гаснуць. 3. Дзе фэст, там і я ест. 4. Жывём, хлеб жуём. 5. Сядзем радком, пагаворым ладком. 6. Гавары, ды не ўсё дагары. 7. Гора табе, воле, калі цябе карова коле. 8. Груган груганy вока не выдзеўбе. 9. Дзякуй гэтаму столу, а мы пойдзем дадому. 10. Аддайце мае цацкі, я з вамі не гуляю.

**10.** Якія ўзаемазвязаныя элементы ўваходзяць у семантычную парадыгму прыказкі? Прааналізуйце ў гэтых адносінах наступныя прыказкі, звяртаючыся да іх апісання ў СБП [75]. Напрыклад, прыказка *Адклад не ідзе на (у) лад* паводле пераасэнсаванасці ці непераасэнсаванасці належыць да 2-й групы (з частковым пераасэнсаваннем), ёй уласціва лексічная варыянтнасць *(на – у)*, уступае ў сінанімічныя адносіны з прыказкамі *З адкладу няма ладу; Тое, што можна зрабіць сёння, не трэба адкладваць на заўтра.*

1. Кволае цяля (цялятка) і ў Пятроўку (улетку) зябне. 2. Дзвюм сме́рцям (смярцям) не бываць, а адной не мінаваць. 3. <Няхай> хоць сава, абы з другога (чужога) сяла. 4. Дзе воўк радзіўся, там і куст яму міл. 5. У родным краю, як у раю. 6. Галоднай куме хлеб (сыр) наўме. 7. <Калі> улез у дугу, <дык> не кажы <што> не магу.

**11.** Супастаўляючы прыказкі-сінонімы ўнутры сінанімічнага рада і карыстаючыся СБП [75], вызначце тыпы сінонімаў у складзе той ці іншай сінанімічнай групы. Адначасова называйце тыпы прыказак паводле іх структуры (аднаструктурныя, рознаструктурныя, падобнаструктурныя).

1. Абяцаная шапка на вушы не лезе – Абяцанага тры гады чакаюць – Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць. 2. З музыкі хлеб невялікі – У музыкі хлеб невялікі, а спявакі маюць ніякі. 3. Голаму сабрацца – толькі падперазацца – Голы збірайся – голы гатоў. 4. Варона з куста, а пяць на куст – Святое месца пустым не бывае. 5. Век звекаваць – усяго пазнаць – Век зжыць – не мех сшыць – Жыццё пражыць – не лапці сплесці – Жыццё пражыць – не поле перайсці. 6. Калі ўлез у дугу, не кажы, што не магу – Назваўся груздом – лезь у кош – Пусціўся Мікіта ў валакіту, дык ідзі і назад не аглядайся – Узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж.

**12.** Вызначце дамінанту ў наступных сінанімічных радах. Абавязкова звяртайцеся да СБП [75] і тых ілюстрацыйных прыкладаў, якія даюцца пры загаловачнай прыказцы.

1. Голад не цётка – Не пад'ясі – і залатую фурманку аддасі. 2. Дзвюм смерцям не бываць, а адной не мінаваць (у 1 знач.) – Ад смерці не адкупішся – Круці не круці, а трэба памерці – Смерць не ручаінка – не пераскочыш. 3. Дзвюм смярцям не бываць, а адной не мінаваць (у 2 знач.) – Спроба не хвароба – Чым чорт не араў, тым і сеяць не стаў. 4. Якая заслуга, такая і пашана – Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць – Які музыка, такая і музыка – Якая птушка, такое і гняздзечка – Якія самі, такія і сані. 5. Апёкшыся на малацэ, і на ваду дзьмеш – Напужаў мех, і торба страшна – Пужаная варона куста баіцца. 6. Адзін дасужы, ды нядужы – Адзін і ў кашы няспорны – Адзін – не трапіш у кон, то выскачыш вон – Адзін у полі не воін – Адна галавешка і ў печы тлее – Адной рукой і вузла не завяжаш.

**13.** Выпішыце з СБП [75] па адной прыказцы на кожны з 8 тыпаў парэмійных варыянтаў (выпісаныя прыклады не павінны быць паўтарэннем тых, якія прыводзяцца ў § 5).

**14.** Нярэдка ў навуковай і навучальнай літаратуры сцвярджаюць (гл. § 1), што прыказка часцей за ўсё мае прамы і пераносны сэнс або адначасова літаральны і пераносна-вобразны план. Ці так гэта? Чаму ў СБП (выданне 2006 г.) такіх прыказак, у якіх першае значэнне прамое, а другое – пераноснае, усяго толькі 12 з 22 двухзначных пры агульнай колькасці апісаных – 1629, у выданні 2002 г. – 10 з 17 двухзначных, у выданні 1996 – 7 з 7 двухзначных?

**15.** Якая розніца паміж сітуацыйнымі і кантэкстуальнымі прыказкамі? Карыстаючыся апісаннем прыказак і ілюстрацыйнымі прыкладамі, змешчанымі ў СБП [75], вызначце, якія з пададзеных прыказак сітуацыйныя, а якія – кантэкстуальныя.

1. Хто позна ходзіць, той сам сабе шкодзіць. 2. Або пан або прапаў. 3. Лепей нічога, чым благога. 4. Глухім два разы ў касцёле не звоняць. 5. Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю. 6. Можа надвое варожа. 7. Глухому дзве абедні не служаць. 8. Сарока на хвасце прынесла. 9. Калі значыцца, дык ацеліцца. 10. Чым багаты, тым і рады. 11. Пасмяяўся гаршчок з катла. 12. Не ўздыхай, чаго няма, то няхай. 13. У чорта спіна сцёрта. 14. Ад ліха ціха, а дабра не чуваць. 15. Чуў, кум, сонца, бачыў гром? 16. Жывём, хлеб жуём. 17. Чым хата багата, тым і рада. 18. Пашкадаваў воўк кабылу <пакінуў хвост ды грыву>. 19. Любіў рак жабу, аж вочы выеў. 20. Хай конь думае: у яго галава большая.

**16.** Чаму ўжыванне пры слове *прыказка* прыметніка-эпітэта *народная* лагічна не зусім апраўдана? Прывядзіце прыклады прыказак, якія склаліся не ў жывой народнай мове, а ўвайшлі ў сучасны парэмійны склад іншымі шляхамі.

**17.** Я.Ф.Карскі пісаў, што «толькі працяглыя даследаванні і вывучэнні могуць адкрыць сапраўднае паходжанне прыказкі» [51, с. 478]. Як у гэтай сувязі варта ставіцца да шматлікіх (больш за 40) этымалогій, якімі суправаджаецца ў «Зборніку беларускіх прыказак» І.І.Насовіча апісанне той ці іншай прыказкі? Што такое народна-этымалагічнае тлумачэнне?

**18.** А.А.Патабня лічыў, што вельмі многія прыказкі паходзяць з баек, анекдотаў і казак, сюжэтнае апавяданне якіх з цягам часу забылася, а вывад застаўся, ператварыўся ў прыказку. Чаму нельга абсалютызаваць гэта сцвярджэнне?

**19.** Што такое разгорнутая метафара? Якія з наступных прыказак можна лічыць разгорнутымі метафарамі жывёльнага або птушынага ці расліннага паходжання?

1. Пустазелле з поля вон. 2. Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць. 3. Пужаная варона куста баіцца. 4. Кошцы гулі, а мышцы слёзы. 5. Крывое дрэва не выпраміш. 6. Укаталі сіўку крутыя горкі. 7. У цёмным месцы і гніляк свеціць. 8. Старога вераб’я на мякіне не правядзеш. 9. Сава не родзіць сакала. 10. Ціхая свіння глыбока рые. 11. Мінулася кату масленіца. 12. Усякая птушка сваё гняздо бароніць. 13. Без глыбокага кораня дуба не бывае.

**20.** Дайце гістарычна-этымалагічныя даведкі да наступных прыказак (былых крылатых выразаў). Пры неабходнасці звяртайцеся да § 8–11, а таксама да СБП [75].

1. Апетыт прыходзіць у часе яды. 2. Няма прарока ў сваёй айчыне. 3. Не хлебам адзіным жыве чалавек. 4. Вялікае бачыцца на адлегласці. 5. Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала. 6. Няма таго, што раньш было. 7. Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч. 8. Дум не скуеш ланцугамі. 9. Рукапісы не гараць. 10. Назад не прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай уплывае. 11. З мілым рай і ў шалашы. 12. Пераможцаў не судзяць.

**21.** Якая розніца паміж парэмійнымі калькамі і паўкалькамі? Адзначце, якія з пададзеных прыказак калькі, а якія – паўкалькі і з якіх моў.

1. Забаронены плод салодкі. 2. Нішто не вечна пад месяцам. 3. Усё новае – гэта даўно забытае старое. 4. Грошы не пахнуць. 5. Воран ворану вока не выклюе. 6. Цяжка злавіць чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма. 7. Рука руку мые. 8. У здаровым целе – здаровы дух. 9. Няпрошаны госць горш за татарына. 10. Прывычка – другая натура. 11. Шукайце і знойдзеце.

**22.** Як часта ўзнікаюць фразеалагізмы на базе прыказак? Вызначце, якія фразеалагізмы ў прыведзеных сказах і ўрыўках утварыліся на аснове прыказак, якіх прыказак і якімі шляхамі.

1. І хоць з яго, Андрэя, пачалі пасмейвацца, маўляў, губа ў цябе не дура, ведае, куды меціць, аднак ён не зважаў ні на якія кпіны, смяшкі *(Б.Сачанка)*. 2. Задурыў галаву, – вот цяпер ён пан! Маўляў, і мора яму па калена *(В.Дунін-Марцінкевіч)*. 3. Каб ты ведаў, той чалавек, якога я шукаў па вуліцы Русіянава, прызнаўся ў трох забойствах. Два – у нас, адно – у Расіі. Так што ногі нас кормяць *(В.Праўдзін)*. 4. Пра Барташэвічаў казалі, што ім чорт дзяцей калыша *(І.Гурскі)*. 5. Разам працуем, можна сказаць, пуд солі з'елі, а сем'ямі, лічы, незнаёмыя *(А.Асіпенка)*. 6. – А, стары верабей! – загаманіў вайсковы, убачыўшы старшыню. – Ну, як маешся, чорт барадаты? *(М.Зарэцкі)*. 7. – Мяне на мякіне не правядзеш, – упэўнена, з выглядам пераможцы сказала кантралёрка *(У.Ягоўдзік)*. 8. Як, паверыўшы ў байкі тыя, пагнаўшыся за тым жураўлём у небе, не страціць і тое, што яшчэ засталося *(І.Мележ)*. 9. Калі карэктура нумара з тваёй камедыяй «Таблетку пад язык» і паэмай «Варшаўскі шлях» была падпісана ў друк, грымнуў гром *(К.Кірэенка)*. 10. «Выгадаваў дзетак, – узняўся стары. – Чыя тут віна? Відаць, сам даў маху. Кусай цяпер локці. Так табе і трэба» *(Л.Калодзежны)*. 11. Уяўляеце вы сабе сімпатычнага брандахлыста, фантазёра, які проста голы кароль? *(У.Караткевіч)*.

**23.** У § 13 («Марфалагічныя асаблівасці прыказак») паказана, што для некаторых прыказак, параўнальна нямногіх, характэрна зменнасць слова-кампанента. Прааналізуйце, як рэалізуюцца ў маўленні тры пададзеныя ніжэй прыказкі, як іх асобныя кампаненты (дзеяслоўныя ў першых дзвюх і займеннікавы ў трэцяй) атрымліваюць часавую, асабовую, лікавую і родавую актуалізацыю.

1. – У Ватыкане таксама не ўсё ідзе добра з іх «місіянерамі»... – У чужым воку саломку бачаць, а ў сваім бервяна не заўважаюць, – уздыхнуў айцец Роберт *(І.Гурскі)*. «Ага! – злавіў сябе на думцы Віктар. – Самому можна, а другім – не? У чужым воку саломінку ўбачыў, а ў сваім і бервяна не заўважаеш?» *(А.Кобец-Філімонава)*. – Ды яно, калі б на тое пайшло, а. Мікалай, – стары вол баразны не псуе. – Ось бачыш!.. Так-то, Амос Адамавіч, – дадае а. Мікалай, – мы бачым сучок у воку брата свайго, а бервяна ў сваім не заўважаем *(Я.Колас)*. Дарэмна ты, Лёнечка, зусім дарэмна на нас. Сучок у воку брата свайго бачыш, а ў сваім воку не заўважаеш і бервяна. Мы ніколі супраць ніякай улады не ішлі *(Я.Брыль)*.

2. Карнач праявіў выключную прынцыповасць, напісаўшы пісьмо. У той час, калі многія з нас «хэндэ хох» перад міністэрствам. Будзем шчырымі і скажам яму дзякуй, Карначу. Гэта той варыянт, калі і козы сытыя і сена цэлае *(І.Шамякін)*. Васіль Пятровіч барабаніў пальцам па стале, шукаючы такога выйсця, якое завецца: каб і козы былі сытыя і

сена цэлае *(П.Пестрак).* Казік падышоў да прадаўшчыцы, стаў раіцца з ёю, што б гэта купіць свайму зяцю, каб, як кажуць, і козы былі сытыя і сена цэлае *(В.Дайліда).* – Ну, што? Лоўка я падвёў? І сена цэла і козы сыты! – смяяўся Базыль, сходзячы з веранды *(Х.Шынклер).* – А вы не знаходзіце, што за гэта можна паплаціцца галавою? – Трэба так, каб і сена было цэлае і козы сытыя… *(І.Гурскі).* Нічога, мы падумаем, як абставіць справу так, каб і сена было цэлае і козы сытыя *(І.Навуменка).*

3. – Дык што ж нам тады рабіць? Вас ці што назначыць галоўным інжынерам? – Я на гэта не прэтэндую, Фёдар Мікалаевіч. – Відаць, так і прыйдзецца зрабіць. Самі заварылі гэту кашу, самі і расхлёбвайце *(К.Крапіва).* «Ага, заварыў, хлопча, кашу… Цяпер сам яе і расхлёбвай» *(М.Гамолка).* Званіў Кібрыс… Не са мною, а з табою хоча гутарыць… Зрэшты, і правільна, сама заварыла кашу – сама і расхлёбвай… *(В.Блакіт).* Напалоханы шахцёры… Самі ж заварылі гэту кашу, дык няхай самі і расхлёбваюць яе. Няхай пазнаюць, пачым фунт ліха *(М.Аўрамчык).* [Паліцэйскі:] Званіла жонка Дзюрвіля. У іх дом уварваліся інваліды і рабочыя, схапілі Дзюрвіля і пацягнулі некуды. Прасіла дапамагчы… [Капітан:] Чорт з ім! Сам заварыў гэтую кашу, хай і расхлёбвае *(А.Макаёнак).*

**24.** Чаму пры вызначэнні сінтаксічнай структуры пэўнай прыказкі абавязкова трэба ўлічваць, да якой семантычнай групы належыць гэта прыказка? Вызначце структурна-семантычныя тыпы прыказак 3-й групы, пабудаваных па схемах простага сказа – двухсастаўнага ці аднасастаўнага з яго разнавіднасцямі.

1. Свайго лёсу не мінеш. 2. Час – найлепшы доктар. 3. Дружба пазнаецца ў няшчасці. 4. Сквапнасць фраера згубіла. 5. Добры пачатак – палавіна справы. 6. На памылках вучымся. 7. Няма ліха без дабра. 8. Ніхто два разы не жыве. 9. На бяду мала трэба. 10. Каханне і кашаль не схаваеш.

**25.** Вызначце структурна-семантычныя тыпы прыказак 3-й групы, пабудаваных па схемах складанага сказа (складаназлучанага, складаназалежнага, бяззлучнікавага і з рознымі відамі сувязі).

1. Касі, каса, пакуль раса, раса далоў – каса дамоў. 2. Горкая гарэлка, але п'юць, дрэнна замужам, але ідуць. 3. Будзьце як дома, але не забывайцеся, што ў гасцях. 4. Едзеш на дзень, бяры хлеба на тыдзень. 5. Не шукай бяды, яна сама цябе знойдзе. 6. Хараство прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца. 7. Салдат спіць, а служба ідзе. 8. Хто не працуе, той не есць. 9. Калі воран каркае – бяда будзе. 10. Ніхто не ведае, як хто абедае.

**26.** Чаму адны з прыведзеных ніжэй алегарычных прыказак нельга разглядаць як звычайныя двухсастаўныя сказы, а другія – як аднасастаўныя, абагульнена-асабовыя?

1. Язык без касцей. 2. Крывое дрэва ў сук расце. 3. Збродлівай кошцы хвост уцінаюць. 4. Супраць ражна не папрэш. 5. Шылам мора не нагрэеш. 6. Без ветру і дуб не шуміць. 7. Задам толькі ракі поўзаюць. 8. Мыш капы не баіцца.

**27.** Ніжэй падаюцца прыказкі 1-й і 2-й семантычных груп. Вызначце, з якімі тыпамі простага або складанага сказа яны фармальна суадносяцца паводле сваёй структуры.

1. Заракалася кошка мышэй не лавіць. 2. Сабака брэша – вецер носіць. 3. Сабака брэша, а караван ідзе. 4. Адна лыжка дзёгцю псуе бочку мёду. 5. Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў. 6. Удовіна і сякера не сячэ, і кабыла не вязе. 7. Калі не наеўся, дык не наліжашся. 8. Я не я і хата не мая. 9. Займі чорта ад варот, дык ён цераз плот. 10. Куды ноч, туды сон. 11. Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч. 12. Не плюй у калодзеж, прыгадзіцца напіцца. 13. Ёсць хлеб – ядзім, няма – глядзім, сёння паабедаем, а як заўтра – не ведаем. 14. За двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш. 15. Гара з гарой не сходзіцца, а чалавек з чалавекам заўсёды.

**28.** Чытаючы змешчаныя ніжэй урыўкі, ахарактарызуйце, якімі спосабамі прыказкі ўключаюцца ў кантэкст.

1. Гэтая грубая, крыўдная няпраўда, хай сабе і з вуснаў п’янаватага Ігара (што ў цвярозага ў галаве, то ў п’янага на языку), балюча торкнула Клаўдзю, але – о дзіва! – ніколечкі не абразіла *(В.Блакіт).* 2. Я адзін чужы сярод уркаганаў. Як яно будзе? Вырашыў: з ваўкамі жыць, па-ваўчынаму выць *(С.Грахоўскі).* 3. – А граф Тышкевіч, выпадкова, не далёкі ваш родзіч? – Не адзін Гаўрыла ў Полацку, – усміхаецца Аляксандр Леанідавіч *(В.Шырко).* 4. – Столькі навезла, як у цябе і сілы хапіла давалачы? – А нічога, як той казаў, свая ношка не цягне, – адказала маці *(Л.Арабей).* 5. Даўно ўжо думка гэтая таўчэцца ў галаве: «Жонка – не рукаво – не адпораш» *(Я.Брыль).* 6. Меншаму ростам чалавеку заўсёды выпадае больш працы і менш уцехі. Ёсць нейкая доля праўды ў мудрых словах, што апошняму парасяці цыцка пад хвастом *(Я.Палубятка).* 7. А я, брат, жыву па прыказцы: ад торбы і ад турмы не адракайся *(Я.Колас).* 8. Маўчы, Ціт! Не наша дзела аб гэтым гаманіць. Знаеш прымаўку: і сцены маюць вушы *(В.Дунін-Марцінкевіч).* 9. Дзеці – дакладны паўтор сваіх бацькоў... Прырода ўсё роўна сваё возьме. Рана ці позна, але возьме. Нездарма народная мудрасць гаворыць: «Ад крывога дрэва не бывае прамога ценю» *(В.Кадзетава).* 10. Ну, а перамагчы Гарунова, самі ведаеце... Як кажуць, пугай абуха не пераб’еш *(І.Дуброўскі).* 11. 5-ы том выйшаў без актуальнага артыкула «Голад», хоць слова гэта ў 1-м томе [энцыклапедыі] надрукавана курсівам. Міжвольна прыгадалася: адзін раз схлусіўшы, хто табе паверыць? *(Г.Лагуновіч).* 12. Не святыя гаршкі лепяць – падвучыцца, паможам *(У.Паўлаў).* 13. – Першы крок для фарсіравання Прыпяці зроблены – дарога да яе пралажана. – Ну, а далей што? – Добры пачатак – палавіна справы... *(Я.Колас).* 14. Неяк было не па-чалавечы пакідаць аднаго Мар’яна Казіміравіча, прыехалі ж разам. Хоць вышэй пупа не скочыш *(В.Супрунчук).* 15. Што я вам скажу: чалавек не арэх, не раскусіш адразу *(С.Лобач).* 16. Хоць жылі яны як кот з сабакам, але – не дарэмна кажуць у народзе, што муж і жана – адна сатана, – не маглі не ўплываць адно на аднаго *(І.Шамякін).*

**29.** Як разумееце выказванне, што структурную замкнёнасць прыказкі «нельга атаясамліваць са структурнай непранікальнасцю» [107, с. 57]? Адзначце, чым ускладняецца (на ўзроўні моўнай нормы) тая ці іншая прыказка ў прыведзеных

урыўках (пабочнай канструкцыяй, звароткам, дэтэрмінантам, выклічнікам, часціцай). У якіх прыкладах прыказка адначасова ўскладняецца некалькімі моўнымі адзінкамі? Што такое дэтэрмінант?

1. Ужо, кажуць, здабыты першыя керны са шмат багацейшых пластоў, чым салігорскія. Што ж, ад прыбытку галава не баліць *(М.Паслядовіч).* 2. – Глядзі, яшчэ ўрэжуць дваццаць пяць гарачанькіх, як некалі ў пана Іваненкі. – Э, ваўка баяцца, у лес не хадзіць *(С.Грахоўскі).* 3. – Цяпер ён спаліць нас... – Спаліць? Што ж... ваўка баяцца – у лес не хадзіць. Спаляць – адбудуем... *(І.Шамякін).* 4. – Пана ў саху ўпражэм, а не пойдзе, дык пана бізуном сцябаць будзем. – Дай жа божа нашаму цяляці ваўка спаймаці *(Е.Міровіч).* 5. – Рабочыя дэманстрацыі прайшлі ва ўсіх буйных цэнтрах... І гэта толькі пачатак! – Дай божа, як кажуць, нашаму цяляці ваўка спаймаці *(В.Коўтун).* 6. – Я дашлю табе запрашальны білет на прэм'еру майго фільма! – Ну-ну, дай бог нашаму цяляці ваўка з'есці *(Г.Марчук).* 7. [Бірка:] Бог, заўваж, суседзе, не цяля – бачыць круцяля *(Я.Колас).* 8. Гэта ж у кожную кватэру трэба правесці газ, ваду, ацяпленне, каналізацыю, электрычнасць... Колькі працы чалавечай! А ў нас і сёння, як той казаў, адзін з сошкаю, а сямёра з ложкаю... *(Л.Арабей).* 9. Ты ўявіў, як не скажаш, то мы тут, у Ельніках, і ведаць нічога не будзем? Э-э, не, брат, чуткамі зямля поўніцца *(Б.Сачанка).* 10. Мамка добра, а жонка лепей. Начная зязюля ўсё роўна, уніятка, перакукуе дзённую *(Я.Сіпакоў).* 11. Мы з дзедам ўзялі пілу і сякеру ды рушылі за людзьмі ў пушчу па дровы. «Што будзе міру, – сказаў дзед устрывожанай матцы, – тое і бабінаму сыну» *(А.Якімовіч).*

**30.** У якіх пададзеных ніжэй прыказках прамы парадак слоў-кампанентаў, а ў якіх – адваротны? Чаму менавіта такі парадак размяшчэння слоў у пэўнай лінейнай паслядоўнасці трэба лічыць для гэтых прыказак устойлівым, фіксаваным?

1. Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць. 2. Кожная птушка ляціць у сваю чараду. 3. Рыба любіць ваду. 4. Яйцо курыцу вучыць. 5. Да пары збан ваду носіць. 6. Вясновы дзень год корміць. 7. На торнай дарозе трава не расце. 8. На бязрыб'і і рак рыба. 9. На злодзеі шапка гарыць. 10. Ведае кошка, чыё сала з'ела. 11. Бог шэльму меціць. 12. Абяцаная шапка на вушы не лезе. 13. Абяцанага тры гады чакаюць. 14. Адна ластаўка вясны не робіць. 15. Дурное дзела няхітрае. 16. Ціхая свіння глыбока рые. 17. На базары і бык цельны. 18. Дармовы сыр бывае толькі ў мышалоўцы. 19. Брахня праўдзе вочы выдрала. 20. Мінулася кату масленіца. 21. Свая сярмяжка не цяжка. 22. Добрае далёка чуваць. 23. Калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет ідзе да гары. 24. На беднага Макара і шышкі валяцца. 25. На лаўца і звер бяжыць. 26. У сваёй хаце і качарга маці. 27. Кожны па часе мае розум. 28. На бязлюддзі і поп чалавек. 29. Мінуліся тыя рокі, калі паны браліся ў бокі. 30. Вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна. 31. Скрыпучае дрэва два вякі жыве. 32. Скупы два разы траціць. 33. Мыш капы не баіцца. 34. Свіння лужыну знойдзе. 35. Бог тройцу любіць. 36. Сухая лыжка рот дзярэ. 37. Восень на рабым кані едзе. 38. Ціхая вада грэблі рве. 39. Ціхая вада берагі мые. 40. Кволае цялятка і ўлетку зябне. 41. Загляне сонца і ў наша аконца.

**31.** Вызначце, якімі «прыроднымі» асаблівасцямі, характэрнымі для той ці іншай прыказкі, падтрымліваецца яе стабільны, фіксаваны парадак слоў-кампанентаў.

1. Капейка рубель беражэ. 2. Заракалася кошка мышэй не лавіць. 3. Госць на парог – гаспадыня за пірог. 4. На гэта лета добра і гэта. 5. Хата рагата. 6. Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбы не зловіш не памачыўшыся. 7. На каго бог, на таго і людзі. 8. Млын меле – мука будзе, язык меле  – бяда будзе. 9. Служба не дружба. 10. Голад не цётка. 11. Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын. 12. Лепш нічога, чым благога. 13. Лепш едучы змерзнуць, чым ідучы спацець. 14. Жонка не рукаў, не адпораш. 15. Вада не гарэлка – шмат не вып'еш. 16. Работа не воўк, у лес не ўцячэ. 17. Брат любіць сястру багатую, а мужык жонку здаровую. 18. Каму што, а лысаму грэбень. 19. Які поп, такі і прыход. 20. Была б шыя, а хамут знойдзецца. 21. Шэпты хату зводзяць. 22. Пажар агнём не тушаць. 23. Ад старасці ды ад смерці няма лекаў на свеце. 24. Каб ды кабы, дык у роце б выраслі грыбы. 25. За дурной галавой нагам неспакой. 26. Воўк не пастух, а казёл не агароднік. 27. Сорам не дым, вачэй не выесць. 28. Якая на свінні шэрсць, такая ёй і чэсць. 29. Якія самі, такія і сані. 30. А калі што якое, дык што тут такое. 31. Увосень і кабан паросен. 32. За чужой шчакой зуб не баліць. 33. Маўчанне – знак згоды. 34. Канюшына – каню сіла. 35. Чалавек не вол, у адной скуры не старэе. 36. Каб ведаў, дзе павалішся, саломкі падаслаў бы. 37. Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзеці. 38. Жонка не лапаць, з нагі не скінеш. 39. Ласка не каляска, сеўшы не паедзеш. 40. Слова не верабей, выпусціў – не зловіш.

**32.** Зрабіце сінтаксічны разбор прыказак 3-й семантычнай групы, выкарыстаных у пададзеных ніжэй сказах ці ўрыўках.

1. Прыстаў я зусім, старасць не радасць *(У.Галубок).* 2. Як жа я, такі мудрэц і хітрэц, не дадумаўся! Вось праўду кажуць: век жыві – век вучыся *(І.Шамякін).* 3. Амброж, бывала, заходзячы да Ясевых у двор ці ў хату, каб слова сказаць ці пачуць, любіў пахваліцца: добра, як сусед блізкі і пералаз нізкі *(Ф.Янкоўскі).* 4. Госць, кажа беларуская прыказка, мала бывае, ды шмат бачыць. Купала бываў у Акопах госцем і бачыў шмат *(А.Лойка).* 5. А колькі прыйдзецца папацець, каб адмяніць старыя і выпрацаваць новыя і талковыя законы, бо дурная помач горш за немач?! *(В.Гроднікаў).*

**33.** Дайце агульную сінтаксічную характарыстыку складаных сказаў з прыказкамі ў іх складзе. Растлумачце сэнсавы змест кожнай прыказкі, пры неабходнасці звяртаючыся да СБП [75].

1. Старэйшая ж і памагла яму нябожчыцу грызці: усё ж і падвучвала, а без падпалу дровы не гараць *(К.Чорны).* 2. На гэты раз Галічэнка вырашыў памаўчаць: далей у лес – болей дроў *(І.Скарынкін).* 3. Можа, і праўду кажа гаспадар, што бот лапцю не пара, што Гэльцы трэба жаніх не абы з якога роду… *(С.Грахоўскі).* 4. Ён [Зусь] прыпыніўся на сярэдзіне перад рабочымі і спаважна, па-гаспадарску кашлянуў у кулак (вялікаму караблю – вялікае і плаванне) *(Р.Мурашка).* 5. Раскажу вам, як і што, толькі вы мне за гэта павінны зафундзіць, бо дарма, кажуць, і каза не скача *(Я.Колас).* 6. Шмат якія [з далёкіх сваякоў] былі такія аматары, што смела пра сябе маглі сказаць: дзе фэст, там і я ест *(К.Крапіва).* 7. Мы тут не думаем абараняць падсудных, але трэба неяк абараняцца самім, бо, як кажуць, авечку стрыгуць – баран дрыжыць

*(Л.Прокша).* 8. Антось не пробаваў [алоўкі], трымцяць яны ці звіняць, бо ведаў, што дармоваму каню ў зубы не глядзяць *(А.Чарнышэвіч).* 9. Ты добры гаспадар, Лазавенка, і ведаеш, што дзе многа нянек, там дзіця заўсёды мурзатае *(І.Шамякін).*

**34.** Чаму амаль усе прыказкі можна характарызаваць як мастацкія мініяцюры? Пералічыце спецыфічныя прыметы мастацка-паэтычнага характару, уласцівыя пэўным групам прыказак. Прывядзіце па 4 прыказкі вобразных, іншасказальных прыказак «жывёльнага», «птушынага», «расліннага» паходжання, а таксама прыказак з нерэальным вобразам у іх аснове.

**35.** Пакажыце сваё разуменне паняцця «прыказка з сюжэтным патэнцыялам» на прыкладзе байкі К.Крапівы «Чорт», якая ў якасці эпіграфа мае прыказку «Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць». Як стасуецца з сэнсавым зместам гэтай прыказкі мараль крапівоўскай байкі: «Чытач чакае звыклае маралі? Дык я пра тых – «у футарале», што ў промнях сонца яснага баяцца цcraftеню ўласнага»? Параўн. ужыванне прыказкі ў рамане Л.Дайнекі «След ваўкалака»: «Белавалод адхіснуўся назад, але, прыгледзеўшыся, здагадаўся, што ніякі гэта не чалавек, а палавецкі ідал, якога паганцы прыцягнулі са стэпу. Праўду кажуць людзі: кажух ляжыць, а дурань дрыжыць».

**36.** Карыстаючыся пяцітомным «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы», паспрабуйце вызначыць, у якіх з гэтых прыказак каламбурна выкарыстана адно са слоў-кампанентаў.

1. Голаму сабрацца – толькі падперазацца. 2. Дурняў не аруць, не сеюць, яны самі родзяцца. 3. Закон што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла. 4. Каб ведаў, дзе паваліўся, саломкі падаслаў бы. 5. Чырвонае – белае ўсё перадзелае. 6. Хай конь думае: у яго галава большая.

**37.** Вызначце, якім вершаваным памерам «напісаны» наступныя адначленныя (са структурай простага сказа) рытмічна арганізаваныя прыказкі.

1. Абяцаная шапка на вушы не лезе. 2. Ад работы коні дохнуць. 3. Ад самога сябе не ўцячэш. 4. Арлу з савой не па дарозе. 5. Баба і чорта звядзе. 6. Багатаму і чорт у хату дбае. 7. Без ветру і дуб не шуміць. 8. Без падпалу дровы не гараць. 9. Блізка локаць, ды не ўкусіш. 10. Вучыцца ніколі не позна. 11. Гара радзіла мыш. 12. Гарбатага магіла выпраміць. 13. Голаму разбой не страшан. 14. Гора толькі рака красіць. 15. Воран ворану вачэй не выклюе. 16. Дармовы сыр бывае толькі ў мышалоўцы. 17. Добра яблычка к Іспасу. 18. Задам толькі ракі поўзаюць. 19. Запас бяды не чыніць. 20. Зваранай рыбе вада не патрэбна.

**38.** Вызначце вершаваны памер у двухчленных прыказках. У якіх прыказак памер аднолькавы ў абедзвюх прэдыкатыўных частках, а ў якіх – у кожнай частцы іншы памер? Чым можна вытлумачыць рытмічны разнабой у двухчленных прыказках?

1. Хто бліжэй да міскі, той і чэрпае. 2. Хвалілася рэдзька, што з мёдам смачная. 3. Які куст, такі і адростак. 4. Хто шукае, той знаходзіць. 5. Сабака брэша – вецер носіць. 6. Пайшоў у бойку, чупрыны не шкадуй. 7. Не мела баба клопату, купіла парася. 8. Не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць. 9. Не купіў бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць. 10. Не жолаб да каня, а конь да жолаба ідзе. 11. Не да пацераў, калі хата гарыць. 12. На тое і шчупак у моры, каб карась не драмаў. 13. Лепш сініца ў руцэ, чым журавель у небе. 14. Каня куюць, а жаба ногі падстаўляе. 15. Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала. 16. Бачылі вочы, што бралі, дык ешце, хоць павылазьце. 17. Воз дадому возіць, а сані на базар. 18. За што

купіў, за тое прадаю. 19. Казала ліха, што не быць дабру. 20. Не гань чужога, калі свайго не маеш.

**39.** Як часта сустракаюцца рыфмаваныя прыказкі? Ахарактарызуйце прыказкі паводле месца знаходжання рыфмы (рыфма-кольца, рыфмуюцца сумежныя словы ў пачатку, у сярэдзіне, у канцы прыказкі і г.д.).

1. Гавары, ды не ўсё дагары. 2. Сіраце дакіпіць у жываце. 3. Старасць не радасць. 4. Ад напасці не прапасці. 5. Хата рагата. 6. Гаманіць галава не баліць. 7. На чужой старонцы рад сваёй варонцы. 8. Зямля святая ўсіх прымае. 9. За дурной галавой нагам неспакой. 10. Дома і салома ядома. 11. Жаніся, каб дурні не звяліся. 12. Паспех – людзям на смех. 13. Смех не грэх. 14. Гулі не аднаго ў лапці абулі. 15. Свой за гарой, а сусед у акне. 16. Бадлівай карове бог рог не дае. 17. Свая сярмяжка не цяжка. 18. На чужы каравай рот не разявай. 19. Цікаўнай Варвары сабакі нос адарвалі. 20. Не да танцу абадранцу. 21. Усе бабры дабры, адна выдра ліхая. 22. Абяцанка-цацанка, а дурню радасць. 23. Грэх у мех, грашаняты ў торбу. 24. Чым хата багата, тым і рада. 25. Быць бычку на лычку. 26. Як ні ары, абы чорным дагары. 27. Худы – хоць куды, а тлусты – чалавек пусты. 28. Няма горшай балесці, як хочацца есці. 29. У бога дзён многа. 30. Мароз сем баб павёз.

**40.** Вызначце віды рыфмаў паводле месца апошняга націскнога склада (мужчынская, жаночая, дактылічная), а таксама паводле часцінамоўнай прыналежнасці слоў, якія рыфмуюцца (назоўнікавая рыфма, дзеяслоўная і г.д.).

1. Кабыла з воўкам цягалася, хвост ды грыва асталася. 2. Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца. 3. Дзе госць, там і бог ёсць. 4. Дзень з алеем, а тыдзень галеем. 5. Дзе нянек многа, там дзіця бязнога. 6. Дзе фэст, там і я ест. 7. Еду ціха – са мной ліха, еду скора – са мной гора. 8. Калі худ, не лезь на кут. 9. Каму кірмаш, а каму жыццяя нямаш. 10. Касі, каса, пакуль раса, раса далоў – каса дамоў. 11. Бог не слухае, што свіння рухае. 12. Скажы курыцы, дык яна па ўсёй вуліцы. 13. Хто ажэніцца, той пераменіцца. 14. Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так. 15. Дай божа, каб усё было гожа, а што нягожа – не дай божа. 16. Галоднай куме хлеб наўме. 17. За чужой шчакой зуб не баліць. 18. Скачы, уража, як пан кажа. 19. Стары друг лепш за новых двух. 20. Не чапай ліха, калі спіць ціха.

**41.** Падзяліце змешчаныя ніжэй прыказкі на чатыры групы: 1) прыказкі з фанетычнымі сродкамі выразнасці, 2) таўталагічныя прыказкі, 3) прыказкі з антытэзным супрацьпастаўленнем, 4) прыказкі з сінтаксічным паралелізмам.

1. Смачная кашка, ды малая чашка. 2. Хто плаціць грошы, той заказвае і музыку. 3. На бязрыб'і і рак рыба. 4. Чужы дурань – смех, свой дурань – сорам. 5. Нязнайка ляжыць, а знайка бяжыць. 6. Збродлівай кошцы хвост уцінаюць. 7. Кропля камень крышыць. 8. Да бога высока, да цара далёка. 9. Дзіця не плача, маці не дагадаецца. 10. Лепш сініца ў руцэ, чым жураўель у небе. 11. Касі, каса, пакуль раса, раса далоў – каса дамоў. 12. Дома і салома ядома. 13. Ні калёс, ні атос, і воўк кабылу панёс. 14. Дружба дружбай, а служба службай. 15. Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі памаўчаць. 16. Дзе чубы трашчаць, там і пэйсы ляцяць. 17. Кума куме, а кума па ўсім сяле. 18. Абед на абед не тое, што кій на

кій. 19. Лес усё чуе, а поле ўсё бачыць. 20. Бойся быка спераду, каня ззаду, а дурня – з усіх чатырох бакоў.

**42.** Перачытайце змешчаныя ў трох папярэдніх практыкаваннях прыказкі і адзначце тыя, у якіх высокая мастацкасць дасягаецца не адным, а сукупнасцю некалькіх стылістычных прыёмаў.

**43.** З якіх двух кампанентаў складаецца стылістычнае значэнне прыказак? На якія чатыры функцыянальна-стылёвыя разрады можна падзяліць усе прыказкі? Паспрабуйце, з прывядзеннем пэўных аргументаў, размежаваць наступныя ўжытыя ва ўрыўках прыказкі паводле іх функцыянальна-стылёвай афарбоўкі.

1. Толькі мы самі, і ніхто іншы, зможам забяспечыць сабе дастойнае жыццё, калі возьмем лёс ва ўласныя рукі. Трэцяга не дадзена *(В.Серафімовіч).* 2. Унучак заўважыў, як яна абдымалася з гэтым «супрацоўнікам» на балконе. Збродлівай кошцы хвост уцінаюць. Чаму Іван так цацкаўся з ёй – невядома. Сынка свайго – школьніка, мабыць, шкадаваў, таму і не разводзіўся *(С.Лобач).* 3. Цяпер у друку часта неапраўдана асуджаецца партызанскі рух, але калі асуджаць, трэба добра ведаць усе абставіны. Тыя, хто асуджае, часта іх не ведаюць. Хочацца ім параіць: «Не судзіце, ды не судзімы будзеце» *(А.Жураўскі).* 4. Яшчэ праз паўтара месяца рабочы рух, збольшага падкормлены грашамі, паціху сышоў на нішто. «Гара нарадзіла мыш», – уздыхнуў знаёмы літаратар *(Ю.Станкевіч).* 5. А к чорту вас, ні ўдзень, ні ўночы ад вас спакою мне нідзе, – хоць ты ім плюй, здаецца, у вочы – усё роўна кажуць: дождж ідзе *(К.Крапіва).* 6. Няма куды спяшацца... Паспех – людзям на смех *(М.Аўрамчык).* 7. Падмануў мяне кудлаты чорт. А што яму зробіш? Супраць ражна не папрэш *(В.Каваль).* 8. – Вайна для яго стала спортам. Памятаеш гісторыю з бронедрызінай? – Пераможцаў не судзяць *(А.Дзялендзік).*

**44.** Што значыць «стылістычныя функцыі прыказак»? На якія дзве групы падзяляюцца стылістычныя функцыі? Вызначце, якія функцыі узуальнага характару выконваюцца прыказкамі ў наступных кантэкстах.

1. – Сядай, дружа, – пачулася з кутка. – У нагах праўды няма *(І.Новікаў).* 2. Іншая вясковая дваццаць гарадскіх за пояс заткне. Яна табе і вышывае, і шые, і ў полі робіць... Адна назва – гарадская. Зверху шоўк, а ўсярэдзіне шчоўк *(М.Лупсякоў).* 3. – Не, не! Вы не крыўдзіцеся, прашу вас. Я толькі хацела сказаць, што вы... ну, зусім не такі, як іншыя, не такі ў лепшым сэнсе. – Вельмі вам дзякую, але, зняўшы галаву, па валасах не плачуць *(Я.Колас).* 4. Смешна і несур’ёзна гаварыць доўга цяпер пра раскулачванне. Зняўшы галаву, па валасах не плачуць *(І.Мележ).* 5. [Моцкін:] Цесця выручаеце, таварыш пракурор. [Курбатаў:] Праўду кажуць, на злодзеі шапка гарыць. Не выкручвайся, грамадзянін Моцкін. Не выйдзе! *(А.Макаёнак).* 6. – А ніхто і не просіць, каб ты тут сядзеў. Ідзі, свет адчынены... Баба з воза – каню лягчэй, – сказаў Корсак, калі ў сенях аб кручок дзынкнула клямка *(В.Адамчык).* 7. – Праўду гавораць – яблык ад яблыні недалёка падае, – не слухаў, наступаў Арцём Іванавіч. – Быць таго не можа, каб у такога бацькі было паважанае дзіця. Гэта я ўжо ведаю. Ведаю!.. *(І.Мележ).* 8. Даўно ж вядома, што клін клінам выбіваюць. Толькі новае моцнае каханне можа выціснуць тугу па той асобе, якая здрадзіла яму *(В.Зуб).*

**45.** Назавіце функцыі аказіянальнага характару і праілюструйце іх рэалізацыю ў індывідуальна-аўтарскім маўленні асобнымі прыкладамі, якія запомніліся пры чытанні § 21.

**46.** Вызначце, якую стылістычную функцыю выконвае ў вершы Я.Купалы «Не плюй у карытца...» прыказка *Не плюй у карытца – прыдасца напіцца*, паўтораная 5 разоў, кожны раз пасля дзвюх папярэдніх строфаў. Вось толькі 4 страфы з гэтага верша:

Бач, нашу Айчыну
Без нашае волі,
Як тую аўчыну
Ў шматкі папаролі.
А нам чужы статут
Паднёс пяць паветаў, –
Жыві і ўладай тут!
Ну, дзякуй за гэта!..
Не плюй у карытца –
Прыдасца напіцца.

І «польскі», і «рускі»,
І ўсякі чорт іншы
На сказ беларускі
Плюе, не купіўшы –
Каб нам, беларусам,
І немач, і ліха...
А мы што? – пад вусам
Бармочама сціха:
Не плюй у карытца –
Прыдасца напіцца.

**47.** Якую стылістычную функцыю аказіянальнага характару выконваюць прыказкі ў нататках Я.Купалы «Старыя праўды на новы лад», надрукаваных у «Нашай ніве» (1907, № 26)?

1. Аб «Думе» можна думаць колькі ўлезе, але гаварыць голасна асцерагайся, гэта не ўсіх па шэрсці гладзіць, авечку стрыгуць, а цякун (баран) дрыжыць. 2. Не старайся зямлі, хаця бы і купіць, бо са стараны могуць часта падумаць, што дамагаешся «зямлі і свабоды»; хто парасё ўкраў, таму і ў вушах пішчыць. 3. Не працуйся, калі гоняць дарогу правіць не сваю дый дарма: можа, часам і цябе будуць па ёй весці, дык не будзеш каяцца; кінь за сабою, знойдзеш перад сабою. 4. Калі гэта ўсё чыста перачытаў, добра ў сваіх думках раскалупай, каб не збіўся, што да чаго і к чаму; людзей слухай і свой розум май.

**48.** Чаму вельмі многія мастакі слова не паўтараюць адну і тую ж прыказку ў сваім рамане, аповесці, апавяданні, за выключэннем выпадкаў, калі паўтарэнне чым-небудзь абумоўлена?

**49.** Назавіце два спосабы стылістычнага выкарыстання прыказак. Які спосаб пераважае? На якія дзве групы падзяляюцца прыёмы творчага выкарыстання прыказак? У чым сутнасць структурна-семантычных змяненняў прыказак? Якія эфектыўныя, «артыстычныя» прыёмы ўжывання прыказак ёсць у прыкладах, што прыводзяцца ніжэй?

1. Я прымаю стрэптацыд, палашчу рот марганцоўкаю, папёк сабе губы... А няхай яно згарыць. А тут яшчэ ўсякія агляды, доследы, аналізы... Не меў чалавек клопату, дык дастаў сабе пуцёўку на курорт *(Я.Колас)*. 2. – Я пайду з табой [на лекцыю]. – Навошта? – У мяне «фортка». А я даўно не слухала, як ты чытаеш. Не выбіваешся з баразны, стары конь? *(І.Шамякін)*. 3. Можа, і пляменнікі таксама пазайздросцяць [Ісаку], бо невядома яшчэ, да чаго давядзе тая іх класавая барацьба. Можа, да сумы, а можа, да турмы *(В.Быкаў)*. 4. Зняўшы парык, па валасах не плачуць *(М.Застольскі)*. 5. Сем разоў адмерай, а адрэж так, як скажа начальнік *(В.Шаўчэнка)* 6. Драпежнікаў баяцца – на маскарад

не хадзіць *(Р.Румко).* 7. Абодва [краўцы-кажушнікі] у доўгіх кажухах, нібы ў доказ таго, што не заўсёды шавец ходзіць без ботаў *(Я.Брыль).* 8. Перадайце, прапаршчык, гэтаму ідыёту, які хваліўся веданнем салдацкай душы і сваім уплывам на салдат, няхай сам сёрбае кашу, якую заварыў. Гэта яго ідэя – з ротай *(І.Шамякін).* 9. З «Парадаксізмаў» Л.Дайнекі: У гародзе бузіна, а ў Кіеве Кучма; Язык да клінікі давядзе; На злодзеі – пажарная каска; Не май сто рублёў, а май сто даляраў; Навучы дурня маліцца, дык ён атэістам зробіцца.

**50.** Вобразная аснова якіх прыказак выкарыстана ў наступных прыкладах? Пры неабходнасці звяртайцеся да СБП [75].

1. Не раз на жалабы Міхала ляснічы так казаў бывала: – Добры конь і цягне дужа! – І не пускаў Міхала з гужа *(Я.Колас).* 2. Чаму гэта мне будзе горш? Я да Карнача праектаваў жыллё. І пры ім не перайшоў на манументы. Я – рабочы конь з гучнай мянушкай «архітэктар». Цягнуў і буду цягнуць свой воз. Як дужаю, як умею *(І.Шамякін).* 3. – Ты, Лёня, схадзі да Тасі, папрасі яе прыйсці дахаты, мне страшна адной... – Ты, Тамарачка, просіш немагчымага. Гара да Магамета не пойдзе... Што? Лепш сам пайду ў чаргу. Сам! *(Б.Мікуліч).* 4. У адной кароткай сутычцы байцы батальённай аховы захапілі ў палон нямецкага матацыкліста – імчаў, не ведаючы броду, і сунуўся ў ваду... Не дапамог і кулямёт, з якога люта адстрэльваўся *(К.Кірэенка).* 5. Пэўна, на ўсё жыццё [старая] запомніла гэту сваю паездку. Будзе апавядаць ды адно прыгаворваць, якая трапная прымаўка прыдумана людзьмі наконт языка і горада Кіева *(М.Тычына).* 6. Маўчанне ніколі не было і не будзе золатам: яно – або ў шмат разоў даражэйшае, або – нічога не вартае *(М.Танк).* 7. Нічога падобнага! На кожную лыжку дзёгцю ў нас знойдзецца бочка мёду; у нас адной рукой даюць, а другой забіраюць *(А.Федарэнка).*

**51.** Як адзначалася ў § 24, скарочанае ўжыванне прыказкі, або эліпсіс, няма падстаў адносіць да яе структурна-семантычнага змянення. Такое ўжыванне кваліфікуецца як стылістычна не абумоўленае змяненне прыказкі. У якіх з пададзеных ніжэй прыкладаў маем справу з эліпсісам, а ў якіх – з мэтанакіраваным структурна-семантычным прыёмам?

1. Чулі, калегі? Некаторыя з нас закаханы ў яго. Нам патрэбны перажыванні. – Галоднай куме... *(І.Шамякін).* 2. – Але ж вам холадна. І вас чакаюць дома. – Дом не воўк, у лес не збяжыць *(М.Паслядовіч).* 3. – Не падабаюцца мне яго ўгодлівыя ўсмешкі, пачцівая стараннасць. – Хіцер Зміцер, – згадзіўся Віктар. – Я ж вам гаварыў: ён мяне ўжо купляў *(М.Гамолка).* 4. Выходзіць, што без Сяргея не абыдзешся. Вось дык звёў нас лёс, нібы нітку з іголкай! Куды адзін, туды і другі... *(Р.Няхай).* 5. – Калі ласка, чым багаты... – прапануе гаспадар і падсоўвае салдату хлеб шурпаты, як сухар *(С.Грахоўскі).* 6. – Усё невядомае палохае. Адкуль я ведаю, што мяне чакае з табою? Ды яшчэ я буду не адна... Каму патрэбна чужая бяда, лішні клопат? – Ты апяклася на малацэ!.. *(У.Дамашэвіч).* 7. [Кастусь:] Так, я жорстка памыляўся. Думаў скарыстаць супроць цара шляхецкае паўстанне. Аж бачу я – ваўка з авечкай нельга супрагаць, цягнуць у лес ён усё ж не перастане *(М.Клімковіч).* 8. – Але ж вы будуеце, і многа. Не з паветра ж... – Дык пад ляжачы камень... *(М.Замскі).*

**52.** У вершаваным маўленні, як гаварылася ў § 23, нярэдка сустракаюцца версіфікацыйныя варыяцыі прыказак, выкліканыя толькі неабходнасцю падпарадкаваць прыказку патрабаванням пэўнага рытму ці рыфмы. У якіх з наступных прыкладаў ёсць мэтанакіраваныя змяненні прыказак, а ў якіх – версіфікацыйныя варыяцыі?

1. – Баба брэша, вецер носіць, – нарэшце сказаў стары Галушка [пра жонку, якая не дазваляла яму рабіць пачатую справу] *(М.Пянкрат).* 2. А параўняўшыся з «Памдзеем», ён толькі лыпнуў ліхадзеем у бок аб'ездчыка старога, але не вымавіў нічога. «Памдзей» штурхець пад бок Міхала: «Счуў, бестыя, чыё з'еў сала», на Арцюшка «Памдзей» ківае... *(Я.Колас).* 3. Яго асцярожнасць, разважлівасць, уменне «сем разоў адмерацьь, пакуль рэзаць» хораша ўраўнаважвала яго, Максімаву, выбуховасць і размашыстасць, жаданне секчы любы вузел *(І.Шамякін).* 4. Проста накас, скокам-бокам жылося, вялося, але, як кажуць, да часу жбан ваду носе *(Я.Купала).* 5. Дзе сякуць, там лятуць шчэпкі проч, соладка ці горка; дзе прапала кароўка за ноч, – прападай вяроўка *(Я.Купала).* 6. Пятроў забіяцка на хутар глядзіць: – Як воўка баяцца, то ў лес не хадзіць! *(К.Крапіва).* 7. «Не, лепей пайду я да гравійкі, – нарэшце разважыла яна. – А то каб не сталася, як з той воронаю, што напрасткі заўсёды лятала, а дома ніколі не бывала» *(І.Чыгрынаў).*

**53.** У якіх з пададзеных прыкладаў маем справу са стылістычна не абумоўленымі змяненнямі прыказак (версіфікацыйныя варыяцыі, скарочанае ўжыванне), а ў якіх – з пэўнымі творчымі прыёмамі структурна-семантычных змяненняў прыказак?

1. Кандрат Крапіва і Пятро Глебка трымалі цафёраў. Дарагая раскоша – 800 рублёў у месяц. Але што зробіш – назваўся груздом... *(І.Шамякін).* 2. – Як лепей называць па-беларуску: чай ці гарбата? – Як ні назавеш, – усё будзе добра, абы смачна, – адказаў жартам Лабановіч. – Ды не адным чаем жыў будзе чалавек *(Я.Колас).* 3. [Паўла:] Што ж, пачакаем, брат апостал. Мо бог не выдасць, дык і пан не з'есць! *(М.Клімковіч).* 4. Нам настаўнік гаварыў, што ў нас, маўляў, не цар кіруе, а палітбюро. А бабы ў адзін голас: хіба ж мы супроць таго бюро?! Па нас няхай бы сабе хоць хто быў, абы па-людску кіраваў ды не вельмі тузаў. І каб дзетачак нашых не забівалі ў далёкіх чужых землях за той доўг, якога мы ні ў каго не пазычалі *(А.Петрашкевіч).* 5. Яно ўсякі адклад не вельмі йдзе ў лад *(В.Дунін-Марцінкевіч).* 6. Пастой, брат, не фарсі. Не пераскочыўшы не гопай; прыпруць – і пойдзеш у акопы, і хвігу ты з'ясі *(Я.Колас).* 7. [Пану] воўчы зуб не памагае, дык палітыка другая ў яго як бач паспела – хвост пусціць лісіны ў дзела... *(К.Крапіва).* 8. «Лісі хвост і воўчы клык» – назва сатырычнага верша К.Крапівы пра палітыку нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941 г. 9. З «Парадаксізмаў» Л.Дайнекі: Кожная сасна свайму бору пень пакідае; Не кажы гоп, пакуль не абралі ў дэпутаты: Цягнуў воўк – пацягнулі паляўнічага.

**54.** Чым адрозніваюцца семантычныя змяненні прыказак ад структурна-семантычных? Назавіце прыёмы семантычных змяненняў прыказак. Якімі прыёмамі абыграны прыказкі ў наступных прыкладах?

1. Умоўна зборнік названы «Верасовы звон». Справа, безумоўна, не ў загалоўку. Як кажуць, абы сына прычакаць, а імя можна падшукаць. А сын – такі добры! *(Р.Барадулін).* 2. Раман загадаў не чапаць дружыннікаў [якія пайшлі да дзяўчат]. – У каханкі смаляныя лаўкі, – рагатаў Ядрэйка.

– Глядзі, ваявода, прыліпнуць хлопцы да гэтых лавак і не аддзярэш іх. Не будзе з кім у паход ісці *(Л.Дайнека).* 3. Дасюль лічылася, што ў славутым помніку, што высіцца ў берлінскім Трэптаў-парку, увекавечаны подзвіг нашага земляка мінчука Трыфана Лук'яновіча. Ажно ж дачуваюся з расійскіх СМІ, што героем тым быў рускі Маслаў. Як гэта зразумець? Кажуць, маслам кашы не сапсуеш, а вось Маславым праўду – можна *(К.Камейша).* 4. Але ж гэта глупства, цяпер жа не тое. З ваўкамі жыць – па-воўчы выць. Але хто ж воўк, дзе хаваецца гэтая воўчая злосць, у каго ж гэты ляскат воўчых зубоў? Дзе ваўкі, дзе іх воўчыя зубы? *(М.Лынькоў).* 5. Праўда, тады была немалая надзея на жонку Людмілу Пятроўну, якая рабіла бухгалтаркай у банку. Але, мусіць, так ужо заведзена ў жыцці, што дзе коратка, там і рвецца, парвалася і з Людкай. Нечакана для сябе ён уведаў, што ў той паявіўся староннi ўхажор і не абы-які, а генеральны дырэктар таго ж банка *(В.Быкаў).* 6. [Іванчанка:] Гэта ж не блізка. Як жа ты дарогу знайшла? [Люба:] Захацеўшы сабаку ўдарыць, палку знойдзеш. [Іванчанка:] Дык ці не я той сабака, якога ты хочаш ударыць? [Люба:] Абазваўся... Сам нешта на палку просішся... *(А.Кучар).* 7. Імперыялістычныя драпежнікі ўсведамляюць тую вядомую ісціну, якая добра выказана беларускай прыказкай: чужая яечня – не вечна. Але яны не супраць таго, каб прыхаваць навечна для сябе чужую яечню. На гэтым будавалася і будуецца іх жыццё *(М.Лынькоў).* 8. [Самасееў:] Нічога! Прыйдзе і на нашу вуліцу свята! [Кавальчук:] На вашай вуліцы ўжо адсвяткавалі, пара і за работу брацца *(А.Макаёнак).* 9. А месца святое не будзе пустое, і хочуць яго не святыя сабе захапіць, як і цёплае тое, якое ніколі не стыне. І вострая зайздрасць таксама тупая. На месца святое ахвочых хапае *(Р.Барадулін).* 10. [Надзя:] Абрыдлі мне гэтыя чарапы. На завод пайду. [Антаніна Пятроўна:] Славы захацела? Можа, стаханаўкай думаеш быць? [Надзя:] А чаму б і не? Што я – горшая за людзей? [Антаніна Пятроўна:] Не з тваім, мусіць, спрытам... Ну што ж, дай божа нашаму цяляці ваўка спаймаці. [Надзя:] Гэта я ў вас цяля, а там, можа, і чалавекам буду *(К.Крапіва).*

**55.** Якія творчыя прыёмы семантычных змяненняў выкарыстаны ў прыведзеных прыкладах (у кожным прыкладзе асобна)? Якім чынам ствараецца сэнсавы паралелізм у 4-м прыкладзе?

1. Не першына: калі шанцуе, то і Халімон танцуе, а іншаму куды ні кінь, усюды клін. Вось такія кліны спатыкаў на сваім жыцці Юрка Сухавей *(Ядвігін Ш.).* 2. [Касценя:] Будуем то шмат. Ды вось кепска, што не заўсёды з розумам... [Садовіч:] Ёсць, ёсць! Але лес сякуць – трэскі ляцяць. [Касценя:] Задужа ў нас гэтых трэсак ляціць... *(П.Васілеўскі).* 3. Была б шыя, хамут знойдзецца. Знайшоўся такі хамут і для маладога паэта. Знайшлася праца на бровары ў Яхімаўшчыне, непадалёку ад Маладзечна *(З.Бандарына).* 4. – Вы ў сватах як загнулі героя, дык мне чорт ведае што і казаць. Я ледзь не згарэў ад сораму. – У сватах, як на торгу: кожны цыган сваю кабылу хваліць *(К.Крапіва).* 5. – Яніна ўцякла ад свайго Салаўя. – Адкуль ты ведаеш? – Ды ўсе бабы толькі пра гэта сёння і гамоняць... Антось, мабыць, хаваў ад людзей. Дык хіба ж шыла ў мяшку схаваеш. А Яніна не шыла. Яна ж баба, ды яшчэ ого якая баба. Такая баба ў мяшок не ўлезе *(Р.Мурашка).* 6. Адзін у полі – не воін, калі гэта поле – чужое. Устану ў полі адзін я, калі гэта поле – Радзіма. Сюды я вясновым ранкам следам прыйшоў за бацькам і, зубы сцяўшы да болю,

сахою варочаў поле. Мне сэрца надзея грэла, мне сонца было сяўнёй *(М.Пракаповіч).* 7. Век жыві – век вучыся. А калі працаваць? *(Д.Нахамкес).* 8. – Толькі ты, мамачка, нічога лішняга не гавары… – Лішняга не скажу. Лішняга і свіння не есць… *(М.Пянкрат).* 9. Багатаму чорт дзяцей калыша. Ці не таму ў багатых сем'ях дзеці, як вырастаюць, і сапраўды часам падобны на чарцей *(Б.Сачанка).* 10. Думаеш, ты бязгрэшны? Бязгрэшных прэзідэнтаў, губернатараў не бывае. Як не было і генсекаў. На сонцы плямы ёсць. А ты – не сонца. Усіх не сагрэеш *(І.Шамякін).*

**56.** Якія прыказкі ў прыведзеных прыкладах падпалі пад семантычныя змяненні, якія – пад структурна-семантычныя, а якія ўжыты са стылістычна не абумоўленымі змяненнямі?

1. Б'е пад рабро прыказка молатам: слова – серабро, маўчанне – золата! А ці не наадварот у любую пару: замкнёны рот – памінкі серабру!.. Ваюй за дабро і станеш волатам: маўчанне – серабро, слова – золата!.. *(А.Лойка).* 2. Я вам напісаў бы глыбей, цікавей, калі б не такая прычына: крылатае слова – не верабей, у рукі злавіць немагчыма *(Г.Зотаў).* 3. Язык не толькі да Кіева можа давесці *(Б.Бародзіч).* 4. Ну, каго з вас падмяніць? Спацелі вы абое. Не мела баба клопату… *(Э.Ярашэвіч).* 5. Бо хоць кажуць, што з уклону не баліць галоўка, – не зважай: з ярма прыгону выйшла гэта слоўка *(Я.Колас).* 6. [Грушэўскі:] Учора ў аднаго майго друга быў дзень нараджэння… Адзначылі як мае быць. Я заначаваў у яго на дачы… Дык і сёння яшчэ шал з галавы не выйшаў. [Ракітны:] Гэта называецца – хапіў з дзежкі, аж не бачыць сцежкі. [Грушэўскі:] Сцежку-то я бачу, але наконт аперацыі [хворага]… Рукі не служаць для ювелірнай работы *(К.Крапіва).* 7. Снедаю, жонка дагаджае, каб забыў учарашняе, прыганяе, каб еў, а я быццам той воўк – яго кормяць, а ён у лес пазірае *(М.Кусянкоў).* 8. Але цяпер гасцям узрадавалася Вольга. Шчыра. За мужа. Яны – як тая ластаўка, якая вясны не робіць, але з'яўляецца самай вернай прыкметай яе. Можа, яшчэ наступіць вясна і ў Іванавым жыцці *(І.Шамякін).* 9. [Зацяруха, загадчык сталовай:] Ну і работка ў нас… Хто яе толькі выдумаў. Жывём, можна сказаць, як гарох пры дарозе, – хто ідзе, той скубе. І сапраўды. Заводскае начальства – скуб! (Шчыпле сябе за бок.) Трэстаўскае начальства – скуб! (Шчыпле за другі.) Таму недасолена – скуб! Таму перасолена – скуб! *(В.Зуб).* 10. Дый рыштунку многа, што тут гаварыць, з хаткі ў хаткі, дык на рубель упадку, а тут не рублём пахне *(К.Крапіва).* 11. Прымаўка пра тое, што кожны кулік сваё балота хваліць, даўно павінна была б забыцца. Бо дзе цяпер тое балота? Амаль што няма. Ёсць аб'екты, на якіх заўзята гаспадарыць руплівы меліяратар. Праўда, іншы раз здараецца, што той жа меліяратар пераўвасабляецца ў куліка, які на ўсе лады спрабуе расхваліць сваё балота, каб здаць яго эксплуатацыйніку з самай найлепшай для сябе адзнакай. Бо яму самому больш на тым балоце не жыць, яго чакае новы аб'ект, які ён павінен ператварыць ва ўрадлівую ніву *(У.Праўдасуд).* 12. Бабская дарога ад печы да кухоннага камбайна *(Л.Дайнека).* 13. Пакуль тоўсты ссохне, худы патаўсцее *(Л.Дайнека).*

**57.** Пералічыце больш-менш тыповыя разнавіднасці парушэння прыказкавай нормы. Што значыць «парушэнне семантычнага характару пры ўжыванні прыказкі»? Прачытайце ў «Слоўніку беларускіх прыказак» [75, с. 243–244] артыкул *На вытаптанай*

*(выбітай, торнай) дарозе трава не расце*, а затым верш С.Законнікава «На бітай дарозе» (гл. у § 26, с. 204). Дакажыце, што двойчы паўтораная ў вершы прыказка ўжыта недакладна, з няведаннем яе сапраўднага сэнсу.

**58.** Якія нематываваныя парушэнні прыказкавай формы ёсць у пададзеных прыкладах? Класіфікуйце іх. Звяртаючыся да адпаведных прыказак, змешчаных у СБП, выпраўце памылкі ў прыкладах, прыведзеных ніжэй.

1. Пра страх не гавары. Адзін раз страх, другі раз страх, а трэці раз ужо страх не ў страх. Ды што казаць, абцярпеліся людзі. Гэта раней казалі, што ў страха вочы вялікія, а цяпер ты нашага чалавека страхам не возьмеш *(М.Лынькоў)*. 2. Тут вельмі да месца прымаўка: «Лес рубаюць, трэскі ляцяць» *(М.Замскі)*. 3. Ну, проста абнаглеў, на сорам наплюваў, хапае ўсё, забыўшы межы. Як кажуць, апетыт прыходзіць з ежай *(У.Корбан)*. 4. Апетыт, як кажуць, прыходзіць у час ежы *(Л.Прокша)*. 5. З перапалоху я рвануў ад хаты. Бег не чуючы пад сабой ног, нездарма кажуць – у страха вочы вялікія *(В.Супрунчук)*. 6. Нібы само ліха пацягнула тады за язык, падтакнуў Судзіру, згадзіўся на лоўлю новых дэльфінаў (як топішся, то і за пену схопішся), а цяпер ужо ўсё, адступлення не можа быць *(П.Місько)*. 7. Просты майстра, не ведае нават, як зладзіць з машынай, калі да яе прыставяць. Толькі сораму набярэшся. Ды яшчэ людзі абсмяюць: не поп, дык не надзявайся ў рызу *(Р.Няхай)*. 8. Нарэшце сваіх дачакаліся... Разумееш, якраз у пару, а кажуць жа, што дарага лыжка ў абед... А мы тут б'ёмся... Рабочых не хапае... *(І.Гурскі)*. 9. Нікому Міндоўг не хоча аддаць ні кропелькі ўлады, бо дзве лісіцы ў адной нары не жывуць *(Л.Дайнека)*. 10. Астроўскі вагаўся. А ўсё ж стары друг лепей новых двух *(І.Гурскі)*. 11. Вось нехта ідзе... Здаецца, якраз як іхні бухгалтар... Не, проста ў страха вочы вялікія... *(У.Дамашэвіч)*. 12. – Ты мяне хоць гаршком называй, але ў агонь не стаў. – Баішся агню? – задзірыста і бадай з'едліва пажартаваў камандзір *(І.Шамякін)*. 13. – Далей на гэтых конях ехаць нельга, можна іх сапсаваць... – Дзіва! – аж засмяяўся Даўгулевіч. – Неабходна па-гаспадарску да каня ставіцца. Не дарма кажуць: шануй каня ў дарозе... *(І.Гурскі)*.

**59.** Супастаўце ўжыванне небеларускіх прыказак у двух прыкладах (у адным – рускай, у другім – польскай). У якім прыкладзе выкарыстанне іншаземнай прыказкі трэба кваліфікаваць стылістычна апраўданым і чаму?

1. [Бусько:] Эх, Хведзька, Хведзька... [Ухватаў:] Хведар Паўлавіч!!! [Бусько:] Та ні! Хведзька! Апамятайся! Не Хведар Паўлавіч ужо. Хвядот, ды не тот! Пара зразумець ужо. Ну, што ты крычыш? Што крычыш? *(А.Макаёнак)*. 2. – Я думаў, што ў «дэмакратычнай» панскай Польшчы права судзіць дано ўсім, – іранічна заўважыў Нявідны. – Што можна ваяводзе, то не тобе, смродзе, – так жа спакойна адказаў следчы. – Дасканалая «дэмакратычная» прыказка, – засмяяўся Нявідны *(Я.Колас)*.

**60.** Якія ўжытыя тут прыказкі парушаюць чыстату беларускага маўлення? Карыстаючыся СБП, знайдзіце дакладныя адпаведнікі да гэтых прыказак (за выключэннем адной).

1. Мудра кажа народная прыказка: чужую бяду пальцам развяду, а сваёй ума не дабяру. І не дабраць, як быццам усе сілы неба і зямлі злучыліся ў адным саюзе і пабажыліся зрабіць канцы. Не! Яшчэ не!

Пачакайце... змагацца будзем!.. *(Р.Мурашка).* 2. Вось што, падпольны дарэктар! Вучы дзяцей так, каб бацькі былі задаволены і плацілі мне акуратна. А то не стоіць аўчынка выдзелкі, і я цябе прыхлопну. Будзем шукаць другога... *(М.Гарэцкі).* 3. А то гаварылі ў нас тут, быдта ў Граські, калі пачынае курыць, дым з левага боку ідзе... Чаго людзі не прыдумаюць. Дзіва што, на чужы раток не накінеш платок *(А.Масарэнка).* 4. Як мне ўжо далажылі, дзе хто і спрабуе ачарніць нашы намаганні, распусціць чуткі, што мы цураемся мясцовых аўтараў і нацыянальнай тэматыкі, але тут, як кажуць у народзе, на чужы раток не накінеш платок *(В.Гігевіч).* 5. Нездарма кажуць: каму вайна, а каму маць радна. Некаторыя ўмудрыліся паправіць свае справы, падправіць уласны лёс, як правіла, на чужым горы *(У.Паўлаў).* 6. Верыў і не верыў, што ўсё гэта пра яго і для яго, што гэтыя паперы насуперак усяму дазваляюць навек пакінуць вёску, родны край і падацца хоць не ў самы далёкі, але ўсё ж няблізкі свет («Курыца – не птіца, Варшава – не заграніца», – гаварылі ў Янкавінах), да незнаёмых людзей і звіць там сабе гняздо *(Г.Далідовіч).*

**61.** Што такое прыказкавы анахранізм? Праілюструйце гэта якім-небудзь прыкладам, што запомніўся пры чытанні § 26.

**62.** У часопісе «Роднае слова» час ад часу (напрыклад, у № 3 і 7 за 2001 г.) змяшчаюцца беларускія прыказкі і рускія адпаведнікі да іх, і наадварот. Карыстаючыся слоўнікамі, праверце, ці сапраўдны, нарматыўны гэта міжмоўны пераклад, напрыклад, такіх прыказак.

1. *Пераначуем – болей пачуем* – Утро вечера мудренее. 2. *Загляне сонца і ў наша аконца* – Будет и на нашей улице праздник. 3. *Чорт чорта пазнаў і на піва пазваў* – Рыбак рыбака видит издалека. 4. *Яблоко от яблони недалеко падает* – Якія самі, такія і сані; Якое дрэва, такі клін, які бацька, такі сын; Які млын, такі і станок, які бацька, такі і сынок; Якая матка, такое і дзіцятка; Сава не родзіць сакала, а такога чорта, як сама. 5. *Что посеешь, то и пожнешь* – Як сабе пасцелеш, так і выспішся; Як узарэш, так і збярэш; Дзе пасееш густа, там не будзе пуста; Кінь за сабою – знойдзеш перад сабою; Як дбаеш, так і маеш; Якое семя, такое і емя.

**63.** Супастаўце апісанне адной і той жа прыказкі ў трох парэміяграфічных працах, дзе занатаваны прыказкі з жывой народнай мовы. Чым адрозніваюцца слоўнікавыя артыкулы (у перадачы формы і зместу прыказкі і іншай інфармацыі)?

*1. «Зборнік беларускіх прыказак» І.І.Насовіча* (с. 98):

Не зведавши броду, не кидайся въ воду. Наставленіе быть осмотрительну и осторожну, особенно въ опасныхъ предприятіяхъ.

*2. «Люд беларускі...» М.Федароўскага* (с. 43):

967. Nie [ni] znáuszy [znáŭszy] bródu nie [ni] leż [nie súńsie] ŭ wódu. – St.W.

*Nsb. 98; Nsl. 200; T. 416. u: Czb. 276; Nm. 5836. p: A. 604,36. r: D. II, 202.*

*3. «Прыказкі і прымаўкі» А.Аксамітава* (с. 74):

НЯ ЗЬВЕДАЎШЫ БРОДУ, НЯ СУНЬСЯ Ў ВОДУ. Папярэджанне, каб быць асцярожным і прадбачлівым, не брацца за незнаёмую справу

непадрыхтаваным. **Насовіч:** Ні знаўшы броду, ні сунься ў воду. **Федароўскі:** Не знаючы броду, не лезь у воду.

Параўн. ужыванне гэтай жа прыказкі ў літаратурнай мове – паводле апісання ў «Слоўніку беларускіх прыказак» І.Я.Лепешава і М.А.Якалцэвіч (с. 263–264):

**Не ведаючы (не зведаўшы) броду, не сунься ў воду. 1.** [Далей даецца прыклад з п'есы Я.Коласа «У пушчах Палесся», дзе прыказка ўжыта ў сваім прамым, літаральным значэнні.]

**2.** *Не бярыся за незнаёмую справу непадрыхтаваным, без адпаведнага вопыту.* [Гэта іншасказальнае значэнне праілюстравана цытатамі з твораў М.Ваданосава, І.Сіняўскага, Б.Сачанкі, М.Пянкрата. Затым за знакам зорачкі з абзаца змешчаны індывідуальна-аўтарскія ўжыванні ў творах Я.Коласа, К.Кірэенкі, Р.Няхая. У канцы слоўнікавага артыкула з абзаца і з працяжнікам пададзены звесткі, што прыказка занатавана ў зборніку І.І.Насовіча (с. 98) і ў акадэмічным зводзе «Прыказкі і прымаўкі» (кн. 2, с. 455).]

**64.** Супастаўце апісанне ў трох парэміяграфічных слоўніках адной і той жа прыказкі, часта ўжывальнай у літаратурным маўленні і зафіксаванай у літаратурных крыніцах. Чым адрозніваюцца слоўнікавыя артыкулы паводле перадачы прыказкавай формы, зместу і іншай інфармацыі?

*1. «Крынічнае слова» І.Шкраба і Р.Шкрабы* (с. 24):

**Абяцанка-цацанка, а дурню – радасць.** *Не трэба верыць пустым абяцанням, якія не падмацаваны канкрэтнымі справамі, а даюцца, каб заспакоіць або ашукаць каго-небудзь.* Гл. **Цацанкі-абяцанкі, а дурному радасць.** [Далей – ілюстрацыйны прыклад з твора П.Панчанкі.]

*2. «Слоўнік беларускіх прыказак, прымавак і крылатых выразаў» С.Івановай і Я.Іванова* (с. 30–31):

**АБЯЦАНКА-ЦАЦАНКА, А ДУРНЮ РАДАСЦЬ**; ужыв. таксама ЦАЦАНКІ-АБЯЦАНКІ, А ДУРНОМУ РАДАСЦЬ. *Само па сабе абяцанне яшчэ не гарантуе таго, што яно будзе калі-н. выканана... а) Гаворыцца, калі хто-н. абяцае што-н. або калі гэтае абяцанне не здзяйсняецца... б) Гаворыцца (часцей з іроніяй або жартам), калі няма рэальных падстаў спадзявацца, што нейкае абяцанне будзе выканана.* [Пасля загаловачнай прыказкі паясняюцца кампаненты *абяцанка, цацанка,* а пасля сітуацыйных характарыстык ідуць дзве ілюстрацыйныя цытаты з твораў П.Панчанкі і Я.Коласа. У канцы слоўнікавага артыкула даюцца як адпаведнікі з рускай мовы: *Дурак и посуленному рад; На посуле, что на стуле: посидишь да и встанешь; Обещанного ждать – одураченным стать; Обещанного три года ждут*].

*3. «Слоўнік беларускіх прыказак» І.Я.Лепешава і М.А.Якалцэвіч* (с. 37–38):

**Абяцанкі-цацанкі, а дурню (дурному) радасць.** *Няма надзей на здзяйсненне абяцанага. Кажуць іранічна ці з неадабрэннем, калі не вераць у хуткае выкананне кім-н. дадзеных ім абяцанняў.* **Сін.:** *Абяцанага тры гады чакаюць; Абяцаная шапка на вушы не лезе.* [Далей – ілюстрацыйныя прыклады з твораў М.Лынькова, В.Каваленкі, Я.Коласа, Л.Левановіча. Унутры гэтага ж артыкула даецца паўтлустым шрыфтам варыянт **Абяцанка-цацанка, а дурню (дурному) радасць** і да яго дзве ілюстрацыі з твораў В.Дуніна-Марцінкевіча і К.Крапівы. За зорачкай ідуць індывідуальна-аўтарскія ўжыванні прыказкі з твораў Я.Коласа і

І.Чыгрынава. Артыкул завяршаецца даведачнай часткай, у якой паказана, што прыказка занатавана ў зборніку І.І.Насовіча (с. 117) і ў «Прыказках і прымаўках» (кн. 2, с. 247).]

## СПІС ВЫКАРЫСТАНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

1. *Аксамітаў А.С.* Лексіка беларускіх прыказак XIX ст. у сувязі з агульнай праблемай фразеалогіі. – Мінск, 1958.

2. *Аксамітаў А.* Прыказкі і прымаўкі: Тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак і прымавак з архіваў, кафедральных збораў, рэдкіх выданняў XIX і XX стст. – Мінск, 2000.

3. *Аникин В.П.* Предисловие // Словарь русских пословиц и поговорок / Сост. В.П.Жуков. – М., 1967.

4. *Архангельский В.А.* Устойчивые фразы в современном русском языке. – Ростов-на-Дону, 1964.

5. *Ахманова О.С.* Словарь лингвистических терминов. – М., 1969.

6. *Ахрыменка П.П.* Беларуская літаратура і фальклор. – Мінск, 1962.

7. *Бабкин А.М.* Слово в контексте и в словаре // Современная русская лексикография. – Л., 1977.

8. *Базыленка А.* Народныя фразеалагізмы ў мове твораў Якуба Коласа // Вялікі пясняр беларускага народа. – Мінск, 1959.

9. *Балли Ш.* Французская стилистика. – М., 1962.

10. Беларуская вусна-паэтычная творчасць: Падручнік для студэнтаў філал. спец. ВНУ. – Мінск, 2000.

11. Беларуская граматыка: У 2 ч. Ч. 2. Сінтаксіс. – Мінск, 1986.

12. Беларуская літаратура: Падручнік для 5 класа / Пад рэд. В.А.Ляшук. – Мінск, 2002.

13. Беларуская мова: Падручнік для 10–11 класаў агульнаадук. шк. з рускай мовай навучання / В.І.Несцяровіч, Л.С.Васюковіч і інш. – Мінск, 1999.

14. Беларуская мова: Энцыклапедыя. – Мінск, 1994.

15. Беларуская Савецкая Энцыклапедыя: У 12 т. Т. 8. – Мінск, 1975.

16. Беларуская Энцыклапедыя: У 18 т. Т. 13. – Мінск, 2001.

17. Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы / Склаў Ф.Янкоўскі. – Мінск, 1962.

18. *Белинский В.Г.* Иван Андреевич Крылов // Собр. соч.: В 9 т. Т. 7. – М., 1981.

19. *Белинский В.Г.* О классиках русской литературы. – М., 1950.

20. *Белов В.* Лад: Очерки о народной эстетике. – М., 1982.

21. *Бондаренко В.Т.* Об ответных фразеологизмах и их лексикографической разработке // Словарное наследие В.П.Жукова и пути развития русской и общей лексикографии: Материалы Междун. науч. симпозиума. – Великий Новгород, 2004.

22. *Бурак Л.І., Красней В.П., Лазоўскі У.М.* Сучасная беларуская мова: Практычныя заняткі. – Мінск, 1989.

23. *Бурака Н.* Выкарыстанне прыказкавага матэрыялу ў курсе сінтаксісу // Вывучэнне беларускай мовы ў вышэйшых навучальных установах: Матэрыялы семінара. – Мінск, 1973.

24. *Бурака Н.І.* Сказы-прыказкі з іменным прэдыкатам // Научные труды. Т. 5. Филология. Выпуск 1. – Минск, 1973.

25. *Буряко Н.И.* Синтаксис белорусских народных пословиц: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. – Минск, 1974.

26. Быкаў на Свабодзе. – Прага, 2004.

27. *Валочка Г.М., Лаўрэль Я.М.* Беларуская мова: Падручнік для 7 класа. – Мінск, 2004.

28. *Валочка Г.М., Язерская С.А.* Беларуская мова: Падручнік для 8 класа. – Мінск, 2004.

29. *Виноградов В.В.* Основные понятия русской фразеологии как лингвистической дисциплины // Труды юбилейной сессии ЛГУ. Секция филологических наук. – Л., 1946; Об основных типах фразеологических единиц в русском языке // Академик А.А.Шахматов. – М.–Л., 1947; О взаимодействии лексико-семантических уровней с грамматическими в структуре языка // Мысли о современном русском языке: Сб. ст. – М., 1969.

30. *Виноградов В.В.* Русский язык: Грамматическое учение о слове. – Л., 1947.

31. *Вітка В., Суша В., Ціханравава В.* Роднае слова. – Мінск, 1969.

32. *Гальперин И.Р.* Очерки по стилистике английского языка. – М., 1958.

33. *Гамеза Л.* Вывучэнне фразеалогіі беларускай мовы ў школе // Роднае слова. – 1997. – № 8.

34. *Гардзей Н.М., Навіцкі П.Л., Тамашэвіч З.М.* Беларуская мова: Вучэбны дапаможнік для 9 класа з рускай мовай навучання. – Мінск, 2000.

35. *Гваздовіч Г.А., Круталевіч М.М., Саўко У.П.* Беларуская мова: Вучэбны дапаможнік для 10 класа. – Мінск, 1999.

36. *Гваздовіч Г.А., Круталевіч М.М., Саўко У.П.* Беларуская мова: Вучэбны дапаможнік для 10 класа. – Мінск, 2004.

37. Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. – Мінск, 1970.

38. *Головин Б.Н.* Основы культуры речи. – М., 1980.

39. *Головин Б.Н.* Язык и статистика. – М., 1971.

40. Граматыка беларускай мовы. Т. 2. Сінтаксіс. – Мінск, 1966.

41. *Грынблат М.Я.* Прыказкі і прымаўкі // Прыказкі і прымаўкі ў дзвюх кнігах. Кн. 1. – Мінск, 1976.

42. *Дубинский И.В.* О смысловых изменениях фразеологических единиц // Вопросы стилистики. Вып. 1. – Саратов, 1962.

43. *Ефимов А.И.* Язык сатиры Салтыкова-Щедрина. – М., 1953.

44. *Жуков А.В.* В.П.Жуков – словарник: прозрения учителя // Словарное наследие В.П.Жукова и пути развития русской и общей лексикографии: Материалы Междунар. науч. симп. – Великий Новгород, 2004.

45. *Жуков В.П.* Русская фразеология. – М., 1986.

46. *Жуков В.П.* Семантика фразеологических оборотов. – М., 1978.

47. *Жуков В.П.* Словарь русских пословиц и поговорок. – М., 2003.

48. *Иванова Е.В.* Проблемы пословичной лексикографии // Словарное наследие В.П.Жукова и пути развития русской и общей лексикографии: Материалы Междунар. науч. симп. – Великий Новгород, 2004.

49. *Іванова С.Ф., Іваноў Я.Я.* Слоўнік беларускіх прыказак, прымавак і крылатых выразаў. – Мінск, 1997.

50. *Казека Я.* Беларуская байка. – Мінск, 1960.

51. *Карский Е.* Пословицы и поговорки // Беларусы. – Минск, 2001.

52. *Карский Е.Ф.* Белорусы. Т. 3, вып. 3. – Пг., 1922.

53. *Кокаре Э.Я.* Интернациональное и национальное в латинских пословицах и поговорках: Автореф. дис. … д-ра филол. наук. – М., 1979.

54. *Короленко В.Г.* О литературе. – М., 1957.

55. *Кравцов Н.И., Лазутин С.Г.* Русское народное творчество. – М., 1983.

56. *Крапіва К.* Беларускія прыказкі // Зб. тв.: У 4 т. Т. 4. – Мінск, 1963.

57. *Крапіва К.* Аб некаторых пытаннях беларускай мовы // Зб. тв.: У 4 т. Т. 4. – Мінск, 1963.

58. *Красней В.П.* Грані слова. – Мінск, 1986.

59. *Красней В.П.* Лексіка і фразеалогія беларускай мовы. – Мінск, 1982.

60. *Красней В.П., Лазоўскі У.М., Шчарбакова І.М.* Сучасная беларуская мова: Лексікалогія. Фразеалогія. – Мінск, 1984.

61. *Красней В.П., Лаўрэль Я.М.* Беларуская мова: Падручнік для 5 класа. – Мінск, 2003.

62. *Красней В.П., Лаўрэль Я.М.* Беларуская мова: Падручнік для 4 класа. – Мінск, 2001.

63. *Крышталь В.* Прадмова // Крапіва К. Сатыра і гумар. – Мінск, 1962.

64. *Кузнецова Э.В.* Лексикология русского языка. – М., 1982.

65. *Кунин А.В.* Английская фразеология: Теоретический курс. – М., 1970.

66. Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы: Фанетыка. Арфаэпія. Лексікалогія. – Мінск, 1961.

67. *Ларин Б.А.* История русского языка и общее языкознание. – М., 1977.

68. Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы / Пад рэд. А.Я.Баханькова. – Мінск, 1994.

69. *Лепешаў І.Я.* Крытэрыі функцыянальна-стылявой класіфікацыі фразеалагізмаў // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. – 1983. – № 4. – С. 97–104.

70. *Лепешаў І.Я., Малажай Г.М., Панюціч К.М.* Практыкум па беларускай мове. – Мінск, 2001.

71. *Лепешаў І.Я.* Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы. – Мінск, 1984.

72. *Лепешаў І.Я.* Сучасная беларуская літаратурная мова: Спрэчныя пытанні. – Гродна, 2002.

73. *Лепешаў І.Я.* Чаму мы так гаворым. – Гродна, 2003.

74. *Лепешаў І.Я., Якалцэвіч М.А.* Прыказкі як моўныя адзінкі і іх стылістычнае выкарыстанне. – Гродна, 1995.

75. *Лепешаў І.Я., Якалцэвіч М.А.* Слоўнік беларускіх прыказак. – Мінск, 2002.

76. Лингвистический энциклопедический словарь. – М., 1990.

77. *Ліцвінка В.Д., Царанкоў Л.А.* Слова міма не ляціць. – Мінск, 1985.

78. *Ляцкий Е.А.* Материалы для изучения творчества и быта белорусов: Пословицы и поговорки. – М., 1898.

79. *Ляцкий Е.А.* Несколько замечаний по вопросу о пословицах и поговорках // Изв. ОРЯС. – 1897. – Т. 2.

80. *Мажэйка Н.С., Супрун А.Я.* Частотны слоўнік беларускай мовы: Мастацкая проза. – Мінск, 1976.

81. *Майхровіч С.К.* Прыказкі і прымаўкі. – Мінск, 1976.

82. *Максимов С.* Крылатые слова по толкованию С.Максимова. – М., 1955.

83. *Михельсон М.И.* Русская мысль и речь. Т. 1. – СПб., 1903.

84. *Мокиенко В.М.* В глубь поговорки. – Киев, 1989.

85. *Мокиенко В.М.* Славянская фразеология. – М., 1980.

86. *Морозова Л.А.* Пословицы и поговорки: К вопросу об определении и разграничении // Вестник Моск. ун-та. Филология. Серия X. – 1972. – № 2.

87. *Наймушина Т.А.* Пословицы и поговорки в художественном тексте: Дис. … канд. филол. наук. – Л., 1984.

88. *Оссовецкий И.А.* Об изучении языка русского фольклора // Вопросы языкознания. – 1952. – № 3.

89. *Параскевіч Г.В.* Назоўнік у беларускіх прыказках. – Мінск, 1984.

90. *Пермяков Г.Л.* К вопросу о русском паремиологическом минимуме // Словари и лингвострановедение. – М., 1982.

91. *Пермяков Г.Л.* От поговорки до сказки. – М., 1970.

92. *Петрикевич Н.В.* Грамматическая роль глагола в образовании белорусских пословиц: Автореф. дис. … канд. филол. наук. – Минск, 1974.

93. Полымя. – 1994. – № 11.

94. Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. – Мінск, 1975.

95. *Потебня А.А.* Из лекций по теории словесности. Басня. Пословица. Поговорка // Теоретическая поэтика. – М., 1990.

96. *Протчанка В.У.* Беларуская мова: Падручнік для 9 класа. – Мінск, 2002.

97. Прыказкі і прымаўкі ў дзвюх кнігах. – Мінск, 1976.

98. *Рагаўцоў В.І.* Уводзіны ў мовазнаўства. – Магілёў, 2004.

99. Роднае слова. – 1993. – № 10.

100. Роднае слова. – 1997. – № 3.

101. *Рувинский И.* Невыразительно, неоригинально // Лит. газета. – 1956. – 25 окт.

102. Русские писатели о языке. – Л., 1955.

103. Русское народное поэтическое творчество / Под ред. Н.И.Кравцова. – М., 1971.

104. *Рыбникова М.А.* Избранные труды. – М., 1958.

105. *Санько З.* Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем. – Мінск, 1991.

106. Сборник белорусских пословиц, составленный И.И.Носовичем // Сб. Отд. рус. яз. и словесности Импер. АН. Т. XII, № 2 – СПб., 1874.

107. *Секретарь Л.А.* О структурных особенностях пословиц и поговорок // Проблемы лексики и фразеологии: Сб. науч. ст. – Л., 1975.

108. Словарь русских пословиц и поговорок / Сост. В.П.Жуков. – М., 1967.

109. *Сорокин В.И.* Теория литературы. – М., 1960.

110. *Старычонак В.* Займальная філалогія. – Мінск, 1998.

111. *Суднік М.* Прадмова // Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы / Склаў Ф.Янкоўскі. – Мінск, 1962.

112. Сучасная беларуская мова: Вучэбная праграма для вышэйшых навучальных устаноў па спецыяльнасці 2-210501 – Беларуская філалогія. – Мінск, 2003.

113. *Тамашэвіч Т.І.* Беларуская мова: Падручнік для 8 класа з рускай мовай навучання. – Мінск, 1999.

114. *Тарланов З.К.* Очерки по синтаксису русских пословиц. – Л., 1982.

115. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5 т. – Мінск, 1977 – 1984.

116. *Филин Ф.П.* Язык художественной литературы и читатель // Русская речь. – 1977. – № 4.

117. *Хлусевіч І.М.* Варыянтнасць фразеалагізмаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове. – Гродна, 2002.

118. *Чичеров В.И.* Русское народное творчество. – М., 1959.

119. *Шакун Л.М.* Карані нашай мовы // Роднае слова. – 1996. – № 9.

120. *Шанский Н.М.* Лексикология современного русского языка. – М., 1964.

121. *Шанский Н.М.* Новая работа о языке А.С.Пушкина // Рус. яз. в школе. – 1970. – № 4.

122. *Шейн П.В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 1. – СПб., 1902.

123. *Широкова О.* Жизнь пословицы // Рус. яз. в школе. – 1931. – № 6–7.

124. *Шкляров В.Т.* Пословицы как источник пополнения русской фразеологии // Проблемы лексики и фразеологии. – Л., 1975.

125. *Шкраба І., Шкраба Р.* Крынічнае слова. – Мінск, 1987.

126. *Щерба Л.В.* Спорные вопросы русской грамматики // Рус. яз. в школе. – 1939. – № 1.

127. *Энгельс Ф.* Анти-Дюринг. – М., 1967.

128. *Якалцэвіч М.А.* Полісемія ў галіне парэміялогіі // Слово и словарь: Сб. науч. тр. по лексикографии. – Гродно, 2002.

129. *Якалцэвіч М.А.* Прыказкі як аб'ект вывучэння мовазнаўства // Выкладанне беларускай і рускай моў у вышэйшых навучальных установах БССР: Тэзісы дакладаў і паведамленняў рэсп. навук.-метад. канф. – Гродна, 1990; Гл. таксама: *Яколцевич М.А.* Стилистическое функционирование пословиц в белорусских художественных текстах: Автореф. дис. … канд. филол. наук. – Минск, 1990. – С. 11.

130. *Янкоўскі М.А.* Паэтыка беларускіх прыказак. – Мінск, 1971.

131. *Янкоўскі Ф.* Беларуская мова. – Мінск, 1978.

132. *Янкоўскі Ф.М.* Беларуская фразеалогія. – Мінск, 1981.

133. *Янкоўскі Ф.* Роднае слова. – Мінск, 1972.

134. *Ясюкевич Е.Н.* Односоставные предложения в структуре паремий (на материале русских и английских пословиц и поговорок) // Надзённыя пытанні лінгвістыкі (да 75-годдзя прафесара П.У.Сцяцко): Матэрыялы міжнар. навук. канф., 11 сак. 2005 г. – Гродна, 2005.

135. *Яўневіч М.С., Сцяцко П.У.* Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы. – Мінск, 1987.

136. *Federowski M.* Lud Bialoruski na Rusi Litewskiej. T. 4. – Warszawa, 1935.

# З М Е С Т

